# Крапіва



# 5

## П'ЕСЫ
## ПЕРАКЛАДЫ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
2004

# БРАМА НЕЎМІРУЧАСЦІ

*Фантастычная камедыя ў чатырох карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Барыс Пятровіч Дабрыян — герантолаг.
Уладзімір Фёдаравіч Абадоўскі — генетык.
Павел Антонавіч Бабровіч — эканаміст.
Клаўдзія Пятроўна Кудрыцкая — медык.
Аляксандр Паўлавіч Варакса — гуманітарнік.
Іван Кірылавіч Змітрук — фізік.
Кузьма Захаравіч Адамейка — пажылы кандыдат навук.
Генка — малодшы навуковы супрацоўнік.
Наташа — малодшы навуковы супрацоўнік.
Марына Сяргееўна — жонка Дабрыяна.
Мякішава — прафсаюзны работнік.
Сідаровіч — рабочы, ударнік камуністычнай працы.
Алена Максімаўна — калгасніца-пенсіянерка.
Дажывалаў — пенсіянер з ваенных.
Караўкін — гаспадарнік.
Васіль Дарафеевіч Торгала — нехта з былых.
Аўдоцця Сцяпанаўна Застрамілава — яго знаёмая.
Антаніна Васільеўна — сакратарка Дабрыяна.
Скараспей.
Гары Болдвін — карэспандэнт.
Шусцік — шафёр-лявак.
Васюк.
Адзін з чаргі.
«Банкір».
Антон Іванавіч.
«Мадам».
«Ён» і «Яна».

## Карціна першая

Лабараторыя Дабрыяна. Д а б р ы я н сядзіць у крэсле, прыкрыўшы вочы рукой,— не то ў дрымоце, не то ў глыбокім роздуме. Ён шчаслівы. Здзейснілася мара яго жыцця. Гэта нешта неабдымна вялікае і дабратворнае, вынікі чаго цяпер яшчэ цяжка ўявіць і немагчыма прадбачыць. Душа яго поўніцца не то незвычайным святлом, не то чароўнымі гукамі.

Адчыняюцца дзверы, і ў лабараторыю ўваходзіць Н а т а ш а. Убачыўшы ў такім стане Дабрыяна, яна на пальчыках выходзіць і прычыняе дзверы. Гэта адбілася ў падсвядомасці Дабрыяна: ён спрабуе нешта вымавіць і расплюшчвае вочы.

Знікаюць чароўныя гукі і святло, усё набывае рэальны выгляд, але ачараванне не праходзіць. Дабрыян бачыць у зале людзей і выходзіць на авансцэну.

Д а б р ы я н. Людзі добрыя!

Паўза. Усе слухаюць.

Я вас люблю.

Г о л а с з з а л ы. Мы вас — таксама.

Д а б р ы я н. Я прынёс вам добрую вестку. Нарадзіўся цуд. Вось тут, у гэтай лабараторыі — месцы маіх пакут і радасцей, салодкіх мар і горкіх расчараванняў. А пра што я марыў? Пра тое, як прадоўжыць ваша жыццё. І вось вы можаце сябе павіншаваць. Нашы шматгадовыя доследы паспяхова закончаны, і вынікі іх прызнаны за вялікае адкрыццё.

Г о л а с з г а л ё р к і. І доўга мы будзем жыць?

Д а б р ы я н. Вечна. Так, так, я не жартую. Нам удалося адкрыць закон неўміручасці.

Неўміручасць! Хто аб ёй не марыў! З таго часу, як чалавек стаў чалавекам, ён не можа прымірыцца са смерцю. Таму ён выдумаў сабе неўміручасць душы, якую прапаведуюць амаль усе рэлігіі. Нават калі бачыць труп падобнага да сябе, і тады ён не верыць, што ўсё скончана. Не можа быць, каб знік бясследна такі цуд, як чалавечае жыццё. Ён верыць, што вызваленая з цела чалавечая душа будзе жыць вечна. Чалавек заўсёды імкнецца пашырыць сваё жыццё за межы

фізічнага існавання. Нават той, хто добра ведае законы прыроды. І ён у большай ці меншай меры дабіваецца неўміручасці. Тым, што дае жыццё наступнаму пакаленню. Тым, што робіць добрыя справы, за якія яго будуць успамінаць людзі, калі яго самога ўжо не будзе. Але чалавеку гэтага мала. Ён хоча жыць фізічна, сам сваёй асобай. *(Да Наташы, якая ўвайшла.)* Ну, як наш неўміручы пасля працэдуры?

Н а т а ш а. Усё ў парадку, Барыс Пятровіч.

Д а б р ы я н *(да гледачоў)*. Гэта мая памочніца, Наташа. Малодшы навуковы супрацоўнік. *(Да Наташы.)* Сядайце. Вы яшчэ будзеце патрэбны. *(Да гледачоў.)* Дык вось, ён хоча жыць і ніколі не паміраць. А хто ж яму не дае? А не дае яму, адкажаце вы, закон прыроды, паводле якога ўсё жывое павінна памерці. Усё — ад хларэлы да секвоі, ад чарвяка да акадэміка. Аднаму арганізму суджана жыць хвіліны, другому — стагоддзі, але ад смерці ратунку няма.

А ці ж сапраўды смерць з'яўляецца непазбежным канцом нашага існавання? Ад чаго паміраюць людзі? Ад халеры, ад сухот, ад воспы, ад тыфусу. З гэтымі хваробамі медыцына справілася, і яны не перашкода для неўміручасці. Яшчэ — ад інфаркту, ад інсульту, ад рака. А хто памірае ад гэтых хвароб? Як правіла, гэтыя хваробы апаноўваюць арганізм падношаны, аслаблены, як апенькі — трухлявы пень. Глебу ім падрыхтоўвае старэнне арганізма.

А б а д о ў с к і *(з залы)*. А што такое старэнне?

Д а б р ы я н. Вось у гэтым і ўся задача, Уладзімір Фёдаравіч: разгадаць механізм старэння і авалодаць ім. Жыццё, як вы ведаеце, гэта бялковы абмен, які адбываецца ў арганізме пастаянна і няспынна. Але хітрая прырода, забіраючы ў нас жыццёвую матэрыю, кожны раз дае нам узамен тое самае, але крышачку горшае. У выніку ў клетках арганізма адбываюцца змены, якія перашкаджаюць яго абнаўленню. Вось мы і паставілі сабе задачу дабіцца справядлівага абмену: каб наш арганізм, нічога не трацячы, абнаўляўся на тым жа ўзроўні. Тады не будзе старасці і не будзе так званай натуральнай смерці.

Г о л а с з г а л ё р к і. А ненатуральная будзе?

Д а б р ы я н. Калі вас раздушыць аўтобус або спапяліць атамная бомба, дык наўрад ці зможаце вы разлічваць на неўміручасць.

К у д р ы ц к а я *(з залы)*. Але ад натуральнай смерці вы нас уратуеце?

Д а б р ы я н. Клаўдзія Пятроўна? Прывітанне! Вас — абавязкова. Праведзеныя доследы даюць нам права адказаць на гэта станоўча.

Варакса *(з залы).* Гэта падобна на містыфікацыю. Ці няма ў вас якіх-небудзь доказаў?

Дабрыян. Я тут гавару толькі пра вынікі нашых доследаў. Раскрыць іх сакрэт я не магу па вядомай вам прычыне. Скажу коратка, што мы дабіліся гэтых вынікаў уздзеяннем на бялковыя ферменты, якія кіруюць усімі працэсамі абмену. А доказы сякія-такія ёсць. Наташа, пакажыце, калі ласка, доказ!

Наташа. А вось ён. *(Ставіць на стол клетку з жывёлінай.)*

Дабрыян. Гэта пацук, таварышы. Па гадах ён — біблейскі Мафусаіл. Пражыў чатыры пацучыныя вякі, і яму даўно пара паміраць. А ён, бачыце, як агурочак. Шэрсць бліскучая, сам вясёлы, усе органы і залозы функцыяніруюць нармальна. Дае паўнацэннае здаровае патомства. Першае народжанае ім пакаленне таксама пражыло ўжо тры вякі. І ўвесь сакрэт у справядлівым абмене, які нам удалося наладзіць.

Кудрыцкая. Можа, вы нам і чалавека неўміручага пакажаце?

Дабрыян. З чалавекам справа больш складаная, Клаўдзія Пятроўна. У пацука кароткае жыццё і хуткая змена пакаленняў. На ім лягчэй прасачыць. Але што да абмену, дык ці то ў пацука, ці ў чалавека — прынцыповай розніцы няма. Між іншым, мы і з людзьмі праводзім клінічныя доследы. Пра пакаленні тут яшчэ гаварыць рана, але за дзесяць гадоў нашы падапечныя ні капелькі не пастарэлі. І самае галоўнае — ніякіх пабочных непрыемнасцей.

Адамейка *(з залы).* Значыць, мы можам лічыць сябе неўміручымі?

Дабрыян. Лічыце на здароўе. А мы пастараемся, каб гэта сталася.

Бабровіч *(з залы).* Ці не замнога нас усіх будзе — неўміручых?

Дабрыян *(да гледачоў).* Павел Антонавіч — эканаміст. У яго свой клопат з неўміручасцю.

Абадоўскі *(з залы).* Мяне як генетыка цікавіць другое.

Дабрыян. Вось і дыскусія пачынаецца. Прашу маіх апанентаў сюды, у лабараторыю. Тут нам зручней будзе. Павел Антонавіч! Клаўдзія Пятроўна! Кузьма Захаравіч! Генадзій, вы ж свой чалавек.

Бабровіч, Абадоўскі, Кудрыцкая, Варакса, Адамейка і Генка падымаюцца на сцэну. Садзяцца.

Дабрыян. Уладзімір Фёдаравіч, вы хацелі нешта сказаць.

Абадоўскі. Гаворачы пра неўміручасць, вы, Барыс Пятровіч, маеце на ўвазе індывідуум і нічога не гаворыце пра

від. Калі індывідуум будзе жыць вечна, то як будзе абстаяць справа з эвалюцыяй віду? Як будзе абнаўляцца род чалавечы?

Дабрыян. На гэта пытанне вам і адказваць, Уладзімір Фёдаравіч.

Абадоўскі. З аднаго боку, будуць нараджацца новыя пакаленні, а з другога — не будуць паміраць старыя. У адным грамадстве побач з людзьмі новай генерацыі будуць жыць старыя малпы.

Адамейка. Гэта значыць — мы.

Абадоўскі. Будуць жыць старыя малпы са сваімі старымі поглядамі, звычкамі, забабонамі, ды яшчэ будуць пладзіць падобных да сябе.

Кудрыцкая. Ну, калі яшчэ тое будзе.

Адамейка. Ці будзе, ці не, а мы ўжо будзем галаву ламаць.

Абадоўскі. Галаву ламаць прыходзіцца. Неўміручасць такая праблема, што мы павінны думаць у маштабе вечнасці і за ўсё чалавецтва.

Генка. Давайце ўсё-такі жыць перш за ўсё. А думаць пра від... Для гэтага ў нас будзе цэлая вечнасць...

Абадоўскі. Індывідуум вырашае спрэчкі ў сваю карысць: я хачу жыць вечна, а чалавецтва няхай выраджаецца.

Кудрыцкая. Яшчэ ці будзем мы здольны, як вы кажаце, пладзіць падобных да сябе.

Бабровіч. А чаму не? Пацук жа гэтых здольнасцей не страціў.

Кудрыцкая. Раджаць цэлую вечнасць — гэта, я вам скажу, таксама не вялікая асалода.

Бабровіч. Гэта ваша добрая воля: не хочаце — не раджайце.

Кудрыцкая. Калі ў цябе ўсё ў норме, як у гэтага пацука, дык дзе ты дзенешся.

Бабровіч. Ясна. Будзем раўняцца на пацука.

Адамейка. Калі Бог стварыў Адама і Еву, Ён даў ім наказ: «Пладзіцеся, размнажайцеся, засяляйце зямлю і пануйце над ёй». Будзем жыць па закону Божаму.

Бабровіч. Паважаныя энтузіясты па часці размнажэння! Я — эканаміст. Магу захапляцца і рамантыкай, але свае рамантычныя захапленні заўсёды правяраю статыстычнымі данымі. Вось і вам хачу падкінуць некалькі лічбаў. Клаўдзія Пятроўна, як часта жанчына можа раджаць? Асабліва не перагружаючы сябе.

Кудрыцкая. Я думаю, што раз у тры-чатыры гады можа раджаць.

Бабровіч. Пры ўмове, што людзі не будуць паміраць і ўсе дарослыя жанчыны будуць раджаць раз у чатыры гады, насельніцтва за дваццаць гадоў павялічыцца ў тры разы.

Генка. Гэта яшчэ не страшна.

Бабровіч. Такім чынам, за сто гадоў насельніцтва нашай рэспублікі павялічыцца ў дзвесце сорак тры разы і будзе складаць два мільярды сто восемдзесят мільёнаў чалавек.

Генка. Мільярды?

Бабровіч. Так, мільярды.

Варакса. Тут нешта не так.

Бабровіч. Усё так, Аляксандр Паўлавіч. Можаце праверыць. Вазьміце дзевяць мільёнаў нашага насельніцтва і памножце на тры ў пятай ступені. Атрымаецца тое, што трэба.

Кудрыцкая. А чаму ў пятай?

Бабровіч. Таму, што ў стагоддзі пяць дваццацігоддзяў.

Варакса *(падлічвае)*. Сапраўды — два мільярды сто восемдзесят сем мільёнаў.

Адамейка. І нікуды не дзенешся.

Генка. Яшчэ, бадай што, можна дыхаць?

Бабровіч. А чым я вас карміць буду?

Генка. Сінтэтычнай мікракаўбасой.

Бабровіч. Два мільярды касцюмаў дзе я вам вазьму?

Генка. Клімат зменім, без штаноў абыдземся.

Бабровіч. Тут і трусоў не хопіць.

Адамейка. Здрэйфіў, таварыш начальнік.

Кудрыцкая. Эканоміка, відаць, не дарасла яшчэ да неўміручасці.

Бабровіч. Дык што, будзем далей размнажацца?

Генка. Па сіле магчымасці.

Варакса. Якая ўжо тут магчымасць — дзесяць тысяч душ на квадратны кіламетр.

Кудрыцкая. Дык што ж рабіць?

Генка. Таварышы, ёсць выхад!

Усе недаверліва глядзяць на яго.

Вернемся да канібалізму.

Абадоўскі. Гумар вісельніка.

Генка. Так мы зразу забіваем двух зайцоў: вырашаем праблему харчавання і рэгулюем рост насельніцтва.

Наташа. Якая ж гэта неўміручасць, калі цябе зжаруць?

Генка. Чаму мяне? Таго, хто смачнейшы.

Кудрыцкая. Вы — цынік, малады чалавек. Нават жартаваць так і то непрыстойна.

Генка. А што мне рабіць, калі такая сітуацыя?

Бабровіч. Можна ж інакай рэгуляваць рост насельніцтва.

Генка. Напрыклад?

Бабровіч. Ёсць розныя спосабы.

Адамейка. Стэрылізацыя?

Бабровіч. А хоць бы і так.

Генка. Ратуйся хто можа!

Адамейка. Дык, можа, з вас і пачнём, Павел Антонавіч?

Варакса. Барыс Пятровіч толькі што падарыў нам неўміручасць, а вы хочаце пазбавіць нас радасці жыцця.

Абадоўскі. І дзе гарантыя, што вы не стэрылізуеце пры гэтым бацьку патэнцыяльнага Эйнштэйна?

Дабрыян. Гэта немэтазгодна і па другой прычыне. Неўміручасць магчыма толькі тады, калі ўсе эндакрынныя залозы функцыяніруюць нармальна.

Генка. Як у яго. *(Паказвае на пацука.)*

Дабрыян. Зусім правільна.

Адамейка. Так што шануйце свае эндакрынныя залозы, Павел Антонавіч.

Бабровіч. Нарэшце, і раджаць жа можна не ў чатыры гады раз, а, скажам, у пяцьдзесят.

Кудрыцкая. Што там яшчэ з табой станецца за пяцьдзесят гадоў.

Адамейка. Можа, тэхналогія зменіцца. Фабрычным спосабам пачнуць людзей вырабляць. А тут ідзе гаворка пра такія саматужныя вырабы, як мы з вамі. Як ім забяспечыць вечнае жыццё?

Дабрыян. Ваша прапанова рызыкоўная, Павел Антонавіч. Неўміручасць — рэч вельмі далікатная. Грубае ўмяшанне ў фізіялагічныя працэсы арганізма можа сапсаваць усю справу.

Варакса. З вашай прапановай нельга згадзіцца і па маральных меркаваннях. Мы хочам жыць вечна і таму адмаўляемся даваць жыццё падобным да сябе. А можа, тыя, што не народзяцца па нашай віне, былі б у шмат разоў больш таленавітыя за нас.

Бабровіч. Ну што ж, вы — біёлагі, вы — сацыёлагі, вы і вырашайце гэта пытанне. Раджайце як хочаце, а мне адно ясна: на ўсіх неўміручасці не хопіць.

Адамейка. Каму ж хопіць, а каму не?

Дабрыян. Вырашаць гэта будзем не мы.

Адамейка. А хто?

Дабрыян. Відаць, нейкая высокая інстанцыя.

Адамейка. Словам, няхай жыве неўміручы пацук, а мы за ім у чарзе пастаім.

В а р а к с а. Гэта цяжка ўявіць, таварышы, але хутка ракавая мяжа падзеліць нас усіх тут прысутных на неўміручых і звычайных смертных.

А д а м е й к а. Вось жыў, працаваў і ні аб чым не думаў. А цяпер такое адчуванне, нібы мяне да кары смерцю прысудзілі.

Д а б р ы я н *(лагодна)*. Чаму ж іменна вас, Кузьма Захаравіч?

А д а м е й к а. Бачыце, чалавек я ўжо немалады, залозамі асабліва пахваліцца не магу. А новых жа вы мне не ўставіце.

Д а б р ы я н. На вялікі жаль, не ўстаўлю. Не маю такой магчымасці.

А д а м е й к а *(з сарказмам)*. Добра хоць, што мяне стэрылізаваць не трэба.

К у д р ы ц к а я. Дазвольце мне крыху пафіласофстваваць, Барыс Пятровіч.

Д а б р ы я н. Калі ласка, Клаўдзія Пятроўна. Момант самы зручны.

К у д р ы ц к а я. Вось вы, Аляксандр Паўлавіч, гаварылі пра мараль. Правільна. Эгаізм — гэта агідная справа. Але што такое эгаізм? І што такое мараль наогул? Напэўна, пры неўміручасці мы будзем укладваць у гэта паняцце не зусім тое, што ўкладваем цяпер. У неўміручага грамадства будзе свая мараль, якая будзе адпавядаць яго інтарэсам. Цяпер мы з пашанай ставімся, скажам, да старасці. Але старасць жа ў нас не вечная. Мы шануем старога чалавека, маючы на ўвазе, што ён нас хутка пакіне. Але пасадзіць сабе на шыю на векі вечныя мільёны старых непрацаздольных людзей — наўрад ці гэта будзе ў інтарэсах грамадства. Таму людзі, якія знаходзяцца ў такім стане, мне здаецца, і прэтэндаваць не павінны на неўміручасць. І крыўдзіцца на свой лёс у іх няма падставы.

А д а м е й к а. Значыць, на мыла? Падаючага папхні, як сказаў адзін несвядомы чалавек.

К у д р ы ц к а я. Дарагі Кузьма Захаравіч! Я ж не супроць вас выступаю. Вы — цудоўны чалавек. Жывіце на здароўе хоць сабе і вечна. Я наконт таго, што мараль — гэта паняцце непастаяннае. Возьмем, напрыклад, шлюб... Цяпер мы клапоцімся, каб моцная была сям'я. Калі муж з жонкай разыходзяцца, дык мы стараемся іх памірыць. Дык што ж, і ад неўміручых мы будзем патрабаваць вернасці шлюбу? Ды за тысячы гадоў можа і абрыдаць табе твой напарнік.

Д а б р ы я н. Вы, Клаўдзія Пятроўна, у такія філасофскія нетры завялі нас, што і не выбрацца.

Генка. Барыс Пятровіч, у мяне больш актуальнае пытанне. Што будзе, калі я, просты смертны, ажанюся з неўміручай Наташай?

Наташа. Спытайся яшчэ, ці пайду я за цябе.

Генка. Дапусцім, што ты параішся з мамай і згодзішся.

Дабрыян. Прыйдзе час — вы састарэеце і памраце, а Наташа будзе жыць і знойдзе сабе другога.

Генка. А што будзе з нашымі дзеткамі?

Дабрыян. У нашых доследах, як вы ведаеце, першае пацучынае патомства жыве ўжо тры вякі. Будзем спадзявацца, што і вашы дзеткі будуць неўміручыя. Але іх яшчэ трэба мець. Што можна сказаць у заключэнне нашай размовы? Усім нам стала ясна — гэта з лічбамі ў руках даказваў Павел Антонавіч,— што неўміручасці на ўсіх не хопіць. І тут паўстае самая цяжкая праблема: як дзяліць людзей на ўміручых і неўміручых? Хто гэта будзе рабіць?

Варакса. Няхай народ скажа сваё слова.

Дабрыян. Адзін крытэрый для мяне ясны. Гэта стан арганізма. Старасць, на вялікі жаль, працэс неабарачальны. Калі чалавек пераступіў пэўную мяжу, дык тут нічога не зробіш. Так што вы, Клаўдзія Пятроўна, дарэмна клапоціцеся наконт старых. Іх лёс вырашыла сама прырода. Наша задача — прадоўжыць іх жыццё наколькі магчыма, паклапаціцца, каб старасць не была для іх цяжарам, стварыць умовы, каб яны маглі падзяліцца сваімі ведамі, сваім багатым жыццёвым вопытам з тымі, хто прыйшоў ім на змену. Але ж і нестарым не ўсім хопіць месца ў неўміручасці. І нехта павінен будзе рабіць такі адбор.

Зміт рук *(уваходзіць, аддыхваецца)*. Прывітанне неўміручым! *(Паціскае ўсім рукі.)*

Дабрыян. Сам Бог прынёс вас сюды, Іван Кірылавіч.

Змітрук. Нешта я не заўважыў, каб ён мяне нёс. Сам узбіраўся на трэці паверх.

Дабрыян. У нас тут складаныя праблемы ўзніклі.

Змітрук. Праблемы, праблемы... Мне свае спакою не даюць.

Кудрыцкая. Элементарныя часціцы турбуюць?

Змітрук. Элементарныя. А я вось і з элементарнымі не магу ўправіцца.

Дабрыян. Як вы думаеце, Іван Кірылавіч, можна ўсім абяцаць неўміручасць?

Змітрук. А што сказала ваша нарада?

Бабровіч. Дзесяць тысяч чалавек на квадратны кіламетр. Праўда, гэта праз сто гадоў.

Змітрук. Вясёлая перспектыва. І зусім не такая далёкая, я вам скажу.

Дабрыян. Мы таксама лічым, што гэта немагчыма.

Змітрук. І несправядліва было б. Дараваць неўміручасць бюракрату, дармаеду, злодзею, бандыту — хіба вы дзеля іх здзяйснялі свой подзвіг?

Дабрыян. А хто будзе аддзяляць авец ад козлішч?

Змітрук. Людзі. Няхай самі людзі назавуць вартых неўміручасці. У канечнай інстанцыі гэта можа быць які-небудзь камітэт. Можа, варта стварыць кампетэнтную навуковую арганізацыю з прадстаўнікоў розных спецыяльнасцей. На грамадскіх пачатках. Скажам, Камітэт па справах неўміручасці. Па-мойму, нядрэнна гучыць. Так, што мы ўсе хутка станем перад вашы ясныя вочы, Барыс Пятровіч.

Дабрыян. Чаму ж перад мае, Іван Кірылавіч?

Змітрук. А каго ж яшчэ нам шукаць? Самі заварылі неўміручую кашу, самі і расхлёбвайце. Калі ў мяне запытаюць, я толькі вас буду рэкамендаваць.

Дабрыян. Страшна, Іван Кірылавіч.

Змітрук. А вы адчувайце сябе як старшыня журы, якое прысуджвае неўміручасць таму, хто яе заслужыў.

Дабрыян. А іншых асуджвае на смерць?

Змітрук. На смерць іх асудзіў сам Гасподзь Бог, які яшчэ Адаму сказаў: «Ты — прах. З зямлі ўзяты і ў зямлю вернешся».

Дабрыян. Я мог іх ратаваць ад смерці і не зрабіў гэтага.

Змітрук. Я вам спачуваю. Вырашаць лёс мільёнаў людзей — гэта нялёгкая справа.

Бабровіч. У Барыса Пятровіча ў самога далікатнае становішча. Старшыня журы сам сабе прэміі не прысуджвае.

Змітрук. Вы наконт неўміручасці самога яе аўтара?

Дабрыян. Другой неўміручасці я ўсё роўна не адкрыю, дык які сэнс надзяляць мяне вечным жыццём?

Кудрыцкая. Натварыў спраў і — бывайце здаровы? Не, галубок! Мы яшчэ не ведаем, чым абернецца гэта неўміручасць. А што, калі прыйдзецца вярнуцца ў першабытны стан? Дык як мы без вас?

Дабрыян. Калі ўжо на маю долю выпадзе ўзначальваць гэта судзілішча, дык я хацеў бы рабіць гэта з чыстым сумленнем. Як асоба не зацікаўленая.

Змітрук. Давайце не будзем гвалтаваць сумлення Барыса Пятровіча. Паміраць жа ён не сёння збіраецца. Народ і пра яго скажа, чаго ён варты. Я, Барыс Пятровіч, хачу звярнуць вашу ўвагу на адну акалічнасць. Асабіста я не сумняваюся ў сур'ёзнасці вашых навуковых доследаў. Але

ёсць людзі, і даволі высокага рангу, для якіх ваш пацук не з'яўляецца пераканаўчым.

Дабрыян. Для іх пацук — гэта шкодны грызун і разносчык заразы, убачыўшы якога, іх жонкі лезуць на крэслы і падымаюць віск.

Змітрук. Я — прафан у гэтай справе, але сёй-той лічыць, што пераносіць якасці пацука на чалавека неправамерна.

Дабрыян. Як вы добра ведаеце, Іван Кірылавіч, навуку робяць не сёй-той, а вучоныя, якія ведаюць, што можна пераносіць, а што не.

Змітрук. Ну, прабачце. Я проста хацеў папярэдзіць, з якога боку вас могуць шчупаць апаненты.

Дабрыян. У нас ёсць наконт гэтага заключэнне кампетэнтных органаў.

Змітрук. Жадаю паспяхова ўкараніць вашу неўміручасць у наша пакуль што смяротнае цела. *(Развітваецца і выходзіць. За ім выходзяць іншыя.)*

Дабрыян *(да гледачоў)*. Вось так, дарагія таварышы. Не можам мы ўсім забяспечыць неўміручасць. Зямля не вытрымае. Ды не ўсе і заслужылі неўміручасць. Прыйдзецца вам самім вырашаць, хто яе заслужыў.

## Карціна другая

Кватэра Дабрыяна. Раніца. Настойліва звоніць тэлефон. Уваходзіць Марына Сяргееўна і бярэ трубку.

Марына Сяргееўна. Слухаю... Барыс Пятровіч яшчэ не прачнуўся... Не выспаўся... Яму ўсю ноч званілі... Так, наконт неўміручасці... Вы таксама?.. Пазваніце, калі ласка, пазней. Прашу прабачэння, таварыш генерал, я не магу яго будзіць... Гэта вы здорава прыдумалі... *(Кладзе трубку.)*

Дабрыян *(выходзіць заспаны)*. Хто там?

Марына Сяргееўна. Генерал. Неўміручасці патрабуе.

Дабрыян. Які генерал?

Марына Сяргееўна. А хто яго ведае. Кажа, буду званіць, пакуль не даб'юся.

Дабрыян. Цяжкі выпадак.

Марына Сяргееўна. Паспаў бы яшчэ. Сам зараз ногі выцягнеш праз гэту неўміручасць.

Дабрыян. Каму-небудзь яна спатрэбіцца і пасля мяне.

Марына Сяргееўна. Чаму не!

Тэлефонны званок.

Вось, калі ласка.

Дабрыян *(бярэ трубку).* Я слухаю... Так... Слухаю вас, таварыш генерал... Устаў... пры вашай дапамозе. Прашу гаварыць спакайней, а то я нічога не разбяру... Я неўміручасці не размяркоўваю... Я адкрыў закон, але не распараджаюся лёсам людзей... Ёсць для гэтага Камітэт па справах неўміручасці... Так... ён і будзе вырашаць, хто варты неўміручасці... Дапускаю, што вы — самы лепшы з генералаў, але не мне ў гэтым разбірацца... Магчыма, сустрэнемся... Генерал-маёр Дажывалаў?.. Буду помніць... У запасе?.. Ну, я рад, што ў нас у запасе ёсць такія баявыя генералы... Будзьце здаровы... *(Кладзе трубку.)* А почырк як быццам не генеральскі.

Марына Сяргееўна *(падыходзіць да мужа, з замілаваннем кудлачыць яму валасы).* Можа, задрэмлеш яшчэ?

Дабрыян *(глядзіць на гадзіннік).* Трэба ў інстытут ісці.

Марына Сяргееўна. Бора, няўжо гэта ўсё праўда?

Дабрыян. Што?

Марына Сяргееўна. Што мы будзем жыць вечна.

Дабрыян. Хто-небудзь будзе.

Марына Сяргееўна. Ну, мы ж з табой напэўна будзем.

Дабрыян маўчыць.

Падумаць страшна... Вечнасць... Гэта як бяскрайні акіян... Плывеш, плывеш, а канца няма... І ніколі, ніколі не будзе.

Дабрыян. Падобна.

Марына Сяргееўна. А што рабіць?

Дабрыян. Не разумею.

Марына Сяргееўна. Занятак нейкі трэба мець?

Дабрыян. Будзем жыць, дык і занятак будзе.

Марына Сяргееўна. Вечна абед табе гатаваць?

Дабрыян. Гатаваць будзе каму.

Марына Сяргееўна. Значыць, мне і гэтага не астанецца. А што чалавек без справы? Для вялікага жыцця і справу трэба вялікую, каб усяго захапіла.

Дабрыян. Гэта правільна.

Марына Сяргееўна. Давай падбіраць мне справу. Спецыяльнасць якую-небудзь.

Дабрыян. Выбірай, якая табе падабаецца.

Марына Сяргееўна. Часу шмат, любою можна авалодаць.

Дабрыян. І не адной.

Марына Сяргееўна. А што, калі надакучыць плысці?

Дабрыян. Куды?

Марына Сяргееўна. У вечнасць. Так абрыдае, што не вытрымаць.

Дабрыян. Я не ведаю, ці можа так быць.

Марына Сяргееўна. Тады за борт, у бяздонне? У другую вечнасць?

Дабрыян. Гэта ўжо будзе антывечнасць.

Марына Сяргееўна. Але буду я мець на гэта права?

Дабрыян. Думаю, што будзеш. Але нашто такія змрочныя думкі? Давай пра што-небудзь іншае.

Марына Сяргееўна *(у задуменні)*. Дзетак бы нам цяпер... Загінуў наш Валерык... Гэта колькі б яму ўжо было?

Дабрыян. Дваццаць чатыры.

Марына Сяргееўна. Кім бы ён мог быць, як ты думаеш?

Дабрыян. Па ўзросту мог бы быць ужо аспірантам.

Марына Сяргееўна. Можа, і ўнук быў бы ўжо.

Дабрыян. Мог быць і ўнук.

Марына Сяргееўна. Пабаялася я больш раджаць. Спачатку жылося цяжка, а пасля думалася — позна... Старасць надыдзе, а дзеці малыя будуць. А цяпер і сапраўды позна. А колькі б у нас магло быць унукаў, праўнукаў, пра-пра-пра-праўнукаў. І ўсе неўміручыя.

Дабрыян. Не растрывожвай сябе, Марына.

Марына Сяргееўна. А можа, яшчэ не позна? Можа, можна вярнуць мне маю жыццёвую сілу? Ты ж ведаеш таямніцу ўсіх гэтых сакрэцый.

Дабрыян. На вялікі жаль, нічога зрабіць нельга. Тут, як у юрыспрудэнцыі, закон адваротнай сілы не мае.

Марына Сяргееўна. Што б табе раней было адкрыць гэты закон.

Дабрыян. Раней не выйшла. Некаторым яшчэ не позна.

Марына Сяргееўна *(усхопліваецца)*. Бора, што ты сказаў?

Дабрыян *(здзіўлена глядзіць на яе)*. Я кажу, што ён яшчэ саслужыць службу людзям.

Марына Сяргееўна. Мне страшна, Бора.

Дабрыян. Што з табой?

Марына Сяргееўна. Я зусім забылася... Я толькі пра сябе думала. Для мяне позна, а для цябе ж не позна.

Дабрыян. Марыша, пра што ты гаворыш?

Марына Сяргееўна. У цябе яшчэ могуць быць і пра-пра-праўнукі.

Дабрыян. Дык што з гэтага вынікае?

Марына Сяргееўна. Але іх у цябе не будзе. Праз мяне.

Дабрыян. Марыша, павер, што мне не да пра-пра-пра-пра. І мяне гэта зусім не турбуе.

Марына Сяргееўна. Мяне турбуе. Мяне вечна... Страшна падумаць, якое значэнне мае цяпер гэта слова... Мяне вечна будзе мучыць сумленне.

Дабрыян. Ты вечна выдумаеш сабе невырашальную праблему.

Марына Сяргееўна. Гэта ты яе выдумаў.

Дабрыян. Супакойся, прашу цябе. Што б там ні было, у нашых адносінах нічога не зменіцца. Паколькі гэта залежыць ад мяне, вядома. Нехта звоніць. Адчыні, калі ласка. *(Выходзіць у суседні пакой.)*

Марына Сяргееўна. Можа, паштальён. *(Выходзіць у пярэднюю, адтуль чуецца яе голас.)* А, Наташа! Добры дзень. Распранайцеся.

Уваходзяць Марына Сяргееўна і Наташа.

Наташа. Барыс Пятровіч дома?

Марына Сяргееўна. Бора, гэта Наташа. *(Да Наташы.)* Рана ён вам спатрэбіўся сёння.

Наташа. Важная справа, Марына Сяргееўна.

Дабрыян *(уваходзіць, занепакоены)*. Што-небудзь здарылася?

Наташа. Здарылася, Барыс Пятровіч.

Дабрыян *(яшчэ больш устрывожаны)*. З пацуком што-небудзь?

Наташа. Са мной.

Дабрыян. Наташа, дарагая, што ж такое?

Наташа. Адзін вялікі вучоны адкрыў сакрэт неўміручасці.

Дабрыян. І што ж далей? Мяне пужае ваш тон, Наташа.

Наташа. І гэта шмат што перавярнула дагары нагамі.

Дабрыян. У вас ёсць новая ідэя?

Наташа. Ёсць ідэя, Барыс Пятровіч.

Дабрыян. Марыша, прабач, калі ласка.

Марына Сяргееўна. Закрытая тэматыка? *(Жартуючы, грозіць пальцам.)* Ох, раскрыю я калі-небудзь гэту тэматыку. *(Выходзіць.)*

Наташа. Яна сур'ёзна раўнуе.

Дабрыян. Раўнаваць? Да вас? Хіба вы не ведаеце Марыны Сяргееўны?

Наташа *(аглядаецца на дзверы)*. Не пачуе?

Дабрыян. Вы сёння дзіўная нейкая.

Наташа. Закрытая тэматыка.

Дабрыян. Марына Сяргееўна гэта разумее.

Наташа. Зусім сакрэтна. У першую чаргу ад яе.

Дабрыян. Годзе вам мяне інтрыгаваць.

Наташа *(відаць, што хвалюецца)*. Годзе дык годзе... Добра, што мы абое — біёлагі. Гэта аблягчае мне задачу.

Дабрыян. Я гатоў слухаць. Вы ўжо дастаткова мяне падрыхтавалі.

Наташа. Я прыйшла, каб прапанаваць вам сябе.

Дабрыян. Гэта як жа разумець? У якасці аб'екта для доследаў?

Наташа. У якасці вечнага спадарожніка.

Дабрыян *(збянтэжаны, праціpае акуляры)*. Баюся, што я вас няправільна зразумеў.

Наташа. Калі баіцеся, значыць, зразумелі.

Дабрыян зусім збянтэжаны.

А казалі, што падрыхтаваны.

Дабрыян. Прызнаюся... Гэта так незвычайна... Я не чакаў...

Наташа. Ад мяне такога нахабства? Вы мяне не ведалі. Вы проста мяне не заўважалі. Вы бачылі толькі вашага пацука. А побач з ім нейкая бясстварая і бясполая істота ў белым халаце. А што ў яе пад халатам, вы гэтым не цікавіліся.

Дабрыян. Ну, я прыблізна ўяўляў.

Наташа. Што пад гэтым халатам б'ецца жывое гарачае сэрца... сто дваццаць удараў у мінуту. Вы гэтага не заўважалі. У вас заўсёды роўна шэсцьдзесят восем.

Дабрыян. Мне здавалася, што ў вас пульс нармальны.

Наташа. Сэрца — гэта, вядома, глупства... гіпербала, сінекдаха, адным словам, метафара. Ва ўсякім разе, не ў ім справа. А ў чым — вы самі добра ведаеце. Хоць мы і homo sapiens, але і ў нас бушуе той самы інстынкт прадаўжэння роду, што і ў пацука.

Дабрыян. А sapiens, выходзіць, ні пры чым?

Наташа. Пры чым. Але аб гэтым пасля. Цяпер я хачу давесці да вашага ведама, што гэты закладзены ва мне магутны інстынкт выбраў аб'ектам вас.

Дабрыян. І даўно?

Наташа. Яшчэ да неўміручасці. З таго часу як я пачала з вамі працаваць.

Дабрыян. А што ж ён дагэтуль не заяўляў аб сабе?

Наташа. Неўміручасць... Яна зняла ўсе перашкоды.

Дабрыян. Але ж вы ведаеце, што вакансія занята, а сумяшчальніцтва забаронена.

Н а т а ш а. Вы рашылі ўратавацца ад мяне за гэтым хісткім бар'ерам? Бар'ер гэты чаго-небудзь варты быў да неўміручасці, а цяпер ён страціў усё сваё значэнне.

Д а б р ы я н. Нарэшце, мой узрост...

Н а т а ш а. Кіньце, Барыс Пятровіч, хапацца за саломінку. Я сачу за станам вашага здароўя. Ведаю ўсе вашы аналізы, кардыяграмы і заключэнні эндакрынолагаў, усе вашы біялагічныя якасці і фізіялагічныя магчымасці. Я ведаю, што вы ў парадку эксперымента абследаваліся на прадмет неўміручасці. Вынікі абследавання мяне цалкам задавальняюць.

Д а б р ы я н. Аказваецца, вы ўсебакова ўзброены.

Н а т а ш а. Без гэтага такую крэпасць не возьмеш. Цяпер нам трэба высветліць адно кардынальнае пытанне.

Д а б р ы я н. Іменна?

Н а т а ш а. Магу я разлічваць на вашу шчырасць?

Д а б р ы я н. Пастараюся. Шчырасць за шчырасць.

Н а т а ш а. Як вы гледзіце на мяне як на асобу іншага полу?

Д а б р ы я н. Стараюся не глядзець.

Н а т а ш а. А каб не баяліся?

Д а б р ы я н. Ну, каб я быў пацуком...

Н а т а ш а. Вы хочаце сказаць, што ў пацука няма зарэгістраванай жонкі?

Д а б р ы я н. Па-мойму, гэта важная акалічнасць.

Н а т а ш а. Дык вось... перш за ўсё пра ваш законны шлюб... Я на яго не замахваюся. Не патрабую разводу. Не падбухторваю, каб вы падсыпалі мыш'яку Марыне Сяргееўне ці зжылі яе са свету якім-небудзь іншым спосабам. Марына Сяргееўна — мілая жанчына, і няхай яна здарова жыве, колькі ёй Бог вызначыў. Я пачакаю. Пры неўміручасці маладосць мая астанецца пры мне. Але ёй нашто неўміручасць? Чым яна яе заслужыла? І якая карысць грамадству ад таго, што яна не памрэ? Маладой яна ўжо не стане. Дзяцей вам нарадзіць не зможа. А вас прывяжа на векі вечныя. А вы ж маглі б падарыць чалавецтву таленавітых, можа, нават геніяльных нашчадкаў — дзяцей, унукаў, праўнукаў. Сваёй вечнай адданасцю старой бабе вы пазбаўляеце грамадства такога цудоўнага дару. Якая ж гэта мараль? Гэта старыя мяшчанскія забабоны, а не мараль неўміручага грамадства. Правільна на нарадзе гаварыла пра мараль Клаўдзія Пятроўна: шмат што будзе выглядаць зусім іначай. Я доўга над гэтым думала, і вось... прыйшла да вас.

Д а б р ы я н. Што да неўміручасці Марыны Сяргееўны, дык вы ўпусцілі з-пад увагі адну важную акалічнасць. Помніце, я гаварыў, што неўміручасць магчыма, пакуль усе

эндакрынныя залозы функцыяніруюць нармальна. На вялікі жаль, Марына Сяргееўна пераступіла ўжо гэту мяжу. Я ёй пра гэта нічога не кажу і вас прашу не прагаварыцца.

Н а т а ш а. Але калі якая-небудзь магчымасць адкрыецца, вы ўсё зробіце для Марыны Сяргееўны.

Д а б р ы я н. Я не бачу такой магчымасці.

Н а т а ш а. Значыць, адна перашкода адпала. Ва ўсякім разе, адпадае з часам.

Д а б р ы я н. Але справа ў тым, што нам з вамі яшчэ ніхто неўміручасці не прысудзіў.

Н а т а ш а. Гэта вы наконт мяне. Пра вас гаворкі не можа быць.

Д а б р ы я н. Чаму ж не можа быць? Я ўжо сказаў у адной высокай інстанцыі, што не прэтэндую на неўміручасць.

Н а т а ш а. Какетнічаеце, прафесар. Гэта на вас непадобна.

Д а б р ы я н. Я зусім сур'ёзна.

Н а т а ш а. Глупства. Абсурд. Людзі захочуць бачыць вечна жывым свайго куміра.

Д а б р ы я н. Будуць і такія, што захочуць бачыць яго мёртвым.

Н а т а ш а. Гэта хто ж?

Д а б р ы я н. Тыя, каму будзе адмоўлена ў неўміручасці. Нарэшце, я сам магу адмовіцца, калі цяжар акажацца не па маёй сіле.

Н а т а ш а. Кінуў людзям косць, а сам у кусты. Так, выходзіць?

Д а б р ы я н. Не патрабуйце ад мяне больш, чым я магу.

Н а т а ш а *(настойліва)*. Вы можаце зрабіць мяне неўміручай.

Д а б р ы я н. Я не раздаю неўміручасць па знаёмству.

Н а т а ш а. Значыць, адмаўляеце? Асуджваеце на смерць?

Д а б р ы я н. Мілая Наташа! Вы так мяне ашаламілі, ашарашылі, агарошылі, што я сёння нічога больш разумнага сказаць вам не магу.

Н а т а ш а. Разбэшчаная нахабная дзеўка прапануе вам свае паслугі. І вас гэта шакіруе. Так гэта трэба разумець?

Д а б р ы я н. Ну хто скажа, што вы разбэшчаная? Ніводнай плямінкі я не заўважыў на вашых паводзінах. Але строй думак у нас, відаць, розны. Вы жывяце ўжо заўтрашнім, а я яшчэ сённяшнім, а можа, і ўчарашнім. Мне вашы прапановы здаюцца крыху дзіўнымі, экстравагантнымі, разважанні занадта рацыянальнымі.

Н а т а ш а. Бывайце, благачасцівы старча. Пара карміць праклятага пацука.

Д а б р ы я н. Чаму праклятага?

Н а т а ш а. Можа, з гэтага дня я яго зненавіджу.

Д а б р ы я н *(устрывожаны)*. Падумайце, што вы гаворыце! Вам даверылі такую важную справу...

Н а т а ш а. Пацуку неўміручасць, а я магу здыхаць.

Д а б р ы я н. Наташа, вы мяне палохаеце.

Н а т а ш а. Ага, спужаліся! Не бойцеся, не атручу. *(Выходзіць.)*

Д а б р ы я н *(ходзіць па пакоі)*. Ну і Наташа! Вось і ведай, што ў яе пад халатам.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а *(уваходзіць)*. Ты нечым усхваляваны?

Д а б р ы я н. Тут мне Наташа праблемку адну падкінула. Аж у вачах цёмна стала.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а. Яна дзяўчына кемлівая.

Д а б р ы я н. Больш, чым ты можаш уявіць.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а. Вось бы каго табе ў неўміручыя спадарожнікі.

Д а б р ы я н. Ды што гэта сёння такое!

М а р ы н а  С я р г е е ў н а *(здзіўленая)*. Чаго ты? Я заўсёды гаварыла, што яна мне падабаецца.

Д а б р ы я н. Давай пакінем пра гэта. Ёсць справы больш актуальныя.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а. Самае актуальнае цяпер для цябе — паснедаць. А то пабяжыш не еўшы.

Д а б р ы я н. Шклянку чаю.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а *(ідучы на кухню, глянула ў акно)*. Народ нечага сабраўся.

Д а б р ы я н. Можа, падбілі каго.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а. Нешта сюды ўсе глядзяць... Рукамі махаюць...

Д а б р ы я н. Ці не пажар?

М а р ы н а  С я р г е е ў н а. На пажар непадобна. Як быццам вітаюць каго.

Д а б р ы я н. Няхай вітаюць. Пайду апрануся.

Чуваць званок у пярэдняй.

М а р ы н а  С я р г е е ў н а. Яшчэ нехта. І паснедаць не дадуць. *(Ідзе ў пярэднюю. Праз хвіліну варочаецца.)* Нейкі чалавек. Кажа, па вельмі важнай справе, ад якой залежыць яго і твой лёс.

Д а б р ы я н. Што там яшчэ такое? Замах? Дыверсія? Глупства якое-небудзь. Няхай зойдзе.

К а р а ў к і н. Добры дзень, Барыс Пятровіч. Віншую вас з вялікім адкрыццём. Маё прозвішча — Караўкін. А сваё вы

можаце не называць: яно ва ўсіх на языку. *(Ківае на акно.)* Бачылі, што робіцца? Насілу прабіўся да вашых дзвярэй.

Дабрыян. А што там такое?

Караўкін. Не там, а тут. Вы ж неўміручасць выдумалі. Сёння пра гэта па радыё аб'явілі.

Дабрыян. Вось яно што!

Марына Сяргееўна. А я і радыё не ўключала.

Караўкін. Вось яны і сабраліся.

Дабрыян. Што, маніфестацыя назначана?

Караўкін. Нічога не назначана. Самі прыйшлі. Вас прывітаць. А на самай справе баяцца, каб не спазніцца. Думаюць, што неўміручасць тут ужо ў пакецках раздаюць. Па паўкіло на рыла.

Дабрыян. Што ж мне трэба рабіць?

Караўкін. Нічога вам не рабіць. Вы ўжо зрабілі. Няхай яны пакрычаць. Гэта ўсё ў вашу карысць. Чым больш крыку, тым больш славы. А мы з вамі пагаворым пра сёе пра тое.

Дабрыян. Вы намякалі, што мне нешта пагражае.

Караўкін. Вам пагражае смерць.

Дабрыян. Як і ўсім смертным.

Караўкін. Не, як неўміручым.

Дабрыян. Растлумачце, калі ласка.

Караўкін. Скажыце, неўміручыя людзі будуць есці-піць?

Дабрыян. Ну, вядома.

Караўкін. Калі будзе што.

Дабрыян. А чаму ж не будзе?

Караўкін. Вы можаце выдумаць неўміручасць, а кілаграм мяса для неўміручага вы ж не выдумаеце.

Дабрыян. Будзе неўміручасць, дык будзе і матэрыяльная база.

Караўкін. Дык я ж і ёсць база.

Дабрыян. Не разумею.

Караўкін. Я загадчык базы. І я іх павінен карміць.

Дабрыян. Дык яны ж будуць неўміручыя, а вы?

Караўкін. Што за пытанне? Вы зробіце мяне неўміручым.

Дабрыян. Вы ў гэтым упэўнены?

Караўкін. Гэта ў вашых інтарэсах. Нашто вам браць якога-небудзь смарчка, калі ёсць вопытны работнік, які на гэтай справе сабаку з'еў.

Дабрыян. Сабака — гэта, відаць, не самае большае, што ён з'еў.

Караўкін. Ну, быка з'еў, падумаеш! Дык я ж мільён народу кармлю. Будзе мільярд, дык і мільярд буду карміць. І вы ад гэтага не прайграеце.

Дабрыян. Вы і мне што-небудзь падкінеце?

К а р а ў к і н. У вас заўсёды будзе, што душа жадае. Пра сям'ю таксама можаце не клапаціцца.

Д а б р ы я н. Сям'я ў мяне невялікая. Праўда, сабака ёсць.

К а р а ў к і н. Ёсць пра што гаварыць!

Д а б р ы я н. Здаровы. Мяса жарэ — толькі давай.

К а р а ў к і н. Калі вы любіце забаўляцца паляваннем і ў вас будзе цэлая псярня, дык і ёй хопіць.

Д а б р ы я н. Ёсць, напэўна, людзі, што і цяпер карыстаюцца з вашай ласкі?

К а р а ў к і н. Ну, ласка за ласку. Без гэтага не бывае. Вас, праўда, няма ў ліку маіх кліентаў, але хто ж ведаў, што вы станеце такой знамянітасцю.

Д а б р ы я н. Якая ж ласка ад мяне патрабуецца?

К а р а ў к і н. Ну, што вы можаце — неўміручасць. У мяне і рэкамендацыя ёсць. *(Вымае паперку.)* Калі ласка.

Д а б р ы я н *(чытае)*. «Паважаны Барыс Пятровіч! Я думаю, што ў вечнае падарожжа па жыцці трэба прыхапіць Караўкіна. Нам, неўміручым, ён вельмі спатрэбіцца». Подпіс невыразны.

К а р а ў к і н. Гэта піша Антон Фёдаравіч.

Д а б р ы я н. А хто такі Антон Фёдаравіч?

К а р а ў к і н *(здзіўлена)*. Як, вы не ведаеце Антона Фёдаравіча?

Д а б р ы я н. Прызнаюся, не ведаю.

К а р а ў к і н. Дык я вам скажу, што вы многа трацiце.

Д а б р ы я н. Так... Значыць, вы лічыце, што сваімі добрымі справамі заслужылі неўміручасць?

К а р а ў к і н. Вось жа і Антон Фёдаравіч вам піша. Толькі прашу мець на ўвазе, што мне патрэбны вопытныя памочнікі.

Д а б р ы я н. Дык іх таксама ў неўміручыя?

К а р а ў к і н. Ну, а што ж рабіць?

Д а б р ы я н. І шмат іх у вас?

К а р а ў к і н. Вось тут заява і невялікі спіс.

Д а б р ы я н *(бярэ ў рукі спіс)*. Мнагавата... І ўсё Караўкіны?

К а р а ў к і н. Ну, не ўсе, але ёсць крыху. Гэта ўсё добрыя работнікі.

Д а б р ы я н. Караўкіна Марыя Захараўна. Год нараджэння... Ёй колькі ж гадоў?

К а р а ў к і н. Гэта мая бабка. Ёй пад дзевяноста, але ж нельга крыўдзіць старую.

Д а б р ы я н. Леанід Караўкін... Гэта таксама работнік?

К а р а ў к і н. Будучы. Унук, Лёнька. Яму шосты год. Але не сумнявайцеся, ён увесь у дзеда пайшоў.

Д а б р ы я н. Так... Што ж мне рабіць з вашай заявай?

К а р а ў к і н. Напішыце рэзалюцыю.

Дабрыян. Якую?

Караўкін. Напішыце, каб моцна было. Ну, скажам, забяспечыць неўміручасць у першую чаргу.

Дабрыян. Няхай будзе моцна. *(Піша.)*

Караўкін *(бярэ паперу)*. Вялікае вам дзякуй. З разумным чалавекам прыемна справу мець. *(Чытае рэзалюцыю.)* Што?! Пайшоў... Куды пайшоў?

Дабрыян. Там напісана.

Караўкін. К чортавай мацеры?

Дабрыян. Так. К чортавай мацеры. Разам з бабкай і ўнукам.

Караўкін. Дык, можа, і з Антонам Фёдаравічам?

Дабрыян. І з ім таксама.

Караўкін *(з пагрозай)*. Добра ж. Мы яшчэ сустрэнемся.

Дабрыян. Я толькі пра гэта і мару.

Караўкін выходзіць.

Фу, якая поскудзь!

Марына Сяргееўна *(ставіць чай)*. Поскудзь таксама хоча быць неўміручай.

Дабрыян. Што, народ яшчэ не разышоўся?

Марына Сяргееўна *(глядзіць у акно)*. Не. Яшчэ больш сабралася. Можа, табе трэба выйсці?

Дабрыян. Да іх?

Марына Сяргееўна. Хаця на балкон.

Дабрыян. І што рабіць?

Марына Сяргееўна. Скажы што-небудзь.

Дабрыян. Абяцаць усім неўміручасць? Гэта будзе падман. Абяцаць толькі некаторым? Гэта значыць расчараваць, выклікаць абурэнне.

Марына Сяргееўна. І не выйсці нядобра.

Дабрыян. Не ведаю, што я буду гаварыць. *(Выходзіць на балкон.)*

За сцэнай гул натоўпу, прывітальныя выкрыкі.

## Карціна трэцяя

Невялікая пляцоўка ў горадзе. Справа — будынак паліклінікі.

У чарзе — людзі (больш за ўсё сярэдняга ўзросту) з бутэлечкамі, слоікамі, каробачкамі.

Голас з рэпрадуктара. Шаноўныя грамадзяне! Хто дабіваецца неўміручасці, павінен прадставіць аналізы: крыві, мачы, страўнікавага соку. Патрэбны таксама даведкі аб стане

эндакрынных залоз: шчытападобнай, палавых, гіпофіза. Просьба прыняць пад увагу, что для ўступлення ў неўміручасць патрэбны не толькі чыстыя аналізы, але і чыстае сумленне. А таму просьба прадставіць яшчэ характарыстыкі з месца працы. Хто ўсяго гэтага не можа прадставіць, просьба не падаваць заяў, не ўскладняць работу Камітэта па справах неўміручасці.

Адзін з чаргі. Словам, не траць, куме, сілы, спускайся на дно.

Шусцік. Што, сумленне не ў парадку?

Адзін з чаргі. Сумленне як сумленне. З залозамі трэба разабрацца. Яшчэ гіпофіз нейкі выдумалі.

Шусцік. Сам не разбярэшся, жонку папрасі. Яна адбярэ, што ёй трэба.

Адзін з чаргі. І нашто чалавеку столькі залоз! *(Выходзіць.)*

Шусцік *(аглядае чаргу)*. Колькі ж іх тут! І ўсе ў неўміручасць пруцца. Здароў, «Банкір»!

«Банкір». Не прыставай.

Шусцік. Не саромейся, тут усе свае.

«Банкір». Заткні гаўкала, кажу.

Шусцік. У неўміручасць падаўся?

«Банкір». А чаму б і не?

Шусцік. Неўміручасць — гэта табе не магазін: так лёгка не ўлезеш.

«Банкір» *(грозячы кулаком)*. Ну, сволач! *(Выходзіць.)*

Шусцік *(махае рукой)*. Пішыце. *(Ідзе далей уздоўж чаргі.)* Антону Іванавічу маё шанаванне.

Антон Іванавіч адварочваецца, паказваючы сваё нежаданне размаўляць.

О, ды вы папраўіліся! Каб не ўрачы, кілаграмаў на дваццаць.

Антон Іванавіч. Гэта не ваша справа.

Шусцік. Ды я нічога. Дай Божа і надалей. Толькі, кажуць, у неўміручасць брама вузкая. З такім жывоцікам можна і завязнуць.

Антон Іванавіч. Я зараз міліцыянера паклічу.

Шусцік *(з дакорам)*. Міліцыянера... Эх, Антон Іванавіч! А помніце, як я вас вазіў? Як мы з вамі рыбку глушылі, зайчыкаў на машыне ганялі? А цяпер — міліцыянера. А каго ён хапаць павінен, гэты міліцыянер?

Антон Іванавіч. Такога блатняка, як вы.

Шусцік. Я ўжо схоплены. Схапілі, у аўтаінспекцыю завезлі, правы адабралі — скачы здароў. А ў вас жа, Антон Іванавіч, яшчэ ўсё наперадзе. А неўміручы Камітэт — ён строгі.

Чулі, што па радыё перадавалі? Ім усё на стол выкладвай: пячонку, селязёнку, ныркі. Наконт нырак я не сумняваюся. Яны ў вас — як у быка. А вось сумленне... *(Ківае пальцам.)* А яго ж таксама прыйдзецца вылажыць на стол.

Антон Іванавіч. Цьфу ты, пракляць! *(Са злосцю кідае бутэлечку і выходзіць.)*

Шусцік. Яшчэ аднаго даканаў. *(Стукае сябе ў грудзі.)* Вось бы каго старшынёй Камітэта выбраць! *(Прыглядаецца да чаргі.)* Ану, хто тут яшчэ мае знаёмыя?

Усе баязліва аглядаюцца.

Пардон, мадам. Мы з вамі недзе сустракаліся.

«Мадам». Сустракаліся.

Шусцік. А дзе? Я нешта не помню.

«Мадам». У міліцыі.

Шусцік. Замнём гэту непрыемную размову. Жадаю вам шчасця ў неўміручасці. Успомніце там пра мяне. *(Раскланьваецца і адыходзіць.)*

Уваходзіць Васюк з літровай бутэлькай у руках.

Васюк *(аглядаецца з асцярогай)*. Мача для аналізу! Каму мачу для аналізу? Цёпленькая, свежанькая. Сто грамаў на рубель.

Шусцік. Пакажы, пакажы! Чым гэта ты гандлюеш?

Васюк. Во! Прадукт першай неабходнасці. Свайго вырабу.

Шусцік. Мясцовая прамысловасць. І як бізнес?

Васюк. Чацвёртую пляшку прадаю.

Шусцік. Ды ў цябе што? Фантан забіў?

Васюк шэпча нешта Шусціку на вуха. Абодва смяюцца.

Шусцік. Ну і ну! Невычэрпная крыніца.

Васюк. Каму мачу для аналізу?

З процілеглых бакоў уваходзяць на сцэну Торгала і Застрамілава.

Торгала. Добры дзень, Аўдоцця Сцяпанаўна.

Застрамілава. Добры дзень, Васіль Дарафеевіч.

Торгала. Даўно я вас не бачыў.

Застрамілава. Дзе вам на мяне глядзець. На маладых заглядаецеся.

Торгала. Ох, ёсць яшчэ на што паглядзець. З маладых год у мяне да вас імпэт быў, ды Сымон перабег дарогу.

Застрамілава. Памёр, небарака.

Торгала. Пухам яму зямля. Вы таксама пра неўміручасць турбуецеся?

З а с т р а м і л а в а. А яшчэ б хацела пажыць. Вечна не вечна, а гадкоў з тысячу не шкодзіла б.

Т о р г а л а. Што ж, калі залозы дазваляюць...

З а с т р а м і л а в а. Залозы, дзякуй Богу, у парадку.

Т о р г а л а. А я вось сумняваюся. *(Разглядвае бутэлечку на святло.)* Колер мне не падабаецца. Эрытрацыты, чаго добрага.

З а с т р а м і л а в а. Магу падзяліцца.

Т о р г а л а. Баюся, можа, чары якія.

Абое смяюцца.

Дык што ж, Аўдоцця Сцяпанаўна? Можа, нашы сцежкі цяпер сыдуцца? Сымон, небарака, ужо не перашкодзіць.

З а с т р а м і л а в а. А ваша Ганна Мікалаеўна? Хіба яна таксама?..

Т о р г а л а. Не, яшчэ цвэгае. Але неўміручасць ёй проціпаказана. Хутка развяжа мне рукі. Дык што ж мне — вечна ўдаўцом аставацца?

З а с т р а м і л а в а. Вечнасць... Яе яшчэ трэба мець.

Т о р г а л а. Думаю, што ўсё будзе ў парадку. Калі і падвядзе якая залоза, дык па старому знаёмству за мяне яшчэ ёсць каму закінуць слова. Запісачку дадуць.

З а с т р а м і л а в а. А мне замест залозы вы таксама запісачку пакажаце?

Т о р г а л а. Можаце не сумнявацца, Аўдоцця Сцяпанаўна. Тут без ніякага ашуканства.

З а с т р а м і л а в а. Дык я не хвалююся, Васіль Дарафеевіч. Гэта не цяжка і праверыць.

Т о р г а л а. Дык дамовіліся?

З а с т р а м і л а в а. Не будзем спяшацца, Васіль Дарафеевіч. Перад намі цэлая вечнасць.

В а с ю к. Каму мачу для аналізу? Папаша, а ў вас не той колер.

Т о р г а л а. Чулі вы! Ён таксама заўважыў. Што вы скажаце?

З а с т р а м і л а в а *(паглядзеўшы на Васюка)*. У гэтага з эрытрацытамі, відаць, усё ў парадку.

Т о р г а л а з В а с ю к о м адыходзяць убок. З а с т р а м і л а в а ідзе ў чаргу. Уваходзяць Ё н і Я н а.

Ё н. Што тут такое?

Я н а. Чарга ў вечнасць.

Ё н. На той свет?

Я н а. На гэтым арганізавалі. Ты хіба не чуў? Па радыё перадавалі.

Ё н. Плявузгалі нешта.

Я н а. І нам бы не шкодзіла падумаць.

Ё н. Сюды станавіцца?

Я н а. А што? Дзеля вечнасці ж.

Ё н. Ды тут палавіну вечнасці ў чарзе прастаіш.

Я н а. Адмаўляешся ад неўміручасці?

Ё н. Дык сюды? З бутэлечкамі? Хіба твой старыкан не дастане даведкі пра нашы залозы?

## Карціна чацвёртая

Прыёмная Дабрыяна.

Г е н к а *(уваходзіць)*. Мама мая, што робіцца.

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. Вэрхал. Гармідар.

Г е н к а. Стоўпатварэнне вавілонскае. Свае сваіх не пазнаюць. Няма таго калектыву, тае сям'і, дзе б людзі не высвятлялі, каму жыць вечна, а каму, доўга не ўпіраючыся, Богу душу аддаваць.

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. Мае суседзі цэлую ноч шуравалі. Ён — кандыдат у неўміручыя, а яна — бухгалтар, і нейкая там у яе растрата выявілася. Можа, яна і невінавата. Растрату-то яна пакрыла, а пляма асталася. Так яго неўміручасць і ляснула.

Г е н к а. Дык ён што?

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. «Ты, кажа, мяне жыўцом у магілу кладзеш».— «Вось і добра,— кажа яна.— Нечага, разам ляжаць будзем. А так задраў нос і пайшоў шукаць сабе неўміручай».

Г е н к а. А ў мяне ёсць пара знаёмых. Галубкі. Пакляліся кахаць адно аднаго да самай смерці. А выйшла, што яна ў неўміручыя трапіла, а ён за брамай астаўся. Дык як ёй цяпер кахаць да смерці, калі яна неўміручая?

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. Значыць, да яго смерці.

Г е н к а. Але як гучыць такая клятва: «Я буду кахаць цябе да твае смерці!»

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. Дык што ж галубкі?

Г е н к а. Падалі заяву ў Камітэт. Просяць: ці туды, ці сюды, але каб разам.

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. Значыць, яна неўміручасцю ахвяравала?

Г е н к а. Выходзіць.

А н т а н і н а  В а с і л ь е ў н а. Вось гэта каханне!

Генка. А пасля, можа, каяцца будзе.

Антаніна Васільеўна. Ніхто не ведае, што будзе пасля. Але гэта прыгожа, самаахвярна, чалавечна...

Генка. Заварыў Барыс Пятровіч кашу, цяпер, відаць, і сам не рад.

Антаніна Васільеўна. Чаму не рад? Найвялікшае адкрыццё ўсіх вякоў — як жа тут не радавацца?

Генка. Адкрыццё-то адкрыццё, але што з ім далей рабіць?

Антаніна Васільеўна. Гэта не яму вырашаць. Няхай іншыя думаюць.

Генка. Выпусціў джына з бутлі, з якім ніхто справіцца не можа. Прыйшоў ён ужо?

Антаніна Васільеўна. Прыйшоў. Засопшыся, гальштук на баку, гузікі ў пінжаку павырываны. Ледзь жывы вырваўся.

Генка. Неўміручыя? На «ўра» падкідалі?

Антаніна Васільеўна. Уміручыя апанавалі.

Генка. За гальштук бралі?

Антаніна Васільеўна. З машыны выцягнулі. Давай неўміручасць, а то мы з цябе душу вытрасем!

Генка. Вось яна — галгофа вялікага адкрывальніка. Раней бы на касцёр павалаклі. Вось і зрабі людзям дабро.

Антаніна Васільеўна. Дабро гэта ў іх па вусах цякло. Гэта ж людзі як бы другога сорту.

Генка. Смертнікі. Як мы з вамі.

Антаніна Васільеўна. А вы хіба не трапілі ў неўміручыя?

Генка. Не дапяў. Кажуць, балбатуноў там не трэба.

Антаніна Васільеўна. Вы ж памагаеце Барысу Пятровічу.

Генка. Людзі алмазы здабываюць, але гэта не значыць, што яны могуць іх у кішэнь класці.

Антаніна Васільеўна. Я вось думаю: а што, калі гэты неўміручы раптам звіхнецца?

Генка. Напрыклад?

Антаніна Васільеўна. Ці мала што. Піць пачне або распуснічаць.

Генка. Я думаю, такіх забіваць будуць.

Антаніна Васільеўна. Што вы! Які жах!

Генка. А што з ім рабіць? Сам жа ён не памрэ. А каму патрэбен вечны п'яніца або распуснік?

Чуваць званок.

Антаніна Васільеўна. Відаць, аддыхаўся. Пайду хоць гузікі папрышываю. *(Выходзіць.)*

Г е н к а *(адзін).* Вось табе і неўміручасць. Без пары памрэш ад гэтай неўміручасці.

Н а т а ш а *(уваходзіць).* У чарзе?

Г е н к а. Думаў зайсці, ды не варта. Не ў гуморы наш шэф.

Н а т а ш а. А што з ім?

Г е н к а. Патузалі на вуліцы.

Н а т а ш а. Пабілі?

Г е н к а. Папужалі. За гальштук патрымалі.

Н а т а ш а. Паб'юць яшчэ.

Г е н к а. Не сумняваюся.

Н а т а ш а. А я думаю зайсці.

Г е н к а. Табе можна. Неўміручай з неўміручым ёсць пра што пагаварыць. Як ні кажы — праблема вечнасці.

Н а т а ш а. Для мяне ўжо вырашана.

Г е н к а. І што?

Н а т а ш а. Дуля з маслам.

Г е н к а. І табе дуля? Ведаеш што, Наташа. Давай плюнем мы на гэту сінтэтычную неўміручасць. Пажэнімся, народзім кучу дзяцей, дзеці — кучу ўнукаў, унукі — кучу праўнукаў — вось табе і неўміручасць.

Н а т а ш а. Банальна.

Г е н к а. Не рамантычна, затое здарава.

Н а т а ш а. І сумна.

Г е н к а. Не кажы. Работа вясёлая. *(Спрабуе абняць.)*

Н а т а ш а *(адштурхоўвае).* Пашляк... *(Пасля паўзы.)* Я пра другое думаю.

Г е н к а. Пра што гэта, цікава?

Н а т а ш а. Несмяротнага пацука я выгадавала?

Г е н к а. Ну, не ты адна.

Н а т а ш а. Я яго даглядаю.

Г е н к а. Дык і што?

Н а т а ш а *(падкрэслена).* А тое, што неўміручасць у маіх руках.

Г е н к а. Як гэта?

Н а т а ш а. А так.

Г е н к а. Атруціш?

Н а т а ш а. Я яго выпушчу.

Г е н к а. Дык ён жа ўсё роўна астанецца неўміручым.

Н а т а ш а. У тым вось і справа. А ведаеш, колькі ён самак можа апладніць?

Г е н к а. Я думаю! Неўміручаму ўсе пацучыхі будуць на шыю вешацца.

Н а т а ш а. Тысячы. І кожная з іх будзе даваць неўміручае патомства. Тры разы ў год. Па пяць — сем пацучанят. Не ў

тры гады па адным дзіцяняці, як плануе Барыс Пятровіч, і тры разы ў год. Ды па сем. І ўсе неўміручыя. І ўсе хочуць жраць.

Генка. Дык яны ж усё зжаруць!

Наташа. Усё. І ўсіх.

Генка. Што за дзікая фантазія!

Наташа. Захачу — і стане рэальнасцю.

Генка. Ты што... Дэман? Сатана ў міні-спадніцы?

Наташа. Слабак твой сатана.

Генка. Герастрат нейкі там храм спаліў, дык і то цэлыя вякі яго праклінаюць, а ты хочаш усё чалавецтва скарміць пацукам.

Наташа. І не будзе каму мяне праклінаць.

Антаніна Васільеўна *(уваходзіць)*. Ну, маладыя людзі! Можаце ісці, адкуль прыйшлі. Барысу Пятровічу не да вас. Да яго цэлыя дэлегацыі ў чарзе стаяць.

Наташа. А я ўсё роўна прарвуся.

Антаніна Васільеўна. Цераз мой труп, Наташачка.

Генка. Яна і па трупах можа хадзіць.

Кабінет Дабрыяна. Апрача Дабрыяна ў кабінеце Дажывалаў, Караўкін, Торгала, Застрамілава.

Дабрыян. Слухаю вас.

Дажывалаў. Мы наконт неўміручасці.

Застрамілава. Заявы падавалі.

Торгала. І аналізы таксама здавалі.

Дажывалаў. Прыйшлі па вынікі.

Дабрыян. Вынікаў яшчэ няма.

Дажывалаў. Тры тыдні прайшло.

Дабрыян. Камітэт па справах неўміручасці яшчэ не разглядаў. Я адзін такіх спраў не вырашаю.

Дажывалаў. А я думаў, сярод вучоных няма бюракратаў.

Торгала. Ну, відаць, такі парадак. Справа сур'ёзная.

Застрамілава. А ўсё ж вы нам што-небудзь скажаце?

Дабрыян. Я ўжо сказаў. Камітэт разгледзіць, тады.

Дажывалаў. Пакуль той Камітэт разгледзіць, дык і ногі выцягнеш.

Караўкін. Надзея хоць ёсць якая-небудзь?

Застрамілава. Ці можна спадзявацца?

Торгала. «Надежды юношей питают, отраду старцам подают». Не забыўся яшчэ.

Застрамілава. Мы хоць і не старцы, але хацелі б быць юнашамі.

Дажывалаў. Ну, гэта ўсё — мура. Вось што, таварыш акадэмік, ці як вас там... Пакуль не скажаце, не выйдзем адгэтуль.

Дабрыян. Нават так?

Дажывалаў. Ага, вось так.

Дабрыян *(дае кожнаму карталюшку паперы)*. Напішыце ваша прозвішча, імя і па бацьку. *(Націскае кнопку.)*

Уваходзіць Антаніна Васільеўна.

Антаніна Васільеўна, пашукайце, калі ласка *(забірае карткі ў наведвальнікаў і дае Антаніне Васільеўне)*, звесткі на гэтых таварышаў.

Антаніна Васільеўна выходзіць.

Значыць, неўміручымі хочаце быць?

Усе *(дружна)*. Хочам.

Дабрыян. І што ж вы будзеце там рабіць... у неўміручасці?

Застрамілава. Жыць.

Торгала. Вечна жыць.

Дажывалаў. І не тужыць.

Дабрыян. Гэта значыць — есці, піць?

Застрамілава. Без гэтага не пражывеш.

Дабрыян. Карыстацца здабыткамі культуры.

Дажывалаў. Вядома. Каб з усімі выгодамі. Газ, ванна, раздзельны санвузел.

Дабрыян. І хто ж гэта ўсё будзе забяспечваць?

Дажывалаў. Мы — пенсіянеры.

Застрамілава. Заслужаны адпачынак.

Дабрыян. Значыць, вечны адпачынак?

Торгала. Як паложана.

Дабрыян. Вечны адпачынак толькі на могілках бывае.

Дажывалаў. Во дае акадэмік!

Дабрыян. Неўміручыя — гэта ж здаровыя, працаздольныя людзі.

Дажывалаў. Дык што? Вечна ўкалываць?

Торгала. І пенсіі не будзе?

Дабрыян. А нашто здароваму чалавеку пенсія?

Дажывалаў *(свішча)*. Вось табе і на!

Застрамілава. Выходзіць — не туды хата.

Торгала. Значыць, запрагайся ў ярмо і цягні вечна.

Застрамілава. Без перадыху.

Дабрыян. А кажуць жа, што праца — гэта арганічная патрэбнасць чалавека. Вы хіба не чулі пра радасць стваральнай працы?

Дажывалаў. Таварыш акадэмік, ці як вас там! Не трэба прыгожых слоў. Скажыце коратка: так ці не?

Караўкін. А я на пенсію не збіраюся. Гатоў працаваць, як і цяпер. Хоць сабе і вечна.

Дажывалаў. Раскалоўся.

Дабрыян *(углядаецца)*. Мы з вамі ці не сустракаліся?

Караўкін. Сустракаліся. Той спіс я падкараціў. Бабку выкасаваў. Бог з ёю.

Антаніна Васільеўна прыносіць карткі.

Дабрыян *(бярэ адну)*. Караўкін Міхаіл Трафімавіч?

Караўкін. Так, гэта я.

Дабрыян. Я ж вам ужо сказаў.

Караўкін. Нічога вы мне не сказалі.

Дабрыян. Тады, пры сустрэчы.

Караўкін. Што вы мне сказалі? Вы паслалі мяне к чортавай мацеры.

Дабрыян *(разглядае картку)*. А далей няма куды.

Караўкін. Разам з Антонам Фёдаравічам. Я яму яшчэ не гаварыў.

Дабрыян. А вы скажыце.

Караўкін. І скажу.

Дабрыян. Абавязкова скажыце. *(Бярэ другую картку.)* Застрамілава Аўдоцця Сцяпанаўна.

Застрамілава. Гэта я.

Дабрыян. Паклёпнічала на сумленных людзей.

Застрамілава. Я памагала выкрываць злачынцаў.

Дабрыян. А яны рэабілітаваны.

Застрамілава. Дык я тут пры чым?

Дабрыян. Тут вы сапраўды ні пры чым. Вы яшчэ памагалі свайму мужу...

Застрамілава. Памагала, як магла. На тое і муж.

Дабрыян. Памаглі памерці.

Застрамілава. Я яго не атруціла.

Дабрыян. Стварылі яму для гэтага спрыяльныя ўмовы. Я думаю, што неўміручым людзям вашы паслугі не спатрэбяцца. *(Бярэ наступную картку.)* Дажывалаў Канстанцін Андрэевіч.

Дажывалаў. Я самы і ёсць.

Дабрыян *(успамінае)*. Дажывалаў... Па-мойму, вы мне званілі?

Дажывалаў. Званіў. Але званка, выходзіць, мала.

Дабрыян *(чытае)*. Маёр інтэнданцкай службы... У запасе. Помніцца, вы гаварылі — генерал-маёр.

Дажывалаў. А так бы вы са мной і не размаўлялі.

Дабрыян *(чытае далей)*. Зволены за...

Дажывалаў. Не трэба... Няма чаго варушыць брудную бялізну.

Дабрыян. Тым больш што яе тут досыць шмат. *(Бярэ апошнюю картку.)* Васіль Дарафеевіч Тар-ча-ла.

Торгала. Торгала. Не Тарчала, а Торгала. Гэта я.

Дабрыян. Гм... Тут нейкая біялагічная загадка.

Торгала *(устрывожаны)*. А што такое?

Дабрыян. Скажыце, ваш бацька быў біцюг ці рысак?

Торгала. Як гэта — рысак? Чалавек.

Дабрыян. Сумняваюся. Чаму ж у вас мача конская?

Торгала. Што за глупства?

Дабрыян. Аналіз паказвае.

Торгала. Вось сукін сын, абармот!

Дабрыян. Як бачыце, шаноўныя грамадзяне, калі можна вас так назваць, шансы на неўміручасць у вас вельмі слабыя.

Дажывалаў. Гэта канчаткова?

Дабрыян. Гэта мая асабістая думка. А канчаткова скажа Камітэт па справах неўміручасці.

Торгала. Дык што ж, нам так і паміраць?

Дабрыян. Не адразу. Пажывяце яшчэ. Тым больш што здароўе ў вас, як паказвае аналіз... конскае. А прыйдзе пара, памраце, як усе смертныя.

Наведвальнікі, не развітаўшыся, выходзяць. Уваходзіць Антаніна Васільеўна.

Бачылі неўміручых? Стараешся для добрых людзей, а тут усякая брыдота лезе. І, чаго добрага, пралезе яшчэ. Як вы думаеце, Антаніна Васільеўна?

Антаніна Васільеўна. Гэта ад вас залежыць, Барыс Пятровіч.

Дабрыян. Антона Фёдаравіча падключаць, яшчэ каго-небудзь.

Антаніна Васільеўна. Я б сама пралезла, каб магла.

Дабрыян. Вы? Не. Вы не пралезеце. Куды вам! У вас жа няма Антона Фёдаравіча.

Антаніна Васільеўна. Затое ў мяне ёсць Барыс Пятровіч.

Дабрыян. Э... Благі чалавек гэты Барыс Пятровіч. Скупы. Шкадуе неўміручасці нават сваім добрым знаёмым.

Прыёмная Дабрыяна.

З кабінета вывальваюцца Дажывалаў, Караўкін, Торгала, Застрамілава.

Застрамілава. Усё раскапалі. Усю паднаготную.

Торгала. Тут у лоб не возьмеш.

Дажывалаў. А што гэта за конская мача?
Застрамілава. Жулік адзін...
Торгала *(заўважыў Наташу і штурхае Застрамілаву ў бок. Да Наташы).* І вы па неўміручасць?
Наташа. Не. Я па справе.
Караўкін. Дык што? Можа, вы тут працуеце?
Наташа. Працую.
Дажывалаў. З гэтым кракадзілам?
Караўкін. З Барысам Пятровічам?
Наташа. Я яму памагаю.
Застрамілава. Значыць, неўміручая.
Наташа. Такая ж, як і вы.
Караўкін. Дык вы, можа, і да гэтага знакамітага пацука маеце доступ?
Наташа. Я яго даглядаю.
Торгала. І прэпараты розныя ўводзіце яму?
Наташа. Гэта ён сам.
Караўкін. Пацук?
Наташа. Барыс Пятровіч.
Дажывалаў. Не давярае.
Торгала. Усё, напэўна, у сейфе, пад замкамі?
Караўкін. А вы б не маглі як-небудзь таго?..
Наташа. Чаго гэта таго?
Караўкін. Ну, калі ён адвернецца, узяць непрыкметна.
Дажывалаў. Сабе б у ягадзіцу торкнулі і нам пакрысе.
Наташа. Чаго вам торкнуць? Сінільнай кіслаты ці цыяністага калію?
Караўкін. Што лепш дзейнічае.
Дажывалаў. Каб адразу.
Наташа. Значыць, цыяністага калію.
Торгала. Яна здзекуецца. Гэта ж атрута.
Дажывалаў. Вы нам атруту!
Застрамілава. Гэта яна са злосці.
Торгала. Крыўдна, вядома. Для другіх стараецца, а самой паміраць прыйдзецца.
Дажывалаў. Вам крыўдна і нам крыўдна, дык трэба разам гэту крыўду спагнаць.
Наташа. Як гэта?
Застрамілава. А так: калі не мне, дык і нікому.
Дажывалаў. Пацука гэтага за хвост ды аб вугал.
Караўкін. Нашто аб вугал? Торкне гэтага самага, што нам прапанавала.
Застрамілава. І ўсё.
Торгала. І ўся неўміручасць.

Д а ж ы в а л а ў. Ліпа.

К а р а ў к і н. Адно шарлатанства.

Н а т а ш а *(іранічна).* Гэта ідэйка! Як яна прыйшла вам у галаву?

Д а ж ы в а л а ў. А што? Нядрэнная. Калі не мне, дык і нікому.

Кабінет Дабрыяна. Стук у дзверы.

Д а б р ы я н. Уваходзьце!

Уваходзяць М я к і ш а в а і С і д а р о в і ч.

М я к і ш а в а. Мы ад прафсаюзнай арганізацыі. Маё прозвішча — Мякішава. Ніна Уладзіміраўна. А гэта — наш актывіст, ударнік камуністычнай працы Мікалай Рыгоравіч Сідаровіч.

Д а б р ы я н. Вельмі прыемна. Сядайце, калі ласка.

М я к і ш а в а *(становіцца ў позу).* Дарагі Барыс Пятровіч! Дазвольце горача, ад усяе душы павіншаваць вас, вялікага вучонага, слаўнага сына нашага народа, з адкрыццём закону неўміручасці, якім вы ашчаслівілі чалавецтва. Ад шчырага сэрца жадаем вам добрага здароўя і доўгіх, доўгіх... Прабачце, гэта па прывычцы... Жадаем вам вечнага, шчаслівага, бясхмарнага жыцця і яшчэ большых... Ды якіх яшчэ большых... Адным словам, нізкі, нізкі вам паклон за ваш неўміручы навуковы подзвіг і дазвольце вас пацалаваць. *(Цалуе Барыса Пятровіча.)*

Сідаровіч паціскае яму руку.

Д а б р ы я н. Вялікае вам дзякуй, Ніна Уладзіміраўна. Вы мяне проста расчулілі. Сядайце, калі ласка.

Усе садзяцца.

М я к і ш а в а. Вялікую вы справу зрабілі, Барыс Пятровіч, ды вось бяда — не ўкладваемся мы ў ліміты.

Д а б р ы я н. На жаль, не толькі ў вас такое становішча.

М я к і ш а в а. Цудоўныя ж людзі, ударнікі камуністычнай працы, а мы вымушаны ім адмаўляць, дзяліць на вартых і нявартых. А яны ўсе вартыя.

Д а б р ы я н. Дык што ж рабіць?

М я к і ш а в а. Вось мы і прыйшлі параіцца з вамі — што рабіць?

Д а б р ы я н. А я таксама не ведаю.

М я к і ш а в а. Ці нельга павялічыць ліміт на неўміручых?

Дабрыян. Лімітамі я не распараджаюся, Ніна Уладзіміраўна. Вы гэта самі ведаеце. Я даю толькі рэкамендацыі.

Мякішава. Вось мы і просім рэкамендацыі. Без іх не даюць.

Дабрыян. А вы ведаеце, што такое дэмаграфічны ўзрыў?

Мякішава. Гэта калі людзей расплоджваецца больш, чым трэба.

Дабрыян. Дык вось, калі пусціць на самацёк, дык іх пры неўміручасці за сто гадоў расплодзіцца ў нашай рэспубліцы два мільярды дзвесце восемдзесят сем мільёнаў. Я вас не пераканаў?

Мякішава. Вы мяне даканалі. Каб вы бачылі, што ў калектывах робіцца. Вось няхай Мікалай Рыгоравіч скажа.

Сідаровіч. Падзяліла неўміручасць людзей, Барыс Пятровіч. Нас, так званых неўміручых, жменька, а іх жа вунь колькі. Ды і крыўда ім вялікая. Каторы больш свядомы, віду не паказвае, а ўсё роўна няма ранейшай цеплыні. А другі і шпільку падпусціць. Ёсць такія, што і не хаваюць свае крыўды. Дае яму майстар дэталь апрацаваць, а ён: «Такая складаная! Гэта не для смертных. Вунь неўміручаму дай». І так няёмка сябе адчуваеш, нібы вінават перад ім.

Дабрыян. Ну, а калі вас, бывае, прэміруюць, а яго не, дык вы таксама вінаватым сябе адчуваеце?

Сідаровіч. Прэмія — справа іншая. Сёння мяне прэміравалі, другі раз другога. А тут жа навечна. Ну і ў сям'і таксама... Жонка нібы чужымі вачамі глядзіць на мяне. І мяне розныя думкі трывожаць. Пра вечнае думаю. Памрэ жонка, дзеці паўміраюць, а я ўсё буду жыць і жыць. Адзін я буду? Мусіць жа, не адзін. Другая будзе. І дзеці... можа, неўміручыя. А гэтыя? Праз якіх гадоў дзвесце я, можа, і зусім забудуся, якія яны былі. Вось і думаю. Начамі не сплю. Ішоў з Нінай Уладзіміраўнай да вас наконт лімітаў, але як пачуў, што лік на мільярды ідзе, дык і язык не паварочваецца. Вось я і думаю: а нашто мне гэта неўміручасць? Жыў я спакойна, працаваў, людзі мяне паважалі, і ніхто крыва на мяне не глядзеў. Буду я лепш зноў такім, як быў. І дзяцей прытулю, як раней, і жонка не будзе глядзець як на марсіяніна. Як вы думаеце, Барыс Пятровіч, маю я права адмовіцца ад неўміручасці?

Дабрыян. Ну вядома. Але адзін выпадак не вырашае праблемы. Вы адмовіцеся, а іншыя ж не адмовяцца. Ёсць такія, што за горла бяруць: давай неўміручасць, душа з цябе вон. Значыць, усё роўна астануцца ўміручыя і неўміручыя. А з імі і праблемы.

Мякішава. І вы нам нічога не можаце параіць?

Дабрыян. На вялікі жаль.

Мякішава і Сідаровіч устаюць, развітваюцца.

Сідаровіч. Я для сябе праблему вырашыў. Прыйшоў сюды неўміручым, а выходжу простым смертным.

Дабрыян. Я нават не ведаю, радавацца мне разам з вамі ці смуткаваць.

Мякішава і Сідаровіч выходзяць. Дабрыян садзіцца за стол і нешта запісвае.

Скараспей *(уваходзіць. Са штучнай фамільярнасцю)*. Добры дзень у хату!

Дабрыян *(устае з-за стала, ідзе насустрач)*. Добры дзень, Сцяпан Тарасавіч!

Вітаюцца, паціскаюць рукі.

Прашу вас. Сядайце.

Садзяцца.

Чым магу служыць?

Скараспей. Ну, не так афіцыйна. Якая там служба. Ехаў міма — дай, думаю, завярну на агеньчык, павіншую старога друга. Кажуць, ты тут такога натварыў...

Дабрыян. Дзякую, Сцяпан Тарасавіч. Натварыў... клопату людзям. Вы не ўяўляеце, колькі розных праблем узнікае ў сувязі з гэтым.

Скараспей. Ды што гэта ты: «вы, вас, вам». Мы ж, можна сказаць, старыя сябры.

Дабрыян. Відаць, занадта ўжо старыя.

Скараспей. На брудэршафт, праўда, не пілі, але гэта можна і паправіць. Так што давай без цырымоніі. *(Ляпае па плячы.)* Мы ж з табой нават вучыліся разам. Праўда, на розных факультэтах. Але гэта не перашкаджала нам быць сябрамі.

Дабрыян. Амаль сябрамі.

Скараспей. Чаму ж амаль? Не амаль, а так яно і было.

Дабрыян. Пасля нашы сцежкі разышліся.

Скараспей. Не ў розныя ж бакі.

Дабрыян. Мая, можна сказаць, па гарызанталі, а ваша па вертыкалі — усё вышэй і вышэй. Вы ж ледзь не міністэрскіх вышынь дасягнулі.

Скараспей. Зноў — вы. Бора! Ну як табе не сорамна! Мы ж ужо дамовіліся наконт брудэршафта.

Дабрыян. Прабач. У мяне неяк не выходзіць.

Скараспей. А вышынь пэўных я дасягнуў. Да міністра, праўда, не дапяў.

Дабрыян. Дапнеш. Яшчэ дапнеш. З тваёй хваткай...

Скараспей. Кажуць, дрэнны той салдат, які не марыць быць генералам. А вось ты мяне, прызнацца, здзівіў. Корпаўся, корпаўся са сваімі пацукамі. Я думаў — што там з таго пацука выкалупаеш. І раптам — неўміручасць! Рад за цябе. Маладзец!

Дабрыян невыразна ківае галавой.

А ведаеш, я думаў пра цябе. Не раз успамінаў. Як ён там, думаю. Можа, цяжкасці якія — дапамагчы што трэба. І не пазвоніць, думаю, дзівак. На кватэру б зайшоў, калі не хоча афіцыйна звяртацца. Сам хацеў выбраць час прыехаць да цябе, ды так і не ўдалося сустрэцца.

Дабрыян. А мы сустракаліся.

Скараспей. Дзе?

Дабрыян. На вуліцы. Проста нос у нос.

Скараспей. І размаўлялі?

Дабрыян. Не. Вы мяне не пазналі.

Скараспей. Не можа быць!

Дабрыян. Адвярнуліся ў другі бок. Нешта ў вітрыне вас моцна зацікавіла.

Скараспей. Хоць забі, не помню. І даўно гэта было?

Дабрыян. Даўнавата. Яшчэ да неўміручасці.

Скараспей. Прабач, калі ласка! Не падумай, што я наўмысна. Галава рознымі справамі забіта. Бывае, глядзіш і нічога перад сабой не бачыш. Каб родная жонка сустрэлася, дык не пазнаў бы.

Дабрыян. Я разумею. Такія маштабы... Дзе там кожнага пазнаеш.

Скараспей. Спадзяюся, ты не пакрыўдзіўся на мяне.

Дабрыян. Гэта так... да слова прыйшлося.

Скараспей. Прабач, што я тут твой час марную.

Дабрыян. У вас жа, напэўна, справа ёсць.

Скараспей. Справа невялікая. Хацеў напомніць, што ў цябе ёсць друг, якому некалі таксама прыйдзе час паміраць.

Дабрыян. А куды дзенешся.

Скараспей. Я думаю, заявы падаваць не трэба.

Дабрыян. Заявы? Нашто тая заява? Заявы не трэба.

Скараспей. І так усё ўладзіцца, кажаш?

Дабрыян. Уладзіцца. У агульным парадку.

Скараспей. Ты, аказваецца, жартаўнік.

Дабрыян. Хіба я сказаў што-небудзь смешнае?

Скараспей. У агульным парадку... Значыць, ты прымушаеш мяне станавіцца ў агульную чаргу?

Дабрыян. Божа барані! У мяне і на думцы не было прымушаць. Як сабе хочаце.

Скараспей. Ты што, мілы друг... Прыкідваешся ці сапраўды такі?.. Не хочацца мне ўжываць моцнае слова.

Дабрыян. Такі. Я такі.

Скараспей. Ну і ну! *(Не развітваючыся, выходзіць.)*

Антаніна Васільеўна *(уваходзіць)*. Барыс Пятровіч, там карэспандэнт дабіваецца.

Дабрыян. Які яшчэ карэспандэнт?

Антаніна Васільеўна. Замежны нейкі. Тэлефон абарваў. Цяпер у прыёмную прыпёрся.

Дабрыян. Ніякіх карэспандэнтаў! Ад сваіх не адбіцца!

Антаніна Васільеўна ідзе да выхаду і ў дзвярах сустракаецца з абвешаным апаратамі карэспандэнтам.

Антаніна Васільеўна *(заступае дарогу)*. Няможна!

Карэспандэнт *(прэцца і крычыць)*. Карэспандэнт! Карэспандэнт!

Антаніна Васільеўна *(стараецца выпхнуць яго за дзверы)*. Ніякіх карэспандэнтаў!

Карэспандэнт. «Нью-Йорк таймс», «Вашынгтон пост», «Асашыэйтэд Прэс»! *(Урываецца ў кабінет.)*

Антаніна Васільеўна *(адпіхвае яго зноў да дзвярэй)*. Дудкі, містэр-твістэр! Не на тую напаў.

Карэспандэнт *(выцягвае рукі)*. Містэр Дабрыян! Містэр Дабрыян! Адна секунда. Два словы. Я — Гары Болдвін.

Дабрыян *(да Антаніны Васільеўны)*. Пусціце. Ён вас затузае.

Болдвін *(аддыхваецца)*. О, як я рад! Дзякуй! Вельмі дзякуй, містэр Дабрыян! Я першы прадстаўляю вас на ўвесь свет. *(Нарыхтоўвае кінакамеру.)*

Дабрыян *(з жэстам)*. Не трэба.

Болдвін. Чаму? Я не разумею. Рэклама — гэта ў ваш інтарэс.

Дабрыян. Гэта не ў інтарэсах справы.

Болдвін. Я не згодзен.

Дабрыян. Не згодны, дык будзьце здаровы. Сустрэча з вамі ў мяне не запланавана, але раз вы ўжо зайшлі...

Болдвін *(хапаецца то за адзін апарат, то за другі)*. Містэр Дабрыян!

Дабрыян. Зламыце вашу апаратуру вунь туды... у куток.

Болдвін. Іначай...

Дабрыян. Ніякай размовы не будзе.

Болдвін *(знімае апараты і складвае ў кучу)*. Вось... Я раззброены. Ніякі апарат.

Дабрыян. Я ў гэтым не ўпэўнены.

Болдвін. Што? *(Паказвае на гузікі пінжака.)* Мікрафон? Фотаапарат? *(Смяецца.)* Калі ласка. *(Знімае пінжак.)* Што яшчэ? Раздзявацца далей, да стрыптыз? Міс дазваляе?

Антаніна Васільеўна. Нахабнік. *(Выходзіць.)*

Дабрыян. Дык што вас цікавіць?

Болдвін. Сенсацыя веку! Неўміручасць! Вы ліцэнзія ўжо прадаваў?

Дабрыян. Не, не прадаваў.

Болдвін. Я магу рэкамендаваць пакупнік.

Дабрыян. Дзякую. У гэтым няма патрэбы.

Болдвін. Вы ведаў, колькі вы каштаваў?

Дабрыян. Тавар не прадажны, цаны не мае.

Болдвін. Мільёны! Мільёны долар!

Дабрыян. Ды і долар паў у цане.

Болдвін. Вы не хацеў сур'ёзна гаварыць пра гэта тэма?

Дабрыян. Тэму варта перамяніць.

Болдвін. Добра. Тады для каго вы рабіў неўміручасць?

Дабрыян. Для добрых людзей.

Болдвін. А хто добрыя людзі?

Дабрыян. Тут, відаць, нашы погляды не супадуць.

Болдвін. Камуніст — гэта добра, а капіталіст — гэта не добра. Яму неўміручасць не даваць.

Дабрыян. Капіталіст асуджаны на смерць самой гісторыяй, і ніхто яго не ўратуе.

Болдвін. На палітграмата я маю імунітэт.

Дабрыян. Гэта так... да ведама.

Болдвін. У вас, я чуў, неўміручасць размяркоўваць на ліміт. На тысячу галоў дзесяць неўміручыя.

Дабрыян. У нас у неўміручыя могуць трапіць толькі лепшыя з лепшых.

Болдвін. Камуністы?

Дабрыян. Не ўсе. І не толькі камуністы. Гледзячы чаго чалавек варты. А ў вас, відаць, было б іначай?

Болдвін. О, у нас таксама глядзяць, колькі чалавек варты. Толькі няма ліміт. Вольны бізнес. Фірма купляе ў вас ліцэнзія, укладвае капітал і наладжвае выраб неўміручасці. Ты мне долар, я табе неўміручасць, ты мне долар, я табе неўміручасць.

Дабрыян. Адзін долар? Дык так у вас усе могуць стаць неўміручымі.

Болдвін. О, вы наіўна думаў. Не адзін долар. Многа долар. Неўміручасць — гэта дарага.

Дабрыян. А ў каго няма многа долараў?

Болдвін. Той будзе паміраць. Няма долар, няма неўміручасць.

Дабрыян. Значыць, несмяротнымі ў вас былі б толькі драпежнікі?

Болдвін. Якраз па Дарвін. Натуральны адбор: дужы выжывай, слабы памірай.

Дабрыян. Вы ганьбіце імя вялікага вучонага.

Болдвін. А што? Не?

Дабрыян *(глядзіць на гадзіннік)*. Час — гэта грошы. Так, здаецца, у вас гавораць?

Болдвін. Я разумеў гэты намёк. А скажыце, ваш гэты, што грызе... як яго... рэт...

Дабрыян. Пацук?

Болдвін. Басук, басук. Я яго хацеў знімаць.

Дабрыян. Ён адпачывае і прасіў не турбаваць.

Болдвін. А наконт ліцэнзіі гэта ваш канец?

Дабрыян. Канец. І будзьце здаровы.

Болдвін. Неўміручасць толькі для камуніст?

Дабрыян. Я не маю часу паўтараць сказанае.

Болдвін. Вы не ёсць вельмі ветлівы. А рэпартаж будзе. Які трэба... *(Выходзіць.)*

Дабрыян. Які трэба вашым гаспадарам. Гэта мы ведаем.

Антаніна Васільеўна *(уваходзіць з поштай у руках. Ківае на дзверы)*. Адпрэчылі?

Дабрыян. Ледзь адчапіўся. Спрабаваў таргаваць мяне.

Антаніна Васільеўна. І многа даваў?

Дабрыян. Мільёнамі спакушаў.

Антаніна Васільеўна. Прыдурак. *(Кладзе пошту на стол.)* Вось вам яшчэ дабаўка.

Дабрыян. І калі ж я ўсё гэта прагледжу? *(Садзіцца і праглядае пошту.)* Да мяне больш нікога няма?

Антаніна Васільеўна. Калгасніца з падшэфнага калгаса. Пенсіянерка.

Дабрыян. Чаго яна хоча?

Антаніна Васільеўна. Не гаворыць. Кажа, толькі самому акадэміку скажу. Прымеце? У вас жа хутка пасяджэнне.

Дабрыян. Сёння не прыму — заўтра прыедзе.

Антаніна Васільеўна выходзіць. Праз хвіліну ўваходзіць калгасніца.

Калгасніца. Дзень добры вам.

Дабрыян. Добры дзень. Праходзьце. Сядайце.

Калгасніца. Сядзела. На машыне дзве гадзіны, ды тут, у вашым прылазніку, з гадзіну.

Дабрыян. Людзей шмат. Давайце знаёміцца.

Калгасніца. Я вас знаю. Вы прыязджалі да нас. Я з калгаса «Ураджай».

Дабрыян. А як вас зваць?

Калгасніца. Прозвішча — Лапата. Ну, пішуць — Лапато. Гэта як бы далікатней. А завуць — Алена. Алена Максімаўна.

Дабрыян. Дык што ж мне скажаце, Алена Максімаўна?

Алена Максімаўна. Чула я, таварыш акадэмік, што вы людзей робіце неўміручымі. І нават пацукоў. Радыё перадавала.

Дабрыян. Дык вы таксама хочаце быць неўміручай?

Алена Максімаўна. Не, я не пра сябе. Я пажыла ўжо, дзякуй Богу, дзяцей пагадавала, унукі растуць. Ну, там пасля ўжо, калі гэтага лякарства астанецца ў вас на маю долю...

Дабрыян. Дык вы пра дзяцей клапоціцеся?

Алена Максімаўна. Дзеці мае прабітныя. Адзін — трактарыст, другі на ферме працуе. Прэміі палучаюць. На дошцы вісяць. Яны самі даб'юцца.

Дабрыян. Значыць, пра ўнукаў?

Алена Максімаўна. А пра ўнукаў яшчэ рана.

Дабрыян. Дык што ж вы хацелі?

Алена Максімаўна. Я неяк не адважуся гаварыць.

Уваходзіць Антаніна Васільеўна, адчыняе шафу і бярэ папку.

Дабрыян. Калі ўжо адважыліся прыйсці...

Алена Максімаўна. Таварышок акадэмік, даражэнькі! Я вас вельмі прашу: зрабіце маю кароўку неўміручай!

Антаніна Васільеўна не ўтрымалася і фыркнула са смеху.

Чаго ты фыркаеш! Табе ў магазіне гатовае, а мне надаіць трэба. *(Да Дабрыяна.)* Вельмі ж кароўка ўдалая. Каб вы толькі глянулі на тое вымя! Але ўжо не маладая. Гады праз чатыры трэба будзе мяняць. А там якая ўдасца, бог яе ведае.

Дабрыян. Вось гэта задалі вы мне задачу!

Алена Максімаўна. Я думаю, калі пацука можна, чалавека можна, дык і карову можна. Яна ж пасярэдзіне паміж імі.

Дабрыян. Вы правільна думаеце. У прынцыпе яно можна.

Алена Максімаўна. А мне не ў прынцыпе трэба, а ў хляве.

Дабрыян. Але ж людзям не толькі малако, а і мяса патрэбна. А калі ўсе каровы будуць неўміручыя...

Алена Максімаўна. Я ж пра ўсіх не гавару. Мяса вунь калгас больш за тысячу гэтых самых цэнтнераў здаў. Колькі гэта на пуды, я ўжо і не ведаю. А мне і ўнукам — малачко на першым плане. *(Доўгая паўза.)* Дык зробіце?

Дабрыян. На жаль, не магу.

Алена Максімаўна. Чаму?

Дабрыян. Складанае гэта пытанне, Алена Максімаўна. Спачатку з людзьмі трэба разабрацца. Тут яшчэ думаць і думаць трэба.

Алена Максімаўна. З людзьмі яно вядома, а з каровай жа ўсё ясна.

Дабрыян. Гэта вам так здаецца.

Алена Максімаўна. Дык не можаце?

Дабрыян. Не магу, Алена Максімаўна.

Алена Максімаўна *(устае)*. Ну што ж... Прыйдзецца скардзіцца, заяву падаваць.

Дабрыян. На каго?

Алена Максімаўна. На вас, таварыш акадэмік.

Дабрыян. Каму ж вы будзеце скардзіцца?

Алена Максімаўна. Правіцельству. Яно разбярэцца, што ў гаспадарцы больш патрэбна — каровы ці пацукі.

Алена Максімаўна і Антаніна Васільеўна выходзяць. Адчыняюцца дзверы, і ўваходзіць Наташа.

Наташа. Не прагоніце?

Дабрыян. Наташа! Ну што вы! Рад вас бачыць. Сядайце.

Наташа садзіцца.

Як здароўе?

Наташа. Пацук здаровы.

Дабрыян. Я пра ваша здароўе пытаюся. Вы былі так усхваляваны.

Наташа. Было ад чаго. Страціць неўміручасць — гэта не сумачку з грашыма.

Дабрыян. Вы яшчэ нічога не страцілі. Папрацуеце, людзі вас ацэняць...

Наташа. Больш за ўсё балюча, што я страціла вялікага мысліцеля, смелага адкрывальніка, бога навукі і ўбачыла на яго месцы звычайнага абываценя, які трымаецца за падол старой бабы.

Дабрыян. Вы мяне не разумееце, Наташа.

Наташа. Я б разумела вас, калі б была вам агіднай.

Дабрыян. Я гэтага не скажу. Але мы з вамі розныя.

Наташа. Нават процілеглыя ў пэўным сэнсе.

Дабрыян. У вас яшчэ няма мінулага, адна толькі будучыня. Вы ні з чым не звязаны і нікому не абавязаны. А мяне трымае за фалды маё мінулае і маё сённяшняе. Адвярнуцца ад яго — гэта значыць зрабіць няшчаснымі блізкіх мне людзей.

Наташа. Ды вы не апраўдвайцеся, я не прыйшла вымагаць у вас неўміручасць. Ні гвалтаваць вас не збіраюся, ні на калені станавіцца.

Дабрыян. Вось і добра. Значыць, мы па-ранейшаму — сябры.

Наташа. Чула, што вам і без гэтага нялёгка.

Дабрыян. І не кажыце. Пісьмы, тэлеграмы, званкі... *(Бярэ ў рукі жмут пісем.)* Во, паглядзіце! Клубок страсцей. Усхваленні, навуковыя меркаванні, пагрозы, праклёны. Адны ўслаўляюць за тое, што абяссмерціў чалавека, другія праклінаюць за тое, што большую частку чалавецтва асудзіў на смерць. Як быццам яны дагэтуль не былі асуджаны.

Наташа. Вас нават пабіць хацелі.

Дабрыян. Гэта што! Дробны эпізод у вялікай эпапеі.

Наташа. Адзін з такіх эпізодаў можа скончыцца для вас дрэнна.

Дабрыян. Дзеля навукі людзі на кастрах гарэлі. А ідэя іх жыла. І перамагала. Праблема неўміручасці! За гэта не шкада і жыццё аддаць.

Наташа. Жыццё за неўміручасць...

Дабрыян. Так, гэта парадокс. Вялікі парадокс!

Наташа. Але гэта праблема выклікала дзесяткі іншых праблем.

Дабрыян. Іншыя праблемы няхай іншыя і вырашаюць. Я даў людзям неўміручасць. Няхай яны самі падумаюць, як ёю распарадзіцца. Зараз тут збяруцца спецыялісты. Паслухаем, што яны скажуць.

Наташа. Вінаўнікам усіх бед усё роўна вас будуць лічыць.

Дабрыян. Што зробіш. Такая мая доля.

Наташа. І мне вас шкада.

Дабрыян. Гэта вельмі велікадушна з вашага боку.

Наташа. Я хачу вас выратаваць. Зразу зняць усе праблемы.

Дабрыян. Гэта ў вашых сілах?

Наташа. Думаю, што сілы ў мяне хопіць.

Дабрыян. Саманадзейнасць маладосці. Баюся, каб вы якога глупства не зрабілі.

Н а т а ш а. Гэта будзе самае разумнае, што можна зрабіць у такім становішчы. *(Выходзіць.)*

Д а б р ы я н. Што надумала гэта ўтрапёнае дзяўчо?

К у д р ы ц к а я *(прачыняе дзверы).* Можна?

Д а б р ы я н. Калі ласка, Клаўдзія Пятроўна. Заходзьце.

К у д р ы ц к а я. Тут за мной цэлы вывадак.

Д а б р ы я н. Вядзіце яго сюды. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Ды і пара ўжо.

Уваходзяць К у д р ы ц к а я, А б а д о ў с к і, Б а б р о в і ч, В а р а к с а, А д а м е й к а, Г е н к а.

Дык вось, таварышы... Надышоў час. Просяць нас выказаць свае пэўныя думкі. Вы ведаеце наконт чаго...

В а р а к с а. Пэўныя думкі аб няпэўнай справе.

Д а б р ы я н. Што вы маеце на ўвазе?

В а р а к с а. Я маю на ўвазе нязбытныя мары... Такія, як ваша неўміручасць, Барыс Пятровіч.

Д а б р ы я н. Паколькі яна мая, дык гэта ўжо не мара. Але я думаю, што яна не толькі мая.

А б а д о ў с к і. Гэта як той Месяц. Пакуль на яго глядзелі здалёк ды марылі аб нябесных яснотах і вечным блажэнстве, дык ён здаваўся такім прывабным, а як дасягнулі...

В а р а к с а. Хвала вам і слава, Барыс Пятровіч, за ваша адкрыццё, але апрача фізіялогіі ёсць яшчэ сацыялогія, этыка, мараль, псіхалогія людзей.

Б а б р о в і ч. І эканоміка.

Д а б р ы я н. Усё гэта ёсць, дарагія таварышы, але ж ёсць і людзі, якія гэтыя праблемы вырашаюць. Аляксандр Паўлавіч, сацыялогія, псіхалогія — гэта па вашай часці.

В а р а к с а. Хадзіў, ездзіў. Быў у розных калектывах. І пераканаўся: тое, што мы прапанавалі,— несправядліва і амаральна. Бар'ер неўміручасці падзяліў людзей на лепшых і горшых. А тым часам сярод гэтых «горшых» ёсць нямала не горшых за тых «лепшых». Ды і тыя, што цяпер сапраўды горшыя, яшчэ могуць стаць лепшымі. Але брама неўміручасці для іх зачынена назаўсёды.

А д а м е й к а. «Дык нашто мне тады старацца лепшым быць?» — скажа каторы несвядомы.

В а р а к с а. Бар'ер гэты прайшоў па гарадах і вёсках, па калектывах і сем'ях, падзяліў бацькоў з дзецьмі, мужоў з жонкамі, парэзаў сувязі сяброўства і кахання.

Д а б р ы я н. Дык што ж, па-вашаму, трэба рабіць?

В а р а к с а. Не ведаю. Мае праблемы... Не мае, вядома. Я хачу сказаць, што праблемы этыкі, маралі — гэта прабле-

мы другасныя. Яны з'яўляюцца вынікам таго, што неўміручасці на ўсіх не хапае.

Дабрын. Гэта мы ўжо ўстанавілі.

Варакса. Значыць, мімаволі прыходзіцца дзяліць усё грамадства на лепшых і горшых. А гэта несправядліва, гэта крыўда і абраза для пераважнай большасці нашага грамадства.

Абадоўскі. Лічыце — чалавецтва. Сённяшняя наша праблема заўтра стане агульначалавечай.

Кудрыцкая. Страшна падумаць, як там будуць дзяліць на лепшых і горшых.

Генка. Я думаю, што ліцэнзій на неўміручасць мы ракфелерам прадаваць не будзем.

Абадоўскі. На манаполію разлічваеце? Для навуковых ідэй няма непраходнай мяжы.

Бабровіч. Не будзем вырашаць за ўвесь свет. Мы вось у сябе дома не можам вырашыць. Аляксандр Паўлавіч супроць бар'еру. Дык што ж — зняць бар'ер? Валі ў неўміручасць, хто хоча! Тады не толькі вады і яды, паветра не хопіць. Месца на зямлі не хопіць, каб сесці ці стаць. А ўрэшце, я ўжо гаварыў пра гэта.

Кудрыцкая. Барыс Пятровіч, а можа, усё-такі неабавязкова, каб жанчыны раджалі раз у чатыры гады?

Дабрын. Вядома, неабавязкова, Клаўдзія Пятроўна. Толькі тады неўміручасці я ім не гарантую.

Бабровіч. Калі вы не гарантуеце, дык кожная сама пастараецца застрахаваць сябе ад смерці.

Адамейка. Вядома. «Лепш сто разоў нарадзіць, чым раз памерці»,— скажа каторая несвядомая.

Кудрыцкая. Гэта вы не пробавалі, дык вам здаецца.

Адамейка. У мяне хатнюю работу жонка робіць.

Абадоўскі. Ну, дапусцім, таварышы. Дапусцім, што ім не трэба будзе раджаць. Што яны і так будуць неўміручыя. Дык што з гэтага выйдзе? Выйдзе тое, пра што я ўжо гаварыў мінулы раз: індывідуум возьме верх над відам і спыніцца абнаўленне роду людскога. Мы забяспечым сабе вечнае жыццё за кошт яго вечнага абнаўлення. За кошт наступных пакаленняў, якія маглі б з'явіцца на свет, але не з'явяцца, бо мы іх асудзілі на небыццё дзякуючы свайму эгаізму.

Дабрын. Дык выходзіць, што...

Абадоўскі. Выходзіць, Барыс Пятровіч, што вы ўмярцвілі смерць, а мы павінны ўмярцвіць жыццё, будучыню чалавецтва.

Дабрын. Дык што вы хочаце сказаць? Выхад, выхад які?

А б а д о ў с к і. Не трэба забіваць смерць — вось што я хачу сказаць. Усё жывое памірае, і ўсё аднаўляецца для новага жыцця. Гэта няўхільны закон прыроды, і чалавек не з'яўляецца выключэннем. Смерць — гэта неабходная ўмова вечнага абнаўлення. Не забівайце смерць. Няхай яна жыве.

А д а м е й к а. «Няхай жыве смерць!..» *(Агляну ўся — усе, уражаныя, маўчаць. Ніхто яго не падтрымлівае.)* — скажа каторы несвядомы...

А б а д о ў с к і. Так! Няхай жыве смерць!

Усе ўсхопліваюцца.

Г е н к а *(хапаецца за галаву)*. Мама мая!

К у д р ы ц к а я. Божа мой! Што вы такое гаворыце!

Б а б р о в і ч. Вось гэта вырашэнне праблемы!

Д а б р ы я н. Значыць, я... Значыць, уся мая праца... Усё маё жыццё...

Н а т а ш а *(увайшоўшы, яна нейкі час наглядае сцэну. Пасля, трымаючы за хвост, нясе нежывога пацука і кладзе на стол)*. Пацук здох.

Д а б р ы я н *(пасля паўзы)*. Як гэта здох?

Маўчанне. Усе анямелі.

Н а т а ш а. А так... Узяў ды здох.

Г е н к а. Ты яго атруціла!

Н а т а ш а. Ускрый, правер.

В а р а к с а. Таварышы! Што ж гэта такое?

Д а б р ы я н. Пачакайце! Як жа гэта ён — жыў, жыў, ды здох?

Н а т а ш а. А я іх мяняла. Адзін здохне — я яго выкіну ў віварый, а адтуль другога бяру.

Нехта стрымана зарагатаў, за ім — другі, і ўжо разлягаецца нястрыманы рогат. Барыс Пятровіч абхапіў галаву рукамі.

Г е н к а *(крычыць)*. Няпраўда! Яна хлусіць!

Абадоўскі, рагочучы, падымае пацука за хвост: «Вось, маўляў, сведка». Г е н к а ледзь не са слязамі выбягае з кабінета.

А д а м е й к а. Вось і ўся неўміручасць. Дзве дзюркі ў носе і скончылося, як той казаў. І зноў мы ўсе роўныя. І ніхто нас не дзеліць на вечных і абязвечаных.

Б а б р о в і ч. Фу! Гара з плеч. А я ўсе вылічальныя машыны ў пот увагнаў, падлічваючы.

К у д р ы ц к а я. А шчасце, здавалася, было так блізка!

А б а д о ў с к і. Усякае бывае ў навуцы, але такое...

Варакса. Чаму? А ўспомніце філасофскі камень, а перпетуум мобіле ды той жа эліксір жыцця.

Абадоўскі. Гэта была дзіцячая наіўнасць самой навукі. А цяпер жа яна дарослая.

Кудрыцкая. А шкада ўсё-такі, таварышы! Шкада раставацца з залатой марай. І яго шкада *(ківае на Дабрыяна)*.

Абадоўскі. Што ж мы можам зрабіць?

Бабровіч. Пойдзем марыць далей.

Усе выходзяць, аглядаючыся на Дабрыяна, які не падымае галавы.

Наташа *(увайшла з клеткай у руках. Ціха паклікала)*. Барыс Пятровіч!

Дабрыян *(не падымаючы галавы)*. Адыдзіце!

Наташа. Барыс Пятровіч! Гляньце сюды!

Дабрыян. Ідзіце, каб і вочы мае вас не бачылі!

Наташа. А пацук жывы.

Дабрыян *(неўразумела глянуў на яе)*. Як гэта жывы?

Наташа. А вось ён — наш любенькі пацучок. Здаровенькі, вясёленькі.

Дабрыян *(разглядае нежывога пацука, які ляжыць на стале)*. Дык вы...

Наташа. Гэта другі. Я іх падманула. Каб яны не мучылі вас рознымі праблемамі, якіх ніхто вырашыць не можа.

Дабрыян. Вы мяне забілі.

Наташа. Я вас выратавала. Вас і сапраўды маглі забіць.

Дабрыян. Што людзі скажуць? Невук. Шарлатан. Ёлупень, якога абдурыла нікчэмная дзяўчынка, якой напляваць на навуку і на мой аўтарытэт.

Наташа. А навукай мы будзем займацца і далей. Спакойна, без нервознасці. Я гатова прапанаваць сябе... Не бойцеся, не ў якасці вашай вечнай спадарожніцы, а ў якасці аб'екта доследаў. Побач з пацуком. Доследы на чалавеку больш пераканаўчыя. А людзі... *(Цалуе Дабрыяна ў цемя.)* Людзі няхай тым часам падумаюць, што рабіць з неўміручасцю.

Канец

# НА ВАСТРЫІ

*П'еса ў трох актах, трынаццаці карцінах*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Галубовіч Віктар Пятровіч — хірург.
Галіна Паўлаўна — яго жонка.
Грушэўскі Барыс Мікалаевіч — хірург.
Ракітны Мікалай Іванавіч — загадчык хірургічнага аддзялення гарадской бальніцы.
Якавец Алег Трахімавіч — памочнік «шэфа».
Марыя Рыгораўна — яго маці, калгасніца-пенсіянерка.
Зоя Антонаўна — палатная сястра.
Ганна Ціханаўна — санітарка, гадоў пад семдзесят.
Сыракваш Павел Андрэевіч — старшыня камісіі.
Хворыя.

## АКТ ПЕРШЫ

### Карціна першая

Сястрынскі пакой у гарадской бальніцы. Веснавы вечар. Зоя Антонаўна знаёміцца з назначэннямі ўрачоў. Накапвае кроплі ў мензуркі, раскладае таблеткі. Уваходзіць Ганна Ціханаўна.

Зоя Антонаўна. Ганна Ціханаўна, у чацвёртай палаце ляжыць Цімашкевіч.

Ганна Ціханаўна. Ведаю. Жоўцевы пузыр у яго.

Зоя Антонаўна. На чацвер назначана аперацыя. Трэба ўзяць заўтра аналіз крыві. Папярэдзіць, каб не еў, пакуль не прыйдзе сястра. А вось яму слоічак.

Ганна Ціханаўна. Добра. Дапільную, каб не праспаў.

Зоя Антонаўна *(глядзіць на гадзіннік).* Трохі затрымалася.

Ганна Ціханаўна. Сход, кажуць, бурны быў.

Зоя Антонаўна. Гаворка была сур'ёзная. Разбіралі персанальную справу Барыса Мікалаевіча.

Ганна Ціханаўна. Правініўся?

Зоя Антонаўна. Хворага абразіў. А ў таго інфаркт здарыўся. Ледзь не памёр чалавек.

Ганна Ціханаўна. Грушэўскі — гэта штучка. Рызыкант. Задавака. Ідзе і «дзень добры» не скажа. Як быццам калі мыеш падлогу, дык ты ўжо і не чалавек. А работа — абы адбыць. Хворыя на яго скардзяцца. Не распытаецца як мае быць, не пагаворыць па-людску. І што яму?

Зоя Антонаўна. Вымову далі.

Ганна Ціханаўна. Ну і не шкодзіць.

Зоя Антонаўна. Віктар Пятровіч выступаў. Усё па костачках разабраў.

Ганна Ціханаўна. Гэты разбярэ па-парційнаму. Ніякага фальшу не дапусціць. Справядлівы чалавек. І да людзей уважлівы. Вось толькі, кажуць, Галка яго пагульвае.

Зоя Антонаўна. Ці мала што кажуць. Гаварыць — язык не баліць.

Ганна Ціханаўна. Такі, мусіць, праўда. Нашы бачылі яе ў рэстаране. Нейкі памочнік нейкага шэфа, я чула.

Зоя Антонаўна. Чым жа ён яе прынадзіў?

Ганна Ціханаўна. Каньяком, ласункамі. Відаць, да смаку прыйшліся. Можа, і яшчэ чым... Смачнейшым, як у Віктара Пятровіча.

Зоя Антонаўна. Віктару Пятровічу няма часу вадзіць яе па рэстаранах. Работы шмат, аперацыі амаль кожны дзень, нерватропка. Бывае, што і выратаваць не ўдаецца чалавека. Таксама перажывае, хоць кажуць, што дактары прывыклі і ім гэта хоць бы што. Ну, і над дысертацыяй працуе.

Ганна Ціханаўна. Навукай займаецца?

Зоя Антонаўна. Ага. Начамі сядзіць.

Ганна Ціханаўна. Ды я бачыла. На дзяжурстве сядзіць і ўсё нешта піша. І што ж ён такое піша?

Зоя Антонаўна. Вучыцца, як лепш аперацыі рабіць.

Ганна Ціханаўна. А скажыце, Зоя Антонаўна, Віктар Пятровіч можа і па жаночай часці?

Зоя Антонаўна. Аперацыі рабіць? Думаю, што можа. Цела ж — яно ўсё роўна — ці мужчынскае, ці жаночае.

Ганна Ціханаўна. Ну не зусім. Ёсць у мяне сяброўка...

Уваходзіць Галубовіч.

Галубовіч. Добры вечар, Ганна Ціханаўна. *(Да Зоі Антонаўны.)* З вамі бачыліся.

Зоя Антонаўна. Цэлага паўдня бачыліся. Нешта мне ваш выгляд не падабаецца, Віктар Пятровіч. Мусіць, перахваляваліся.

Галубовіч. Стаміўся. Ну, і хваляваўся, вядома. Прыемнага тут мала. Мы ўсё ж такі сябры як быццам.

Зоя Антонаўна. Як быццам — гэта праўда. Ды ці не тэмпература ў вас?

Галубовіч. Можа, і тэмпература.

Зоя Антонаўна. Праверым. Вось вам тэрмометр.

Галубовіч ставіць тэрмометр. Зоя Антонаўна з лякарствамі на падносе выходзіць з пакоя.

Ганна Ціханаўна. Віктар Пятровіч, я нешта ў вас запытацца хацела.

Галубовіч. Пытайцеся.

Ганна Ціханаўна. Я чула, што ў дактароў ёсць нейкі дзівосны апарат. Нібы ліхтар. Калі запаліць ды навесці, дык яго прамень можа праняць чалавека аж да вантробаў, а ён і болю не пачуе.

Галубовіч. Ёсць такі ліхтар. Ён называецца лазер.

Ганна Ціханаўна. Лазер? Гэта таму, што ўсярэдзіну лазіць?

Галубовіч. Не, так яго па-замежнаму называюць.

Ганна Ціханаўна. А яно і нам падыходзіць. Кажуць, калі той прамень добра нацэліць ды папасці ў больку, дык ён і высмаліць. Можа, таго ж самага рака.

Галубовіч. Высмаліць, як вы кажаце, у вантробах не так проста.

Ганна Ціханаўна. Ёсць у мяне сяброўка, якая ўсё жыватом кволіцца. Нешта ў яе па жаночай часці не ў парадку. Можа, няхай бы яна вам паказалася, дык той бы прамень і высмаліў, што там непатрэбнае.

Галубовіч. Я лазерам не займаюся.

Ганна Ціханаўна. Я думала, раз вы такую вялікую навуку праходзіце, дык і гэта можаце.

Галубовіч. Ды ў нас у бальніцы і апарата гэтага няма. Няхай бы яна да гінеколага схадзіла, той бы паглядзеў і сказаў, ці патрэбна там якая аперацыя.

Ганна Ціханаўна. Глядзеў гінеколаг, ды нешта толку не дабіўся.

Галубовіч. А так хто ж ведае, што там смаліць.

Ганна Ціханаўна. А ў Мінску такі ліхтар ёсць?

Галубовіч. Ёсць, але і там лазерам такіх аперацый на вантробах яшчэ не робяць. У Маскве робяць.

Ганна Ціханаўна. Ну, тады ёй не дабіцца.

Уваходзіць Грушэўскі. Ганна Ціханаўна выходзіць.

Грушэўскі. Ну і ўдружыў ты мне сёння! Не чакаў.

Галубовіч. А чаго ж другога ты мог ад мяне чакаць?

Грушэўскі. Каб не ты, пагаварылі б, ды так бы і абышлося. Дробязь узняў на прынцыповую вышыню.

Галубовіч. Добрая дробязь.

Грушэўскі. Можна было б і іначай сказаць пра гэта.

Галубовіч. А як жа іначай? Мы ж з табой не ў забягалаўцы размаўлялі, дзе б'юць сябе ў грудзі і крычаць: «Ты мяне паважаеш?» Тут трэба было сказаць па-партыйнаму, проста і адкрыта, што з твайго боку гэта было грубае парушэнне ўрачэбнай этыкі.

Грушэўскі. Падумаеш, злачынства якое! Ён пачаў мне грубіць, а я яго на месца паставіў.

Галубовіч. Не паставіў, а палажыў. Так, што яго ў рэанімацыю прыйшлося класці. Гэта што ж, ён быў працаўнік, роўны табе па сіле? Ён хворы, а ты носіш высокае званне

ўрача, клятву Гіпакрата даваў. Змучаны болем хворы чалавек часамі і вылаяцца можа. Дык што ж, мы будзем тым жа адказваць?

Грушэўскі. Дзякуй за навучанне, але клятва Гіпакрата не абавязвае мяне зносіць абразы. А табе я вось што скажу... Сведак тут няма. Свіння ты, а не таварыш. Мне агідна будзе табе руку падаць.

Галубовіч. А я табе скажу, што дзеля поціску твае рукі не збіраюся траціць партыйнае сумленне.

Грушэўскі. О, я ведаю. Ты прынцыповы. Але прынцыповыя таксама часамі спатыкаюцца. Тады і ты не чакай ад мяне таварыскасці.

Галубовіч. Гэта пагроза ўжо.

Грушэўскі выходзіць. Галубовіч вымае тэрмометр, глядзіць і кладзе на стол. Уваходзіць Зоя Антонаўна.

Зоя Антонаўна. Пацапаліся?

Галубовіч. Было. Свіннёй мяне назваў. Абяцаў рукі не падаваць.

Зоя Антонаўна. Вось такая яго шчырасць. А прызнаваў жа на сходзе сваю памылку.

Галубовіч. Прыйдзецца нам яшчэ яго ў норму прыводзіць.

Зоя Антонаўна. Ну, а як тэмпература?

Галубовіч ківае на тэрмометр.

О-о-о! Едзьце дадому і кладзіцеся ў пасцель.

Галубовіч. Я ж павінен сёння дзяжурыць.

Зоя Антонаўна. Якое там дзяжурства! Трыццаць восем і дзве. Пакуль не разышліся, я папрашу Мікалая Іванавіча, каб каго другога назначыў. Мог бы і Грушэўскі падзяжурыць.

Галубовіч. Не трэба пасыпаць яму соль на раны.

Абое выходзяць.

## Карціна другая

Кватэра Якаўца. Цёмна, толькі свецяцца вокны суседніх дамоў. Шчоўкае замок. Уключаецца святло. Гэта Якавец.

Якавец. Вось мая халупа. Калі ласка, Галіна Паўлаўна!

Галіна Паўлаўна. Я ўваходжу ў яе, як злодзей.

Якавец. Які ж ты злодзей? Замкоў не зрывала, акон не выдзірала. З гаспадаром зайшла. Не злодзей, а дарагая госця.

Галіна Паўлаўна. Алежка, Алежка! Падвядзеш ты мяне пад манастыр.

Якавец. Галка! Ну што гэта такое! Не ўспела парог пераступіць — і ўжо хныкаеш! І парог-то, можна сказаць, сімвалічны. Сантыметраў пяць у вышыню.

Галіна Паўлаўна. Сімвалічны, гэта праўда. Ёсць другі парог, больш высокі, якога жанчыне не дазволена пераступаць.

Якавец. Мараль, мараль, мараль. Нам яе толькі што ў кіно паказвалі. Распранайся, калі ласка.

Галіна Паўлаўна. А мне ад гэтай маралі трывожна на душы.

Якавец. Давай адложым трывожныя думкі і ўсякія высокія матэрыі на другі раз. Ведаеш, што мяне ў гэтай карціне больш за ўсё кранула?

Галіна Паўлаўна. Што?

Якавец. Як яны смачна пілі і елі. Такі апетыт разыграўся — здаецца, ваўка з'еў бы. Думаю, што і ты не адмовішся.

Галіна Паўлаўна. На ваўка не кваплюся, а бутэрброд бы які-небудзь зжавала б.

Якавец. Які-небудзь бутэрброд мы знойдзем. Калі ласка, будзь як дома. Усе зручнасці, як пішуць у газетах, у мяне вунь там, налева. Там і люстэрка. Можна марафет навесці. А я тым часам сёе-тое...

Галіна Паўлаўна *(аглядае пакой)*. А халупка нішто сабе.

Якавец. На ўзроўні. Не адстаём ад веку.

Галіна Паўлаўна ідзе «наводзіць марафет», а Якавец уключае магнітафон. Гучыць папулярная эстрадная песенька. Падпяваючы, Якавец адчыняе буфет, дастае графін з каньяком, вымае з халадзільніка і расстаўляе на стол талеркі з закускамі. Уваходзіць Галіна Паўлаўна.

Галіна Паўлаўна *(падыходзіць да кніжнай шафы, адчыняе)*. Тут у цябе цэлы скарб.

Якавец. Духоўная ежа.

Галіна Паўлаўна. Пушкін, Ясенін, Вазнясенскі, Еўтушэнка...

Якавец. Эліта.

Галіна Паўлаўна. Чытаеш?

Якавец. Разгортваю часамі. Часу няма. Але трэба быць на ўзроўні.

Галіна Паўлаўна. І я мала чытаю. Таксама часу няма. Ды ў нас і кніг такіх няма. Усё больш па медыцыне... І Дастаеўскі!

Якавец. Дастаў. Гэта цяпер прэстыжна. Сто сорак рублёў заплаціў.

Галіна Паўлаўна. Я нядаўна глядзела фільм «Ідыёт». Не бачыў?

Якавец. Бачыў. І не аднаго. Толькі не ў кіно.

Галіна Паўлаўна. Не смешна, Алежка. А фільм вельмі цікавы... І беларуская... Гэта таксама паказуха?

Якавец. Тут сёе-тое прыходзіцца чытаць. Шэф застаўляе. Ён, выступаючы, любіць часамі казырнуць цытаткай: «А мы сабе сеем і сеем пшаніцу, і радасць, і кветкі, ачышчаным сеем насеннем шчаслівыя нашы палеткі». Вось бачыце, я гаспадарнік, а таксама, маўляў, люблю паэзію. Вось і прыходзіцца яму падбіраць. Праўда, я больш за ўсё бяру гатовыя, з падручнікаў.

Галіна Паўлаўна. Спрытны ты хлопец, як я пагляджу.

Якавец. Прыходзіцца быць спрытным. Які-небудзь цямцілямці на маім месцы не ўседзеў бы. Ну, можа, хопіць духоўнай ежы. Прашу за стол. Тут такія-сякія бутэрброды.

Садзяцца за стол. Якавец налівае чаркі.

За што вып'ем?

Галіна Паўлаўна. Слова за гаспадаром.

Якавец. За тое, каб табе не страшны быў мой парог і каб ты пераступала яго хоць кожны дзень.

Галіна Паўлаўна. Ого, які сквапны! Адным махам хочаш мяне на штодзень завербаваць. Хаця б у святы.

Якавец. Я хачу, каб штодзень для мяне было свята.

Выпіваюць.

Галіна Паўлаўна *(крывіцца, круціць галавой)*. Пякучы, халера.

Якавец. Армянскі. Пяць зорачак.

Галіна Паўлаўна. У вачах у мяне гэтыя зорачкі.

Якавец. Табе з чорнай ці з чырвонай?

Галіна Паўлаўна. Я грыбкоў вазьму. *(Закусвае.)* Якая смаката!

Якавец. А мне ўсё гэта проціпаказана.

Галіна Паўлаўна. А што?

Якавец. Чортава язва.

Галіна Паўлаўна. Дык чаму ж ты не сцеражэшся?

Якавец. Халасцяцкае жыццё... Ты ж ведаеш...

Галіна Паўлаўна. Ведаю, што ты — саламяны ўдавец.

Якавец. Калі паабедаеш, а калі вось гэтым абыходзішся.

Галіна Паўлаўна. Глядзі. Язва — штука паганая.

Якавец. Нічога. Абыдзецца, Бог дасць. Мяне Барыс Мікалаевіч апякуе. Часамі і да мяне заходзіць, дык мы з ім па маленькай возьмем. Харошы хлопец, кампанейскі. І хірург нядрэнны.

Галіна Паўлаўна. Не ведаю. Віктар Пятровіч яго не хваліць.

Якавец. Рэўнасць. Да твайго я не звяртаюся. Пачаў бы мне чытаць нудную лекцыю, як трэба шанаваць здароўе. Прадпісаў бы строгую дыету. А мне часамі з патрэбным чалавекам прыходзіцца і ў рэстаране пасядзець.

Галіна Паўлаўна. Ну, вядома. Мой цямці-лямці мог бы і не зразумець высокіх парываў тваё душы.

Якавец. Іранізуеш? За благавернага пакрыўдзілася? Ну, давай замнём. *(Налівае чаркі.)*

Галіна Паўлаўна. У мяне ўжо ад першай у галаве круціцца.

Якавец. А ад другой у другі бок закруціцца, і будзе ўсё ў парадку. Паехалі!

Выпіваюць.

Галіна Паўлаўна *(закусвае)*. І адкуль у цябе такія далікатэсы?

Якавец. Дастаём. З марскіх глыбінь, з падземных нетраў.

Галіна Паўлаўна. Па блату?

Якавец. Мо блату хто й не рад, а мне ён — родны брат.

Галіна Паўлаўна. Ты нават вершы пачаў складаць у яго гонар.

Якавец. Гэта прымаўка такая. А ў мяне ўсё ў ажуры і ніякага крыміналу. Жуй і не сумнявайся.

Галіна Паўлаўна. Еш ананасы, рабчыкаў жуй...

Якавец. Вось іменна. Я амаль кожны дзень бачу, як яны жуюць. Нашу ікру, нашы крабы. П'юць нашу гарэлку.

Галіна Паўлаўна. А ў цябе слінка цячэ.

Якавец. А мяне злосць бярэ.

Галіна Паўлаўна. Класавая нянавісць абуджаецца.

Якавец. А што ты думала?

Галіна Паўлаўна рагоча.

Чаго ж ты рагочаш?

Галіна Паўлаўна. П'яная, дык і рагачу. *(Зноў рагоча.)* Бушуе... класавая нянавісць.

Якавец *(з дакорам)*. Га-алка!

Галіна Паўлаўна. Кіпіць.

Якавец. Ага, кіпіць. Я ж яшчэ і выдыгаць павінен перад імі.

Галіна Паўлаўна. Дык ты з гэтай самай злосці іх і абкрадаеш?

Якавец. Не здзекуйся. Ніхто іх не абкрадае. Жаруць, колькі хочуць. Так перападае сёе-тое. Усушка, утруска.

Галіна Паўлаўна. Хітры ты, Алежка, ды не разумны.

Якавец. Пакуль што сваім розумам жыву.

Тэлефонны званок.

Галіна Паўлаўна. Во! Гэта ОБХСС. *(Рагоча.)*

Якавец *(перасцерагаючы)*. Ш-ш-ш! *(Бярэ трубку.)* Я слухаю вас... Добры вечар, Адам Ігнатавіч! *(Затульвае мікрафон трубкі рукой. Да Галіны Паўлаўны.)* Шэф. *(У трубку.)* Памаленьку, Адам Ігнатавіч... Прыхварэў крыху... Ага... Тэмпература... Дрыжыкі...

Галіна Паўлаўна. Ад страху. *(Рагоча.)*

Якавец *(у трубку)*. У мяне?.. Хіхікае?.. А-а-а. Гэта дваюрадная сястра да мяне прыехала... Ага, з вёскі... «Кракадзіл» чытае...

Галіна Паўлаўна яшчэ мацней рагоча.

Ага, аж заходзіцца... Нешта смешнае вычытала. Кракадзіліца?.. Ну што вы, Адам Ігнатавіч! Вы ж мяне ведаеце... У камандзіроўку?.. Я б з вялікай прыемнасцю паехаў. Надоўга?.. Я-то папраўлюся, але як жа вы без мяне?.. Правая рука?.. Гэта мне прыемна чуць, але, на жаль... Прыйдзецца вам левай абыходзіцца... Ну, шчаслівага падарожжа, Адам Ігнатавіч... Будзьце здаровы. *(Кладзе трубку.)*

Галіна Паўлаўна. Хворы, бедненькі. Востры бранхіт у небаракі.

Якавец. Трэба ж мне аддыхацца. Заматаўся.

Галіна Паўлаўна. Прагульшчык.

Якавец. Я бальнічны прадстаўлю.

Званок у дзверы. Галіна Паўлаўна захвалявалася. Якавец насцярожана прыслухоўваецца. Званок звоніць больш настойліва.

Каго чорт яшчэ нясе?

Галіна Паўлаўна. Не адчыняй.

Якавец. Можа, па службе... Тэлеграма якая... Калі што, дык не пушчу. *(Ідзе да дзвярэй, адчыняе.)* А, Барыс Мікалаевіч! Заходзь, калі ласка!

Грушэўскі *(уваходзіць. Убачыўшы Галіну Паўлаўну, ён таксама крыху збянтэжыўся)*. Нос мой счуў, што нешта смажаным пахне. Адно ж тут... *(Распранаецца.)*

Якавец. Смажаным нават і не пахне.

Грушэўскі. Ну, каньяком. Гэта мне якраз пад настрой.

Якавец. Добры ці дрэнны?

Грушэўскі. Паршывы. Добры вечар, Галіна Паўлаўна. *(Вітаецца за руку.)* Не чакала? Замнём, замнём. Я нічога не бачыў, нічога не ведаю.

Якавец *(налівае чаркі).* Ну, будзем папраўляць настрой. За тваё здароўе.

Грушэўскі. Гэта ты так дыеты пільнуешся, мае парады выконваеш?

Якавец. Альмагель я п'ю. Вікалін таксама глытаю.

Грушэўскі. Глядзі, каб не прыйшлося мне цябе на стол класці. Ну, Галіна Паўлаўна, давай вып'ем... *(Падкрэслена.)* Каб дома не журыліся.

Галіна Паўлаўна. Я перадыхну.

Грушэўскі і Якавец выпіваюць.

Грушэўскі. Выйшаў праветрыцца пасля лазні. Бачу — святло ў цябе ў вокнах. Вось і завярнуў.

Якавец. Быў у лазні?

Грушэўскі. Быў. На партсходзе далі мне лазню.

Якавец. Ну, тады аднае мала. *(Налівае яму чарку.)*

Грушэўскі. А ўсё твой артадокс, Галіна Паўлаўна. Майстар з мухі слана зрабіць. Справа — выедзенага яйца не варта. Пагарачыўся, лішняе слова сказаў. Дык я ж, можа, таксама жывы чалавек. Ну, пагаварылі б. Дык не. Асабістую справу завялі. Парушэнне ўрачэбнай этыкі. Вымову ўляпілі. І ўсё дзякуючы яму. Сябар, называецца. Перад партыйным начальствам выслужыцца хоча. Ты мне даруй, Галіна Паўлаўна, але абышоўся ён са мной па-свінску. Гэта я яму ў вочы сказаў.

Галіна Паўлаўна. А што я... Самі разберацеся.

Грушэўскі. Разбяромся. Я яму век не дарую. *(Бярэ ў рукі чарку.)* Яшчэ гэту, і хопіць. *(П'е. Закусвае.)* Не крыўдуй на мяне, Галіна Паўлаўна. Давай лепш патанцуем з табой, як бывала. Тады паверу, што не крыўдзішся. *(Якаўцу.)* Завядзі нам што-небудзь.

Якавец уключае танцавальную музыку. Грушэўскі і Галіна Паўлаўна кружацца ў танцы.

Якавец. Вось гэта іншая справа.

Грушэўскі *(скончыўшы танцаваць).* Дзякуй. *(Цалуе Галіне Паўлаўне руку.)* Ну, я пайшоў. Прабачце за нахабнае ўварванне.

Якавец. Пасядзі яшчэ.

Грушэўскі. Без мяне вам будзе весялей. *(Выходзіць.)*

Галіна Паўлаўна. Як гэта ўсё недарэчна!

Якавец. Не перажывай. Наконт балбатні ён чалавек надзейны. *(Налівае чаркі.)* Давай цяпер за тваё здароўе.

Галіна Паўлаўна. Ну і нап'юся ж я сягоння! *(П'е.)*

Якавец. Чысценька, чысценька, чысценька! Вось так.

Галіна Паўлаўна. Пайшло яно ўсё к чорту! Музыку! *(Напявае.)* «Скорее музыку! Скорее музыку! Всё кувырком!..»

Якавец уключае адпаведную песню. Абое падпяваюць. Галіна Паўлаўна прыпадае галавой да стала.

Галава кружыцца. Няхай бы яна, дурная, нечага зусім адкруцілася.

Якавец. Нашто ж так бязлітасна! Шкада такую галоўку. *(Цалуе ў цемя.)*

Галіна Паўлаўна. Моташна.

Якавец. Чаго ж гэта, золатка маё?

Галіна Паўлаўна. Я з табой тут дурыкамі займаюся, а мне плакаць хочацца.

Якавец. Вось табе і на! Па чым? Ці па кім?

Галіна Паўлаўна. Па тым, што не вернецца. Па змарнаванай маладосці, па летуценнях, па светлых марах, якія не збыліся.

Якавец. Знайшла па чым плакаць. У каго іх не было.

Галіна Паўлаўна. Ды не ўсе з імі лёгка расстаюцца, калі іх няма чым замяніць. У мяне яны былі асаблівыя. На іх, як на крылах, я лунала высока над шэрай будзёншчынай, у якой валтузяцца і кешкаюцца звычайныя шэрыя людзі. Марыла здзейсніць нешта такое незвычайнае, прыгожае, вялікае, каб мяне ў газетах праслаўлялі, каб людзі мной захапляліся, каб адно маё імя выклікала ў іх радасныя ўсмешкі, а я б ім толькі ручкай махала.

Якавец. Высокенька лунала.

Галіна Паўлаўна. Так высока, што і зямлі не бачыла. Бязлітасная рэчаіснасць абламала мне крылле, і я апынулася на гэтай грэшнай зямлі, шэранькая сярод шэранькіх. Лунала арліцай, а прызямлілася курыцай.

Якавец. Пасадка была не мяккая.

Галіна Паўлаўна. Як прыйшлося, дык нават у інстытут не здолела паступіць.

Якавец. Дык ты ж, можа, не сёння прызямлілася, што так перажываеш.

Галіна Паўлаўна. Сёння я гэта асабліва адчула. З ім пасварылася. Ён мне папулярна растлумачыў, хто я ёсць. А я глупства нагаварыла, абразіла. Гадка, пошла, банальна.

Якавец. Што зробіш. Не ўсім жа ў надхмар'і лунаць. Трэба каму-небудзь і па зямлі тупаць.

Галіна Паўлаўна. «Рожденный ползать летать не может». Гэта я ўжо зразумела. Дык поўзай і не рыпайся. А мне моташна. Вось я да цябе прыпаўзла. А чаго? Уцехі шукаць? Памінкі спраўляць па сваіх марах?

Я к а в е ц *(наліўшы чаркі)*. Ну, і вечны ім супакой. Каб яны больш цябе не трывожылі. *(Хоча чокнуцца.)*

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. На памінках не чокаюцца.

Выпіваюць.

## Карціна трэцяя

Кватэра Галубовіча. Ён у піжаме, занепакоены, ходзіць па пакоі. На шыі кампрэс. Бярэ люстэрка, садзіцца ля настольнай лямпы і разглядае горла. Глытае таблетку. Садзіцца за стол, на якім ляжаць кнігі і паперы. Піша, заглядваючы час ад часу ў раскладзеныя паперы. Б'е гадзіннік.

Г а л у б о в і ч *(глядзіць на свой наручны гадзіннік)*. Дванаццаць. І дзе яна можа прападаць? *(Падыходзіць да тэлефона, набірае нумар.)* Вера Васільеўна?.. Прабачце, калі ласка! Вы, напэўна, спалі ўжо… Даруйце мне, нахабніку… Галка прапала. Я думаў, можа, яна ў вас затрымалася… Я сёння павінен быў дзяжурыць, ды ангіна праклятая… Прыйшоў у дзевяць гадзін, а яе ўжо не было... Гуляе з кім-небудзь? Ну, гэта не самае страшнае… Вам жартачкі, а я баюся, каб чаго-небудзь не здарылася з ёй… А што вы думаеце, можа, прыйдзецца і ў міліцыю… Даруйце яшчэ раз… Спакойнай ночы… Няхай вам харошы сон прысніцца. *(Садзіцца за стол і паглыбляецца ў паперы.)*

Тэлефонны званок.

*(Бярэ трубку.)* Зоя Антонаўна?.. Ды жывы пакуль што… Амаль што нармальная — трыццаць восем і чатыры… Кампрэс зрабіў, таблеткі глытаю… А вы, добрая душа, баіцеся, хаця б я не памёр… Яшчэ не клаўся… Працую патроху… Работа не пытаецца, што ў цябе — ангіна ці халера. Ёй давай і давай… Галіна Паўлаўна?.. Даглядае, увіхаецца тут каля мяне… Укладвала, ды не закалыхала… Ну, вядома… Прытуліць да сэрца, дык яно і лягчэй стане… Дзякуй… Спакойнай ночы… Неспакойная?.. Хвалюецца чалавек… Аперацыя сур'ёзная… Так, павінен быў рабіць, ды не выйшла… Барыс Мікалаевіч прааперыруе… Для яго гэта добрая практыка. Ну, усяго… Шчаслівага вам дзяжурства. *(Прабуе працаваць, але хутка ўстае з-за стала, выключае святло і ідзе ў спальню.)*

## Працяг другой карціны

Я к а в е ц. Паспавядалася, паніхіду справілі па тваіх марах, цяпер можна і вясёлае што-небудзь. *(Уключае эстрадны баявік і сам падпявае.)*

Галіна Паўлаўна. Выключы к чорту гэты шлягер. Давай што-небудзь душэўнае.

Якавец. Калі ласка!

Якавец уключае «Рабіну». Гучыць песня. Якавец абнімае стан Галіны. Пагойдваючыся, яны няскладна падпяваюць. Якавец туліць да сябе Галіну.

Рабінка ты мая...

Галіна Паўлаўна. Горкая.

Якавец. Салодкая. *(Цалуе ў шчаку.)*

Галіна Паўлаўна. Цалуй, Алежка, цалуй.

Якавец *(напявае)*. Галінка, рабінка, рабінка мая. *(Цалуе.)*

Галіна Паўлаўна. Цалуй, Алежка, ты гэта зарабіў. За каньяк, за грыбцы, за чорную ікру. Я ж павінна чым-небудзь расплаціцца.

Якавец *(рэзка адхіляецца)*. Божа мой! Што ты такое гаворыш! Ды хіба ж я... Я ж ад чыстага сэрца. Як жа ты мяне абразіла!

Галіна Паўлаўна. Пакрыўдзіла хлопчыка. Даруй. Я ж п'яная. П'яны можа абы-што плявузгаць.

Якавец. Як нажом разанула.

Галіна Паўлаўна. Не крыўдзіся. Я ж пажартавала.

Якавец *(павесялеў)*. Добрыя жарты! Такімі жартамі можна з ног зваліць.

Галіна Паўлаўна. Мой хлопчык. Ён ледзь з ног не зваліўся. Нічога. Зараз пройдзе. Дай губкі. *(Цалуе.)* Алежка! Гора ты маё горкае! Няшчасце ты маё! Адкуль ты такі ўзяўся на маю галаву?

Якавец. Які гэта такі?

Галіна Паўлаўна. Бездухоўны.

Якавец. Бездухоўны?

Галіна Паўлаўна. Абсалютна.

Якавец. Ну і сказанула ты, Галка!

Галіна Паўлаўна. Чыстую праўду сказала.

Якавец. Уляпіла як у сук. Ды ў мяне гэтай духоўнай ежы поўная шафа. Ты ж сама бачыла.

Галіна Паўлаўна. Уся твая духоўнасць у шафе. А вось тут *(стукае ў Якаўцовы грудзі)*... Нічога ў цябе не знайшлося для мае душы.

Якавец. І тут усё ў парадку. Якой табе яшчэ духоўнасці не хапае? Што я — поп, ці што? Раблю тое, што мне палажана. Нават падзякі атрымліваю.

Галіна Паўлаўна. Ды ты не крыўдзіся. Не адзін ты такі. Я таксама бездухоўная. Але я хоць перажываю.

Якавец. Дык табе лягчэй ад гэтага?

Галіна Паўлаўна. Цяжэй. Чым я жыву? Дзе ў мяне тыя ідэалы, высокія духоўныя патрэбнасці? Манікюр. Штодзень усё той жа манікюр. Пальцы, пальцы, пальцы. Далікатныя, тоненькія, як карандашыкі, і шурпатыя, тоўстыя, як пацурбалкі. І іх трэба зрабіць прыгожымі. Мадам пойдзе ў госці і паложыць рукі на стол. А іх трэба было б пад сталом трымаць. Пальцы, пальчыкі, пальчышчы... Штодзень... Яны мне сняцца... Яны хапаюць мяне за горла. Няма куды мне дзецца ад іх. Дадому прыйдзеш — ён сядзіць, унурыўшыся ў сваю дысертацыю. Трэба пакарміць і дагледзець, каб нішто яму не перашкаджала. Ні ў кіно, ні ў тэатр... Усё яму часу няма.

Якавец. Дык яму, мусіць, і абняць цябе часу няма?

Галіна Паўлаўна. А і няма... Калі-нікалі... На скорую руку... Без адрыву ад дысертацыі.

Якавец *(рагоча)*. Камедыя!

Галіна Паўлаўна. Вось так, Алежка, людзі працуюць. Абніме, а сам пра дысертацыю думае... Як задумаецца, дык і забудзецца... што робіць.

Якавец *(рагоча)*. Бедная Галка!

Галіна Паўлаўна. Ён у мяне абсалютна духоўны...

Якавец. Няхай яна спрахне, такая духоўнасць. *(Рагоча.)* А мы, бездухоўныя, умеем гэта лепш рабіць.

Нахабна сціскае яе ў абдымках, цалуе, дае волю рукам. Галіна Паўлаўна вырываецца і рашуча ўстае, гатовая абараняцца. Якавец збянтэжаны.

Ну чаго ж ты так!

Галіна Паўлаўна. Хопіць дурыкаў. Пара дадому.

Якавец. Дадому?

Галіна Паўлаўна. Чаго ж ты дзівішся? Ёсць жа ў мяне свой дом. І муж ёсць. Хоць цямці-лямці, але законны.

Якавец. А-а-а! Парог. Баішся пераступіць. Як жа ты пойдзеш, п'яная?

Галіна Паўлаўна *(прыводзіць сябе ў парадак)*. Выцверажуся, пакуль ён прыйдзе з дзяжурства. *(Бярэ тэлефонную трубку.)*

Якавец. Каму ты хочаш званіць?

Галіна Паўлаўна. Яму прыемна будзе пачуць мой голас. Адчуць, што я на яго не гневаюся.

Якавец *(з іроніяй)*. Твой голас. Глядзі, каб ён не адчуў больш, чым трэба.

Галіна Паўлаўна *(набірае нумар)*. Зоя Антонаўна? Гэта Галіна Паўлаўна вас турбуе... Папрасіце, калі ласка, майго да тэлефона... Ну, Віктара Паўлавіча. Вы ўжо забыліся, чыя я жонка?.. А дзе ж ён?.. Пайшоў дадому?.. Хворы?..

Даўно пайшоў?.. Адкуль званю... Я тут у сяброўкі затрымалася... *(Кідае трубку на рычаг.)* Божа мой! Што ж я яму скажу?..

Якавец. Ты ж ужо сказала: у сяброўкі.

Галіна Паўлаўна. Так ён і паверыў. Ужо ўсіх сяброўак, напэўна, абзваніў.

Якавец. А ты сама пазвані сяброўкам. Якой ён не званіў, на тую і скажаш.

Галіна Паўлаўна. У дзве гадзіны ночы... Звар'яцець трэба...

Якавец. Нявыкрутка. Нічога больш прыдумаць не магу.

Галіна Паўлаўна. Ты ўжо прыдумаў. Бедненькі. Ён хворы. Пакутуе, хвалюецца, не ведае, дзе яго збродлівая жонка. І як жа я яму на вочы пакажуся?

Якавец. А ты не паказвайся.

Галіна Паўлаўна. Як гэта?

Якавец. А так. Заставайся ў мяне.

Галіна Паўлаўна. А ў цябе што? Штатная пасада ёсць для палюбоўніцы?

Якавец. Для жонкі.

Галіна Паўлаўна. Дзве хочаш мець?

Якавец. А ў мяне няма.

Галіна Паўлаўна. А дзе ж ты яе дзеў?

Якавец. У вёсцы, у бацькоў. Я ж зусім развёўся.

Галіна Паўлаўна. Дзякуй за гонар. *(Ідзе да дзвярэй.)*

Якавец *(нібы жартам)*. А я не пушчу. *(Зноў хапае яе ў абдымкі.)*

Галіна Паўлаўна. Пусці. *(Уперлася Якаўцу рукамі ў грудзі.)* Пусці, кажу!

Нічога не слухаючы, Якавец намагаецца сілком паваліць яе на канапу. Галіна Паўлаўна ўхапіла яго спераду за валасы і, як мае сілы, адгінае яму галаву назад.

**Карціна чацвёртая**

Кватэра Галубовіча. Ён устрывожаны, ходзіць па пакоі. Падыходзіць да тэлефона. Нерашуча бярэ трубку. Не набіраючы нумар, кладзе на рычаг. Павагаўшыся, зноў бярэ, набірае нумар.

Галубовіч. Міліцыя?.. Скажыце, калі ласка, за гэту ноч нічога такога ў горадзе не здарылася?.. Ну, можа, забілі каго ці пад машыну трапіў чалавек... Нічога такога?.. Ну,

прабачце... Хто пытаецца?.. Раз нічога не здарылася, дык з прозвішчам можна пачакаць...

Зноў ходзіць па пакоі. Прыслухоўваецца. Ля дзвярэй — скробат, пасля званок. Галубовіч адчыняе дзверы.

Уваходзіць Галіна Паўлаўна з ключом у руках. Кідае ключ на стол. Садзіцца на канапу і закрывае твар рукамі.

Ох, і напужала ты мяне. Дзе ты была?

Галіна Паўлаўна плача.

Што здарылася? *(Садзіцца ля яе.)* Ну, супакойся. Ты ж ужо дома. *(Хоча яе пацалаваць.)*

Галіна Паўлаўна. Не дакранайся.

Галубовіч *(устрывожаны)*. А што такое?

Галіна Паўлаўна. Я — гадкая.

Галубовіч *(з жахам адхіснуўся ад яе)*. Што ты такое гаворыш?

Галіна Паўлаўна маўчыць.

*(Галубовіч адыходзіць ад яе і садзіцца ля стала, абхапіўшы галаву рукамі.)* Божа мой! Дык гэта такі праўда. А я не верыў, думаў, людзі брэшуць. Плеткары, зайздроснікі, хочуць заплямiць *(са здзеклівай іроніяй)* маю шчырую, сумленную, ні ў чым нявінную Галку. А яна сапраўды курва. *(Задыхаецца ад абурэння.)* Паскуда! Ты ж у яго была? Маўчыш, сцерва.

Галіна Паўлаўна. Таго не было, што ты думаеш.

Галубовіч. Так я табе і паверыў.

Галіна Паўлаўна. Доказаў прадставіць я не магу.

Галубовіч. Якія ж яшчэ доказы. П'яная ў дыміну. Помніш ты, што было, а што не было.

Галіна Паўлаўна. Ты можаш мяне забіць.

Галубовіч. Мне агідна дакрануцца да цябе. Вось ты мяне сапраўды забіла. Які ўдар! Які страшэнны ўдар! У самае сэрца. У самы такі момант, калі я напружваю ўсе свае сілы. І на каго прамяняла. Хоць бы чалавек быў, а то нейкі падонак, прыхвасцень, тарбахват.

Галіна Паўлаўна. Ну, бі мяне, бі! Мне лягчэй будзе.

Галубовіч. Я рук аб цябе мараць не буду. Палёгкі захацела.

Галіна Паўлаўна. Дык выгані, калі сцерва.

Галубовіч. Не маю права: тут твая жылая плошча. У суд пойдзеш.

Галіна Паўлаўна. Нельга ж нам тут разам пасля гэтага.

Галубовіч. Я пайду адгэтуль. Заўтра.

Галіна Паўлаўна. Заставацца тут... Хоць бы і да заўтра... Мы будзем дыхаць адным паветрам.

Галубовіч. Нічога, я вытрымаю. Не водарам дышу, калі чалавечыя кішкі перабіраю.

Галіна Паўлаўна. Я пайду.

Галубовіч. Куды?

Галіна Паўлаўна. Абы-куды. *(Бярэ чамаданы і складвае рэчы.)*

Галубовіч. Нікуды ты не пойдзеш. *(Замыкае дзверы і абодва ключы кладзе сабе ў кішэнь.)* Паветра мы падзелім. Можаш класціся на ложак, а я лягу тут, на канапе. Дзверы ў спальню можна зачыніць.

Галіна Паўлаўна. Не разумею, чаму ты мяне не пускаеш.

Галубовіч маўчыць.

Думаеш, рукі на сябе налажу? Шкадуеш?

Галубовіч. Не цябе. Сябе шкадую.

Галіна Паўлаўна. Я — не Ганна Карэніна, на рэйкі не лягу. Гэта страшна.

Галубовіч маўчыць.

Адчыні, калі ласка.

Галубовіч адмыкае і рыўком шырока адчыняе дзверы. Галіна Паўлаўна з чамаданчыкам у руках.

Дзякуй. Табе я нічога дрэннага не жадаю. Больш мы наўрад ці сустрэнемся. Хіба што мяне ў бальніцу прывязуць. *(Выходзіць.)*

## АКТ ДРУГІ

### Карціна пятая

Кватэра Галубовіча. Прайшло больш за год пасля папярэдняй сцэны. Лета. Раніца. Ярка свеціць сонца. Выхадны дзень. Галубовіч у кашулі, без пінжака стаіць ля адчыненага акна, прыжмурыўся, глядзіць на сонца.

Ганна Ціханаўна *(уваходзіць з ручнікам у руках)*. Ну вось, прыбрала крыху. Мне на работу вечарам, дык думаю, пайду пагляджу, можа, дапамагчы што трэба.

Галубовіч. Дзякуй, Ганна Ціханаўна. А то ў мяне тут ужо непарадак завёўся.

Ганна Ціханаўна. Які ж у мужчыны можа быць парадак. Тут так і глядзі — тое памый, тое пачысці. З адной пасудай колькі важданіны, хоць яе ў вас не многа. Не мужчынская гэта работа. І так вы яшчэ добра ўпраўляецеся.

Галубовіч. Прыходзіцца ўпраўляцца як-небудзь.

Ганна Ціханаўна. Гаспадыня вам патрэбна, Віктар Пятровіч. Вы ж яшчэ вунь які маладзец. За вас любая пойдзе.

Галубовіч. Боязна, Ганна Ціханаўна. Раз апёкся, дык цяпер баюся, каб зноў не памыліцца.

Ганна Ціханаўна. Пара ўжо забыцца пра тое. Цяпер жа гэта не навіна: толькі пажэняцца, глядзіш — ужо на развод падаюць. Праўда, наконт вас шмат было ўсякай гаворкі. Але ж пагаварылі ды і перасталі. І яна як быццам прыжылася. Кажуць, і малое ўжо ёсць.

Галубовіч маўчыць.

Можа, вам непрыемна, што я пра яе гавару?

Галубовіч. Прыжылася, дык няхай жыве. Можа, знайшла сваё шчасце.

Ганна Ціханаўна. А вам і шукаць далёка не трэба. Ёсць у нас жанчына. Вы яе добра ведаеце.

Галубовіч. Хто такая?

Ганна Ціханаўна. Зоя Антонаўна. Тут вы не памыліцеся.

Галубовіч. Я добра ведаю яе па рабоце.

Ганна Ціханаўна. І чалавек яна харошы, душэўны.

Галубовіч. Відаць, і чалавек нядрэнны.

Ганна Ціханаўна. І жанчына зграбная. Ёй жа ўжо трыццаць шэсць, а як раздзенецца, дык нібы і дваццаці няма. Каб вы толькі паглядзелі.

Галубовіч. Ну, Ганна Ціханаўна! Вы так яе абмалявалі, што я аж пачырванеў.

Ганна Ціханаўна. Гэта вам чырванець! Вы столькі іх бачылі на аперацыйным стале.

Галубовіч. Дык то на стале.

Ганна Ціханаўна. Калі душа добрая ды яшчэ і цела прыгожае, дык гэта ж толькі радавацца трэба.

Галубовіч. З вас бы добрая сваццяя была.

Ганна Ціханаўна. Сватаю, бо маю рацыю.

Галубовіч. Якую?

Ганна Ціханаўна. Яна вас любіць.

Галубовіч. Ну, так ужо і любіць.

Ганна Ціханаўна. Як увойдзеце, дык яна зразу і заззяе. Вы не заўважаеце, а я ўсё бачу.

Галубовіч. Не было мне калі прыглядацца. Не тым была галава занята.

Ганна Ціханаўна. Ну, цяпер жа вы скончылі сваю гэту работу... Усё забываюся, як яна называецца.

Галубовіч. Дысертацыю? Скончыў, але не зусім. Яшчэ абараняцца трэба.

Ганна Ціханаўна. Ад каго?

Галубовіч. Ад вучоных.

Ганна Ціханаўна. А што яны? Нападаць збіраюцца?

Галубовіч. Будуць чытаць і шукаць, што ў мяне там няправільна, а я павінен апраўдвацца, даказваць.

Ганна Ціханаўна. Ну, вы дакажаце.

Галубовіч. Галоўны клопат збыў, дык цяпер магу і да жанчын прыглядацца. Вось пайду сёння на рэчку, на пляж. Там іх шмат.

Ганна Ціханаўна. Во, во — на пляж. Ён вам ахвоты паддасць. А пра тое, што я казала, не забывайцеся. Яна таксама адзінокая. Муж паехаў недзе аж у Сібір ды там і загінуў у нейкай аварыі. Яна з малым засталася. Цяпер Паўліку ўжо восем гадоў. Калі на пляж, то, можа, з сабой што будзеце браць? Дык я ў магазін збегаю.

Галубовіч. Ды не. Я вось паснедаю, дык мне да абеду і хопіць.

Ганна Ціханаўна. Снеданне гатова. На пліце. Яечня з вяндлінай, тваражок свежы, чай. Падаць?

Галубовіч. Я ўжо сам упраўлюся. Вялікае вам дзякуй.

Ганна Ціханаўна. Няма за што. То я пайду. Бывайце здаровенькі.

Галубовіч. Усяго добрага.

Ганна Ціханаўна выходзіць. Галубовіч уключае радыё. Гучыць вясёлая музыка. У дзвярах — званок. Галубовіч адчыняе дзверы. Убачыў Галіну Паўлаўну і сумеўся ад нечаканасці.

Галіна Паўлаўна. Можна, Віктар Паўлавіч?

Галубовіч *(адступае ад дзвярэй)*. Калі ласка.

Галіна Паўлаўна. Даруйце, што патурбавала.

Галубовіч маўчыць, чакае, што яна скажа.

Бяда ў мяне вялікая. З Алегам зусім дрэнна.

Галубовіч. Дык чаму ж вы да мяне? Яго ж Барыс Мікалаевіч лечыць.

Галіна Паўлаўна. Толькі што на «скорай» у бальніцу завезла. Аперацыю трэба рабіць.

Галубовіч. Там жа ёсць дзяжурны хірург.

Галіна Паўлаўна. Ён малады, неспрактыкаваны. Я прыйшла вас прасіць.

Галубовіч. Вы просіце немагчымага, Галіна Паўлаўна.

Галіна Паўлаўна. Я ведаю, вы яго не любіце.

Галубовіч. Як быццам і няма за што.

Галіна Паўлаўна. Падонкам яго лічыце.

Галубовіч. Для гэтага ёсць некаторыя падставы.

Галіна Паўлаўна. Але ж ён памірае. Памірае бацька майго дзіцяці. Не дай Бог чаго, дык як жа я тады з малым. Ды не такі ён ужо і падонак. *(Плача.)* Прашу вас — выратуйце яго.

Галубовіч. Памірае, дык трэба ратаваць. Толькі не мне гэта рабіць.

Галіна Паўлаўна. Я на каленях прашу вас. *(Становіцца на калені.)*

Галубовіч. Галя! Нашто ж так. Устань, супакойся. *(Памагае ёй устаць.)*

Галіна Паўлаўна, заплаканая, устае і садзіцца на крэсла.

Галіна Паўлаўна. Ну, я вінавата перад табой. Але ж у нас было не толькі дрэннае. Былі ж і радасці, і маладое шчасце. Я не веру, Віця, што ты забыўся пра ўсё гэта.

Галубовіч. Было і шчасце, але ты сама яго растаптала. Былі і боль, і крыўда, і злосць. Пра гэта я таксама не забыўся.

Галіна Паўлаўна. Ты тады не выслухаў мяне да канца.

Галубовіч. Давайце не будзем аб гэтым гаварыць, Галіна Паўлаўна. Што да аперацыі, дык мае асабістыя пачуцці тут ні пры чым. І ніякага значэння не мае, кім я лічу вашага Алега. Але ж я не магу адпіхнуць локцем Барыса Мікалаевіча, які ўвесь час яго апекаваў і, напэўна, захоча сам аперыраваць.

Галіна Паўлаўна. Лячыў і далячыў. Я яму не давяраю. Таму і прыйшла да вас.

Галубовіч. Мне вы давяраеце. А калі я не апраўдаю вашага давер'я? Што вы тады скажаце?

Галіна Паўлаўна. Гэтага не можа быць. Я ж ведаю, які вы спецыяліст.

Галубовіч. Калі б я і паслухаў вас, дык сваім адумам не магу гэтага зрабіць. Ёсць яшчэ загадчык аддзялення, Мікалай Іванавіч. Ён, думаю, даручыць аперыраваць Барысу Мікалаевічу. Той жа таксама хірург.

Галіна Паўлаўна. А я і Мікалая Іванавіча прасіла, каб вам даручыў гэту аперацыю.

Галубовіч. І што ж ён?

Галіна Паўлаўна. Сказаў: «Падумаю».

Галубовіч. Падумае і зробіць так, як я кажу. А вось што вы там уверавалі ў мяне, гэта мяне не вельмі радуе. Нават трывожыць. Я ж не цудатворац. Бывалі і ў мяне няўдачы. Але гэта былі звычайныя выпадкі. А тут жа я аперырую (дапусцім, што аперырую) свайго ворага. Калі што якое, пра мяне чорт ведае што могуць падумаць. І вы таксама.

Галіна Паўлаўна. Такога не здарыцца. Вы яго выратуеце.

Тэлефонны званок.

Галубовіч *(бярэ трубку).* Слухаю вас... Добрай раніцы, Мікалай Іванавіч... Ды вось за горад збіраюся, на рэчку... Дзянёк слаўны выдаўся для адпачынку... Не выйдзе, кажаце?.. Цяжкі выпадак... Гэта я ўжо ведаю... Я ўпэўнены быў, што гэта вы Барысу Мікалаевічу даручыце... Не знайшлі?.. Зараз еду, Мікалай Іванавіч... Я разумею. *(Кладзе трубку.)* Вось і адпачыў.

Галіна Паўлаўна *(якая з хваляваннем слухала размову).* Можа, Бог дасць, і не знойдуць.

Галубовіч *(апранае пінжак).* Вы таксама ў бальніцу?

Галіна Паўлаўна. Так. Мяне тут таксі чакае.

Галубовіч. Паехалі.

**Карціна шостая**

Кабінет Ракітнага.

Ракітны *(у тэлефонную трубку).* Зоя Антонаўна?.. Як там рэнтген? Здымак гатовы?.. Пакажыце... *(Звоніць па другім тэлефоне.)* Ну што, Барыса Мікалаевіча не знайшлі? *(Кладзе трубку.)*

Зоя Антонаўна *(уваходзіць).* Калі ласка, Мікалай Іванавіч. *(Дае Ракітнаму рэнтгенаўскі здымак.)*

Той доўга разглядае яго.

Ракітны. Не падабаецца мне гэта карцінка. Тут яшчэ трэба разабрацца. *(Адкладвае здымак убок.)*

Зоя Антонаўна. А вось яго ранейшы здымак.

Ракітны *(разглядае здымак).* Тут усё ясна. Язва як на далоні. *(Адкладвае здымак.)* А як ён сябе адчувае?

Зоя Антонаўна. Дрэнна. Ванітуе. Твар завастрыўся. Язык сухі, амаль карычневы. Пульс часты, але слабы. Курчыцца ад болю. Тэмпература, праўда, невысокая, але аслабеў вельмі. Ледзьве гаворыць.

Ракітны. Рыхтуйце да аперацыі. Без яе тут не абыдзецца.

Галубовіч *(уваходзіць).* Добры дзень. *(Вітаецца з Ракітным і Зояй Антонаўнай.)*

Ракітны. Добры, ды не для нас з вамі. *(Да Зоі Антонаўны.)* Перадайце там усім. Можаце ісці.

Зоя Антонаўна выходзіць.

*(Да Галубовіча.)* Кажаце, я вам выхадны дзень сапсаваў?

Галубовіч. Выходзіць, што так.

Ракітны. Дык і сабе таксама. Хвароба, на жаль, выхадных не прызнае. Прыйшлося падняць на ногі ўсіх, хто патрэбен для аперацыі.

Галубовіч. Вас маглі б і не турбаваць.

Ракітны. Зверху званілі. Ваш «прыяцель» тут у цяжкім стане.

Галубовіч. Мне ўжо Галіна Паўлаўна сказала.

Ракітны. Ды вось Барыса Мікалаевіча не могуць знайсці. А адкладваць нельга. Вось паглядзіце. *(Дае рэнтгенаўскі здымак.)* У вас зрок больш востры.

Галубовіч разглядае здымак.

Дзяжурны ўрач яго прымаў. Кажа, язва — само сабою, але ж гэта справа не новая. Хутчэй за ўсё востры апендыцыт. Праўда, здымка тады яшчэ не было.

Галубовіч *(разглядае здымак).* Язвы тут амаль што не відаць. Затое выразна відаць свабодны газ у брушной поласці пад дыяфрагмай. *(Разглядае.)* А таксама шмат гарызантальных узроўняў вадкасці і газаў у тонкім кішэчніку.

Ракітны. А вось паглядзіце ранейшы.

Галубовіч *(разглядае ранейшы здымак).* Тут выразна відаць і ніша язвы, і валік вакол яе.

Ракітны. Значыць?..

Галубовіч *(зноў разглядае новы здымак).* Та-ак. Значыць, мы маем справу з прабадной язвай. Я так лічу, Мікалай Іванавіч.

Ракітны. Тым больш адкладваць нельга. Вы, калі ласка, абследуйце яго ўважліва, а тады вырашым, што апераваць.

Галубовіч. Вось гэта для мяне задача! Я ж пасля таго не сустракаўся з ім вока на вока.

Ракітны. Я разумею, вам гэта непрыемна.

Галубовіч. Я-то вытрымаю, а вось ён... Шок можа здарыцца, як убачыць мяне.

Ракітны. Сітуацыя сапраўды...

Уваходзіць Грушэўскі.

Грушэўскі. Добры дзень, Мікалай Іванавіч.

Ракітны. Ну, нарэшце!

Вітаюцца. Грушэўскі моўчкі падае руку Галубовічу.

Дзе гэта вы прападалі?

Грушэўскі. Была адна справа. Выхадны, дык я і не спяшаўся дадому. А што такое?

Ракітны. Вашага пацыента прывезлі ў цяжкім стане. Патрэбна неадкладная аперацыя.

Грушэўскі. Гэта каго ж?

Ракітны. Ды гэтага вашага закадычнага друга, Якаўца.

Грушэўскі. Аперацыя? Але сёння я не ў форме.

Ракітны. А якая вам яшчэ форма патрэбна? Надзявайце халат і будзеце ў форме.

Грушэўскі. Прабачце, Мікалай Іванавіч. Тут такая акалічнасць... Учора ў аднаго майго друга быў дзень нараджэння. Нельга было адмовіцца.

Ракітны. І добра адзначылі?

Грушэўскі. Адзначылі як мае быць. Я і заначаваў у яго на дачы.

Ракітны. Зразумела.

Грушэўскі. Дык і сёння яшчэ шал з галавы не выйшаў.

Ракітны. Гэта называецца — хапіў з дзежкі, аж не бачыць сцежкі.

Грушэўскі. Сцежку-то я бачу, але наконт аперацыі... Рукі не служаць для ювелірнай работы.

Ракітны. Усё ясна. Каб вы і хацелі, дык я не дапусціў бы вас да аперацыі. Прыйдзецца ўсё-такі вам аперыраваць, Віктар Пятровіч. Я разумею ваша далікатнае становішча і вашы пачуцці да пацыента, але нічога іншага прапанаваць не магу.

Галубовіч. Мае пачуцці... Наконт іх вы можаце быць спакойным, Мікалай Іванавіч.

Ракітны. Прабачце. Я, можа, не зусім дарэчы сказаў пра гэта. Я ж не ў сэнсе якога-небудзь сумнення.

Галубовіч. Мяне непакоіць другое. Калі гэта прабадная язва, дык там ужо і перытаніт мог пачацца.

Грушэўскі *(пратэстуючы)*. Ну, адкуль? За такі кароткі час.

Галубовіч. Тады і аперацыя можа не дапамагчы.

Ракітны. Усякае бывае. Медыцына не ўсясільна. Калі б яна ўсіх вылечвала, дык ніхто б і не паміраў. Што немагчыма, за тое вы не адказваеце.

Галубовіч. Гэта калі разважаць наогул. А тут жа выпадак асаблівы. Адным словам, калі што якое, скажуць — наўмысна.

Ракітны. Вар'ят толькі можа так падумаць. Калі знойдзецца такі дурань, няхай гаворыць. Ёсць жа дзесяткі людзей, якім вы выратоўвалі жыццё. Ёсць калектыў, які вас ведае як сумленнага чалавека і выдатнага спецыяліста.

Галубовіч *(да Грушэўскага).* Гэта тваю кашу мне прыходзіцца расхлёбваць, Барыс Мікалаевіч.

Грушэўскі. Чаму маю? Я ўсё рабіў, чаго патрабуе медыцына. Паглядзі ў гісторыю хваробы.

Галубовіч. Ён глытаў твае таблеткі і запіваў каньяком. А ты яму памагаў.

Грушэўскі. Абывацельскія плёткі.

Галубовіч. Гэту аперацыю даўно трэба было зрабіць.

Грушэўскі. Прапаноўваў некалькі разоў, але ён адмаўляўся. Што ж мне, сілай яго цягнуць?

## Карціна сёмая

Палата. Ложак Якаўца. Ля ложка сядзяць Зоя Антонаўна і Галіна Паўлаўна. Якавец ляжыць, заплюшчыўшы вочы.

Зоя Антонаўна. Спіць.

Галіна Паўлаўна. Можа, пабудзіць?

Зоя Антонаўна. Няхай падрэмле крыху. Змучыўся.

Галіна Паўлаўна. Яму ж пераадзецца трэба.

Якавец *(слабым голасам).* Галка.

Галіна Паўлаўна. Я, Алежка.

Якавец. Што... дактары... кажуць?

Галіна Паўлаўна. Кажуць, усё добра будзе.

Якавец. Вылечаць?

Галіна Паўлаўна. Зробяць усё, каб было добра.

Якавец. Будуць... рэзаць?

Галіна Паўлаўна. Кажуць, аперацыя патрэбна.

Якавец. Не хачу.

Галіна Паўлаўна. Дык трэба ж. Кажуць, так не загоіцца.

Якавец. Не хачу.

Галіна Паўлаўна. Вось і Зоя Антонаўна кажа, што трэба.

Зоя Антонаўна. Ваша язва, Алег Трахімавіч, у такім стане, што без аперацыі не абысціся.

Якавец. Хто?

Галіна Паўлаўна. Што «хто»?

Якавец. Аперы... рыраваць... будзе...

Галіна Паўлаўна. Самы лепшы хірург.

Якавец *(настойліва)*. Хто?

Галіна Паўлаўна. Віктар Пятровіч.

Якавец *(рашуча)*. Не!.. Барыс Мікалаевіч.

Галіна Паўлаўна. Чаму «не»? Віктар жа Пятровіч спецыяліст па язвах. У яго ж дысертацыя.

Якавец. Галубовіч — не... Ён мяне... зарэжа...

Галіна Паўлаўна. Алежка, міленькі, ну што ты гаворыш!

Зоя Антонаўна. Барыса Мікалаевіча няма, а адкладваць аперацыю нельга.

Галіна Паўлаўна. Табе трэба пераадзецца. Вось тут бялізна чыстая. Я памагу.

Якавец *(моцна ўсхваляваны)*. Не!.. Я пайду... Дзе маё адзенне? Дайце... мне... адзенне... *(Спрабуе ўстаць.)* Ён... мяне... зарэжа...

Галіна Паўлаўна *(утрымлівае яго)*. Ну не, не. Ляж, калі ласка.

Зоя Антонаўна. Супакойце яго, а я пайду Мікалаю Іванавічу скажу. *(Выходзіць.)*

## Працяг шостай карціны

Кабінет Ракітнага.

Грушэўскі. Ты — ас, табе і скальпель у рукі.

Галубовіч. Я — ас, а ты — пас. Крыўдзіўся, што табе сур'ёзных аперацый не даюць, а як прыйшлося да справы, дык і ў кусты.

Грушэўскі. Я не ў форме. Ты ж чуў, што Мікалай Іванавіч сказаў.

Галубовіч. Рукі ў яго дрыжаць. Лыткі дрыжаць. Адказнасці баішся.

Ракітны. Ну, хопіць. А то хворы можа і не дачакацца, пакуль мы выяснім, што ў каго дрыжыць. Віктар Пятровіч, прыступайце да справы.

Галубовіч. Што ж усё-такі аперыраваць?

Ракітны. Вы ж паставілі дыягназ. Я з ім згодзен.

Уваходзіць Зоя Антонаўна.

Зоя Антонаўна *(моцна ўсхваляваная)*. Мікалай Іванавіч, хворы...

Ракітны *(устрывожаны)*. Што такое? Што з ім здарылася?

Зоя Антонаўна. Моцна хвалюецца.

Ракітны *(супакойваецца)*. Нічога дзіўнага. Нас тут не кладуць на стол, і то мы хвалюемся.

Зоя Антонаўна. Крычыць. Не хоча, каб яго Віктар Пятровіч аперыраваў. Кажа: «Ён мяне зарэжа. Няхай Барыс Мікалаевіч аперыруе».

Галубовіч. Ну вось...

Ракітны. Зарэжа... Узбрыдзе ж такое ў галаву. Ды што зробіш. Тут воля хворага — закон. Але ж і аперацыю нельга адкладваць. Вось гэта загвоздка! Выходзіць, мне самому трэба брацца за скальпель. *(Ходзіць па кабінеце ў роздуме.)* А для справы лепш было б, каб вы аперыравалі, Віктар Пятровіч. Вы — вялікі майстар у гэтай справе.

Галубовіч. Ну што вы, Мікалай Іванавіч! У вас жа такі багаты франтавы вопыт! Якіх толькі аперацый вам не прыходзілася рабіць!

Ракітны. Ды хапала. І кулявыя, і асколачныя, і пераломы, і ампутацыі — усё гэта было. Але, як ні дзіўна, ніводнай язвы на фронце мне не прыходзілася выразаць. Ці то салдаты не хварэлі язвамі, ці іх тэрапеўты ў тыл накіроўвалі, не турбуючы нас. Пасля вайны, праўда, прыходзілася. Але цяпер і рукі, і вочы не тыя. Ды што тут гаварыць: усе ведаюць, што ў гэтай справе вы — лепшы майстар. Зноў жа, Галіна Паўлаўна мяне прасіла. Не, не каб я аперыраваў, а каб даручыў вам гэта зрабіць, Віктар Пятровіч. Зверху званілі, таксама ваша імя называлі. *(Ходзіць у роздуме.)* Я думаю, трэба зрабіць так, каб лепш было для справы і для самога хворага. І вось маё саламонава рашэнне: аперыраваць будзеце вы, Віктар Пятровіч, але так, каб ён вас не бачыў.

Галубовіч. Маску надзець? Дык ён жа па голасе пазнае.

Ракітны. А рыхтаваць да аперацыі, аж да наркозу ўключна, будзеце вы, Барыс Мікалаевіч. Ідзіце, супакойце хворага. Скажыце, што вы будзеце аперыраваць.

Грушэўскі выходзіць.

А вам, Віктар Пятровіч, трэба супакоіцца перад аперацыяй. Пасядзіце тут, пакуль яны... Расхваляваліся.

Галубовіч. Не турбуйцеся, Мікалай Іванавіч, я не слабанервовы.

Ракітны. А ўсё ж не без нерваў. Зоя Антонаўна, дайце яму што-небудзь. А я пайду пагляджу.

Ракітны выходзіць. Галубовіч садзіцца на канапу. Зоя Антонаўна капае ў шклянку кроплі і дае яму.

Зоя Антонаўна. Выпіце!

Галубовіч. Дзякуй. *(Адхіляе рукой шклянку.)* Сядайце, пасядзіце са мной, дык я і супакоюся.

Зоя Антонаўна. Замест валяр'янкі? *(Асцярожна садзіцца на канапу.)*

Галубовіч. Што можа лепш заспакоіць, чым чулая жаночая душа?

Зоя Антонаўна. А чаму Барыс Мікалаевіч не аперыруе?

Галубовіч. Не ў форме. Пасля п'янкі.

Зоя Антонаўна. Для вас — гэта складаная сітуацыя.

Галубовіч. Не лёгкая.

Зоя Антонаўна. Хаця б усё добра было.

Галубовіч. Вы хвалюецеся больш за мяне.

Зоя Антонаўна. Я гатова буду маліцца, каб гэты ненавісны вам чалавек выжыў.

Галубовіч. Я яшчэ не ведаю, што ў яго. Можа, такое, што і сам Бог не дапаможа.

Зоя Антонаўна. Гэта страшна. Для вас небяспечна.

Галубовіч *(кладзе руку ёй на плячо)*. Не хвалюйцеся, Зоя Антонаўна. Усё пераяжывём, усё перабудзем.

Стук у дзверы. Зоя Антонаўна ўстае з канапы.

Заходзьце.

Парывіста ўваходзіць Галіна Паўлаўна.

Галіна Паўлаўна. Вы адмовіліся, Віктар Пятровіч?

Галубовіч. Не, я не адмовіўся.

Галіна Паўлаўна. А Барыс Мікалаевіч сказаў Алегу, што ён будзе аперыраваць.

Галубовіч. Барысу Мікалаевічу нездаровіцца. Гэта ён так, каб заспакоіць.

Галіна Паўлаўна. Вой, дзякуй Богу!

Галубовіч. Ну, я пайду рыхтавацца. *(Выходзіць.)*

Зоя Антонаўна. Шчаслівых вынікаў!

Галіна Паўлаўна. Цяпер я спакойная. Аперацыя доўга будзе? Чакаць мне ці не?

Зоя Антонаўна. Думаю, гадзіны тры.

Галіна Паўлаўна. Спяшалася, малога ў ложачку пакінула. Ён недзе там з плачу заходзіцца.

Зоя Антонаўна. Чаго ж вам чакаць? Туды ўсё роўна вас не пусцяць, а пасля — у рэанімацыю паложаць. Таксама... Потым даведаецеся.

Галіна Паўлаўна. Пабягу. *(Выходзіць.)*

**Карціна восьмая**

Ардынатарская. Уваходзіць Галубовіч і цяжка апускаецца на канапу. Услед за ім хутка ўваходзіць Зоя Антонаўна.

Зоя Антонаўна *(устрывожана)*. Ну што, Віктар Пятровіч? Ваш выгляд мяне трывожыць.

Галубовіч. Цяжкі выпадак.

Зоя Антонаўна. Не вытрымаў?

Галубовіч. Павезлі ў рэанімацыю. Прабадная язва. Перытаніт. Відаць, яшчэ з учарашняга дня. А арганізм аслаблены.

Зоя Антонаўна. Вось яшчэ няшчасце на вашу галаву.

Уваходзіць Грушэўскі.

Грушэўскі. Ну, я яго бачыў.

Галубовіч маўчыць.

Не віншую я цябе, Віктар Пятровіч.

Галубовіч. З задавальненнем?

Грушэўскі. Што з задавальненнем?

Галубовіч. Не віншуеш.

Грушэўскі. Чаму ты так думаеш?

Галубовіч. Бачу. Кожная мая непрыемнасць для цябе — радасць.

Грушэўскі. Якая ж мне радасць ад таго, што ён памрэ? Ён жа быў блізкім мне чалавекам.

Галубовіч. Роднасць душ?

Грушэўскі. Сяброўскія адносіны. Хіба гэтага мала?

Галубовіч. Вось ты па-сяброўску і давёў яго да такога стану.

Уваходзіць Ракітны. Зоя Антонаўна выходзіць.

Ракітны. Нам неабходна вырашыць, хто будзе хворага весці.

Галубовіч. Пытанне складанае, Мікалай Іванавіч. Як вы скажаце.

Ракітны. Лепш за ўсё вам бы гэта рабіць, але зноў жа — прыйдзе хворы да прытомнасці, убачыць вас і пачне

хваляваецца. Прыйдзецца вам, Барыс Мікалаевіч, узяць на сябе гэту справу. Дарэчы, і адносіны ў вас з хворым сяброўскія.

Грушэўскі. А куды весці, Мікалай Іванавіч? У магілу?

Ракітны. Ну што вы каркаеце! Чаму гэта так адразу і ў магілу? Хіба ў нас не было такіх выпадкаў? І людзі ачуньвалі і жывуць.

Грушэўскі. Гэта мне пахмелле з чужога вяселля.

Ракітны. Адкуль такі песімізм?

Грушэўскі. Я ўпэўнены, што мае намаганні будуць дарэмнымі.

Ракітны. Тады справа ясная. Калі вы ў гэтым упэўнены, дык ён такі і не выжыве. І даручаць вам гэту справу нельга.

Галубовіч. Мікалай Іванавіч, я хацеў бы сам адказваць за вынікі свае работы. Думаю, што хворы цяпер не будзе так востра рэагаваць. А я, з свайго боку, буду дзейнічаць асцярожна.

Ракітны. Ну што ж, давайце папробуем. Жадаю ўдачы.

Галубовіч. Толькі з адной умовай.

Ракітны. З якой?

Галубовіч. Каб мне ніхто не перашкаджаў. Я не вас маю на ўвазе, Мікалай Іванавіч.

Грушэўскі. Ён мае на ўвазе мяне.

Галубовіч. У першую чаргу. Баюся, што твае сяброўскія адносіны не пойдуць яму на карысць.

Ракітны. Віктар Пятровіч мае рацыю. З такім песімістычным настроем вам лепш не паказвацца хвораму на вочы. Ён ужо па вашым твары прачытае свой прысуд. Так што вы ўжо, калі ласка...

Грушэўскі. Але ў адной палаце з ім могуць жа быць і мае хворыя.

Ракітны. Мы іх перавядзём, каб вам не было патрэбы заходзіць у гэту палату.

Грушэўскі. Ды і пытацца, напэўна, будзе пра мяне.

Ракітны. Скажам, што вы ў камандзіроўцы або на курсах па павышэнні кваліфікацыі. Ды цяпер яму яшчэ не да размоў. Пайду пагляджу, як ён там. *(Выходзіць.)*

Шпарка ўваходзіць Галіна Паўлаўна і адразу накіроўваецца да Галубовіча.

Галіна Паўлаўна. Ну што, Віктар Пятровіч? Як ён?

Грушэўскі. Сумны дзень у нас сёння, Галіна Паўлаўна.

Галіна Паўлаўна *(з жахам)*. Памёр?

Грушэўскі. Яшчэ жывы.

Галубовіч *(з дакорам глянуўшы на Грушэўскага).* Не буду вас падманваць, Галіна Паўлаўна: становішча яго цяжкое. Але не будзем траціць надзеі.

Галіна Паўлаўна. Божа мой! А я ж так спадзявалася. Няўжо нічога нельга зрабіць?

Галубовіч. Я зрабіў усё, што мог. Калі яму стала дрэнна?

Галіна Паўлаўна. Учора, пасля абеду. Хацела вызваць «скорую», дык ён адмаўляўся, казаў: «Пройдзе, не першы раз». Усё баржом піў. А сёння пад раніцу ўжо сам папрасіў.

Галубовіч. Трэба было зразу. Перытаніт у яго. І сэрца слабое. Вы ж ведаеце, што такое перытаніт?

Галіна Паўлаўна. Ну, ведаю. Запаленне брушыны.

Галубовіч. Ад прабадной язвы.

Грушэўскі. А можа, ад апендыцыту?

Галубовіч. Што я — сляпы?

Галіна Паўлаўна. Ой, бяда! Калі, не дай Бог... А мне да яго можна?

Галубовіч. Сёння — не. Званіце, я скажу, калі можна будзе. *(Выходзіць.)*

Грушэўскі. «Усё зрабіў, што мог». А што зрабіў — гэта яшчэ пытанне.

Галіна Паўлаўна. А што?

Грушэўскі. Перытаніт гэты самы. Яго ж можна паўсякаму аперыраваць.

Галіна Паўлаўна. Ты думаеш, наўмысна зрабіў не так, як трэба?

Грушэўскі. Не сцвярджаю, але і не выключаю.

Галіна Паўлаўна. Няўжо ж ён — урач, сумленнейшы, як я лічыла, чалавек,— забыўшы святую клятву, мог адважыцца на такое?

Грушэўскі. Высокія абавязкі, святая клятва — усё гэта ўзнёслая мітынговая рыторыка. У жыцці бывае іначай. Тым больш у такой выключнай, вострай сітуацыі. Уяві сабе: ляжыць перад табой на стале твой закляты вораг, што зганьбіў цябе перад людзьмі, нанёс незагойную рану. Які гэта зручны выпадак, якая вялікая спакуса расквітацца з ім!

Галіна Паўлаўна. Як гэта!

Грушэўскі. Урач, вядома, не шарахне яго скальпелем па горле. Ён знойдзе больш тонкі спосаб адправіць чалавека на той свет. Перытаніт тут, можа, і быў, а можа, яшчэ і не было. А калі і быў у пачатковай форме, дык жа ёсць эфектыў-

ныя прэпараты і выпрабаваныя сродкі. Працэс можна і спыніць. Гэта калі захацець. А калі не захацець, дык можна толькі для выгляду прымяніць гэтыя сродкі, а працэс будзе развівацца і пасля аперацыі. Я нават думаю, што там і язвы прабадной не было, а быў востры апендыцыт. Ад яго і перытаніт.

Галіна Паўлаўна. Ты ж, можа, бачыў, як ён там што рабіў?

Грушэўскі. Я пры аперацыі не быў. Мяне не дапусцілі. Баяліся, каб не псаваў яму настрою.

Галіна Паўлаўна. Дык ты падазраеш...

Грушэўскі. Усяляк можна думаць. Хто ведае, што ў яго ў душы.

Галіна Паўлаўна. Божа мой!

Грушэўскі. Ты ж да яго ездзіла. Што ён табе сказаў?

Галіна Паўлаўна. Сказаў: калі чалавек памірае, дык яго трэба ратаваць.

Грушэўскі. А ўсё ж, якія адносіны былі ў яго да нябожчыка?

Галіна Паўлаўна жахнулася.

Прабач, да Алега.

Галіна Паўлаўна. Вядома, якія: падонкам яго лічыў.

Грушэўскі. То, можа, падумаў: калі адным падонкам будзе менш на свеце, дык ад гэтага шкоды не будзе.

Галіна Паўлаўна. Дык што ж ён за чалавек тады! Што за вырадак, што за пачвара, каб са злосці, з крыўды, якая б яна ні была, загубіць чалавека! Абяздоліць мяне і нявіннае малое дзіця! Можа, трэба існі заявіць каму-небудзь?

Грушэўскі. Што ж ты каму заявіш? Фактаў жа ніякіх няма. Гэта я мяркую так. А калі што ўсплыве — а яно можа ўсплыць,— тады тое і будзе.

Грушэўскі і Галіна Паўлаўна выходзяць. Уваходзяць Галубовіч і Зоя Антонаўна.

Галубовіч. Мне трэба з вамі пагаварыць, Зоя Антонаўна.

Зоя Антонаўна. Я дагадваюся — аб чым.

Галубовіч. Вы гатовы былі маліцца, каб ён выжыў. Дык вось, калі да вашых малітваў ды мы прыложым яшчэ наша старанне, вашы ўмелыя, ласкавыя рукі і чулае сэрца, то ён напэўна паправіцца.

Зоя Антонаўна. Не такое маё сэрца гаючае.

Галубовіч. Не гаварыце. Я ваша сэрца ведаю. Бачыў, наглядаў. Калі вы падыходзіце да хворага, дык у яго адразу твар святлее. Хіба гэта не лекі?

Зоя Антонаўна. Я нічога асаблівага не раблю, толькі выконваю свае сястрынскія абавязкі.

Галубовіч. Гледзячы як выконваць. Вы да кожнай дозы лякарства дабаўляеце міліграмы нечага свайго, гаючага.

Зоя Антонаўна. Чаго ж гэта я магу дабаўляць без прадпісання ўрача?

Галубовіч. Не ведаю, як яго назваць. У фармакалогіі яно не значыцца. Можа, экстракт душэўнасці. Медсястра — гэта толькі фармальнае абазначэнне наменклатуры. А раней жа вас называлі б міласэрная сястра. У гэтай назве адзначаецца і чалавечая якасць, абавязковая для таго, хто прысвяціў сябе такой справе. Вось вы і ёсць сапраўдная міласэрная сястра.

Зоя Антонаўна. Дзякуй, Віктар Пятровіч. Мне прыемна чуць гэта ад вас, хоць я і не заслужыла такой пахвалы. А памагаць я вам заўсёды гатова. Я разумею, як гэта важна для ўсіх нас. Асабліва для вас. Лепш бы вы не рабілі гэтай аперацыі.

Галубовіч. Ухіліцца я не мог.

Зоя Антонаўна. Уяўляю, што ў вас цяпер на душы.

Галубовіч. Душа... Не скажу, што яна поўніцца любоўю да гэтага няшчаснага. Але ў жыцці бываюць сітуацыі, калі пачуцці мусяць скарыцца перад абавязкам. Адзін паэт сказаў, што ён наступае на горла ўласнай песні. Вось і я наступаю на горла сваім пачуццям. Які б ні быў вораг, калі ён ляжыць у мяне на аперацыйным стале, дык ён ужо не вораг, а чалавек, якога я павінен ратаваць ад смерці. Ратаваць, нягледзячы на асобу і асабістыя пачуцці. З душой мы разбяромся пасля, а цяпер падумаем, як нам лепш гэта рабіць.

## Карціна дзевятая

Кабінет Ракітнага. Ракітны сядзіць за сталом, углыбіўшыся ў паперы. Уваходзіць засмучаны Галубовіч.

Ракітны *(угадаўшы яго настрой)*. Што, Віктар Пятровіч?

Галубовіч. Фініта.

Ракітны *(адсоўвае ўбок паперы)*. Усё-такі? Нягледзячы на ўсе нашы старанні.

Галубовіч. На жаль. Фібрын зрабіў сваю справу. З непраходнасцю кішэчніка так і не ўдалося справіцца.

Ракітны. Гэта сумна.

Галубовіч маўчыць.

Але вас дакараць няма ў чым. Я сам сачыў за ходам лячэння. Усё, што трэба было зрабіць, вы зрабілі.

Галубовіч. Тым не менш…

Ракітны. Я разумею ваш настрой. Але нічога не зробіш. Трэба набрацца мужнасці і перанесці. Чаго я вам і жадаю.

Галубовіч. Як наконт ускрыцця?

Ракітны. Для мяне тут усё ясна, але правіла патрабуе. Дапускаецца, праўда, і выключэнне. Як вы лічыце?

Галубовіч. Я не хацеў бы карыстацца выключэннем.

Ракітны. Я разумею: вам патрэбна рэабілітацыя.

Галубовіч. Для гэтага ёсць прычыны. Вы іх ведаеце.

Ракітны. Так. Барыс Мікалаевіч па-ранейшаму дзяўбе, што вы памыліліся ў дыягназе. Ну што ж, будзем ускрываць. Трэба было б сваякам паведаміць. Хто ў яго з блізкіх ёсць, апрача Галіны Паўлаўны?

Галубовіч. Маці. Калгасніца, пенсіянерка. Семдзесят шэсць гадоў.

Ракітны. Ёй паведамілі?

Галубовіч. Перадалі яшчэ ўчора, што ён слабы. Галіна Паўлаўна пазваніла ў праўленне калгаса. Маці ўжо тут, у Зоі Антонаўны.

Ракітны. Вы з ёй гаварылі?

Галубовіч. Цяжка з ёй гаварыць. Плача не сціхаючы. Хоча пахаваць яго на радзіме, у вёсцы. Пра ўскрыццё без вашага ведама я з ёй не гаварыў.

Ракітны. Як яе зваць?

Галубовіч. Марыя Рыгораўна.

Ракітны *(у тэлефонную трубку)*. Зоя Антонаўна! У вас Марыя Рыгораўна, маці Алега Трахімавіча?.. І Галіна Паўлаўна?.. Перадайце, што я іх чакаю… Няхай заходзяць.

Галубовіч. Нялёгкая будзе размова.

Ракітны. Што зробіш.

Уваходзіць Марыя Рыгораўна, якую вядзе пад руку Галіна Паўлаўна. Насустрач ім устае з-за стала Ракітны. Увайшоўшы, Марыя Рыгораўна прывіталася.

Добры дзень, Марыя Рыгораўна! *(Працягвае ёй руку.)*

Марыя Рыгораўна *(не заўважаючы працягнутай рукі, слабым голасам)*. Добры дзень, душагубы.

Ракітны *(крыху збянтэжаны).* Сядайце, калі ласка. Нам зручней будзе размаўляць.

Галіна Паўлаўна ўсаджвае Марыю Рыгораўну ў крэсла каля стала. Ракітны садзіцца за стол.

Марыя Рыгораўна *(седзячы ў крэсле).* Уходалі майго сыночка.

Усе збянтэжаны, няёмкае маўчанне.

Што? Маўчыце. Няма чаго сказаць. Пытаецца маці, адказвайце! Чаму ён загінуў заўчасна?

Ракітны. У яго была цяжкая хвароба, Марыя Рыгораўна. Запушчаная.

Марыя Рыгораўна. А вы дзе былі? Чаму запусцілі?

Ракітны. Мы прапаноўвалі яму рабіць аперацыю раней, але ён адмаўляўся.

Марыя Рыгораўна. Адмаўляўся. А вы б мне сказалі. Ён бы мяне паслухаў.

Паўза.

Каторы з вас яго рэзаў?

Ракітны. Аперыраваў вашага сына Віктар Пятровіч. Лепшы наш хірург. Вось ён перад вамі.

Марыя Рыгораўна *(глянуўшы на Галубовіча).* Гэты канарэз? Чула я пра яго.

Галіна Паўлаўна. Мама! Нельга ж так.

Марыя Рыгораўна. Што «мама»? Якая я табе мама? Ты была ў майго сына прыблуднай жонкай. Пагналася на выгоду, на яго дабро, а здароўя яго не шанавала.

Галіна Паўлаўна заплакала ад абразы.

Знайшлі каму даручыць аперацыю. Ворагу. Ён рад быў бы на ражне бачыць майго сыночка. За тое, што ён гэту кралю адбіў у яго. Вось і спагнаў злосць, увагнаў у магілу.

Ракітны. Гэта несправядліва, Марыя Рыгораўна. Віктар Пятровіч зрабіў усё, што ў яго сілах.

Марыя Рыгораўна. Сілы ў яго хапіла толькі на тое, каб даканаць майго сыночка. Я хачу забраць сына з сабой, пахаваць у роднай зямельцы, дзе ён на свет нарадзіўся. Скора і я лягу побач з ім. Тады яму і сырая зямелька будзе мякчэйшай. Памажыце мне. На нябожчыка ж, можа, ужо злосці не будзеце мець.

Ракітны. Якая злосць, Марыя Рыгораўна! Што вы такое гаворыце! Забірайце, калі ласка, мы дакументы аформім і паможам.

Марыя Рыгораўна. Гэта сёння можна зрабіць?

Ракітны. На жаль, сёння не ўправімся.

Марыя Рыгораўна. А з чым яшчэ трэба ўпраўляцца? Вы ж ужо ўправіліся.

Ракітны. Каб аформіць, нам яшчэ трэба праверыць, устанавіць прычыну, ад чаго ваш сын памёр.

Марыя Рыгораўна. А вы хіба не ведаеце?

Ракітны. Мы-то ведаем, але для дакумента патрэбны фактычныя даныя.

Марыя Рыгораўна. Дык што вы будзеце рабіць?

Ракітны. Я ведаю, што гэта для вас балюча, але прыйдзецца ўскрываць.

Марыя Рыгораўна. Што?! *(Да Галіны Паўлаўны.)* Што ён сказаў? Можа, я не зразумела?

Галіна Паўлаўна. Мікалай Іванавіч кажа, што трэба ўскрываць. Другі раз аперыраваць.

Марыя Рыгораўна. Зноў паласаваць? Рэзаць на кавалкі маё беднае дзіця?

Ракітны. Мы б рады былі гэтага не рабіць, але закон патрабуе.

Марыя Рыгораўна *(крычыць)*. Не дам!

Ракітны. Вы ж самі гаварылі, што Віктар Пятровіч зарэзаў вашага сына, дык трэба ж праверыць.

Марыя Рыгораўна. Не дам! Я сама лягу з ім на стол. Рэжце на кавалкі і мяне. *(Заходзіцца з плачу, а пасля пачынае галасіць.)*

А мой сыночак, мой галубочак!
А на каго ж ты мяне пакідаеш?
Я ж гаравала — цябе гадавала,
Трудамі ўзрасціла, у свет пусціла,
На карысць людзям, сабе на радасць.
Ты ж быў мне ўцехай, адзінай апорай,
А цяпер жа я — круглая сірата —
Адна-адзінюткая на ўсім белым свеце.
Хто ж маю старасць дагледзіць,
Хто ж мне вочкі закрые?
Твайго татку фашысты забілі,
А цябе ж уходалі свае дактары-ліхадзеі.

Ракітны. О Госпадзі!

Марыя Рыгораўна заходзіцца з плачу і, самлеўшы, ледзь не падае з крэсла. Яе падхоплівае Галіна Паўлаўна.

Галубовіч. Яна страціла прытомнасць.

Ракітны *(хутка ўстае з-за стала, адчыняе аптэчную шафку, перабірае пляшачкі, потым бярэ тэлефонную трубку).* Зоя Антонаўна! Нашатырны спірт! Хутчэй!

Прыбягае Зоя Антонаўна. Марыі Рыгораўне даюць нюхаць нашатырны спірт, націраюць скроні. Яна ачуваецца.

Напалохалі вы нас, Марыя Рыгораўна. Бог з вамі, не будзем мы ўскрываць вашага сына. Адказнасць я бяру на сябе. Зоя Антонаўна, скажыце старшай сястры, няхай рыхтуе дакументы. Заключэнне — паводле гісторыі хваробы. Я хутка зайду.

Зоя Антонаўна выходзіць.

Галіна Паўлаўна, а як з труной, з транспартам?

Галіна Паўлаўна. Труну я заказала. А Марыя Рыгораўна прыехала на грузавой машыне. З ёй хлопцы з калгаса — памогуць.

Ракітны. Марыі Рыгораўне трэба адпачыць.

Галіна Паўлаўна. Аб гэтым я паклапачуся.

Марыя Рыгораўна і Галіна Паўлаўна выходзяць.

Ракітны. Гэта галашэнне... Жах! У мяне ўсё ўнутры перавярнулася.

Галубовіч. Ёй нехта ў вушы ўвёў, што мы яго загубілі.

Ракітны. Відаць, што так. Барыс Мікалаевіч з ёй не сустракаўся?

Галубовіч. Тут — не. Хіба, можа, на кватэры ў Галіны Паўлаўны. Яна сказала: «Чула я пра яго». Гэта значыць пра мяне.

Ракітны. Перад законам ні вы, ні я не вінаваты. Ніхто вам фармальнага абвінавачання прад'явіць не можа. Але я не скажу, што ў мяне спакойна на душы. Гэта яе: «А дзе вы былі?» — уразіла мяне. Ці ўсё мы зрабілі, што трэба было? Я перш за ўсё маю на ўвазе Барыса Мікалаевіча.

Галубовіч. А як мне было гэта слухаць!

Ракітны. І спрачацца нельга. Рукі па швах і слухай: маці гаворыць.

Галубовіч. Крыўдна, Мікалай Іванавіч. Крыўдна і балюча.

Ракітны. Што зробіш. Ніякія довады на яе не дзейнічаюць. Сын для яе вышэй за ўсіх і за ўсё на свеце. Сам ён ні ў чым не вінават, ва ўсім вінаваты дактары.

Галубовіч. Значыць, ускрыцця не будзем рабіць?

Ракітны. Дзе там ужо. Бачыце ж, якія тут страсці-мардасці.

Галубовіч. Баюся, што на гэтым не скончыцца.

Уваходзіць Грушэўскі.

Грушэўскі *(паглядзеўшы на твары Ракітнага і Галубовіча)*. Жалоба ў нашым доме?

Яму не адказваюць.

Вось і паслізнуўся ты, Віктар Пятровіч.

Галубовіч. На тваім дзярме.

Грушэўскі. І грымнуўся.

Ракітны. Спазніліся вы на жалобны мітынг, які тут толькі што адбыўся. І вам бы перапала ад мацеры нябожчыка.

Грушэўскі. А мне за што?

Ракітны. За тое, што мы з вамі ўходалі яе любімага сыночка.

Грушэўскі. Я тут ні пры чым.

Ракітны. Хоць бы перад святым пачуццём мацеры вы не крывілі душой.

Грушэўскі. Я лічу, што прычынай смерці з'яўляецца востры апендыцыт. Не мая тут віна.

Ракітны. На вялікі жаль, мы не можам ускрыць і даказаць, што вы памыляецеся. Я не хачу, каб замест аднаго нябожчыка мы мелі двух.

## АКТ ТРЭЦІ

### Карціна дзесятая

Бальніца. Сястрынскі пакой. У пакоі Зоя Антонаўна і Ганна Ціханаўна. Звоніць тэлефон.

Зоя Антонаўна *(корпаецца ў аптэчнай шафцы)*. Вазьміце трубку, Ганна Ціханаўна.

Ганна Ціханаўна *(у трубку)*. Алё!.. А, Паўлік! Гэта цётка Ганна... Даю трубку ёй. *(Да Зоі Антонаўны.)* Паўлік.

Зоя Антонаўна *(бярэ трубку)*. Ну, што ты хочаш сказаць?.. Марожанае? Ласунчык... А ты перакусіў?.. У буфеце я табе пакінула... Булачку і кампот... Знайшоў?.. Ну і добра... Купі, калі табе так хочацца. Грошы ў шуфлядцы.

Адлічы, колькі табе трэба... На адну вафлю... Не таргуйся, рабі так, як я кажу... Можаш і да Валерыка схадзіць, толькі ненадоўга. У кіно мы разам сходзім... у выхадны, як мне будзе час... Ну, будзь хлопцам і не канькай. *(Кладзе трубку.)*

Ганна Ціханаўна. Пытаецца. Другі зрабіў бы сваім адумам, што захацеў.

Зоя Антонаўна. Пакуль што слухае мяне, а падрасце, дык невядома, як яно будзе.

Ганна Ціханаўна. Тады ўжо не на марожанае, а на каньяк патрэбуе грошай або на гэтыя джынсы, каб яны згарэлі. Вось жа выдумалі моду! Вунь мой унук быту бацьку не дае: купляй яму джынсы за сто восемдзесят рублёў. Вар'яцтва!

Зоя Антонаўна. Нам не да джынсаў. На адну зарплату не вельмі разгонішся.

Ганна Ціханаўна. Замуж вам трэба ісці.

Зоя Антонаўна. За каго?

Ганна Ціханаўна. За Віктара Пятровіча.

Зоя Антонаўна. Выдумаеце вы невядома што.

Ганна Ціханаўна. А што, хіба дрэнная пара?

Зоя Антонаўна. Ды адкуль вы ўзялі? Як гэта вам у галаву прыйшло?

Ганна Ціханаўна. Прыйшло і не выходзіць з галавы, бо я сёе-тое заўважаю. Я і яму гаварыла.

Зоя Антонаўна *(устрывожаная)*. Што вы гаварылі?

Ганна Ціханаўна. Ну, тое самае.

Зоя Антонаўна. А хто вас прасіў? Вы, напэўна, глупства там нагаварылі. Вось гэта сапраўды мядзведжая паслуга. Падумае, што я падаслала вас. Як я цяпер буду яму ў вочы глядзець?

Ганна Ціханаўна. Ды вы не злуйце. Я ж толькі далікатненька, жартам, намёкам. А ён няхай падумае. Што я гаварыла, ад гэтага нікому шкоды не будзе, а вось што пра Віктара Пятровіча ў горадзе нейкая дурная гаворка ідзе, гэта горш.

Зоя Антонаўна. А што за гаворка?

Ганна Ціханаўна. Пусцілі пагалоску, што ён чалавека зарэзаў. Ехала ў трамваі, дык чула, як плявузгалі.

Зоя Антонаўна. Якога чалавека? Што за глупства!

Ганна Ціханаўна. Вось я і кажу: «Брахня сабачая». «Саперніка,— кажуць.— Той жонку ў яго адбіў. Сама маці сказала».— «Мала што, кажу, маці з гора магла сказаць. Сапернік той, кажу, сам сябе ўходаў: піў, распуснічаў. А Віктар Пятровіч не такі чалавек, каб пайсці на злачынства».— «А ты, кажуць адкуль ведаеш, бабка, які ён чалавек?» — «А я, кажу, разам з ім працую ўжо гадоў шэсць».— «Ну вось,

кажуць, разам працуеш, дык разам у адну дудку і дзьмеш». Вось і гавары з імі.

Зоя Антонаўна. Бедны Віктар Пятровіч! Яшчэ гэтага яму не хапала.

Ганна Ціханаўна. Кажуць, нехта нейкую заяву на яго напісаў. І начальнік таго «зарэзанага» ў гэту справу ўмяшаўся. Патрабуе расследавання.

Зоя Антонаўна. Нейкі ж гад капае яму гэту яму.

Ганна Ціханаўна. Во закруцілася! І як яно толькі раскруціцца.

**Карціна адзінаццатая**

Бальніца. Кабінет Ракітнага. Ракітны сядзіць за сталом, разбірае паперы, накладвае рэзалюцыі. Стук у дзверы.

Ракітны. Заходзьце!

Уваходзіць Сыраквáш.

Сыраквáш. Добры дзень.

Ракітны. Добры дзень.

Сыраквáш. Дазвольце прадставіцца.

Ракітны ўстае.

Сыраквáш Павел Андрэевіч, доктар медыцынскіх навук, загадчык кафедры судовай медыцыны.

Ракітны. Я — да вашых паслуг. Сядайце, калі ласка.

Сыраквáш *(садзіцца).* У адну паважаную ўстанову паступіла заява. Я — старшыня камісіі па праверцы фактаў.

Ракітны. Заява на мяне?

Сыраквáш. Вас яна кранаецца ўскосна як загадчыка аддзялення, у якім, калі верыць заяве, адбылося злачынства.

Ракітны. Нават злачынства?

Сыраквáш. Так напісана ў заяве.

Ракітны. А чыя заява?

Сыраквáш. Яна без подпісу. Але абвінавачванне сур'ёзнае, і нам даручана ў гэтым разабрацца.

Ракітны. Мне нават страшнавата. У чым жа справа?

Сыраквáш. Сёмага жніўня ў вас у бальніцы памёр Якавец Алег Трахімавіч.

Ракітны. Было такое сумнае здарэнне. Яго зарэзаў наш хірург Галубовіч.

Сыраквáш *(неўразумела глядзіць на Ракітнага).* Як вас разумець?

Ракітны. Так бабы на рынку плявузгаюць. Несусветная лухта ўсё гэта.

Сыракваш. Я хацеў бы размаўляць з вамі, Мікалай Іванавіч, не на рыначным узроўні. Вашы іранічныя рэплікі ні ў якой меры не з'яўляюцца доказам на карысць апраўдання.

Ракітны. Я не збіраюся апраўдвацца. Мяне дзівіць, што вы, Павел Андрэевіч, прымаеце ўсур'ёз, зноў жа я скажу, гэту несусветную лухту.

Сыракваш. Так з нашай гаворкі нічога не атрымаецца. Давайце будзем размаўляць афіцыйна.

Ракітны. Можна і афіцыйна. Я па-ўсякаму скажу тое самае.

Сыракваш. Паступіла заява, у якой сказана, што аперацыя зроблена нядбайна, у выніку чаго Якавец памёр. Што гэта нядбайнасць дапушчана Галубовічам наўмысна, каб адпомсціць саперніку, які адбіў у яго жонку.

Ракітны. У чым жа нядбайнасць?

Сыракваш. Аўтар заявы сцвярджае, што язва, якую выразаў Галубовіч, была не прабадная, а звычайная, і перытаніт, ад якога памёр Якавец, пачаўся не ад язвы, а ад вострага апендыцыту, на які Галубовіч наўмысна не звярнуў увагі.

Ракітны. Мне нават няёмка сур'ёзна абвяргаць гэта абвінавачанне.

Сыракваш. Вам гэта здаецца недарэчным, а камісіі трэба адказаць. І адказаць канкрэтна, з прывядзеннем доказаў: было ці не было. Перш за ўсё я хацеў бы пачуць, што вы скажаце пра самога...

Ракітны. Злачынца?

Сыракваш. Яшчэ не злачынца, а толькі падазраванага.

Ракітны. З гэтым падазраваным я працую ўжо восем гадоў, і ніколі нічога дрэннага мы за ім не заўважалі і ні ў чым не падазравалі. Гэта сумленнейшы чалавек, выдатны хірург. Колькі ён людзей уратаваў ад калецтва і ад смерці! Колькі шчырай падзякі выказваюць яму ў пісьмах і ў друку яго былыя пацыенты! У калектыве ён карыстаецца вялікім аўтарытэтам. І калі што, мы за яго гарой станем, не дапусцім, каб ганьбілі яго добрае імя. Гэта была б ганьба і для ўсёй нашай установы.

Сыракваш. Зразумела. Гонар мундзіра абараняеце.

Ракітны *(збянтэжыўся ад нечаканай рэзкай рэплікі)*. Мундзіра?! Сумленнага чалавека. А хоць бы і мундзіра. Наш мундзір нічым не заплямлены. Да яго людзі з павагай адносяцца. Мы не можам заставацца раўнадушнымі, калі брудныя лапы нейкага паганца спрабуюць яго заплямiць.

Сыракваш. Карціна ўсім нам добра знаёмая. Калектыў на чале з кіраўніцтвам кідаецца на абарону свайго нібыта сумленнага работніка. Гатовы на парукі ўзяць, грамадскага абаронцу вылучаюць. А як прыйдзецца да разбору справы, дык высвятляецца, што гэты «сумленны» хапануў сотні тысяч з дзяржаўнай кішэні, і яму даюць энную колькасць гадоў на роздум аб тым, што ёсць сумленнае, а што злачыннае.

Ракітны *(абураны)*. Хапануў!.. Самі вы хапанулі цераз край, Павел Андрэевіч.

Сыракваш. Вы не крыўдуйце, Мікалай Іванавіч. Дзеля высвятлення ісціны я магу браць пад сумненне любыя выказванні. У тым ліку і вашу гарачую прамову.

Ракітны. Хапануў... Што ж тут можна хапануць? Бываюць памылкі і ў нашай рабоце: дыягназ недакладны, урач не досыць кампетэнтны. Але такога, каб урач наўмысна, па злосці адправіў на той свет хворага, я яшчэ не чуў. Гэта ўжо была б пляма не толькі на мундзіры ўстановы, але і аўтарытэту ўсяе савецкай медыцыны.

Сыракваш. Пра ўсю медыцыну вы не клапаціцеся. Яе аўтарытэт настолькі высокі, што ніякае адно злачынства яго не пахісне. А наогул, гэта ўсё — словы, словы, словы. А мне патрэбны факты, факты, факты.

Ракітны. Добрае слова пра чалавека, думка калектыву аб ім — гэта таксама факт.

Сыракваш. Ускосны. Ён можа быць прыняты пад увагу, калі будзе ўстаноўлена асноўнае: было злачынства ці не было. Незнарок памыліўся ці наўмысна зрабіў.

Адчыняюцца дзверы, і ўваходзяць хворыя: на мыліцах, з рукамі на перавязі, з павязкамі на галаве і на шыі.

Ракітны. У чым справа, таварышы?

Хворыя *(перабіваючы адзін другога)*.

— Мы дачуліся, што Віктара Пятровіча крыўдзяць.

— Ён нас ад калецтва, ад смерці ратуе, а на яго паклёп узводзяць.

— Ганьба паклёпнікам!

— Ад імя ўсіх хворых — хадзячых і ляжачых — мы пратэстуем.

Хворая. Мяне Віктар Пятровіч не вылечыў. Гэта не ў яго сілах: у мяне — рак. Але я і паміраць буду, дык успамяну яго добрым словам. За яго дабрату, за яго чуласць, за шчырае жаданне аблягчыць пакуты.

Сыракваш. Што гэта за спектакль?

Ракітны. Не мая пастаноўка. Я яго не арганізоўваў.

Хворыя.
— Мы самі прыйшлі.
— Нам Ганна Ціханаўна сказала.
— Не дадзім у крыўду Віктара Пятровіча.

Сыраквашш. У такой атмасферы я працаваць не магу.

Ракітны. Таварышы, не хвалюйцеся! Ніхто Віктара Пятровіча крыўдзіць не збіраецца. Прашу разысціся па палатах. Супакойце тых, хто там застаўся.

Хворыя разыходзяцца.

Сыраквашш. Ніякія дэманстрацыі, Мікалай Іванавіч, арганізаваныя ці стыхійныя, мяне з панталыку не саб'юць. Я павінен рабіць тое, дзеля чаго прыйшоў. Давайце бліжэй да справы.

Ракітны. Я не пярэчу.

Сыраквашш. У заяве напісана, як я ўжо сказаў, што прычынай перытаніту была не прабадная язва, а востры апендыцыт. Што, цяжка адрозніць адно ад другога?

Ракітны. Так. Зусім не лёгка.

Сыраквашш. Значыць, можна зблытаць прабадную язву з вострым апендыцытам?

Ракітны. Не толькі з вострым апендыцытам, а нават з пазаматачнай цяжарнасцю.

Сыраквашш. Я не хірург і ў тонкасцях вашай спецыяльнасці не вельмі разбіраюся, але думаю, што ў гэтым выпадку пазаматачную цяжарнасць мы можам выключыць.

Ракітны. Калі пра гэта не напісана ў заяве. А то б вы ўсё роўна дапытваліся: было ці не было.

Сыраквашш. Такім чынам, застаюцца прабадная язва і востры апендыцыт. У чым жа тут складанасць?

Ракітны. Складанасць у тым, Павел Андрэевіч, што пры гэтых хваробах сімптомы вельмі падобныя. Асноўны з іх — сімптом Шчоткіна-Блюмберга.

Сыраквашш. Ведаю: урач паступова націскае пальцам на сценку брушной поласці, а потым хутка адхоплівае руку. Хворы пры гэтым ускрыквае.

Ракітны. Так. Ён адчувае востры боль. Але гэта характэрна як для адной, так і для другой хваробы.

Сыраквашш. Выходзіць, у дыягназе можна памыліцца?

Ракітны. Можна. На маёй памяці быў такі выпадак. Прывезлі ў бальніцу хворага. Урачы вырашылі — востры апендыцыт. Ускрылі, паглядзелі, а апендыкс цэлы і здаровы. Тады ўзяліся за язву. Яна аказалася прабадной. Хлопец быў здаровы — вытрымаў.

Сыраквашш. Дык, можа, такое здарылася і ў Галубовіча? Толькі наадварот: ён пачаў з язвы.

Ракітны. Ну не. Ён жа спецыяліст па язвах. Дысертацыю напісаў на гэту тэму.

Сыраквaш. Дысертацыя — гэта адно, а ў жыцці такое здараецца, што ў ніякай дысертацыі не прадугледзіш. Дапусцім, што здарылася такое: Галубовіч ускрыў брушную поласць і ўбачыў — язва. Паганая. Яе ўжо даўно трэба было выразаць. Але яна не прабадная, і ясна, што перытаніт пачаўся не ад язвы, а ад вострага апендыцыту. Што тут трэба было рабіць?

Ракітны. У першую чаргу, вядома, трэба было б ліквідаваць прычыну перытаніту: выразаць адростак сляпой кішкі.

Сыраквaш. Ускрываць брушную поласць у другім месцы?

Ракітны. Так.

Сыраквaш. І хворы вытрымаў бы такія дзве аперацыі?

Ракітны. Гэты хворы, прымаючы пад увагу агульны стан яго здароўя, думаю, не вытрымаў бы.

Сыраквaш. А калі не выразаць апендыкса, а так пакінуць?

Ракітны. Вынік быў бы той жа.

Сыраквaш. Значыць, ці так, ці гэтак — усё роўна чалавеку паміраць.

Ракітны. Мы б тады параіліся, што рабіць.

Сыраквaш. А можа, Галубовіч, не раячыся, сам вырашыў: калі пацыенту ўсё роўна паміраць, дык няхай лепш не пад нажом памрэ, а пасля. З перытанітам усё-такі ён яшчэ некалькі дзён пажыве. А язву выразаў для выгляду: я, маўляў, зрабіў тое, што трэба было.

Ракітны. Гэтага не магло быць.

Сыраквaш. А чаму? У заяве ж напісана, што ён так і зрабіў. Наўмысна, каб расквітацца з сапернікам. А хто яму заглядваў у душу? Можа, там затаілася тая крыўда, як бомба запаволенага дзеяння. Ляжала да зручнага моманту. А тут ён і надышоў.

Ракітны *(з прыкрасцю)*. Ну, наконт бомбы вы ўжо самі разбірайцеся. Можа, там ядзерная, чаго добрага. У мяне не было прычыны і жадання лезці яму ў душу.

Сыраквaш. І разбяромся. Між іншым, я ўжо размаўляў з некаторымі вашымі работнікамі. І з Галубовічам таксама. Каб не рабіць тут лішняга шуму, я выклікаў іх да сябе.

Ракітны. І што ж яны вам сказалі?

Сыраквaш. Усе, што прымалі ўдзел у аперацыі, гарой стаяць за яго. Ды гэта зразумела: яны ж саўдзельнікі, звязаны кругавой парукай.

Ракітны. А што вам сказаў сам Віктар Пятровіч?

С ы р а к в а ш. Ён мяне нават здзівіў. Я думаў, будзе апраўдвацца, даказваць, а яго чамусьці гэта не вельмі ўсхвалявала.

Р а к і т н ы. Не хвалюецца, бо ўпэўнены, што зрабіў усё як належыць.

С ы р а к в а ш. А можа, таму, што схаваў канцы ў ваду. Ахвяра ўжо ў зямлі.

Р а к і т н ы. Дзіўная ў вас прывычка, Павел Андрэевіч: падазраваць у чалавеку самае нізкае. З магчымых варыянтаў выбіраць самы горшы.

С ы р а к в а ш. Гэта мой метад: з магчымых варыянтаў я выбіраю горшы, а пасля шукаю факты, якія пацвярджаюць ці абвяргаюць мае меркаванні.

Р а к і т н ы. Якія ж факты вас цікавяць цяпер?

С ы р а к в а ш. Уласна кажучы, адзін: быў востры апендыцыт ці не.

Р а к і т н ы. Таго, што вы тут нафантазіравалі, не было. Была прабадная язва. Віктар Пятровіч яе выразаў. На гэта ёсць акт.

С ы р а к в а ш. Акт — гэта яшчэ не факт.

Р а к і т н ы. Як гэта не факт? Гэта ж афіцыйны дакумент з належнымі подпісамі. Я сам — сведка ўсяму гэтаму.

С ы р а к в а ш. Вы — асоба зацікаўленая. Не ў вашых інтарэсах выкрываць злачынства, калі яно адбылося ў вашай установе.

Р а к і т н ы. Выходзіць, я пакрываю злачынства? Саўдзельнік, значыць?

С ы р а к в а ш. Я гэтага не сцвярджаю, а толькі дапускаю як горшы варыянт. Фармальна я маю права і так меркаваць.

Р а к і т н ы. Дзякую хоць за гэта «фармальна». А я больш дадаць нічога не магу.

С ы р а к в а ш. А я папрашу вас адказаць яшчэ на адно пытанне: чаму не зрабілі ўскрыцця, як памёр Якавец?

Р а к і т н ы. Для нас была яснай прычына яго смерці. Ён жа памёр ускорасці пасля аперацыі.

С ы р а к в а ш. Гэта грубае парушэнне абавязковага правіла.

Р а к і т н ы. Сваякі прасілі. Маці, калгасніца-пенсіянерка, галасіла, прасіла, каб не рэзалі сыночка. У такіх выпадках, у парадку выключэння, дазваляецца адступленне ад правіла.

С ы р а к в а ш. Выпадак тут сапраўды выключны, але не ў вашу карысць. Вам ясна, а мне вось не ясна. Асабліва калі ў мяне ў руках гэта заява.

Р а к і т н ы. Я гатоў несці адказнасць за парушэнне правіла. А вам калі не ясна, дык высняйце. Шукайце больш пераканаўчых фактаў.

С ы р а к в а ш. Будзем шукаць.

Р а к і т н ы. Толькі дзе вы іх знойдзеце?

С ы р а к в а ш. З-пад зямлі дастанем.

Р а к і т н ы. Эксгумацыя?

С ы р а к в а ш. Так. Калі пракуратура дасць на гэта санкцыю. Адкапаем, ускрыем, паглядзім. Калі апендыкс цэлы, абвінавачанне знімаецца. А калі прарваўся ў брушную поласць…

Р а к і т н ы. Тады што?

С ы р а к в а ш. Тады ўжо суд будзе разбірацца: памылка ці наўмыснае злачынства.

Р а к і т н ы. А калі прызнае, што наўмыснае?

С ы р а к в а ш. Тады гэта пахне, Мікалай Іванавіч… Вы самі ведаеце — чым.

Р а к і т н ы. Вышэйшай мерай?

С ы р а к в а ш. Загадзя абдуманае забойства. Чалавека, якога забойца-ўрач абавязаны быў ратаваць ад смерці. Але чаго вы хвалюецеся? Баіцеся, што…

Р а к і т н ы. А раптам экспертыза памыліцца.

С ы р а к в а ш. На тое яна і экспертыза, каб не памыляцца. А выпадак не такі складаны — разбярэцца. Я яшчэ не апытваў жонку нябожчыка. Прасіў па тэлефоне, каб сюды прыйшла. *(Глядзіць на гадзіннік.)* Яна ўжо тут павінна быць. Дазвольце мне пагаварыць з ёй у вашым кабінеце.

Р а к і т н ы. Калі ласка. Я зараз прышлю, калі яна тут. *(Выходзіць.)*

Асцярожны стук у дзверы.

С ы р а к в а ш. Заходзьце.

Г а л і н а П а ў л а ў н а *(уваходзіць)*. Добры дзень.

С ы р а к в а ш. Добры дзень, Галіна Паўлаўна. Сядайце. Сюды, калі ласка, насупраць мяне.

Галіна Паўлаўна садзіцца.

Я вас выклікаў у сувязі са смерцю вашага мужа — Якаўца Алега Трахімавіча. Паступіла заява, у якой гаворыцца, што ён памёр не сваёй смерцю.

Г а л і н а П а ў л а ў н а. А якой жа?

С ы р а к в а ш. Галубовіч яго наўмысна так апераваў, каб ён не выжыў. Там сказана, што вы гэта абвінавачанне падтрымліваеце.

Г а л і н а П а ў л а ў н а. Я такой заявы не падпісвала.

С ы р а к в а ш. Вашага подпісу там няма, гэта праўда, але аўтар заявы на вас спасылаецца. Піша, што вы пра гэта ведаеце.

Галіна Паўлаўна. А хто яе падпісаў?

Сыракваш. Заява ананімная. Скажыце, вы згодны з ёй?

Галіна Паўлаўна. Я ведаю, хто яе напісаў.

Сыракваш. Хто, па-вашаму?

Галіна Паўлаўна. Грушэўскі Барыс Мікалаевіч.

Сыракваш. Чаму вы так думаеце?

Галіна Паўлаўна. Ён гаварыў мне пра гэта зразу пасля аперацыі. Казаў, што з рэўнасці, са злосці Віктар Пятровіч мог зрабіць такую шкодную аперацыю. Я тады з вялікага гора была сама не ў сабе. З гарачкі паверыла.

Сыракваш. А цяпер?

Галіна Паўлаўна. Пасля шмат думала пра гэта. Колькі я з ім пражыла, не помню ніводнага выпадку, каб ён зрабіў які-небудзь несумленны ўчынак. Хоць самы нязначны.

Сыракваш. Алег Трахімавіч усё-такі памёр у выніку аперацыі.

Галіна Паўлаўна. Ён мог і так памерці. Аперацыя была цяжкая.

Сыракваш. А Віктар Пятровіч, вы лічыце, тут не вінаваты?

Галіна Паўлаўна. Я ў гэтым упэўнена. Калі хто і вінаваты, дык сам Грушэўскі, што дапусціў да гэтага.

Сыракваш. А калі Грушэўскі, дык нашто яму трэба было пісаць гэту ананімку?

Галіна Паўлаўна. Каб зваліць віну з сябе на Віктара Пятровіча. Ён быў злосны за тое, што Віктар Пятровіч крытыкаваў яго на партыйным сходзе і Грушэўскаму была аб'яўлена вымова. Вось ён і чакаў зручнага моманту, каб адпомсціць.

Сыракваш. А што, Грушэўскі гаварыў каму-небудзь пра гэта? Пагражаў?

Галіна Паўлаўна. Гаварыў. Я сама чула.

Сыракваш. Цікава. Раскажыце, калі ласка.

Галіна Паўлаўна. Гэта было ў тую кашмарную, памятную мне ноч.

Сыракваш. Прабачце, я міжвольна выклікаў вас на размову аб інтымных справах.

Галіна Паўлаўна. Ды ўжо чаго там. Пра гэта ўсе ведаюць. Было гэта на кватэры Алега Трахімавіча. Зайшоў туды і Грушэўскі. Ён ледзь не кляўся, што век не даруе Віктару Пятровічу.

Сыракваш. Дзякую вам, Галіна Паўлаўна, за важнае паказанне, за шчырую размову.

Галіна Паўлаўна. Што да Віктара Пятровіча — я нават прысягнуць магу. Я была яму нявернай жонкай, але засталася вернай яго чалавечаму сумленню. *(Выходзіць.)*

Сыракваш запісвае нешта сабе ў блакнот. Уваходзіць Ракітны.

Ракітны. Пагаварылі?

Сыракваш. Яна лічыць, што заяву напісаў Грушэўскі, помсцячы Галубовічу за партыйную вымову. І доказы прывяла.

Ракітны. Ясна.

Сыракваш. А ці быў апендыцыт, мы ўсё роўна праверым. Прабачце, што патурбаваў. *(Развітваецца і выходзіць.)*

Ракітны садзіцца за стол. Уваходзіць пахмурны Галубовіч.

Ракітны. Што невясёлы, Віктар Пятровіч?

Галубовіч. А чаго мне весяліцца?

Ракітны. Ходзіць чалавек як непрыкаяны. Няма каму душу раскрыць, шчырае слова сказаць.

Галубовіч. Што зробіш.

Ракітны. Жаніцца вам трэба — вось што.

Галубовіч. Жаніся, каб дурні не завяліся,— кажуць людзі.

Ракітны. Кажуць, а самі жэняцца. Кіруюцца больш мудрым правілам, каб людзі не звяліся.

Галубовіч. Самы раз мне цяпер жаніцца.

Ракітны. А што? Заява непакоіць? Глупства ўсё гэта. Перамелецца — мука будзе.

Галубовіч. Перамелецца, тады тое і будзе. А пакуль што не мука́, а му́ка.

Ракітны. Не звяртайце ўвагі. Я чуў, што ў вас нешта наладжваецца з Зояй Антонаўнай.

Галубовіч. Гэта, відаць, Ганна Ціханаўна распускае такія чуткі.

Ракітны. А жанчына сімпатычная.

Галубовіч. Ці не сватаць і вы мяне збіраецеся?

Ракітны. А чаму б і не? Што ж, вам так бабылём і заставацца?

Галубовіч. Што гаварыў гэты, што прыходзіў?

Ракітны. Настырны фармаліст. Зануда. Гавары яму добрае пра чалавека, дык ён і вухам не вядзе. Для яго гэта толькі словы. Нават падпісанаму афіцыйнаму дакументу не верыць. Падавай яму факты.

Галубовіч. І што ж ён думае рабіць?

Ракітны. Адкопваць і ўскрываць.

Галубовіч. Няхай ускрываюць. Гэта яшчэ лепш. Зразу стане ясна.

Ракітны. А мне гэты Сыракваш так надурыў галаву, што і мяне трывожыць сумненне.

Галубовіч. Якія ж сумненні, Мікалай Іванавіч? Вы ж самі бачылі. Язву, як выразалі, уважліва абследавалі. Яна сапраўды была прабадная. І перытаніт... Выразная карціна: кішкі прыклеіліся да сценкі брушной поласці, склеіліся паміж сабой. Утварылася непраходнасць кішэчніка.

Ракітны. А можа, востры апендыцыт усё-такі быў?

Галубовіч. Як? І тое, і другое? Адначасова? Гэтага быць не можа.

Ракітны. Ніколі?

Галубовіч. Тэарэтычна можна дапусціць, але практычна... Нават на мільён аднаго такога выпадку нельга сабе ўявіць.

Ракітны. А калі не на мільён, а на два, на тры? Нарэшце, на дзесяць мільёнаў, чорт іх няхай возьме? Бываюць жа з людзьмі неверагодныя фатальныя здарэнні.

Галубовіч. Ну, тады я — пас. Значыць, такая ўжо мая планіда. Вось тэлеграму атрымаў. У Мінск выклікаюць. На чацвер назначана абарона маёй дысертацыі. Так што прашу дазволу.

Ракітны. Калі ласка. Жадаю поспеху. Як той казаў — ні пуху ні пяра.

Галубовіч. Трэба абараняць, пакуль яшчэ ў ВАК не пайшла заява, а то тады ад маёй дысертацыі паляцяць і пух і пер'е.

Ракітны. Будзем спадзявацца на лепшае. Бог не выдасць, свіння не з'есць.

### Карціна дванаццатая

Калідор бальніцы. Насустрач адзін аднаму ідуць Ракітны і Галубовіч.

Ракітны. Прыехаў?

Галубовіч. Прыехаў, Мікалай Іванавіч.

Ракітны. Жывы і здаровы?

Галубовіч. Пакуль што жывы.

Ракітны. Замучылі апаненты. Рад вас павіншаваць. *(Працягвае руку.)*

Галубовіч. Рана, Мікалай Іванавіч. Прыйдзецца пачакаць.

Ракітны. А што здарылася?

Галубовіч. Свіння хоць і не з'ела мяне, але здорава нагадзіла.

Ракітны. Якім чынам?

Галубовіч. Ананімка мяне апярэдзіла. З ВАКа прыйшло распараджэнне адлажыць абарону да высвятлення справы.

Ракітны *(з абурэннем)*. Гэта чорт ведае што!

Галубовіч. Так што свіння сваю справу зрабіла. Цяпер невядома, як Бог: выдасць ці не выдасць. Што тут чуваць?

Ракітны. На дваццаць другое назначана эксгумацыя.

Галубовіч. Ну і добра. Нечым усё скончыцца.

Ракітны. Будзем спадзявацца.

Галубовіч. Толькі як.

Ракітны. Думаю, што добра. Як жа яшчэ іначай? Праўда, версія, што вы дапусцілі памылку ці нават злачынства, некаторым паказалася верагоднай. Асабліва шэф напірае на гэта. Але факты — рэч упартая. І Сыракваш хоць і настырны, але прынцыповы: не павінен крывіць душой. Я хачу сваімі вачамі бачыць, як яны там будуць разбірацца. Прасіў, каб мне дазволілі прысутнічаць на ўскрыцці. Адказу пакуль што няма.

Галубовіч. Ускрыццё… А як жа Марыя Рыгораўна?

Ракітны. Не дачакалася, небарака. Як даведалася, што будуць ускрываць…

Галубовіч. Пухам ёй зямля.

Па калідоры праходзіць Грушэўскі і спыняецца ля Галубовіча.

Грушэўскі. Віншую, Віктар Пятровіч, з паспяховай абаронай. Жадаю далейшых такіх жа поспехаў. *(Працягвае руку.)*

Галубовіч *(не падаючы рукі)*. Дзякую за цёплае сяброўскае віншаванне.

Грушэўскі. Я шчыра.

Галубовіч. Ну, вядома. Тваю шчырасць і велікадушнасць я глыбока адчуваю.

Грушэўскі адыходзіць.

Ракітны. Туляецца, як цюцька. Ніхто з ім і размаўляць не хоча.

Галубовіч. На што ж ён разлічваў, пішучы ананімку?

Ракітны. На тое, каб сябе выгарадзіць і вас скампраметаваць. Мінецца гэта ліха, выйдзе праўда наверх, тады мы за яго возьмемся.

Галубовіч. Ну яго к чорту!

Ракітны. Як гэта к чорту? Ён жа не толькі вас хоча падвесці пад абух, а ўвесь наш калектыў знясlавіць, зганьбіць высокае званне ўрача.

Галубовіч. А што вы з яго возьмеце?

Ракітны. Як гэта што? За паклёп? Партыйны білет возьмем. І вон к чортавай мацеры, каб ён тут і не смуродзіў.

Галубовіч. Скажа, што ў дыягназе памыліўся.

Ракітны. А хто яму паверыць? Усе ж ведаюць, што ён вам помсціць за тую вымову. Галіна Паўлаўна гэта і сваім паказаннем засведчыла.

Галубовіч. Пачакаем, што экспертыза скажа. Можа, заўчасна мы яму прысуд выносім. Каб не абярнуўся ён супроць мяне.

Ракітны. Гэтага быць не можа.

З сястрынскага пакоя выходзіць Зоя Антонаўна. Убачыўшы Галубовіча, накіроўваецца да яго.

Зоя Антонаўна. Добры дзень, Віктар Пятровіч!

Галубовіч. Добры дзень.

Зоя Антонаўна. Рада вас ад душы павіншаваць, пажадаць далейшых поспехаў і вялікага чалавечага шчасця.

Галубовіч. Дзякую, Зоя Антонаўна, але рана яшчэ.

Зоя Антонаўна. Як так! А казалі ж... Што, правалілі?

Ракітны. Ну што вы! Хто яго можа праваліць? Абарона не адбылася. Кворуму не сабралі, галоўны апанент захварэў. Адлажылі.

Зоя Антонаўна *(да Галубовіча)*. Мала яшчэ вам непрыемнасцей.

Ракітны. Нічога, не бядуйце. Усё ўладзіцца, дысертацыя будзе абаронена. Тады мы яго павіншуем усім калектывам. І ведаеце, што мы яшчэ з ім зробім?

Зоя Антонаўна. Што?

Ракітны. Ажэнім.

Зоя Антонаўна. Як жа вы яго ажэніце, калі ён не хоча? Хіба па вашаму загаду.

Ракітны. Не, мы дэмакратычна. Збяром сход, усебакова абмяркуем гэта пытанне, нявесту выберам. Што, калі вашу кандыдатуру выставяць, Зоя Антонаўна?

Зоя Антонаўна. Не здзекуйцеся, Мікалай Іванавіч. *(Адыходзіць.)*

Галубовіч. Збянтэжылі жанчыну.

Ракітны. Аж пачырванела, небарака. Далікатную справу закрануў. А вы падумайце. *(Ківае ў бок Зоі Антонаўны.)*

Галубовіч. Падумаю, Мікалай Іванавіч. Можа, такое надумаю, што вы толькі ахнеце.

Ракітны. Ну, ну! Давайце!

## Карціна трынаццатая

У скверы на лаўцы сядзіць Галіна Паўлаўна з кніжкай у руках. Побач прыкрытая марляй каляска, у якой спіць малое. Падыходзіць Зоя Антонаўна. Яна ідзе з работы. Спыняецца каля Галіны Паўлаўны.

Зоя Антонаўна. Добры дзень, Галіна Паўлаўна! Даўно не бачыліся.

Галіна Паўлаўна. Ага. Толькі па тэлефоне чуліся. Добры дзень!

Вітаюцца, паціскаючы рукі.

Зоя Антонаўна. Паветрам дыхаеце?

Галіна Паўлаўна. Ага. Пакуль пагода дазваляе.

Зоя Антонаўна. Пагода спагадлівая — бабіна лета.

Галіна Паўлаўна. Прысядзьце.

Зоя Антонаўна *(глядзіць на гадзіннік)*. На хвілінку. Паўлік чакае. *(Садзіцца.)* Можна глянуць? Я асцярожна.

Галіна Паўлаўна. Калі ласка.

Зоя Антонаўна *(прыадкрывае марлю)*. О, які слаўны малыш!

Галіна Паўлаўна *(жартуючы)*. Не зрачыце.

Зоя Антонаўна. Маё вока не паганае. І губкі кратае. Мусіць, маму сніць.

Галіна Паўлаўна. Ды ўжо хутка карміць пара.

Зоя Антонаўна. Няхай расце здароў. *(Апускае марлю.)*

Галіна Паўлаўна. Дзякуй. Што новага ў вас?

Зоя Антонаўна. Усё ўляглося. Барыс Мікалаевіч атрымаў строгую вымову і выехаў. А Віктар Пятровіч абараніў дысертацыю.

Галіна Паўлаўна. Я чула.

Зоя Антонаўна. Толькі няўтульна яму аднаму.

Галіна Паўлаўна маўчыць.

Як вам тут падабаецца?

Галіна Паўлаўна. Хораша, ціха. Праўда, далекавата. Але нічога. Дзякуй, што пазванілі, параілі мне гэту мясцінку.

Зоя Антонаўна. Я не так сабе параіла.

Галіна Паўлаўна. А што?

Зоя Антонаўна. Хацела пагаварыць з вамі.

Галіна Паўлаўна. Дзеля гэтага і званілі...

Зоя Антонаўна. Так, і прасіла, каб вы былі тут якраз у гэты час.

Галіна Паўлаўна. Дзіўна. Аб чым жа вы хацелі гаварыць?

Зоя Антонаўна. Хацела даведацца, як вы жывяце, як думаеце жыць далей.

Галіна Паўлаўна. Жыву як прыйдзецца. Самі ведаеце. Вось крыху яго *(ківае на каляску)* падгадую, у яслі аддам і на работу пайду.

Зоя Антонаўна. А вы не думаеце вярнуцца?

Галіна Паўлаўна. Куды?

Зоя Антонаўна. Да Віктара Пятровіча.

Галіна Паўлаўна *(уражаная)*. Вярнуцца!!! Як гэта я магу вярнуцца! Што гэта вы такое гаворыце, Зоя Антонаўна!

Зоя Антонаўна. Я думала...

Галіна Паўлаўна. Я ведаю, што вы думаеце. Вы выклікалі мяне сюды на допыт. Хочаце выпрабаваць, як я аднясуся да вашай змовы. Ці не ўчаплюся вам у валасы.

Зоя Антонаўна. Галіна Паўлаўна! Мілая! Якое выпрабаванне? З якой прычыны мне вас выпрабоўваць?

Галіна Паўлаўна. Я чула, што вы з ім у блізкіх адносінах.

Зоя Антонаўна. Дасужыя языкі гавораць. Мы з ім дружна працуем — вось і ўся блізкасць.

Галіна Паўлаўна. Я не мерала адлегласці паміж вамі, але ўсе як у бубен б'юць: зараз вяселле. Дык, мусіць жа, ёсць у яго пэўныя намеры наконт вас.

Зоя Антонаўна. Можа, і ёсць. Я адчуваю яго прыхільнасць. Але гэтым намерам не суджана здзейсніцца. Я дала яму гэта зразумець.

Галіна Паўлаўна. Лічыце, што ён вам не пара?

Зоя Антонаўна. Не. Ён слаўны чалавек. Можа, тут бы я і знайшла сваё шчасце, але яно мне недаступна.

Галіна Паўлаўна. Што ж вам перашкаджае?

Зоя Антонаўна. У мяне ж Паўлік.

Галіна Паўлаўна. Ну дык і што? Прывыкне Паўлік. Такая апора, як Віктар Пятровіч, яму была б карыснай.

Зоя Антонаўна. Ён гэтага не перанясе. Мне нават падумаць страшна. Я ж не сказала яму, што бацька загінуў. Сказала, што ён у доўгай і далёкай-далёкай камандзіроўцы. Такой далёкай, што адтуль аж нават і пісьмы не даходзяць. Затое як прыедзе, дык шмат розных гасцінцаў прывязе свайму Паўліку. І Мішку жывога. Будзе на матацыкле катаць і на рыбалку браць. Вось і чакае беднае дзіця. Кожную раніцу, як толькі прачнецца, пра татку ўспамінае. Пытаецца, ці няма ўсё-такі пісьма ад яго. І цяпер сказаць, што бацька загінуў, што

бацькам яго будзе гэты чужы дзядзька,— значыць нанесці страшэнны, можа, смяртэльны ўдар. Сэрца маё разрываецца, як толькі я падумаю пра гэта. *(Плача.)* Не, гэтага я не зраблю.

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. Даруйце, Зоя Антонаўна! Даруйце за маю бястактнасць. За тое, што я так груба дакранулася да вашай душэўнай раны.

З о я  А н т о н а ў н а *(выцірае слёзы).* Я гавару з вамі шчыра, каб вы ведалі, што я не з'яўляюся перашкодай для вашага шчасця, калі яно магчыма. Калі запыталася, ці не думаеце вярнуцца, дык толькі хацела намякнуць пра такую магчымасць.

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. Вярнуцца... А як жа вярнуцца? Ісці да яго? Прасіцца? Не! Я яшчэ не страціла пачуцця чалавечай годнасці. Ды і не можа ён мне дараваць. Ён жа тады мяне сцервай назваў. Такой я і засталася ў яго вачах.

З о я  А н т о н а ў н а. Ён тады пад гарачую руку. Тое перабалела ўжо. Ён чалавек велікадушны. Не будзе вам напамінаць.

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. Баюся, што яго велікадушнасць будзе гнясці мяне і я маральна ніколі не буду адчуваць сябе роўнай з ім.

З о я  А н т о н а ў н а. Як я разумею, дык ваш гэты ўчынак быў не наўмысны, выпадковы.

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. Я і не здрадзіла яму. Ні целам, ні душой. А жыццё сапсавала. І яму, і сабе. Па дурасці. З роспачы, што не збыліся мае мары стаць нейкай, невядома нават якой, выдатнасцю, пачала шукаць уцехі не там, дзе трэба.

З о я  А н т о н а ў н а. Шкада мне яго. Няма яму дзе галаву прыхіліць. І маральна ён адчувае сябе няважна. Ананімка зрабіла сваю справу. Хоць экспертыза і даказала, што ён не вінаваты ў смерці Алега Трахімавіча, ёсць людзі, якія мераюць усё на свой аршын. Кажуць, пакрылі, замялі, пашкадавалі добрага спецыяліста. Нябожчыка ж ужо ўсё роўна не падымеш. А ён гэта ведае і пераажывае. Думае нават, ці не пераехаць яму ў другі горад.

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. Бедны цямці-лямці!

З о я  А н т о н а ў н а. А вас ён не лічыць такой, як вы думаеце. Пытаўся раз, як вы жывяце. Казаў, што хацеў бы падзякаваць за праўдзівыя і спрыяльныя для яго вашы паказанні. А прасіцца, уніжацца не трэба. Вы сустрэнецеся, так сказаць, на нейтральнай глебе.

Г а л і н а  П а ў л а ў н а. А як?

Зоя Антонаўна. Ён зараз будзе ісці з работы гэтай дарожкай. Прыпыніцца каля вас. Папросім яго прысесці. Я пайду, а вас пакіну.

Галіна Паўлаўна. Страшна. Вой, як страшна! Гэта ж будзе вырашацца лёс. І мой, і яго. *(Паказвае на каляску.)* І ўсіх траіх.

Зоя Антонаўна. Набярыцеся мужнасці.

Галіна Паўлаўна. Аж у мяне ўсярэдзіне ўсё перавярнулася.

Зоя Антонаўна. Не хвалюйцеся, я ж тут. Выручу, калі што якое. *(Ківае на каляску.)* Варушыцца. Як быццам і ён нешта адчувае. *(Бязгучна прыцмоквае губамі, нібы забаўляючы.)* На каго ж ён падобны? На маму? Здаецца, не.

Галіна Паўлаўна. Не ўгадаеце.

Зоя Антонаўна. На Алега Трахімавіча, па-мойму, таксама не падобны.

Галіна Паўлаўна. Вы, мусіць, сказаць не адважваецеся.

Зоя Антонаўна глядзіць на яе.

Можа, на Віктара Пятровіча?

Зоя Антонаўна *(збянтэжаная)*. Як! *(Ёй няёмка.)* Выбачайце, я пра гэта не падумала.

Галіна Паўлаўна. Калі я адыходзіла, ён ужо быў у мяне пад сэрцам.

Зоя Антонаўна. І вы не сказалі?

Галіна Паўлаўна. Я і сама яшчэ не была ўпэўнена. Ды і навошта? Гэта толькі б ускладніла адносіны.

Зоя Антонаўна. І Алег Трахімавіч не ведаў?

Галіна Паўлаўна. Гэта была мая тайна. Ён лічыў, што гэта яго сын. Я ж нарадзіла яго толькі на два тыдні раней тэрміну. Нібыта раней.

Зоя Антонаўна. Ну, а цяпер жа ўжо можна абрадаваць Віктара Пятровіча.

Галіна Паўлаўна. Нізашто! Падумае, што я спекулюю. Хачу гэтым вярнуць яго.

Зоя Антонаўна. А калі ў вас пойдзе ўсё на лад?

Галіна Паўлаўна. Тады...

Зоя Антонаўна. Вунь ён ідзе.

Галіна Паўлаўна. Вой! *(Усхопліваецца.)* Можа, я пайду?

Зоя Антонаўна *(утрымлівае яе за руку)*. Сядзіце.

Галубовіч *(падыходзіць)*. Добры дзень!

Галіна Паўлаўна *(хаваючы ад яго вочы).* Добры дзень.
Галубовіч. А чаго гэта ў вас у абедзвюх вочы мокрыя?
Зоя Антонаўна. Нічога. Пагаварылі.
Галубовіч. Відаць, добра пагаварылі.

Зоя Антонаўна і Галіна Паўлаўна маўчаць.

Можна прысесці?
Галіна Паўлаўна. Калі ласка.
Галубовіч. Хацеў да вас дадому зайсці, ды не адважыўся.

Галіна Паўлаўна, збянтэжаная, не ведае, што адказаць.

Хачу падзякаваць за сумленныя паказанні, якія дапамаглі высветліць, з чаго сыр-бор загарэўся.
Галіна Паўлаўна. Я ж гаварыла толькі тое, што ведала і што думала.
Галубовіч. І пра мяне вы добрае слова сказалі.
Галіна Паўлаўна. Я чула, вы дысертацыю абаранілі.
Галубовіч. Абараніў.
Галіна Паўлаўна. Віншую вас.
Галубовіч. Шчыра дзякую.
Зоя Антонаўна. Я пайшла. Шчаслівай вам гаворкі. *(Адыходзіць.)*

Няёмкая паўза.

Галубовіч *(нахіляецца да каляскі).* Можна глянуць?
Галіна Паўлаўна. Калі ласка.
Галубовіч *(прыадкрывае марлю, глядзіць на дзіця).* Дзяўчынка ці хлопчык?
Галіна Паўлаўна. Хлопчык.
Галубовіч. А як зваць?
Галіна Паўлаўна. Петрусёк.
Галубовіч. Петрусёк... *(З лёгкім засмучэннем.)* Значыць, Пётр Алегавіч.
Галіна Паўлаўна. Вас гэта засмучае?
Галубовіч. Магло быць і інакш.

## Уільям Шэкспір

# РАМЭО І ДЖУЛЬЕТА

*Трагедыя*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Эскал — герцаг веронскі.
Парыс — малады дваранін, сваяк герцага.
Мантэкі, Капулеці — старэйшыя дзвюх варожых сем'яў.
Стары — сваяк сіньёра Капулеці.
Рамэо — сын Мантэкі.
Меркуцыо — сваяк герцага і друг Рамэо.
Бенволіо — пляменнік Мантэкі і друг Рамэо.
Тыбальт — пляменнік сіньёра Капулеці.
Брат Ларэнца, Брат Джавані — францысканскія манахі.
Балтазар — слуга Рамэо.
Самсон, Грэгорыо — слугі Капулеці.
П'етра — слуга мамкі.
Абрам — слуга Мантэкі.
Аптэкар.
Тры музыканты.
Паж Меркуцыо.
Паж Парыса.
Прыстаў.
Сіньёра Мантэкі — жонка Мантэкі.
Сіньёра Капулеці — жонка Капулеці.
Джульета — дачка Капулеці.
Мамка Джульеты.
Гараджане Вероны, мужчыны і жанчыны, сваякі Капулеці і Мантэкі, маскі, варта, часавыя, слугі і хор.

Месца дзеяння — Верона і Мантуя.

## ПРАЛОГ

Уваходзіць хор.

Хор

Дзве роўныя па знатнасці сям'і
Ў Вероне, дзе сустрэнуць нас падзеі,
Здаўна вядуць упартыя баі,
І на ўзаемны мір няма надзеі.

А сэрцы іх дзяцей на век вякоў
Гарачая любоў была злучыла,
Ды толькі смерць ліхая юнакоў
Бацькоўскую варожасць патушыла.

Пра іх любоў і смерць наш сумны сказ,
Пра гнеў бацькоў, патухшы ў іхняй смерці,
Гадзіны дзве тут зойме часу ў вас,
Крануўшы спачуваннем вашы сэрцы.

Даруйце нам за слабасці пяра,
Загладзіць іх старанная ігра.

*(Выходзіць.)*

## АКТ ПЕРШЫ

### Сцэна першая

Верона. Рыначны пляц.
Уваходзяць Самсон і Грэгорыо, узброеныя мячамі і шчытамі.

Самсон

Клянуся, што мы не будзем дарэмна сыпаць словы, як гарох.

Грэгорыо

Вядома, мы ж не агароднікі, каб гарох сеяць.

Самсон

Як толькі што якое, хапайся за меч і давай духу.

Грэгорыо

Глядзі, каб яны з цябе самога дух не выбілі.

Самсон

Мяне толькі расшавялі — я тады зразу б'ю.

Грэгорыо

Але не так лёгка цябе расшавяліць.

Самсон

Кожны сабака з дому Мантэкі можа ўзрушыць мяне да самых вантробаў.

Грэгорыо

Узрушаны заяц вельмі шпарка рухаецца, а мядзведзь становіцца дубка і ні з месца. Баюся, што і ты, як зрушышся, дык і ўцячэш.

Самсон

Калі кране мяне сабака з гэтага дому, я буду стаяць цвёрда. На сцяну палезу, але вазьму верх над любым мужчынам і над любой дзеўкай з дому Мантэкі.

Грэгорыо

Значыць, ты слабы, калі табе сцяна патрэбна. Слабыя заўсёды прыпіраюцца да сцяны.

Самсон

Гэта праўда. Таму жанчыну, як слабую пасудзіну, і прыпіраюць да сцяны. Усіх мужчын з дому Мантэкі я папру ад сцяны, а жанчын прыпру да сцяны.

Грэгорыо

Нашы паны б'юцца, а ў нас ілбы трашчаць.

Самсон

Усё роўна, я буду бязлітасным. Прыкончыўшы панічоў, я і паненкам галовы паскручваю.

Грэгорыо

Галовы?

Самсон

Галовы ці што іншае — разумей як хочаш.

Грыгорыо

Няхай той разумее, хто гэта адчуе.

Самсон

Ды ўжо ж будзе ім адчувацца, аж пакуль я змагу трымацца. А ўсім добра вядома, што мяса ў мяне пруткае.

Грэгорыо

Добра, што мяса, а не рыба, а то быў бы ты вяленай траской. Вымай сваю зброю — сюды ідуць два з дому Мантэкі.

Уваходзяць Абрам і Балтазар.

Самсон

Мая зброя напагатове. Задзірайся, я прыкрываю твой тыл.

Грэгорыо

Ці не хочаш ты павярнуць свой тыл і даць драла?

Самсон

Ты мяне не бойся.

Грэгорыо

Я за цябе баюся, трасца табе ў бок.

Самсон

Трэба, каб закон быў на нашым баку — няхай яны пачнуць.

Грэгорыо

Я скрыва гляну, калі буду праходзіць ля іх, і няхай прымаюць гэта як хочуць.

Самсон

Не як хочуць, а на што адважацца. Я пакажу ім фігу. Ганьба ім, калі яны гэта сцерпяць.

Абрам

Вы нам паказваеце фігу, сіньёр?

Самсон

Я паказваю фігу.

Абрам

Вы нам паказваеце фігу, сіньёр?

Самсон
*(ціха да Грэгорыо)*

Закон будзе на нашым баку, калі я скажу, што ім?

Грэгорыо

Не.

Самсон

Не, сіньёр, я не паказваю вам фігі, я проста паказваю фігу.

Грэгорыо

Вы лезеце ў бойку, сіньёр?

Абрам

У бойку, сіньёр? Не, сіньёр.

Самсон

А калі ў бойку, сіньёр, я гатоў. Мой гаспадар не горшы за вашага.

Абрам

Але ж і не лепшы.

Самсон

Ладна, сіньёр.

Уваходзіць Бенволіо.

Грэгорыо
*(ціха Самсону)*

Скажы: «лепшы»,— сюды ідзе сваяк нашага гаспадара.

Самсон

Лепшы, сіньёр.

Абрам

Вы хлусіце.

Самсон

Мячы да бою, калі вы мужчыны. Грэгорыо, пакажы свой хвалёны ўдар.

Б'юцца.

Бенволіо

*(разнімае іх)*

Чакайце, асталопы! Зброю ў ножны!
Падумайце, што вам за гэта будзе.

*(Выбівае мячом у іх зброю.)*

Уваходзіць Тыбальт.

Тыбальт

І ты з мячом між баязлівых слуг.
Ляпей сюды на смерць сваю ты глянь.

Бенволіо

Я іх мірыў. Схавай у ножны меч
Ці ў ход яго пусці, каб памірыць іх.

Тыбальт

З мячом пра мір загаварыў ты раптам.
Я нават слова гэта ненавіджу,
Як пекла, як усіх Мантэкі і цябе,
Нікчэмны баязлівец. Адбівайся!

Б'юцца.
Збягаюцца прыхільнікі з абодвух дамоў і ўвязваюцца ў бойку, а потым гараджане і приставы з палкамі і алебардамі.

Першы прыстаў

Гэй, палак, алебард, дубін! Лупі іх!
Бі Капулецці, бі Мантэкі — ўсіх!

Уваходзяць стары Капулецці ў халаце і сіньёра Капулецці.

Капулецці

Што тут за крык? Падаць мой доўгі меч!

Сіньёра Капулецці

Лепш мыліцу! Нашто табе той меч?

Капулецці

Сказаў я — меч, ідзе стары Мантэкі.
І на мяне мячом сваім махае.

Уваходзяць стары Мантэкі і сіньёра Мантэкі.

Мантэкі

О, подлы Капулет! *(Жонцы.)* Пусці мяне!

Сіньёра Мантэкі

І кроку ты не ступіш да яго.

Уваходзіць герцаг Эскал са світай.

Герцаг

Вы, міру ворагі, бунтаўшчыкі,
Што кроўю блізкіх пляміце мячы.
Вы чуеце! Не людзі вы — звяры.
Вы тушыце пажар шалёнай злосці
Барвовымі цуркамі з вашых жыл.
Вось мой загад: пад страхам катаванняў
З крывавых рук на дол вы зброю кіньце
І герцага паслухайце прысуд.
Нялюдскай сваркаю вы трэці раз
Парушылі спакой веронскіх вуліц,
Ты, Капулецці, ды і ты, Мантэкі,
У трэці раз шаноўных гараджан
Прымусілі забыць сваю паважнасць
І зброю ржавую у рукі ўзяць,
Каб заржавелую варожасць вашу
Утаймаваць. Калі яшчэ хоць раз
Каторы з вас спакой і мір парушыць,
Жыццём сваім заплаціць ён за гэта.
Цяпер жа ўсе адгэтуль прэч ідзіце.

Вы, Капулецi, пойдзеце са мной,
А вы, Мантэкi, ў поўдзень прыйдзеце
У старажытны замак Вiлафранка,
Дзе мы звычайна творым суд i праўду.
Усе пад страхам смерцi — прэч адгэтуль!

Выходзяць герцаг i свiта, сiньёра Капулецi, Тыбальт, гараджане i слугi.

Мантэкi

Хто ж даўнюю варожасць абудзiў?
Ты быў, пляменнiк, з самага пачатку?

Бенволiо

Варожых два слугi i нашых два
Ужо схапiлiся, як я прыйшоў.
Я выхапiў свой меч, каб iх разняць,
Але Тыбальт шалёны падляцеў.
Мяне на бой ён выклiкаў заўзята,
Паветра рассякаючы мячом,
Яно ж насмешлiва свiстала толькi.
Пакуль мы бiлiся, народ сабраўся,
Мацнела бойка. Герцаг тут, аднак,
Разбаранiў заўзятых забiяк.

Сiньёра Мантэкi

Рамэо ты не бачыў? Мусiць, Бог
Яго ад гэтай бойкi засцярог.

Бенволiо

Задоўга да таго, як промень сонца
Праз залатыя шыбы ўсходу глянуў
На свет, мяне душэўны неспакой
За горад выгнаў. Пад шатром смакоўнiц,
Што к захаду ад гарадской сцяны,
Я сына вашага заўважыў. Да яго
Хацеў я падысцi, а ён убачыў
I ў гушчары схаваўся ад мяне.
Настрой такi — знаёмы досыць мне,
Калi ты сам сабе цяжарам служыш
I ад людзей шукаеш адзiноты,—
Я даганяць яго не захацеў
I пад уплывам гэткага ж настрою
Збег ад таго, хто ад мяне ўцякаў.

Мантэкі

Не раз яго там бачылі на золку,
Як ён слязамі памнажаў расу
І туманы ўздыханнямі згушчаў.
Але калі ўсёрадаснае сонца
Прыпадымаць на ўсходзе пачынае
Аўрорынай пасцелі змрочны полаг,
Спяшаецца мой сын тады дадому
І замыкаецца ў сваім пакоі:
Ад дзённага святла завесіць вокны
І штучна гэтак ноч сабе стварае.
Як рады тут не знойдзеш, дык тады
Ад смутку гэтага чакай бяды.

Бенволіо

А ці вядома вам прычына, дзядзя?

Мантэкі

Даведацца ніяк вось не магу...

Бенволіо

А хіба вы пыталіся ў яго?

Мантэкі

І сам пытаўся, і сябры мае,
А ён пачуццяў слухае парады,
І не скажу, каб верны быў сабе,
Так не жадае сэрцам ён адкрыцца,
Як пупышка, чарвяк якую точыць,
Яна ж яшчэ не ўспела распусціцца
І сонцу хараство ахвяраваць.
Каб ведалі, у чым тугі прычына,
Мы б лекаў пастараліся для сына.

Уводдалі паказваецца Рамэо.

Бенволіо

Вось ён ідзе. Пакіньце нас удвух,
Ці не адкрые мне што-небудзь друг.

Мантэкі

Сардэчных я жадаю вам размоў.
Бывай. Ну, жонка, мы хадзем дамоў.

Выходзяць Мантэкі і сіньёра Мантэкі. Уваходзіць Рамэо.

Бенволіо

А, з добрым раннем, брат.

Рамэо

А хіба ранне?

Бенволіо

Прабіла дзевяць.

Рамэо

Час марудны ў смутку.
Там ці не бацька мой пайшоў так хутка?

Бенволіо

Так, ён. Ды ты мне назаві хоць раз
Прычыну, што табе так доўжыць час.

Рамэо

Няма таго, што час нам каратае.

Бенволіо

Ага, дык вось у чым прычына тая —
Любоў?

Рамэо

Адсутнасць.

Бенволіо

У цябе любві?

Рамэо

Адсутнасць узаемнасці ў любві.

Бенволіо

Любоў у марах — кволая такая,
Але на справе жорстка дапякае.

Рамэо

Хоць у любві павязка на вачах,
Але яна да сэрца знойдзе шлях.
Дзе мы абедаем? Была тут бойка?
А ўрэшце я ўжо чуў — не гавары.
Прасторна тут злабе, любві тым больш.
О, гнеў любві, пяшчотнасць гневу злога!
Страшэнны пал, народжаны з нічога.

О, пустаты цяжар і важкасць глупства!
Бязладны хаос форм, прыгожых звонку.
Свінцовы пух, дым ясны, жар халодны,
Сухотнае здароўе, сон бяссоння —
Такое вось любві маёй бяздонне.
Ты не смяешся?

Бенволіо

Не, гатоў заплакаць.

Рамэо

Чаго, мой друг?

Бенволіо

Я страціў сэрца друга.

Рамэо

І так тугá скавала сэрца мне,
Прыбаў сваю — памножыш удвайне.
Сваім ты смуткам справы не паправіш,
А спачуваннем гора мне прыбавіш.
Каханне век жартуе з закаханым:
Стань уздыхаць — развеецца туманам,
Прагоніш сум — зноў усміхнецца лёс.
Яна — смерч, полымя над морам слёз,
Вар'яцтва мудрае самой прыроды,
Змяшанае з гаркоты й асалоды.
Бывай, аднак жа, любы мой!

Бенволіо

Чакай, Рамэо, я пайду з табой,
Бо спадзяюся, ты мне растлумачыш...

Рамэо

Цсс... я растаў. Дзе ты Рамэо бачыш?
Няма яго. Ён страціў сам сябе.

Бенволіо

Каго ты палюбіў — скажы мне проста.

Рамэо

Не проста, з енкам.

Бенволіо

Пацярпі хвіліну
І гэтых енкаў назаві прычыну.

Рамэо

Скажы, каб хворы завяшчанне склаў,—
Паможаш ты, каб ён хутчэй сканаў.
Сур'ёзна, брат, я палюбіў жанчыну.

Бенволіо

Ну так і ёсць. У цэль папаў я трапна.

Рамэо

Стралок ты слаўны і падстрэліць сквапны.

Бенволіо

Чым цэль прывабней, тым лягчэй папасці.

Рамэо

Ты на яе не ўзводзь дарма напасці.
Сам Купідон не нанясе ёй раны.
Яна ступае па слядах Дыяны:
Закавана ў нявіннасць, нібы ў латы,
І ёй не страшны той хлапчук крылаты.
Яе не ўзяць пяшчотных слоў асадай,
Ні золатам аздобленай прынадай.
Сама сабе застаючыся вернай,
Яна багатая красой бязмернай
І бедная ў той час, бо разам з ёй
Засыплюць і красу яе зямлёй.

Бенволіо

Што, паклялася вечна дзевай быць?

Рамэо

Каб і мяне тым самым загубіць.
Краса яе ад чыстаты загіне,
На свеце нават следу не пакіне.
Чароўны скарб у святасць ахінуты
На гора мне, на страшныя пакуты.
Не ведаю, ці трапіць яна ў рай
За ўсе мае пакуты і адчай.
Я ў скаргах так, няшчасны, і памру.
Я ўжо мярцвяк — з магілы гавару.

Бенволіо

Я раіў бы не думаць пра яе.

Рамэо

О, каб жа ты навучыў мяне не думаць!

Бенволіо

Дай волю поўную вачам сваім
І паглядзі на іншых.

Рамэо

Гэта спосаб,
Каб больш яшчэ пазнаць яе красу.
Пад чорнай маскай кожнай незнаёмкі
Мы спадзяёмся ўбачыць хараство.
Той, хто аслеп, ніколі не забудзе
Свой скарб найдаражэйшы — зрок.
Няхай любую ўбачу я красуню.
Краса яе пацвердзіць толькі тое,
Што хараство каханай — шмат вышэй.
Бывай. Не на́ўчыш ты мяне забыць.

*(Выходзіць.)*

Бенволіо

Альбо наўчу, альбо не буду жыць.

*(Выходзіць.)*

## Сцэна другая

Вуліца.
Уваходзяць Капулецi, Парыс і слуга.

Капулецi

Абодва мы з Мантэкі пакараны
Аднолькава. Я думаю, што мы,
Старыя людзі, зможам мірна жыць.

Парыс

Абодвух паважаюць вас. Шкада,
Што цягнецца так доўга ваша сварка.
Але які вы мне дасце адказ?

Капулецi

Той самы, што раней я вам даваў.
Яшчэ дачка мая жыцця не знае,
Ёй чатырнаццаці яшчэ няма.
І два разы ім адцвіце вясна,
Перш чым для шлюбу вырасце яна.

Парыс

І маладзей шчаслівыя ёсць маці.

Балтазар

Малю вас, супакойцеся, сіньёр! —
Збялелы твар і дзікі погляд ваш
Бяду прарочаць.

Рамэо

Кінь! Табе здаецца.
Ідзі рабі, што я табе сказаў.
Ты пісем не прынёс мне ад манаха?

Балтазар

Не, мой сіньёр.

Рамэо

Нічога; ты ідзі
Наймі мне коней. Зараз я прыйду.

Балтазар выходзіць.

З табой, Джульета, лягу я ў магілу
Сягоння ноччу. Як зрабіць мне гэта?
О зло, як хутка ты ў душу прыходзіш
Таму, каго гняце адчай. Я ўспомніў
Аптэкара. Ён блізка тут жыве.
Я на яго звярнуў сваю увагу:
З панурым выглядам, у лахманах —
Ён травы разбіраў, худы, няшчасны,
Абгрызены бязлітасным жабрацтвам.
У крамцы ж, бачыў я, віселі
Напханы кракадзіл, і чарапаха,
Ды скуры страшных рыб; а на паліцах
Жабрацкі скарб пустых каробак, шклянак,
Гаршкоў гліняных, слоікаў, аборак,
Счарсцвелыя кусочкі праснакоў —
Быў выстаўлен, каб хворых спакушаць.
Я, ўбачыўшы мізэрны скарб, падумаў:
Каб чалавек хацеў купіць атруты,
Якую прадаваць пад страхам смерці
Тут забаронена, дык гэты вось
Няшчасны абармот яе прадаў бы.
Як быццам я патрэбу прадчуваў.
Бядняк, напэўна, мне прадасць атруту.
Я помню, быццам гэты дом яго.
Зачыненая крама — сёння свята.
Гэй, гэй, аптэкар!

Аптэкар

Хто так моцна кліча?

Рамэо

Ідзі сюды. Я бачу, бедны ты.
Дык вось вазьмі дукаты — тут іх сорак,
А мне ты толькі драхму дай атруты,
Але такога зелля, каб умомант
Па жылах разлілося і каб той,
Хто стомлены жыццём, адразу ўпаў бы;
Каб вырвалася хутка так дыханне,
Як вырываецца з гарматы порах.

Аптэкар

Ёсць зелле, толькі Мантуі закон
Карае смерцю тых, што прадаюць.

Рамэо

Ты ж бедны, голы і баішся смерці?
Я бачу голад на тваім абліччы,
Туга і смутак у тваіх вачах,
А на плячах — жабрацтва і знявага.
Ні свет табе не друг і ні закон;
Няма на свеце гэткага закона,
Які б цябе багатым мог зрабіць.
Забудзь жабрацтва і закон — вазьмі!

Аптэкар

Дае вам згоду беднасць, а не воля.
*(Дае яму атруту.)*

Рамэо

Не волі я, а беднасці плачу.

Аптэкар

У вадкасць у любую ўсыпце гэта
І выпіце; хоць дваццаць сіл людскіх
Вы маеце ў сабе — адразу смерць.

Рамэо

Вось золата тваё — душы атрута,
Забойца горшы ў гэтым подлым свеце,
Чым гэты твой нікчэмны парашок,
Які ты прадаваць баішся. Я
Прадаў табе атруту, а не ты мне.

Бывай, купі сабе яды і растаўсцей.—
Я ж не атруту ўзяў сабе, а лекі,
Каб з любай у труне заснуць навекі.

*(Выходзіць.)*

### Сцэна другая

Келля брата Ларэнца.
Уваходзіць брат Джавані.

Брат Джавані

Эй, францысканец, брат святы, эй, брат!

Уваходзіць брат Ларэнца.

Брат Ларэнца

Па голасу дык гэта брат Джавані.
Ты з Мантуі? Ну, што сказаў Рамэо?
Мо напісаў, дык дай сюды пісьмо.

Брат Джавані

Я брата басаногага шукаў —
Свайго манаха, каб узяць з сабой;
Ён там у горадзе наведваў хворых.
Яго знайшоў, а гарадская варта,
Падумаўшы, што дом зачумлены,
Заперла ў гэтым доме нас абодвух,—
І вось я ў Мантую не мог папасці.

Брат Ларэнца

А хто ж занёс пісьмо маё Рамэо?

Брат Джавані

Не мог яго паслаць я — вось яно —
Табе назад вярнуць не мог таксама:
Ніхто не браў — баяліся заразы.

Брат Ларэнца

Няшчасны лёс! Клянуся брацтвам я,
Пісьмо, скажу вам, не абы-якое —
Патрэбнае і вельмі важнае,—
Затрымка можа нарабіць бяды.
Знайдзі ты, брат Джавані, лом жалезны
І прынясі мне ў келлю.

Брат Джавані

Добра, зараз.

Брат Ларэнца

Цяпер адзін я ў склеп ісці павінен,
Прачнецца праз гадзіны тры Джульета
І будзе праклінаць мяне за тое,
Што не паведаміў Рамэо я.
Я зноў у Мантую пашлю пісьмо,
Яе ж, пакуль сюды Рамэо прыйдзе,
Схаваю ў келлі. Бедны труп жывы,
Паложаны ў труну нябожчыка!

## Сцэна трэцяя

Могільнік; на ім склеп Капулеці.
Уваходзяць Парыс і паж, які нясе кветкі і факел.

Парыс

Дай факел, хлопчык! Адыдзі далей!
Ці лепш тушы, бо нас убачыць могуць.
Кладзіся там, пад цісамі, і вуха
Да ўскопанай зямлі шчыльней прыцісні —
На могілках ты кожны крок пачуеш:
Тут цвёрдая і гулкая зямля.
Што б ні пачуў ты — свісні. Дай мне кветкі.
Рабі, што я табе сказаў: ідзі!

Паж

*(убок)*

Мне страшна заставацца аднаму
На гэтых могілках, ды паспрабую.

*(Хаваецца.)*

Парыс

Мая ты кветка, шлюбны ложак твой
Я кветкамі асыплю. Пыл і камень —
Твой полаг тут. Духмянаю вадой
Я буду акрапляць яго начамі.
Вады не хопіць — горкімі слязамі.
Штоночы кветкі буду я прыносіць,
Штоноч іх слёзы горкія аросяць.

Паж свішча.

Дае мне знак хлапец: ідзе там нехта.
Чыя праклятая нага ступае
І парушае мой абрад любоўны?
І нават з факелам? Хутчэй жа, ноч,
Укрый мяне на момант цемнатою.

*(Хаваецца.)*

Уваходзяць Рамэо і Балтазар з факелам і ломам.

Рамэо

Дай лом і жалязняк! Пісьмо вось гэта
Ты ўранні бацьку перадай майму.
Дай факел! Хочаш жыць на свеце — помні:
Што б ты ні ўбачыў, што б ты ні пачуў,
Стой там паводдаль, не перашкаджай мне.
Хачу спусціцца я ў палацы смерці,
Апошні раз на жонку паглядзець,
Галоўнае ж — каб зняць з яе рукі
Пярсцёнак дарагі, патрэбны мне
Для вельмі важнай справы. Ну, ідзі!
Калі ж сюды адважышся вярнуцца
І будзеш падглядаць, што я раблю,
Я разарву цябе — клянуся Богам,
І па ўсіх магілках параскідаю
Кавалкі цела. Позні, дзікі час,
Маіх намераў дзікая жахлівасць
Больш страшная, чым прагны тыгр галодны,
Чым мора, што ад лютасці раве!

Балтазар

Іду, сіньёр; я вам не перашкоджу.

Рамэо

Дакажаш гэтым, што ты друг. Вазьмі.

*(Дае яму грошы.)*

Жыві шчасліва і — бывай, мой мілы!

Балтазар

*(убок)*

А я схаваюся дзе-небудзь у кустах,
Ад выгляду яго сціскае сэрца жах.

*(Хаваецца.)*

Рамэо

Ты, зяпа гнюсная, вантроба смерці,
Што лепшую красу зямлі сажрала.

*(Ломіць дзверы склепа.)*

Твой рот гнілы я сілай расшчаплю,
Яшчэ табе яды напхаю ў горла.

Парыс

Ах, вось ён дзе, нахабны той Мантэкі,
Які забіў маёй нявесты брата.
Яна ад роспачы лягла ў магілу.
Цяпер сюды паздзекавацца прыйшоў ён
Над прахам дарагім. Схаплю яго.

*(Выходзіць наперад.)*

Агідную работу прыпыні,
Мантэкі подлы! Ты і мёртвым помсціш?
Асуджаны падлец, ты арыштован.
Ідзі за мной — памерці ты павінен.

Рамэо

Павінен. І таму сюды прыйшоў.
Не спакушай адчаяннай душы,
Юнак мой мілы. Уцякай адгэтуль.
І без цябе нябожчыкаў тут шмат.
Пабойся. Я прашу цябе, юнак,
Не прымушай мяне яшчэ грашыць,
Не раздражняй, ідзі хутчэй адгэтуль.
Люблю цябе я болей, чым сябе,
Клянуся небам. Я прыйшоў сюды,
Узброены супроць сябе самога.
Бяжы хутчэй, жыві. Пасля ты скажаш:
Шалёны той жыццё мне даравaў.

Парыс

Тваім я заклінаннем пагарджаю,
А арыштоўваю цябе — злачынца.

Рамэо

Ты выклікаеш? Сцеражыся, хлопчык!

Б'юцца.

Паж

О Божа, б'юцца! Пабягу па варту.
*(Выбягае.)*

Парыс

*(падае)*

Забіты я.
Калі ты маеш літасць,
З Джульетай палажы мяне ў труну.

*(Памірае.)*

Рамэо

Хай будзе так. Спачатку гляну ў твар.
Меркуцыо сваяк ён — граф Парыс.
Што гаварыў дарогай мне слуга?
Усхваляваны, я не чуў нічога.
Сказаў, здаецца, ён, што граф Парыс
З Джульетаю збіраецца жаніцца.
Сказаў ён так ці мне прыснілася?
Ці, можа, калі ён Джульету ўспомніў,
Я страціў розум і ўсяму паверыў.
Дай мне руку. Цяпер са мною разам
У кнігу роспачы занесен ты.
Юнак забіты, ва ўрачыстым склепе
Цябе я пахаваю. Не, не ў склепе,
А ў вежы светлай — там ляжыць Джульета,
І хараство яе ператварае
Пануры склеп у светлы зал бяседны.
Ляжы тут, мёртвы, мёртвым пахаваны.

*(Кладзе Парыса ў склеп.)*

Як часта людзі перад самай смерцю
Становяцца вясёлымі раптоўна!
Завуць прадсмертнаю зарніцай гэта.
Ці ж гэта я магу назваць зарніцай?
О жонка мілая, любоў мая!
Смерць высмактала мёд твайго дыхання,
Але з тваёй красой не саўладала,
Не здолела яе. Красы адзнака —
Ружовы колер губ і шчок тваіх;
Тут смерці бледны флаг яшчэ не ўзняты.
Тыбальт, і ты ж у саване крывавым
Ляжыш тут? Для цябе я не магу
Зрабіць нічога больш, як той рукой,
Што загубіла маладосць тваю,
Забіць згубіцеля. Даруй мне, брат!
Чаму, Джульета, і цяпер яшчэ
Такое хараство ў табе? Няўжо

Смерць бесцялесная ўлюбілася
Сама ў цябе? Няўжо худая поскудзь
Цябе трымае ў гэтым змрочным месцы
З тым, каб зрабіць любоўніцай сваёй?
Я гэтага баюся і таму
З табою застануся назаўсёды,
Не выйду з гэтага палаца цемры
Ніколі больш. Тут, тут з чарвямі я —
Тут будзе вечны адпачынак мой.
Я скіну тут прыгнёт варожых зор
Са стомленага ў гэтым свеце цела.
Глядзіце ж, вочы, вы апошні раз!
Апошні раз вы, рукі, абнміце!
А вусны пацалункам, як пячаткай,
Умову з прагнай смерцю замацуйце!
Прыйдзі, мой горкі праваднік, прыйдзі,
Злавесны рулявы, і накіруй
На скалы вострыя змарнелы човен.
П'ю за сваю любоў.

*(П'е.)*

Аптэкар чэсны!
Сказаў ты праўду — моцны твой напітак,
І з пацалункам паміраю я.

*(Памірае.)*

Уваходзіць з другога боку могільніка брат Ларэнца з ліхтаром, ломам і жалезняком.

Брат Ларэнца

Ратуй, святы Францыск! О колькі раз
Я спатыкаўся аб магілы.— Хто тут?

Балтазар

Ваш друг, што ведае вас добра.

Брат Ларэнца

Хай Бог цябе благаславіць. Скажы мне,
Мой добры друг, што гэта там за факел
Дарэмна свеціць чарапам бязвокім?
Здаецца, ён у склепе Капулеці?

Балтазар

Там, там, святы айцец. Там гаспадар мой,
Якога вы так любіце.

Брат Ларэнца

А хто ж ён?

Балтазар

Рамэо.

Брат Ларэнца

Ён даўно там?

Балтазар

З паўгадзіны.

Брат Ларэнца

Хадзем са мною ў склеп.

Балтазар

Баюся, ойча.
Не ведае мой гаспадар, што я ўсё тут.
А ён жа пагражаў мне лютай смерцю,
Калі я застануся падглядаць.

Брат Ларэнца

Дык заставайся, я адзін пайду.
Бяды баюся, страх мяне бярэ.

Балтазар

Калі пад гэтым цісам я заснуў,
Мне снілася — Рамэо з некім біўся,
Мой гаспадар забіў таго.

Брат Ларэнца

Рамэо!

*(Падыходзіць да склепа.)*

О Божа мой, чыёй жа гэта кроўю
Заплямлены ступені ў гэты склеп?
Хто шпагі акрываўленыя кінуў
Тут, у прытулку вечнага спакою?

*(Уваходзіць у склеп.)*

Рамэо! Бледны. Хто ж яшчэ? Парыс.
Увесь ён у крыві. Які жахлівы момант
Віноўнік тут няшчаснага здарэння?
Яна паварушылася, здаецца.

Джульета прачынаецца і ўстае.

Джульета

Святы айцец! А дзе ж мой уладар?
Я помню добра, дзе мне трэба быць,—
На гэтым месцы. Дзе ж Рамэо мой?

Шум за сцэнай.

Брат Ларэнца

Я чую нейкі шум. Хадзем, сіньёра,
Мы з гэтага гнязда заразы, смерці
І сну ненатуральнага. Ёсць сіла
Мацнейшая, чым нашы намаганні,—
Яна разбурыла намеры нашы.
Хадзем хутчэй. Тут на грудзях тваіх
Ляжыць твой мёртвы муж; Парыс — таксама.
Хадзем са мной, у манастыр цябе
Я да сясцёр набожных завяду.
Ты не распытвайся і не марудзь.
Вунь варта. Мілая Джульета,
Хадзем, хадзем! Я не магу застацца.

Ларэнца адыходзіць.

Джульета

Ідзі. Я не пайду адгэтуль. Гэта што?
Сціскае шклянку любага рука.
Атрута тут — прычына смерці ранняй.
О, прагны! Выпіў і ніводнай каплі
Для паратунку не пакінуў мне.
Я вусны буду цалаваць твае,
На іх атрута, можа, засталася,
І ад уцехі гэтай я памру.

*(Цалуе Рамэо.)*

А губы цёплыя твае.

Першы вартавы
*(за сцэнай)*

Ну дзе?
Вядзі паказвай нам, куды ісці.

Джульета

Там шум. Спяшацца трэба мне. Кінжал,
Збавіцель мой!
*(Вымае кінжал з ножан у Рамэо.)*
Вось ножны дзе твае.

*(Заколваецца.)*

Ржавей ты тут, а мне памерці дай.
*(Падае на цела Рамэо і памірае.)*

Уваходзіць **в а р т а з п а ж а м** Парыса.

П а ж

Вунь там, дзе факел той гарыць. Вунь там.

П е р ш ы   в а р т а в ы

Зямля ў крыві. Абшукваць могільнік!
І хто б ні трапіўся, вязаць усіх.
Малюнак страшны. Граф ляжыць забіты;
Джульета ўся ў крыві... і цёплая,
Хоць трэці дзень ужо, як пахавалі.
Хутчэй ідзіце герцагу скажыце!
Паклічце Капулецці! Клічце ўсіх!
Мантэкі пабудзіце зараз жа!
Мы бачым месца жахаў і крыві,
А да прычын страшэннае бяды
Без росшукаў не можам мы дабрацца.

Уваходзяць **н е к а л ь к і   в а р т а в ы х   з   Б а л т а з а р а м.**

Д р у г і   в а р т а в ы

Манах тут; стогне ён, дрыжыць і плача.
Ішоў сюды, а мы яго схапілі
І адабралі лом і жалязняк.

П е р ш ы   в а р т а в ы

О, гэта падазрона! Затрымаць!

Уваходзіць **г е р ц а г   с а   с в і т а й.**

Г е р ц а г

Што за бяда прачнулася так рана
І ранішні спакой наш парушае?

Уваходзяць **К а п у л е ц і,   с і н ь ё р а   К а п у л е ц і   і   і н ш ы я.**

К а п у л е ц і

Што азначае гэты крык трывожны?

С і н ь ё р а   К а п у л е ц і

Народ на вуліцы крычыць: «Рамэо».
А хто: «Джульета», хто: «Парыс» — і ўсе
Да склепа нашага імчацца з крыкам.

Герцаг

Які тут жах трывожыць слых наш?

Першы вартавы

Герцаг,

Вось тут ляжыць забіты граф Парыс,
Рамэо мёртвы, мёртвая Джульета —
І цёплая: забіта толькі што.

Герцаг

Шукаць, знайсці віноўнікаў забойства!

Першы вартавы

Слуга Рамэо тут; а вось — манах.
Пры іх для ўзлому склепа гэтага
Знайшлі прылады.

Капулеці

Жонка, Божа мой!
Ты глянь, дачка ў крыві ўся. Памыліўся
Кінжал: вунь там, пры поясе ў Рамэо,
Яго парожняе жыллё, а ён
У грудзі нашае дачкі ўвайшоў.

Сіньёра Капулеці

О гора! Гэты выгляд смерці мне —
Як пахавальны звон, які гаворыць,
Што старасці маёй пара ў магілу.

Уваходзяць Мантэкі і іншыя.

Герцаг

Ты рана ўстаў, Мантэкі, каб пабачыць,
Што сын адзіны твой так рана лёг.

Мантэкі

Мой уладар, сканала ўночы жонка:
Выгнанне сына ёй жыццё разбіла.
Якой жа мне яшчэ бяды чакаць?

Герцаг

Ты глянь — і ўбачыш.

Мантэкі

О невук, невук ты! Прыстойна хіба
Раней за бацьку класціся ў магілу?



Кандрат Крапіва на сваёй дачы.
Ждановічы. 1973 г.



Кандрат Крапіва і Змітрок Бядуля.
1939 г.

Бранскі фронт, 7 лістапада 1941 г. (*Справа налева*):
Пятрусь Броўка, Міхась Лынькоў, Кандрат Крапіва і інш.



У рэдакцыі газеты «Савецкая Беларусь».
Масква. 1942 г.



Кандрат Крапіва, Міхась Лынькоў, Пятро Глебка.
Мінск. 50-я гг.



Аўтограф землякам.
Узда. 1957 г.



З латышскім пісьменнікам Юліем Ванагам.
1959 г.



Народныя пісьменнікі (*злева направа*):
Іван Шамякін, Кандрат Крапіва, Максім Танк,
Пімен Панчанка, Міхась Лынькоў.
1966 г.



Сярод студэнтаў БДУ імя У. І. Леніна.
1962 г.



Кандрат Крапіва, Рыгор Шырма, Ларыса Александроўская.
1968 г.



З артыстамі-купалаўцамі пасля спектакля *(злева направа)*:
Павел Пекур, Здзіслаў Стома, Лідзія Ржэцкая, Сцяпан Бірыла,
Кандрат Крапіва, Вера Пола, Леанід Рахленка.
1971 г.



Сцэна са спектакля «Брама неўміручасці»
ў пастаноўцы Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы.
Дабрыян — Павел Дубашынскі, Варакса — Арнольд Памазан,
Бабровіч — Сцяпан Бірыла.
1974 г.

Кандрат Крапіва, Пятрусь Броўка, Іван Мележ, Іван Шамякін
на дачы пад Мінскам. 1974 г.

Герцаг

Спыні дакоры горкія да часу,
Пакуль не высветлім падзей жахлівых,
Не знойдзем іх крыніцы і прычын.
Тады праваднікам жалобы вашай
Я стану сам да самае магілы.
Хай гора ваша крыху пацярпіць.
Прывесці падазроных мне сюды!

Брат Ларэнца

Галоўны самы з падазроных — я,
Хоць менш за ўсіх я здольны на злачынства,
Жахлівага забойства час і месца —
Усё паказвае супроць мяне.
Я тут, каб бараніць і вінаваціць,
Каб асудзіць і апраўдаць сябе.

Герцаг

Усё, што ведаеш, кажы адразу.

Брат Ларэнца

Скажу я коратка — іначай бы
На доўгае апавяданне мне
Хвілін маіх апошніх не хапіла.
Рамэо, што ляжыць тут,— муж Джульеты,
І вернай жонкаю была яму
Нябожчыца Джульета. Іх вянчаў я;
Дзень шлюбу тайнага быў смертным днём
Тыбальта; гэта смерць была прычынай
Выгнання маладога мужа. Жонка
Па мужу плакала, не па Тыбальту.
А вы, каб разагнаць тугу яе,
Хацелі выдаць сілаю за графа.
Тут да мяне прыйшла яна з адчаем,
Маліла, каб што-небудзь я прыдумаў
І ўратаваў бы ад другога шлюбу,
А не — забіць сябе гразіла ў келлі.
Тады, навучаны сваім умельствам,
Я даў ёй соннае пітво, якое
Зрабіла тое, што прадбачыў я:
Надаўшы выгляд мёртвае — жывой.
А я тады Рамэо напісаў,
Каб ён прыехаў гэтай ноччу страшнай
Джульету ўзяць з часовае магілы,
Калі надыдзе час прачнуцца ёй.

Але пасланы мною брат Джавані
З пісьмом быў затрыманы выпадкова
І ўчора мне вярнуў яго назад.
Калі ёй тэрмін надышоў прачнуцца,
Забраць яе пайшоў я ў склеп сямейны,
Хацеў у келлі я схаваць яе,
Пакуль змагу паведаміць Рамэо.
Калі ж прыйшоў за некалькі хвілін
Да той пары, калі ёй прачынацца,
Ужо нябожчыкі ляжалі тут —
Рамэо верны і шаноўны граф.
Калі Джульета ўстала, я прасіў
Ісці са мной, скарыцца волі Божай,
Але мяне спалохаў шум раптоўны,
Яна ж ісці са мной не захацела
І, мусіць, тут сама сябе забіла.
Вось тое ўсё, што я магу сказаць.
Пра тайны шлюб пасведчыць можа нянька,
Калі чым-небудзь я тут вінават,
Дык у ахвяру строгаму закону
Раней, чым суджана памерці мне,
Аддайце вы жыццё маё старое.

Герцаг

Заўсёды ў нас ты праведнікам быў,
Але што скажа нам слуга Рамэо?

Балтазар

Пра смерць Джульеты вестку я прынёс
Гаспадару, і з Мантуі сюды
Ён кінуўся да гэтага вось склепа;
Сказаў, каб бацьку перадаў я ўранні
Пісьмо вось гэта. Сам спусціўся ў склеп,
А мне пад страхам смерці загадаў,
Каб я тут аднаго яго пакінуў.

Герцаг

Дай мне пісьмо, я потым прачытаю.
Дзе графаў паж, які паклікаў варту?
Скажы, што гаспадар твой тут рабіў?

Паж

Прынёс ён кветкі на труну сіньёры,
Сказаў мне стаць вунь там; я адышоўся.

I раптам нехта з факелам прыйшоў,
Пачаў узламваць склеп. Мой гаспадар
Тут на яго накінуўся з мячом,
А я пабег тады хутчэй па варту.

Герцаг

Пісьмо расказ манаха пацвярджае
Пра іх любоў, таксама, як пра смерць.
Рамэо піша, што купіў атруту
У беднага аптэкара і з ёй
Прыйшоў у склеп памерці ля Джульеты.
Дзе ж ворагі? Мантэкі! Капулецi!
Вы Богам пакараны за варожасць:
Любоўю радасць вашу ён забіў.
А я за патуранне вам аддаў
Двух сваякоў; усе мы пакараны.

Капулецi

О брат Мантэкі, дай жа мне руку:
Вось частка ўдовіна Джульеты; болей
Я не прашу.

Мантэкі

А я магу даць больш.
Я з золата ёй статую пастаўлю,
Да тых часоў, пакуль стаіць Верона,
Найлепшым самым будзе помнік гэты —
Увасабленнем вернасці Джульеты.

Капулецi

Заззяе і Рамэо разам з ёй —
Ахвяры дзве варожасці сляпой.

Герцаг

З жалобным мірам ранне к нам ідзе
І сонца паказаць не хоча твару.
Хадзем жа пагаворым аб бядзе —
Каго памілаваць, каму даць кару.
Сумнейшая з аповесцей на свеце —
Аповесць аб Рамэо і Джульеце.

Выходзяць.

# Дзяніс Фанвізін

## НЕДАРАСЛЬ

*Камедыя ў пяці дзеях*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Прастакоў.
Пані Прастакова — жонка яго.
Мітрафан — сын іх, недарасль.
Ерамееўна — Мітрафанава мамка.
Праўдзін.
Старадум.
Соф'я — Старадумава пляменніца.
Мілон.
Пан Скацінін — брат пані Прастаковай.
Куцейкін — семінарыст.
Цыфіркін — адстаўны сяржант.
Вральман — настаўнік.
Трышка — кравец.
Слуга Прастакова.
Камердынер Старадума.

Дзея ў вёсцы Прастаковых.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### З'ява І

Пані Прастакова, Мітрафан, Ерамееўна.

Пані Прастакова *(аглядаючы кафтан на Мітрафане).* Кафтан увесь сапсуты. Ерамееўна, вядзі сюды шэльму Трышку.

Ерамееўна адыходзіць.

Ён, злодзей, скрозь яго павузіў. Мітрафанка, любы мой, я думаю, табе цісне страшэнна. Пакліч сюды бацьку.

Мітрафан адыходзіць.

### З'ява ІІ

Пані Прастакова, Ерамееўна, Трышка.

Пані Прастакова *(Трышку).* А ты, быдла, падыдзі бліжэй. Ці не казала я табе, зладзейскае тваё рыла, каб ты кафтан пусціў шырэй. Дзіця, па-першае, расце; па-другое, дзіця і без вузкага кафтана далікатнага складу. Скажы, ёлупень, чым ты апраўдаешся?

Трышка. Дык я ж, панечка, вучыўся самавукам. Я тады ж вам дакладваў: будзьце ласкавы аддаваць краўцу.

Пані Прастакова. Дык хіба канечне трэба быць краўцом, каб умець добра кафтан пашыць? Гэткае быдлячае разважанне!

Трышка. Кравец жа вучыўся, панечка, а я не.

Пані Прастакова. Яшчэ ён жа і спрачаецца! Кравец вучыўся ў другога, другі ў трэцяга, ну а першы кравец у каго ж вучыўся? Кажы, быдла.

Трышка. Ды першы кравец, можа, шыў горш за мяне.

Мітрафан *(убягае).* Клікаў татку. Сказаў — зараз.

Пані Прастакова. Дык пайдзі ж выцягні яго, калі дабром не даклічашся.

Мітрафан. Ды вось і татка.

### З'ява III

Тыя ж і Прастакоў.

Пані Прастакова. Што ты ад мяне хаваешся? Вось, васпан, да чаго я дажыла з тваім патураннем! Якая сыну абноўка да дзядзькавых заручын? Які кафтанік? Трышка пашыў; зрабіў ласку.

Прастакоў *(ад страху заікаючыся)*. Ме... мешкаваты крышку.

Пані Прастакова. Сам ты мешкаваты, разумная галава.

Прастакоў. Ды я думаў, мамулька, што табе так здаецца.

Пані Прастакова. А ты сам хіба аслеп?

Прастакоў. Пры тваіх вачах мае нічога не бачаць.

Пані Прастакова. Вось якім мужаньком надарыў мяне Бог; не здолее сам распазнаць, што шырока, а што вузка.

Прастакоў. У гэтым я табе, матулька, і верыў і веру.

Пані Прастакова. Дык вер жа і таму, што я хлопам патураць не збіраюся. Ідзі, васпан. І зараз жа пакарай...

### З'ява IV

Тыя ж і Скацінін.

Скацінін. Каго? За што? У дзень маіх заручын! Я прашу цябе, сястрыца, дзеля такога свята адкласці пакаранне на заўтра; а заўтра, калі хочаш, я і сам ахвотна дапамагу. Не я буду Тарас Скацінін, калі ў мяне не ўсякая віна вінавата. У мяне ў гэтым, сястрыца, адзін звычай з табою. Ды за што ж ты так загневалася?

Пані Прастакова. Ды, вось, братка, на тваё вочы здамся. Мітрафанка, падыдзі сюды. Ці мешкаваты гэты кафтан?

Скацінін. Не.

Прастакоў. Ды я і сам ужо бачу, мамулька, што ён вузкі.

Скацінін. Я і гэтага не бачу. Кафтанік, брат, пашыты як мае быць.

Пані Прастакова *(Трышку)*. Выйдзі вон, быдла. *(Ерамееўне.)* Ідзі ж, Ерамееўна, дай паснедаць дзіцяці. Мусіць жа, хутка і настаўнікі прыйдуць.

Ерамееўна. Ён ужо і так, матухна, пяць булачак быў ласкаў з'есці.

Пані Прастакова. Дык табе шкада шостай, жывёліна? Вось бач, як стараецца!

Ерамееўна. Ды на здароўе, матухна. Я ж сказала гэта дзеля Мітрафана Цярэнцевіча. Пранудзіўся да самай раніцы.

Пані Прастакова. Ах, Матка Боская! Што з табой зрабілася, Мітрафанка?

Мітрафан. Так, матулька. Учора па вячэры схапіла.

Скацінін. Мусіць, брат, павячэраў ты як мае быць.

Мітрафан. А я, дзядзюшка, амаль і зусім не вячэраў.

Прастакоў. Памятаецца, сынок, ты нешта з'еў?

Мітрафан. Ды што! Сланіны скібачак са тры ды перапечак, не помню, не то пяць, не то шэсць.

Ерамееўна. Уночы раз-поразу піць прасіў. Квасу цэлы збанок выпіць быў ласкаў.

Мітрафан. І цяпер як шалёны хаджу. Усю ноч такая дрэнь у вочы лезла.

Пані Прастакова. Якая ж дрэнь, Мітрафанка?

Мітрафан. Ды то ты, матулька, то татулька.

Пані Прастакова. Як жа гэта?

Мітрафан. Толькі стану засынаць, дык і бачу: здаецца, ты, матулька, б'еш татульку.

Прастакоў *(убок)*. Ну, бяда мая! Сон як у руку даў.

Мітрафан *(распесціўшыся)*. Дык мне і шкода стала.

Пані Прастакова *(з прыкрасцю)*. Каго, Мітрафанка?

Мітрафан. Цябе, матулька, ты так змарылася, лупцуючы татульку.

Пані Прастакова. Абнімі ж мяне, золатка маё! Вось сынок, адна мая ўцеха.

Скацінін. Ну, Мітрафанка, ты, я бачу, матчын сынок, а не бацькаў.

Прастакоў. Прынамсі, я люблю яго, як належыць бацьку; вось разумнае дзіця, пацешнае, жартаўнік! Іншы раз я аж не ведаю, што рабіць, і ад радасці аж сам не веру, што ён мой сын.

Скацінін. Толькі цяпер пацешнік наш стаіць нешта насупіўшыся.

Пані Прастакова. Ці не паслаць ужо ў горад па доктара?

Мітрафан. Не, не, матулька. Я ўжо лепш сам папраўлюся, пабягу цяпер на галубятню, дык, а можа ж, яно...

Пані Прастакова. Дык, а можа ж, Бог літасцівы. Ідзі пабегай, Мітрафанка.

Мітрафан з Ерамееўнаю адыходзяць.

### З'ява V

П а н і  П р а с т а к о в а, П р а с т а к о ў, С к а ц і н і н.

С к а ц і н і н. Што ж я не бачу свае нявесты? Дзе яна? Увечар жа заручыны, дык ці не пара ёй сказаць, што аддаюць яе замуж!

П а н і  П р а с т а к о в а. Паспее, братка. Калі ёй гэта сказаць раней часу, дык яна можа яшчэ падумаць, што мы яе згоды пытаемся. Хоць па мужу, аднак, я ёй радня; а я люблю, каб і чужыя мяне слухалі.

П р а с т а к о ў *(Скацініну)*. Праўду кажучы, мы абышліся з Соф'ечкай як з сапраўднай сіроткай. Пасля бацькі асталася яна маленькаю. Таму з паўгода, як яе матухну, а маю сваццейку прышыбла.

П а н і  П р а с т а к о в а *(паказваючы, быццам хрысціць сэрца)*. Крый нас, Божа...

П р а с т а к о ў. Ад гэтага яна і на той свет пайшла. Дзядзька яе, пан Старадум, паехаў у Сібір; а як праз колькі год ужо не было пра яго ні слыху, ні весткі, то мы і лічым яго нябожчыкам. Мы, бачачы, што яна асталася адна, узялі яе ў сваю вёсачку і наглядаем за яе маёнткам, як за сваім.

П а н і  П р а с т а к о в а. Што, што ты сягоння так расхлусіўся, бацюхна? Яшчэ брат можа падумаць, што мы дзеля карысці яе да сябе ўзялі?

П р а с т а к о ў. Ну, як, мамулька, яму гэта падумаць? Соф'іну нерухомую маёмасць нам да сябе зрушыць нельга.

С к а ц і н і н. А рухомая хоць і зрушана, я не суцяжнік. Скардзіцца я не люблю, ды і баюся. Колькі мяне суседзі ні крыўдзілі, колькі страты ні рабілі, я ні на кога не падаваў у суд, а ўсякую страту, што меў за яе цягацца, здзяру з сваіх жа сялян, так і канцы ў ваду.

П р а с т а к о ў. Гэта праўда, браце: уся аколіца гаворыць, што ты майстар чынш збіраць.

П а н і  П р а с т а к о в а. Хоць бы ты нас навучыў, браткабацюхна; а мы ніяк не ўмеем. З таго часу, як усё, што ў сялян было, мы адабралі, больш нічога ўжо сабраць не можам. Гэткая бяда!

С к а ц і н і н. Калі ласка, сястрыца, навучу вас, навучу, толькі ажаніце мяне з Соф'яй.

П а н і  П р а с т а к о в а. Няўжо табе гэта дзеўчанё так спадабалася?

С к а ц і н і н. Не, мне падабаецца не дзеўчанё.

П р а с т а к о ў. Дык па суседству яе вёсачкі?

Скацінін. І не вёсачкі, а тое, што ў вёсачках яе вядзецца і да чаго я заўзяты ахвотнік.

Пані Прастакова. Да чаго ж, братка?

Скацінін. Люблю свінні, сястрыца, а ў нас у аколіцы такія буйныя свінні, што няма з іх ніводнай, якая, стаўшы на заднія ногі, не была б вышэй за кожнага з нас на цэлую галаву.

Прастакоў. Проста дзіва, браце, як радня да радні падобна бывае. Мітрафанка наш увесь у дзядзьку ўдаўся. І ён да свіней змалку такі самы ахвотнік, як і ты. Як было яму яшчэ тры гады, дык, бывала, убачыўшы свінню, аж закалоціцца з радасці.

Скацінін. Гэта сапраўды дзіва! Ну, няхай, браце, Мітрафан любіць свінні, бо ён мой пляменнік. Тут ёсць нейкае падабенства. Але чаму ж я да свіней такую вялікую прыхільнасць маю?

Прастакоў. І тут ёсць нейкае падабенства. Я так мяркую.

### З'ява VI

Тыя ж і Соф'я.
Соф'я ўвайшла, трымаючы ліст у руцэ і маючы вясёлы выгляд.

Пані Прастакова *(Соф'і)*. Чаго такая вясёлая, матухна? Чаго ўзрадавалася?

Соф'я. Я атрымала толькі што радасную вестку. Дзядзюшка, пра якога так доўга мы нічога не ведалі, якога я люблю і шаную, як роднага бацьку, гэтымі днямі ў Маскву прыехаў. Вось ліст, які я ад яго цяпер атрымала.

Пані Прастакова *(спужаўшыся, са злосцю)*. Як! Старадум, твой дзядзька, жывы? І ты адважваешся выдумляць, што ён уваскрос! Вось яшчэ выдумка!

Соф'я. Ды ён ніколі не паміраў!

Пані Прастакова. «Не паміраў»! А хіба яму і памерці няможна! Не, васпані, гэта твае выдумкі, каб дзядзькам сваім нас запужаць, каб мы далі табе волю. Дзядзька, бачыце, чалавек разумны; ён, убачыўшы мяне ў чужых руках, знойдзе спосаб мяне выратаваць. Вось чаму ты рада, васпані; аднак, мусіць, не вельмі весяліся: дзядзька твой, вядома, не ўваскрасаў.

Скацінін. Сястра, ну а калі не паміраў?

Прастакоў. Барані Божа, калі ён не паміраў.

Пані Прастакова *(да мужа)*. Як не паміраў? Што ты мяне дурыш? Хіба ты не ведаеш, што ўжо некалькі год ад

мяне яго і ў памінальніку за спакой душы паміналі? Няўжо ж такі і грэшныя мае малітвы не даходзілі? *(Да Соф'і.)* А ліст мне дай, будзь ласкава. *(Амаль вырывае.)* Я ў заклад іду, што ён які-небудзь амурны. І дагадваюся — ад каго. Гэта ад таго афіцэра, які дамагаўся з табою ажаніцца і за якога ты сама хацела ісці. Ды якая гэта шэльма без майго папытання аддае табе лісты? Я дабяруся. Вось да чаго дажыліся: дзяўчатам лісты пішуць, дзяўчаты пісьменныя!

Соф'я. Прачытайце яго самі,васпані. Вы ўбачыце, што нічога больш нявіннага быць не можа.

Пані Прастакова. «Прачытайце яго самі»! Не, васпані, я, дзякаваць Богу, не так выхавана. Я магу лісты атрымліваць, а чытаць іх заўсёды загадваю каму другому. *(Мужу.)* Чытай.

Прастакоў *(доўга гледзячы)*. Мудрона.

Пані Прастакова. І цябе, мой бацюхна, выхоўвалі, як мамчыну дачушку. Братка, прачытай, патурбуйся.

Скацінін. Я? Я і зроду нічога ніколі не чытаў, сястрыца! Бог мяне крыў ад гэтай нудоты.

Соф'я. Дазвольце мне прачытаць.

Пані Прастакова. О, матухна! Ведаю, што ты здатная на гэта, ды не вельмі табе веру. Вось зараз настаўнік Мітрафанаў ці не прыйдзе. Яму загадаю...

Скацінін. А ўжо хіба пачалі малайца вучыць?

Пані Прастакова. Ах, бацюхна-братка! Ужо гады чатыры як вучыцца. Няма чаго, грэх сказаць, каб мы не стараліся выхоўваць Мітрафанку — тром настаўнікам грошыкі плацім. Для граматы ходзіць да яго дзячок ад Пакроў — Куцейкін. Арыхметыцы вучыць яго, бацюхна, адзін адстаўны сяржант Цыфіркін. Абодва яны прыходзяць сюды з горада. Ад нас жа і горад за тры вярсты, бацюхна. Па-французску і ўсім навукам навучае яго немец Адам Адамыч Вральман. Гэтаму па трыста рублікаў у год. Садзім за стол з сабою. Бялізну яго нашы бабы мыюць. Куды трэба — конь. За сталом шклянку віна. Нанач лоевая свечка і парык папраўляе наш Фомка дарэмна. Праўду сказаць, і мы ім задаволены, бацюхна-братка. Ён дзіцяці не прынявольвае. Бач, ты, бацюхна, пакуль Мітрафанка яшчэ ў недарослях, патуль яго і папесціць, а там, гадоў праз дзесяць, як увойдзе, барані Божа, у службу, усяго нацерпіцца. Як каму шчасце на раду напісана, братка. З нашай жа радні Прастаковых, глядзі ты, на баку лежачы, ляцяць сабе ў чыны. Чым жа горшы за іх Мітрафанка? А! ды вось з'явіўся якраз дарагі наш пастаялец.

## З'ява VII

Тыя ж і Праўдзін.

Пані Прастакова. Братка, друг мой! Дазволь пазнаёміць цябе з дарагім госцем нашым, панам Праўдзіным; а вас, пане мой, дазвольце пазнаёміць з маім братам.

Праўдзін. Рад з вамі пазнаёміцца.

Скацінін. Добра, пане мой! А як па прозвішчу, недачуў.

Праўдзін. Мяне завуць Праўдзін, каб вы дачулі.

Скацінін. Скуль родам, пане мой, дзе вёсачкі?

Праўдзін. Я нарадзіўся ў Маскве, калі вам гэта ведаць патрэбна, а вёскі мае ў тутэйшым намесніцтве.

Скацінін. А ці, адважуся запытацца, пане мой — імя і па бацьку не ведаю,— у вёсачках вашых свінкі не вядуцца?

Пані Прастакова. Годзе, братка, пра свінні пачынаць. Пагаворым лепш пра наша гора. *(Да Праўдзіна.)* Вось, бацюхна! Бог даў нам узяць на свае рукі дзяўчыну. Яна атрымлівае пісулькі ад дзядзькоў. Да яе з таго свету дзядзькі пішуць. Зрабі ласку, мой бацюхна, патурбуйся, прачытай усім нам уголас.

Праўдзін. Даруйце мне, пані, я ніколі не чытаю лістоў без дазволу тых, да каго яны пісаны.

Соф'я. Я вас аб гэтым прашу. Вы мне гэтым вялікую ласку зробіце.

Праўдзін. Калі вы загадваеце *(чытае)*. «Любая пляменніца! Справы мае прымусілі мяне жыць некалькі гадоў у разлуцы з маёй раднёй, а далечыня пазбавіла мяне прыемнасці мець пра вас весткі. Я цяпер у Маскве, пражыўшы некалькі гадоў у Сібіры. Я магу быць прыкладам, што працаю і сумленнасцю багацце сваё зрабіць можна. Гэтымі спосабамі, з дапамогай шчасця, нажыў я дзесяць тысяч рублёў даходу...»

Скацінін і абое Прастаковы. Дзесяць тысяч!

Праўдзін *(чытае)*: «...якіх цябе, мая любая пляменніца, раблю наследніцай...»

Пані Прастакова. Цябе наследніцаю! }
Прастакоў. Соф'ю наследніцаю! } *Разам*
Скацінін. Яе наследніцаю! }

Пані Прастакова *(кідаючыся абнімаць Соф'ю)*. Віншую, Соф'ечка! Віншую, душа мая! Я сама не свая ад радасці. Цяпер табе патрэбен жаніх. Я, я лепшай нявесты і Мітрафанку не жадаю. Вось дык дзядзька! Вось бацька родны! Я і сама ўсё-такі думала, што Бог яго крыў, што ён яшчэ жыве здаровенек.

Скацінін *(выставіўшы руку)*. Ну, сястрыца, хутчэй жа па руках.

Пані Прастакова *(ціха Скаціціну).* Пачакай, братка. Спачатку трэба папытацца ў яе, ці хоча яшчэ яна за цябе ісці.

Скацінін. Як! Што за пытанне! Няўжо ж ты ў яе згоды будзеш пытацца?

Праўдзін. Ці дазволіце ліст дачытаць?

Скацінін. А нашто? Ды хоць пяць год чытай, лепш, як дзесяць тысяч, не вычытаеш.

Пані Прастакова *(да Соф'і).* Соф'ечка, душа мая! Хадзем да мяне ў спальню. Мне канечне трэба з табой пагаварыць. *(Павяла Соф'ю.)*

Скацінін. А! дык я бачу, што сёння заручыны наўрад ці будуць.

### З'ява VIII

Праўдзін, Прастакоў, Скацінін, слуга.

Слуга *(да Прастакова, засопшыся).* Панок, панок! Салдаты прыйшлі, спыніліся ў нашай вёсцы.

Прастакоў. Якая бяда! Ну, спустошаць нас дарэшты.

Праўдзін. Чаго вы спужаліся?

Прастакоў. Ах ты, бацюхна! Мы пабачылі ўжо на сваім вяку. Я да іх і паткнуцца баюся.

Праўдзін. Не бойцеся. Іх, вядома, вядзе афіцэр, які не дапусціць ніякай нахабнасці. Хадзем да яго са мной. Я ўпэўнены, што вы баіцеся дарэмна.

Праўдзін, Прастакоў і слуга адыходзяць.

Скацінін. Усе мяне аднаго пакінулі. Пайсці хіба прагуляцца ля хлявоў.

Канец першай дзеі

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

### З'ява I

Праўдзін, Мілон.

Мілон. Як я рад, мой любы дружа, што неспадзявана ўбачыўся з табой! Скажы, якім выпадкам...

Праўдзін. Як друг скажу табе прычыну майго тут знаходжання. Я прызначан членам у намесніцтве тутэйшым. Маю загад аб'ехаць тутэйшую акругу; а пры гэтым, паводле

імкнення сэрца свайго, не прамінаю выпадку заўважаць тых злых невукаў, якія, маючы над людзьмі сваімі ўладу, здзекуюцца з іх бязлітасна. Ты ведаеш погляды нашага намесніка. З якой любасцю дапамагае ён пакутнаму чалавецтву! З якой стараннасцю выконвае ён тым самым чалавекалюбныя намеры вышэйшай улады. Мы ў нашым краі самі пераканаліся, што дзе намеснік такі, якім паказан намеснік ва ўстанаўленні, там становішча насельнікаў пэўнае і надзейнае. Я жыву тут ужо тры дні. Знайшоў памешчыка, дурня несусветнага, а жонку, злую фурыю, пякельная натура якой робіць няшчасце ўсяго іх дому. Ты што задумаўся, мой друг? Скажы мне, ці доўга тут астанешся?

Мілон. Праз некалькі гадзін іду адгэтуль.

Праўдзін. Што так хутка? Адпачні.

Мілон. Не магу. Мне загадана і салдат весці, не бавячыся... ды, апрача таго, я сам гару нецярплівасцю быць у Маскве.

Праўдзін. Што за прычына?

Мілон. Адкрыю табе таямніцу сэрца майго, любы дружа! Я закаханы і маю шчасце быць каханым. Больш паўгода, як я ў разлуцы з таею, якая мне даражэй за ўсё на свеце, і, што яшчэ больш сумна, нічога не чуў я пра яе за ўвесь гэты час. Часта, лічачы, што прычынаю маўчання з'яўляецца яе халоднасць, я моцна нудзіўся; але раптам атрымаў вестку, якая мяне здзівіла. Пішуць мне, што па смерці яе мацеры нейкая далёкая радня завезла яе ў свае вёскі. Я не ведаю, ні хто, ні куды. Можа, яна цяпер у руках якіх-небудзь карыслівых скнараў, якія, карыстаючыся яе сіроцтвам, трымаюць яе ў тыранстве. Ад аднае гэтай думкі я сам не свой.

Праўдзін. Гэтакую нялюдскасць бачу я і ў тутэйшым доме. Спадзяюся, аднак, палажыць хутка мяжу злосці жонкі і дурасці мужа. Я паведаміў ужо пра ўсё тутэйшае варварства нашаму намесніку і ўпэўнены, што для ўтаймавання іх робяць усе захады.

Мілон. Шчаслівы ты, мой дружа, маючы магчымасць рабіць палёгку няшчасным. Не ведаю, што мне рабіць у сумным маім становішчы.

Праўдзін. Дазволь мне спытацца пра яе імя.

Мілон *(у захапленні)*. А! вось яна сама.

**З'ява II**

Тыя ж і Соф'я.

Соф'я. Мілон! Ці цябе гэта я бачу?

Праўдзін. Якое шчасце!

Мілон. Вось тая, што валодае маім сэрцам. Любая Соф'я! Скажы мне, якім выпадкам тут знаходжу цябе?

Соф'я. Колькі гора выцерпела я з дня нашай разлукі! Несумленныя мае сваякі...

Праўдзін. Мой дружа, не пытайся пра тое, што так ёй прыкра... Ты даведаешся ад мяне, якія грубасці...

Мілон. Нягоднікі!

Соф'я. Сягоння, аднак жа, першы раз тутэйшая гаспадыня перамяніла са мной сваё абыходжанне. Пачуўшы, што дзядзька мой робіць мяне наследніцаю, раптам з грубай і сварлівай зрабілася ліслівай да самай нізкасці, і я з усіх яе намяканняў бачу, што рыхтуе мяне за жонку свайму сыну.

Мілон *(з нецярплівасцю)*. І ты не выказала ёй зараз жа свае зняваі?

Соф'я. Не...

Мілон. І не сказала ёй, што ты маеш сардэчныя абавязацельствы, што...

Соф'я. Не.

Мілон. А, цяпер бачу я маю пагібель. Праціўнік мой шчаслівы! Я не адмаўляю ў ім усіх якасцей: ён, можа, разумны, адукаваны, далікатны, але каб мог са мною зраўнавацца ў маім да цябе каханні, каб...

Соф'я *(усміхаючыся)*. Божа мой! Калі б ты яго ўбачыў, рэўнасці б тваёй канца-краю не было!

Мілон *(з абурэннем)*. Я ўяўляю ўсе яго якасці...

Соф'я. Усіх і ўявіць не можаш. Яму хоць і шаснаццаць год, а ён дасягнуў ужо апошняй ступені свае дасканаласці і далей не пойдзе.

Праўдзін. Як далей не пойдзе, пані? Ён давучвае Часаслоў; а там, трэба думаць, возьмуцца і за Псалтыр.

Мілон. Як! Дык гэта такі мой праціўнік! Любая Соф'я, нашто ты і жартамі мяне мучыш? Ты ведаеш, як лёгка палкі чалавек хвалюецца пры самым нязначным падазрэнні. Скажы ж мне, што ты ёй адказала?

Тут Скацінін ідзе на сцэну, задумаўшыся, і ніхто яго не бачыць.

Соф'я. Я сказала, што лёс мой залежыць ад волі майго дзядзькі, што ён сам сюды прыехаць абяцаў у лісце ў сваім, якога *(да Праўдзіна)* не дазволіў вам дачытаць пан Скацінін.

Мілон. Скацінін!

Скацінін. Я!

## З'ява III

Тыя ж і Скацінін.

Праўдзін. Як вы падкраліся, пан Скацінін! Гэтага б я ад вас і не чакаў.

Скацінін. Я праходзіў паўз вас. Пачуў, што мяне клічуць, я і адгукнуўся. У мяне такі звычай, хто гукне — Скацінін! А я яму: я! Што вы, браткі, сапраўды? Я сам служыў у гвардыі і ў адстаўку выйшаў капралам. Бывала, на зборы пры пераклічцы як закрычаць: Тарас Скацінін, а я на ўсё горла: я!

Праўдзін. Мы вас цяпер не клікалі, і вы можаце ісці, куды ішлі.

Скацінін. Я нікуды не ішоў, а хаджу, задумаўшыся. У мяне такі звычай, як чаго набяру ў галаву, дык з яе цвіком не выб'еш. У мяне, чуеш ты, што ўвайшло ў розум, тут і заселася. Пра тое ўся і думка, тое толькі і сню, што бачу, і бачу тое, што сню...

Праўдзін. Што ж бы вас так цяпер клапаціла?

Скацінін. Ох, братка, друг ты мой любы! Са мной цуды творацца. Сястрыца мая вывезла мяне як найхутчэй з мае вёскі ў сваю, а калі таксама жвава вывезе мяне з свае вёскі ў маю, то магу перад цэлым светам з чыстым сумленнем сказаць: ездзіў я ні па што, прывёз нічога.

Праўдзін. Які жаль, пане Скацінін! Сястрыца ваша гуляе вамі, як мячыкам.

Скацінін *(раззлаваўшыся)*. Як мячыкам? Крый Божа; ды я і сам зашпурну яе так, што цэлаю вёскаю за тыдзень не знойдзеш.

Соф'я. Ах, як вы раззлаваліся!

Мілон. Што з вамі зрабілася?

Скацінін. Сам ты, разумны чалавек, памяркуй. Прывезла мяне сястра сюды жаніцца. Цяпер сама ж пад'ехала з адгаворам: «Што табе, кажа, братка, у той жонцы, была б у цябе, братка, добрая свіння». Не, сястра! Я і сваіх парасят загадаваць хачу. Мяне не абдурыш.

Праўдзін. Мне і самому здаецца, пане Скацінін, што сястрыца ваша думае пра вяселле, толькі не пра ваша.

Скацінін. Вось наўда! Я другому не перашкода. Кожны хай жэніцца з сваёй нявестаю. Я чужой не крану, і маю ж чужы не чапай. *(Соф'і.)* Ты не бойся, любачка: цябе ў мяне ніхто не адаб'е.

Соф'я. Гэта што азначае? Вось яшчэ навіна!

Мілон *(закрычаў)*. Якая нахабнасць!

Скацінін *(да Соф'і)*. Чаго ж ты спужалася?

Праўдзін *(Мілону)*. Як ты можаш злавацца на Скацініна!

Соф'я *(Скацініну)*. Няўжо суджана мне быць вашаю жонкаю?

Мілон. Я насілу магу стрымацца.

Скацінін. Суджанага канём не аб'едзеш, любачка. Табе на тваё шчасце грэх наракаць. Ты будзеш жыць са мною прыпяваючы. Дзесяць тысяч твайго прыбытку! Гэтакае шчасце прываліла, ды я гэтулькі зроду не бачыў; ды я на іх усе свінні з белага свету скуплю; ды я, чуеш ты, тое зраблю, што ўсе затрубяць: у тутэйшай, скажуць, аколіцы і жыццё адным свінням.

Праўдзін. Калі ж у вас могуць быць шчаслівымі адны толькі жывёлы, то жонцы вашай ад іх і ад вас будзе дрэнны спакой.

Скацінін. «Дрэнны спакой»! О-го-го! Ды хіба святліц у мяне мала? Для яе аднае адвяду бакоўку з ляжанкаю. Друг ты мой любы! калі ў мяне цяпер, нічога не бачыўшы, для кожнай свінкі хлевушок асобны, то жонцы знайду святлічку.

Мілон. Якое быдлячае параўнанне!

Праўдзін *(Скацініну)*. Нічога не будзе, пане Скацінін! Я скажу вам проста: сястрыца ваша мае намер узяць яе за свайго сынка.

Скацінін *(раззлаваўшыся)*. Як! Пляменніку адбіваць у дзядзькі! Ды я яго пры першым спатканні як чорта скалечу. Ну, хай буду я свінячы сын, калі я не буду яе мужам, альбо Мітрафан калекаю.

## З'ява IV

Тыя ж, Ерамееўна і Мітрафан.

Ерамееўна. Ды павучыся хоць трошачкі.

Мітрафан. Ну, яшчэ слова рэкні, старая порхаўка, дык я табе дам дыхту. Я зноў паскарджуся матулі; дык яна табе зробіць ласку, дасць лупцоўку па-ўчарайшаму.

Скацінін. Падыдзі сюды, даражэнькі.

Ерамееўна. Зрабі ласку, падыдзі да дзядзюшкі.

Мітрафан. Як маешся, дзядзюшка! Што ты ашчацініцца зрабіў ласку?

Скацінін. Мітрафан! Глядзі на мяне прасцей.

Ерамееўна. Паглядзі, бацюхна.

Мітрафан *(Ерамееўне)*. Ды дзядзюшка, што за дзіва такое? Што на ім убачыш?

Скацінін. Яшчэ раз: глядзі на мяне прасцей.

Ерамееўна. Ды не гняві дзядзюшку. Вунь, будзь ласкаў, глянуць, бацюхна, як ён вочкі вытрашчыў, і ты свае, зрабі ласку, таксама вытрашчы.

Скацінін і Мітрафан, вылупіўшы вочы, глядзяць адзін на аднаго.

Мілон. Вось цікавая размова!

Праўдзін. Чым толькі яна скончыцца?

Скацінін. Мітрафан! Ты цяпер ад смерці на валаску. Скажы ўсю праўду. Калі б я граху не пабаяўся, я б цябе, не кажучы больш ні слова, за ногі ды аб вугал; ды не хачу загубіць душу, не знайшоўшы вінаватага.

Ерамееўна *(задрыжала)*. Ах, абязвечыць ён яго! Куды маёй галаве дзявацца?

Мітрафан. Што ты, дзядзюшка? Блёкату аб'еўся? Ды я ведаць не ведаю, за што ты на мяне напасці зрабіў ласку.

Скацінін. Глядзі ж, не адпірайся, каб я са злосці адным махам не выбіў з цябе духу. Тут ужо рукі не падставіш. Мой грэх: вінават Богу і цару. Глядзі ж, не хлусі на сябе, каб дарэмных пабояў не прыняць.

Ерамееўна. Крый Божа ад дарэмшчыны!

Скацінін. Ці хочаш ты жаніцца?

Мітрафан *(пяшчотна)*. Ужо даўно, дзядзюшка, ахвота бярэ.

Скацінін *(кідаючыся да Мітрафана)*. Ах ты, дзюдзя праклятая!..

Праўдзін *(не дапускаючы Скацініна)*. Пане Скацінін! Рукам волі не давай.

Мітрафан. Мамка, барані мяне!

Ерамееўна *(засланяючы Мітрафана, раз'юшыўшыся і падняўшы кулакі)*. Здохну на месцы, а дзіцяці не папушчу! Сунься, васпан, толькі будзь ласкаў сунуцца! Я табе бельмы выдзеру.

Скацінін *(задрыжаўшы і грозячы, адыходзіць)*. Я вас даканаю!

Ерамееўна *(задрыжаўшы, услед)*. У мяне і свае кіпцюры вострыя.

Мітрафан *(услед Скацініну)*. Вымятайся, дзядзюшка! Кацісся!

## З'ява V

Тыя ж і абое Прастаковы.

Пані Прастакова *(мужу, ідучы)*. Тут хлусіць няма чаго. Увесь век, васпан, ходзіш развесіўшы вушы.

Прастакоў. Ды ён сам з Праўдзіным з вачэй маіх згінуў ды прапаў. Я што, вінават?

Пані Прастакова *(да Мілона)*. А, мой бацюхна, пан афіцэр! Я вас цяпер шукала па ўсёй вёсцы, мужа з ног збіла, каб выказаць вам, бацюхна, вялікую падзяку за добрую каманду.

Мілон. За што, пані?

Пані Прастакова. Як за што, мой бацюхна! Салдаты такія добрыя. Да гэтага часу валаска ніхто не крануў. Не гневайся, мой бацюхна, што вырадак мой вас прамаргаў. Зроду нікога пачаставаць не ўмее. Ужо такою рохляю ўрадзіўся, мой бацюхна.

Мілон. Я зусім не гневаюся, пані.

Пані Прастакова. На яго, мой бацюхна, находзіцьтакі, як у нас кажуць, слупняк. Іншы раз, вылупіўшы вочы, стаіць цэлую гадзіну як укопаны. Чаго ўжо я з ім не рабіла, чаго толькі ён ад мяне не перанёс. Нічым не праймеш. Калі слупняк і пройдзе, дык пачне, мой бацюхна, такое плявузгаць, што просіш Бога, каб зноў аслупянеў.

Праўдзін. Прынамсі, пані, вы не можаце паскардзіцца, што ён злоснай натуры. Ён ціхі...

Пані Прастакова. Як цялё, мой бацюхна; таму вось у нас у доме ўсё раздурана. У яго няма таго ў розуме, каб у доме пострах быў, каб пакараць як мае быць вінаватага. Усё сама ўвіхаюся, бацюхна. Зранку да вечара, як за язык павешана, рук не апускаю, то сваруся, то б'юся; тым і дом трымаецца, бацюхна.

Праўдзін *(убок)*. Хутка будзе ён трымацца іншым чынам.

Мітрафан. І сёння матуля ласкава была ўсю раніцу правалтузіцца з хлопамі.

Пані Прастакова *(Соф'і)*. Прыбірала пакоі для твайго любага дзядзюшкі. Паміраю, хачу бачыць гэтага шаноўнага старэнькага. Я пра яго шмат наслухалася. І ворагі яго кажуць толькі, што ён трошачкі пануры; а такі, кажуць, разумны, ды калі ўжо каго палюбіць, дык проста любіць.

Праўдзін. А каго ён няўзлюбіць, той благі чалавек. *(Соф'і.)* Я і сам маю гонар ведаць вашага дзядзюшку. А звыш таго, шмат ад каго чуў пра яго тое, што напоўніла маю душу шчыраю да яго пашанаю. Што называюць у ім пану-

расцю, грубасцю, гэта толькі адно выяўленне яго адкрытай праўдзівасці. Зроду язык яго не казаў **так,** калі душа яго адчувала **не.**

Соф'я. Затое і шчасце сваё павінен быў ён здабываць працаю.

Пані Прастакова. Змілаваўся над намі Бог, што ўдалося. Нічога так не жадаю, як яго бацькаўскай ласкі для Мітрафанкі. Соф'ечка, любая, ці не будзеш ласкава паглядзець дзядзькаў пакой?

Соф'я адыходзіць.

*(Прастакову.)* Зноў разявакаю стаіш, мой бацюхна. Ды будзь ласкаў, васпан, правесці яе. Ногі ж мо не адняліся.

Прастакоў *(адыходзячы).* Не адняліся, але памлелі.

Пані Прастакова *(да гасцей).* Адзін мой клопат, адна мая ўцеха — Мітрафанка. Мой век праходзіць, яго рыхтую ў людзі.

Тут з'яўляюцца Куцейкін з Часасловам, а Цыфіркін з аспіднаю дошкаю і грыфелем. Абодва яны кіўкамі пытаюцца ў Ерамееўны, ці ўваходзіць. Яна ім ківае пальцам, каб ішлі, а Мітрафан адмахвае.

*(Не бачачы іх, гаворыць далей.)* Ану ж, можа, ласка боская, і шчасце на раду яму напісана.

Праўдзін. Агляніцеся, пані, што за вамі робіцца.

Пані Прастакова. А! Гэта, бацюхна, Мітрафанкавы настаўнікі: Сідорыч Куцейкін... Ерамееўна. І Пафнуціч Цыфіркін.

Мітрафан. Няхай іх паралюш! І з Ерамееўнай разам.

Куцейкін. Дому владыке мір і многія лета з чады і домачадцы.

Цыфіркін. Жадаем вашаму благароддзю здаровенькімі быць сто год, ды дваццаць, ды яшчэ пятнаццаць, незлічоныя гады.

Мілон. А! Гэта наш брат, служака! Адкуль узяўся, даражэнькі?

Цыфіркін. Быў гарнізонным, ваша благароддзе, а цяпер пайшоў па чыстай.

Мілон. Чым жа ты жывішся?

Цыфіркін. Ды як-небудзь, ваша благароддзе. Маласць у арыхметыцы цямлю, дык і жыўлюся ў горадзе каля прыказных службоўцаў пры лічэбных справах. Не кожнаму адкрыў Бог навуку, дык, хто сам не цяміць, мяне наймае, то рахуначак праверыць, то падсумаваць. Тым і жыўлюся: гультаяваць не люблю. Час маючы, дзяцей вучу. Вось і ў іх

благароддзя з хлапцом трэці год над ломанымі б'ёмся, ды нешта дрэнна клеіцца; ну і то праўда, чалавек на чалавека не прыходзіцца.

П а н і  П р а с т а к о в а. Што? Што ты гэта, Пафнуціч, хлусіш? Я недачула.

Ц ы ф і р к і н. Так. Я яго благароддзю дакладваў, што ў іншага пня за дзесяць год не ўдзяўбеш таго, што другі на ляту ловіць.

П р а ў д з і н *(Куцейкіну)*. А ты, пане Куцейкін, ці не з вучоных?

К у ц е й к і н. З вучоных, ваша благароддзе! Семінарыі тутэйшай епархіі. Хадзіў да рыторыкі ды з Божай ласкі назад вярнуўся. Падаваў у кансісторыю чалабітную, у якой прапісаў: «Такі вось семінарыст, з царкоўнічых дзяцей збаяўся бездані прамудрасці, просіць ад яе вызвалення». На што і літасцівая рэзалюцыя неўзабаве была дадзена, з адзнакаю: «Такога вось семінарыста ад усякага вучэння вызваліць: пісана бо есць, «не мечите бисера пред свиньями, да не попрут его ногами».

П а н і  П р а с т а к о в а. Ды дзе ж наш Адам Адамыч?

Е р а м е е ў н а. Я і да яго была паткнулася, дык ледзь пражывая выпаўзла: дыму хмары, мая матухна! Задушыў, пракляты, тытуніўшчам. Як ён і граху не баіцца!

К у ц е й к і н. Глупства, Ерамееўна! Няма граху ў курэнні тытуню.

П р а ў д з і н *(убок)*. Куцейкін яшчэ і мудрагеліць.

К у ц е й к і н. У шмат якіх кнігах дазваляецца; у Псалтыры якраз надрукавана: «І злак на службу чалавекам».

П р а ў д з і н. Ну, а яшчэ дзе?

К у ц е й к і н. І ў другім Псалтыры надрукавана тое самае. У нашага пратапопа маленькі, у васьмушку, і ў тым тое самае.

П р а ў д з і н *(Прастаковай)*. Я не хачу перашкаджаць практыкавацца сыну вашаму, бывайце здаровы.

М і л о н. Таксама і я, пані.

П а н і  П р а с т а к о в а. Куды ж вы, паночкі мае?

П р а ў д з і н. Я павяду яго ў мой пакой. Сябры, даўно не бачыўшыся, шмат пра што пагаварыць маюць.

П а н і  П р а с т а к о в а. А есці дзе будзеце ласкавы — з намі ці ў сваім пакоі? У нас за сталом толькі свая сям'я з Соф'ечкай.

М і л о н. З вамі, з вамі, шаноўная.

П р а ў д з і н. Мы абодва гэты гонар мець будзем.

## З'ява VI

Пані Прастакова, Ерамееўна, Мітрафан, Куцейкін, Цыфіркін.

Пані Прастакова. Ну, дык цяпер хоць па-руску прачытай зады, Мітрафанка.

Мітрафан. Але, зады! Чаму не.

Пані Прастакова. Век жыві, век вучыся, сынок мой любы! Такая справа.

Мітрафан. Дзіва, што такая! Наўме тут вучэнне. Ты б яшчэ сюды дзядзькоў навезла!

Пані Прастакова. Што? Што такое?

Мітрафан. Але! так і не агледзішся, як ад дзядзькі лупцоўка. А там з яго кулакоў ды за Часаслоў. Не, так, дзякуй вам за ласку, лепш ужо канцы сабе зрабіць.

Пані Прастакова *(спужаўшыся)*. Што, што ты хочаш рабіць? Апамятайся, любенькі!

Мітрафан. Тут жа і рэчка блізка. Боўтну — толькі мяне і бачылі.

Пані Прастакова *(сама не свая)*. Зарэзаў! Зарэзаў! Бог з табою!

Ерамееўна. Усё дзядзюхна напужаў. Траха быў у валаскі не ўплёўся. А ні за што... ні пра што...

Пані Прастакова *(у злосці)*. Ну...

Ерамееўна. Прыстаў да яго: ці хочаш ты жаніцца?

Пані Прастакова. Ну...

Ерамееўна. Дзіця не стаілася: ужо даўно, кажа, дзядзюшка, ахвота бярэ! — А ён жа калі раз'юшыцца, мая матухна, калі кінецца да яго!

Пані Прастакова *(калоцячыся)*. Ну... а ты, падлюга, аслупянела, а ты не ўшчарэпілася братку ў храпу, а ты не разадрала яму рыла па вушы...

Ерамееўна. Узялася была! Ох, узялася, ды...

Пані Прастакова. Ды... ды што... не тваё дзіця, падлюга! Па табе дзіця хоць насмерць забі.

Ерамееўна. Ах, Божухна-Бацюхна! Ды каб братка ў тую ж хвіліну не адышоўся, дык я б з ім павалтузілася. Ужо што Бог не даў бы. Ступіліся б гэтыя *(паказваючы на пазногці)*, я б і іклаў не пашкадавала.

Пані Прастакова. Усе вы, шэльмы, стараецеся толькі языком...

Ерамееўна *(заплакаўшы)*. Я не стараюся вам, матухна! Ужо як лепш служыць, не ведаеш... рада б не толькі што... сама сябе не сцеражэш... а ўсё не дагодзіш.

Куцейкін. Нам ісці загадаеце? } *Разам*
Цыфіркін. Нам куды паход, ваша благароддзе? }

Пані Прастакова. Ты ж яшчэ, старая ведзьма, і разраўлася. Ідзі, накармі іх з сабою, а па абедзе зараз жа зноў сюды. *(Да Мітрафана.)* Хадзем са мной, Мітрафанка. Я цябе з вачэй цяпер не спушчу. Як скажу я табе нештачка, дык пажыць на свеце зажадаецца. Не век табе, маё дзіцятка, не век табе вучыцца, ты, дзякаваць Богу, столькі ўжо разумееш, што і сам загадуеш дзетачак. *(Да Ерамееўны.)* З братком паквітаюся не па-твойму. Няхай жа ўсе добрыя людзі ведаюць, што мамка і што маці родная.

Адыходзіць з Мітрафанам.

Куцейкін. Жыццё тваё, Ерамееўна, яко цьма кромешная. Хадзем жа за трапезу ды з гора вып'ем раней чарку...

Цыфіркін. А там другую — вось табе і памнажэнне.

Ерамееўна *(у слязах)*. Не прыбярэ мяне Бог з гэтага свету! Сорак год служу, а ласка ўсё тая самая...

Куцейкін. А ці вялікая благастыня?..

Ерамееўна. Па пяць рублёў на год ды па пяць апляvух на дзень!

Куцейкін і Цыфіркін вядуць яе пад рукі.

Цыфіркін. Падлічым жа за сталом, колькі прыбытку табе за цэлы год.

Канец другой дзеі

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

### З'ява I

Старадум і Праўдзін.

Праўдзін. Як толькі з-за стала ўсталі і я, падышоўшы да акна, убачыў вашу карэту, то, не сказаўшы нікому, выбег вам насустрач абняць вас ад усяго сэрца. Мая да вас шчырая пашана...

Старадум. Яна мне вельмі дарагая. Павер мне.

Праўдзін. Ваша да мяне дружба тым больш прыемная, што вы не можаце мець яе да другіх, апрача такіх...

С т а р а д у м. Як ты. Я гавару без чыноў. Пачынаюцца чыны — прападае шчырасць.

П р а ў д з і н. Ваша абыходжанне...

С т а р а д у м. З яго шмат хто смяецца. Я гэта ведаю. Няхай так. Бацька мой выхаваў мяне па-тагачаснаму, а я не палічыў патрэбным сябе перавыхоўваць. Служыў ён Пятру Вялікаму. Тады адзін чалавек называўся **ты,** а не **вы,** тады не ўмелі яшчэ заражаць людзей так, каб адзін лічыў сябе за многіх. Затое цяпер многія не варты аднаго. Бацька мой пры двары Пятра Вялікага...

П р а ў д з і н. А я чуў, што ён на вайсковай службе...

С т а р а д у м. У тым стагоддзі прыдворныя былі ваякамі, але ваякі не былі прыдворнымі. Выхаванне было дадзена мне маім бацькам паводле таго часу найлепшае. У той час да навучання мала было спосабаў, ды і не ўмелі яшчэ чужым розумам набіваць пустую галаву.

П р а ў д з і н. Тагачаснае выхаванне сапраўды складалася з некалькіх правіл...

С т а р а д у м. З аднаго. Бацька мой заўсёды казаў мне адно: май сэрца, май душу і будзеш чалавекам ва ўсякі час. На ўсё іншае мода: на розум мода, на веды мода, як на спрожжкі, на гузікі.

П р а ў д з і н. Вы кажаце праўду. Сапраўдная вартасць у чалавеку — гэта душа.

С т а р а д у м. Без яе самы адукаваны разумнік — нікчэмнае стварэнне. *(З пачуццём.)* Невук без душы — звер. Самы дробны выпадак наводзіць яго на ўсялякае злачынства. Паміж тым, што ён робіць, і тым, для чаго ён робіць, ніякай меры ў яго няма. Ад такіх вось жывёлін прыйшоў я вызваліць...

П р а ў д з і н. Вашу пляменніцу. Я гэта ведаю. Яна тут. Пойдзем...

С т а р а д у м. Чакай. Сэрца маё кіпіць яшчэ абурэннем на ганебны ўчынак маіх гаспадароў. Пабудзем тут некалькі хвілін. У мяне правіла: пад першым уражаннем нічога не пачынаць.

П р а ў д з і н. Рэдка хто правіла вашага прытрымлівацца ўмее.

С т а р а д у м. Практыка жыцця майго мяне да гэтага прывучыла. О, каб я раней умеў валодаць сабой, я меў бы прыемнасць даўжэй служыць бацькаўшчыне.

П р а ў д з і н. Якім жа чынам? Здарэнні з такім чалавекам, як вы, ні для каго абыякавымі быць не могуць. Вы мне зробіце вялікую ласку, калі раскажаце...

С т а р а д у м. Я ні ад каго іх не таю для таго, каб іншыя ў падобным становішчы аказаліся разумнейшымі за мяне. Пайшоўшы на вайсковую службу, пазнаёміўся я з маладым

графам, імя якога я і ўспомніць не хачу. Ён быў па службе малодшы за мяне, сын фаварыта пры двары, выхаваны ў вялікім свеце, і меў асаблівы выпадак навучыцца таму, што ў наша выхаванне яшчэ не ўваходзіла. Я ўсе сілы ўжыў, каб заслужыць яго дружбу, каб заўсёдным з ім абыходжаннем узнагародзіць недахопы майго выхавання. У самы той час, калі ўзаемная наша дружба ўсталявалася, пачулі мы раптоўна, што абвешчана вайна. Я кінуўся абнімаць яго з радасці: «Любы граф, вось выпадак нам вызначыцца! Пойдзем у армію і зробімся вартымі годнасці двараніна, якую даў нам род». Раптам мой граф моцна скрывіўся і, абняўшы мяне, суха: «Шчаслівага табе падарожжа,— сказаў мне,— а я спадзяюся, бацька не захоча са мной расстацца». Ні з чым нельга параўнаць пагарды, якую адчуў я да яго ў гэтую хвіліну. Тут убачыў я, што паміж фаварытамі і людзьмі паважанымі бывае часамі велізарная розніца, што ў вялікім свеце бываюць часамі мізэрныя душы і што з вялікай асветай можна быць вялікім нягоднікам.

П р а ў д з і н. Святая праўда.

С т а р а д у м. Пакінуўшы яго, паехаў я зараз жа, куды клікаў мяне абавязак. Шмат выпадкаў меў я вызначыцца. Раны мае сведчаць, што я іх не прапускаў. Добрая думка пра мяне начальнікаў і войска была прыемнаю ўзнагародаю мае службы, як раптам атрымаў я паведамленне, што граф, мой ранейшы знаёмы, пра якога мне агідна было ўспомніць, узвялічан у чыне, а абойдзен я — я, які ляжаў тады ад ран у цяжкай хваробе! Такая несправядлівасць раскрамсала мне сэрца, і я зараз жа ўзяў адстаўку.

П р а ў д з і н. А што ж іначай і рабіць належала?

С т а р а д у м. Належала абдумацца. Не ўмеў я асцерагчыся ад першых парываў раздражненай маёй ганарлівасці. Гарачнасць не дазволіла мне тады разважыць, што сапраўды ганарлівы чалавек зайздросціць справе, а не чынам, што чыны часта выпрашваюцца, а сапраўдную пашану трэба заслужыць; што куды больш сумленна быць без віны абойдзеным, чым без заслуг узнагароджаным.

П р а ў д з і н. А хіба ж двараніну не дазваляецца ўзяць адстаўку ні ў якім выпадку?

С т а р а д у м. У адным толькі: калі ён унутрана пераканаены, што служба яго бацькаўшчыне карысці не дасць. А! тады ідзі...

П р а ў д з і н. Вы даеце адчуваць сапраўдную сутнасць абавязку двараніна...

## З'ява II

Тыя ж і Соф'я.

Соф'я *(да Праўдзіна)*. Ратунку мне няма ад іх крыку.

Старадум *(убок)*. Вось рысы твару яе маці. Вось мая Соф'я!

Соф'я *(гледзячы на Старадума)*. Божа мой! Ён мяне назваў! Сэрца маё мяне не падманвае...

Старадум *(абняўшы яе)*. Не! Ты дачка маёй сястры, дачка сэрца майго!

Соф'я *(кідаецца яму ў абдымкі)*. Дзядзюшка! Я сама не свая ад радасці.

Старадум. Любая Соф'я! Я даведаўся ў Маскве, што ты жывеш тут не па сваёй ахвоце. Мне на свеце шэсцьдзесят год. Здаралася быць часта раззлаваным, іншы раз быць сабою задаволеным. Нічога так не крамсала майго сэрца, як нявіннасць у сецях хітрыкаў. Ніколі не бываў я так сабою задаволены, як тады, калі здаралася вырваць здабычу з рук злачынства.

Праўдзін. Як прыемна быць гэтаму і сведкаю!

Соф'я. Дзядзюшка! Ваша да мяне ласка...

Старадум. Ты ведаеш, што я адною табою прывязан да жыцця. Ты павінна быць уцехай мае старасці, а мой клопат тваім шчасцем. Пайшоўшы ў адстаўку, я зрабіў пачатак твайго выхавання, але не мог іначай прыдбаць табе багацце, як разлучыўшыся з тваёю маткаю і з табою.

Соф'я. Адсутнасць ваша засмучала нас невыказна.

Старадум *(да Праўдзіна)*. Каб засцерагчы яе жыццё ад нястачы патрэбнага, наважыўся я аддаліцца на некалькі год у тую зямлю, дзе дастаюць грошы, не праменьваючы іх на сумленне, без агіднага выслужвання, не грабячы бацькаўшчыны, дзе патрабуюць грошай ад самой зямлі, якая справядлівейшая за людзей, несправядлівасці не ведае, плаціць толькі за працу справядліва і шчодра.

Праўдзін. Вы маглі б разбагацець, як я чуў, куды больш.

Старадум. А нашто?

Праўдзін. Каб быць багатым, як іншыя.

Старадум. Багатым! А хто багаты? А ці ведаеш ты, што, каб задаволіць норавы аднаго чалавека, на гэта ўсяе Сібіры мала! Дружа мой! Усё залежыць ад уяўлення. Жыві паводле прыроды, ніколі не будзеш бедны. Жыві паводле людскіх пагляд аў, ніколі багаты не будзеш.

Соф'я. Дзядзюшка! Якую праўду вы кажаце!

Старадум. Я нажыў столькі, каб пры тваім замужастве не была нам перашкодаю беднасць жаніха вартага.

Соф'я. На ўсё жыццё маё ваша жаданне будзе маім законам.

Праўдзін. Але, аддаўшы яе, не лішне было б пакінуць і дзецям...

Старадум. Дзецям? Пакідаць багацце дзецям! На думках няма. Разумныя будуць, без яго абыдуцца; а дурному сыну не дапаможа багацце. Бачыў я малайцоў у залатых кафтанах, ды з алавянай галавой. Не, мой дружа! Наяўныя грошы — не наяўныя якасці. Залаты балван — усё балван.

Праўдзін. Разам з гэтым, аднак жа, мы бачым, што грошы часта вядуць да чыноў, чыны да знатнасці, а знатным выказваюць пашану.

Старадум. Пашану! Адна пашана павінна быць люба чалавеку — душэўная; а душэўнай пашаны толькі той варты, хто ў чынах не праз грошы, а ў знатнасці не праз чын...

Праўдзін. Сцвярджэнне ваша бясспрэчнае.

Старадум. А! Гэта што за крык!

**З'ява III**

Тыя ж, пані Прастакова, Скацінін, Мілон.
Мілон разбараняе Прастакову са Скацініным.

Пані Прастакова. Пусці! Пусці, бацюхна! Дай мне да рыла, да рыла...

Мілон. Не пушчу, шаноўная. Не гневайся.

Скацінін *(у злосці, папраўляючы парык)*. Адвяжыся, сястра. Дойдзе да бойкі, сагну, дык затрашчыш.

Мілон *(Прастаковай)*. І вы забыліся, што ён ваш брат!

Пані Прастакова. Ах, бацюхна, сэрца зайшлося! Дай дакалашмаціць.

Мілон *(Скаціціну)*. Хіба яна вам не сястра?

Скацінін. Што грэх таіць, аднаго кодла, ды бач, як развішчалася.

Старадум *(не могшы стрымацца ад смеху, да Праўдзіна)*. Я баяўся раззлавацца. Цяпер смех мяне бярэ.

Пані Прастакова. Каго гэта? Гэта што за валацуга?

Старадум. Не загневайся, пані, я зроду не бачыў нічога смяшнейшага.

Скацінін *(трымаючыся за шыю)*. Каму смех, а мне і паўсмеху няма.

Мілон. Ды ці не скалечыла яна вас?

Скацінін. Перад засланіў абедзвюма, дык ушчарэпілася ў карак...

Праўдзін. І баліць?

Скацінін. Загрывак трохі закалупіла.

У час наступнай гаворкі Прастаковай Соф'я паказвае вачыма Мілону, што перад ім Старадум. Мілон яе разумее.

Пані Прастакова. Закалупіла!.. Не, братка, ты падзякуй Богу за пана афіцэра, а каб не ён, то ты б ад мяне не засланіўся. За сына заступлюся. Не дарую бацьку роднаму. *(Старадуму.)* Гэта, пане, зусім і не смешна... Выбач. У мяне матчына сэрца. Дзе гэта відана, каб сука шчанят сваіх папускала ў крыўду? Прыблытаўся, невядома адкуль, невядома хто.

Старадум *(паказваючы на Соф'ю)*. Прыехаў да яе, дзядзька яе Старадум.

Пані Прастакова *(спалохаўшыся, баязліва)*. Як! Гэта ты! Ты, бацюхна! Госць наш найдаражэйшы! Ах я, дурніца несусветная! Ды ці так жа трэба было сустрэць бацьку роднага, на якога ўся надзея, які ў нас адзін, як порах у воку! Бацюхна, даруй мне — я дурніца. Апамятацца не магу. Дзе муж? Дзе сын? Як у пусты дом прыехаў! Кара боская! Усе павар'яцелі. Дзеўка! Дзеўка! Палашка! Дзеўка!

Скацінін *(убок)*. Гэта той, гэта ён, дзядзька!

## З'ява IV

Тыя ж і Ерамееўна.

Ерамееўна. Што загадаеш?

Пані Прастакова. А ты хіба дзеўка, сабачая ты дачка? Хіба ў мяне ў доме, апрача тваёй паскуднай храпы, і служанак няма? Палашка дзе?

Ерамееўна. Захварэла, матухна, ляжыць ад ранку.

Пані Прастакова. Ляжыць! Ах яна, падлюга! Ляжыць! Нібы яна шляхетная!

Ерамееўна. Такая гарачка падхапілася, матухна, без сціханку трызніць...

Пані Прастакова. Трызніць, падлюга! Нібы яна шляхетная! Кліч жа ты мужа, сына! Скажы ім, што, з ласкі боскай, дачакаліся мы дзядзюхны любай нашай Соф'ечкі, што другі наш бацька да нас цяпер прыбыў з ласкі боскай. Ну, бяжы, перавальвайся.

Старадум. Чаго так мітусіцца, пані? З ласкі боскай, я вам не бацька; з ласкі боскай, я вам і не знаёмы.

Пані Прастакова. Раптоўны твой прыезд, бацюхна, розум у мяне адняў; ды дай хоць абняць цябе як мае быць, дабрачынец наш...

## З'ява V

Тыя ж, Прастакоў, Мітрафан і Ерамееўна.

У час наступнай гаворкі Старадума Прастакоў з сынам, выйшаўшы з сярэдніх дзвярэй, сталі ззаду ў Старадума. Бацька гатовы яго абняць, як толькі дойдзе чарга, [redacted] сын пацалаваць у руку. Ерамееўна стала ўбаку і, зложыўшы рукі, стаіць як укопаная, вытрашчыўшы вочы на Старадума, з нявольніцкаю ліслівасцю.

Старадум *(абнімаючы неахвотна Прастакову)*. Ласка зусім лішняя, пані. Без яе мог бы я вельмі лёгка абысціся.

Вырваўшыся з яе рук, адварачваецца ў другі бок, дзе Скацінін, які стаіць ужо з растапыранымі рукамі, зараз жа яго хапае.

Гэта да каго я трапіў?

Скацінін. Гэта я, сястрын брат.

Старадум *(убачыўшы яшчэ двух, з нецярплівасцю)*. А гэта хто яшчэ?

Прастакоў *(абнімаючы)*. Я жончын муж. } *Разам*
Мітрафан *(ловячы руку)*. А я мамчын сынок. }

Мілон *(Праўдзіну)*. Цяпер я не знаёмлюся.

Праўдзін *(Мілону)*. Я знайду выпадак пазнаёміць цябе пасля.

Старадум *(не даючы рукі Мітрафану)*. Гэты ловіць цалаваць руку: відаць, што рыхтуюць у ім вялікую душу.

Пані Прастакова. Кажы, Мітрафанка. Як жа, васпан, мне не цалаваць твае ручкі? Ты мой другі бацька.

Мітрафан. Як жа не цалаваць, дзядзюшка, твае ручкі, ты мой бацька... *(Да маткі.)* Каторы бо?

Пані Прастакова. Другі.

Мітрафан. Другі? Другі бацька, дзядзюшка.

Старадум. Я, васпан, табе ні бацька, ні дзядзюшка.

Пані Прастакова. Бацюхна, можа ж, дзіця сваё шчасце праракае; ану ж дасць Бог быць яму сапраўды тваім пляменнікам.

Скацінін. Няўжо! А я чым не пляменнік? Ай, сястра!

Пані Прастакова. Я, братка, з табою лаяцца не буду. *(Да Старадума.)* Зроду, бацюхна, ні з кім не сварылася. У мяне такая натура. Хоць як лай, век слова не скажу. Няхай жа, думаю сабе, Бог таму заплаціць, хто мяне, небараку, крыўдзіць.

Стародум. Я гэта заўважыў, як толькі ты, васпані, з дзвярэй паказалася.

Праўдзін. Я ўжо тры дні сведкаю яе добрай натуры.

Стародум. Гэтым забаўляцца я так доўга не магу. Соф'ечка, любая, заўтра ж еду з табою ў Маскву.

Пані Прастакова. Ах, бацюхна! За што такі гнеў?

Прастакоў. За што няласка?

Пані Прастакова. Як! Нам расстацца з Соф'ечкай! З любым другам нашым! Я з аднае нуды хлеба ў рот не вазьму.

Прастакоў. А я ўжо тут загінуў ды прапаў.

Стародум. Калі ж вы так яе любіце, то павінен я вас узрадаваць. Я вязу яе ў Маскву для таго, каб зрабіць яе шчасце. Мне раяць за жаніха для яе аднаго маладога чалавека вельмі паважанага. За яго і аддам яе.

Пані Прастакова. Ах, зарэзаў!

Мілон. Што я чую!

Соф'я здаецца моцна здзіўленай.

Скацінін. От табе і раз!

Прастакоў пляснуў рукамі.

Мітрафан. Вот табе і на!

*Усе разам*

Ерамееўна сумна кіўнула галавою. Праўдзін робіць выгляд засмучанага здзіўлення.

Стародум *(заўважыўшы збянтэжанасць усіх)*. Што гэта азначае? *(Да Соф'і.)* Соф'ечка, любая мая, і ты мне здаешся збянтэжанай? Няўжо мой намер цябе засмуціў? Я заступаю месца бацькі твайго. Павер мне, што я ведаю яго правы. Яны не ідуць далей таго, як перасцерагаць няшчасную прыхільнасць дачкі; а выбар добрага чалавека залежыць цалкам ад яе сэрца. Будзь спакойная, любая мая! Твой муж варты цябе, хто б ён ні быў, будзе мець ва мне сапраўднага друга. Ідзі, за каго хочаш.

Ва ўсіх з'яўляецца вясёлы выгляд.

Соф'я. Дзядзюшка! Не сумнявайцеся ў маім паслушэнстве.

Мілон *(убок)*. Шаноўны чалавек!

Пані Прастакова *(з вясёлым выглядам)*. Вось бацька! Вось паслухаць! Ідзі, за каго хочаш, абы чалавек яе варт быў. Так, мой бацюхна, так. Тут толькі жаніхоў прапускаць не трэба. Калі ёсць на воку дваранін, хлопец малады...

Скацінін. З хлапчукоў даўно ўжо выйшаў...

Пані Прастакова. У каго набытак хоць і невялікі...

Скацінін. Ды свіней завод нядрэнны...

Пані Прастакова. Дык і ў добры час, у архангельскі. } *Разам*

Скацінін. Дык вясёлы банкет ды вяселлейка. }

Старадум. Парады вашы некарыслівыя. Я гэта бачу.

Скацінін. Ці тое яшчэ ўбачыш, як даведаешся пра мяне лепш. Тут, бач, гармідар вялікі. Праз гадзіну часу прыйду да цябе адзін. Тут справу і зладзім. Скажу, не хвалячыся: такіх людзей, як я, мала ёсць на свеце. *(Адыходзіць.)*

Старадум. Гэта праўдзівей за ўсё.

Пані Прастакова. Ты, мой бацюхна, не дзівіся з браткі...

Старадум. А ён ваш брат?

Пані Прастакова. Родны, бацюхна. І я ж па бацьку Скацініных. Нябожчык татухна мой ажаніўся з нябожчыцай матухнай. Яна была па прозвішчу Прыплодзіных. Нас, дзяцей, было ў іх васемнаццаць чалавек; ды, апрача мяне з браткам, усе, з ласкі боскай, паўміралі: некаторых з лазні нежывымі вывалаклі. Трое, пасёрбаўшы малачка з мядзянага глячка, сканалі. Двое святым Вялікаднем з званіцы скінуліся, а рэшта самі не вытрывалі, бацюхна.

Старадум. Бачу, якія былі і вашы бацькі.

Пані Прастакова. Даўнейшыя людзі, бацюхна! Не цяперашні быў век. Нас нічому не вучылі. Бывала, добрыя людзі падступяцца да татухны, просяць, просяць, каб хоць братку аддаць у школу. Куды там! Нябожчычак і рукамі, і нагамі, царства яму нябеснае! Бывала, закрычыць: пракляну дзіця, якое што-небудзь пяройме ад басурманаў, і той не Скацінін, хто чаму-небудзь вучыцца захоча.

Праўдзін. Вы, аднак жа, свайго сынка сяму-таму навучаеце.

Пані Прастакова. Ды цяпер век іншы, бацюхна. *(Да Старадума.)* Апошніх крошак не шкадуем, абы сына ўсяму навучыць. Мой Мітрафанка з-за кнігі не ўстае па сутках. Матчына маё сэрца. Часамі шкада, шкада, але падумаеш: затое будзе і хлапчына хоць куды. Гэта як яму ўжо, бацюхна, шаснаццаць год скончыцца каля зімовага Міколы. Жаніх хоць каму, а ўсё-такі настаўнікі ходзяць, часу не трацяць, і цяпер два ў сенцах чакаюць. *(Маргнула Ерамееўне, каб іх паклікаць.)* А ў Маскве нанялі чужаземца на шэсць год і, каб ад нас яго не перацягнулі, кантракт у паліцыі заявілі. Падручыўся вучыць, што мы хочам, а па нас — няхай вучыць, што сам умее. Мы ўсе бацькоўскія абавязкі выканалі! Немца нанялі, грошы наперад па трацінах плацім. Вельмі б я хацела,

каб ты сам, бацюхна, палюбаваўся Мітрафанкам і паглядзеў бы, што ён вывучыў.

Старадум. Я дрэнны тут суддзя, пані.

Пані Прастакова *(убачыўшы Куцейкіна і Цыфіркіна)*. Вось і настаўнікі! Ці не казала я, бацюхна, што Мітрафанка мой ні днём, ні ноччу спакою не мае. Сваё дзіця хваліць нядобра, але не будзе нешчасліваю тая, якую Бог пашле быць яго жонкаю.

Праўдзін. Гэта ўсё добра; не забудзьцеся, аднак жа, пані, што госць ваш цяпер толькі з Масквы прыехаў і што яму спакой куды больш патрэбны, як пахвалы вашаму сыну.

Старадум. Прызнаюся, што я рад бы адпачыць і ад дарогі і ад усяго таго, што чуў і што бачыў.

Пані Прастакова. Ах, мой бацюхна! Усё гатова; сама для цябе пакой прыбірала.

Старадум. Дзякую! Соф'ечка, правядзі ж мяне.

Пані Прастакова. А мы што? Дазволь, мой бацюхна, правесці сябе і мне, і сыну, і мужу. Мы ўсе за тваё здароўе ў Кіеў абяцаемся схадзіць, абы справу нашу зладзіць.

Старадум *(да Праўдзіна)*. Калі ж мы ўбачымся? Адпачыўшы, я сюды прыйду.

Праўдзін. Дык я тут і буду мець гонар вас бачыць.

Старадум. Рад душою. *(Убачыўшы Мілона, які яму з пашанай скланіўся, адкланьваецца і яму ветліва.)*

Пані Прастакова. Дык зрабіце ласку.

Апрача настаўнікаў, усе адыходзяць: Праўдзін з Мілонам убок, а іншыя — у другі.

## З'ява VI

Куцейкін і Цыфіркін.

Куцейкін. Што за д'ябальшчына! З самага ранку ладу не даб'ешся. Тут кожная раніца працвіце і загіне.

Цыфіркін. А наш брат і век так жыве. Работы не рабі, ад работы не бяжы. Вось бяда нашаму брату, калі кормяць дрэнна, як сёння тут у абед, харчоў не хапіла...

Куцейкін. Ды каб не ўмудрыў і мяне Уладыка, ішоўшы сюды забрысці на раздарожжы да нашай прасвірні, взалках бы, яко пес ко вечеру.

Цыфіркін. Тутэйшыя паны добрыя камандзеры.

Куцейкін. Ці чуў ты, браце, якое жыццё тутэйшым чалядзінцам; дарма што ты служака, бываў на баталіях, страх і трэпет прыйдзе на ця...

Цыфіркін. Вось табе на, ці чуў? Я сам бачыў тут беглы агонь у суткі запар гадзіны па тры. *(Уздыхнуўшы.)* Вохці мне! Смутак агортае.

Куцейкін. О, гора мне, грэшнаму!

Цыфіркін. Чаго ўздыхаеш, Сідорыч?

Куцейкін. І ў табе смяцеся сэрца твое, Пафнуціч?

Цыфіркін. Нехаця задумаешся! Даў мне Бог вучня, барскага сынка. Б'юся з ім трэці год: да трох злічыць не ўмее.

Куцейкін. Дык у нас адна туга. Чацвёрты год мучу свой жывот. Па гэты час, апрача задоў, новага радка не разбярэ; дый зады плявузгае, даруй Божа, без складу па складах, без ладу па ладах.

Цыфіркін. А хто вінават? Толькі ён грыфель у рукі, а немец у дзверы. Ад дошкі сюды малайца, а мне пад зад штурханца.

Куцейкін. Ці мая ж тут віна? Толькі паказку ў персты, басурман у вочы. Вучня па галоўцы, а мяне па карку.

Цыфіркін *(з запалам)*. Я даў бы сабе вуха адцяць, абы гэтага дармаеда правучыць па-салдацку.

Куцейкін. Мяне хоць цяпер бізунамі, абы выю грэшніку як след накастыляць.

### З'ява VII

Тыя ж, Прастакова і Мітрафан.

Пані Прастакова. Пакуль ён адпачывае, сынок мой, ты хоць для выгляду павучыся, каб дайшло да вушэй яго, як ты працуеш, Мітрафанка.

Мітрафан. Ну! А там што?

Пані Прастакова. А там і ажэнішся.

Мітрафан. Слухай, матуля, я цябе пацешу, павучуся; толькі каб гэта было апошні раз і каб сягоння ж былі заручыны.

Пані Прастакова. Прыйдзе часіна волі боскай.

Мітрафан. Часіна мае волі прыйшла: не хачу вучыцца, хачу жаніцца. Ты ж мяне падражніла, крыўдуй на сябе. Вось я сеў.

Цыфіркін падвострывае грыфель.

Пані Прастакова. А я тут жа пасяджу. Кашалёк павяжу для цябе, любы мой! Соф'іны грошыкі каб было куды класці.

Мітрафан. Ну, давай дошку, гарнізонны пацук! Задавай, што пісаць.

Цыфіркін. Ваша благароддзе заўсёды нізавошта лаяцца маеце ласку.

Пані Прастакова *(робячы)*. Ах, Божухна ты мой! Ужо дзіцяці няможна і палаяць Пафнуціча! Ужо і загневаўся!

Цыфіркін. За што гневацца, ваша благароддзе? У нас такая прыказка: сабака брэша, вецер носіць.

Мітрафан. Задавай жа зады, варушыся.

Цыфіркін. Усё зады, ваша благароддзе. З задамі ж век ззаду астанешся.

Пані Прастакова. Не твая справа, Пафнуціч. Мне вельмі люба, што Мітрафанка наперад крочыць не любіць. З яго розумам ды заляцець далёка, дык Божа барані!

Цыфіркін. Задача. Быў ласкаў ты, напрыклад, ісці па дарозе са мною. Ну, хоць возьмем з сабою Сідорыча. Знайшлі мы ўтрох...

Мітрафан *(піша)*. Утрох.

Цыфіркін. На дарозе, напрыклад жа, трыста рублёў.

Мітрафан *(піша)*. Трыста.

Цыфіркін. Дайшла справа да дзяльбы. Змікіць жа, пачом на брата?

Мітрафан *(вылічваючы, шэпча)*. Ядзінажды тры — тры. Ядзінажды нуль — нуль. Ядзінажды нуль — нуль.

Пані Прастакова. Што, што да дзяльбы?

Мітрафан. Бач, трыста рублёў, што знайшлі, на трох падзяліць.

Пані Прастакова. Хлусіць ён, дзіцятка маё любае. Знайшоўшы грошы, ні з кім не дзяліся. Усё сабе вазьмі, Мітрафанка! Не вучыся гэтай дурной навуцы.

Мітрафан. Чуеш, Пафнуціч, задавай другую.

Цыфіркін. Пішы, ваша благароддзе. За вучэнне маеце ласку даваць мне ў год дзесяць рублёў.

Мітрафан. Дзесяць.

Цыфіркін. Цяпер, праўда, няма за што, а каб ты, паніч, што-небудзь у мяне пераняў, не грэх бы тады было і яшчэ прыбавіць дзесяць.

Мітрафан *(піша)*. Ну, ну, дзесяць.

Цыфіркін. Колькі ж бы на год?

Мітрафан *(вылічваючы, шэпча)*. Нуль ды нуль — нуль. Адзін ды адзін... *(Задумаўся.)*

Пані Прастакова. Не турбуйся дарэмна, любы мой. Гроша не прыбаўлю, дый няма за што. Навука не такая. Толькі табе пакута, а ўсё, бачу, пустое. Грошай няма — што лічыць? Грошы ёсць, палічым і без Пафнуціча — не трэба лепш.

Куцейкін. Канчай, Пафнуціч. Дзве задачы зроблены. На праверку ж прыводзіць не будуць.

Мітрафан. Нябось, брат. Матуля тут сама не памыліцца. Хадзі ж ты цяпер, Куцейкін, правучы ўчарайшае.

Куцейкін *(разгортваючы Часаслоў)*.

Мітрафан бярэ паказку.

Пачнем, благаславіўшыся. За мною, уважліва. «Аз же есмь червь...»

Мітрафан. «Аз же есмь червь...»

Куцейкін. Червь: сиречь животина, скот. Сиречь: «аз есмь скот».

Мітрафан. «Аз есмь скот».

Куцейкін *(навучальным голасам)*. «А не человек».

Мітрафан *(таксама)*. «А не человек».

Куцейкін. «Поношение человеков».

Мітрафан. «Поношение человеков».

Куцейкін. «І уни...»

## З'ява VIII

Тыя ж і Вральман.

Вральман. Ай! ай! ай! ай! ай! Цяпер-то я пачуў. У магілу ўвахнаць хочуць дзіця! Матухна ты мая, смілуйся нат сфаей фантропай, якая цефяць месяцаў цягаль, так скасаць, восьмае ціфа ў сфеце. Тай фолю гэтым праклятым слацеям. С такой калафы ці тоўга пальфан. Ушо дыспазісіён, ушо ёсць усё.

Пані Прастакова. Праўда, праўда твая, Адам Адамыч! Мітрафанка, дзіцятка маё, калі вучэнне так пашкодзіць можа тваёй галоўцы, дык па мне пакінь.

Мітрафан. А па мне і пагатоў.

Куцейкін *(загортваючы Часаслоў)*. Канец і Богу хвала.

Вральман. Матухна мая! Што тапе трэпа? Сынок, які ёсць, ды тай пог староўя; ці сынок прамудры, так скасаць, Арыстотэліс, ды ў магілу.

Пані Прастакова. Ах, якая страхата, Адам Адамыч! Ён жа і так учора неасцярожна павячэраў.

Вральман. Памяркуй сама, матухна: напхаў пуса лішне — пяда; галоўка ж у яго куды слапейшая за пуса, напхаць яе лішне — ды парані пожа!

Пані Прастакова. Праўда твая, Адам Адамыч; ды што ты будзеш рабіць? Дзіця, не вывучыўшыся, няхай паедзе

ў той жа Пецярбург; скажуць, дурань. Разумнікаў цяпер завялося шмат; іх вось я баюся.

Вральман. Чаго паяцца, мая матухна? Расумны чалавек ніколі з ім не сацярэцца, ніколі з ім не саспрачаецца, а ён с расумнымі людзьмі няхай не саймаецца, так і пуце плагаценствіе поскае.

Пані Прастакова. Вось як трэба табе на свеце жыць, Мітрафанка!

Мітрафан. Я і сам, матуля, да разумнікаў не ахвотнік. Свой брат заўсёды лепш.

Вральман. Сфая кампанія іншая справа.

Пані Прастакова. Адам Адамыч! Ды з каго ж ты яе выбераш?

Вральман. Не маркоцься, мая матухна, не маркоцься; які твой тарашэнькі сынок, такіх на сфеце мільёны, мільёны. Як яму не фыбраць сапе кампанію?

Пані Прастакова. Гэта дарма, што мой сын хлопец жвавы, трапяткі.

Вральман. Ці такі п ён яшчэ пыў, кап не самарылі яго на вушэнні? Расійска крамат! Арыхметыка! Ах, пошухна мой, як туша ў целе састаецца! Як пыццам расійскі тфаранін ушо і не мог у сфеце аванзіраваць пез расійскі крамат!..

Куцейкін *(убок)*. Скулу б табе пад язык.

Вральман. Як пыццам та арыхметыкі пылі люці турні несусветныя!

Цыфіркін *(убок)*. Я табе рэбры пералічу. Пападзешся ты мне.

Вральман. Яму трэпа фетаць, як шыць на сфеце. Я федаю сфет на памяць; я сам цёрты калач.

Пані Прастакова. Як табе не ведаць вялікага свету, Адам Адамыч. Я думаю, у адным Пецярбургу ты ўсяго наглядзеўся.

Вральман. Тосыць, мая матухна, тосыць. Я саўсёды ахвотнік пыў гляцець публік. Пыфала, у свята с'едуцца ў Катрынгоф карэты с панамі, я ўсё на іх гляшу. Пыфала, не злесу ні на хвіліну з кослаў.

Пані Прастакова. З якіх козлаў?

Вральман *(убок)*. А, ай, ай, ай! Што я схлусіў! *(Услых.)* Ты, матухна, фетаеш, што гляцець заўсёды спрытней сфысокай. Тык я, пыфала, на снаёму карэту і сасяду тый гляшу фялікі сфет з кослаў.

Пані Прастакова. Вядома, відней. Разумны чалавек ведае, куды ўзлезці.

Вральман. Ваш тарашэнькі сынок таксама як-непуць усмосціцца люцей паглядзець і сяпе пакасаць. Малацец!

Мітрафан, стоячы на месцы, пакручваецца.

Малацец! Не пастаіць на месцы, як цікі конь пес апроці. Пайшоў! Форт!

Мітрафан бяжыць.

Пані Прастакова *(усміхаючыся, радасна)*. Дзіця проста хоць сёння жані. Пайсці за ім, аднак жа, каб, дурэючы, незнарок чым-небудзь госця не ўгнявіў.

Вральман. Іці, мая матухна. Салётна птушка. З ім тфае фочы патрэбны.

Пані Прастакова. Бывай жа здаровенек, Адам Адамыч! *(Адыходзіць.)*

## З'ява IX

Вральман, Куцейкін і Цыфіркін.

Цыфіркін *(насміхаючыся)*. Вось урода!

Куцейкін *(насміхаючыся)*. Притча во языцех.

Вральман. Чаго фы супы скаліце, нефукі!

Цыфіркін *(стукнуўшы па плячы)*. А ты што бровы насупіў, чухонская сава!

Вральман. Ой! Ой! Шалесныя лапы!

Куцейкін *(стукнуўшы па плячы)*. Пугач пракляты! Што ты лупанамі моргаеш?

Вральман *(ціха)*. Прапаў я. *(Услых.)* Што фы сцекуецеся, хлопцы, ці што, з мяне?

Цыфіркін. Сам дарэмна хлеб ясі і другім нічога рабіць не даеш, ды ты ж яшчэ і морды не ўтаропіш.

Куцейкін. Уста твои всегда глаголаша гордыни, нечестивый!

Вральман *(адыходзячы ад страху)*. Як фы атфашваецеся неталікатна апыходзіцца з вушонай персонай? Я на карафул сакрычу.

Цыфіркін. А мы табе і чэсць аддамо. Я дошкаю.

Куцейкін. А я Часасловам.

Вральман. Я пані на фас паскаршуся.

Цыфіркін замахваецца дошкаю, а Куцейкін — Часасловам.

Цыфіркін. Раскавялю табе рыла на пяць частак.
Куцейкін. Зубы грэшніка скрышу.
*Разам*

Вральман уцякае.

Цыфіркін. Ага! Падняў баязлівец ногі!

Куцейкін. Направи стопы своя, окаянный.

Вральман *(у дзвярах)*. Што фсялі, шэльма? Сюты патклыцеся.

Цыфіркін. Уцёк! Мы б далі табе лупцоўку.

Вральман. Фось не паюся цяпер, не паюся.

Куцейкін. Засеў прабеззаконны. Ци шмат там вас, басурманаў? Усіх высылай.

Вральман. Атнаму не талі раты. Эх, прат, усялі!
Цыфіркін. Адзін дзесяцёх убяру.
Куцейкін. Во утрие избию вся грешныя земли.
*Усе разам крычаць*

Канец трэцяй дзеі

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

### З'ява I

Соф'я *(адна. Гледзячы на гадзіннік)*. Дзядзюшка хутка павінен выйсці. *(Садзіцца.)* Я яго тут пачакаю. *(Вымае кніжку і прачытаўшы крыху.)* Гэта праўда. Як не быць задаволеным сэрцу, калі спакойнае сумленне. *(Прачытаўшы зноў крыху.)* Нельга не любіць правіл дабрадзейнасці. *(Прачытаўшы крыху, глянула і, убачыўшы Старадума, падбягае да яго.)*

### З'ява II

Соф'я і Старадум.

Старадум. А! ты ўжо тут, друг мой любы!

Соф'я. Я вас чакала, дзядзюшка. Чытала цяпер кніжку.

Старадум. Якую?

Соф'я. Французскую. Фенелона пра выхаванне дзяўчат.

Стaрaдум. Фенелона? Аўтара Тэлемака? Добра. Я не ведаю тваёй кніжкі, але чытай яе, чытай. Хто напісаў Тэлемака, той пяром сваім звычаяў разбэшчваць не будзе. Я баюся для вас цяперашніх разумнікаў. Мне здаралася чытаць з іх усё тое, што перакладзена на рускую мову. Яны, праўда, выкараняюць моцна шкодныя хадзячыя погляды, але вываўчваюць з коранем і дабрадзейнасць. Сядзем.

Абое селі.

Маё шчырае жаданне бачыць цябе столькі шчаслівай, як толькі ў свеце быць можа.

Соф'я. Ваша навучанне, дзядзюшка, дасць мне шчасце. Дайце мне правілы, якіх я трымацца павінна. Кіруйце сэрцам маім. Яно будзе вам паслухмяным.

Старадум. Мне прыемны настрой душы твае, з радасцю дам табе мае парады. Слухай мяне з такой уважлівасцю, з якой шчырасцю я гаварыць буду. Бліжэй.

Соф'я падсоўвае сваё крэсла.

Соф'я. Дзядзюшка! Кожнае слова ваша ўрэзана будзе ў сэрца маё.

Старадум *(з важнай шчырасцю)*. Ты цяпер у тых гадах, у якіх душа асалоды хоча ўсім быццём сваім, розум хоча ведаць, а сэрца адчуваць. Ты ўваходзіш цяпер у свет, дзе першы крок вырашае часта лёс усяго жыцця, дзе часцей за ўсё першая сустрэча бывае: розум разбэшчаны ў сваім разуменні, сэрца разбэшчана ў сваіх пачуццях. О, мой друг! Умей распазнаваць, умей спыніцца з тымі, чыя дружба да цябе была б надзейнаю парукай за твой розум і сэрца.

Соф'я. Як мага буду старацца заслужыць добрую думку людзей паважных. Ды як мне пазбегнуць, каб тыя, што ўбачаць, як ад іх я аддаляюся, не пачалі на мяне злаваць? Ці няможна, дзядзюшка, знайсці такі спосаб, каб мне ніхто на свеце ліха не зычыў?

Старадум. Дрэнныя адносіны людзей нягодных не павінны засмучаць. Ведай, што ліха ніколі не зычаць тым, каго зневажаюць, а звычайна зычаць ліха тым, хто мае права зневажаць. Людзі не толькі багаццю, не толькі знатнасці зайздросцяць, і дабрадзейнасць таксама сваіх зайздроснікаў мае.

Соф'я. Ці магчыма гэта, дзядзюшка, каб былі на свеце такія нікчэмныя людзі, у якіх злое пачуццё нараджаецца толькі ад таго, што ў другіх ёсць добрае. Дабрадзейны чалавек пашкадаваць павінен такіх няшчасных.

С т а р а д у м. Яны нікчэмныя, гэта праўда, аднак праз гэта дабрадзейны чалавек не перастае ісці сваёй дарогай. Падумай ты сама, якое было б няшчасце, каб сонца перастала свяціць для таго, каб слабых вачэй не асляпіць.

С о ф ' я. Ды скажыце ж мне, калі ласка, хіба ж яны вінаваты? Хіба кожны чалавек можа быць дабрадзейным?

С т а р а д у м. Павер мне, кожны знойдзе ў сабе досыць сілы, каб быць дабрадзейным. Трэба захацець моцна, а там лягчэй за ўсё будзе не рабіць таго, за што б сумленне мучыла.

С о ф ' я. Хто ж асцеражэ чалавека, каб не дапусціць да таго, за што пасля яго сумленне мучыць?

С т а р а д у м. Хто асцеражэ? Тое ж сумленне. Ведай, што сумленне заўсёды, як друг, асцерагае раней, чым, як суддзя, карае.

С о ф ' я. Дык таму трэба, каб кожны нягодны чалавек быў сапраўды знявагі варты, калі робіць ён ліха, ведаючы, што робіць. Трэба, каб душа яго была вельмі нізкай, калі яна не вышэй за нядобрую справу.

С т а р а д у м. І трэба, каб розум яго быў не сапраўдны розум, калі ён знаходзіць сабе шчасце не ў тым, у чым трэба.

С о ф ' я. Мне здавалася, дзядзюшка, што ўсе людзі дамовіліся, у чым знаходзіць сваё шчасце. Знатнасць, багацце...

С т а р а д у м. Так, мой друг! І я згодзен назваць шчаслівым знатнага і багатага. Але спачатку дамовімся, хто знатны і хто багаты. У мяне свой разлік. Ступені знатнасці лічу я па колькасці спраў, якія вялікі пан зрабіў для бацькаўшчыны, а не па колькасці спраў, якіх нахапаў сабе праз пыхлівасць, не па колькасці людзей, якія абіваюць яго парогі, а па колькасці людзей, задаволеных яго паводзінамі і справамі. Мой знатны чалавек, вядома, шчаслівы. Багач мой таксама. Па майму меркаванню, не той багаты, хто адлічвае грошы, каб хаваць іх у куфар, а той, хто адлічвае ў сябе лішняе, каб дапамагчы таму, хто не мае патрэбнага.

С о ф ' я. Як гэта справядліва! Як вонкавасць нас асляпляе! Мне самой здаралася бачыць шмат разоў, як зайздросцяць таму, хто пры двары дабіваецца і значыць.

С т а р а д у м. А таго не ведаюць, што пры двары кожны што-небудзь ды значыць і чаго-небудзь ды дабіваецца; таго не ведаюць, што пры двары ўсе прыдворныя і ва ўсіх прыдворныя. Не, тут зайздросціць няма чаму: без знатных спраў знатнае становішча нічога не варта.

С о ф ' я. Вядома, дзядзюшка! І такі знатны нікога шчаслівым не робіць, апрача сябе аднаго.

С т а р а д у м. Як! А хіба той шчаслівы, хто шчаслівы адзін? Ведай, што які б ён знатны ні быў, душа яго сапраўд-

най асалоды не адчувае. Уяві сабе чалавека, які б усю сваю знатнасць накіраваў толькі на тое, каб яму аднаму было добра, які б дайшоў ужо да таго, каб самому яму нічога жадаць не аставалася; тады ж уся душа яго занята была б адным пачуццём, адной хваробай: раней ці пазней зваліцца. Скажы ж, мой друг, ці шчаслівы той, каму няма чаго жадаць, а ёсць чаго баяцца?

С о ф ' я. Бачу, якая розніца здавацца шчаслівым і быць сапраўды шчаслівым. Але мне гэта незразумела, дзядзюшка, як можна чалавеку ўсё думаць пра сябе аднаго. Няўжо не разважаюць, чым адзін абавязаны другому? Дзе ж розум, якім так ганарацца?

С т а р а д у м. Чаго розумам ганарыцца, друг мой! Розум, калі ён толькі розум, самая драбніца. Са спрытным розумам бачым мы нягодных мужоў, нягодных бацькоў, нягодных грамадзян. Сапраўдную цану розуму дае дабрадзейнасць. Без яе разумны чалавек — страхаццё! Яна непамерна вышэй за ўвесь спрыт розуму. Гэта лёгка зразумець кожнаму, хто добра падумае. Розумаў шмат і шмат розных. Разумнаму чалавеку лёгка дараваць можна, калі ён якой-небудзь якасці розуму і не мае. Сумленнаму чалавеку ніяк дараваць нельга, калі не хапае ў яго якой-небудзь якасці сэрца. Яму абавязкова ўсё мець патрэбна. Вартасць сэрца непадзельная. Сумленны чалавек павінен быць дасканала сумленным чалавекам.

С о ф ' я. Ваша тлумачэнне, дзядзюшка, адпавядае майму ўнутранаму пачуццю, якога я выказаць не магла. Я цяпер добра адчуваю і годнасць сумленнага чалавека і яго абавязак.

С т а р а д у м. Абавязак! А, мой друг! Як гэта слова ва ўсіх на языку і як яго мала разумеюць! Заўсёднае ўжыванне гэтага слова так нас з ім асвойтала, што, вымаўляючы яго, чалавек нічога ўжо не думае, нічога не адчувае. Калі? Каб людзі разумелі яго важнасць, ніхто б не мог вымавіць яго без душэўнай пашаны. Падумай, што такое абавязак. Гэта тая прысяга, якой абавязаны ўсім тым, з кім жывём і ад каго залежым. Каб так абавязак выконвалі, як пра яго гавораць, кожны б з людзей астаўся пры сваім гонары і быў бы зусім шчаслівы. Дваранін, напрыклад, лічыў бы найбольшай ганьбай не рабіць нічога, калі ёсць яму гэтулькі працы; ёсць людзі, каб ім памагаць, ёсць бацькаўшчына, каб ёй служыць. Тады б не было такіх дваран, шляхетнасць якіх, можна сказаць, пахавана з іх продкамі. Дваранін не варты таго, каб быць дваранінам! Агідней за яго нічога на свеце не ведаю.

С о ф ' я. Хіба можна так сябе ўнізіць?

Стaрадум. Друг мой! Што сказаў я пра двараніна, пашырым цяпер наогул на чалавека. У кожнага свае абавязкі. Паглядзім, як яны выконваюцца, якія, напрыклад, найчасцей бываюць мужы цяперашнім светам, не забудзем, якія і жонкі. О, мой любы друг! Цяпер мне ўся твая ўвага патрэбна. Возьмем для прыкладу няшчасны дом, якіх шмат, дзе жонка не мае ніякай шчырай дружбы да мужа, ні ён да жонкі даверанасці; дзе кожны з свайго боку сышоў са шляху дабрадзейнасці. Замест шчырага і чулага друга жонка бачыць у сваім мужу грубага і разбэшчанага тырана. З другога боку, замест лагоднасці, шчырасці, уласцівай жонцы дабрадзейнай, муж бачыць у душы сваёй жонкі адну свавольную нахабнасць, а нахабнасць у жанчыне ёсць шыльда ганебных паводзін. Абое сталі адно для другога нязносным цяжарам. Абое нізавошта лічаць добрае імя, бо ў абаіх яно страчана. Хіба можа быць жахлівейшае за іхняе становішча? Дом занядбаны, слугі забываюць абавязак паслушэнства, бачачы ў сваім пане нявольніка агідных страсцей яго. Набытак пустошыцца; ён зрабіўся нічыім, калі гаспадар яго сам не свой. Дзеці, няшчасныя іх дзеці, пры жыцці бацькі і маткі ўжо асірацелі. Бацька, не маючы пашаны да свае жонкі, ледзь адважваецца іх абняць, ледзь адважваецца аддацца найпяшчотнейшым пачуццям чалавечага сэрца. Нявінныя дзеці таксама пазбаўлены і гарачай матчынай ласкі. Яна, не вартая таго, каб мець дзяцей, ухіляецца ад іх ласкі, бачачы ў іх ці прычыну сваіх клопатаў, ці дакор сваёй разбэшчанасці. І якога выхавання чакаць дзецям ад маткі, якая страціла дабрадзейнасць? Як ёй навучаць іх добрым звычаям, якіх у яе няма? У хвіліны, калі думка іх накіроўваецца на іх становішча, якое пекла павінна быць у душы і мужа, і жонкі!

Соф'я. Божа мой! Чаму такія страшэнныя няшчасці...

Стaрадум. Таму, мой друг, што пры цяперашніх шлюбах рэдка з сэрцам радзяцца. Цікавяцца тым, ці знатны, ці багаты жаніх? Ці прыгожая, ці багатая нявеста? Пра дабрадзейнасць і не пытаюцца. Нікому і на думку не прыходзіць, што ў вачах разумных людзей сумленны чалавек без вялікага чыну — найзнатнейшая асоба; што дабрадзейнасць усё замяняе, а дабрадзейнасці нішто замяніць не можа. Прызнаюся табе, што сэрца маё тады толькі будзе спакойнае, калі ўбачу цябе за мужам, вартым твайго сэрца, калі ўзаемнае каханне ваша...

Соф'я. Ды як вартага мужа не любіць па-дружаску?

Стaрадум. Так. Толькі лепш не мей ты да свайго мужа кахання, якое на дружбу падобна было б. Мей да яго дружбу, якая на каханне была б падобна. Гэта будзе куды

мацней. Тады пасля дваццаці год замужаства знойдзеце ў сэрцах вашых ранейшую любасць аднаго да другога. Муж разважлівы, жонка дабрадзейная! Што можа быць лепш! Трэба, друг мой, каб муж твой быў у паслушэнстве розуму, а ты мужу, і будзеце абое зусім шчаслівыя.

Соф'я. Усё, што вы кажаце, кранае маё сэрца.

Старадум *(з пяшчотнай заўзятасцю)*. І маё ў захапленні, бачачы тваю чуласць. Ад цябе залежыць тваё шчасце. Бог даў табе ўсе прыемнасці, патрэбныя жанчыне. Бачу ў табе сэрца сумленнага чалавека. Ты — мой любы друг, ты спалучаеш у сабе найлепшыя якасці абодвух радоў. Спадзяюся, што захапленне маё мяне не падманвае, што дабрадзейнасць...

Соф'я. Ты ёю напоўніў усе мае пачуцці. *(Кідаецца цалаваць яго рукі.)* Дзе яна?

Старадум *(цалуючы сам яе рукі)*. Яна ў тваёй душы. Дзякуй Богу, што ў самой табе знаходжу цвёрдую падставу твайго шчасця. Яно не будзе залежаць ні ад знатнасці, ні ад багацця. Усё гэта прыйсці да цябе можа, аднак для цябе ёсць шчасце, большае за гэта ўсё. Гэта тое, каб адчуваць сябе вартаю ўсяго таго дабра, ад якога ты будзеш мець асалоду...

Соф'я. Дзядзюшка! Сапраўднае маё шчасце тое, што ты ў мяне ёсць. Я ведаю цану...

### З'ява III

Тыя ж і камердынер.
Камердынер падае ліст Старадуму.

Старадум. Адкуль?

Камердынер. З Масквы, з пасланцом. *(Адыходзіць.)*

Старадум *(распячатаўшы і гледзячы на подпіс)*. Граф Чэстан. А! *(Пачынаючы чытаць, робіць выгляд, што вочы разабраць не могуць.)* Соф'ечка! Акуляры мае на стале ў кнізе.

Соф'я *(адыходзячы)*. Зараз, дзядзюшка.

### З'ява IV

Старадум *(адзін)*. Ён, вядома, піша мне пра тое самае, пра што ў Маскве рабіў прапанову. Я не ведаю Мілона, але калі дзядзька яго, сапраўдны мой друг, калі ўся публіка лічыць яго сумленным і паважаным чалавекам... Калі яго сэрца не занята...

## З'ява V

Старадум і Соф'я.

Соф'я *(падаючы акуляры)*. Знайшла, дзядзюшка!

Старадум *(чытае)*. «...Я цяпер толькі даведаўся... вядзе ў Маскву сваю каманду... ён з вамі павінен сустрэцца. Шчыра буду рад, калі ён убачыцца з вамі... Патурбуйцеся даведацца пра кірунак думак яго». *(Убок.)* Вядома, без гэтага яе не аддам... «Вы знойдзеце... Ваш сапраўдны друг...» Добра, гэты ліст да цябе належыць. Я казаў табе, што маладога чалавека ўхвальных якасцей мне раілі... Ад маіх слоў ты здатынавалася, любая мая. Я гэта і надоечы заўважыў і цяпер бачу. Даверлівасць твая да мяне...

Соф'я. Хіба я магу мець на сэрцы што-небудзь ад вас захаванае? Не, дзядзюшка, я шчыра скажу вам...

## З'ява VI

Тыя ж, Праўдзін і Мілон.

Праўдзін. Дазвольце пазнаёміць вас з панам Мілонам, маім сапраўдным другам.

Старадум *(убок)*. Мілон!

Мілон. Я палічу за вялікае шчасце, калі заслужу вашу добрую думку пра мяне, вашу да мяне ласку...

Старадум. Граф Чэстан ці не сваяк ваш?

Мілон. Ён мой дзядзька.

Старадум. Мне вельмі прыемна быць знаёмым з чалавекам вашых якасцей. Дзядзька ваш мне пра вас казаў. Ён пра вас добрай думкі. Асаблівыя якасці...

Мілон. Гэта яго да мяне ласка. У мае гады і ў маім становішчы было б залішняй ганарлівасцю лічыць усё тое заслужаным, чым маладога чалавека падбадзёрваюць паважаныя людзі.

Праўдзін. Я загадзя ўпэўнен, што друг мой заслужыць вашу прыхільнасць, калі вы пра яго даведаецеся больш. Ён бываў часта ў доме нябожчыцы сястрыцы вашай...

Старадум аглядваецца на Соф'ю.

Соф'я *(Старадуму ціха і баючыся)*. І матуля любіла яго, як сына.

Старадум *(Соф'і)*. Мне гэта вельмі прыемна. *(Мілону.)* Я чуў, што вы былі ў арміі. Адвага ваша...

Мілон. Я выконваў свой абавязак. Ні гады мае, ні чын, ні становішча яшчэ не дазволілі мне паказаць сапраўднай адвагі, калі ёсць ва мне яна.

Старадум. Як! Быўшы ў бойках і ставячы жыццё сваё...

Мілон. Я рызыкаваў жыццём сваім, як іншыя. Тут храбрасць была такою якасцю сэрца, якую салдату загадвае меч начальнік, а афіцэру гонар. Прызнаюся вам шчыра, што паказаць сапраўдную адвагу я не меў яшчэ ніякага выпадку; выпрабаваць жа сябе шчыра хачу.

Старадум. Мне вельмі цікава ведаць, што ж лічыце вы сапраўднай адвагай?

Мілон. Калі дазволіце мне выказаць думку маю, я лічу, што сапраўдная адвага ў душы, а не ў сэрцы. У каго яна ў душы, у таго, бясспрэчна, і храбрае сэрца. У нашым вайсковым рамястве храбрым павінен быць ваяка, адважным — вайсковы начальнік. Ён з халоднай крывёю заўважае ўсе ступені небяспекі, робіць патрэбныя захады, славе сваёй аддае перавагу перад жыццём; але што больш за ўсё — ён для карысці і славы бацькаўшчыны не баіцца забыць на сваю ўласную славу. Адвага яго, значыць, не ў тым, каб занядбаць жыццё сваё. Ён яго ніколі і не адважвае. Ён умее яго ахвяраваць.

Старадум. Справядліва. Вы сапраўдную адвагу знаходзіце ў вайсковым начальніку. Ці ўласціва ж яна і іншым станам?

Мілон. Яна дабрадзейнасць; значыць, няма стану, які ёю не мог бы вызначацца. Мне здаецца, храбрасць сэрца даводзіцца ў час бойкі, а адвага душы — ва ўсіх выпрабаваннях, ва ўсіх становішчах жыцця. І якая розніца паміж адвагаю салдата, які на прыступе рызыкуе жыццём сваім побач з іншымі, і паміж адвагай чалавека дзяржаўнага, які кажа праўду цару, адважваючыся яго ўгнявіць. Суддзя, які, не пабаяўшыся ні помсты, ні пагроз дужага, аддаў справядлівасць бездапаможнаму, у маіх вачах — герой. Якая малая душа таго, хто за пусцяковіну выкліча на паядынак, у параўнанні з тым, хто заступіцца за адсутнага, гонар якога пры ім паклёпнікі паганяць! Я разумею адвагу так...

Старадум. Як разумець належыць таму, у каго яна ў душы. Абнімі мяне, друг мой. Даруй мне за шчырасць. Я друг сумленных людзей. Гэта пачуццё ўкаранілася ў маё выхаванне. У табе бачу і шаную дабрадзейнасць, упрыгожаную розумам асвечаным.

Мілон. Душа шляхетная!.. Не — не магу захоўваць больш майго шчырага пачуцця... Не. Дабрадзейнасць твая выявіла сілаю сваёю ўсю таямніцу душы маёй. Калі маё сэрца дабрадзейнае, калі варта яно быць шчаслівым, ад цябе залежыць зрабіць яго шчасце. Я бачу яго ў тым, каб мець за жонку любую пляменніцу вашу. Узаемная наша прыхільнасць...

Старадум *(да Соф'і з радасцю)*. Як! Сэрца тваё ўмела распазнаць таго, каго я сам прапанаваў табе? Вось мой табе жаніх...

Соф'я. І я кахаю яго шчыра.

Старадум. Вы абое варты адно другога. *(У захапленні злучае іх рукі.)* Ад усяе душы даю вам сваю згоду.

Мілон *(абнімаючы Старадума)*. Маё шчасце бязмежнае!

Соф'я *(цалуючы Старадуму рукі)*. Хто можа быць шчаслівейшы за мяне!

*Разам*

Праўдзін. Як шчыра я рад!

Старадум. Маё задаваленне невыказнае!

Мілон *(цалуючы руку Соф'і)*. Вось хвіліна нашага шчасця.

Соф'я. Сэрца маё вечна кахаць цябе будзе.

## З'ява VII

Тыя ж і Скацінін.

Скацінін. І я тут.

Старадум. Чаго з'явіўся?

Скацінін. За сваёю патрэбаю.

Старадум. А чым я магу служыць?

Скацінін. Двума словамі.

Старадум. Якімі гэта?

Скацінін. Абняўшы мяне наймацней, скажы: Соф'ечка твая.

Старадум. Ці не глупства пачынаеш? Падумай як мае быць.

Скацінін. Я ніколі не думаю і загадзя ўпэўнены, што калі і ты думаць не будзеш, то Соф'ечка мая.

Старадум. Гэта дзіўная справа! Чалавек ты, як бачу, не без розуму, а хочаш, каб я аддаў сваю пляменніцу за каго не ведаю.

Скацінін. Не ведаеш, дык скажу. Я Тарас Скацінін, у радні сваёй не апошні. Радня Скацініных вялікая і старажытная. Прашчура нашага ні ў якой герольдыі не знойдзеш.

Праўдзін *(смеючыся)*. Гэтак вы нас упэўніце, што ён старэйшы за Адама?

Скацінін. А што ты думаеш? Хоць крышачку.

Старадум. Гэта значыць, прашчур твой створаны хоць у шосты дзень, але крыху раней за Адама?

Скацінін. Не, праўда? Дык ты добрай думкі пра старажытнасць мае радні?

Стpадум. О! такой добрай, што я дзіўлюся, як на тваім месцы можна выбіраць жонку з іншай радні, а не з Скацініных?

Скацінін. Памяркуй жа, якое шчасце Соф'ечцы быць за мною. Яна дваранка...

Стpадум. Вось чалавек! Дык таму ж ты ёй і не жаніх.

Скацінін. Ужо я на тое пайшоў, няхай брэшуць, што Скацінін ажаніўся з двараначкаю. Для мяне ўсё роўна.

Стpадум. Ды для яе не ўсё роўна, калі скажуць, што дваранка пайшла за Скацініна.

Мілон. Такая няроўнасць зрабіла б няшчаснымі вас абаіх.

Скацінін. А гэта што тут раўнуецца? *(Ціха Стpадуму.)* Га! Ці не адбівае?

Стpадум *(ціха Скацініну)*. Мне так здаецца.

Скацінін *(тым самым тонам)*. Ды дзе к чорту!

Стpадум *(тым жа тонам)*. Цяжка...

Скацінін *(голасна, паказваючы на Мілона)*. Хто ж з нас смешны? Ха, ха, ха, ха!

Стpадум *(смяецца)*. Бачу, хто смешны.

Соф'я. Дзядзюшка! Як мне люба, што вы вясёлы.

Скацінін *(Стpадуму)*. Бач! Дык ты весялун. Надоечы я думаў, што да цябе і прыступу няма. Мне слова не сказаў, а цяпер усё са мной смяешся.

Стpадум. Такі чалавек, мой друг. Час на час не прыпадае.

Скацінін. Гэта відаць. І надоечы ж я быў той самы Скацінін, а ты злаваўся.

Стpадум. Была прычына.

Скацінін. Я яе ведаю. Я і сам у гэтым такі самы. Дома, калі зайду ў хлеў ды знайду свіней не ў парадку,— злосць возьме. І ты, добра кажаш, заехаў сюды, убачыў, што ў сястрыным доме не лепш, як у хляве, табе і злосць.

Стpадум. Ты за мяне шчаслівейшы. Мяне клапоцяць людзі.

Скацінін. А мяне — дык свінні.

## З'ява VIII

Тыя ж, пані Прастакова, Прастакоў, Мітрафан і Ерамееўна.

Пані Прастакова *(уваходзячы)*. Ці ўсё ж з табою, любы?

Мітрафан. Ну, ды ўжо не клапаціся.

Пані Прастакова *(Старадуму).* Ці добра адпачыў, бацюхна? Мы ўсе ў чацвёртым пакоі на пальчыках хадзілі, каб цябе не патурбаваць; баяліся ў дзверы глянуць; чуем, адно ж ты ўжо даўно і сюды выйсці быў ласкаў. Не гневайся, бацюхна...

Старадум. О, пані, мне было б вельмі прыкра, калі б вы сюды прыйшлі раней.

Скацінін. Ты, сястра, як на смех, усё за мной па пятах. Я прыйшоў сюды за сваёй патрэбаю.

Пані Прастакова. А я дык за сваёю *(Старадуму).* Дазволь жа, мой бацюхна, патурбаваць вас цяпер агульнаю нашаю просьбай. *(Мужу і сыну.)* Кланяйцеся.

Старадум. Якою, пані?

Пані Прастакова. Па-першае, прашу ласкі ўсіх садзіцца.

Усе садзяцца, апрача Мітрафана і Ерамееўны.

Вось у чым справа, бацюхна. За малітвы бацькоў нашых,— дзе б нам, грэшным, было і ўмаліць,— даў нам Бог Мітрафанку. Мы ўсё рабілі, каб ён у нас стаў такім, як ты яго бачыш. Ці не будзеш ласкаў, мой бацюхна, патурбавацца і паглядзець, як ён у нас адукаваны?

Старадум. О, пані! Да маіх вушэй ужо дайшло, што ён цяпер толькі што з вучэння. Я чуў пра яго настаўнікаў і бачу наперад, якім граматеем яму быць належыць, вучачыся ў Куцейкіна, і якім матэматыкам, вучачыся ў Цыфіркіна. *(Да Праўдзіна.)* Цікава б мне паслухаць, чаму немец яго навучыў?

Пані Прастакова. Усім навукам, бацюхна.
Прастакоў. Усяму, бацюхна. } *Разам*
Мітрафан. Усё, што хочаш.

Праўдзін *(Мітрафану).* Што ж, напрыклад?

Мітрафан *(падае яму кнігу).* Вось граматыку.

Праўдзін *(узяўшы кнігу).* Бачу. Гэта граматыка. Што ж вы ў ёй ведаеце?

Мітрафан. Шмат. Назоўнікі ды прыметнікі.

Праўдзін. Дзверы, напрыклад, што гэта будзе: назоўнік ці прыметнік?

Мітрафан. Дзверы? Каторыя дзверы?

Праўдзін. Каторыя дзверы? Вось гэтыя.

Мітрафан. Гэтыя? Прыметнікі.

Праўдзін. Чаму ж?

Мітрафан. Бо яны прыметныя: адразу відаць, што гэта дзверы як мае быць. Вунь у каморы дзверы, дык тыя толькі назоўнікі: адна назва, што дзверы,— ледзь ліпяць.

Праўдзін. Дык таму ў цябе дурань будзе прыметнік, бо ён адразу прыметны паміж разумных?

Мітрафан. Ну, вядома.

Пані Прастакова. Што, як, мой бацюхна?

Прастакоў. Як, мой пане?

Праўдзін. Лепш не трэба. У граматыцы ён моцны.

Мілон. Я думаю, не слабейшы і ў гісторыі.

Пані Прастакова. Так, мой бацюхна. Ён яшчэ змалку да розных гісторый ахвотнік.

Скацінін. Мітрафан па мне пайшоў. Я сам без таго вачэй не сплюшчу, каб выбарны мне гісторый не расказваў. Майстар, сабачы сын! Адкуль што бярэцца!

Пані Прастакова. Аднак жа не зраўнуецца з Адамам Адамычам.

Праўдзін *(Мітрафану)*. А ці далёка вы ў гісторыі?

Мітрафан. Ці далёка? Гледзячы якая гісторыя. У іншай заляціш за трыдзевяць зямель, у трыдзесятае царства.

Праўдзін. А! Дык гэтакую гісторыю вывучае з вамі Вральман?

Старадум. Вральман? Прозвішча нешта знаёмае.

Мітрафан. Не! Наш Адам Адамыч гісторый не расказвае; ён, як я ўсё роўна, сам ахвотнік паслухаць.

Пані Прастакова. Яны абодва загадваюць расказваць гісторыі кароўніцы Хаўронні.

Праўдзін. Да ці не ў яе вы абодва і геаграфію вывучалі?

Пані Прастакова *(сыну)*. Чуеш, любенькі мой? Гэта што за навука?

Мітрафан *(ціха мацеры)*. А я адкуль ведаю?

Пані Прастакова *(ціха Мітрафану)*. Не ўпірайся, любенькі. Цяпер вось якраз сябе і паказаць.

Мітрафан *(ціха мацеры)*. Ды я не ўцямлю, пра што пытаюцца.

Пані Прастакова *(Праўдзіну)*. Як, бацюхна, назваў ты навуку гэту?

Праўдзін. Геаграфія.

Пані Прастакова *(Мітрафану)*. Чуеш, еаргафія.

Мітрафан. Ды што такое? Божухна ты мой. Прысталі з нажом да горла.

Пані Прастакова *(Праўдзіну)*. Ну і праўда, бацюхна. Ды скажы яму, зрабі ласку, якая гэта навука, ён і раскажа.

Праўдзін. Апісанне зямлі.

Пані Прастакова *(Старадуму)*. А нашто б гэта спатрэбілася на першы выпадак?

Старадум. На першы выпадак спатрэбілася б і для таго, што калі б здарылася ехаць, дык ведаеш, куды едзеш.

Пані Прастакова. Ах, мой бацюхна! А хурманы ж нашто? Гэта іх справы. Гэта такі і навука не дваранская. Дваранін толькі скажы: завязі мяне туды — завязуць, куды хочаш. Мне павер, бацюхна, глупства тое, чаго не ведае Мітрафанка.

Старадум. О, вядома, пані, у невуцтве вельмі прыемна цешыць сябе, лічачы ўсё тое глупствам, чаго не ведаеш.

Пані Прастакова. Без навукі людзі жывуць і жылі. Нябожчык бацюхна ваяводаю быў пятнаццаць год, так і памёр, не ўмеючы чытаць, а ўмеў багацце набыць і захаваць. Скаргі прымаў заўсёды, бывала, седзячы на жалезным куфры. Пасля кожнага куфар адчыніць і што-небудзь пакладзе. Вось гаспадарлівы быў! Жыцця не шкадаваў,— каб з куфра нічога не выняць. Перад іншым не пахвалюся, ад вас не стаюся: нябожчык, лежачы на куфры з грашыма, памёр, так сказаць, з голаду. Га! як гэта па-вашаму?

Старадум. Надзвычайна! Трэба быць Скацініным, каб мець такую асалоду, канаючы.

Скацінін. Ды калі ўжо даводзіць, што вучэнне глупства, дык возьмем дзядзьку Вавілу Фалалеіча! Пра пісьменнасць ніхто ад яго ніколі не чуў, і ён ні ад кога чуць не хацеў. А што была за галоўка!

Праўдзін. Што ж такое?

Скацінін. Ды з ім на вяку вось што здарылася. Конна на гонкім рысаку разагнаўся ён п'яны ў мураваныя вароты. Чалавек быў рослы, вароты нізкія, забыўся нагнуцца. Як рэзнецца лбом аб вершнік, аж прыгнула дзядзьку да пахвіны патыліцаю, і трапяткі конь вынес яго з варот пад ганак дагары ляжачага. Я хацеў бы ведаць, ці ёсць на свеце вучоны лоб, які б ад такога грумяка не разваліўся; а дзядзька, вечная яму памяць, працвярозіўшыся, запытаўся толькі, ці цэлыя вароты.

Мілон. Вы, пане Скацінін, самі лічыце сябе невучоным чалавекам; аднак я думаю, што ў гэтым выпадку і ваш лоб быў бы не мацнейшы, як у вучонага.

Старадум *(Мілону)*. У заклад не ідзі, друг мой. Я думаю, што Скацініны ўсе моцналобыя.

Пані Прастакова. Бацюхна мой! Ды што за радасць і вывучыцца? Мы гэта бачым сваімі вачыма і ў нашым краі. Хто больш кемлівы, таго свой жа брат зараз выбера яшчэ на якую-небудзь пасаду.

Старадум. А хто больш кемлівы, той і не адмовіцца быць карысным свайму грамадству.

Пані Прастакова. Бог вас ведае, як вы цяпер разважаеце. У нас, бывала, кожны толькі таго і глядзіць, каб на адпачынак. *(Праўдзіну.)* Ты сам, бацюхна, колькі працуеш!

Вось і цяпер, сюды ідучы, я бачыла, што да цябе нясуць нейкі пакет.

Праўдзін. Да мяне пакет? І мне ніхто пра гэта не скажа! *(Устаючы.)* Я прашу прабачыць мне, што вас пакідаю. Можа, ёсць мне якія-небудзь загады ад начальніка.

Старадум *(устае, і ўсе ўстаюць)*. Ідзі, мой друг, аднак я з табою не развітваюся.

Праўдзін. Я яшчэ пабачуся з вамі. Вы заўтра раніцою едзеце?

Старадум. Гадзіне а сёмай.

Праўдзін адыходзіць.

Мілон. А я заўтра ж, праводзячы вас, павяду сваю каманду. Цяпер пайду дам для гэтага загад.

Мілон адыходзіць, развітваючыся з Соф'яй поглядам.

### З'ява IX

Пані Прастакова, Мітрафан, Прастакоў, Скацінін, Ерамееўна, Старадум і Соф'я.

Пані Прастакова *(Стардуму)*. Ну, мой бацюхна, ты добра бачыў, які Мітрафанка?

Скацінін. Ну, мой дружа любы? Ты бачыш, які я?

Старадум. Ведаю абодвух, не трэба лепш.

Скацінін. Ці быць за мною Соф'ечцы?

Старадум. Не быць.

Пані Прастакова. Ці жаніх ёй мой Мітрафанка?

Старадум. Не жаніх.

Пані Прастакова. А што б перашкодзіла? } *Разам*
Скацінін. За чым жа справа стала? }

Старадум *(звёўшы іх абаіх)*. Вам адным пад сакрэтам сказаць можна. Яна заручана. *(Адыходзіць і падае знак Соф'і, каб ішла за ім.)*

Пані Прастакова. Ах, шэльма!

Скацінін. Ды ён звар'яцеў!

Пані Прастакова *(з нецярплівасцю)*. Калі яны выедуць?

Скацінін. Ты ж чула, заўтра ў сем гадзін.

Пані Прастакова. У сем гадзін!

Скацінін. Заўтра і я прачнуся, як толькі развідніцца. Няхай ён будзе разумны, які хоча, а і ад Скацініна адчэпіцца не хутка. *(Адыходзіць.)*

П а н і  П р а с т а к о в а *(бегаючы па сцэне, злосная і задуманая).* У сем гадзін!.. Мы ўстанем раней... Што наважыла, пастаўлю на сваім... Усе да мяне!..

Усе падбягаюць.

*(Да мужа.)* Заўтра ў шэсць гадзін каб карэта падвезена была да задняга ганка. Чуеш ты? Не праспі.

П р а с т а к о ў. Чую, мамулька.

П а н і  П р а с т а к о в а *(Ерамееўне).* Ты праз усю ноч не смей задрамаць пры Соф'іных дзвярах. Як толькі яна прачнецца, бяжы да мяне.

Е р а м е е ў н а. Не змігну, мая матухна.

П а н і  П р а с т а к о в а *(сыну).* Ты, мой любы сынок, сам у шэсць гадзін будзь зусім гатоў і пастаў трох слуг у Соф'інай перадспальні ды двух у сенцах на падмогу.

М і т р а ф а н. Усё будзе зроблена.

П а н і  П р а с т а к о в а. Ідзіце ж з Богам.

Усе адыходзяць.

А я ўжо ведаю, што рабіць. Дзе гнеў, там і міласць. Стары пагневаецца, ды даруе за няволю. А мы сваё возьмем.

К а н е ц  ч а ц в ё р т а й  д з е і

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

### З'ява I

С т а р а д у м  і  П р а ў д з і н.

П р а ў д з і н. Гэта быў той самы пакет, пра які сама тутэйшая гаспадыня ўчора мне паведаміла.

С т а р а д у м. Такім чынам ты цяпер маеш спосаб прыпыніць здзекі злой памешчыцы?

П р а ў д з і н. Мне даручана ўзяць пад апеку дом і вёскі пры першым шаленстве, ад якога будуць пакутаваць паднявольныя яе людзі.

С т а р а д у м. Дзякуй Богу, што чалавецтва знайсці абарону можа! Павер мне, мой друг, дзе гасудар думае, дзе ведае ён, у чым яго сапраўдная слава, там чалавецтву не

могуць не варочацца яго правы. Там усе хутка адчуюць, што кожны павінен шукаць свайго шчасця і выгады ў тым адным, што законна, і што прыгнятаць нявольніцтвам падобных да сябе беззаконна.

П р а ў д з і н. Я ў гэтым згодзен з вамі, але як цяжка знішчаць закаранелыя погляды, у якіх нізкія душы знаходзяць сваю выгаду!

С т а р а д у м. Слухай, друг мой! Вялікі гасудар — гэта гасудар мудры. Яго справа паказаць людзям, што сапраўды для іх добра. Слава мудрасці яго ў тым, каб кіраваць людзьмі, бо кіраваць статуямі няма мудрасці. Селянін самы найгоршы ў вёсцы выбіраецца звычайна за пастуха, бо не трэба шмат розуму, каб пасвіць жывёлу. Варты прастола гасудар імкнецца ўзвысіць душы сваіх падданых. Мы гэта бачым сваімі вачыма.

П р а ў д з і н. Прыемнасць, якую маюць гасудары, уладаючы вольнымі душамі, павінна быць такая вялікая, што я не разумею, якія прычыны маглі б адцягнуць...

С т а р а д у м. А! Якая вялікая душа павінна быць у гасудара, каб стаць на шлях праўды і ніколі з яго не сыходзіць! Колькі сяцей расстаўлена, каб злавіць душу чалавека, які трымае ў сваіх руках лёс іншых людзей! І горш за ўсё: чарада падлізнікаў скнарлівых штохвіліны намагаецца ўпэўніць яго, што людзі створаны для яго, а не ён для людзей.

П р а ў д з і н. Без душэўнай знявагі нельга сабе ўявіць, што такое падлізнік.

С т а р а д у м. Падлізнік — гэта стварэнне, якое не толькі пра другіх, але і пра сябе добрай думкі не мае. Усе яго імкненні накіраваны на тое, каб спачатку асляпіць розум у чалавека, а пасля рабіць з яго, што яму трэба. Ён начны злодзей, які спачатку свечку патушыць, а потым красці пачне.

П р а ў д з і н. Прычынай няшчасця ў людзей з'яўляецца іх уласная разбэшчанасць, але спосабы зрабіць людзей добрымі...

С т а р а д у м. Яны ў руках гасудара. Як толькі ўсе ўбачаць, што без дабрадзейнасці ніхто не можа выйсці ў людзі; што ні подлай выслугай і ні за якія грошы нельга купіць таго, чым узнагароджваецца заслуга; што людзі выбіраюцца для пасад, а не пасады хапаюцца людзьмі,— тады кожны палічыць, што выгадней быць дабрадзейным, і кожны стане добрым чалавекам.

П р а ў д з і н. Правільна. Вялікі гасудар дае...

С т а р а д у м. Ласку і дружбу таму, каму хоча, пасады і чыны таму, хто іх варты.

П р а ў д з і н. Каб добрых людзей не бракавала, цяпер асабліва клапоцяцца аб выхаванні...

Старадум. Яно і павінна быць залогам дабрабыту дзяржавы. Мы бачым усе няшчасныя вынікі дрэннага выхавання. Ну, што для бацькаўшчыны можа выйсці з Мітрафанкі, за якога невукі-бацькі плацяць яшчэ і грошы невукам-настаўнікам? Колькі дваран-бацькоў, якія маральнае выхаванне свайго сына даручаюць свайму прыгоннаму нявольніку! Гадоў праз пятнаццаць і выходзяць замест аднаго нявольніка два, стары дзядзька ды малады паніч.

Праўдзін. Але асобы вышэйшага стану даюць сваім дзецям...

Старадум. Так, мой друг! Але я хацеў бы, каб пры ўсіх навуках не забывалася галоўная мэта ўсіх ведаў чалавечых — дабрадзейства. Вер мне, што навука ў разбэшчаным чалавеку гэта ліхая зброя рабіць зло. Асвета ўзвышае толькі дабрадзейную душу. Я хацеў бы, напрыклад, каб пры выхаванні сына знатнага пана настаўнік яго кожны дзень разгарнуў бы яму гісторыю і паказаў у ёй два месцы: у адным, як вялікія людзі спрыялі дабру свае бацькаўшчыны; у другім, як вяльможа нягодны, злоўжываючы сваёй сілай і ўладай, з вышыні пышнай свае знатнасці зрынуўся ў бяздонне знявагі і ганьбы.

Праўдзін. Сапраўды трэба, каб людзі кожнага стану мелі прыстойнае сабе выхаванне; тады можна быць упэўненым...

Старадум. Што такое зрабілася?

**З'ява II**

Тыя ж, Мілон, Соф'я, Ерамееўна.

Мілон *(адпіхае ад Соф'і Ерамееўну, якая за яе была ўплялася, крычыць на людзей, трымаючы ў руцэ агаленую шпагу)*. Паспрабуй хто-небудзь падысці да мяне!

Соф'я *(кідаючыся да Старадума)*. Ах, дзядзюшка! Барані мяне!

Старадум. Друг мой, што такое?
Праўдзін. Якое злачынства!
Соф'я. Сэрца маё калоціцца!
Ерамееўна. Прапала мая галовачка!
*Разам*

Мілон. Падлюгі. Ідучы сюды, бачу шмат людзей, якія, падхапіўшы яе пад рукі, нягледзячы на супраціўленне і крык, зводзяць ужо з ганка да карэты.

Соф'я. Вось хто мяне выратаваў!

Старадум. Друг мой!

Праўдзін *(Ерамееўне)*. Зараз жа скажы, куды везці хацелі, бо як нягодніцу...

Ерамееўна. Вянчацца, бацюхна, вянчацца.

Пані Прастакова *(за кулісамі)*. Шэльмы! Зладзеі! Абармоты! Загадаю збіць усіх да смерці!

## З'ява III

Тыя ж, пані Прастакова, Прастакоў і Мітрафан.

Пані Прастакова. Якая ж я гаспадыня ў доме! *(Паказваючы на Мілона.)* Чужы пагрозіць, загад мой для іх нічога не варт.

Прастакоў. Хіба ж я вінават?
Мітрафан. За людзей брацца!
Пані Прастакова. Жыва быць не хачу.
} *Разам*

Праўдзін. Злачынства, якому я сам сведка, дае права вам як дзядзьку, а вам як жаніху...

Пані Прастакова. Жаніху!
Прастакоў. А мы ж як будзем?
Мітрафан. Усё к чорту!
} *Разам*

Праўдзін. Патрабаваць ад урада, каб зробленая ёй крыўда як мае быць пакарана была паводле законаў. Зараз жа аддам яе на суд, як злачынца, што парушае грамадзянскі спакой.

Пані Прастакова *(падаючы на калені)*. Бацюхна, вінавата!

Праўдзін. Муж і сын не маглі не прымаць удзелу ў злачынстве.

Прастакоў. Без віны вінаваты.
Мітрафан. Вінават, дзядзюшка.
} *Разам кідаюцца на калені.*

Пані Прастакова. Ах я, сабачая дачка! Што я нарабіла!

## З'ява IV

Тыя ж і Скацінін.

Скацінін. Ну, сястра, добрую была штуку... Бач! Што гэта? Усе нашы на каленях!

Пані Прастакова *(стоячы на каленях)*. Ах, мае бацюхны! пакаянную галаву меч не сячэ. Мой грэх! Не загубіце мяне. *(Да Соф'і.)* Маці ты мая родная, даруй мне, злітуйся нада мной *(паказваючы на мужа і сына)* і над беднымі сіратамі.

Скацінін. Сястра, ці пры сваім ты розуме?

Праўдзін. Маўчы, Скацінін.

Пані Прастакова. Бог дасць табе шчасце з любым жаніхом тваім. Нашто табе галава мая?

Соф'я. Дзядзюшка! Я сваю крыўду забываю.

Пані Прастакова *(падняўшы рукі да Старадума)*. Бацюхна! Даруй і ты мне, грэшнай. Я ж чалавек, а не анёлак.

Старадум. Ведаю, ведаю, што чалавеку нельга быць анёлам. Але ж не трэба быць і чортам.

Мілон. І злачынства яе і пакаянне зняважі варты.

Праўдзін *(Старадуму)*. Ваша скарга, ваша адно слова перад урадам... І ўжо выратаваць яе нельга.

Старадум. Не хачу нічые згубы. Я ёй дарую.

Усе ўсхапіліся з калень.

Пані Прастакова. Дараваў! Ах, бацюхна!.. Ну, цяпер жа дам я дыхту шэльмам, сваім людзям! Цяпер я ўсіх па адным перабяру. Цяпер я дапытаюся, хто з рук яе выпусціў. Не, шэльмы! Не, зладзеі! Век не дарую, не дарую гэтай насмешкі!

Праўдзін. За што вы хочаце караць людзей вашых?

Пані Прастакова. Ах, бацюхна, гэта што за пытанне? Хіба я не вольна над сваімі людзьмі?

Праўдзін. А вы лічыце, што маеце права біцца, калі вам захочацца?

Скацінін. Ды хіба дваранін не мае права набіць слугу, калі захоча?

Праўдзін. Калі захоча! Ды што за хаценне. Сапраўдны ты Скацінін. *(Прастаковай.)* Не, пані, катаваць ніхто не мае права.

Пані Прастакова. Не мае права! Дваранін, калі захоча, і слугу адлупцаваць не волен! Ды нашто ж нам дадзен указ аб вольнасці дваранства?

Старадум. Здатная тлумачыць указы.

Пані Прастакова. Насміхайцеся, зрабіце ласку, а я зараз жа вазьмуся за іх. *(Памыкаецца ісці.)*

Праўдзін *(спыняючы яе)*. Прыпыніцеся, васпані. *(Выняўшы паперу і важным голасам Прастакову.)* Імем урада вам загадваю зараз жа сабраць людзей і сялян вашых для абвяшчэння ім указа, што за здзекі над людзьмі жонкі вашай, да якіх дапусціла яе ваша дурасць, загадвае мне ўрад узяць пад апеку дом ваш і вёскі.

Прастакоў. Га! Да чаго мы дажыліся!

Пані Прастакова. Як! Новая бяда! За што? За што, бацюхна, што я ў сваім доме пані?..

Праўдзін. Пані нялюдская, паганай натуры, якой дабраўладная дзяржава цярпець не можа. *(Прастакову.)* Ідзіце!

Прастакоў *(адыходзіць, пляснуўшы рукамі)*. Ад каго гэта, матухна!

Пані Прастакова *(нудзячыся)*. О, гора маё! Ой, сумна!

Скацінін *(убок)*. О-го-го! Ды гэтак і да мяне дабяруцца. Ды гэтак і ўсякі Скацінін можа папасці пад апеку... Уцяку ж я адгэтуль, пакуль жыў-здароў.

Праўдзін *(Скацініну)*. А хутчэй за ўсё ты. Я чуў, што ты з свіннямі лепш абыходзішся, як з людзьмі...

Скацінін *(адыходзячыся, баязліва)*. Пане мой літасцівы! Ды як мне і быць да людзей прыхільным. Сам ты памяркуй, людзі перада мною разумнікамі здаюцца, а паміж свіней я сам за ўсіх разумнейшы.

Пані Прастакова. Усё трачу! Зусім гіну!

Скацінін *(Старадуму)*. Я ішоў быў да цябе, каб ладу дабіцца. Жаніх...

Старадум *(паказваючы на Мілона)*. Вось ён.

Скацінін. Ага! Дык мне рабіць тут няма чаго. Брычку запрэгчы ды...

Праўдзін. Ды адпраўляйся да сваіх свіней. Не забудзься, аднак жа, паведаміць усім Скаціністым, што ім пагражае.

Скацінін. Як прыяцеляў не перасцерагчы! Паведамлю ім, каб яны людзей...

Праўдзін. Больш любілі ці, прынамсі...

Скацінін. Ну?..

Праўдзін. Хоць не чапалі...

Скацінін *(адыходзіць)*. Хоць не чапалі!

### З'ява V

Пані Прастакова, Старадум, Праўдзін, Мітрафан, Мілон, Соф'я, Ерамееўна.

Пані Прастакова *(Праўдзіну)*. Бацюхна, не загубі ты мяне! Які табе прыбытак? Ці нельга як-небудзь указ адмяніць? Ці ўсе ж указы выконваюцца?

Праўдзін. Я ад закона ніяк не адступлю.

Пані Прастакова. Дай мне тэрміну хоць на тры дні. *(Убок.)* Я далася б ім у знак...

Праўдзін. Ні на тры гадзіны.

Старадум. Так, дружа мой! Яна і за тры гадзіны нарабіць можа столькі, што за век не паправіш.

Пані Прастакова. Ды як вам, мой бацюхна, самому займацца дробязямі?..

Праўдзін. Гэта мая справа. Чужое вернута будзе гаспадарам, а...

Пані Прастакова. А з даўгамі ж разабрацца?.. Не заплачана настаўнікам...

Праўдзін. Настаўнікам? *(Ерамееўне.)* Ці тут яны? Увядзі іх сюды.

Ерамееўна. Мусіць, прывалакліся. А немца як, мой бацюхна?..

Праўдзін. Усіх пакліч.

Ерамееўна адыходзіць.

Не турбуйся ні пра што, васпані: я ўсіх задаволю.

Старадум *(бачачы засмучаную Прастакову)*. Шаноўная! Ты сама сябе адчуеш лепш, страціўшы сілу рабіць людзям дрэнна.

Пані Прастакова. Дзякую за ласку! Куды ж я варта, калі ў маім доме маім жа рукам і волі няма!

**З'ява VI**

Тыя ж, Ерамееўна, Вральман, Куцейкін і Цыфіркін.

Ерамееўна *(увёўшы настаўнікаў, да Праўдзіна)*. Вось табе і ўся наша сволач, мой бацюхна!

Вральман *(Праўдзіну)*. Фаша фысока і плахароціе. Пылі ласкавы мяне да сябе прасіць?

Куцейкін *(Праўдзіну)*. Зван бых і прыідох.

Цыфіркін. Які загад будзе, ваша благароддзе?

Старадум *(углядаючыся на Вральмана)*. Бач! Гэта ты, Вральман?

Вральман *(пазнаўшы Старадума)*. Ай! ай! ай! ай! ай! Гэта ты, мой літасціфы пане! *(Цалуючы Старадумава крысо.)* Ці старофенькі шывеш, мой пацюхна?

Праўдзін. Як, ён вам знаёмы?

Старадум. Як жа не знаёмы? Ён тры гады быў у мяне хурманам.

Усе дзівяцца.

Праўдзін. Дасканалы настаўнік!

Старадум. А ты тут настаўнікам? Вральман! Я ж думаў, што ты чалавек добры і не за сваё не возьмешся.

В р а л ь м а н. Ты што рапіць, мой пацюхна! Не я першы, не я апошні. Тры месяцы ў Маскве цягаўся пес месца, хурман нідзе не трэпа. Прыйшлося ці з голату памерці, ці настаўнік...

П р а ў д з і н *(да настаўнікаў)*. Па волі ўрада стаўшы апекуном над тутэйшым домам, я вас адпускаю.

Ц ы ф і р к і н. Лепш не трэба.

К у ц е й к і н. Адпускаць будзеце ласкавы? Ды раней разлічымся...

П р а ў д з і н. А што табе належыць?

К у ц е й к і н. Не, літасцівы пане, мой рахунак зело нямал. За паўгода за вучэнне, за абутак, што стаптаў за тры гады, за прастой, што сюды прывалачэшся, бывала, дарэмна. За...

П а н і  П р а с т а к о в а. Ненаедная душа! Куцейкін! За што гэта?

П р а ў д з і н. Не ўмешвайцеся, пані. Я вас прашу.

П а н і  П р а с т а к о в а. Ды калі пайшло на праўду, чаму ты навучыў Мітрафанку?

К у ц е й к і н. Гэта яго справа. Не мая.

П р а ў д з і н *(Куцейкіну)*. Добра, добра. *(Цыфіркіну.)* Табе ці шмат заплаціць?

Ц ы ф і р к і н. Мне? Нічога.

П а н і  П р а с т а к о в а. Яму, бацюхна, за адзін год дадзена дзесяць рублёў, а яшчэ за год ні грошыка не заплачана.

Ц ы ф і р к і н. Так: на тыя дзесяць рублёў я знасіў ботаў за два гады. Мы і квіты.

П р а ў д з і н. А за вучэнне?

Ц ы ф і р к і н. Нічога.

П р а ў д з і н. Як нічога?

Ц ы ф і р к і н. Не вазьму нічога. Ён нічога не пераняў.

С т а р а д у м. Усё ж такі табе заплаціць трэба.

Ц ы ф і р к і н. Няма за што. Я цару служыў дваццаць год з гакам. За службу грошы браў, дарэмна ніколі не браў і не вазьму.

С т а р а д у м. Вось сапраўды добры чалавек!

Старадум і Мілон дастаюць з кашалькоў грошы.

П р а ў д з і н. Табе не сорам, Куцейкін?

К у ц е й к і н. Пасраміхся, окаянный.

С т а р а д у м *(Цыфіркіну)*. Вось табе, друг мой, за добрую душу.

Ц ы ф і р к і н. Дзякую, ваша высокаблагароддзе. Гасцінец я вазьму, а не заслужыўшы, век не патрэбую.

Мілон *(падае яму грошы)*. Вось яшчэ табе, даражэнькі!
Цыфіркін. І яшчэ дзякую.

Праўдзін дае таксама яму грошы.

Ды за што, ваша благароддзе, дорыце?
Праўдзін. За тое, што ты не падобны на Куцейкіна.
Цыфіркін. Ваша благароддзе! Я салдат!
Праўдзін. Ідзі ж, мой друг, з Богам.

Цыфіркін адыходзіць.

А ты, Куцейкін, прыйдзі сюды заўтра ды патурбуйся разлічыцца з самою гаспадыняю.

Куцейкін *(выбягаючы)*. З самою? Ад усяго адракаюся.

Вральман *(Старадуму)*. Староха слуху не пакіньце, фаша фысокароддзе. Фасміце мяне сноў да сяпе.

Старадум. Ды ты, Вральман, я думаю, адвык і ад коней?

Вральман. Э не, мой пацюхна! Шывучы з тутэйшымі панамі, ставалася мне, што я ўсё з конікамі.

## З'ява VII

Тыя ж і камердынер.

Камердынер *(Старадуму)*. Карэта ваша гатова.
Вральман. Сагадаеш мне дафесці сяпе?
Старадум. Ідзі, садзіся на козлы.

Вральман выходзіць.

## З'ява апошняя

Пані Прастакова, Старадум, Мілон, Соф'я, Праўдзін, Мітрафан, Ерамееўна.

Старадум *(Праўдзіну, трымаючы рукі Соф'і і Мілона)*. Ну, мой друг! Мы едзем. Пажадай нам...

Праўдзін. Усяго шчасця, на якое маюць права сумленныя сэрцы.

Пані Прастакова *(кідаючыся абнімаць сына)*. Адзін ты астаўся ў мяне, мой любы друг, Мітрафанка...

Мітрафан. Ды адвяжыся, матуля! Вось прывязалася...

Пані Прастакова. І ты, і ты мяне кідаеш! А, няўдзячны! *(Страціла прытомнасць.)*

Соф'я *(падбягае да яе)*. Божа мой! Яна без памяці.

# Мікалай Гогаль

# РЭВІЗОР

*Камедыя ў пяці дзеях*

Не крыўдуй на люстра,
калі морда крывая.
*Народная прыказка*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Антон Антонавіч Скназнік-Дмуханоўскі — гараднічы.
Ганна Андрэеўна — жонка яго.
Мар'я Антонаўна — дачка яго.
Лука Лукіч Хлопаў — наглядчык вучылішчаў.
Жонка яго.
Амос Фёдаравіч Ляпкін-Цяпкін — суддзя.
Арцемій Піліпавіч Земляніка — папячыцель богаўгодных устаноў.
Іван Кузьміч Шпекін — паштмайстар.
Пётр Іванавіч Добчынскі, Пётр Іванавіч Бобчынскі — гарадскія памешчыкі.
Іван Аляксандравіч Хлестакоў — чыноўнік з Пецярбурга.
Восіп — яго слуга.
Хрысціян Іванавіч Гібнер — павятовы лекар.
Фёдар Андрэевіч Люлюкоў, Іван Лазаравіч Растакоўскі, Сцяпан Іванавіч Каробкін — адстаўныя чыноўнікі, паважаныя асобы ў горадзе.
Сцяпан Ільіч Ухавёртаў — прыватны прыстаў.
Свістуноў, Пугавіцын, Дзяржымарда — паліцэйскія.
Абдулін — купец.
Фяўронія Пятроўна Пашлёпкіна — слесарыха.
Жонка унтэр-афіцэра.
Мішка — слуга гараднічага.
Слуга з шынка, госці-мужчыны, госці-жанчыны, купцы, мяшчане, прасіцелі.

## ХАРАКТАРЫ І КАСЦЮМЫ

*Заўвагі для паноў акцёраў*

Гараднічы, пастарэлы ўжо на службе і вельмі не дурны, па-свойму, чалавек. Хоць і хабарнік, але трымаецца вельмі салідна; досыць сур'ёзны; крыху нават рэзанёр; гаворыць ні гучна, ні ціха, ні многа, ні мала. Яго кожнае слова значнае. Рысы твару яго грубыя і жорсткія, як у кожнага, хто пачаў цяжкую службу з ніжэйшых чыноў. Пераход ад страху да радасці, ад нізасці да пыхлівасці досыць хуткі, як у чалавека з грубаразвітымі нахіламі душы. Ён апрануты, як звычайна, у сваім мундзіры з пятліцамі і ў батфортах са шпорамі. Валасы на ім стрыжаныя, з сівізною.

Ганна Андрэеўна, жонка яго, правінцыяльная какетка, яшчэ не зусім пажылых гадоў, выхаваная напалову на раманах і альбомах, напалову на клопатах у сваёй кладоўцы і дзявочым пакоі. Вельмі цікаўлівая і пры выпадку выказвае ганарыстасць. Бярэ часамі ўладу над мужам таму толькі, што той не ведае, што адказваць ёй. Але ўлада гэта пашыраецца толькі на дробязі і складаецца з вымоў і насмешак. Яна чатыры разы пераадзяваецца ў розныя сукенкі на працягу п'есы.

Хлестакоў, малады чалавек гадоў дваццаці трох, тоненькі, хударлявы; крыху прыдуркаваты і, як кажуць, без цара ў галаве. Адзін з тых людзей, якіх у канцылярыях называюць найпусцейшымі. Гаворыць і дзейнічае без усякага разумення. Ён не можа спыніць сталай увагі на якой-небудзь думцы. Гаворка яго адрывістая, і словы вылятаюць з вуснаў яго зусім нечакана. Чым больш той, хто выконвае гэтую ролю, пакажа шчырасці і прастаты, тым больш ён выйграе. Адзеты па модзе.

Восіп, слуга, такі, як звычайна бываюць слугі крыху пажылых гадоў. Гаворыць сур'ёзна; глядзіць крыху ўніз, рэзанёр і любіць сам сабе чытаць навучанні для свайго пана. Голас яго заўсёды амаль роўны, у размове з панам набывае суровы, адрывісты і крыху нават грубы характар. Ён разумнейшы за свайго пана і таму хутчэй дагадваецца, але не любіць шмат гаварыць і моўчкі чмут. Вопратка яго — шэры або сіні падношаны сурдут.

Бобчынскі і Добчынскі, абодва нізенькія, кароценькія, вельмі цікаўныя і надзвычай падобныя адзін да аднаго. Абодва з невялікімі пузянятамі. Абодва гавораць скорагаворкай і надзвычай шмат дапамагаюць жэстамі і рукамі. Добчынскі крышку вышэйшы і сур'ёзнейшы за Бобчынскага, але Бобчынскі кемлівейшы і жвавейшы за Добчынскага.

Ляпкін-Цяпкін, суддзя, чалавек, які прачытаў пяць або шэсць кніг і таму крыху вальнадумны. Ахвотнік вялікі на здагадкі і таму кожнаму слову свайму надае вагу. Той, хто яго іграе, павінен заўсёды захоўваць на твары сваім міну. Гаворыць басам, з прадаўгаватай расцяжкай, хрыпам і сапеннем, як старасвецкі гадзіннік, які раней шыпіць, а потым ужо б'е.

Земляніка, папячыцель богаўгодных устаноў, вельмі тоўсты, непаваротлівы і няспрытны чалавек, але пры ўсім тым пралаза і чмут. Вельмі паслужлівы і мітуслівы.

Паштмайстар, прастадушны да наіўнасці чалавек.

Іншыя ролі не патрабуюць асаблівых тлумачэнняў. Арыгіналы іх заўсёды амаль знаходзяцца перад вачамі.

Паны акцёры асабліва павінны звярнуць увагу на апошнюю сцэну. Апошняе вымаўленае слова павінна зрабіць электрычнае патрасенне ўсіх разам, раптоўна. Уся група павінна перамяніць становішча ў адзін момант. Гук здзіўлення павінен вырвацца ва ўсіх жанчын разам, як быццам з адных грудзей. Ад невыканання гэтых заўваг можа знікнуць увесь эфект.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Пакой у доме гараднічага.

### З'ява I

Гараднічы, папячыцель богаўгодных устаноў, нагляд-чык вучылішчаў, суддзя, прыватны прыставу, лекар, два квартальныя.

Гараднічы. Я запрасіў вас, панове, для таго, каб сказаць вам вельмі непрыемную навіну. Да нас едзе рэвізор.

Амос Фёдаравіч. Як рэвізор?

Арцемій Піліпавіч. Як рэвізор?

Гараднічы. Рэвізор з Пецярбурга, інкогніта. І яшчэ з сакрэтным прадпісаннем.

Амос Фёдаравіч. Вось табе на!

Арцемій Піліпавіч. Вось не было клопату, дык падай.

Лука Лукіч. Госпадзі Божа, яшчэ і з сакрэтным прадпісаннем!

Гараднічы. Я нібы прадчуваў: сёння мне ўсю ноч сніліся нейкія два незвычайныя пацукі. Дапраўды, гэтакіх я ніколі не бачыў: чорныя, страшэнна вялікія! прыйшлі, панюхалі — і пайшлі прэч. Вось я вам прачытаю пісьмо, якое атрымаў я ад Андрэя Іванавіча Чмыхава, якога вы, Арцемій Піліпавіч, ведаеце. Вось што ён піша: «Любы друг, кум і дабрадзей *(мармыча напаўголаса, прабягаючы хутка вачыма)* ...і паведаміць табе». А! Вось: «Спяшаюся, між іншым, паведаміць табе, што прыехаў чыноўнік з прадпісаннем агледзець усю губерню і асабліва наш павет *(значна падымае палец угару)*. Я даведаўся пра гэта ад самых пэўных людзей, хоць ён выдае сябе за прыватную асобу. Паколькі я ведаю, што за табою, як за ўсякім, водзяцца грашкі, бо ты чалавек разумны і не любіш прапускаць таго, што плыве ў рукі...»

*(спыніўшыся)* ну, тут свае... «то раю табе захоўваць асцярогу, бо ён можа прыехаць кожную гадзіну, калі толькі ўжо не прыехаў і не жыве дзе-небудзь інкогніта... Учарашняга дня я...» Ну, тут пайшлі ўжо справы сямейныя: «сястра Ганна Кірылаўна прыехала да нас з сваім мужам; Іван Кірылавіч вельмі патаўсцеў і ўсё грае на скрыпцы...» і іншае, і іншае. Дык вось якая акалічнасць!

Амос Фёдаравіч. Так, акалічнасць такая незвычайная, проста незвычайная. Гэта нешта нездарма.

Лука Лукіч. Нашто ж, Антон Антонавіч, чаму гэта? чаго да нас рэвізор?

Гараднічы. Чаго! Такі ўжо, мусіць, лёс! *(Уздыхнуўшы.)* Да гэтага часу, дзякаваць Богу, падбіраліся да іншых гарадоў; цяпер прыйшла чарга і нашаму.

Амос Фёдаравіч. Я думаю, Антон Антонавіч, што тут тонкая і больш палітычная прычына. Гэта азначае вось што: Расія... так... хоча весці вайну, і міністэрыя, вось бачыце, і падаслала чыноўніка, каб даведацца, ці няма дзе здрады.

Гараднічы. Вунь куды хапіў! Яшчэ і разумны чалавек. У павятовым горадзе здрада! Што ён, прыгранічны, ці што? Ды адгэтуль, хоць тры гады скачы, ні да якай дзяржавы не даедзеш.

Амос Фёдаравіч. Не, я вам скажу, вы не тое... Вы не... Начальства мае тонкія намеры: дарма што далёка, а яно сабе матае на вус.

Гараднічы. Матае ці не матае, а я вас, панове, перасцярог. Глядзіце, па сваёй часці я сякія-такія распараджэнні зрабіў, раю і вам. Асабліва вам, Арцемій Піліпавіч! Бясспрэчна, праезджы чыноўнік захоча перш за ўсё агледзець падначаленыя вам богаўгодныя ўстановы — і таму вы зрабіце так, каб усё было прыстойна: каўпакі каб былі чыстыя і хворыя каб не падобны былі на кавалёў, як звычайна яны ходзяць па-хатняму.

Арцемій Піліпавіч. Ну, гэта яшчэ нічога. Каўпакі, бадай, можна надзець і чыстыя.

Гараднічы. Так, і зноў жа над кожным ложкам надпісаць па-латыні ці на іншай якой мове... гэта па вашай ужо часці, Хрысціян Іванавіч,— усякую хваробу: калі хто захварэў, якога дня і чысла... Нядобра, што ў вас хворыя такі моцны тытунь кураць, што заўсёды пачынаеш чхаць, як увойдзеш. Ды і лепш, каб іх было менш: адразу палічаць за дрэнны догляд ці за няўмельства ўрача.

Арцемій Піліпавіч. О! наконт лекаў мы з Хрысціянам Іванавічам прынялі свае захады: чым бліжэй да натуры, тым лепш; лякарстваў дарагіх мы не ўжываем. Чалавек просты: калі памрэ, то і так памрэ, калі ачуняе, то і так ачуняе.

Ды і Хрысціяну Іванавічу цяжка было б з імі размаўляць: ён па-руску ні слова не ведае.

Хрысціян Іванавіч падае гук, часткова падобны на літару «і» і крыху на «е».

Гараднічы. Вам таксама раіў бы, Амос Фёдаравіч, звярнуць увагу на ўстановы. У вас там у пярэдняй, куды звычайна заходзяць прасіцелі, вартаўнікі завялі гусей з маленькімі гусянятамі, якія так і шныраюць пад нагамі. Яно, вядома, хатнюю гаспадарку заводзіць кожнаму пахвальна, і чаму ж вартаўніку і не завесці яе? Толькі, ведаеце, у такім месцы непрыстойна... я і раней хацеў вам на гэта заўважыць, але ўсё неяк забываўся.

Амос Фёдаравіч. А вось я іх сягоння ж загадаю ўсіх забраць на кухню. Хочаце, прыходзьце абедаць.

Гараднічы. Апрача таго, дрэнна, што ў вас высушваецца ў самой установе ўсякая дрэнь і над самай шафай з паперамі паляўнічы бізун. Я ведаю, вы любіце паляванне, але ўсё ж на час лепш яго прыняць, а там, як праедзе рэвізор, бадай, можаце сабе зноў яго павесіць. Таксама засядацель ваш... ён, вядома, чалавек з ведамі, але ад яго такі пах, быццам ён толькі што выйшаў з бровара,— гэта таксама нядобра. Я хацеў даўно пра гэта сказаць, але быў, не помню, заняты нечым. Ёсць супроць гэтага сродкі, калі ўжо гэта сапраўды, як ён кажа, у яго прыродны пах. Можа, яму параіць есці цыбулю, ці часнок, ці што-небудзь іншае. У гэтым выпадку можа дапамагчы рознымі медыкаментамі Хрысціян Іванавіч.

Хрысціян Іванавіч падае той самы гук.

Амос Фёдаравіч. Не, гэта ўжо нельга выкараніць. Ён кажа, што ў дзяцінстве яго мамка выцяла, і з тае пары ад яго аддае крыху гарэлкай.

Гараднічы. Ды я так толькі заўважыў вам. Наконт жа ўнутранага распараджэння і таго, што называе ў пісьме Андрэй Іванавіч грашкамі, я нічога не магу сказаць. Ды і дзіўна было б гаварыць: няма чалавека, які б за сабою не меў якіх-небудзь грахоў. Гэта ўжо самім Богам так зроблена, і вальтэр'янцы дарэмна супраць гэтага гавораць.

Амос Фёдаравіч. Што ж вы лічыце, Антон Антонавіч, грашкамі? Грашкі грашкам не роўныя. Я гавару ўсім адкрыта, што бяру хабар, але чым хабар? Ганчымі шчанюкамі. Гэта зусім іншая справа.

Гараднічы. Ну, шчанюкамі ці яшчэ чым іншым — усё роўна хабар.

Амос Фёдаравіч. Ну не, Антон Антонавіч. А вось, напрыклад, калі ў каго-небудзь шуба каштуе пяцьсот рублёў, ды жонцы шаль...

Гараднічы. Ну а што з таго, што вы бераце хабар гончымі шчанюкамі? Затое вы ў Бога не верыце; вы ў царкву ніколі не ходзіце; а я па крайняй меры ў веры цвёрды і кожную нядзелю бываю ў царкве. А вы... О, я ведаю вас: вы калі пачняце гаварыць пра стварэнне свету, проста валасы дубка становяцца.

Амос Фёдаравіч. Сам жа сабою дайшоў, сваім розумам.

Гараднічы. Ну, у іншым выпадку шмат розуму горш, чым бы яго зусім не было. Урэшце, я так толькі ўпамянуў пра павятовы суд; а па праўдзе сказаць, наўрад ці хто калі-небудзь загляне туды: гэта ўжо такое зайздроснае месца, сам Бог яго засцерагае. А вось вам, Лука Лукіч, як наглядчыку навучальных устаноў, трэба паклапаціцца асабліва наконт настаўнікаў. Яны людзі, вядома, вучоныя і выхоўваліся ў розных калегіях, але маюць вельмі дзіўныя ўчынкі, натуральна неадлучныя ад вучонага звання. Адзін з іх, напрыклад, вось гэты, што мае тоўсты твар... не ўспомню яго прозвішча, ніяк не можа абысціся без таго, каб, узышоўшы на кафедру, не зрабіць грымасу. Вось гэтак *(робіць грымасу)*. І потым пачне рукою з-пад гальштука прасаваць сваю бараду. Вядома, калі ён вучню састроіць такую морду, дык яно яшчэ нічога: можа, яно там і трэба так, пра гэта я не магу меркаваць; але вы самі падумайце, калі ён зробіць гэта наведвальніку — гэта можа быць вельмі дрэнна: пан рэвізор ці іншы хто можа прыняць гэта на свой кошт. З гэтага чорт ведае што можа выйсці.

Лука Лукіч. Што ж мне з ім рабіць? Я ўжо некалькі разоў яму казаў; вось яшчэ гэтымі днямі, калі зайшоў быў у клас наш прадвадзіцель, ён састроіў такую морду, якой я ніколі яшчэ не бачыў. Ён-то яе зрабіў ад добрага сэрца, а мне вымова: чаму вальнадумныя мыслі ўнушаюцца юнацтву.

Гараднічы. Тое ж самае павінен я вам сказаць і пра настаўніка па гістарычнай часці. Ён вучоная галава — гэта відаць, і ведаў нахапаў процьму, але толькі выкладае з такім запалам, што сам сябе не памятае. Я раз слухаў яго: ну, пакуль гаварыў аб асірыянах і вавіланянах — яшчэ нічога, а як дабраўся да Аляксандра Македонскага, то я не магу вам сказаць, што з ім зрабілася. Я думаў, што пажар, далібог! Збег з кафедры і, колькі сілы ёсць, бразь крэслам аб падлогу. Яно, вядома, Аляксандр Македонскі герой, але нашто ж крэслы ламаць? ад гэтага страта казне.

Лука Лукіч. Так, ён гарачы, я яму гэта некалькі разоў ужо заўважаў... Кажа: «Як хочаце, для навукі я жыцця не пашкадую».

Гараднічы. Так, такі ўжо недаступны ўразуменню закон лёсу: разумны чалавек або п'яніца, або морду такую састроіць, што хоць святых выносъ.

Лука Лукіч. Не дай Бог служыць па вучонай часці, усяго баішся. Кожны ўмешваецца, кожнаму хочацца паказаць, што ён таксама разумны чалавек.

Гараднічы. Гэта б яшчэ нічога. Інкогніта праклятае! Раптам загляне: «А, вы тут, галубчыкі! А хто, скажа, тут суддзя?» — «Ляпкін-Цяпкін».— «А падаць сюды Ляпкіна-Цяпкіна! А хто папячыцель богаўгодных устаноў?» — «Земляніка».— «А падаць сюды Земляніку!» Вось што дрэнна.

## З'ява II

Тыя самыя і паштмайстар.

Паштмайстар. Растлумачце, панове, што, які чыноўнік едзе?

Гараднічы. А вы хіба не чулі?

Паштмайстар. Чуў ад Пятра Іванавіча Бобчынскага. Ён толькі што быў у мяне ў паштовай канторы.

Гараднічы. Ну што? Як вы думаеце пра гэта?

Паштмайстар. А што думаю — вайна з туркамі будзе.

Амос Фёдаравіч. У адно слова! я сам тое самае думаў.

Гараднічы. Так, абодва пальцам у неба папалі!

Паштмайстар. Праўда, вайна з туркамі. Гэта ўсё француз гадзіць.

Гараднічы. Якая вайна з туркамі! Проста нам дрэнна будзе, а не туркам. Гэта ўжо вядома: у мяне пісьмо.

Паштмайстар. А калі так, то не будзе вайны з туркамі.

Гараднічы. Ну што ж, як вы, Іван Кузьміч?

Паштмайстар. Ды што я? Як вы, Антон Антонавіч?

Гараднічы. Ды што я? Страху-то няма, а так крышку... Купецтва ды абывацелі мяне непакояць. Кажуць, што я ім солана прыйшоўся, а я вось, далібог, калі і ўзяў з каго, дык без усякай нянавісці. Я нават думаю *(бярэ яго пад руку і адводзіць убок)*, я нават думаю, ці не было на мяне якога даносу. Чаго ж бо да нас рэвізор? Слухайце, Іван Кузьміч, ці

нельга вам, для агульнай нашай карысці, кожнае пісьмо, якое прыбывае да нас у паштовую кантору, уваходнае і выходнае, ведаеце, гэтак крышку распячатаць і прачытаць: ці няма ў ім якога-небудзь данясення або проста перапіскі. Калі няма, то можна зноў запячатаць; урэшце, можна нават і так аддаць пісьмо, распячатанае.

Паштмайстар. Ведаю, ведаю... Гэтаму не вучыце, гэта я раблю не то каб для перасцярогі, а больш з цікаўнасці: смерць люблю даведацца, што ёсць новае на свеце. Я вам скажу, што гэта вельмі цікавае чытво! Іншае пісьмо з асалодай прачытаеш: так апісваюцца розныя пасажы... а павучальнасць якая... Лепш, чым у «Маскоўскіх ведамасцях».

Гараднічы. Ну што ж, скажыце: нічога не чыталі пра якога-небудзь чыноўніка з Пецярбурга?

Паштмайстар. Не, пра пецярбургскага нічога няма, а пра кастрамскіх і саратаўскіх шмат гаворыцца. Шкада, аднак жа, што вы не чытаеце пісем: ёсць цудоўныя мясціны. Вось нядаўна адзін паручнік піша прыяцелю і апісаў баль у самым вясёлым... вельмі, вельмі хораша: «Жыццё маё, мілы друг, цячэ, кажа, у эмпірэях: паненак шмат, музыка грае, штандарт скача...» — з вялікім, з вялікім пачуццём апісаў. Я наўмысне пакінуў яго ў сябе. Хочаце, прачытаю?

Гараднічы. Ну цяпер не да таго. Дык зрабіце ласку, Іван Кузьміч: калі выпадкам трапіцца скарга ці данясенне, дык без ніякіх разважанняў затрымлівайце.

Паштмайстар. З вялікай прыемнасцю.

Амос Фёдаравіч. Глядзіце, пападзе вам калі-небудзь за гэта.

Паштмайстар. Ах, бацюхны!

Гараднічы. Нічога, нічога. Іншая справа, каб вы з гэтага публічнае што-небудзь зрабілі, а гэта ж справа сямейная.

Амос Фёдаравіч. Так, нядобрая справа заварылася! А я, прызнаюся, ішоў быў да вас, Антон Антонавіч, з тым, каб пачаставаць вас сабачанём. Родная сястра таму сабаку, якога вы ведаеце. Вы ж чулі, напэўна, што Чаптовіч з Вархавінскім распачалі суцяжніцтва, і цяпер мне раскоша: палюю зайцоў на землях і ў аднаго і ў другога.

Гараднічы. Бацюхны, не мілы мне цяпер вашы зайцы. У мяне інкогніта праклятае сядзіць у галаве. Так і чакаеш, што вось адчыняцца дзверы — і шасць...

## З'ява III

Тыя самыя, Бобчынскі і Добчынскі абодва ўваходзяць засопшыся.

Бобчынскі. Надзвычайная падзея!

Добчынскі. Нечаканая навіна!

Усе. Што? Што такое?

Добчынскі. Непрадбачаная справа: прыходзім у гасцініцу...

Бобчынскі *(перабіваючы)*. Прыходзім з Пятром Іванавічам у гасцініцу...

Добчынскі *(перабіваючы.)*. Э, дазвольце ж, Пётр Іванавіч, я раскажу.

Бобчынскі. Э не, дазвольце, ужо я... дазвольце, дазвольце... вы ўжо і складу такога не маеце...

Добчынскі. А вы саб'яцеся і не прыпомніце ўсяго.

Бобчынскі. Прыпомню, далібог, прыпомню. Ужо не перашкаджайце, няхай я раскажу, не перашкаджайце! Скажыце, панове, зрабіце ласку, каб Пётр Іванавіч не перашкаджаў.

Гараднічы. Ды гаварыце, Богам прашу, што такое? У мяне сэрца не на месцы. Сядайце, панове! вазьміце крэслы! Пётр Іванавіч, вось крэсла!

Усе садзяцца вакол абодвух Пятроў Іванавічаў.

Ну што, што такое?

Бобчынскі. Дазвольце, дазвольце: я ўсё па парадку. Як толькі меў я прыемнасць выйсці ад вас пасля таго, як вы занепакоіліся атрыманым пісьмом, так-с — дык я тады ж забег... ужо, калі ласка, не перабівайце, Пётр Іванавіч. Я ўжо ўсё, усё, усё ведаю. Дык я, вось бачыце, забег да Каробкіна. А не застаўшы Каробкіна дома, завярнуў да Растакоўскага, а не застаўшы Растакоўскага, зайшоў вось да Івана Кузьміча, каб сказаць яму пра атрыманую вамі навіну, ды, ідучы адтуль, сустрэўся з Пятром Іванавічам.

Добчынскі *(перабіваючы)*. Каля будкі, дзе прадаюцца пірагі.

Бобчынскі. Каля будкі, дзе прадаюцца пірагі. Так, сустрэўшыся з Пятром Іванавічам, і кажу яму: «Ці чулі вы пра навіну, якую атрымаў Антон Антонавіч з вернага пісьма?» А Пётр Іванавіч пачулі ўжо пра гэта ад ключніцы вашай Аўдоцці, якая, не ведаю чаго, была паслана да Піліпа Антонавіча Пачачуева.

Добчынскі *(перабіваючы)*. Па бачурку на французскую гарэлку.

Бобчынскі *(адводзячы яго рукі)*. Па бачурку на французскую гарэлку. Вось мы і пайшлі з Пятром Іванавічам да Пачачуева... Ужо вы, Пётр Іванавіч... гэнтае... не перабівайце, калі ласка, не перабівайце!.. Пайшлі да Пачачуева, ды на дарозе Пётр Іванавіч кажа: «Зойдзем, кажа, у шынок. У жываце ў мяне... ад ранку я нічога не еў, дык у жываце ў мяне дрыгаценне...» — так, у жываце, значыць, у Пятра Іванавіча... «А ў шынок, кажа, прывезлі цяпер свежай сёмгі, дык мы закусім». Толькі што мы ў гасцініцу, як раптам малады чалавек...

Добчынскі *(перабіваючы)*. Не брыдкі з выгляду, у партыкулярным адзенні...

Бобчынскі. Не брыдкі з выгляду, у партыкулярным адзенні, ходзіць гэтак па пакоі, і на твары гэтакая развага, фізіяномія... учынкі, і тут *(круціць рукою каля лба)* шмат, шмат усяго. Я нібы прадчуваў і кажу Пятру Іванавічу: «Тут нешта нездарма». Так. А Пётр Іванавіч ужо мігнуў пальцам і падазваў шынкара, шынкара Уласа; у яго жонка тры тыдні таму назад нарадзіла, і такі бойкі хлопчык, будзе таксама, як і бацька, шынок трымаць. Падазваўшы Уласа, Пётр Іванавіч узяў ды запытаўся ў яго ціхенька: «Хто, кажа, гэты малады чалавек?», а Улас узяў ды адказаў на гэта: «Гэта, кажа... Э, не перабівайце, Пётр Іванавіч, калі ласка, не перабівайце; вы не раскажаце, далібог, не раскажаце: вы шапяляеце; у вас, я ведаю, адзін зуб у роце са свістам... Гэта, кажа, малады чалавек, чыноўнік,— так-с,— едзе з Пецярбурга, а па прозвішчу, кажа, Іван Аляксандравіч Хлестакоў-с, а едзе, кажа, у Саратаўскую губерню і, кажа, вельмі дзіўна сябе атэстуе: другі ўжо тыдзень жыве, з шынка не едзе, бярэ ўсё напавер і ні капейкі не хоча плаціць». Як сказаў ён гэта, мне тут сам Бог вочы адкрыў. «Э!» — кажу я Пятру Іванавічу...

Добчынскі. Не, Пётр Іванавіч, гэта я сказаў: «Э!»

Бобчынскі. Спачатку вы сказалі, а потым і я сказаў: «Э! — сказалі мы з Пятром Іванавічам.— А з якой прычыны сядзець яму тут, калі дарога яму ляжыць у Саратаўскую губерню?» Так-с! А вось ён і ёсць гэты чыноўнік.

Гараднічы. Хто, які чыноўнік?

Бобчынскі. Чыноўнік, аб якім мелі ласку атрымаць паведамленне, рэвізор.

Гараднічы *(са страхам)*. Што вы, Бог з вамі! Гэта не ён.

Добчынскі. Ён! І грошай не плаціць, і не едзе. Каму ж быць, як не яму? І падарожная прапісана ў Саратаў.

Бобчынскі. Ён, ён, далібог, ён... Такі наглядальны: усё аглядзеў. Убачыў, што мы з Пятром Іванавічам елі сёмгу,—

больш таго, што Пётр Іванавіч наконт свайго жывата... так, дык ён і ў талеркі нам зазірнуў. Мяне так і праняло страхам.

Гараднічы. Госпадзі, памілуй нас, грэшных! Дзе ж ён там жыве?

Добчынскі. У пятым нумары, пад усходкамі.

Бобчынскі. У тым самым нумары, дзе ў мінулым годзе пабіліся праезджыя афіцэры.

Гараднічы. І даўно ён тут?

Добчынскі. А тыдні два ўжо. Прыехаў на Васіля Егіпцяніна.

Гараднічы. Два тыдні! *(Убок.)* Бацюхны, сватухны! Вынsocьце, святыя ўгоднікі! За гэтыя два тыдні адхвастана унтэрафіцэрава жонка! Арыштантам не выдавалі правізіі! На вуліцах бязладдзе, бруд! Ганьба! Сарамата! *(Хапаецца за галаву.)*

Арцемій Піліпавіч. Што ж, Антон Антонавіч? — ехаць парадам у гасцініцу.

Амос Фёдаравіч. Не, не. Наперад пусціць галаву, духавенства, купецтва; вось і ў кнізе «Дзяянні Іаана Масона»...

Гараднічы. Не, не; дазвольце ўжо мне самому. Бывалі цяжкія выпадкі ў жыцці, абыходзілася добра, яшчэ нават і дзякуй меў, ану ж, Бог вынесе і цяпер. *(Звяртаючыся да Бобчынскага.)* Вы кажаце, ён малады чалавек?

Бобчынскі. Малады, гадоў дваццаць тры ці чатыры з нечым.

Гараднічы. Тым лепш: маладога хутчэй пранюхаем. Бяда, калі стары чорт; а малады — увесь наверсе. Вы, панове, падрыхтоўвайцеся па сваёй часці, а я адпраўлюся сам або вось хоць з Пятром Іванавічам, прыватна, для прагулкі, наведацца, ці не церпяць падарожныя непрыемнасцей. Гэй, Свістуноў!

Свістуноў. Што загадаеце?

Гараднічы. Ідзі зараз жа па прыватнага прыстава; ці не, ты мне патрэбен. Скажы там каму-небудзь, каб як мага хутчэй да мяне прыватнага прыстава, і прыходзь сюды.

Квартальны бяжыць спехам.

Арцемій Піліпавіч. Хадзем, хадзем, Амос Фёдаравіч! Сапраўды можа здарыцца бяда.

Амос Фёдаравіч. Ды вам чаго баяцца? Каўпакі чыстыя надзеў на хворых, ды і канцы ў ваду.

Арцемій Піліпавіч. Якое каўпакі! Хворым загадана габерсуп даваць, а ў мяне па ўсіх калідорах дае такая капуста, што сцеражы толькі нос.

Амос Фёдаравіч. А я наконт гэтага спакойны. Сапраўды, хто зойдзе ў павятовы суд? А калі і загляне ў якую-

небудзь паперу, дык ён жыццю не будзе рад. Я вось пятнаццаць ужо гадоў сяджу на судзейскім крэсле, а як углыблюся іншы раз у запіску — а! Толькі рукой махну. Сам Саламон не разбярэ, што ў ёй праўда, а што няпраўда.

Суддзя, папячыцель богаўгодных устаноў, наглядчык вучылішчаў і паштмайстар выходзяць і ў дзвярах сутыкаюцца з квартальным, які варочаецца назад.

### З'ява IV

Гараднічы, Бобчынскі, Добчынскі і квартальны.

Гараднічы. Што, дрожкі там стаяць?

Квартальны. Стаяць.

Гараднічы. Ідзі на вуліцу... або не, пастой! Ідзі прынясі... Ды дзе ж другія? Няўжо ты толькі адзін? Я ж загадваў, каб і Прохараў быў тут. Дзе Прохараў?

Квартальны. Прохараў у прыватным доме, ды толькі да справы не можа быць ужыты.

Гараднічы. Як так?

Квартальны. Ды так: прывезлі яго раніцой як мерцвяка. Вось ужо два цэбры вады вылілі, да гэтага часу не працверазіўся.

Гараднічы *(хапаецца за галаву)*. Ах, Божа мой, Божа мой! Ідзі хутчэй на вуліцу, ці не, бяжы раней у пакой, чуеш! і прынясі адтуль шпагу і новы капялюш. Ну, Пётр Іванавіч, паедзем.

Бобчынскі. I я, і я... дазвольце і мне, Антон Антонавіч!

Гараднічы. Не, не, Пётр Іванавіч, нельга, нельга! Нязручна, ды і на дрожках не змесцімся.

Бобчынскі. Нічога, нічога, я так; пяшэчкам, пяшэчкам пабягу за дрожкамі. Мне б толькі крышку ў шчылінку, у дзверы гэтак паглядзець, як у яго гэтыя манеры...

Гараднічы *(беручы шпагу, квартальнаму)*. Бяжы зараз жа вазьмі дзесяцкіх, ды няхай кожны з іх возьме... Эх, шпага як падрапалася! Пракляты купчык Абдулін — бачыць, што ў гараднічага старая шпага, не прыслаў новай. О, хітры народ! А так, шэльмы, я думаю, там ужо просьбы з-пад крыса і рыхтуюць. Няхай кожны возьме ў рукі па вуліцы — чорт вазьмі, па вуліцы,— па мятле, і каб вымелі ўсю вуліцу, што ідзе да шынка, ды каб вымелі чыста... Чуеш! Ды глядзі: ты! ты! Я ведаю цябе: ты там кумішся ды крадзеш у халявы сярэбраныя лыжачкі,—

глядзі, у мяне вуха вострае!.. Што ты зрабіў з купцом Чарняевым, га? Ён табе на мундзір даў два аршыны сукна, а ты згроб увесь скрутак. Глядзі! не па чыне бярэш! Ідзі!

### З'ява V

Тыя самыя і прыватны прыстаў.

Гараднічы. А, Сцяпан Ільіч! Скажыце, калі ласка: дзе гэта вы прапалі? На што гэта падобна?

Прыватны прыстаў. Я быў вось тут за варотамі.

Гараднічы. Ну, слухайце ж, Сцяпан Ільіч! Чыноўнік з Пецярбурга прыехаў. Як вы там распарадзіліся?

Прыватны прыстаў. Ды так, як вы загадвалі. Квартальнага Пугавіцына я паслаў з дзесяцкімі падчышчаць тратуар.

Гараднічы. А Дзяржыморда дзе?

Прыватны прыстаў. Дзяржыморда паехаў на пажарнай трубе.

Гараднічы. А Прохараў п'яны?

Прыватны прыстаў. П'яны.

Гараднічы. Як жа вы гэта так дапусцілі?

Прыватны прыстаў. Ды бог яго ведае. Учарашняга дня здарылася за горадам бойка,— паехаў туды для парадку, а вярнуўся п'яны.

Гараднічы. Слухайце ж, вы зрабіце вось што: квартальны Пугавіцын... ён высокага росту, дык няхай стаіць для добрага ладу на мосце. Ды раскідаць хуценька стары плот, што каля шаўца, і паставіць саламяную веху, каб было падобна на планіроўку. Яно чым больш ломкі, тым больш азначае дзейнасці градаправіцеля. Ах, Божа мой, я і забыўся, што каля таго плота навалена на сорак фурманак усялякага смецця. Што гэта за паганы горад: толькі дзе-небудзь пастаў які-небудзь помнік ці проста плот, чорт іх ведае адкуль і нанясуць усякай дрэні! *(Уздыхае.)* Ды калі прыезджы чыноўнік будзе пытацца ў службы: ці задаволены? — каб адказвалі: «Усім задаволены, ваша благароддзе», а каторы будзе незадаволены, то яму пасля дам такога незадавальнення... О, ох, хо, хо, х! Грэшны, шмат у чым грэшны. *(Бярэ замест капелюша футляр.)* Дай, Божа, толькі, каб сышло з рук хутчэй, а там я пастаўлю ўжо такую свечку, якой яшчэ ніхто не ставіў: на кожную шэльму купца налажу даставіць па тры пуды воску. О Божа мой, Божа мой! едзем, Пётр Іванавіч! *(Замест капелюша хоча надзець папяровы футляр.)*

Прыватны прыстаў. Антон Антонавіч, гэта каробка, а не капялюш.

Гараднічы *(кідаючы каробку)*. Каробка дык каробка. Чорт з ёй! Ды калі запытаюць, чаму не збудавана царква пры богаўгоднай установе, на якую назад таму пяць год была асігнавана сума, дык не забыцца сказаць, што пачала будавацца, але згарэла. Я аб гэтым і рапарт падаваў. А то яшчэ хто-небудзь, забыўшыся, здуру скажа, што яна і не пачыналася. Ды сказаць Дзяржымордзе, каб не вельмі даваў волі кулакам сваім; ён для парадку ўсім ставіць ліхтары пад вачамі — хто вінават і хто не вінават. Едзем, едзем, Пётр Іванавіч! *(Выходзіць і варочаецца.)* Ды не выпускаць салдат на вуліцу без усяго: гэта паганая гарніза надзене толькі зверху кашулі мундзір, а ўнізе нічога няма.

Усе выходзяць.

## З'ява VI

Ганна Андрэеўна і Мар'я Антонаўна выбягаюць на сцэну.

Ганна Андрэеўна. Дзе ж, дзе яны? Ах, Божа мой!.. *(Адчыняе дзверы.)* Муж! Антоша! Антон! *(Гаворыць хутка.)* А ўсё ты, [illegible] ўсё праз цябе. І пайшла капацца: «Я шпілечку, я касыначку». *(Падбягае да акна і крычыць.)* Антон, куды, куды? Што, прыехаў? рэвізор? з вусамі! з якімі вусамі?

Голас гараднічага. Пасля, пасля, матухна!

Ганна Андрэеўна. Пасля? Вось навіна, пасля! Я не хачу пасля... Мне толькі адно слова: што ён, палкоўнік? Га? *(Зняважліва.)* Паехаў! Я табе ўспомню гэта! А ўсё гэта: «Мамачка, мамачка, пачакайце, зашпілю ззаду касынку; я зараз». Вось табе і зараз! Вось табе нічога і не ўведалі! А ўсё праклятае какецтва; пачула, што паштмайстар тут, і давай перад люстэркам выкручвацца: і з таго боку, і з гэтага боку падыдзе. Уяўляе, што ён за ёю валочыцца, а ён проста табе строіць грымасу, калі ты адвернешся.

Мар'я Антонаўна. Ды што ж рабіць, мамачка? Усё роўна праз дзве гадзіны мы ўсё ўведаем.

Ганна Андрэеўна. Праз дзве гадзіны! шчыра дзякую. Вось адказала, зрабіла ласку! Як ты не здагадалася сказаць, што праз месяц яшчэ лепш можна ўведаць. *(Звешваецца ў акно.)* Гэй, Аўдоцця! Га? што, Аўдоцця, ты чула там, прыехаў нехта... Не чула? Дурная якая! Махае рукамі? Няхай махае, а ты ўсё б такі распыталася ў яго. Не магла

гэтага ўведаць! У галаве глупства, усё жаніхі сядзяць. Га? Хутка паехалі! ды ты б пабегла за дрожкамі. Ідзі, ідзі, зараз жа! Чуеш, пабяжы, распытайся, куды паехалі; ды распытайся як мае быць, што за прыезджы, які ён, чуеш? Паглядзі ў шчылінку і ўведай усё, і вочы якія: чорныя ці не, і ўмомант варочайся назад, чуеш? Хутчэй, хутчэй, хутчэй, хутчэй! *(Крычыць датуль, пакуль не апускаецца заслона. Так заслона і закрывае іх абедзвюх, як яны стаяць каля акна.)*

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Маленькі пакой у гасцініцы. Пасцель, стол, чамадан, парожняя бутэлька, боты, шчотка для адзення і іншае.

### З'ява I

Восіп ляжыць на панавай пасцелі.

Восіп. Чорт бы яго ўзяў, есці так хочацца, і ў жываце траскатня такая, як быццам цэлы полк затрубіў у трубы. Вось, не даедзем дадому, дый годзе! Што ты будзеш рабіць? Другі месяц пайшоў, як ужо з Піцера! Прафінціў дарогаю грошыкі, галубчык, цяпер сядзіць, і хвост падціснуў, і не гарачыцца. А хапіла б, і вельмі б хапіла, на прагоны; не, бачыш ты, трэба ў кожным горадзе паказаць сябе. *(Перадражнівае яго.)* «Гэй, Восіп, ідзі паглядзі пакой, найлепшы, ды абед вазьмі самы лепшы: я не магу есці дрэннага абеду, мне трэба найлепшы абед». Добра, каб было сапраўды штонебудзь людскае, а то ж елістрацішка просты. З праезджым знаёміцца, а потым у карцішкі — вось табе і дагуляўся! Эх, абрыдла такое жыццё! сапраўды, на вёсцы лепш: яно хоць няма публічнасці, дык і клопату менш, возьмеш сабе бабу, ды і ляжы ўвесь век на палатках, ды еш пірагі. Ну хто ж спрачаецца, вядома, калі пойдзе на праўду, дык жыццё ў Піцеры лепш за ўсё. Абы толькі грошы былі, а жыццё тонкае і палітычнае: кіятры, сабакі табе танцуюць, і ўсё што хочаш. Размаўляе ўсё на тонкай далікатнасці, што хіба толькі дваранству ўступіць; пойдзеш на Шчукін — купцы табе крычаць: «Шаноўны!» На перавозе ў лодцы з чыноўнікам сядзеш; кампаніі захацеў — ідзі ў крамку: там табе кавалер раскажа пра лагеры і растлумачыць, што кожная зорка азначае на

небе, так вось як на далоні ўсё бачыш. Бабулька-афіцэрыха забрыдзе; пакаёўка іншы раз загляне такая... фу, фу, фу! *(Усміхаецца і трасе галавою.)* Галантарэйнае, чорт вазьмі, абыходжанне! Няветлівага слова ніколі не пачуеш, кожны табе кажа «вы». Надакучыла ісці — бярэш рамізніка і сядзіш сабе, як пан, а не хочаш заплаціць яму — калі ласка: пры кожным доме ёсць прахадныя вароты, і ты так шмыганеш, што цябе ніякі чорт не знойдзе. Адно дрэнна: іншы раз слаўна наясіся, а другі раз ледзь не лопнеш з голаду, як цяпер, напрыклад. А ўсё ён вінават. Што з ім зробіш? Бацька прышле грошыкі, дзе б іх прытрымаць — дык куды там!.. Пайшоў гуляць: ездзіць на рамізніку, кожны дзень ты даставай у кіятр білет, а там праз тыдзень — глядзіш і пасылае на рынак прадаваць новы фрак. Іншы раз усё да апошняй кашулі спусціць, так што на ім усяго астанецца сурдуцік ды шынелік,— далібог, праўда! І сукно такое важнае, агліцкае! Рублёў паўтараста яму адзін фрак абыдзецца, а на рынку спусціць рублёў за дваццаць; а пра штаны і гаварыць няма чаго — за нямашто ідуць. А чаму? а таму, што справай не займаецца: замест таго каб на службу, а ён ідзе гуляць па прашпекце, у карцішкі рэжа. Эх, каб уведаў пра гэта стары пан! Ён не паглядзеў бы на тое, што ты чыноўнік, а, падняўшы кашульку, такіх бы засыпаў табе, што ты б дні чатыры пачухваўся. Калі служыць, дык служы. Вось цяпер шынкар сказаў, што не дам вам есці, пакуль не заплаціце за ранейшае; ну а калі не заплацім? *(Уздыхаючы.)* Ах, Божа ты мой, хоць бы якая-небудзь капуста! Здаецца, так бы цяпер увесь свет з'еў. Стукае, мусіць, гэта ён ідзе. *(Хуценька ўсхопліваецца з пасцелі.)*

**З'ява II**

Восіп і Хлестакоў.

Хлестакоў. На, прымі гэта *(аддае шапку і палку)*. А, зноў качаўся на ложку?

Восіп. Ды нашто ж бы мне качацца? Не бачыў я хіба ложка, ці што?

Хлестакоў. Хлусіш, качаўся; бачыш, увесь скамечаны.

Восіп. Ды нашто ён мне? не ведаю я хіба, што такое ложак? У мяне ёсць ногі; я і пастаю. Нашто мне ваш ложак?

Хлестакоў *(ходзіць па пакоі)*. Паглядзі, там, у картузе, тытуню няма?

Восіп. Ды дзе ж ён будзе, той тытунь! Вы чатыры дні назад апошні скурылі.

Хлестакоў *(ходзіць і па-рознаму сціскае свае губы; нарэшце гаворыць гучным і рашучым голасам)*. Слухай, гэй, Восіп!

Восіп. Што загадаеце?

Хлестакоў *(гучным, але не такім рашучым голасам)*. Ты ідзі туды.

Восіп. Куды?

Хлестакоў *(голасам зусім нерашучым і не гучным, вельмі блізкім да просьбы)*. Уніз, у буфет... Там скажы... каб далі мне паабедаць.

Восіп. Ды не, я і хадзіць не хачу.

Хлестакоў. Як ты смееш, дурань!

Восіп. Ды так; усё роўна, хоць і пайду, нічога з гэтага не будзе. Гаспадар сказаў, што больш не дасць абедаць.

Хлестакоў. Як ён смее не даць? Вось яшчэ глупства!

Восіп. «Яшчэ, кажа, і да гараднічага пайду; трэці тыдзень пан грошай не плаціць. Вы з панам, кажа, ашуканцы, і пан твой — чмут. Мы, кажа, гэтакіх абармотаў і падлюгаў бачылі».

Хлестакоў. А ты ўжо і рад, жывёліна, зараз жа пераказваць мне ўсё гэта.

Восіп. Кажа: «Гэтак кожны прыедзе, абжывецца, завінаваціцца, пасля і выгнаць нельга. Я, кажа, жартаваць не люблю, я проста са скаргай, каб у паліцыю ды ў турму».

Хлестакоў. Ну, ну, дурань, годзе! Ідзі, ідзі, скажы яму. Такая грубая жывёліна.

Восіп. Ды лепш я самога гаспадара паклічу да вас.

Хлестакоў. Нашто ж гаспадара? Ты схадзі сам скажы.

Восіп. Ды, бачыце, пане...

Хлестакоў. Ну, ідзі, чорт з табой! Пакліч гаспадара.

Восіп выходзіць.

### З'ява III

Хлестакоў адзін.

Хлестакоў. Страшэнна хочацца есці. Так крышку прайшоўся; думаў, ці не пройдзе апетыт,— не, чорт вазьмі, не праходзіць. Ды калі б у Пензе я не падгуляў, хапіла б грошай даехаць дадому. Пяхотны капітан моцна падкаваў мяне: штосы здорава, шэльма, зразае. Усяго якую-небудзь чвэрць гадзіны пасядзеў і ўсё абабраў. А пры ўсім тым страшэнна хацелася б з ім яшчэ раз зрэзацца. Выпадак толькі не трапіў-

ся. Які паганы горад! У крамах гародніны нічога не даюць напавер. Гэта ўжо проста подла. *(Насвіствае спачатку з «Роберта», потым «Не шый ты мне, матухна», а нарэшце ні сёе ні тое.)* Ніхто не хоча ісці.

### З'ява IV

Хлестакоў, Восіп і слуга з шынка.

Слуга. Гаспадар загадаў запытацца, чаго жадаеце.

Хлестакоў. Добры дзень, браток! Ну што ты, здаровы?

Слуга. Дзякуй Богу.

Хлестакоў. Ну што, як у вас у гасцініцы? ці добра ўсё ідзе?

Слуга. Ды, дзякуй Богу, усё добра.

Хлестакоў. Шмат праезджых?

Слуга. Так, хапае.

Хлестакоў. Слухай, даражэнькі, там мне да гэтага часу абеду не прыносяць, дык, калі ласка, падгані, каб хутчэй,— бачыш, мне зараз пасля абеду трэба ісці сім-тым заняцца.

Слуга. Ды гаспадар сказаў, што не будзе больш даваць. Ён як быццам хацеў ісці сягоння скардзіцца гараднічаму.

Хлестакоў. Ды што скардзіцца? Падумай сам, даражэнькі, як жа? мне ж трэба есці. Гэтак магу я зусім схуднець. Мне вельмі есці хочацца, я не жартуючы гэта кажу.

Слуга. Так. Ён казаў: «Я яму абедаць не дам, пакуль ён не заплаціць мне за ранейшае». Такі ўжо адказ яго быў.

Хлестакоў. Ды ты яму дакажы, угавары яго.

Слуга. Ды што ж яму такое гаварыць?

Хлестакоў. Ты растлумач яму сур'ёзна, што мне трэба есці. Грошы самі сабою... Ён думае, што як яму, мужыку, нічога, калі не есці дзень, дык і другім таксама. Вось навіна!

Слуга. Што ж, я скажу.

### З'ява V

Хлестакоў адзін.

Хлестакоў. Гэта пагана, аднак, калі ён зусім нічога не дасць есці. Так хочацца, як яшчэ ніколі не хацелася. Хіба з адзення што-небудзь спусціць? Штаны, ці што, прадаць? Не, ужо лепш пагаладаць, але прыехаць дадому ў пецярбургскім гарнітуры. Шкада, што Іяхім не даў напракат карэты, а добра

было б, чорт вазьмі, прыехаць дадому ў карэце, падкаціць гэтакім чортам да якога-небудзь суседа-памешчыка пад ганак з ліхтарамі, а Восіпа ззаду апрануць у ліўрэю. Як бы, я ўяўляю, усе перапалохаліся! «Хто такі, што такое?» А лакей уваходзіць *(выцягваецца, пераймаючы лакея)*: «Іван Аляксандравіч Хлестакоў з Пецярбурга, загадаеце прыняць?» Яны, цюхцяі, і не ведаюць, што такое значыць «загадаеце прыняць». Да іх калі прыедзе які-небудзь гусак памешчык, дык і валіць, мядзведзь, проста ў гасціную. Да дачушкі якой-небудзь прыгожанькай падыдзеш: «Васпані, як я...» *(Пацірае рукі і падшарквае ножкай.)* Цьфу *(плюе)*, нават моташна, так есці хочацца.

## З'ява VI

Хлестакоў, Восіп, потым слуга.

Хлестакоў. А што?

Восіп. Нясуць абед.

Хлестакоў *(пляскае ў далоні і злёгку падскоквае на крэсле)*. Нясуць! Нясуць! Нясуць!

Слуга *(з талеркамі і сурвэткай)*. Гаспадар апошні раз ужо дае.

Хлестакоў. Ну, гаспадар, гаспадар... Пляваць мне на твайго гаспадара! Што там такое?

Слуга. Суп і смажаніна.

Хлестакоў. Як, толькі дзве стравы?

Слуга. Толькі.

Хлестакоў. Вось глупства якое! я гэтага не прымаю. Ты скажы яму: што гэта сапраўды такое!.. Гэтага мала.

Слуга. Не, гаспадар кажа, што яшчэ зашмат.

Хлестакоў. А соусу чаму няма?

Слуга. Соусу няма.

Хлестакоў. Чаму ж няма? Я бачыў сам, праходзячы паўз кухню, там шмат гатавалася. І ў сталовай сягоння раніцой два нейкія кароценькія чалавечкі елі сёмгу і яшчэ шмат чаго.

Слуга. Ды яно-то, бадай, ёсць, але няма.

Хлестакоў. Як няма?

Слуга. Ды ўжо няма.

Хлестакоў. А сёмга, а рыба, а катлеты?

Слуга. Ды гэта для тых, хто важней.

Хлестакоў. Ах ты, дурань!

Слуга. Так.

Хлестакоў. Свінюк ты паганы... Як жа яны ядуць, а я не ем? Чаму ж я, чорт вазьмі, не магу таксама? Хіба яны не такія ж праезджыя, як і я?

Слуга. Ды ўжо вядома, што не такія.

Хлестакоў. *Якія ж?*

Слуга. Звычайна якія! яны ўжо вядома: яны грошы плацяць.

Хлестакоў. Я з табою, дурань, не хачу гаварыць. *(Налівае суп і есць.)* Што гэта за суп? Ты проста вады наліў у талерку: ніякага смаку няма, толькі смярдзіць. Я не хачу гэтага супу, дай мне другога.

Слуга. Мы прымем. Гаспадар сказаў: калі не хочаце, то і не трэба.

Хлестакоў *(закрываючы рукою яду)*. Ну, ну, ну... кінь, дурань! Ты прывык так абыходзіцца з іншымі: я, брат, не такога роду! са мной не раю... *(Есць.)* Божа мой, які суп! *(Есць зноў.)* Я думаю, яшчэ ніводзін чалавек у свеце не еў такога супу. Нейкае пер'е плавае замест масла. *(Рэжа курыцу.)* Ай, ай, ай, якая курыца! дай смажаніну! Там супу крыху засталося, Восіп, вазьмі сабе. *(Рэжа смажаніну.)* Што гэта за смажаніна? Гэта не смажаніна.

Слуга. А што ж гэта такое?

Хлестакоў. Чорт яго ведае што гэта такое, толькі не смажаніна. Гэта тапор, усмажаны замест ялавічыны. *(Есць.)* Ашуканцы, шэльмы, чым яны кормяць! І сківіцы забаляць, калі з'ясі адзін такі кусок. *(Калупае пальцам у зубах.)* Падлюгі! Зусім як драўляная кара, нічым выцягнуць нельга; і зубы пачарнеюць пасля такіх страў. Ашуканцы! *(Выцірае рот сурвэткай.)* Больш нічога няма?

Слуга. Няма.

Хлестакоў. Шэльмы! Падлюгі! І нават хоць бы які-небудзь соус ці піражнае. Абармоты! дзяруць толькі з праезджых.

Слуга прыбірае і нясе талеркі разам з Восіпам.

### З'ява VII

Хлестакоў, потым Восіп.

Хлестакоў. Ну, як быццам і не еў; толькі разахвоціўся. Каб дробныя, паслаць бы на рынак і купіць хоць булку.

Восіп *(уваходзіць)*. Там чагосьці гараднічы прыехаў, разведвае і пытаецца пра вас.

Хлестакоў *(спужаўшыся)*. Вось табе на! Вось шэльма шынкар, ужо ўспеў паскардзіцца! Што, калі сапраўды ён

пацягне мяне ў турму? Што ж? Калі па-высакароднаму, я, бадай... не, не, не хачу! Там у горадзе цягаюцца афіцэры і народ, а я, як на тое, задаў тону і перамігнуўся з адной купецкай дачкою... Не, не хачу. Ды што ён, як ён смее сапраўды? Што я яму, купец ці рамеснік? *(Храбрыцца і выпростваецца.)* Ды я яму проста скажу: «Як вы смееце, як вы?..» *(У дзвярах круціцца ручка; Хлестакоў бляднее і ўгінаецца.)*

## З'ява VIII

Хлестакоў, гараднічы і Добчынскі.

Гараднічы, увайшоўшы, спыняецца. Абодва, спалоханыя, глядзяць некалькі мінут адзін на аднаго, вылупіўшы вочы.

Гараднічы *(крыху пасмялеўшы і выцягнуўшы рукі па швах)*. Добрага здароўечка!

Хлестакоў *(кланяецца)*. Маё шанаванне.

Гараднічы. Выбачайце.

Хлестакоў. Нічога.

Гараднічы. Абавязак мой як граданачальніка тутэйшага горада клапаціцца аб тым, каб праезджым і ўсім высакародным людзям ніякіх прыкрасцей...

Хлестакоў *(спачатку крыху заікаецца, але к канцу рэплікі гаворыць гучна)*. Ды што ж рабіць?.. Я не вінават... Я заплачу... Мне прышлюць з вёскі.

Бобчынскі выглядае з дзвярэй.

Ён больш вінават: ялавічыну мне падае такую цвёрдую, як бервяно; а суп — ён чорт ведае чаго лінуў туды, я павінен быў выкінуць яго за акно. Ён мяне морыць голадам па цэлых днях... чай такі дзіўны: смярдзіць рыбай, а не чаем. За што ж я... Вось навіна.

Гараднічы *(баючыся)*. Выбачайце, я, сапраўды ж, не вінават. На рынку ў мяне ялавічына заўсёды добрая. Прывозяць халмагорскія купцы, людзі цвярозыя і добрых паводзін. Я ўжо не ведаю, адкуль ён бярэ такую. А калі што не так, то... Дазвольце мне прапанаваць вам пераехаць са мною на другую кватэру.

Хлестакоў. Не, не хачу! Я ведаю, што значыць на другую кватэру: гэта значыць — у турму. Ды якое вы маеце права? Ды як вы смееце?.. Ды вось я... Я служу ў Пецярбургу. *(Храбрыцца.)* Я, я, я...

Гараднічы *(убок)*. О Госпадзі ты Божа, які сярдзіты! Усё ўведаў, усё расказалі праклятыя купцы!

Хлестакоў *(храбрыцца)*. Ды вось вы хоць тут з усёй сваёй камандай — не пайду! Я проста да міністра! *(Стукае кулаком па стале.)* Што вы? Што вы?

Гараднічы *(выцягнуўся і дрыжыць усім целам)*. Змілуйцеся, не загубіце! Жонка, дзеці маленькія... не зрабіце няшчасным чалавека.

Хлестакоў. Не, я не хачу. Вось яшчэ! мне што да таго? Таму, што ў вас жонка і дзеці, я павінен ісці ў турму, вось добра!

Бобчынскі выглядае ў дзверы і, спалоханы, хаваецца.

Не, вельмі дзякую, не хачу.

Гараднічы *(калоцячыся)*. Па нявопытнасці, далібог, па нявопытнасці. Нястача, беднасць... Самі падумайце. Казённай пенсіі не хапае нават на чай і цукар. Калі ж і быў які хабар, дык самая маласць: да стала што-небудзь ды на гарнітур. Што ж да унтэр-афіцэравай удавы, што займаецца купецтвам, якую я нібыта адхвастаў, дык гэта паклёп, далібог, паклёп. Гэта выдумалі ліхадзеі мае; гэта такі народ, што на жыццё маё гатовы зрабіць замах.

Хлестакоў. Ды што? Мне ніякай справы да іх... *(У роздуме.)* Я не ведаю, аднак, нашто вы ўсё гаворыце пра ліхадзеяў ці пра нейкую унтэр-афіцэравую ўдаву... Унтэр-афіцэравая жонка зусім іншае, а мяне вы не смееце адхвастаць. Да гэтага вам далёка... Вось яшчэ! глядзі ты які!.. Я заплачу, заплачу грошы, але ў мяне цяпер няма. Я таму і сяджу тут, што ў мяне няма ні капейкі.

Гараднічы *(убок)*. О, тонкая штука! Бач, куды загнуў, якога туману напусціў! разбяры, хто хоча. Не ведаеш, з якога боку і прыступіцца. Ну, ды паспрабаваць ужо, як там ні было! Што будзе, тое будзе, паспрабаваць наўдачу. *(Услых.)* Калі вы сапраўды маеце патрэбу ў грашах ці ў чым іншым, то я гатоў служыць у гэты ж момант. Мой абавязак дапамагаць праезджым.

Хлестакоў. Пазычце, пазычце мне, я зараз жа расплачуся з шынкаром. Мне б толькі рублёў дзвесце ці хоць нават і менш.

Гараднічы *(падносячы паперкі)*. Роўна дзвесце рублёў, хоць і не турбуйцеся лічыць.

Хлестакоў *(беручы грошы)*. Вельмі дзякую; я вам зараз жа прышлю з вёскі... у мяне гэта ўмомант... Я бачу, вы высакародны чалавек. Цяпер іншая справа.

Гараднічы *(убок)*. Ну, дзякуй Богу! грошы ўзяў. Справа, здаецца, пойдзе цяпер на лад. Я такі яму замест двухсот чатырыста ўляляшчыў.

Хлестакоў. Эй, Восіп!

Восіп уваходзіць.

Пакліч сюды слугу з шынка! *(Да гараднічага і Добчынскага.)* А што ж вы стаіце? Зрабіце ласку, сядайце. *(Добчынскаму.)* Сядайце, калі ласка.

Гараднічы. Нічога, мы і так пастаім.

Хлестакоў. Зрабіце ласку, сядайце. Я цяпер бачу дасканала адкрытасць вашай натуры і прыхільнасць, а то, прызнаюся, я ўжо думаў, што вы прыйшлі, каб мяне... *(Добчынскаму.)* Сядайце.

Гараднічы і Добчынскі садзяцца. Бобчынскі выглядае ў дзверы і прыслухоўваецца.

Гараднічы *(убок)*. Трэба быць смялейшым. Ён хоча, каб лічылі яго інкогнітам. Добра, падпусцім і мы туману: прыкінемся, як быццам зусім і не ведаем, што ён за чалавек. *(Услых.)* Мы, праходзячы па справах службы, вось з Пятром Іванавічам Добчынскім, тутэйшым памешчыкам, зайшлі наўмысле ў гасцініцу, каб даведацца, ці добра ўтрымліваюцца праезджыя, бо я не так, як іншы гараднічы, якому ні да чога справы няма; але я, я, апрача службы, яшчэ па хрысціянскім чалавекалюбстве хачу, каб кожнага смертнага прымалі як мае быць, і вось, як быццам у аддзяку, здарылася такое прыемнае знаёмства.

Хлестакоў. Я і сам вельмі рад. Без вас я, прызнаюся, доўга прасядзеў бы тут: зусім не ведаў, чым заплаціць.

Гараднічы *(убок)*. Але, расказвай! Не ведаў, чым заплаціць! *(Услых.)* Ці асмелюся запытацца, куды і ў якую мясцовасць ехаць маеце ласку?

Хлестакоў. Я еду ў Саратаўскую губерню ва ўласную вёску.

Гараднічы *(убок, з тварам, на якім з'яўляецца іранічны выраз)*. У Саратаўскую губерню! Га? І не пачырванее! О, ды з ім трэба вуха востра! *(Услых.)* Добрую справу надумалі зрабіць. Вось жа адносна дарогі: кажуць, з аднаго боку, непрыемнасці наконт затрымкі коней, а з другога боку, разгарненне для розуму! Вось жа вы, напэўна, больш для ўласнай прыемнасці едзеце?

Хлестакоў. Не, бацька мяне патрабуе. Раззлаваўся стары, што да гэтага часу нічога не выслужыў у Пецярбургу. Ён думае,

што так вось прыехаў, ды зараз жа табе Уладзіміра ў пятліцу і дадуць. Не, я паслаў бы яго самога пааціраццa ў канцылярыю.

Г а р а д н і ч ы *(убок)*. Гляньце вы толькі, якія кулі адлівае! і старога бацьку прыплёў! *(Услых.)* І на доўгі час маеце ласку ехаць?

Х л е с т а к о ў. Ды проста не ведаю. Мой жа бацька ўпарты і дурны, стары хрэн, як бервяно. Я яму проста скажу: як хочаце, я не магу жыць без Пецярбурга. За што ж, сапраўды, я павінен загубіць жыццё з мужыкамі? Цяпер не тыя патрэбнасці; душа мая прагне асветы.

Г а р а д н і ч ы *(убок)*. Спрытна завязаў вузельчык! Хлусіць, хлусіць — і нідзе не абарвецца! А які ж нікудышны з выгляду, нізенькі, здаецца, ногцем бы прыдушыў яго. Ну, ды чакай ты, у мяне прагаворышся. Я цябе прымушу больш расказаць! *(Услых.)* Справядліва мелі ласку заўважыць. Што можна зрабіць у глушы? Вось хоць бы і тут: ноч не спіш, стараешся для айчыны, не шкадуеш нічога, а ўзнагарода невядома яшчэ калі будзе. *(Абводзіць вачыма пакой.)* Здаецца, гэты пакой крыху сыры?

Х л е с т а к о ў. Паганы пакой, і клапы такія, якіх я нідзе не бачыў: як сабакі, кусаюць.

Г а р а д н і ч ы. Скажыце! такі адукаваны госць і церпіць, ад каго ж? ад якіх-небудзь нягодных клапоў, якім бы і на свет не трэба было радзіцца! Здаецца, нават цёмна ў гэтым пакоі?

Х л е с т а к о ў. Так, зусім цёмна. Гаспадар завёў звычай не даваць свечак. Іншы раз што-небудзь хочацца зрабіць, пачытаць, ці прыйдзе фантазія напісаць што-небудзь; не магу — цёмна, цёмна.

Г а р а д н і ч ы. Ці асмелюся прасіць вас... але не, я не варты гэтага.

Х л е с т а к о ў. А што?

Г а р а д н і ч ы. Не-не, не варты, не варты.

Х л е с т а к о ў. Ды што ж такое?

Г а р а д н і ч ы. Я б асмеліўся... У мяне ў доме ёсць вельмі добры для вас пакой, светлы, спакойны... Але не, адчуваю сам, што гэта ўжо занадта вялікі гонар... Не загневайцеся. Далібог, ад шчырага сэрца прапанаваў.

Х л е с т а к о ў. Наадварот, калі ласка, я з прыемнасцю. Мне куды прыемней у прыватным доме, чым у гэтым шынку.

Г а р а д н і ч ы. А ўжо я так буду рад! А ўжо як жонка ўзрадуецца. У мяне ж такая натура: гасціннасць з самага маленства; асабліва калі госць адукаваны чалавек. Не падумайце, каб я гаварыў гэта, жадаючы падлізацца. Не, не маю гэтай заганы, ад паўнаты душы гавару.

Хлестакоў. Вельмі дзякую. Я сам таксама — я не люблю людзей двудушных. Мне вельмі падабаецца ваша шчырасць і гасціннасць, і я, прызнаюся, больш бы нічога і не патрабаваў, як толькі выказвай мне адданасць і павагу, павагу і адданасць.

### З'ява IX

Тыя самыя і слуга з шынка, разам з ім Восіп, Бобчынскі выглядвае ў дзверы.

Слуга. Мелі ласку клікаць?
Хлестакоў. Так; падай рахунак.
Слуга. Я ўжо надоечы падаў вам другі рахунак.
Хлестакоў. Я ўжо не помню тваіх дурных рахункаў. Кажы, колькі там?
Слуга. Вы мелі ласку ў першы дзень узяць абед, а на другі дзень толькі закусілі сёмгі і потым пайшлі ўсё напавер браць.
Хлестакоў. Дурань! Яшчэ пачаў вылічваць. Усяго колькі належыць?
Гараднічы. Ды вы не турбуйцеся, ён пачакае. *(Слузе.)* Пайшоў вон, табе прышлюць.
Хлестакоў. Сапраўды, і гэта праўда. *(Хавае грошы.)*

Слуга выходзіць.
У дзверы выглядвае Бобчынскі.

### З'ява X

Гараднічы, Хлестакоў, Добчынскі.

Гараднічы. Ці не жадаеце аглядзець цяпер некаторыя ўстановы ў нашым горадзе, напрыклад — богаўгодныя і іншыя?
Хлестакоў. А што там такое?
Гараднічы. А так, паглядзіце, як у нас ідуць справы... парадак які...
Хлестакоў. З вялікай прыемнасцю, я гатоў.

Бобчынскі высоўвае галаву ў дзверы.

Гараднічы. Таксама, калі будзе ваша жаданне, адтуль у павятовае вучылішча, аглядзець парадак, у якім выкладаюцца ў нас навукі.

Хлестакоў. Калі ласка, калі ласка.

Гараднічы. Потым, калі пажадаеце наведаць астрог і гарадскія турмы,— разгледзіце, як у нас утрымліваюцца злачынцы.

Хлестакоў. Ды нашто ж турмы? Ужо лепш мы абгледзім богаўгодныя ўстановы.

Гараднічы. Як ваша ласка. Як вы думаеце, у сваёй брычцы ці разам са мною на дрожках?

Хлестакоў. Так, я лепш з вамі на дрожках паеду.

Гараднічы *(Добчынскаму)*. Ну, Пётр Іванавіч, вам цяпер няма месца.

Добчынскі. Нічога, я так.

Гараднічы *(ціха Добчынскаму)*. Слухайце: вы пабяжыце, ды бягом, ва ўсе лапаткі, і занясіце дзве запіскі, адну ў богаўгодную ўстанову Земляніку, а другую жонцы. *(Хлестакову.)* Ці асмелюся папрасіць дазволу напісаць у вашай прысутнасці адзін радок жонцы, каб яна падрыхтавалася прыняць шаноўнага госця?

Хлестакоў. Ды нашто ж? А ўрэшце тут і чарніла, толькі паперы — не ведаю... Хіба на гэтым рахунку?

Гараднічы. Я тут напішу. *(Піша і ў той жа час гаворыць сам сабе.)* А вось паглядзім, як пойдзе справа пасля снедання ды бутэлькі таўстапузіка! Ды ёсць у нас губернская мадэра, несамавітая з выгляду, а слана зваліць з ног. Толькі б мне ўведаць, што ён такое і ў якой меры трэба яго апасацца. *(Напісаўшы, аддае Добчынскаму, які падыходзіць да дзвярэй, але ў гэты час дзверы адрываюцца і Бобчынскі, які падслухваў з другога боку, ляціць разам з імі на сцэну. Усе ўскрыкваюць. Бобчынскі ўстае.)*

Хлестакоў. Што? Ці не ўдарыліся вы дзе-небудзь?

Бобчынскі. Нічога, нічога, без ніякага ўтрапення, толькі зверху носа невялікая шышка! Я забягу да Хрысціяна Іванавіча, у яго ёсць пластыр такі, дык вось яно і пройдзе.

Гараднічы *(робіць Бобчынскаму дакорлівы знак. Хлестакову)*. Гэта нічога. Прашу, калі ласка. А слузе вашаму я скажу, каб перанёс чамадан. *(Восіпу.)* Даражэнькі, ты перанясі ўсё да мяне, да гараднічага, табе кожны пакажа. Калі ласка! *(Прапускае наперад Хлестакова і ідзе за ім, але, абярнуўшыся, гаворыць з дакорам Бобчынскаму.)* Ужо і вы! Не знайшлі другога месца ўпасці. І выцягнуўся, як чорт ведае што такое. *(Выходзіць; за ім Бобчынскі.)*

Заслона апускаецца.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Пакой першай дзеі.

### З'ява I

Ганна Андрэеўна, Мар'я Антонаўна стаяць каля акна ў тых самых паставах.

Ганна Андрэеўна. Ну вось, ужо цэлую гадзіну чакаем, а ўсё ты з сваім дурным какецтвам: зусім адзелася, не! яшчэ трэба корпацца... Не слухаць бы яе зусім. Якая прыкрасць! як наўмысле, ні душы! нібы вымерла ўсё.

Мар'я Антонаўна. Дапраўды ж, мамачка, праз хвіліны дзве ўсё ўведаем. Ужо хутка Аўдоцця павінна прыйсці. *(Углядаецца ў акно і ўскрыквае.)* Ах, мамачка, мамачка! Нехта ідзе, вунь у канцы вуліцы.

Ганна Андрэеўна. Дзе ідзе? У цябе вечна якія-небудзь фантазіі. Ну так, ідзе. Хто ж гэта ідзе? Невялікага росту... у фраку... Хто ж гэта? Га? Гэта, аднак жа, прыкра! Хто ж бы гэта такі быў?

Мар'я Антонаўна. Гэта Добчынскі, мамачка.

Ганна Андрэеўна. Які табе Добчынскі? Табе заўсёды раптам здасца гэткае! Зусім не Добчынскі. *(Махае хустачкай.)* Гэй, вы, ідзіце сюды! хутчэй!

Мар'я Антонаўна. Дапраўды ж, мамачка, Добчынскі.

Ганна Андрэеўна. Ну вось: незнарок, каб толькі паспрачацца. Кажуць табе, не Добчынскі.

Мар'я Антонаўна. А што? А што, мамачка? Бачыце, што Добчынскі.

Ганна Андрэеўна. Ну так, Добчынскі, цяпер я бачу; чаго ж ты спрачаешся? *(Крычыць у акно.)* Хутчэй, хутчэй! Вы марудна ідзяце. Ну што, дзе яны? Га? Ды гаварыце ж адтуль, усё роўна. Што, вельмі строгі? Га? А муж, муж? *(Крыху адступіўшы ад акна, з прыкрасцю.)* Такі дурны: пакуль не ўвойдзе ў пакой, нічога не раскажа!

### З'ява II

Тыя самыя і Добчынскі.

Ганна Андрэеўна. Ну, скажыце, калі ласка: як вам не сорамна? Я на вас адных спадзявалася як на прыстойнага чалавека: усе раптам выбеглі, і вы туды ж за імі! І я вось да гэтага часу

ні ад кога толку не дабяруся. Як вам не сорам! Я ў вас хрысціла вашага Ванечку і Лізачку, а вы вось як са мной абышліся!

Д о б ч ы н с к і. Далібог, кумка, так бег засведчыць пашану, што не магу адсапціся. Маё шанаванне, Мар'я Антонаўна!

М а р ' я А н т о н а ў н а. Добры дзень, Пётр Іванавіч!

Г а н н а А н д р э е ў н а. Ну, што? Ну, расказвайце: што і як там?

Д о б ч ы н с к і. Антон Антонавіч прыслаў вам запісачку.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Ну, ды хто ён такі? Генерал?

Д о б ч ы н с к і. Не, не генерал, а не ўступіць генералу. Такая адукаванасць і важныя ўчынкі.

Г а н н а А н д р э е ў н а. А! дык гэта той самы, пра якога было пісана мужу?

Д о б ч ы н с к і. Сапраўдны. Я гэта першы высветліў разам з Пятром Іванавічам.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Ну, раскажыце: што і як?

Д о б ч ы н с к і. Ды, дзякуй Богу, усё добра. Спачатку ён прыняў быў Антона Антонавіча крыху сурова, так; злаваў і казаў, што і ў гасцініцы ўсё нядобра, і да яго не паедзе, і што ён не хоча сядзець за яго ў турме; але потым, як пазнаў нявіннасць Антона Антонавіча ды як карацей разгаварыўся з ім, зараз жа перамяніў мыслі, і, дзякуй Богу, усё пайшло добра. Яны цяпер паехалі аглядаць богаўгодныя ўстановы... А то, прызнаюся, ужо Антон Антонавіч думалі, ці не было тайнага даносу; я сам таксама перапужаўся крыху.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Ды вам-то чаго баяцца? Вы ж не служыце.

Д о б ч ы н с к і. Ды так, ведаеце, калі вяльможа гаворыць, адчуваеш страх.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Ну што ж... гэта ўсё, аднак жа, глупства. Раскажыце, які ён сабою? Што, стары ці малады?

Д о б ч ы н с к і. Малады, малады чалавек: гадоў дваццаць тры; а гаворыць зусім так, як стары. «Калі ласка, кажа, я паеду і туды, і туды...» *(размахвае рукамі)*, так гэта ўсё слаўна. «Я, кажа, і напісаць і пачытаць люблю, але перашкаджае, што ў пакоі крышку цёмна».

Г а н н а А н д р э е ў н а. А сабою які ён: брунет ці бландзін?

Д о б ч ы н с к і. Не, больш шантрэт, і вочы такія быстрыя, як звяркі, аж неяк бянтэжыцца прымушаюць.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Што тут піша мне ў запісцы? *(Чытае.)* «Спяшаюся табе паведаміць, душачка, што становішча маё было вельмі сумнае; але, спадзеючыся на міласць боскую, за два салёныя агуркі асобна і паўпорцыі ікры рубель дваццаць пяць капеек...» *(Спыняецца.)* Я нічога не разумею: да чаго ж тут салёныя агуркі і ікра?

Добчынскі. А, гэта Антон Антонавіч пісалі на чарнавой паперы, спяшаючыся: там нейкі рахунак быў напісаны.

Ганна Андрэеўна. А так, сапраўды. *(Чытае далей.)* «Але, спадзеючыся на міласць боскую, здаецца, усё будзе к добраму канцу. Прыгатуй хутчэй пакой для важнага госця, той, што выклеены жоўтымі паперкамі; к абеду прыкладаць не турбуйся, бо мы перакусім у богаўгоднай установе ў Арцемія Піліпавіча, а віна загадай пабольш: скажы купцу Абдуліну, каб прыслаў самага лепшага; а то я перарыю ўвесь яго склеп. Цалую, душачка, тваю ручку, застаюся твой: Антон Сквознік-Дмуханоўскі...» Ах, Божа мой! Гэта, аднак жа, трэба хутчэй! Гэй, хто там? Мішка!

Добчынскі *(бяжыць і крычыць у дзверы).* Мішка! Мішка! Мішка!

Мішка ўваходзіць.

Ганна Андрэеўна. Слухай: бяжы да купца Абдуліна... чакай, я дам табе запісачку. *(Садзіцца да стала, піша запіску і між тым гаворыць.)* Гэту запіску ты аддай фурману Сідару, каб ён пабег з ёю да купца Абдуліна і прынёс адтуль віна. А сам ідзі зараз прыбяры добра гэты пакой для госця. Там паставіць ложак, рукамыйнік і іншае.

Добчынскі. Ну, Ганна Андрэеўна, я пабягу цяпер хутчэй паглядзець, як ён там аглядае.

Ганна Андрэеўна. Ідзіце, ідзіце, я не трымаю вас.

**З'ява III**

Ганна Андрэеўна і Мар'я Антонаўна.

Ганна Андрэеўна. Ну, Машачка, нам трэба цяпер заняцца туалетам. Ён сталічная штучка, Божа барані, каб чаго-небудзь не асмяяў. Табе прыстойней за ўсё надзець тваю блакітную сукенку з дробнымі брыжыкамі.

Мар'я Антонаўна. Фі, мамачка, блакітную! Мне зусім не падабаецца: і Ляпкіна-Цяпкіна ходзіць у блакітнай, і дачка Земляніка таксама ў блакітнай. Не, лепш я надзену каляровую.

Ганна Андрэеўна. Каляровую!.. Дапраўды, гаворыш, абы толькі напоперак. Яна табе будзе куды лепш, бо я хачу надзець палевую; я вельмі люблю палевую.

Мар'я Антонаўна. Ах, мамачка, вам не да твару палевая.

Ганна Андрэеўна. Мне палевая не да твару?

Мар'я Антонаўна. Не да твару, я што хочаце даю, не да твару: для гэтага трэба, каб вочы былі зусім цёмныя.

Ганна Андрэеўна. Вось добра! а ў мяне вочы хіба не цёмныя? самыя цёмныя. Якое глупства гаворыць! Як жа не цёмныя, калі я і варажу пра сябе заўсёды на трэфавую даму?

Мар'я Антонаўна. Ах, мамачка! вы больш чырвенная дама.

Ганна Андрэеўна. Глупства, проста глупства! Я ніколі не была чырвенная дама! *(Паспешна выходзіць разам з Мар'яй Антонаўнай і гаворыць за сцэнай.)* Гэткае раптам звярзецца! Чырвенная дама! Бог ведае што такое!

Пасля таго як яны выйшлі, адчыняюцца дзверы, і Мішка выкідае з іх смецце. З другіх дзвярэй выходзіць Восіп з чамаданам на галаве.

## З'ява IV

Мішка і Восіп.

Восіп. Куды тут?

Мішка. Сюды, дзядзечка, сюды.

Восіп. Чакай, раней дай перадыхнуць. Ах ты, гаротнае жыццё! На пусты жывот усякая ноша здаецца цяжкой.

Мішка. Што, дзядзечка, скажыце: хутка будзе генерал?

Восіп. Які генерал?

Мішка. Ды пан ваш.

Восіп. Пан? Ды які ён генерал?

Мішка. А хіба не генерал?

Восіп. Генерал, ды толькі з другога боку.

Мішка. Што ж гэта, больш ці менш, чым сапраўдны генерал?

Восіп. Больш.

Мішка. Бачыш ты як! нездарма ў нас мітусню паднялі.

Восіп. Слухай, хлапчына: ты, бачу я, хлопец вёрткі, прыгатуй там што-небудзь з'есці!

Мішка. Ды для вас, дзядзечка, яшчэ нічога не гатова. Простай стравы вы не будзеце есці, а вось як пан ваш сядзе за стол, дык і вам тае самай яды дадуць.

Восіп. Ну, а простае што ў вас ёсць?

Мішка. Капуста, каша ды пірагі.

Восіп. Давай іх, капусту, кашу і пірагі! Нічога: усё будзем есці. Ну, панясём чамадан! Што, там другі выхад ёсць?

Мішка. Ёсць.

Абодва нясуць чамадан у бакавы пакой.

## З'ява V

Квартальныя адчыняюць абедзве палавінкі дзвярэй. Уваходзіць Хлестакоў; за ім гараднічы, далей папячыцель богаўгодных устаноў, наглядчык вучылішчаў, Добчынскі і Бобчынскі з пластырам на носе. Гараднічы паказвае квартальным на падлозе паперку — яны бягуць і падымаюць яе, штурхаючы ў спешцы адзін аднаго.

Хлестакоў. Добрыя ўстановы. Мне падабаецца, што ў вас паказваюць праезджым усё ў горадзе. У другіх гарадах мне нічога не паказвалі.

Гараднічы. У другіх гарадах, асмелюся далажыць вам, градаправіцелі і чыноўнікі больш клапоцяцца аб сваёй, так сказаць, карысці. А тут, можна сказаць, няма іншага ў думках, апрача таго каб дабрачыннасцю і пільнасцю заслужыць увагу начальства.

Хлестакоў. Снеданне было вельмі добрае, я зусім аб'еўся. Што, у вас кожны дзень бывае такое?

Гараднічы. Знарок для такога прыемнага госця.

Хлестакоў. Я люблю з'есці. На тое ж і жывеш, каб зрываць кветкі асалоды. Як называлася гэта рыба?

Арцемій Піліпавіч *(падбягаючы)*. Лабардан.

Хлестакоў. Вельмі смачна. Дзе гэта мы снедалі? У бальніцы, ці што?

Арцемій Піліпавіч. Так точна, у богаўгоднай установе.

Хлестакоў. Помню, помню, там стаялі ложкі. А хворыя паправіліся? Там іх, здаецца, не многа.

Арцемій Піліпавіч. Чалавек дзесяць асталося, не больш; а іншыя ўсе паправіліся. Гэта ўжо так наладжана, такі парадак. З таго часу, як я прыняў начальства, можа, вам пакажацца нават неверагодным, усе, як мухі, ачуньваюць. Хворы не паспее ўвайсці ў шпіталь, як ужо здаровы, і не столькі медыкаментамі, колькі сумленнасцю і парадкам.

Гараднічы. Ужо нашто, асмелюся далажыць вам, галаваломны абавязак градачальніка! Столькі ляжыць усякіх спраў, адносна аднае чыстаты, наладкі, папраўкі... Словам, найразумнейшаму чалавеку цяжка было б управіцца, але, дзякаваць Богу, усё ідзе добра. Іншы гараднічы, вядома, дбаў бы аб сваіх выгадах; але, ці паверыце, што, нават калі кладзешся спаць, усё думаеш: «Госпадзі Божа ты мой, як бы там зрабіць, каб начальства ўбачыла маю стараннасць і было задаволена...» Узнагародзіць яно ці не, вядома, у яго волі, прынамсі, я буду спакойны ў сэрцы. Калі ў горадзе ва ўсім парадак, вуліцы вымецены, арыштанты добра ўтрымліваюцца, п'яніц мала... то чаго ж мне больш? Паверце, і пашаны

ніякай не хачу. Яно, вядома, прывабна, але перад дабрадзейнасцю ўсё прах і марнасць.

Арцемій Піліпавіч *(убок)*. Бач, разбойнік, як распісвае! Даў жа Бог такі талент!

Хлестакоў. Гэта праўда. Я, прызнаюся, сам люблю часамі памудрагеліць: іншы раз прозай, а другі раз і вершыкі пракінуцца.

Бобчынскі *(Добчынскаму)*. Справядліва, усё справядліва, Пётр Іванавіч! Заўвагі такія... відаць, што навукі прайшоў.

Хлестакоў. Скажыце, калі ласка, ці няма ў вас якіх-небудзь забаў, кампаній, дзе можна было б, напрыклад, у карты пагуляць?

Гараднічы *(убок)*. Эге, ведаем, галубчык, у чый гарод каменьчыкі кідаюць! *(Услых.)* Божа барані! Тут і чутак няма пра такія кампаніі. Я карт і ў рукі ніколі не браў; нават не ведаю, як гуляюць у гэтыя карты. Глядзець не мог на іх спакойна; і калі здарыцца ўбачыць гэтак якога-небудзь бубновага караля ці што-небудзь іншае, дык такая агіда нападзе, што проста плюнеш. Раз неяк здарылася, забаўляючы дзяцей, збудаваў будку з картаў, дык пасля таго ўсю ноч сніліся праклятыя. Бог з імі! Як можна, каб такі дарагі час марнаваць на іх?

Лука Лукіч *(убок)*. А ў мяне выпанцёраваў, шэльма, учора сторублёвую.

Гараднічы. Лепш я аддам гэты час на карысць дзяржаўную.

Хлестакоў. Ну, не, вы дарэмна, аднак... Усё залежыць ад таго боку, з якога хто глядзіць на рэч. Калі, напрыклад, хто забастуе тады, як трэба гнуць ад трох рагоў... ну тады вядома... Не, не кажыце, часамі вельмі прывабна пагуляць.

### З'ява VI

Тыя самыя, Ганна Андрэеўна і Мар'я Антонаўна.

Гараднічы. Асмелюся прадставіць маю сям'ю: жонка і дачка.

Хлестакоў *(раскланьваючыся)*. Які я шчаслівы, васпані, што маю ў сваім родзе асалоду вас бачыць.

Ганна Андрэеўна. Нам яшчэ больш прыемна бачыць такую асобу.

Хлестакоў *(рысуючыся)*. Змілуйцеся, васпані, зусім наадварот: мне яшчэ прыемней.

Ганна Андрэеўна. Як можна! Вы гэта так маеце ласку гаварыць для камплімента. Сядайце, калі ласка.

Хлестакоў. Каля вас стаяць ужо ёсць шчасце; урэшце, калі вы так ужо абавязкова хочаце, я сяду. Які я шчаслівы, што нарэшце сяджу каля вас.

Ганна Андрэеўна. Змілуйцеся, я ніяк не адважваюся прыняць на свой кошт... Я думаю, вам пасля сталіцы ваяжыроўка паказалася вельмі непрыемнаю.

Хлестакоў. Надзвычайна непрыемна. Прывыкшы жыць, comprenez-vous[1], у свеце і раптам апынуцца ў дарозе: брудныя шынкі, цемра невуцтва... Каб, прызнаюся, не такі выпадак, які мяне... *(паглядае на Ганну Андрэеўну і рысуецца перад ёю)* так узнагародзіў за ўсё...

Ганна Андрэеўна. Сапраўды, як вам павінна быць непрыемна.

Хлестакоў. Урэшце, васпані, у гэту хвіліну мне вельмі прыемна.

Ганна Андрэеўна. Як можна! Занадта вялікі гонар. Я гэтага не заслугоўваю.

Хлестакоў. Чаму ж не заслугоўваеце? Вы, васпані, заслугоўваеце.

Ганна Андрэеўна. Я жыву ў вёсцы...

Хлестакоў. Так, вёска, урэшце, таксама мае свае прыгоркі, ручайкі... Ну, вядома, хто ж параўнае з Пецярбургам. Эх, Пецярбург! што за жыццё, сапраўды! Вы, мажа, думаеце, што я толькі перапісваю; не, начальнік аддзялення са мною блізкі друг. Гэтак стукне па плячы: «Прыходзь, браток, абедаць!» Я толькі на дзве хвіліны заходжу ў дэпартамент, для таго толькі, каб сказаць: гэта вось так, гэта вось так! А там ужо чыноўнік для пісання, гэтакі пацук, пяром толькі — тр, тр... пайшоў пісаць. Хацелі былі мяне нават калежскім асэсарам зрабіць, ды думаю нашто. І вартаўнік ляціць яшчэ на ўсходках за мной са шчоткай: «Дазвольце, Іван Аляксандравіч, я вам, кажа, боты пачышчу». *(Гараднічаму.)* Што вы, панове, стаіце? калі ласка, сядайце!

Гараднічы. Чын такі, што яшчэ можна пастаяць.
Арцемій Піліпавіч. Мы пастаім.
Лука Лукіч. Не турбуйцеся!
Хлестакоў. Без чыноў. Прашу садзіцца.
*(Разам)*

Гараднічы і ўсе садзяцца.

Я не люблю цырымоніі. Наадварот, я нават стараюся, стараюся праслізнуць непрыкметна. Але ніяк нельга схавацца, ніяк нельга!

---

[1] Вы разумееце *(фр.)*.

Толькі выйду куды-небудзь, ужо і гавораць: «Вунь, кажуць, Іван Аляксандравіч ідзе!» А раз мяне палічылі нават за галоўнакамандуючага: салдаты выскачылі з гаўптвахты і зрабілі ружжом. Пасля ўжо афіцэр, які мне вельмі знаёмы, кажа мне: «Ну, браток, мы цябе зусім палічылі за галоўнакамандуючага».

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Скажыце як!

Х л е с т а к о ў. З прыгожанькімі актрысамі знаёмы. Я ж таксама розныя вадэвільчыкі... Літаратараў часта бачу. З Пушкіным блізкі друг. Бывала, часта кажу яму: «Ну што, брат Пушкін?» «Ды так, брат, адказвае, бывала, так неяк усё...». Вялікі арыгінал.

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Дык вы і пішаце? Як гэта павінна быць прыемна пісьменніку! Вы, напэўна, і ў часопісы змяшчаеце?

Х л е с т а к о ў. Так, і ў часопісы змяшчаю. Маіх, урэшце, шмат ёсць твораў: «Жаніцьба Фігаро», «Роберт-Д'ябал», «Норма». Ужо і назваў нават не памятаю. І ўсё выпадкам: я не хацеў пісаць, але тэатральная дырэкцыя кажа: «Калі ласка, браток, напішы што-небудзь». Думаю сабе: «Калі ласка, браток». І тут жа за адзін вечар, здаецца, усё напісаў, усіх здзівіў. У мяне лёгкасць незвычайная ў думках. Усё гэта, што было за подпісам барона Брамбеўса, «Фрэгат «Надзеі» і «Маскоўскі Тэлеграф»... усё гэта я напісаў.

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Скажыце, дык гэта вы былі Брамбеўс?

Х л е с т а к о ў. А як жа? Я ім усім папраўляю вершы. Мне Смірдзін дае за гэта сорак тысяч.

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Дык, мусіць, і «Юрый Міласлаўскі» ваш твор?

Х л е с т а к о ў. Так, гэта мой твор.

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Я адразу здагадалася.

М а р ' я  А н т о н а ў н а. Ах, мамачка, там напісана, што гэта пана Загоскіна твор.

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Ну вось: я і ведала, што нават тут будзеш спрачацца.

Х л е с т а к о ў. Ах, так, гэта праўда, гэта сапраўды Загоскіна; а ёсць другі «Юрый Міласлаўскі», дык той ужо мой.

Г а н н а  А н д р э е ў н а. Ну, гэта, напэўна, я ваш чытала. Як добра напісана!

Х л е с т а к о ў. Я, прызнаюся, літаратурай жыву. У мяне дом першы ў Пецярбургу. Так ужо і вядомы: дом Івана Аляксандравіча. *(Звяртаючыся да ўсіх.)* Зрабіце ласку, панове, калі будзеце ў Пецярбургу, прашу, прашу да мяне. Я ж таксама банкеты даю.

Ганна Андрэеўна. Я думаю, з якім там густам і пышнасцю даюцца банкеты!

Хлестакоў. Проста не гаварыце. На стале, напрыклад, кавун — семсот рублёў кавун. Суп у каструльцы проста на параходзе прыехаў з Парыжа; знімеш вечка — пара, падобнай на якую нельга знайсці ў прыродзе. Я кожны дзень на банкетах. Там у нас і віст свой склаўся: міністр замежных спраў, французскі пасланнік, англійскі, нямецкі пасланнік і я. І ўжо так зморышся, іграючы, што проста ні на што не падобна. Як узбяжыш па ўсходках да сябе на чацвёрты паверх — скажаш толькі кухарцы: «На, Маўрушка, шынель...» Што ж я хлушу, я і забыўся, што жыву ў бельэтажы. У мяне адны ўсходкі каштуюць... А цікава заглянуць да мяне ў пярэднюю, калі ш яшчэ не прачнуўся: графы і князі таўкуцца і гудуць там, як чмялі, толькі і чутно: жжж... Іншы раз і міністр...

Гараднічы і іншыя баязліва ўстаюць з сваіх крэслаў.

Мне нават на пакетах пішуць: «ваша правасхадзіцельства». Раз я нават кіраваў дэпартаментам. І дзіўна: дырэктар паехаў — куды паехаў, невядома. Ну, натуральна, пайшла гаворка: як, што, каму заняць месца? Многія з генералаў знаходзіліся ахвотнікі і браліся, але падыдуць, бывала,— не, цяжка. Здаецца, і лёгка з выгляду, а разгледзішся — проста чорт вазьмі! Пасля бачаць, няма чаго рабіць — да мяне. І ў тую ж хвіліну па вуліцах кур'еры, кур'еры, кур'еры... можаце ўявіць сабе, трыццаць пяць тысяч адных кур'ераў! Якое становішча, я пытаюся? «Іван Аляксандравіч, ідзіце дэпартаментам кіраваць!» Я, прызнаюся, крышку збянтэжыўся, выйшаў у халаце; хацеў адмовіцца, але думаю, дойдзе да гасудара; ну, ды і паслужны спіс таксама... «Калі ласка, панове, я прымаю пасаду, я прымаю, кажу, так і быць, кажу, я прымаю, толькі ўжо ў мяне: ні, ні-ні!.. Ужо ў мяне вуха востра! Ужо я...» І сапраўды, бывала, як праходжу праз дэпартамент — проста землетрасенне, усё дрыжыць і трасецца, як ліст.

Гараднічыя і іншыя калоцяцца ад страху; Хлестакоў гарачыцца мацней...

О! я жартаваць не люблю; я ім усім даў дыхту. Мяне сам дзяржаўны савет баіцца. Ды што сапраўды? Я такі! я не пагляджу ні на кога... я кажу ўсім: «Я сам сябе ведаю, сам». Я ўсюды, усюды. У палац кожны дзень езджу. Мне заўтра ж дадуць чын фельдмарш... *(Пакаўзнуўся і ледзь-ледзь не шлёпнуўся на падлогу, але яго з пашанай падтрымалі чыноўнікі.)*

Гараднічы *(падыходзячы і калоцячыся ўсім целам, намагаецца вымавіць).* А ва-ва-ва... ва...

Хлестакоў *(хутка і адрывіста)*. Што такое?

Гараднічы. А ва-ва-ва... ва...

Хлестакоў *(такім жа голасам)*. Не разбяру нічога, усё глупства.

Гараднічы. Ва-ва-ва... шанства, правасхадзіцельства, ці не загадаеце адпачыць?.. Вось і пакой, і ўсё што трэба.

Хлестакоў. Глупства — адпачыць. Калі ласка, я гатоў адпачыць. Снеданне ў вас, панове, добрае... Я задаволены, я задаволены. *(З дэкламацыяй.)* Лабардан! Лабардан! *(Ідзе ў бакавы пакой, за ім гараднічы.)*

## З'ява VII

Тыя самыя, апрача Хлестакова і гараднічага.

Бобчынскі *(Добчынскаму)*. Вось гэта, Пётр Іванавіч, чалавек! Вось яно што значыць чалавек! Ніколі ў жыцці не быў у прысутнасці такой важнай асобы, ледзь не памёр са страху. Як вы думаеце, Пётр Іванавіч, хто ён такі ў сэнсе чыну?

Добчынскі. Я думаю, ледзь не генерал.

Бобчынскі. А я так думаю, што генерал і падэшвы яго не варт! А калі генерал, то ўжо хіба сам генералісімус. Чулі, дзяржаўны савет як прыцісnуў? Хадзем раскажам хутчэй Амосу Фёдаравічу і Каробкіну. Бывайце, Ганна Андрэеўна!

Добчынскі. Бывайце, кумка!

Абодва выходзяць.

Арцемій Піліпавіч *(Луку Лукічу)*. Страшна проста. А чаго, і сам не ведаеш. А мы нават і не ў мундзіры. Ну што як праспіцца ды ў Пецярбург махне данясенне? *(Выходзіць у задуменні разам з наглядчыкам вучылішчаў, гаворачы.)* Бывайце, васпані!

## З'ява VIII

Ганна Андрэеўна і Мар'я Антонаўна.

Ганна Андрэеўна. Ах, які прыемны!

Мар'я Антонаўна. Ах, мілашка!

Ганна Андрэеўна. Але толькі якое тонкае абыходжанне! Адразу можна пазнаць сталічную штучку. Манеры і ўсё гэта такое... Ах, як добра! Я страшэнна люблю такіх

маладых людзей! Я проста без памяці. Я, аднак жа, яму вельмі спадабалася: я заўважыла — усё на мяне паглядаў.

Мар'я Антонаўна. Ах, мамачка, ён на мяне глядзеў.

Ганна Андрэеўна. Калі ласка, з сваім глупствам далей! Гэта тут зусім недарэчы.

Мар'я Антонаўна. Не, мамачка, сапраўды!

Ганна Андрэеўна. Ну вось! Божа барані, каб не паспрачацца! нельга, дый годзе! Дзе яму глядзець на цябе! І чаго яму глядзець на цябе?

Мар'я Антонаўна. Сапраўды, мамачка, усё глядзеў. І як пачаў гаварыць пра літаратуру, дык глянуў на мяне, і потым, калі расказваў, як гуляў у віст з пасланнікамі, і тады паглядзеў на мяне.

Ганна Андрэеўна. Ну, можа, адзін які-небудзь раз, ды і то так ужо, абы толькі. «А, кажа сабе, дай пагляджу ўжо на яе!»

### З'ява IX

Тыя самыя і гараднічы.

Гараднічы *(уваходзіць на пальчыках)*. Чш... ш...

Ганна Андрэеўна. Што?

Гараднічы. І не рад, што напаіў. Ну, што калі хоць адна палавіна з таго, што ён гаварыў, праўда? *(Задумваецца.)* Ды як жа і не быць праўдзе? Падгуляўшы, чалавек усё выкладвае наверх. Што на сэрцы, тое і на языку. Вядома, прыхлусіў крыху. Ды яно не прыхлусіўшы, не адбываецца ніякая гаворка. З міністрамі гуляе і ў палац ездзіць... Так вось, дапраўды, чым больш думаеш... чорт яго ведае, не ведаеш, што і робіцца ў галаве; проста як быццам або стаіш на якой-небудзь званіцы, або цябе хочуць павесіць.

Ганна Андрэеўна. А я ніякага зусім не адчула страху; я проста бачыла ў ім адукаванага свецкага, вышэйшага тону чалавека, а пра чыны яго мне і клопату няма.

Гараднічы. Ну, ужо вы — жанчыны! Усё кончана, аднаго гэтага слова досыць! Вам усё — фінціклюшкі! Раптам ляпне ні з сяго ні з таго слоўца. Вас адлупцуюць, ды і толькі, а мужа і памінай як звалі. Ты, душа мая, абыходзілася з ім так вольна, як быццам з якім-небудзь Добчынскім.

Ганна Андрэеўна. Пра гэта я ўжо раю вам не клапаціцца. Мы што-ніщто ведаем такое... *(Паглядвае на дачку.)*

Гараднічы *(адзін)*. Ну, ужо з вамі гаварыць!.. Гэткая сапраўды аказія! Дагэтуль не магу апамятацца ад страху.

*(Адчыняе дзверы і гаворыць у дзверы.)* Мішка, пакліч квартальных Свістунова і Дзяржымордy: яны тут недалёка дзе-небудзь за варотамі. *(Пасля нядоўгага маўчання.)* Дзіўна ўсё завялося цяпер на свеце: хоць бы народ ужо быў відны, а то худзенькі, тоненькі — як яго пазнаеш, хто ён? Яшчэ вайсковы ўсё ж такі выгляд мае, а як надзене фрачок — ну, нібы муха з падрэзанымі крыламі. А доўга ж не даваўся надоечы ў шынку, загінаў такія алегорыі і эківокі, што здаецца, век бы не дабіўся толку. А вось нарэшце і падаўся. Ды яшчэ нагаварыў больш чым трэба. Відаць, што чалавек малады.

## З'ява X

Тыя самыя і В о с і п.
Усе бягуць насустрач яму, ківаючы пальцамі.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Падыдзі сюды, даражэнькі!

Г а р а д н і ч ы. Чш!.. што? што? спіць?

В о с і п. Не яшчэ, крышку пацягваецца.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Слухай, як цябе завуць?

В о с і п. Восіп,васпані.

Г а р а д н і ч ы *(жонцы і дачцэ)*. Годзе, годзе вам! *(Восіпу.)* Ну што, друг, цябе накармілі добра?

В о с і п. Накармілі, шчыра дзякую; добра накармілі.

Г а н н а А н д р э е ў н а. Ну што, скажы: да твайго пана вельмі, я думаю, ездзіць графоў і князёў?

В о с і п *(убок)*. А што гаварыць? Калі цяпер накармілі добра, значыць, пасля яшчэ лепш накормяць. *(Услых.)* Так, бываюць і графы.

М а р ' я А н т о н а ў н а. Душачка Восіп, які твой пан прыгожанькі!

Г а н н а А н д р э е ў н а. А што, скажы, калі ласка, Восіп, як ён...

Г а р а д н і ч ы. Ды перастаньце, калі ласка! Вы такой пустой гаворкай толькі мне перашкаджаеце. Ну што, друг?..

Г а н н а А н д р э е ў н а. А чын які на тваім пане?

В о с і п. Чын звычайна які.

Г а р а д н і ч ы. Ах, Божа мой! Вы ўсё з сваім дурным распытваннем! не дасце ні слова сказаць аб справе. Ну што, друг, як твой пан?.. Строгі? Любіць гэтак распякаць ці не?

В о с і п. Так, парадак любіць. Яму каб усё было ў спраўнасці.

Г а р а д н і ч ы. А мне вельмі падабаецца твой твар! Друг, ты, напэўна, добры чалавек. Ну што...

Ганна Андрэеўна. Слухай, Восіп, а як пан твой там, у мундзіры ходзіць?..

Гараднічы. Годзе вам, сапраўды, трашчоткі якія! Тут патрэбная рэч: справа ідзе аб жыцці чалавека... *(Восіпу.)* Ну што, друг, дапраўды ты мне вельмі падабаешся. У дарозе не шкодзіць, ведаеш, чайку выпіць лішнюю шкляначку; яно цяпер халаднавата. Дык вось табе пара рублёў на чай.

Восіп *(беручы грошы)*. Шчыра дзякую, васпан. Дай Божа вам усякага здароўя! Бедны чалавек, памаглі яму.

Гараднічы. Добра, добра, я і сам рад. А што, друг...

Ганна Андрэеўна. Слухай, Восіп, а якія вочы больш за ўсё падабаюцца твайму пану?..

Мар'я Антонаўна. Слухай, Восіп, душачка! Які міленькі носік у твайго пана!

Гараднічы. Ды чакайце, дайце мне!.. *(Восіпу.)* А што, друг, скажы, калі ласка: на што больш пан твой звяртае ўвагу, што яму ў дарозе больш падабаецца?

Восіп. Любіць ён, гледзячы як, што як прыйдзецца. Больш за ўсё любіць, каб яго прынялі добра, пачастунак каб быў добры.

Гараднічы. Добры?

Восіп. Так, добры. Вось ужо на што я, прыгонны чалавек, а і то глядзіць, каб і мне было добра. Далібог! Бывала, заедзем куды-небудзь: «Што, Восіп, добра цябе пачаставалі?» — «Дрэнна, ваша высокаблагароддзе!» — «Э, кажа, гэта, Восіп, нядобры гаспадар. Ты, кажа, напомні мне, як прыеду».— «А, думаю сабе *(махнуўшы рукою)*, бог з ім! Я чалавек просты».

Гараднічы. Добра, добра і разумна ты гаворыш. Там я табе даў на чай, дык вось яшчэ звыш таго на абаранкі.

Восіп. За што такая ласка, ваша высокаблагароддзе? *(Хавае грошы.)* Хіба ўжо вып'ю за ваша здароўе.

Ганна Андрэеўна. Прыходзь, Восіп, да мяне, таксама атрымаеш.

Мар'я Антонаўна. Восіп, душачка, пацалуй свайго пана!

Чуваць з другога пакоя ціхі кашаль Хлестакова.

Гараднічы. Чш! *(Падымаецца на пальчыкі, уся сцэна напаўголаса.)* Божа вас барані шумець! Ідзіце сабе! Годзе ўжо вам...

Ганна Андрэеўна. Хадзем, Машачка! я табе скажу, што я заўважыла ў госця такое, што нам удзвюх толькі можна сказаць.

Гараднічы. О, ужо там нагавораць! Я думаю, пайдзі толькі паслухай і вушы потым заткнеш. *(Звяртаецца да Восіпа.)* Ну, друг...

### З'ява XI

Тыя самыя, Дзяржыморда і Свістуноў.

Гараднічы. Чш! гэткія касалапыя мядзведзі грукаюць ботамі. Так і валіцца, як быццам сорак пудоў скідае хто з воза! Дзе вас чорт ганяе?

Дзяржыморда. Быў па загаду...

Гараднічы. Чш! *(Закрывае яму рот.)* Вось каркнула варона! *(Перадражнівае яго.)* «Быў па загаду»! Як з бочкі, так рыкае. *(Восіпу.)* Ну, друг, ты ідзі, рыхтуй там што трэба для пана. Усё, што ні ёсць у доме, патрабуй.

Восіп выходзіць.

А вы — стаяць на ганку і ні з месца! І нікога не ўпускаць у дом пабочнага, асабліва купцоў! Калі хоць аднаго з іх упусціце, то... Толькі ўбачыце, што ідзе хто-небудзь з просьбаю, а хоць і не з просьбаю, ды падобны на такога чалавека, што хоча падаць на мяне просьбу, у карак так проста і штурхайце! так яго! як мае быць! *(Паказвае нагой.)* Чуеце? Чш... чш... *(Выходзіць на пальчыках услед за квартальнымі.)*

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Той самы пакой у доме гараднічага.

### З'ява I

Уваходзяць асцярожна, амаль на пальчыках: Амос Фёдаравіч, Арцемій Піліпавіч, паштмайстар, Лука Лукіч, Добчынскі і Бобчынскі, у поўным парадзе і мундзірах. Уся сцэна адбываецца напаўголаса.

Амос Фёдаравіч *(строіць усіх паўкругам)*. Богам прашу, панове, хутчэй у кружок ды больш парадку! Бог з ім: і ў палац ездзіць, і дзяржаўны савет распякае! Стройцеся на ваенны лад, абавязкова на ваенны лад! Вы, Пётр Іванавіч, забяжыце з гэтага боку, а вы, Пётр Іванавіч, станьце вось тут.

Абодва Пятры Іванавічы забягаюць на пальчыках.

Арцемій Піліпавіч. Воля ваша, Амос Фёдаравіч, нам трэ было б зрабіць сякія-такія захады.

Амос Фёдаравіч. А што іменна?

Арцемій Пиліпавіч. Ну, вядома што.

Амос Фёдаравіч. Падсунуць?

Арцемій Піліпавіч. Ну ды хоць і падсунуць.

Амос Фёдаравіч. Небяспечна, чорт вазьмі! Раскрыюцца: дзяржаўны чалавек. А хіба ў выглядзе ахвяравання з боку дваранства на які-небудзь помнік?

Паштмайстар. Або: «вось, маўляў, прыйшлі па пошце грошы, якія невядома каму належаць».

Арцемій Піліпавіч. Глядзіце, каб ён вас па пошце не адправіў куды-небудзь далей. Слухайце: гэтыя справы не так робяцца ў добраўпарадкаванай дзяржаве. Чаго нас тут цэлы эскадрон? Прадставіцца трэба па адным, ды вока на вока і таго... як там належыць — каб і вушы не чулі. Вось як у грамадстве добраўпарадкаваным робіцца. Ну вось вы, Амос Фёдаравіч, першы і пачніце.

Амос Фёдаравіч. Дык лепей жа вы: у вашай установе высокі наведвальнік укусіў хлеба.

Арцемій Піліпавіч. Дык ужо лепш Луку Лукічу як асветніку юнацтва.

Лука Лукіч. Не магу, не магу, панове. Я, прызнаюся, так выхаван, што няхай загаворыць са мной адным чынам хто-небудзь вышэй, у мяне проста і душы няма, і язык як у гразь завяз. Не, панове, вызвальце, дапраўды вызвальце!

Арцемій Піліпавіч. Так, Амос Фёдаравіч, апрача вас, няма каму. У вас што ні слова, то Цыцэрон з языка зляцеў.

Амос Фёдаравіч. Што вы! што вы: Цыцэрон! Глядзіце, што выдумалі! Што іншы раз захопішся, гаворачы пра дамашнюю псярню ці пра ганчака...

Усе *(прыстаюць да яго)*. Не, вы не толькі пра сабак, вы і пра стоўпатварэнне... Не, Амос Фёдаравіч, не пакідайце нас, будзьце бацькам нашым!.. Не, Амос Фёдаравіч!

Амос Фёдаравіч. Адчапіцеся, панове!

У гэты час чутны крокі і адкашліванне ў пакоі Хлестакова. Усе навыперадкі спяшаюцца да дзвярэй, тлумяцца і стараюцца выйсці, што адбываецца не без таго, каб не прыціснулі каго-небудзь. Чутны напаўголаса выгукі.

Голас Бобчынскага. Ой, Пётр Іванавіч, Пётр Іванавіч! Наступілі на нагу!

Голас Земляніки. Адпусціце, панове, хоць душу на пакаянне, зусім прыціснулі!

Вылучаецца некалькі выгукаў: «Ай! ай!» Нарэшце ўсе выпіраюцца, і пакой застаецца пусты.

## З'ява II

Хлестакоў адзін, выходзіць з заспанымі вачамі.

Хлестакоў. Я, здаецца, храпянуў як мае быць. Адкуль яны набралі такіх сеннікоў і пярын? Аж спацеў. Здаецца, яны ўчора мне падсунулі нечага за снеданнем: у галаве да гэтага часу стукае. Тут, як я бачу, можна з прыемнасцю бавіць час. Я люблю гасціннасць, і мне, прызнаюся, больш падабаецца, калі мне дагаджаюць ад чыстага сэрца, а не тое каб дзеля выгады. А дачка гараднічага вельмі нішто сабе, ды і матулька такая, што яшчэ можна б... Не, я не ведаю, а мне, далібог, падабаецца такое жыццё.

## З'ява III

Хлестакоў і суддзя.

Суддзя *(уваходзіць і, спыняючыся, сам сабе).* Божа, Божа! вынесі шчасліва; так вось каленкі і ломіць. *(Услых, выцягнуўшыся і прытрымліваючы рукою шпагу.)* Маю гонар прадставіцца: суддзя тутэйшага павятовага суда, калежскі асэсар Ляпкін-Цяпкін.

Хлестакоў. Прашу садзіцца. Дык вы тут суддзя?

Суддзя. З 816-га быў выбран на трохгоддзе воляю дваранства і спраўляў пасаду да гэтага часу.

Хлестакоў. А выгадна, аднак жа, быць суддзёй?

Суддзя. За тры трохгоддзі прадстаўлены на Уладзіміра 4-й ступені з ухвалы з боку начальства. *(Убок.)* А грошы ў кулаку, ды кулак увесь у агні.

Хлестакоў. А мне падабаецца Уладзімір. Вось Ганна 3-й ступені ўжо не так.

Суддзя *(высоўваючы патроху ўперад сціснуты кулак. Убок).* Госпадзі Божа! Не ведаю, дзе сяджу. Нібы жару пад цябе падсыпалі.

Хлестакоў. Што гэта ў вас у кулаку?

Амос Фёдаравіч *(збянтэжыўшыся і выпусціўшы на падлогу асігнацыі).* Нічога-с.

Хлестакоў. Як нічога? Я бачу, грошы ўпалі.

Амос Фёдаравіч *(калоцячыся ўсім целам).* Зусім не! *(Убок.)* О Божа, вось ужо я і пад судом! І каляску падвезлі схапіць мяне.

Хлестакоў *(падымаючы).* Так, гэта грошы.

Амос Фёдаравіч *(убок).* Ну, усё кончана — прапаў! прапаў!

Хлестакоў. Ведаеце што? Пазычце іх мне...

Амос Фёдаравіч *(паспешна)*. Як жа, як жа... з вялікай прыемнасцю. *(Убок.)* Ну, смялей, смялей! Вывозь, святая Багародзіца!

Хлестакоў. Я, ведаеце, у дарозе выдаткаваўся: тое ды сёе... Урэшце, я вам з вёскі зараз жа іх прышлю.

Амос Фёдаравіч. Змілуйцеся, як можна! І так гэта такі гонар... Вядома, слабымі маімі сіламі, стараннем і аддасцю начальству... пастараюся заслужыць... *(Устае з крэсла, выцягнуўшыся і рукі па швах.)* Не смею больш турбаваць сваёй прысутнасцю. Не будзе ніякага загаду?

Хлестакоў. Якога загаду?

Амос Фёдаравіч. Я разумею, ці не дасце якога загаду тутэйшаму павятоваму суду?

Хлестакоў. Навошта ж? Мне ж ніякай няма цяпер у ім патрэбы; не, нічога. Шчыра дзякую.

Амос Фёдаравіч *(раскланьваючыся і выходзячы, убок)*. Ну, горад наш!

Хлестакоў *(пасля таго як ён выйшаў)*. Суддзя — добры чалавек!

## З'ява IV

Хлестакоў і паштмайстар уваходзіць, выцягнуўшыся, у мундзіры, прытрымліваючы шпагу.

Паштмайстар. Маю гонар прадставіцца: паштмайстар, надворны саветнік Шпекін.

Хлестакоў. А, калі ласка. Я вельмі люблю прыемную кампанію. Сядайце. Вы тут заўсёды жывяце?

Паштмайстар. Так точна-с.

Хлестакоў. А мне падабаецца тутэйшы гарадок. Вядома, не так мнагалюдна — ну, што ж? Гэта ж не сталіца. Хіба не праўда, гэта ж не сталіца?

Паштмайстар. Шчырая праўда.

Хлестакоў. Гэта ж толькі ў сталіцы бантон і няма правінцыяльных гусей. Як ваша думка, хіба не праўда?

Паштмайстар. Так точна-с. *(Убок.)* А ён, аднак жа, зусім не ганарлівы; аб усім распытвае.

Хлестакоў. А яно, аднак жа, прызнайцеся, яно і ў маленькім гарадку можна пражыць шчасліва?

Паштмайстар. Так точна-с.

Хлестакоў. На маю думку, што трэба? Трэба толькі, каб цябе паважалі, любілі шчыра — хіба не праўда?

П а ш т м а й с т а р. Зусім справядліва.

Х л е с т а к о ў. Я, прызнаюся, рад, што вы аднае думкі са мною. Мяне, вядома, назавуць дзіваком, але ўжо ў мяне такі характар. *(Гледзячы яму ў вочы, гаворыць сам сабе.)* А папрашу я, каб гэты паштмайстар мне пазычыў! *(Услых.)* Які дзіўны са мной выпадак: у дарозе зусім выдаткаваўся. Ці не можаце вы мне пазычыць трыста рублёў?

П а ш т м а й с т а р. Чаму ж не? Палічу за найвялікшае шчасце. Вось, калі ласка. Ад душы гатоў служыць.

Х л е с т а к о ў. Вельмі дзякую. А я, прызнаюся, смерць не люблю адмаўляць сабе ў дарозе, дый дзеля чаго ж? Хіба не праўда?

П а ш т м а й с т а р. Так точна. *(Устае, выцягваецца і прытрымлівае шпагу.)* Не смею больш турбаваць сваёй прысутнасцю... Ці не будзе якой заўвагі па часці паштовага кіраўніцтва?

Х л е с т а к о ў. Не, нічога.

П а ш т м а й с т а р раскланьваецца і выходзіць.

*(Раскручваючы цыгарку.)* Паштмайстар, мне здаецца, таксама вельмі добры чалавек. Прынамсі, паслужлівы; я люблю такіх людзей.

## З'ява V

Х л е с т а к о ў і Л у к а Л у к і ч, які амаль што выпіхаецца з дзвярэй. Ззаду ў яго чуваць голас амаль услых: «Чаго баішся?»

Л у к а Л у к і ч *(выцягваючыся не без страху і прытрымліваючы шпагу)*. Маю гонар прадставіцца: наглядчык вучылішчаў, тытулярны саветнік Хлопаў.

Х л е с т а к о ў. А, калі ласка. Сядайце, сядайце. Ці не хочаце цыгарку? *(Дае яму цыгарку.)*

Л у к а Л у к і ч *(сам сабе, нерашуча)*. Вось табе раз! Ужо гэтага ніяк не чакаў. Браць ці не браць?

Х л е с т а к о ў. Вазьміце, вазьміце; гэта добрая цыгарка. Вядома, не тое што ў Пецярбургу. Там, бацюхна, я курыў цыгарачкі па дваццаць пяць рублёў соценька, проста ручкі сабе потым пацалуеш, як выкурыш. Вось агонь, закурыце. *(Падае яму свечку.)*

Лука Лукіч спрабуе закурыць і ўвесь дрыжыць.

Ды не з таго канца!

Лука Лукіч *(з перапалоху выпусціў цыгару, плюнуў і, махнуўшы рукой, сам сабе)*. Чорт бы яго забраў усё! Загубіла праклятая баязлівасць!

Хлестакоў. Вы, як я бачу, не ахвотнік да цыгарак. А я прызнаюся: гэта мая слабасць. Вось яшчэ наконт жаночага полу, ніяк не магу быць безуважным. Як вы? Якія вам больш падабаюцца — брунеткі ці бландзінкі?

Лука Лукіч зусім збянтэжаны і не ведае, што сказаць.

Не, скажыце шчыра, брунеткі ці бландзінкі?

Лука Лукіч. Не смею знаць.

Хлестакоў. Не, не, не адгаворвайцеся! Мне хочацца абавязкова ўведаць ваш густ.

Лука Лукіч. Асмелюся далажыць... *(Убок.)* Ну, і сам не ведаю, што гавару.

Хлестакоў. А! а! Не хочаце сказаць. Напэўна, ужо якая-небудзь брунетка зрабіла вам маленькую загвоздачку. Прызнайцеся, зрабіла?

Лука Лукіч маўчыць.

А! а! пачырванелі! Бачыце, бачыце! Чаму ж вы не гаворыце?

Лука Лукіч. Спалохаўся, ваша бла... правас... сія... *(Убок.)* Здрадзіў пракляты язык! Здрадзіў!

Хлестакоў. Спалохаўся? А ў маіх вачах, сапраўды, ёсць нешта такое, ад чаго робіцца боязна. Прынамсі, я ведаю, што ніводная жанчына не можа іх вытрымаць, хіба не праўда?

Лука Лукіч. Так точна-с.

Хлестакоў. Вось са мной вельмі дзіўны выпадак: у дарозе зусім выдаткаваўся. Ці не можаце вы мне пазычыць трыста рублёў?

Лука Лукіч *(хапаючыся за кішэню, сам сабе)*. Вось дык штука, калі няма! Ёсць, ёсць. *(Вымае і дае, калоцячыся, асігнацыі.)*

Хлестакоў. Шчыра дзякую.

Лука Лукіч *(выцягваючыся і прытрымліваючы шпагу)*. Не смею больш турбаваць прысутнасцю...

Хлестакоў. Бывайце...

Лука Лукіч *(ляціць вон амаль што бягом і гаворыць убок)*. Ну, дзякуй Богу! ану ж не загляне ў класы.

**З'ява VI**

Хлестакоў і Арцемій Пілiпавіч, выцягнуўшыся і прытрымліваючы шпагу.

Арцемій Піліпавіч. Маю гонар прадставіцца: папячыцель богаўгодных устаноў, надворны саветнік Земляніка.

Хлестакоў. Добры дзень, сядайце, калі ласка.

Арцемій Піліпавіч. Меў гонар суправаджаць вас і прымаць асабіста ў падлеглых майму нагляду богаўгодных установах.

Хлестакоў. А, так! памятаю. Вы вельмі добра пачаставалі снеданнем.

Арцемій Піліпавіч. Рад старацца на службу айчыне.

Хлестакоў. Я — прызнаюся, гэта мая слабасць,— люблю добрую кухню. Скажыце, калі ласка, мне здаецца, як быццам вы ўчора былі крышачку ніжэйшы ростам, праўда?

Арцемій Піліпавіч. Вельмі можа быць. *(Памаўчаўшы.)* Магу сказаць, што не шкадую нічога і старанна выконваю службу. *(Падсоўваецца бліжэй з сваім крэслам і гаворыць напаўголаса.)* Вось тутэйшы паштмайстар зусім нічога не робіць: усе справы страшэнна запушчаны, пасылкі затрымліваюцца... зрабіце ласку самі наўмысле пераканацца. Суддзя таксама, які толькі што быў перад маім прыходам, ездзіць толькі на зайцоў, ва ўстановах трымае сабак і паводзіны, калі прызнацца перад вамі,— вядома, для карысці айчыны, я павінен гэта зрабіць, хоць ён мне радня і прыяцель,— паводзіны самыя непамысныя. Тут ёсць адзін памешчык Добчынскі, якога вы мелі ласку бачыць, і як толькі гэты Добчынскі куды-небудзь выйдзе з дому, дык ён там ужо і сядзіць у яго жонкі, я прысягнуць гатоў... І наўмысле гляньце на дзяцей: ніводнае з іх не падобна на Добчынскага, але ўсе, нават дзяўчынка маленькая, як выліты суддзя.

Хлестакоў. Скажыце, калі ласка! а я ніяк гэтага не думаў.

Арцемій Піліпавіч. Вось і наглядчык тутэйшага вучылішча... Я не ведаю, як магло начальства даверыць яму такую пасаду. Ён горш, чым якабінец, і такія падносіць юнацтву нядобранамерныя правілы, што нават выказаць цяжка. Ці не загадаеце, я ўсё гэта выкладу лепш на паперы?

Хлестакоў. Добра, хоць на паперы. Мне вельмі будзе прыемна. Я, ведаеце, гэтак люблю з нуды прачытаць штонебудзь забаўнае... Як ваша прозвішча? Я ўсё забываюся.

Арцемій Піліпавіч. Земляніка.

Хлестакоў. А, так! Земляніка. І што ж, скажыце, калі ласка, ёсць у вас дзеткі?

Арцемій Піліпавіч. А як жа. Пяцёра; двое ўжо дарослыя.

Хлестакоў. Скажыце, дарослыя! А як яны... як яны таго?..

Арцемій Піліпавіч. Што, ці не маеце ласку пытацца, як іх завуць?

Хлестакоў. Так, як іх завуць?

Арцемій Піліпавіч. Мікалай, Іван, Лізавета, Мар'я і Перэпетуя.

Хлестакоў. Гэта добра.

Арцемій Піліпавіч. Не смеючы турбаваць сваёй прысутнасцю, займаць час, вызначаны на свяшчэнныя абавязкі... *(Раскланьваецца, каб пайсці.)*

Хлестакоў *(праводзячы)*. Не, нічога. Гэта ўсё вельмі смешна, што вы гаварылі. Калі ласка, і другім разам таксама... Я гэта вельмі люблю. *(Варочаецца і, адчыніўшы дзверы, крычыць услед яму.)* Гэй, вы! як вас? я ўсё забываюся, як ваша імя і па бацьку.

Арцемій Піліпавіч. Арцемій Піліпавіч.

Хлестакоў. Зрабіце ласку, Арцемій Піліпавіч, са мной дзіўны выпадак: у дарозе выдаткаваўся. Ці няма ў вас грошай пазычыць — рублёў чатырыста?

Арцемій Піліпавіч. Ёсць.

Хлестакоў. Скажыце, як дарэчы. Шчыра вам дзякую.

**З'ява VII**

Хлестакоў, Бобчынскі і Добчынскі.

Бобчынскі. Маю гонар прадставіцца: жыхар тутэйшага горада, Пётр Іванаў сын Бобчынскі.

Добчынскі. Памешчык Пётр Іванаў сын Добчынскі.

Хлестакоў. А, ды я ўжо вас бачыў. Вы, здаецца, тады ўпалі? Што, як ваш нос?

Бобчынскі. Дзякуй Богу! не турбуйцеся, калі ласка: прысох, цяпер зусім прысох.

Хлестакоў. Добра, што прысох. Я рад... *(Раптоўна і адрывіста.)* Грошай няма ў вас?

Добчынскі. Грошай? Як грошай?

Хлестакоў. Пазычыць рублёў тысячу.

Бобчынскі. Такой сумы, далібог, няма. А ці няма ў вас, Пётр Іванавіч?

Добчынскі. Пры сабе не маю, бо грошы мае, калі маеце ласку ведаць, пакладзены ў прыказ грамадскага дагляду.

Хлестакоў. Ды, ну, калі тысячу няма, дык рублёў сто.

Бобчынскі *(шукаючы ў кішэнях)*. У вас, Пётр Іванавіч, няма ста рублёў? У мяне ўсяго сорак асігнацыямі.

Добчынскі *(глядзіць у бумажнік)*. Дваццаць пяць рублёў усяго.

Бобчынскі. Ды вы пашукайце лепш, Пётр Іванавіч! У вас там, я ведаю, у кішэні з правага боку прарэх, дык у прарэх, напэўна, як-небудзь запалі.

Добчынскі. Не, далібог, і ў прарэху няма.

Хлестакоў. Ну, усё роўна. Я гэта толькі так. Добра, няхай будзе шэсцьдзесят пяць рублёў. Гэта ўсё роўна. *(Бярэ грошы.)*

Добчынскі. Я асмельваюся папрасіць вас наконт аднае толькі тонкай акалічнасці.

Хлестакоў. А што гэта?

Добчынскі. Справа вельмі тонкага характару: старэйшы сын мой, бачыце, народжаны мною яшчэ да шлюбу...

Хлестакоў. Так?

Добчынскі. То бо, яно так толькі гаворыцца, а ён народжаны мною зусім так, як быццам і ў шлюбе, і ўсё гэта, як належыць, я завяршыў потым законным шлюбам. Дык я, бачыце, хачу, каб ён цяпер ужо быў зусім, значыць, законным маім сынам і каб называўся так, як я: Добчынскі.

Хлестакоў. Добра, няхай называецца, гэта можна.

Добчынскі. Я б і не турбаваў вас, ды шкада наконт здольнасцей. Хлапчына, ведаеце, такі... вялікія надзеі падае: на памяць вершы розныя раскажа і, калі дзе трапіцца ножык, зараз жа зробіць маленькую брычачку так дасканала, як штукар. Вось і Пётр Іванавіч ведае.

Бобчынскі. Так, вялікія здольнасці мае.

Хлестакоў. Добра, добра: я аб гэтым пастараюся, я буду гаварыць... я спадзяюся, усё гэта будзе зроблена, так, так. *(Звяртаецца да Бобчынскага.)* Ці не маеце і вы чаго-небудзь сказаць мне?

Бобчынскі. Як жа, маю вельмі пакорную просьбу.

Хлестакоў. А што, аб чым?

Бобчынскі. Я вельмі прашу вас, калі паедзеце ў Пецярбург, скажыце ўсім там вяльможам розным: сенатарам і адміралам, што вось, ваша сіяцельства ці правасхадзіцельства, жыве ў такім вось горадзе Пётр Іванавіч Бобчынскі. Так і скажыце: жыве Пётр Іванавіч Бобчынскі.

Хлестакоў. Вельмі добра.

Бобчынскі. Ды калі гэтак і гасудару прыйдзецца, дык скажыце і гасудару, што вось, маўляў, ваша імператарскае вялічаства, у такім вось горадзе жыве Пётр Іванавіч Бобчынскі.

Хлестакоў. Вельмі добра.

Добчынскі. Выбачайце, што так патурбавалі вас сваёй прысутнасцю.

Бобчынскі. Выбачайце, што так патурбавалі вас сваёй прысутнасцю.

Хлестакоў. Нічога, нічога. Мне вельмі прыемна. *(Выправаджвае іх.)*

### З'ява VIII

Хлестакоў адзін.

Хлестакоў. Тут шмат чыноўнікаў. Мне здаецца, аднак жа, яны мяне лічаць за дзяржаўнага чалавека. Мусіць, я ўчора ім падпусціў пылу. Якія дурні! Напішу я вазьму пра ўсё ў Пецярбург Трапічкіну: ён пapiсвае артыкульчыкі, няхай ён іх абсмяе як мае быць. Гэй, Восіп! Падай мне паперу і чарніла!

Восіп выглянуў з дзвярэй, сказаўшы: «Зараз».

А ўжо Трапічкіну, сапраўды, калі хто трапіць на зубок,— сцеражыся: бацькі роднага не пашкадуе дзеля слоўца і грошы таксама любіць. Урэшце, чыноўнікі гэтыя добрыя людзі; гэта з іх боку добрая рыса, што яны мне грошай пазычылі. Перагледжу наўмысле, колькі ў мяне грошай. Гэта ад суддзі трыста; гэта ад паштмайстра трыста, шэсцьсот, семсот, восемсот... Якая зашмальцаваная паперка! Восемсот, дзевяцьсот... Ого! За тысячу пераваліла... Ану, цяпер, капітан, ану, пападзіся ты мне цяпер! Паглядзім, хто каго!

### З'ява IX

Хлестакоў і Восіп з чарнілам і паперай.

Хлестакоў. Ну што, бачыш, дурань, як мяне частуюць і прымаюць? *(Пачынае пісаць.)*

Восіп. Так, дзякуй Богу! Толькі ведаеце што, Іван Аляксандравіч?

Хлестакоў. А што?

Восіп. Выязджайце адсюль. Далібог, пара ўжо.

Х л е с т а к о ў *(піша).* Вось глупства! Чаму?

В о с і п. Ды так. Бог з імі з усімі! Пагулялі тут два дзянькі — ну і досыць. Што з імі доўга валаводзіцца? Плюньце на іх! Чаго добрага, які-небудзь другі наедзе. Далібог, Іван Аляксандравіч! А коні тут добрыя — так бы закацілі!..

Х л е с т а к о ў *(піша).* Не, мне яшчэ хочацца пажыць тут. Няхай заўтра.

В о с і п. Ды што заўтра! Далібог, паедзем, Іван Аляксандравіч! Яно хоць і вялікі гонар вам, ды ўсё, ведаеце, лепш паехаць хутчэй: вас жа, далібог, за некага другога палічылі... І бацюхна ваш будзе гневацца, што так замарудзілі. Так бы, далібог, закацілі слаўна! А коней бы важных тут далі.

Х л е с т а к о ў *(піша).* Ну добра. Занясі толькі раней гэта пісьмо, бадай, разам і падарожную вазьмі. Ды затое глядзі, каб коні добрыя былі. Фурманам скажы, што я буду даваць па рублю, каб так, як фельд'егера, кацілі! І песні каб пелі!.. *(Піша далей.)* Уяўляю, Трапічкін памрэ з рогату...

В о с і п. Я, васпан, адпраўлю яго з чалавекам тутэйшым, а сам лепш буду ўпакоўвацца, каб не марнаваць дарэмна часу.

Х л е с т а к о ў *(піша).* Добра, прынясі толькі свечку.

В о с і п *(выходзіць і гаворыць за сцэнай).* Гэй, слухай, брат! Занясеш пісьмо на пошту і скажы паштмайстру, каб ён прыняў без грошай, ды скажы, каб зараз жа прывялі да пана самую лепшую тройку, кур'ерскую; а прагону, скажы, пан не плаціць: прагон, скажы, казённы. Ды каб усё хутчэй, а то, скажы, пан злуецца. Стой, яшчэ пісьмо не гатова.

Х л е с т а к о ў *(піша далей).* Цікава ведаць, дзе ён цяпер жыве — у Паштамцкай ці Гарохавай. Ён жа таксама любіць часта пераязджаць з кватэры і недаплачваць. Напішу наўдалую ў Паштамцкую. *(Згортвае і надпісвае.)*

Восіп прыносіць свечку. Хлестакоў запячатвае. У гэты час чуваць голас Дзяржыморды: «Куды лезеш, барада? Кажуць табе, нікога не загадана пускаць».

Х л е с т а к о ў *(дае Восіпу пісьмо).* На, занясі.

Г а л а с ы  к у п ц о ў. Дапусціце, бацюхна! Вы не можаце не дапусціць: мы па справе прыйшлі.

Г о л а с  Д з я р ж ы м о р д ы. Пайшоў, пайшоў! Не прымае, спіць.

Шум павялічваецца.

Х л е с т а к о ў. Што там такое, Восіп? Паглядзі, што за шум.

В о с і п *(глядзіць у акно).* Купцы нейкія хочуць зайсці, ды не дапускае квартальны. Махаюць паперамі: мусіць, вас хочуць бачыць.

Хлестакоў *(падыходзячы да акна).* А што вы, шаноўныя?

Галасы купцоў. Да твае міласці звяртаемся. Загадай, гасудар, просьбу прыняць.

Хлестакоў. Упусціце іх, упусціце! няхай ідуць. Восіп, скажы ім, няхай ідуць.

Восіп выходзіць.

*(Прымае праз акно просьбы, разгортвае адну з іх і чытае.)* «Яго Высокаблагароднаму Светласці Пану Фінансаву ад купца Абдуліна...» Чорт ведае што: і чыну такога няма!

**З'ява X**

Хлестакоў і купцы з корабам віна і галовамі цукру.

Хлестакоў. А што вы, шаноўныя?

Купцы. Чалом б'ём вашай міласці.

Хлестакоў. А што вам трэба?

Купцы. Не загубі, гасудар! Крыўду церпім зусім дарэмна.

Хлестакоў. Ад каго?

Адзін з купцоў. Ды ўсё ад гараднічага тутэйшага. Такога гараднічага ніколі яшчэ, гасудар, не было. Такія крыўды чыніць, што апісаць нельга. Пастоем зусім замарыў, хоць у пятлю лезь. Не па-людску абыходзіцца. Схопіць за бараду, кажа: «Ах ты, татарын!» Далібог жа! Каб, скажам, чым-небудзь не ўважылі яго, а то мы ўжо заўсёды парадку трымаемся: што належыць на сукенку жонцы яго і дачцэ — мы супроць гэтага не стаім. Не, бач ты, яму ўсяго гэтага мала. Далібог! Прыйдзе ў краму і, што ні трапіцца, усё бярэ. Сукна ўбачыць пастаў, кажа: «Э, мілы, гэта добрае сукенца: занясі яго да мяне». Ну і нясеш, а ў паставе будзе без нечага аршын пяцьдзесят.

Хлестакоў. Няўжо? Ах, якая ж ён шэльма!

Купцы. Далібог! такога ніхто не памятае гараднічага. Так усё і прыхоўваеш у краме, як яго згледзіш. То бо, не тое каб сказаў якую далікатнасць, усялякую дрэнь бярэ: чарнасліў такі, што гадоў па сем ужо ляжыць у бочцы, што ў мяне сядзелец не будзе есці, а ён цэлую жменю туды запусціць. Імяніны яго бываюць на Антона, і ўжо, здаецца, усяго нанясеш, ні ў чым патрэбы няма. Не, яму яшчэ давай: кажа, і на Ануфрэя яго імяніны. Што рабіць? і на Ануфрэя нясеш.

Хлестакоў. Ды гэта проста разбойнік.

Купцы. Далібог! А паспрабуй пярэчыць, навядзе да цябе ў дом цэлы полк на пастой. А калі што, загадае заперці

дзверы. «Я цябе, кажа, не буду, кажа, падвяргаць цялеснаму пакаранню або катаваць — гэта, кажа, забаронена законам, а вось ты ў мяне, даражэнькі, паясі селядца!»

Хлестакоў. Ах, якая шэльма! Ды за гэта проста ў Сібір.

Купцы. Ды ўжо куды міласць твая ні заправадзіць яго, усё будзе добра, абы ад нас далей. Не пагрэбуй, бацька наш, хлебам і соллю: кланяемся табе цукрыкам і корабам віна.

Хлестакоў. Не, вы гэтага не думайце: я не бяру зусім ніякага хабару. Вось калі б вы, напрыклад, захацелі мне пазычыць рублёў трыста — ну, тады зусім іншая справа: пазыку я мог бы ўзяць.

Купцы. Зрабі ласку, бацька наш! *(Вымаюць грошы.)* Ды што трыста! Ужо лепш пяцьсот вазьмі, дапамажы толькі.

Хлестакоў. Калі ласка: пазыку — [redacted] ні слова, [redacted] вазьму.

Купцы *(падносяць яму на сярэбраным падносе грошы)*. Ужо, калі ласка, і падносік разам вазьміце.

Хлестакоў. Ну, і падносік можна.

Купцы *(кланяючыся)*. Дык ужо вазьміце за адным махам і цукрыку.

Хлестакоў. О не, я хабару ніякага...

Восіп. Ваша высокаблагароддзе! чаму вы не бераце? Вазьміце! у дарозе ўсё спатрэбіцца. Давай сюды галовы і мяшок. Давай усё, усё пойдзе на карысць. Што там? вяровачка? Давай і вяровачку! і вяровачка ў дарозе спатрэбіцца: каляска зломіцца ці што іншае, падвязаць можна.

Купцы. Дык ужо зрабіце такую ласку, ваша сіяцельства! Калі ўжо вы не дапаможаце ў нашай просьбе, то ўжо не ведаем, як і быць: проста хоць у пятлю лезь.

Хлестакоў. Абавязкова, абавязкова! Я пастараюся.

Купцы выходзяць. Чуваць голас жанчыны: «Не, ты не смееш не дапусціць мяне! Я на цябе паскарджуся яму самому. Ты не штурхайся так балюча!»

Хто там? *(Падыходзіць да акна.)* А што ты, матухна?

Галасы дзвюх жанчын. Ласкі твае, бацюхна, прашу! Загадай, гасудар, выслухаць!

Хлестакоў *(у акно)*. Прапусціце яе.

### З'ява XI

Хлестакоў, слесарыха і унтэр-афіцэрыха.

Слесарыха *(кланяючыся ў ногі)*. Ласкі прашу...

Унтэр-афіцэрыха. Ласкі прашу...

Хлестакоў. Ды што вы за жанчыны?

Унтэр-афіцэрыха. Унтэр-афіцэрава жонка Іванова.

Слесарыха. Слесарыха, тутэйшая мяшчанка, Фяўронњя Пятроўна Пашлёпкіна, бацюхна мой...

Хлестакоў. Стой, гавары раней адна. Што табе трэба?

Слесарыха. Ласкі прашу: на гараднічага чалом б'ю! Каб яму Бог даў усялякае ліха! Каб ні дзецям яго, ні яму, абармоту, ні дзядзькам, ні цёткам яго ні ў чым ніякага прыбытку не было!

Хлестакоў. А што?

Слесарыха. Ды мужа майго загадаў у салдаты здаць, і чарга ж на нас не прыпадала, абармот гэткі! ды і па законе нельга: ён жанаты.

Хлестакоў. Як жа ён мог гэта зрабіць?

Слесарыха. Зрабіў, шэльма, зрабіў,— каб яго Бог пакараў і на тым свеце, і на гэтым! Каб яму, калі і цётка ёсць, дык і цётцы ўсякая пакасць, і бацька, калі жывы ў яго, дык каб і ён, шэльма, адубеў ці папярхнуўся навекі, абармот гэтакі! Належала ўзяць краўцовага сына, ён жа і п'янчужка быў, ды бацькі багаты гасцінец далі, дык ён і прысукаўся да сына купчыхі Панцялеевай, а Панцялеева таксама падаслала жонцы палатна тры сувоі, дык ён да мяне. «Нашто, кажа, табе муж? ён ужо табе не здатны». Ды я-то ведаю, здатны ці не здатны, гэта мая справа, абармот ты гэтакі! «Ён, кажа, злодзей; хоць ён цяпер і не ўкраў, ды ўсё роўна, кажа, ён украдзе, яго і так у наступным годзе возьмуць у рэкруты». Ды мне-то як без мужа, абармот ты гэтакі! Я слабы чалавек, падлюга ты такая! Каб усёй радні тваёй не давялося бачыць свету Божага! А калі ёсць цешча, то каб і цешчы...

Хлестакоў. Добра, добра. Ну а ты? *(Выправаджае старую.)*

Слесарыха *(выходзячы)*. Не забудзься, бацька наш, змілуйся!

Унтэр-афіцэрыха. На гараднічага, бацюхна, прыйшла...

Хлестакоў. Ну ды што, чаго? гавары ў кароткіх словах.

Унтэр-афіцэрыха. Адхвастаў, бацюхна.

Хлестакоў. Як?

Унтэр-афіцэрыха. Па памылцы, бацюхна мой! Бабы нашы задраліся на рынку, а паліцыя спазнілася, ды і схапілі мяне, ды так адрапартавалі: два дні сядзець не магла.

Хлестакоў. Дык што ж цяпер рабіць?

Унтэр-афіцэрыха. Ды рабіць, вядома, няма чаго. А за памылку загадай яму заплаціць штраф. Мне ад свайго шчасця нечага адмаўляцца, а грошы мне цяпер бы вельмі спатрэбіліся.

Хлестакоў. Добра, добра. Ідзіце, ідзіце! Я распараджуся.

У акно высоўваюцца рукі з просьбамі.

Ды хто там яшчэ? *(Падыходзіць да акна.)* Не хачу, не хачу! Не трэба, не трэба! *(Адыходзячы.)* Абрыдлі, чорт вазьмі! Не ўпускай, Восіп.

Восіп *(крычыць у акно)*. Пайшлі, пайшлі! Не пара, заўтра прыходзьце!

Дзверы адчыняюцца, і выстаўляецца нейкая постаць у фрызавым шынялі, з няголенай барадою, напухлаю губой і перавязанай шчакой; за ім у перспектыве паказваецца некалькі другіх.

Восіп. Пайшоў, пайшоў! чаго лезеш! *(Упіраецца першаму рукамі ў жывот і выпіраецца разам з ім у прыхожую, зачыніўшы за сабою дзверы.)*

## З'ява XII

Хлестакоў і Мар'я Антонаўна.

Мар'я Антонаўна. Ах!

Хлестакоў. Чаго ж вы так спужаліся,васпані?

Мар'я Антонаўна. Не, я не спужалася.

Хлестакоў *(рысуецца)*. Змілуйцеся, васпані, мне вельмі прыемна, што вы мяне палічылі за такога чалавека, які... Ці асмелюся запытацца ў вас, куды вы меліся ісці?

Мар'я Антонаўна. Дапраўды ж, я нікуды не ішла.

Хлестакоў. Чаму ж, напрыклад, вы нікуды не ішлі?

Мар'я Антонаўна. Я думала, ці не тут матуля...

Хлестакоў. Не, мне хацелася б ведаць, чаму вы нікуды не ішлі?

Мар'я Антонаўна. Я вам перашкодзіла. Вы займаліся важнымі справамі.

Хлестакоў *(рысуецца)*. А вашы вочы лепш, чым важныя справы... Вы ніяк не можаце мне перашкодзіць; ніякім чынам не можаце; наадварот, вы можаце прынесці прыемнасць.

Мар'я Антонаўна. Вы гаворыце па-сталічнаму.

Хлестакоў. Дзеля такой цудоўнай асобы, як вы. Ці асмелюся быць такім шчаслівым, каб прапанаваць вам крэсла? Але не, вам трэба не крэсла, а трон.

Мар'я Антонаўна. Дапраўды, я не ведаю... мне так трэба было ісці. *(Села.)*

Хлестакоў. Якая ў вас прыгожая хустачка!

Мар'я Антонаўна. Вы насмешнікі, абы толькі пасмяяцца з правінцыяльных.

Хлестакоў. Як бы я хацеў, васпані, быць вашай хустачкай, каб абнімаць вашу лілейную шыйку.

Мар'я Антонаўна. Я зусім не разумею, аб чым вы гаворыце: нейкая хустачка... Сёння якая дзіўная пагода!

Хлестакоў. А вашы губкі, васпані, лепш за ўсякую пагоду.

Мар'я Антонаўна. Вы ўсё такое гаворыце... Я б вас папрасіла, каб вы мне напісалі лепш на ўспамін якія-небудзь вершыкі ў альбом. Вы, напэўна, іх ведаеце шмат.

Хлестакоў. Для вас, васпані, усё, што хочаце. Патрабуйце, якія вершы вам?

Мар'я Антонаўна. Якія-небудзь такія — харошыя, новыя.

Хлестакоў. Ды што вершы! я шмат іх ведаю.

Мар'я Антонаўна. Ну, скажыце, якія ж вы мне напішаце?

Хлестакоў. Ды нашто ж гаварыць? я і так іх ведаю.

Мар'я Антонаўна. Я вельмі люблю іх...

Хлестакоў. Ды ў мяне шмат іх усякіх. Ну, вось я вам хоць гэты: «О ты, что в горести напрасно на Бога ропщешь, человек!..», ну і іншыя... цяпер не магу прыпомніць; урэшце, гэта ўсё нічога. Я вам лепш замест гэтага пакажу маю любоў, якая ад вашага позірку... *(Прысоўваючы крэсла.)*

Мар'я Антонаўна. Любоў! Я не разумею любоў... я ніколі і не ведала, што за любоў... *(Адсоўвае крэсла.)*

Хлестакоў. Чаго ж вы адсоўваеце сваё крэсла? Нам лепш будзе сядзець блізка адно ля аднаго.

Мар'я Антонаўна *(адсоўваючыся)*. Нашто ж блізка? усё роўна і далёка.

Хлестакоў *(прысоўваючыся)*. Нашто ж далёка? усё роўна і блізка.

Мар'я Антонаўна *(адсоўваючыся)*. Ды нашто ж гэта?

Хлестакоў *(прысоўваючыся)*. Ды гэта ж вам здаецца толькі, што блізка; а вы ўявіце сабе, што далёка. Які б я быў шчаслівы, васпані, каб мог сціснуць вас у сваіх абдымках.

Мар'я Антонаўна *(глядзіць у акно)*. Што гэта там як быццам паляцела? Сарока ці якая другая птушка?

Хлестакоў *(цалуе яе ў плячо і глядзіць у акно)*. Гэта сарока.

Мар'я Антонаўна *(устае, абураная)*. Не, гэта ўжо занадта... Нахабнасць такая!..

Хлестакоў *(трымаючы яе)*. Выбачайце, васпані: я гэта зрабіў ад любві, паверце, ад любві.

Мар'я Антонаўна. Вы лічыце мяне такой правінцыялкай... *(Намагаецца пайсці.)*

Хлестакоў *(усё трымаючы яе)*. Ад любві, далібог, ад любві. Я так толькі, пажартаваў. Мар'я Антонаўна, не злуйцеся! Я гатоў на каленках прасіць у вас прабачэння. *(Падае на калені.)* Даруйце ж, даруйце. Вы бачыце, я на каленях.

### З'ява XIII

Тыя самыя і Ганна Андрэеўна.

Ганна Андрэеўна *(убачыўшы Хлестакова на каленях)*. Ах, які пасаж!

Хлестакоў *(устаючы)*. А, чорт вазьмі!

Ганна Андрэеўна *(дачцэ)*. Гэта што значыць, васпані? Гэта што за ўчынкі такія?

Мар'я Антонаўна. Я, мамачка...

Ганна Андрэеўна. Ідзі прэч адгэтуль! чуеш, прэч, прэч! І не смей паказвацца на вочы.

Мар'я Антонаўна выходзіць у слязах.

Выбачайце, я, прызнаюся, так здзіўлена...

Хлестакоў *(убок)*. А яна таксама вельмі апетытная, вельмі не брыдкая. *(Кідаецца на калені.)* Васпані, вы бачыце, я згараю ад любві.

Ганна Андрэеўна. Як, вы на каленях? Ах, устаньце, устаньце! Тут падлога зусім нячыстая.

Хлестакоў. Не, на каленях, толькі на каленях! Я хачу ведаць, што такое мне суджана, жыццё ці смерць.

Ганна Андрэеўна. Але дазвольце, я яшчэ не разумею цалкам значэння слоў. Калі не памыляюся, вы робіце дэкларацыю наконт мае дачкі.

Хлестакоў. Не, я закаханы ў вас. Жыццё маё на валаску. Калі вы не ўвянчаеце сталае каханне маё, то я не варты зямнога існавання. З полымем у грудзях прашу рукі вашай.

Ганна Андрэеўна. Але дазвольце заўважыць: я ў пэўным сэнсе... я замужам.

Хлестакоў. Гэта нічога! Для любві няма розніцы, і Карамзін сказаў: «Законы асуджаюць». Мы адыдзем пад засень струменяў... Рукі вашай, рукі прашу.

## З'ява XIV

Тыя самыя і Мар'я Антонаўна, раптам убягае.

Мар'я Антонаўна. Мамачка, папа сказаў, каб вы... *(Убачыўшы Хлестакова на каленях, ускрыквае.)* Ах, які пасаж!

Ганна Андрэеўна. Ну што ты? чаго? нашто? Што за легкадумнасць такая! Раптам убегла, як учадзеўшая кошка. Ну што ты знайшла такога дзіўнага? Ну што табе ўздумалася? Дапраўды, як дзіця якое-небудзь трохгадовае. Не падобна, не падобна, зусім не падобна на тое, каб ёй было васемнаццаць гадоў. Я не ведаю, калі ты пасталееш, калі ты будзеш трымаць сябе, як прыстойна добра выхаванай дзяўчыне, калі ты будзеш ведаць, што такое добрыя правілы і саліднасць у паводзінах.

Мар'я Антонаўна *(праз слёзы)*. Я, далібог, мамачка, не ведала...

Ганна Андрэеўна. У цябе вечна нейкі вецер свідруе ў галаве; ты бярэш прыклад з дочак Ляпкіна-Цяпкіна. Што табе глядзець на іх? не трэба табе глядзець на іх. Табе ёсць прыклады іншыя: перад табою маці твая. Вось якія прыклады ты павінна пераймаць.

Хлестакоў *(хапае за руку дачку)*. Ганна Андрэеўна, не праціўцеся нашаму шчасцю, благаславіце сталую любоў!

Ганна Андрэеўна *(са здзіўленнем)*. Дык вы ў яе?..

Хлестакоў. Вырашыце: жыццё ці смерць?

Ганна Андрэеўна. Ну вось бачыш, дурніца, ну вось бачыш: праз цябе, праз такую дрэнь, госць стаяў на каленях; а ты раптам убегла, як вар'ятка. Ну вось, дапраўды, варта, каб я назнарок адмовіла: ты не варта такога шчасця.

Мар'я Антонаўна. Не буду, мамачка. Далібог, больш не буду.

## З'ява XV

Тыя самыя і гараднічы, засопшыся.

Гараднічы. Ваша правасхадзіцельства! не загубіце! не загубіце!

Хлестакоў. Што з вамі?

Гараднічы. Там купцы скардзіліся вашаму правасхадзіцельству. Клянуся, што і на палову няма таго, што яны гавораць. Яны самі ашукваюць і абмерваюць народ. Унтэр-

афіцэрыха набрахала вам, быццам я яе адхвастаў; яна хлусіць, далібог, хлусіць. Яна сама сябе адхвастала.

Хлестакоў. Праваліцца няхай унтэр-афіцэрыха. Мне не да яе!

Гараднічы. Не верце, не верце! Гэта такія хлусы... ім вось такое дзіцянё не паверыць. Яны ўжо і па ўсім горадзе вядомы як хлусы. А наконт абармотаў, асмелюся далажыць: гэта такія абармоты, якіх свет не бачыў.

Ганна Андрэеўна. Ці ведаеш ты, які гонар робіць нам Іван Аляксандравіч? Ён просіць рукі нашай дачкі.

Гараднічы. Куды! куды!.. З глузду з'ехала, матухна! Не гневайся, калі ласка, ваша правасхадзіцельства: яна крыху прыдуркаватая, такая ж была і маці яе.

Хлестакоў. Ды я, сапраўды, прашу рукі. Я закаханы.

Гараднічы. Не магу верыць, ваша правасхадзіцельства!

Ганна Андрэеўна. Ды калі гавораць табе!

Хлестакоў. Я не жартуючы вам кажу... я магу ад любві звар'яцець.

Гараднічы. Не смею верыць, не варты такога гонару.

Хлестакоў. Ды калі вы не згодзіцеся аддаць рукі Мар'і Антонаўны, то я чорт ведае што гатоў...

Гараднічы. Не магу верыць: маеце ласку жартаваць, ваша правасхадзіцельства.

Ганна Андрэеўна. Ах, які ёлуп, сапраўды! Ну калі табе гавораць?

Гараднічы. Не магу верыць.

Хлестакоў. Аддайце, аддайце! Я адчайны чалавек, я адважуся на ўсё: калі застрэлюся, вас пад суд аддадуць.

Гараднічы. Ах, Божа мой! Я, далібог, не вінават, ні душою, ні целам. Не гневайцеся, калі ласка! Няхай ваша міласць робіць так, як хоча! У мяне, далібог, у галаве цяпер... я і сам не ведаю, што робіцца. Такі дурань цяпер зрабіўся, якім яшчэ ніколі не быў.

Ганна Андрэеўна. Ну, благаслаўляй!

Хлестакоў падыходзіць з Мар'яй Антонаўнай.

Гараднічы. Няхай вас Бог благаславіць, а я не вінаваты!

Хлестакоў цалуецца з Мар'яй Антонаўнай. Гараднічы глядзіць на іх.

Што за чорт! Сапраўды! *(Працірае вочы.)* Цалуюцца! Ах, бацюхны, цалуюцца! Сапраўдны жаніх! *(Ускрыквае, падскочыўшы ад радасці.)* Ай, Антон! Ай, Антон! Ай, гараднічы! Вунь як справа пайшла!

## З'ява XVI

Тыя самыя і Восіп.

Восіп. Коні гатовы.

Хлестакоў. А, добра... я зараз.

Гараднічы. Як? Маеце ласку ехаць?

Хлестакоў. Так, еду.

Гараднічы. А калі ж, то бо... вы мелі ласку самі намякнуць наконт, здаецца, вяселля?

Хлестакоў. А гэта... На адну хвіліну толькі... на адзін дзень да дзядзькі — багаты стары; а заўтра ж і назад.

Гараднічы. Не смеем ніяк затрымліваць, спадзеючыся на шчаслівы зварот.

Хлестакоў. Як жа, як жа, я ўмомант. Бывайце, любоў мая... не, проста не магу выказаць! Бывайце, душачка! *(Цалуе яе ручку.)*

Гараднічы. Ды ці не трэба вам у дарогу чаго-небудзь? Вы мелі ласку, здаецца, адчуваць патрэбу ў грашах?

Хлестакоў. О не, нашто гэта? *(Крыху падумаўшы.)* А ўрэшце, бадай што.

Гараднічы. Колькі трэба вам?

Хлестакоў. Ды вось тады вы далі дзвесце, то бо не дзвесце, а чатырыста,— я не хачу выкарыстаць вашу памылку,— дык, бадай, і цяпер столькі ж, каб ужо роўна было восемсот.

Гараднічы. Зараз! *(Вымае з бумажніка.)* Яшчэ як наўмысле, самымі навенькімі паперкамі.

Хлестакоў. А, так! *(Бярэ і разглядае асігнацыі.)* Гэта добра. Гэта ж, кажуць, новае шчасце, калі навенькімі паперкамі.

Гараднічы. Так точна-с.

Хлестакоў. Бывайце, Антон Антонавіч! Вельмі ўдзячны за вашу гасціннасць. Я прызнаюся ад усяго сэрца: мне нідзе не было такога добрага прыёму. Бывайце, Ганна Андрэеўна! Бывайце, мая душачка, Мар'я Антонаўна!

Выходзяць.
За сцэнай.

Голас Хлестакова. Бывайце, анёл душы маёй, Мар'я Антонаўна!

Голас гараднічага. Як жа гэта вы? проста так, на перакладной і едзеце?

Голас Хлестакова. Ды я прывык ужо так. У мяне галава баліць ад рысораў.

Голас фурмана. Тпр...

Голас гараднічага. Дык, прынамсі, чым-небудзь заслаць, хоць бы дыванком. Ці не загадаеце, я скажу, каб падалі дыванок.

Голас Хлестакова. Не, нашто? Гэта пустое. А ўрэшце, няхай даюць дыванок.

Голас гараднічага. Гэй, Аўдоцця! Ідзі ў кладоўку, дастань дыван самы лепшы,— што па блакітным полі, персідскі, хутчэй!

Голас фурмана. Тпр...

Голас гараднічага. Калі ж загадаеце чакаць вас?

Голас Хлестакова. Заўтра ці паслязаўтра.

Голас Восіпа. А, гэта дыван? давай яго сюды, кладзі вось так! Цяпер давай з гэтага боку сена.

Голас фурмана. Тпр...

Голас Восіпа. Вось з гэтага боку! сюды! яшчэ! добра. Слаўна будзе! *(Б'е рукой па дыване.)* Цяпер сядайце, ваша благароддзе.

Голас Хлестакова. Бывайце, Антон Антонавіч!

Голас гараднічага. Бывайце, ваша правасхадзіцельства!

Жаночыя галасы. Бывайце, Іван Аляксандравіч!

Голас Хлестакова. Бывайце, мамачка!

Голас фурмана. Гэй вы, залётныя!

Званок звініць. Заслона апускаецца.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Той самы пакой.

### З'ява I

Гараднічы, Ганна Андрэеўна і Мар'я Антонаўна.

Гараднічы. Што, Ганна Андрэеўна, га? Ці думала ты што-небудзь пра гэта? Такі багаты прыз, чорт вазьмі! Ну, прызнайся шчыра: табе і ў сне не снілася — проста з якой-небудзь гараднічыхі і раптам, фу ты, шальмоўства, з якім д'яблам парадні лася!

Ганна Андрэеўна. Зусім не; я даўно гэта ведала. Гэта табе дзіва, бо ты просты чалавек, ніколі не бачыў прыстойных людзей.

Гараднічы. Я сам, матухна, прыстойны чалавек. Аднак жа, далібог, як падумаеш, Ганна Андрэеўна: якія мы з табой цяпер птушкі сталі! га, Ганна Андрэеўна? Высокага палёту, чорт вазьмі! Чакай жа, цяпер жа я задам перцу ўсім гэтым ахвотнікам падаваць просьбы і даносы. Гэй, хто там?

Уваходзіць квартальны.

А, гэта ты, Іван Карпавіч; пакліч сюды, брат, купцоў. Вось я іх, шэльмаў! Дык скардзіцца на мяне! Бач ты, пракляты іудзейскі народ! Пастойце ж, галубчыкі! Раней я вас карміў да вусоў толькі, а цяпер накармлю да барады. Запішы ўсіх, хто толькі хадзіў біць чалом на мяне, і вось гэтых больш за ўсё пісак, пісак, якія закручвалі ім просьбы. Ды абвясці ўсім, каб ведалі: што вось, маўляў, які гонар Бог паслаў гараднічаму, што аддае дачку сваю не тое каб за якога-небудзь простага чалавека, а за такога, што і на свеце яшчэ не было, што можа ўсё зрабіць, усё, усё, усё! Усім абвясці, каб усе ведалі. Крычы на ўвесь народ, лупі ў званы, чорт вазьмі! ужо калі ўрачыстасць, дык урачыстасць.

Квартальны выходзіць.

Дык вось як, Ганна Андрэеўна, га? Як жа мы цяпер, дзе будзем жыць? тут ці ў Піцеры?

Ганна Андрэеўна. Натуральна, у Пецярбургу. Як можна тут заставацца?

Гараднічы. Ну, у Піцеры, дык у Піцеры; а яно добра было б і тут. Што, я думаю, ужо гараднiцтва тады к чорту, га, Ганна Андрэеўна?

Ганна Андрэеўна. Натуральна, што за гараднiцтва?

Гараднічы. Яно ж, як ты думаеш, Ганна Андрэеўна, цяпер можна вялікі чын займець, бо ён жа запанібрата з усімі міністрамі і ў палац ездзіць, дык таму можа такое павышэнне зрабіць, што з часам і ў генералы ўлезеш. Як ты думаеш, Ганна Андрэеўна: можна ўлезці ў генералы?

Ганна Андрэеўна. Чаму ж не! вядома, можна.

Гараднічы. А, чорт вазьмі, слаўна быць генералам! Кавалерыю павесяць табе цераз плячо. А якую кавалерыю лепш, Ганна Андрэеўна: чырвоную ці блакітную?

Ганна Андрэеўна. Ужо, вядома, блакітную лепш.

Гараднічы. Э? бачыш, чаго захацела! добра і чырвоную. Яно чаму хочацца быць генералам? таму што, здарыцца, паедзеш куды-небудзь — фельд'егеры і ад'ютанты паскачуць усюды наперад: «Коней!» І там на станцыях нікому не дадуць, усё чакае: усе гэтыя тытулярныя, капітаны, гараднічыя,

а ты сабе і ў вус не дзьмеш. Абедаеш дзе-небудзь у губернатара, а там — стой, гараднічы! Хе, хе, хе! *(Заходзіцца з рогату.)* Вось што, шэльма, прывабна!

Ганна Андрэеўна. Табе ўсё такое грубае падабаецца. Ты павінен памятаць, што жыццё трэба зусім перамяніць, што твае знаёмыя будуць не тое што які-небудзь суддзя-сабакар, з якім ты ездзіш паляваць на зайцоў, ці Земляніка; наадварот, знаёмыя твае будуць з самым тонкім абыходжаннем: графы і ўсе свецкія... Толькі я, далібог, баюся за цябе, ты часамі ляпнеш такое слоўца, якога ў прыстойнай кампаніі ніколі не пачуеш.

Гараднічы. Што ж, слова ж не шкодзіць.

Ганна Андрэеўна. Добра, калі ты быў гараднічым. А там жа жыццё зусім іншае.

Гараднічы. Так, там, кажуць, ёсць дзве рыбіцы: рапушка і корушка, такія, што толькі слінка пацячэ, як пачнеш есці.

Ганна Андрэеўна. Яму ўсё б толькі рыбкі! Я не іначай хачу, каб наш дом быў першы ў сталіцы і каб у мяне ў пакоі такое было амбрэ, каб нельга было ўвайсці і трэба было б толькі гэтак зажмурыць вочы. *(Зажмурвае вочы і нюхае.)* Ах! як добра!

### З'ява II

Тыя самыя і купцы.

Гараднічы. А! Здаровы, саколікі!

Купцы *(кланяючыся)*. Добрага здароўечка, бацюхна!

Гараднічы. Што, галубчыкі, як маецеся? як тавар ідзе ваш? Што, самаварнікі, аршыннікі, скардзіцца? Архічмуты, праташэльмы, ашукайлы мірскія! скардзіцца? Што, шмат узялі? Вось, думаюць, так у турму яго і засадзяць!.. Ці ведаеце вы, сем чартоў і адна ведзьма вам у зубы, што...

Ганна Андрэеўна. Ах, Божа мой, якія ты, Антоша, словы адпускаеш!

Гараднічы *(з незадавальненнем)*. А, не да слоў цяпер! Ці ведаеце, што той самы чыноўнік, якому вы скардзіліся, цяпер жэніцца з маёю дачкою? Што? га? што цяпер скажаце? Цяпер я вас... у!.. Ашукваеце народ... Зробіш падрад з казною, на сто тысяч аблапошыш яе, даўшы гнілое сукно, ды потым ахвяруеш дваццаць аршынаў, дый давай табе яшчэ ўзнагароду за гэта! Ды калі б ведалі, дык бы табе... І пуза суне наперад. Ён купец, яго не чапай. «Мы, кажа, і дваранам

не ўступім». Ды дваранін... ах ты, рыла! дваранін навукі праходзіць: яго хоць і лупцуюць у школе, ды за справу, каб ён ведаў карыснае. А ты што? пачынаеш з ашуканства, цябе гаспадар б'е за тое, што не ўмееш ашукваць. Яшчэ хлапчук, «Ойча наш» не ўмееш, а ўжо абмерваеш, а як разапрэ табе пуза ды напхаеш сабе кішэню, дык і заважнічаў! Фу ты, якое дзіва! Таму што ты шаснаццаць самавараў выжлукціш за дзень, дык таму і важнічаеш? Ды я пляваў на тваю галаву і на тваю важнасць!

Купцы *(кланяючыся)*. Вінаваты, Антон Антонавіч!

Гараднічы. Скардзіцца? А хто табе памог у ашуканстве, калі ты будаваў мост і напісаў дрэва на дваццаць тысяч, тады як яго і на сто рублёў не было? Я памог табе, казліная барада! Ты забыўся пра гэта? Я, паказаўшы гэта на цябе, мог бы цябе таксама спраўдзіць у Сібір. Што скажаш? га?

Адзін купец. Богу вінаваты, Антон Антонавіч! Нячысцік падаткнуў. І закаемся надалей скардзіцца. Ужо якое хочаш улагоджанне, не гневайся толькі!

Гараднічы. «Не гневайся!» Вось ты цяпер валяешся ў нагах у мяне. Чаму? таму, што маё ўзяло, а каб было хоць крышку на тваім баку, ты б мяне, шэльма, утаптаў у самую гразь, яшчэ б і бервяном зверху наваліў.

Купцы *(кланяючыся ў ногі)*. Не загубі, Антон Антонавіч!

Гараднічы. «Не загубі!» Цяпер: «Не загубі!», а раней што? Я б вас... *(Махнуўшы рукой.)* Ну, ды Бог даруе! годзе! Я не злапамятны; толькі цяпер глядзі, трымай вуха востра! Я аддаю дачку не за якога-небудзь простага двараніна. Каб павіншаванне было... разумееш? не тое, каб адбыць якім-небудзь балычком ці галавою цукру. Ну, ідзі з Богам!

Купцы выходзяць.

### З'ява III

Тыя самыя, Амос Фёдаравіч, Арцемій Піліпавіч, потым Растакоўскі.

Амос Фёдаравіч *(яшчэ ў дзвярах)*. Ці верыць чуткам, Антон Антонавіч? Вам прываліла незвычайнае шчасце?

Арцемій Піліпавіч. Маю гонар павіншаваць з незвычайным шчасцем. Я шчыра ўзрадаваўся, калі пачуў. *(Падыходзіць да ручкі Ганны Андрэеўны.)* Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі Мар'і Антонаўны.)* Мар'я Антонаўна!

Растакоўскі *(уваходзіць)*. Антона Антонавіча віншую, няхай прадоўжыць Бог жыццё ваша і маладых і дасць вам патомства шматлікае, унукаў і праўнукаў! Ганна Андрэеўна! *(Падыходзячы да ручкі Ганны Андрэеўны.)* Мар'я Антонаўна! *(Падыходзіць да ручкі Мар'і Антонаўны.)*

## З'ява IV

Тыя самыя, Каробкін з жонкай, Люлюкоў.

Каробкін. Маю гонар павіншаваць Антона Антонавіча! Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі Ганны Андрэеўны.)* Мар'я Антонаўна! *(Падыходзіць да яе ручкі.)*

Жонка Каробкіна. Шчыра віншую вас, Ганна Андрэеўна, з новым шчасцем.

Люлюкоў. Маю гонар павіншаваць, Ганна Андрэеўна! *(Падыходзіць да ручкі і потым, павярнуўшыся да гледачоў, шчоўкае языком з выглядам хвацкасці.)* Мар'я Антонаўна! Маю гонар павіншаваць. *(Падыходзіць да яе ручкі і паварачваецца да гледачоў з такою самаю хвацкасцю.)*

## З'ява V

Шмат гасцей у сурдутах і фраках падыходзяць спачатку да ручкі Ганны Андрэеўны, кажучы: «Ганна Андрэеўна!», потым да ручкі Мар'і Антонаўны, кажучы: «Мар'я Антонаўна!» Бобчынскі і Добчынскі прабіраюцца.

Бобчынскі. Маю гонар павіншаваць!

Добчынскі. Антон Антонавіч! Маю гонар павіншаваць.

Бобчынскі. Са шчаслівай падзеяй!

Добчынскі. Ганна Андрэеўна!

Бобчынскі. Ганна Андрэеўна!

Абодва падыходзяць у адзін час і стукаюцца лбамі.

Добчынскі. Мар'я Антонаўна! *(Падыходзіць да ручкі.)* Гонар маю павіншаваць. Вы будзеце ў вялікім, вялікім шчасці, у залатой сукенцы хадзіць і далікатныя розныя супы есці, вельмі забаўна будзеце праводзіць час.

Бобчынскі *(перабіваючы)*. Мар'я Антонаўна, маю гонар павіншаваць! Дай Божа вам усялякага багацця, чырвонцаў і сынка гэткага маленькага, вось гэткага *(паказвае рукою)*, каб можна было на далоньку пасадзіць, так-с; усё будзе хлапчук крычаць: уа! уа! уа!

## З'ява VI

Яшчэ некалькі гасцей, якія падыходзяць да ручак, Лука Лукіч з жонкай.

Лука Лукіч. Маю гонар...

Жонка Лукі Лукіча *(бяжыць наперад)*. Віншую вас, Ганна Андрэеўна!

Цалуюцца.

А я так, далібог, узрадавалася. Кажуць мне: «Ганна Андрэеўна аддае дачку». «Ах, Божа мой!» — думаю сабе і так узрадавалася, што кажу мужу: «Слухай, Луканчык, вось якое шчасце Ганне Андрэеўне!» «Ну,— думаю сабе,— дзякуй Богу!» І кажу яму: «Я так захоплена, што гару ад нецярплівасці выказаць асабіста Ганне Андрэеўне...» «Ах, Божа мой! — думаю сабе.— Ганна Андрэеўна іменна чакала добрай партыі сваёй дачцэ, а вось цяпер такі лёс: якраз так зрабілася, як яна хацела»,— і так, далібог, узрадавалася, што не магла гаварыць. Плачу, плачу, вось проста рыдаю. Ужо Лука Лукіч кажа: «Чаго ты, Насцечка, рыдаеш?» — «Луканчык, кажу, я і сама не ведаю, слёзы так вось ракой ліюцца».

Гараднічы. Сядайце, калі ласка, панове! Гэй, Мішка, прынясі сюды больш крэслаў.

Госці садзяцца.

## З'ява VII

Тыя самыя, прыватны прыстаў і квартальныя.

Прыватны прыстаў. Маю гонар павіншаваць вас, ваша высокаблагароддзе, і пажадаць шчасця на многія леты.

Гараднічы. Дзякую, дзякую. Прашу садзіцца, панове!

Госці рассаджваюцца.

Амос Фёдаравіч. Але скажыце, калі ласка, Антон Антонавіч, якім чынам усё гэта пачалося? паступовы ход усяе справы.

Гараднічы. Ход справы надзвычайны: меў ласку асабіста зрабіць прапазіцыю.

Ганна Андрэеўна. Вельмі пачцівым і самым тонкім чынам. Усё надзвычайна хораша гаварыў. Кажа: «Я, Ганна Андрэеўна, дзеля аднае толькі павагі да вашых якасцей». І такі цудоўны, выхаваны чалавек, самых найвысакароднейшых пра-

вілаў. «Мне, ці паверыце, Ганна Андрэеўна, мне жыццё капейка; я толькі таму, што паважаю вашы рэдкія якасці».

Мар'я Антонаўна. Ах, мамачка! гэта ж ён мне казаў.

Ганна Андрэеўна. Перастань, ты нічога не ведаеш і не ў сваю справу не ўмешвайся! «Я, Ганна Андрэеўна, дзіўлюся...» У такіх прыемных рассыпаўся словах... і калі я хацела сказаць: «Мы ніяк не смеем спадзявацца на такі гонар», ён раптам упаў на калені і такім самым найвысакароднейшым чынам: «Ганна Андрэеўна, не зрабіце мяне найняшчаснейшым! згадзіцеся адказваць на мае пачуцці, а то я смерцю скончу жыццё сваё».

Мар'я Антонаўна. Далібог, мамачка, ён пра мяне гэта гаварыў.

Ганна Андрэеўна. Так, вядома... і пра цябе было, я нічога гэтага не адмаўляю.

Гараднічы. І так нават напалохаў: казаў, што застрэліцца. «Застрэлюся, застрэлюся»,— кажа.

Шмат хто з гасцей. Скажыце калі ласка.

Амос Фёдаравіч. Вось дык штука!

Лука Лукіч. Вось сапраўды, лёс ужо так вёў.

Арцемій Піліпавіч. Не лёс, бацюхна, лёс — глупства; заслугі прывялі да таго. *(Убок.)* Гэтакай свінні лезе заўсёды ў рот шчасце!

Амос Фёдаравіч. Я, бадай, Антон Антонавіч, прадам вам таго сабачку, якога таргавалі.

Гараднічы. Не, мне цяпер не да сабачак.

Амос Фёдаравіч. Ну, не хочаце, на другім сабаку сыдземся.

Жонка Каробкіна. Ах, як, Ганна Андрэеўна, я рада вашаму шчасцю! Вы не можаце сабе ўявіць.

Каробкін. Дзе ж цяпер, дазвольце даведацца, знаходзіцца знакаміты госць? Я чуў, што ён паехаў нечага.

Гараднічы. Так, ён адлучыўся на адзін дзень па вельмі важнай справе.

Ганна Андрэеўна. Да свайго дзядзькі, каб папрасіць благаславення.

Гараднічы. Папрасіць благаславення; але заўтра ж... *(Чхае.)*

Павіншаванні зліваюцца ў адзін гул.

Шчыра дзякую! Але заўтра ж і назад... *(Чхае.)*

Павіншавальны гул. Чутней за іншыя галасы:

Прыватнага пристава. Здравія жадаем, ваша высокаблагароддзе!

Бобчынскага. Сто гадоў і мех чырвонцаў!

Добчынскага. Няхай Бог прадоўжыць на сорак саракоў!

Арцемія Піліпавіча. Каб ты прапаў!

Жонкі Каробкіна. Каб цябе чорт узяў!

Гараднічы. Шчыра дзякую! І вам таго жадаю.

Ганна Андрэеўна. Мы цяпер у Пецярбургу маем намер жыць. А тут, прызнаюся, такое паветра... вясковае ўжо занадта!.. Прызнаюся, вялікая непрыемнасць... Вось і муж мой: ён там атрымае генеральскі чын.

Гараднічы. Так, прызнаюся, панове, я, чорт вазьмі, вельмі хачу быць генералам.

Лука Лукіч. І дай Божа атрымаць.

Растакоўскі. Ад чалавека немагчыма, а ад Бога ўсё магчыма.

Амос Фёдаравіч. Вялікаму караблю — вялікае плаванне.

Арцемій Піліпавіч. Па заслугах і гонар.

Амос Фёдаравіч *(убок)*. Вось урэжа штуку, калі сапраўды зробіцца генералам! Вось ужо каму прыстала генеральства, як карове сядло! Ну, брат, не, да гэтага яшчэ далёкая песня. Тут і лепшыя за цябе ёсць, ды дагэтуль яшчэ не генералы.

Арцемій Піліпавіч *(убок)*. Вось, чорт вазьмі, ужо і ў генералы лезе! Чаго добрага, можа, і будзе генералам. У яго важнасці, чорт бы яго не ўзяў, досыць. *(Звяртаецца да яго.)* Тады, Антон Антонавіч, і пра нас не забудзьцеся.

Амос Фёдаравіч. І калі што здарыцца, напрыклад, якая-небудзь патрэба па справах, не пакіньце без заступніцтва!

Каробкін. У наступным годзе павязу сынка ў сталіцу на карысць дзяржаве, дык зрабіце ласку, дапамажыце яму вашай пратэкцыяй, бацькава месца заступіце сіротцы.

Гараднічы. Я гатоў з свайго боку, гатоў старацца.

Ганна Андрэеўна. Ты, Антоша, заўсёды гатоў абяцаць. Па-першае, табе не будзе часу думаць пра гэта. І як можна, і дзеля чаго сябе абцяжарваць такімі абяцаннямі?

Гараднічы. Чаму ж, душа мая? часамі можна.

Ганна Андрэеўна. Можна, вядома, але ж не кожнай драбязе дапамагаць заступніцтвам...

Жонка Каробкіна. Вы чулі, як яна трактуе нас?

Госця. Так, яна такая заўсёды была; я яе ведаю: пасадзі яе за стол, дык яна ногі свае...

### З'ява VIII

Тыя самыя і паштмайстар — засопшыся, з распячатаным пісьмом у руцэ.

Паштмайстар. Дзіўная справа, панове! Чыноўнік, якога мы палічылі за рэвізора, быў не рэвізор.

Усе. Як не рэвізор?

Паштмайстар. Зусім не рэвізор, я даведаўся пра гэта з пісьма.

Гараднічы. Што вы, што вы? з якога пісьма?

Паштмайстар. Ды з яго ўласнага пісьма. Прыносяць да мяне на пошту пісьмо. Глянуў на адрас, бачу: у «Паштамцкую вуліцу». Я так і абамлеў. «Ну,— думаю сабе,—напэўна, знайшоў непарадкі па паштовай часці і паведамляе начальству». Узяў дый распячатаў.

Гараднічы. Як жа вы?..

Паштмайстар. Сам не ведаю, звышнатуральная сіла падштурхнула. Паклікаў быў ужо кур'ера, каб адправіць яго з эштафетай, але цікаўнасць такая апанавала, якой яшчэ ніколі не адчуваў. Не магу, не магу, адчуваю, што не магу, цягне, так вось і цягне. У адным вуху так вось і чую: «Эй, не распячатвай! прападзеш, як курыца»; а ў другім нібы чорт які шэпча: «Распячатай, распячатай, распячатай!» І як прыціснуў сургуч — па жылах агонь, а распячатаў — мароз, далібог, мароз, і рукі дрыжаць, а ўсё пацямнела.

Гараднічы. Ды як жа вы асмеліліся распячатаць пісьмо такой упаўнаважанай асобы?

Паштмайстар. У тым вось і штука, што ён не ўпаўнаважаны і не асоба!

Гараднічы. Што ж ён, па-вашаму, такое?

Паштмайстар. Ні сёе ні тое; чорт ведае што такое!

Гараднічы *(са злосцю)*. Як ні сёе ні тое? Як вы смееце называць яго ні тым ні сім, ды яшчэ і чорт ведае чым? Я вас пад арышт...

Паштмайстар. Хто? Вы?

Гараднічы. Так, я!

Паштмайстар. Кароткія рукі.

Гараднічы. Ці ведаеце, што ён жэніцца з маёй дачкою, што я сам буду вяльможа, што я ў самую Сібір заканапачу?

Паштмайстар. Эх, Антон Антонавіч! Што Сібір! далёка Сібір. Вось лепш я вам прачытаю. Панове! Дазвольце прачытаць пісьмо?

Усе. Чытайце, чытайце!

Паштмайстар *(чытае)*. «Спяшаюся паведаміць табе, душа Трапічкін, якія са мной дзівосы. На дарозе абчысціў мяне кругом пяхотны капітан, так што шынкар хацеў ужо быў пасадзіць у турму, як раптам па маёй пецярбургскай фізіяноміі і па гарнітуры ўвесь горад палічыў мяне за генерал-губернатара. І я цяпер жыву ў гараднічага, жуірую, валачуся напрапалую за яго жонкай і дачкой; не ведаю толькі, з каторай пачаць; думаю, раней з маткі, бо, здаецца, гатова зараз жа на ўсе паслугі. Памятаеш, як мы з табой гаравалі, абедалі на шармачка і якраз быў кандытар схапіў мяне за каўнер з прычыны з'едзеных піражкоў на кошт прыбыткаў агліцкага караля? Цяпер зусім іншая справа. Усе мне пазычаюць грошы, колькі хачу. Арыгіналы страшэнныя. Ты б з рогату памёр. Ты, я ведаю, пішаш артыкульчыкі; змясці іх у сваю літаратуру. Па-першае: гараднічы — дурны як бот...»

Гараднічы. Не можа быць! Там няма гэтага.

Паштмайстар *(паказвае пісьмо)*. Чытайце самі.

Гараднічы *(чытае)*. «Як бот». Не можа быць! вы гэта самі напісалі.

Паштмайстар. Як бы гэта я стаў пісаць?

Арцемій Пііпавіч. Чытайце.

Лука Лукіч. Чытайце!

Паштмайстар *(чытаючы далей)*. «Гараднічы — дурны як бот...»

Гараднічы. О, чорт! трэба яшчэ паўтараць! як быццам яно там і так не стаіць.

Паштмайстар *(чытаючы далей)*. Хм... хм... хм... хм... «як бот. Паштмайстар таксама добры чалавек...» *(Перастае чытаць.)* Ну, тут пра мяне таксама непрыстойна сказаў.

Гараднічы. Не, чытайце!

Паштмайстар. Ды нашто ж?

Гараднічы. Не, чорт вазьмі, калі ўжо чытаць, дык чытаць! Чытайце ўсё!

Арцемій Піліпавіч. Дазвольце, я прачытаю. *(Надзяе акуляры і чытае.)* «Паштмайстар якраз як дэпартаменцкі вартаўнік Міхееў; напэўна, таксама, падлюга, п'е горкую».

Паштмайстар *(да гледачоў)*. Ну, паганы хлапчук, якога трэба адхвастаць; больш нічога!

Арцемій Піліпавіч *(чытаючы далей)*. «Дазорца богаўгодных уста... і... і... і...» *(Заікаецца.)*

Каробкін. А што ж вы спыніліся?

Арцемій Піліпавіч. Ды невыразны почырк... урэшце, відаць, нягоднік.

Каробкін. Дайце мне! Вось у мяне, я думаю, лепшыя вочы. *(Бярэ пісьмо.)*

Арцемій Піліпавіч *(не даючы пісьма).* Не, гэта месца трэба прапусціць, а там далей выразна.

Каробкін. Ды дазвольце, ужо я ведаю.

Арцемій Піліпавіч. Прачытаць я і сам прачытаю, далей, дапраўды, усё выразна.

Паштмайстар. Не, усё чытайце! раней жа ўсё чытана.

Усе. Аддайце, Арцемій Піліпавіч, аддайце пісьмо! *(Каробкіну.)* Чытайце.

Арцемій Піліпавіч. Зараз. *(Аддае пісьмо.)* Вось, дазвольце... *(Закрывае пальцам.)* Вось адгэтуль чытайце.

Усе падступаюцца да яго.

Паштмайстар. Чытайце, чытайце! глупства, усё чытайце!

Каробкін *(чытае).* «Дазорца богаўгодных устаноў Земляніка — сапраўдная свіння ў ярмолцы».

Арцемій Піліпавіч *(да гледачоў).* І не дасціпна! Свіння ў ярмолцы! дзе ж свіння бывае ў ярмолцы?

Каробкін *(чытаючы далей).* «Наглядчык вучылішчаў пратух наскрозь цыбуляй».

Лука Лукіч *(да гледачоў).* Далібог, і ў рот ніколі не браў цыбулі.

Амос Фёдаравіч *(убок).* Дзякуй Богу, хоць пра мяне няма!

Каробкін *(чытае).* «Суддзя...»

Амос Фёдаравіч. Вось табе на!.. *(Услых.)* Панове, я думаю, што пісьмо даўгое. Ды на чорта яго, дрэнь такую, чытаць!

Лука Лукіч. Не!

Паштмайстар. Не, чытайце!

Арцемій Піліпавіч. Не, ужо чытайце!

Каробкін *(чытае).* «Суддзя Ляпкін-Цяпкін у вышэйшай ступені маветон...» *(Спыняецца.)* Напэўна, французскае слова.

Амос Фёдаравіч. А чорт яго ведае, што яно азначае! Яшчэ добра, калі толькі абармот, а можа, і яшчэ горш.

Каробкін *(чытаючы далей).* «А ўрэшце народ гасцінны і дабрадушны. Бывай, душа Трапічкін. Я сам, па прыкладзе тваім, хачу заняцца літаратурай. Сумна, брат, так жыць, хочаш нарэшце спажывы для душы. Бачу: сапраўды, трэба чым-небудзь высокім заняцца. Пішы да мяне ў Саратаўскую губерню, а адтуль у вёску Падкацілаўку. *(Пераварочвае пісьмо і чытае адрас.)* Яго благароддзю, міласціваму гасудару, Іва-

ну Васільевічу Трапічкіну, у Санкт-Пецярбургу, у Паштамцкую вуліцу, у доме пад нумарам дзевяноста сёмым, завярнуўшы на двор, у трэцім паверсе направа».

Адна з дам. Які рэпрыманд нечаканы!

Гараднічы. Вось калі зарэзаў, дык зарэзаў! Забіты, забіты, зусім забіты! Нічога не бачу. Бачу нейкія свіныя рылы замест твараў, а больш нічога... Вярнуць, вярнуць яго! *(Махае рукою.)*

Паштмайстар. Куды там вярнуць! Я як назнарок загадаў наглядчыку даць самую лепшую тройку, чорт падаткнуў даць і наперад прадпісанне.

Жонка Каробкіна. Вось ужо сапраўды, вось бяспрыкладная канфузія!

Амос Фёдаравіч. Аднак жа, чорт вазьмі, панове, ён у мяне пазычыў трыста рублёў.

Арцемій Піліпавіч. У мяне таксама трыста рублёў.

Паштмайстар *(уздыхаючы)*. Ох! і ў мяне трыста рублёў.

Бобчынскі. У нас з Пятром Іванавічам шэсцьдзесят пяць на асігнацыі, так.

Амос Фёдаравіч *(са здзіўленнем растапырвае рукі)*. Як жа гэта, панове? Як гэта, сапраўды, мы так схібілі?

Гараднічы *(б'е сабе па лбе)*. Як я? не, як я, стары дурань! з глузду з'ехаў, баран дурны! Трыццаць гадоў жыву на службе; ніводзін купец ні падрадчык не мог ашукаць, жулікаў над жулікамі абдурваў; прайдзісветаў і абармотаў такіх, што ўвесь свет гатовы абакрасці, падчэпліваў на вуду. Трох губернатараў абдурыў!.. Што губернатараў! *(махнуўшы рукою)* няма чаго і гаварыць пра губернатараў...

Ганна Андрэеўна. Але ж гэта не можа быць, Антоша: ён абручыўся з Машачкай...

Гараднічы *(са злосцю)*. Абручыўся! Фіга з маслам — вось табе абручыўся! Лезе мне ў вочы з абручэннем!.. *(Раз'юшаны.)* Вось глядзіце, глядзіце, увесь свет, усё хрысціянства, усе глядзіце, як абдураны гараднічы! Дурня яму, дурня, старому падлюгу! *(Грозіць самому сабе кулаком.)* Эх ты, таўстаносы! Сапляка, анучу палічыў за важнага чалавека! Вунь ён цяпер па ўсёй дарозе разлягаецца званочкам! Разнясе па ўсім свеце гісторыю. Мала таго што станеш пасмешышчам — знойдзецца шчаўкапёр, пэцкаль, у камедыю цябе ўставіць. Вось што крыўдна! Чыну, звання не пашануе, і будуць усе скаліць зубы і пляскаць у ладкі. Чаго смяецеся? З сябе смяецеся!.. Эх, вы!.. *(Грукае са злосці нагамі аб падлогу.)* Я б усіх гэтых пэцкаляў! У, шчаўкапёры, лібералы праклятыя! Чортава насенне! Вузлом бы вас усіх завязаў, на

муку б сцёр вас усіх ды чорту ў падкладку! у шапку туды яму!.. *(Совае кулаком і б'е абцасам аб падлогу. Пасля нядоўгага маўчання.)* Да гэтага часу не магу апамятацца. Вось, сапраўды, калі Бог хоча пакараць, дык адбярэ раней розум. Ну, што было ў гэтым вірутніку падобнае на рэвізора? Нічога не было! Вось проста ні на паўмезенага пальца не было падобнага, і раптам усе: рэвізор! рэвізор! Ну, хто першы пусціў, што ён рэвізор? Адказвайце!

Арцемій Пілiпавіч *(растапырваючы рукі)*. Ужо як гэта здарылася, хоць забі, не магу растлумачыць. Нібы туман нейкі ашаламіў, чорт звёў.

Амос Фёдаравіч. Ды хто пусціў! Вось хто пусціў: гэтыя малайцы! *(Паказвае на Добчынскага і Бобчынскага.)*

Бобчынскі. Далібог, не я! і не думаў...

Добчынскі. Я нічога, зусім нічога...

Арцемій Пілiпавіч. Вядома, вы.

Лука Лукіч. Вядома. Прыбеглі, як вар'яты, з шынка: «Прыехаў, прыехаў і грошай не плаціць...» Знайшлі важную птушку!

Гараднічы. Натуральна, вы! плеткары гарадскія, хлусы праклятыя!

Арцемій Пілiпавіч. Каб вас чорт пабраў з вашым рэвізорам і гаворкай.

Гараднічы. Толькі шнырыце па горадзе ды бянтэжыце ўсіх, трашчоткі праклятыя! Плёткі сееце, сарокі караткахвостыя!

Амос Фёдаравіч. Пэцкалі праклятыя!

Лука Лукіч. Каўпакі!

Арцемій Пілiпавіч. Смарчкі караткапузыя!

Усе абступаюць іх.

Бобчынскі. Далібог, гэта не я, гэта Пётр Іванавіч.

Добчынскі. Э не, Пётр Іванавіч, вы ж першыя таго...

Бобчынскі. А вось і не; першыя якраз былі вы.

**З'ява апошняя**

Тыя самыя і жандар.

Жандар. Чыноўнік, які па імянным загадзе прыехаў з Пецярбурга, патрабуе вас зараз жа да сябе. Ён спыніўся ў гасцініцы.

Сказаныя словы ўражаюць, як громам, усіх. Гук здзіўлення аднадушна вылятае з жаночых вуснаў; уся група, раптам перамяніўшы становішча, застаецца ў акамяненні.

## Нямая сцэна

Гараднічы пасярэдзіне накшталт слупа з раскінутымі рукамі і закінутай назад галавой. З правага боку ад яго жонка і дачка з накіраваным да яго імкненнем усяго цела; за імі паштмайстар, які ператварыўся ў пытальнік, павернуты да гледачоў; за ім Лука Лукіч, збянтэжаны самым нявінным чынам; за ім, ля самага краю сцэны, тры дамы, госці, прыхіліўшыся адна да аднае, з самым сатырычным выразам на тварах, што мае дачыненне непасрэдна да сям'і гараднічага. З левага боку ад гараднічага: Земляніка, нахіліўшы галаву крыху набок, як быццам да нечага прыслухоўваецца; за ім суддзя з растапыранымі рукамі, які прысеў амаль што да зямлі і зрабіў рух губамі, нібы хацеў пасвістаць або сказаць: «Вось табе, бабулька, і Юр'еў дзень!» За ім Каробкін, які павярнуўся да гледачоў з прыжмураным вокам і з'едлівым намёкам на гараднічага; за ім, з самага краю, Добчынскі і Бобчынскі з накіраваным адзін да другога рухам рук, разяўленымі ратамі і вылупленымі адзін на аднаго вачамі. Астатнія госці застаюцца проста слупамі. Амаль паўтары мінуты скамянелая група захоўвае такое становішча. Заслона апускаецца.

# Аляксандр Астроўскі

# ВАЎКІ І АВЕЧКІ

*Камедыя ў пяці дзеях*

ДЗЕЮЧЫЯ АСОБЫ

Мерапія Давыдаўна Мурзавецкая — дзяўчына гадоў 65, памешчыца вялікага, але разладжанага маёнтка, асоба, якая мае вялікую сілу ў губерні.

Апалон Віктаравіч Мурзавецкі — малады чалавек гадоў 24, прапаршчык у адстаўцы, пляменнік Мурзавецкай.

Глафіра Аляксееўна — бедная дзяўчына, сваячка Мурзавецкай.

Яўлампія Мікалаеўна Купавіна — багатая маладая ўдава.

Анфуса Ціханаўна — яе старая цётка.

Міхаіл Барысавіч Лыняеў — багаты, ажырэўшы пан, гадоў пад 50, ганаровы міравы суддзя.

Васілій Іванавіч Беркутаў — памешчык, сусед Купавінай; самавіты мужчына сярэдніх гадоў, з лысінай, але вельмі жвавы і спрытны.

Вукол Навумавіч Чугуноў — былы член павятовага суда, гадоў 60.

Клаўдзій Гарэцкі — пляменнік Чугунова, прыгожы малады чалавек, кучаравы, з ружовым тварам, апранены ў лёгкі летні сурдут, зашпілены на ўсе гузікі, кашуля руская каляровая, без гальштука, штаны ў боты.

Паўлін Савельіч — дварэцкі } Мурзавецкай
Улас — буфетчык } Мурзавецкай
Карнілій — лакей } Мурзавецкай

Лакей Купавінай.

Страпілін — падрадчык.

Маляр.

Сталяр.

Селянін — былы стараста Мурзавецкай.

Рамеснікі, сяляне і нахлебніцы Мурзавецкай.

Дзея першая ў губернскім горадзе, у доме Мурзавецкай.

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

Зала, мэбляваная па-старасвецку: з правага боку *(ад гледачоў)* тры акны, у прасценках вузкія доўгія люстэркі з падлюстэрнікамі. Ля першага акна высокае крэсла і столік, на ім разгорнутая старасвецкая кніга і званок; у глыбіні, у правым кутку, дзверы на дзве палавінкі ў вялікі пярэдні пакой, у левым — дзверы ў пакой Мурзавецкага, паміж дзвярэй — печ; з левага боку, у куце, дзверы ў калідор, які вядзе ва ўнутраныя пакоі, бліжэй да авансцэны дзверы ў гасціную; паміж дзвярэй прысунуты да сцяны вялікі абедзенны стол.

### З'ява I

Паўлін ля дзвярэй у пярэднюю, падрадчык, маляр, сталяр, стараста, сяляне і рамеснікі.

Паўлін *(падаючы руку падрадчыку)*. Пану Страпіліну! *(Іншым.)* Няможна, панове, няможна. Што за кірмаш!

Сталяр. Кожны таксама па сваіх інтарэсах.

Маляр. Іншаму грошы вунь як патрэбны — страшэнна!

Стараста. Святочная справа: слабодна,— ну, значыцца, ідзі сыскваць.

Падрадчык. Святочная справа такая бывае, іншы небарак, што і сышча, дык дадому не данясе.

Сталяр. Данеслі б, патрапілі б, толькі каб было што.

Маляр. Толькі б уабраць грошы, то ўжо як сціснy, сілай не адбярэш.

Паўлін. Значыцца, вы паненкі чакаць хочаце?

Першы селянін. Ды ўжо ж пачакаем; наша справа такая, што чакаць.

Другі селянін. І пачакаеш, нічога не зробіш. Мы яшчэ пазалетась увосень лес вазілі на лазню. *(Паказвае на падрадчыка.)* Вунь той рыжы будаваў.

Маляр. А мы вось паркан малявалі вянкоў дванаццаць ды бяседку умбрай падмалёўвалі.

Стараста. А мы дык бычка-выпустачка ў той час на саланіну...

Сталяр. Кожны ж па сваё; і мы вось таксама два столікі пад арэх ды ў спальню да паненкі...

Паўлін. А вы, пан Страпілін?

Падрадчык. Са старым рахуначкам. Выйшаў з дому з раніцы па сваіх справах, дык ужо думаю, прайду замест мацыёну.

Паўлін. Ну, што ж мне рабіць загадаеце! Дапусціць вас я не смею. Дадому ідзіце, даражэнькія, вось што я вам скажу. Пасля наведайцеся, ды не ўсе разам!

Падрадчык. Не, мяне-то ўжо вы да паненкі дапусціце, Паўлін Савельіч.

Галасы. Дапускай да самой! Усіх дапускай да самой!

Паўлін. Я, бадай, дапушчу; толькі з умовай, панове. Вось першыя: каторыя чысцейшыя *(паказвае на падрадчыка, маляра, сталяра і старасту)* застаньцеся тут, *(астатнім)* і вы да ганка. Другая справа: як паненка з экіпажа, зараз жа ўсе ў ручку цалаваць; а хто дападкі, можа і ў ножкі. Пра грошы і не заікацца, з святым дзянёчкам можна павіншаваць, а пра грошы каб ні слова.

Маляр. А калі мы па іх якраз прыйшлі, як жа гэта ні слова?

Паўлін. А так што ні слова, ды і ўсё тут. Пройдуць паненка ў гасціную, гарбаты нап'юцца, я ім даклад зраблю; тады вам усім рэзалюцыя і выйдзе. Як жа вы хочаце, каб святым днём, раніцай, ды адразу за клопаты? Паненка ў гэты час цішыню любяць, і каб ніхто іх не турбаваў, асабліва пра грошы. Вы ж падумайце: калі яны прыедуць з сабора, сядуць у роздуме і падымуць вочкі ўгару, дзе душа іх у гэты час бывае?

Падрадчык. Высока, Паўлін Савельіч, высока.

Стараста. Так ужо высока, што ах!

Паўлін. Ну, вось бачыце! *(Маляру.)* А ты з умбрай! Эх, сыр'ё! Калі вы адмякнеце хоць крыху? Грошы грашыма, а таксама і час трэба ведаць. Мы ад клопату ўсімі спосабамі пазбавіцца стараемся; а ён за бычка-выпустачка сысківаць прыйшоў. Ну, ідзіце на сваё месца.

Сяляне і рамеснікі выходзяць. Уваходзіць Чугуноў з партфелем.

**З'ява II**

Паўлін, Чугуноў ля дзвярэй у пярэднюю, падрадчык, маляр, сталяр, стараста, потым Карнілій.

Чугуноў *(паказваючы вачыма на натоўп)*. Назбіралася гасцей з усіх валасцей.

Паўлін *(нюхаючы табаку)*. Камісія, судар.

Чугуноў. Ану, дай бярэзінскай!

Паўлін падае табакерку.

*(Нюхае.)* Разбор робіш каму — пачакай, каму — пасля прыйдзі!

Паўлін. Пярэмешка ў грашах, судар мой.

Чугуноў. Гэта бывае. Перад грашыма, кажуць.

Паўлін. Дай жа Божа! Жаночая справа, судар мой... Ад жаночага розуму парадкаў вялікіх і патрабаваць нельга.

Чугуноў. Ну, не кажы! У Меропы Давыдаўны яе жаночага розуму на пяцёх мужчын хопіць.

Паўлін. Як жа можна супроць мужчын! Каб гэтулькі розуму было, дык па вас бы не пасылалі; а то, як толькі якое суцяжніцтва, зараз жа па вас пасылаюць.

Чугуноў. Ды на кляўзу хіба розум патрэбен? Няхай у цябе хоць сем пядзей у лбе, а калі законаў не ведаеш...

Паўлін. Разумею я. Але з вялікага розуму суцяжніцтва распачынаць не варта. Вядома, абгаварваць паноў мы не можам, але і пахваліць нельга. У Меропы Давыдаўны такі характар: з кім з знаёмых не паладзіць — зараз жа суцяжніцтва распачынае. Змілуйцеся, знаёмства вялікае, часта не ладзіць, толькі і ведаем, што судзімся.

Чугуноў. Праўда, іншы раз проста ні за вошта справу распачынаеш.

Паўлін. Толькі ад усіх знаёмых паноў нездавальненні.

Чугуноў. Ды мы ж нікога не пакрыўдзілі: нам усё адмаўляюць, яшчэ ніводнай справы не выйгралі.

Паўлін. Дык жа страты шмат: протары плацін ды пад'ячых кормім.

Чугуноў. А хто ж іх карміць будзе? І яны ж есці хочуць, таксама людзі.

Паўлін. Не лічу я іх за людзей, судар.

Чугуноў. Дарэмна. І я ж пад'ячы, Паўлін Савельіч.

Паўлін. Ведаю.

Чугуноў. А ведаеце, дык будзьце крыху далікатнейшым. У мяне такіх вось хамуйлаў, як вы, паўтараста жыватоў было.

Паўлін. Было, ды сплыло.

Чугуноў. Так, сплыло; быў панам, а цяпер вось суцяжнікам стаў ды халопскія размовы слухаю.

Паўлін. Нельга і не гаварыць; нехаця скажаш, калі вы паненку толькі бунтуеце. Можна вам цяпер, судар, суцяжніцтва кінуць і зноў панам зажыць: залатую справу маеце.

Чугуноў. Маю.

Паўлін. З ласкі нашай паненкі ў пані Купавінай усім маёнткам кіруеце,— гэта ж лёгка сказаць! Ды яно і відаць: і домік збудавалі, і конікаў завялі, ды і грошы, кажуць...

Чугуноў. Ужо загаварылі, пазайздросцілі.

Паўлін. Не, што ж, дай, Божа, нажывайцеся!

Чугуноў. Ды і нажывуся, і нажывуся. Гавары яшчэ! Пагляджу я на каго, ці што! Я бачыў нястачу, у чым яна ходзіць. Мундзір жа мой памятаеш, ці даўно я яго скінуў? Так выцерся, што толькі адны ніткі засталіся; сарафан гэта ці мундзір, не хутка разбярэш.

Паўлін. Пані маладая, добрая, ні ў чым не разумеюцца; тут калі сумленне дазволіць...

Чугуноў. Нашто ж ты сумленне гэта? Да чаго ты сумленне прыплёў? У філасофію залазіць табе не па чыну...

Паўлін *(глянуўшы ў акно)*. Паненка ідуць. *(Выходзіць.)*

Карнілій у белым гальштуку і ў белых пальчатках выходзіць з гасцінай, адчыняе абедзве палавінкі дзвярэй і становіцца злева.

## З'ява III

Чугуноў устае з крэсла і становіцца недалёка ад дзвярэй у гасціную, за ім, па лініі да выхадных дзвярэй становіцца падрадчык, потым староста, потым маляр і сталяр.

Мурзавецкая адзета ў чорную шоўкавую блузу, падперазаную тоўстым шоўкавым шнурком, на галаве карункавая чорная касынка, якая, у выглядзе вуалі, да палавіны закрывае твар, у левай руцэ чорная палка з белай, слановай касці, крывуляй.

Праходзіць, павольна і не гледзячы ні на кога, з дзвярэй пярэдняй у гасціную. Усе, што стаяць у зале, па чарзе цалуюць яе ў правую руку. За ёй, за два крокі, праходзіць, спусціўшы вочы ў зямлю, Глафіра, адзетая ў грубую чорную шарсцяную сукенку. Потым дзве нахлебніцы, адзетыя ў чорнае.

Паўлін ідзе з левага боку ў Мурзавецкай і, сагнуўшыся ў пашане, нясе на руцэ нешта накшталт чорнага плашча.

Карнілій, прапусціўшы ўсіх, уваходзіць у гасціную і зачыняе дзверы.

## З'ява IV

Чугуноў, падрадчык, староста, маляр, сталяр, потым Паўлін.

Староста. Ах, матухна! Дай ёй, Божа! Створы ёй, Божа!.. І кіёк усё той самы.

Падрадчык. Хіба памятаеш?

Староста. Ды як не памятаць? Таксама як прыгоннымі былі...

Падрадчык. Дык хадзіў па вас?

Староста. І як жа яшчэ хадзіў.

Уваходзіць Паўлін.

Паўлін. Не ў пару, панове, прыйшлі.

Чугуноў. Чаму так?

Паўлін. І дакладваць не смею. *(Чугунову.)* Кара цяпер, судар, Вукол Навумыч, з слугамі. Смятанкі згатаваць не ўмеюць ці мо не хочуць. Толькі і гаворыш, каб пенак як мага больш, бо паненка страшэнна іх любяць. У такой дробязі не хочуць паненцы прыемнасць зрабіць, ну і гневаюцца.

Староста. Што ж цяперака нам?

Паўлін. А як-небудзь на гэтым тыдні, што там Бог дасць.

Маляр. Ходзіш, ходзіш, толькі пакута адна.

Паўлін. Ну, будзе ўжо! Пагаварыў, і хопіць! Па-добраму я з вамі гавару ці не? Дык вы грубага слова не чакайце.

Сталяр. Толькі і ўсяго? З гэтым, значыцца, і ідзі?

Паўлін. А чаго ж табе? Пачостка для вас не прыгатавана. *(Падрадчыку.)* Да прыемнага спаткання, пане Страпілін! *(Іншым.)* Ну, дык бывайце, добрыя людзі!

Падрадчык, староста, маляр і сталяр выходзяць.

Вам, судар, у сталовай фрыштыкаць прыгатуюць.

Чугуноў. Дай табаку!

Паўлін *(падаючы табакерку)*. Калі ласка. Прыйдзецца ўжо вам пачакаць, бо паненка Апалона Віктарыча чакаюць.

Чугуноў. Дзе ж ён?

Паўлін. Адно месца ў іх. Проста сорам, судар! У горадзе саромеюцца; дык возьмуць стрэльбу, нібы на паляванне, ды на Раззорысе, у шынку і прахалоджваюцца. І шынок жа самы мізэрны, можаце меркаваць,— у вёсцы, на вялікай дарозе завядзенне, на шыльдзе «Вось ён!» напісана. Так жа ўжо нядобра, што і сказаць нельга. Дні па два там ацiраюцца, сваркі заводзяць,— і што ім там за кампанія! Паненка паслалі ўжо буфетчыка Уласа, загадалі іх дадому прывезці.

Ч у г у н о ў. А што ж яму дома рабіць?

П а ў л і н. Паненка хочуць іх усталяваць і ў добрае асяроддзе ўвесці; у госці з імі хацелі сёння ехаць і нават увесь новы ім гарнітур загадалі пашыць.

Ч у г у н о ў. Ці не жаніць толькі хоча?

П а ў л і н. Падобна на гэта.

Ч у г у н о ў. Жаніх прывабны.

П а ў л і н. Вось цяпер таксама Яўлампія Мікалаеўна ўдавеюць, пан Лыняеў таксама халасты.

Ч у г у н о ў. Пра ўсіх у матухны Меропы Давыдаўны клопат.

П а ў л і н. Нельга ж. І ах, як яны цудоўна разважаюць! Яўлампія Мікалаеўна багатыя вельмі, значыць, ім можна і небагатага жаніха, толькі б маладога, вось як наш Апалон Віктарыч; Міхаіл Барысыч Лыняеў таксама багаты і ўжо ў гадах, для іх цяпер на воку ёсць паненка, княжацкага роду, немаладая, гэта праўда, і ў галоўцы ў іх нібы дрыжэнне, але ж так адукаваны, так адукаваны, што і сказаць нельга. *(Глянуўшы ў акно.)* Ды вось, мусіць, пана прывезлі.

Ч у г у н о ў. Дык я ў сталовую. *(Выходзіць.)*

Уваходзяць: М у р з а в е ц к і, апранёны ў чорны сурдут, зашпілены на ўсе гузікі, штаны ў боты, на галаве шапка з чырвоным аколышкам і з кукардай; У л а с са стрэльбай, патранташам, ягдташам і гарапнікам.

## З'ява V

М у р з а в е ц к і, П а ў л і н, У л а с.

М у р з а в е ц к і *(не здымаючы шапкі)*. Ма тант у сябе?

П а ў л і н. У сябе.

М у р з а в е ц к і. Ох, гэта ўжо мне паляванне! Стаміўся, брат. А што ж рабіць? Захапленне, жыць без палявання не магу. Халат цяпер, ды спаць укласціся. *(Хоча ісці ў свой пакой.)*

П а ў л і н. Не ўжо, зрабіце ласку, тут пачакайце, так загадана.

Мурзавецкі садзіцца ля акна.

У л а с. З рук у рукі, Паўлін Савельіч, і пана, і ўсю збрую, і амуніцыю.

П а ў л і н *(глянуўшы ў ягдташ)*. У ягдташы, судар, не толькі дзічыны, а і пер'ейка няма.

М у р з а в е ц к і. Не пашанцавала, браток, чартоўскі не пашанцавала. Выбраўся нядобраю парою, вярнуцца б трэба было:

заяц дарогу перабег, якое ўжо тут паляванне! Што ні нацэлюся, бах, альбо промах, альбо асечка.

Паўлін *(Уласу)*. Занясі да пана ў пакой, палажы асцярожненька!

Улас выходзіць.

Мурзавецкі *(адчыняючы акно)*. Фу, духата якая! *(Высоўваецца ў акно і свішча.)* Тамерлан! Ах, пракляты! Ну, пачакай жа! Чалавек, прывядзі сюды Тамерлана ды падай мне гарапнік!

Паўлін. Не ўжо, гэтага ніякім чынам нельга: не загадана, і які ж гэта Тамерлан? Хіба такія Тамерланы бываюць? Сказаць пра яго, што Тлезар, і то гонар занадта вялікі; а сапраўдная мянушка яго Шалай.

Мурзавецкі. Шмат ты разумееш!

Паўлін. Ды я ўсю яго натуру наскрозь ведаю. Апрача таго, што па куратніках яйцы красці, ён іншай навукі не ведае. Яго даўно на асіну пара, ды што там яшчэ на асіну! Вось, Бог дасць, прыйдзе восень, дык яго беспрыменна, за яго дурасць, ваўкі з'ядуць. Нездарма мы яго воўчай катлецінай завём. А вы б, судар, шапку знялі, яшчэ паненка ўвойдуць.

Мурзавецкі *(здымаючы шапку)*. Не твая справа; ты ведай сваё месца! Я размаўляць з вашым братам не люблю.

Паўлін. Слухаю.

Мурзавецкі. Фу, каб яго чорт, што гэта мне нешта нядобра, як бы нездаровіцца? Ногі, мусіць, прамачыў у балоце. *(Голасна.)* Чалавек, гарэлкі!

Паўлін. Тут, судар, не ў раззарыхінскім шынку.

Мурзавецкі. Ну, дык што, што не ў раззарыхінскім шынку, ну, дык што ж?

Паўлін. А тое, што тут не пададуць.

Мурзавецкі. Ну, будзь ласкаў, Паўлін Савельіч, ну, будзь другам, ну, я цябе прашу. Не ў службу, а ў дружбу, браток, разумееш?

Паўлін. Ну то-та ж, судар!

Мурзавецкі. Вось, так неяк фантазія прыйшла. Паўлін Савельіч, я табе скажу адкрыта: страшэнна хочацца, браток.

Паўлін. Ужо, відаць, нічога з вамі не зробіш. *(Выходзіць.)*

З гасцінай выходзіць Глафіра і ідзе да калідора.

**З'ява VI**

Мурзавецкі, Глафіра, потым Паўлін і Улас.

Мурзавецкі. Кузіна, кіньце вочкам! А вочкі ж, фу! Усё аддасі.

Глафіра. Што вам трэба?

Мурзавецкі. Што мне трэба? Вось дзіўна! Мне трэба расцалаваць вас, але...

Глафіра. Вы дурны.

Мурзавецкі. Пардон, мадэмуазель!

Глафіра. Adieu, monsieur![1] *(Хоча ісці.)*

Мурзавецкі. Чакайце! Не, сапраўды, ма тант іррытэ?[2]

Глафіра. Як вы дрэнна гаворыце па-французску!

Мурзавецкі. Нічога, для нашай губерні добра будзе.

Глафіра. Так, я не думаю, каб яна была задаволена вамі. *(Хоча ісці.)*

Мурзавецкі. Атандэ![3] Паклон.

Глафіра. Ад каго?

Мурзавецкі. Ад Лыняева.

Глафіра. Дзякую вам. Што гэта яму ўздумалася?

Мурзавецкі. На паляванні спаткаліся, грошай у яго пазычыў, каб яго чорт! Шуры-муры завялі? Ну, што ж, прызнавайцеся! А яшчэ важнасць на сябе напускаеце.

Глафіра, паціснуўшы плечукамі, выходзіць. Уваходзяць Паўлін і Улас з падносам, на якім чарка гарэлкі і закуска.

Паўлін. Хутчэй, калі ласка, а то яшчэ паненка выйдуць.

Мурзавецкі *(выпіўшы і закусіўшы)*. Фу! Гарэлка кабачная, закуска сабачая. *(Уласу.)* Пайшоў!

Улас выходзіць.

Паўлін. Якая ёсць, і за тую дзякуй скажыце, судар!

Мурзавецкі. Што ты важнічаеш? Нібы якую ласку мне зрабіў. Я табе загадаў, ты мне падаў, вось і ўсё. Няхай бы толькі не падаў.

Паўлін. Добра, так і будзем ведаць.

Мурзавецкі. Хам і важнічае — гэта смешна нават.

Уваходзіць Мурзавецкая.

---

[1] Да пабачэння, шаноўны пане! *(фр.)*

[2] Мая цётка раззлавана? (ад *фр.* Ma tante est elle irrité?)

[3] Чакайце! (ад *фр.* Attendez!)

## З'ява VII

Мурзавецкі, Мурзавецкая, Паўлін.

Мурзавецкая. Што ты рассеўся? Не бачыш! *(Падымаючы палку.)* Устань!

Мурзавецкі. Ах, пардон, ма тант! Я так, нешта не ў гуморы сёння, не ў настроі.

Мурзавецкая. А вельмі мне патрэбна! *(Паўліну.)* Ідзі, зачыні дзверы, і не прымаць нікога, пакуль я не загадаю.

Паўлін *(падаючы крэсла)*. Слухаю. *(Выходзіць.)*

Мурзавецкая *(паказваючы на крэсла)*. Вось цяпер садзіся, калі загадваюць.

Мурзавецкі. О, ма тант, не турбуйцеся.

Мурзавецкая. Ды што не турбуйцеся? Будзеш круціцца перада мной, як чорт; цярпець не магу. *(Стукае палкай.)* Садзіся!

Мурзавецкі садзіцца.

Доўга ты мяне будзеш мучыць ды сарамаціць?

Мурзавецкі *(са здзіўленнем)*. Што такое? Я, ма тант, вашых слоў не разумею.

Мурзавецкая. А тое, што ты валочышся па шынках, знаешся з мужыкамі,— сваркі ў вас там... Мурзавецкаму гэта да твару, га?

Мурзавецкі. Вось здорава, вось здорава! Аднак жа спрытна пра мяне нахлусілі вам.

Мурзавецкая. Дзе ўжо хлусіць; пра цябе і праўду мне сказаць, дык людзі саромеюцца. Ды чаго і чакаць ад цябе? З палка выгналі...

Мурзавецкі. Дазвольце, ма тант!

Мурзавецкая. Маўчы! Ужо не балела б маё сэрца, каб за маладзецкасць за якую: ну, каб растраціў ты грошы казённыя, прагуляў у карты,— усё б цябе пашкадавала; а то выгналі свае ж сябры за дробныя гадасці, за тое, што мундзір іх пэцкаеш.

Мурзавецкі. Але дазвольце ж!

Мурзавецкая. Вельмі добра, прыемна для ўсяе нашай радні!

Мурзавецкі. Але ж дазвольце ў апраўданне... два словы.

Мурзавецкая. Нічога ты не скажаш — няма чаго табе сказаць.

Мурзавецкі. Не, ужо дазвольце!

Мурзавецкая. Ну, гавары, зрабі такую ласку!

Мурзавецкі. Суджан, ма тант, а суджанага не абмінеш.

Мурзавецкая. Усяго?

Мурзавецкі. Суджанага не абмінеш, я вам кажу, вось і ўсё.

Мурзавецкая *(паківаўшы галавою)*. Ах, Апалон, Апалон! Калі шкадаваць цябе і любіць як належыць, дык звар'яцееш, гледзячы на цябе. Вось што ты мне скажы: саўладаць ты з сабою можаш ці не — ну, хоць ненадоўга?

Мурзавецкі. Гэта я, я з сабой не саўладаю — вось гэта міла! Вельмі вам дзякую.

Мурзавецкая *(не слухаючы яго)*. Гэта ж, каб ты быў хоць крыху больш прыстойным, я б табе і службу дастала, і нявесту з добрым пасагам.

Мурзавецкі. Ма тант, ручку! *(Цалуе Мурзавецкай руку.)* Мерсі!

Мурзавецкая. Толькі ўжо каб ані-ні, каб і духу гэтага не было!

Мурзавецкі. Што вы мне гаворыце! Нібы я не разумею, я вельмі добра разумею. Дурусся, а калі вы так хочаце, дык хоць зараз — ні каплі, абсалюман.

Мурзавецкая. Не веру.

Мурзавецкі. Пароль данёр — слова гонару благароднага чалавека.

Мурзавецкая. Даўно гэта слова я чула.

Мурзавецкі *(устае)*. Ну, хочаце пары, пары, ма тант, якое хочаце?

Мурзавецкая. Не, я ўжо лепш без пары, а вось не пушчу цябе нікуды з дому ды патрымаю як мае быць.

Мурзавецкі *(гледзячы ў акно)*. Усё, што вы хочаце, ма тант.

Мурзавецкая. Выязджаць ты будзеш толькі са мной і вось сягоння ж.

Мурзавецкі *(у акно, стукаючы далонню сябе па грудзях)*. Тамерлан, сотэ, сотэ!

Мурзавецкая. Вар'ят! Што ты, апамятайся! З бруднымі лапамі і ў акно!

Мурзавецкі. Пардон. *(У акно.)* Куш, куш, анафема.

Мурзавецкая. Апамятайся, апамятайся! Сядзь, зараз жа сядзь!

Мурзавецкі. Ах, ма тант, вы не разумееце: сабаку строгасць патрэбна, а то кінуць яго, павесіць прыйдзецца.

Мурзавецкая *(стукаючы палкай)*. Шалахвост! Каму я кажу?

Мурзавецкі. Зараз, ма тант, да вашых паслуг. *(У акно.)* Куш, кажуць табе! Дзе гарапнік? *(Голасна.)* Чалавек, падай гарапнік!

Мурзавецкая *(бярэ яго за руку і саджае)*. Гарапнік патрэбен для цябе. Што я табе казала, ты чуў, чуў?

Мурзавецкі. Ах, ма тант, як мяне гэты сабака знерваваў.

Мурзавецкая. Ну, вось табе мой загад: ідзі выспіся, а вечарам да нявесты паедзем! Адзенься хораша, да Яўлампіі Мікалаеўны паедзем!

Мурзавецкі. Божа мой, як я закаханы ў яе! Гэта ўжо... гэта ўжо... тут, ма тант, слоў няма. Мерсі, мерсі! Вось за гэта мерсі. *(Цалуе ёй руку.)*

Мурзавецкая. Ідзі спаць!

Мурзавецкі *(ідзе да дзвярэй, потым варочаецца)*. Доне муа дэ ляржан![1]

Мурзавецкая. Не лічу патрэбным.

Мурзавецкі. Дык загадайце прынесці!

Мурзавецкая. Чаго яшчэ?

Мурзавецкі. Энпё[2], маленькі флакончык і закусіць. Падумайце, учора да ночы па балоце, страхата, ма тант, куска ў роце не было.

Мурзавецкая. А хто пары прапанаваў?

Мурзавецкі. Ах, я пакіну, калі сказаў, дык пакіну. Толькі не адразу, адразу няможна: ведаеце, бываюць якія выпадкі, ма тант? Трагічныя выпадкі бываюць. Вось адзін раптам абарваў і, як сядзеў, дык... без усякіх прэлюдый, проста нават без пакаяння, ма тант. Вось яно што!

Мурзавецкая. Бог літасцівы, можа, і не памрэш.

Мурзавецкі *(моцна крычыць)*. Ах! *(Хапаецца за грудзі.)* Ай, ай, ай! Вось яно!

Мурзавецкая. Што здарылася?

Мурзавецкі *(хапаючыся за грудзі)*. Наскрозь, ма тант, ад сэрца ды пад лапатку.

Мурзавецкая. Пройдзе, нічога.

Мурзавецкі *(крычыць моцна)*. Ой!.. Ох, ох! Як кінжалам.

Мурзавецкая. Ну, ідзі! Я загадаю, толькі ўжо апошні раз, чуеш?

Мурзавецкі. Не ведаю ўжо, ці дайду да пакоя. Хіба доўга памерці! Мне жыццё капейка, але ж без пакаяння, ма тант... *(Выходзіць.)*

Мурзавецкая звоніць, уваходзіць Паўлін.

---

[1] Дайце мне грошай! (ад *фр.* Donnez-moi de l'argent!)
[2] Крышку (ад *фр.* un peu).

### З'ява VIII

Мурзавецкая, Паўлін.

Мурзавецкая. Наглядаць за Апалонам Віктаравічам, каб ні кроку з дому! Загадай людзям сядзець у пярэдняй, не выходзячы! Табе я загадваю, ты і ў адказе.

Паўлін. Асмелюся далажыць сударыні, яны праз акно нават іншы раз...

Мурзавецкая. Забяры ўсе гарнітуры! Загадай узяць нібыта пачысціць, дый не давай! У халаце не пойдзе.

Паўлін. Асмелюся далажыць сударыні, яны і ў халаце, калі вечарам...

Мурзавецкая. Дзе ж ён грошы бярэ?

Паўлін. Пазычаюць.

Мурзавецкая. У каго?

Паўлін. У розных паноў, каторыя знаёмыя, вось у пана Лыняева і ў іншых. Асмелюся далажыць сударыні, ніводнага госця не прапускаюць, каб не папрасіць.

Мурзавецкая. Не, ужо цярплівасці мае не хапае. Ажаню я яго... Ужо судзі мяне, Божа, а я яго ажаню.

Паўлін. Нашто лепш!

Мурзавецкая. Што гэта за народ быў ля ганка і тут?

Паўлін. Па грошы; даўно чакаюць, сударыня.

Мурзавецкая. Ну, няхай яшчэ пачакаюць.

Паўлін. Надакучаць сударыні, неспакой вам.

Мурзавецкая. А што мне непакоіцца? У мяне нястачы не бывае — мне на патрэбу пасылаецца, колькі трэба. Што ты глядзіш? Так, колькі трэба, столькі і пашлецца: спатрэбіцца мне тысяча, будзе тысяча, спатрэбіцца пяцьдзесят тысяч, будзе і пяцьдзесят. А ці казаў ты ім, што каму я вінавата, я тых памятаю, я за тых малюся, а каму заплаціла, тыя і не ў галаве?

Паўлін. Казаў, ды разумець не хочуць — грошай патрабуюць. Невуцтва, а пры ўсім тым і закаранеласць.

Мурзавецкая. А бывалі ж прыклады, Паўлін, што за мае малітвы шчасце пасылаецца, прыбыткі вялікія... Ну, што ж, калі ім грошы патрэбны, дык заплацім.

Паўлін. Тэрмін бы ім які вызначыць.

Мурзавецкая. Нашто ж тэрмін? Нашто мне сябе звязваць? Аддам — вось і ўсё тут. Я яшчэ не ведаю, колькі ў мяне грошай і ці ёсць грошы,— дый капацца ў іх за грэх лічу. Калі спатрэбяцца... ды не то што калі спатрэбяцца, а калі захачу аддаць, дык грошы знойдуцца, варта толькі памацаць вакол сябе, і знойдзецца якраз столькі, колькі трэба. Вось якія са мной цуды бываюць. Ды ты верыш ці не?

Паўлін. Як жа я смею не верыць?

Мурзавецкая. Дык аб чым жа і гаварыць? Непакоіцца аб даўгах я не хачу. Куды спяшацца? Адкуль мы ведаем, можа, так і трэба, каб яны чакалі,— можа, ім праз гэта выпрабаванне Бог пасылае?

Паўлін. Гэта сапраўды.

Мурзавецкая. Пакліч да мяне Чугунова.

Паўлін *(ля дзвярэй)*. Вукол Навумыч, калі ласка, да паненкі! *(Мурзавецкай.)* Ідуць. *(Выходзіць у пярэднюю.)*

Уваходзіць Чугуноў.

### З'ява IX

Мурзавецкая, Чугуноў.

Чугуноў. Са святам вас, Меропа Давыдаўна.

Мурзавецкая. Добры дзень, Вукол Навумыч! Сядай.

Чугуноў. Ручку дазвольце, дабрадзейка! *(Цалуе руку і садзіцца.)* Прысылаць мелі ласку?

Мурзавецкая. Пасылала. Справа ў мяне важная, Вукол, справа вялікая; трэцюю ноч я пра яе думаю, ды не ведаю, як спадзявацца на цябе, даверыць табе баюся.

Чугуноў. Ды хіба ў мяне сумленне падымецца супроць дабрадзейкі...

Мурзавецкая. У цябе сумлення няма.

Чугуноў. Нельга, каб зусім не было, матухна-дабрадзейка. Усё ж хоць крыху ды ёсць.

Мурзавецкая *(стукае палкай)*. У цябе сумлення няма!

Чугуноў. Ну, як сабе хочаце, як ваша ласка, спрачацца не смею. Я толькі адно скажу: вы ў мяне пасля Бога...

Мурзавецкая. Хлусіш.

Чугуноў. І не ведаю я за сабой граху супроць вас.

Мурзавецкая. Бо баішся мяне, ведаеш, што я магу і з цёплага месца турнуць і з горада выгнаць — грахоў жа нямала ў цябе; і прыйдзецца табе ў валасныя пісары прасіцца. У мяне ж нядоўга, я якраз.

Чугуноў *(устае і цалуе ў яе руку)*. Не ўжо, дабрадзейка, не пакідайце мяне без свае ласкі.

Мурзавецкая. Садзіся! *(Чугуноў садзіцца.)* Справа вось якая: брат мой, Віктар Давыдыч, Апалонаў бацька, меў справу з Купавіным, з мужам Яўлампіі.

Чугуноў. Грошы пазычалі ў Купавіна, а больш ніякіх спраў не мелі.

Мурзавецкая. Так, пазычаў, і Купавін яму даваў. А вось перад смерцю брат пачаў папяровы завод будаваць, і не хапіла ў яго грошай; Купавін абяцаў даць, ды і не даў.

Чугуноў. Так.

Мурзавецкая. А калі б Купавін не адмовіў?

Чугуноў. Тады ваш брат збудаваў бы завод. Чаму ж на чужыя грошы і не збудаваць?

Мурзавецкая. Так, збудаваў бы і, па яго разліку, заплаціўшы даўгі, нажыў бы пяцьдзесят тысяч. Значыць, вінават Купавін, што Апалон жабраком астаўся. Ну, трэба праўду сказаць, Вукол, брат-нябожчык пахваліцца любіў, я заўсёды яму толькі напалавіну верыла; дык вось я цяпер, можа, і сябе крыўджу, а лічу за Купавінай толькі дваццаць пяць тысяч, а не пяцьдзесят.

Чугуноў. Лічыць можна.

Мурзавецкая. Дый гавару ўсюды, па ўсім горадзе слаўлю, што Купавіны вінаваты Апалону, што яны аграбілі майго пляменніка.

Чугуноў. І гаварыць можна.

Мурзавецкая. «Можна ды можна»! А чаго ж нельга, па-твойму?

Чугуноў. Нельга гэтых грошай атрымаць. Ніхто не абавязаны пазычаць грошы, на гэта ёсць добрая воля. Хоць Купавін і не пазычыў вашаму брату, а ўсё-такі па закону сыскаць з яго за гэта нічога нельга, бо будуюць жа на свае.

Мурзавецкая. Ах ты, варона! Ды хіба я дурнейшая за цябе? Хіба я не разумею, што па законах, па тых, што ў вас у кнігах напісаны, тут доўгу няма? Дык у вас свае законы, а ў мяне свае; я вось ведаць нічога не хачу, крычу ўсюды, што аграбілі пляменніка.

Чугуноў. Ваша воля, вам забараніць ніхто не можа.

Мурзавецкая. Дык не здуру ж я. Як ты думаеш, га? Здуру я ці ў мяне ёсць у галаве што-небудзь?

Чугуноў. Выходзіць, ёсць.

Мурзавецкая. На сумленне я на чалавечае спадзяюся, усё яшчэ ў чалавечае сумленне веру... Думаю: Яўлампія жанчына добрая, далікатная, не дапусціць, каб пра яе такая гаворка была.

Чугуноў. Думаеце, заплоціць?

Мурзавецкая. Не, не думаю. Вялікія грошы, дзе ж заплаціць! А мы памірымся.

Чугуноў. Колькі ж вы, памірыўшыся, атрымаць спадзяецеся?

Мурзавецкая. Нічога не хачу я атрымліваць; пажэнім Апалона з ёю, вось і квіты. Праз гэта я толькі і кла-

пачуся, праз гэта і ўся справа ўзгарэлася і гаворка пра доўг пайшла.

Чугуноў *(спужаны, устае)*. Матухна, матухна!

Мурзавецкая. Чаго ты спужаўся?

Чугуноў. Гэта ж тады вы, дабрадзейка, усё кіраванне ў свае рукі возьмеце?

Мурзавецкая. Вядома, вазьму.

Чугуноў. А я куды ж, дабрадзейка?

Мурзавецкая. А куды хочаш... Вось, вельмі мне патрэбна! Будзе з цябе, нагрэў рукі.

Чугуноў. Не, матухна-дабрадзейка, не, хіба маласць самую. Мне вось да сядзібы ялавіну прыкупіць хочацца, побач прадаецца, тры тысячы просяць.

Мурзавецкая. Ці не занадта, Вукол?

Чугуноў. І ні за чым бы я больш не пагнаўся, на ўсё жыццё кусок хлеба, і суцяжніцтва кіну.

Мурзавецкая. Калі справа зробіцца, я табе тысячу рублёў дам, а рэшту сам даставай пакуль што, збірай якнебудзь, я табе не суддзя. Толькі не больш, а дзве тысячы хоць і ў Купавінай скрадзеш, дык не бойся, яе не спустошыш.

Чугуноў. Толькі вы, дабрадзейка, не асудзіце, вы не асудзіце; а то ніхто мне не страшны, я ўжо сябе не пакрыўджу.

Мурзавецкая. Ну пра цябе досыць гаварыць, ты мяне вось паслухай!

Чугуноў. Слухаю, дабрадзейка.

Мурзавецкая. Па-мойму, кожная баба дрэнь, хоць ты яе золатам абсып, усё ёй самой цана — грош. А Яўлампія цяпер з грашыма, бадай, вельмі высока думае пра сябе: той ёй не пара, другі не жаніх.

Чугуноў. Наконт гэтага я ў іх думкі пралезці не магу.

Мурзавецкая. Я ж дзяўчына старая, я мужчын распазнаваць не ўмею, можа, Апалон і сапраўды дрэнны жаніх; але, разумееш ты, што я гэтага і ведаць не хачу; я свайму роднаму дабра жадаю, а пра яе мне малы клопат... Дык вось, калі яна будзе ўпірацца, трэба нам з табой, Вукол, прыдумаць, чым напужаць яе.

Чугуноў. Будзем прыдумляць, дабрадзейка!

Мурзавецкая. Ну і думай! Як, па-твойму, каму ты павінен служыць: мне ці ёй?

Чугуноў. Нікому, апрача вас, дабрадзейка.

Мурзавецкая. Вось і саслужы сваёй дабрадзейцы службу вялікую, пазбаў яе ад клопату! Змучыў жа мяне пляменнічак!

Чугуноў. Нічога, можна, хай дабрадзейка не турбуецца. Я маю поўную даверанасць ад Яўлампіі Мікалаеўны, магу ўсе справы весці і мірам скончыць.

Мурзавецкая. Ну, дык што ж?

Чугуноў. Трэба было б які-небудзь рахуначак стары знайсці, альбо ў кнігах канторскіх ці няма якіх разлікаў, на чым вам прэтэнзію абгрунтаваць, ды я пашукаю. Потым мы з Апалонам Віктарычам справу і скончым мірам у міравога. Я, які вы хочаце, доўг прызнаю, хоць на сто тысяч. Выдадуць Апалону Віктарычу выканаўчы ліст, вось ужо тады справа будзе моцная, такім дакументам папужаць можна! Выходзь замуж, а то, маўляў, спустошу.

Мурзавецкая. Так, так, так... вось, мне толькі гэта і трэба. Ну, ды яшчэ гэта справа наперадзе, можа, і без гэтага зладзім. А ўпірацца будзе, дык ужо няхай не гневаецца... Што грэх таіць, я для свае радні крывадушніца.

Чугуноў. А хто ж без граху? Хто пахваліцца, дабрадзейка?

Мурзавецкая. У Яўлампіі ґатоўкаю грошы ёсць?

Чугуноў. Чаму ж няма? Ёсць.

Мурзавецкая. Што ж яна, забылася, ці што? Я ёй не раз напамінала. Муж яе абяцаў даць мне тысячу рублёў на бедных... Ды ўжо не памятаю, на словах ён казаў ці пісьмо было ад яго. «У завяшчанні, кажа, я гэтых грошай не змяшчаю, усё роўна, калі і памру, вам жонка мая заплоціць». Здаецца, было пісьмо. Ты глядзеў у маіх паперах?

Чугуноў. Разоў пяць пераглядаў, дадому браў.

Мурзавецкая. Няма?

Чугуноў. Няма.

Мурзавецкая. Шкада. Не верыць мне яна не смее, а ўсё-такі, бадай, скрывіцца.

Чугуноў. Дык што ж, можна...

Мурзавецкая. Што «можна»?

Чугуноў. Ды пісьмо знайсці, калі яно патрэбна.

Мурзавецкая. Ты ж ужо шукаў?

Чугуноў. Шукаў, ды не там, дзе трэба; здуру толькі час траціў дарэмна. *(Вымае з кішэні пісьмо і падае Мурзавецкай.)* Вось, калі ласка, матухна-дабрадзейка, знайшлося.

Мурзавецкая *(прачытаўшы сама сабе пісьмо)*. Яго рука, яго. Што такое? Ужо ці не вядзьмарства якое?

Чугуноў. Як можна, дабрадзейка... Гэтакі грэх! Хіба я вазьму на сваю душу?

Мурзавецкая. А не вядзьмарства, дык мала лепш — гэта падлог; за гэта Сібір. *(Аддае пісьмо Чугунову.)*

Чугуноў. Што гэта вы такія словы гаворыце? Нашто, дабрадзейка, такія словы гаворыць! Ну, што за падлог? Разумная справа — вось як гэта называецца. Такая воля была пана Купавіна; а ці не ўсё ж роўна, ці словамі, ці пісьмова ён яе выказаў. А калі без пісьма Яўлампія Мікалаеўна не паверыць ды грошай не дасць, дык ці не большы грэх тады будзе? І воля нябожчыка не будзе выканана, і бедным, каб памянуць яго добрую душу, нічога не прыйдзецца.

Мурзавецкая. А калі я цябе падманула, калі ён не абяцаў мне?

Чугуноў *(хоча парваць пісьмо)*. Ды вось жа... Хіба доўга?

Мурзавецкая. Што ты, што ты! Чакай! Дай сюды. *(Бярэ пісьмо.)*

Чугуноў. Шкада, што мала, Меропа Давыдаўна,— вось што трэба сказаць.

Мурзавецкая. Што мала?

Чугуноў. Ды грошай. Ужо за адным бы заходам.

Мурзавецкая. Ды што ты, прапашчы! Толькі ж паабяцана.

Чугуноў. Дык я ж і кажу: шкада, што мала паабяцана, а пісаць-то ўжо ўсё роўна...

Мурзавецкая. Разбойнік ты, ды ўсё, Вукол, як я пагляджу на цябе. Вось я памагаю бедным, дык для іх можна і душой пакрывіць, грэх невялікі; а ты, напэўна, і дзеля свае карысці ад гэтага балаўства не адмовішся. *(Хавае пісьмо ў кішэнь і грозіць Чугунову.)* Эй, Вукол, на сумленне, на сумленне ж не забывай, горш за ўсё! Гэта ж справа — крымінальная.

Чугуноў. Крымінальная, дабрадзейка, крымінальная.

Мурзавецкая. Сам, ці што?

Чугуноў. Дзе ўжо самому! Рукі трасуцца... Пляменнік.

Мурзавецкая. Гарэцкі?

Чугуноў. Ён, дабрадзейка. Думалі, нічога з хлопца не выйдзе, не вучыўся нідзе, ледзь пісьменны, аддалі прыватнаму каморніку за памочніка, дык усё роўна як кінулі, і раптам такая здольнасць выявілася! Што хочаце давайце, кропка ў кропку зробіць.

Мурзавецкая. Увядзе ён цябе ў бяду з гэтай здольнасцю.

Чугуноў. Пабайваюся, дабрадзейка... А прагнаць шкада, бывае і спатрэбіцца; а не сабе, дык добрым людзям услужыць. *(Глянуўшы ў акно.)* Нехта пад'ехаў да вас. Вы ўжо мяне адпусціце. *(Цалуе руку Мурзавецкай.)*

Мурзавецкая. Бывай, Вукол, дзякую.

Чугуноў. Калі зноў што спатрэбіцца, толькі, дабрадзейка, маргніце, я ўсёй душой. *(Выходзіць.)*

Уваходзіць Паўлін.

Паўлін. Пан Лыняеў з Анфусай Ціханаўнай пад'ехалі.
Мурзавецкая. Прасі.

Паўлін выходзіць. Уваходзяць Лыняеў і Анфуса.

**З'ява X**

Мурзавецкая, Лыняеў, Анфуса і Паўлін ля дзвярэй.

Лыняеў. Ух! Добры дзень!

Мурзавецкая *(пацалаваўшыся з Анфусай)*. Добры дзень, целяпень! Сядайце, госці будзеце. Дзе ты гэту красуню падчапіў?

Лыняеў. Ля гасцінага двара Яўлампія Мікалаеўна навязала; яна да вас заедзе па яе.

Мурзавецкая *(Анфусе)*. Табе, сірата, чайку?

Анфуса. Так, чайку ўжо...

Мурзавецкая *(Паўліну)*. Падай чаю Анфусе Ціханаўне.

Паўлін выходзіць.

*(Лыняеву.)* А каб не даручэнне, ты б, мусіць, і не заехаў да мяне?

Лыняеў. Не заехаў бы сягоння, спраў жа ў нас з вамі ніякіх няма.

Мурзавецкая. Ды не ўсё па справе; а так, наведаць старэнькую, пагутарыць?

Лыняеў. У нас жа адна гутарка: добрых людзей абгаварваць. А мне няма калі сягоння крытыкай займацца, дадому трэба.

Мурзавецкая. Ну, а як жа! Заняты чалавек, важныя справы! А прыйдзеш дадому, на канапу ляжаш, я ж ведаю. Усе канапы папралежваў, раз-пораз спружыны папраўляюць.

Лыняеў. Гарызантальнае становішча больш прывабнае.

Паўлін прыносіць на падносе чайнік, чашку і цукарніцу. Анфуса налівае і п'е ўпрыкуску.

Мурзавецкая *(Анфусе)*. Вось табе і работа, сядзі і пі! *(Лыняеву.)* На што гэта падобна, як ты растаўсцеў!

Лыняеў. Сэрца ў мяне добрае і сумленне чыстае, вось і таўсцею. Ды цяпер пахудзею хутка, клопат ёсць.

Мурзавецкая. Вось наўда! Што за клопат?

Лыняеў. Воўка хочацца злавіць, цкаванага. На след ніяк не натраплю.

Мурзавецкая. Ах ты, суддзя праведны! Ну, дай Божа нашаму цяляці ды ваўка ўвабраці!

Лыняеў. Завёўся ў нашай акрузе нейкі суцяжнік, што ні з'езд, то дзве-тры скаргі, і самыя злосныя. Ды і падлогі пачалі знаходзіцца. Вось бы злавіць ды ў акруговы!

Мурзавецкая. Ах, які храбры! А ты вось што скажы: чаму гэта ты людзям не паказваешся, ні ў кога не бываеш?

Лыняеў. Баюся.

Мурзавецкая. Што ты, маленькі, ці што?

Лыняеў. Каб маленькі, дык бы не баяўся: маленькаму не страшна.

Мурзавецкая. Ды чаго, скажы, змілуйся?

Лыняеў. Ажэняць.

Мурзавецкая. Вось страх які! Бабылём хіба лепш жыць?

Лыняеў. Каму не страшна, а я баюся да смерці, і ўжо дзе ёсць дзяўчаты, у тым доме мая і нага не бывае.

Мурзавецкая. Як жа ты да мяне ездзіш? Мы абедзве дзяўчаты: і я, і Глафіра.

Лыняеў. У вас жа манастыр, пакорлівасць, цішыня.

Мурзавецкая. Ну, і нам таксама пальца ў рот не кладзі! Дык вось чаму ты людзей баішся!

Лыняеў. Ды хіба вакол нас людзі жывуць?

Мурзавецкая. Бацюхны! а хто ж, па-твойму?

Лыняеў. Ваўкі ды авечкі. Ваўкі ядуць авечак, а авечкі пакорліва дазваляюць сябе есці.

Мурзавецкая. І паненкі — таксама ваўкі?

Лыняеў. Самыя небяспечныя. Выглядае лісічкаю, усе рухі такія мяккія, вочкі лагодныя, а ледзь зазяваўся крышку, дык у горла і ўшчарэпіцца. *(Устае і бярэ капялюш.)*

Мурзавецкая. У цябе ўсё ваўкі ў вачах, пужаная варона куста баіцца. А мяне ты куды ж? Ды не, лепш ужо ў ваўкі запішы; я хоць і жанчына, а авечкай з табой у адной чарадзе быць не хачу.

Лыняеў. Гонар маю кланяцца! Да пабачэння, Анфуса Ціханаўна. *(Выходзіць.)*

Мурзавецкая. Ну, вось прыехаў, а што разумнае сказаў? Часта ён у вас бывае?

Анфуса. Не вельмі што, а так ужо... па-суседску... вядома ўжо...

Мурзавецкая. Любезнічае з Яўлампіяй?

Анфуса. Ды ўжо... Дзе ўжо... куды ўжо...

Мурзавецкая. Што ж ён у вас робіць?

Анфуса. Ды ўжо ўсё... *(Махнуўшы рукой, пазяхае.)* Вось таксама.

Мурзавецкая. Ён пазяхае, а ты, мусіць, і зусім спіш. Дрэнны ты вартаўнік, трэба табе добрага памочніка даць.

Паўлін *(расчыняе дзверы)*. Яўлампія Мікалаеўна.

Уваходзіць Купавіна.

**З'ява XI**

Мурзавецкая, Анфуса, Купавіна.

Мурзавецкая. Добры дзень, багатая пані! Дзякую, што зрабіла ласку, наведала!

Купавіна. Я часта бываю ў вас, Меропа Давыдаўна.

Мурзавецкая *(садзіць Купавіну на сваё месца)*. Сюды, сюды, на ганаровае месца!

Купавіна. Дзякую вам. *(Садзіцца.)*

Мурзавецкая. Як маецеся?

Купавіна. Сумую, Меропа Давыдаўна.

Мурзавецкая. Замуж хочацца?

Купавіна. Куды мне спяшацца? Мне ўжо надакучыла пад чужой апекай жыць, хочацца паспрабаваць пажыць на сваёй волі.

Мурзавецкая. Так, так, так! Вось што? Толькі ж цяжка ўсцерагчыся, калі жаніхі-кавалеры заўсёды вакол круцяцца.

Купавіна. Якія жаніхі? Якія кавалеры? Я ніводнага яшчэ не бачыла.

Мурзавецкая. Кінь, матухна! Што ты мне вочы адводзіш? Я стары верабей, мяне на мякіне не падманеш!

Купавіна. Дык вы, значыць, больш за мяне ведаеце.

Мурзавецкая. А Лыняеў жа, Лыняеў жа пры чым у цябе?

Купавіна. Не ўгадалі! Памыліліся, Меропа Давыдаўна. Што мне за ахвота ісці за Лыняева? Па-першае, ён ужо вельмі не малады, па-другое, зусім не такі мужчына, каб мог падабацца.

Мурзавецкая. Стар, стар для цябе. Хоць і пойдзеш за яго, а што за карысць! Ні ўдава, ні замужняя. Што ўжо Лыняеў за муж? Размазня нейкая!

Анфуса. А што ж... ужо... як жа гэта, ужо?..

Мурзавецкая. Ну, вось, растлумачыць яшчэ табе? Я ж дзяўчына, паненка. Вось пачні з бабамі гаворку, не грашыўшы саграшыш.

Купавіна. Не, я хачу пачакаць.

Мурзавецкая. А я кажу: ідзі!

Купавіна. Вы раіце?

Мурзавецкая. Ідзі, ідзі!

Купавіна. За каго?

Мурзавецкая. А за каго, пра гэта падумаем, на тое Бог розум даў.

Анфуса. Так... так... ужо...

Мурзавецкая. Што ты такаеш? Даў Бог розум, ды не кожнаму; цябе пакрыўдзіў, не даў — не гневайся.

Анфуса *(махнуўшы рукою)*. Ну, ну, ужо вы... самі; а я... што ўжо!..

Мурзавецкая. Ты за старога Купавіна ішла, ужо не скажаш, што пакахаўшы, а за багацце за яго, за грошы.

Купавіна. Ды вы ж...

Мурзавецкая. Ды што: «вы ж!» Праўда, матухна! Прадала сябе. А гэта нядобра, грэх.

Купавіна. Ды вы ж самі ўсваталі, а я хіба разумела тады?

Мурзавецкая. Ды ты не тапырся, я табе не дакараю, а аб тваёй душы клапачуся. Табе цяпер што трэба для ачысткі сумлення? Пакахаць трэба небагатага, выйсці за яго замуж ды ўзнагародзіць багаццем любага табе чалавека — вось ты з грахом і расквітаешся.

Купавіна. Лёгка сказаць: пакахаць.

Мурзавецкая. У твае гады хіба доўга пакахаць, толькі не будзь пераборлівай. Ты маладая, дык шукай маладога; табе хочацца на сваёй волі пажыць, самой гаспадыняй быць, дык знайдзі беднага, ён пад тваю дудачку будзе скакаць; у цябе ж розуму таксама не вельмі каб праз меру, дык выбірай прасцейшага, каб ён над табой не нёс сябе высока. Так я кажу ці не?

Купавіна. Я з вамі згодна, але дзе ж знойдзеш такога?

Мурзавецкая. Знойдзем, свет не клінам сышоўся. Я знайду, я знайду. Толькі ты ўжо, калі сабе дабра жадаеш, сама не мудруйся, а на мяне здайся. Ты мяне слухай, добра, што мяне клопат пра цябе ўзяў. Не пра ўсякага ж я таксама буду клапаціцца, а каго палюблю.

Купавіна. Дзякую вам.

Мурзавецкая. Ох, мілыя вы мае, карыстайцеся маёй дабратою, пакуль я жыва; памру я, дык вось што трэба сказаць — без роднай маткі засталіся.

Анфуса *(выціраючы слёзы)*. Ужо што ўжо... ужо...

Мурзавецкая *(Анфусе)*. Годзе табе плакаць, пачакай, я яшчэ жыць хачу. *(Купавінай.)* А вось што, красуня ты мая,

пра сябе-то ты не забываеш, а вось мужа ці памінаеш як мае быць?

Купавіна. Памінаю.

Мурзавецкая. То-та ж, памінаеш! А трэба, каб і другія паміналі; бедных не забывай, іхныя ж малітвы больш даходныя.

Купавіна. Ды я памятаю... вы казалі мне... я прывезла.

Мурзавецкая. Што гэта ты як праз зубы цэдзіш? Гэтак мне, бадай, і не трэба! Хіба ж так дабро робяць? Не свае ж я табе словы гаварыла.

Купавіна. Ды я вам веру.

Мурзавецкая. Мусіць, дрэнна верыш. Ці думаеш, што я ў цябе выханжыць хачу? Дык на вось, паглядзі! *(Вымае з кішэні пісьмо.)*

Купавіна. Ды не трэба, упэўняю вас!

Мурзавецкая. Не, матухна, чужая душа змрок... *(Падае пісьмо.)* Чаго ж баішся, вазьмі.

Купавіна бярэ пісьмо.

Хто гэта пісаў?

Купавіна. Мой муж.

Мурзавецкая. А што напісана?

Купавіна. Тое самае, што вы мне казалі!

Мурзавецкая. Ну, дык вось, ты і вер мне!

Купавіна. Ды я ніколі і не сумнявалася. *(Адчыняе сумку, кладзе туды пісьмо і вымае грошы.)* Вось, калі ласка!

Мурзавецкая. Што гэта ты мне даеш?

Купавіна. Грошы.

Мурзавецкая. Ды я і брацца за іх не люблю, неяк гадка мне ў руках трымаць гэту поскудзь.

Купавіна. Палічыце, прынамсі.

Мурзавецкая. Вось, патрэбна вельмі. Не мне гэтыя грошы, няма чаго мне аб іх і рукі пэцкаць! Калі не хопіць, дык не мяне ты ашукала, а сірот; лішнія знойдуцца, дык лішні чалавек за твайго мужа Богу памоліцца. Ты яшчэ распіску папросіш, дык не дам, матухна; не бойся, другіх не патрабую.

Купавіна. Дзе ж мне іх дзець?

Мурзавецкая. А палажы на столік, у кнігу.

Купавіна *(палажыўшы ў кнігу грошы)*. Цётачка, ці не пара нам?

Анфуса. Ды я... што ж я... я вось...

Купавіна *(Мурзавецкай)*. У вашага пляменніка ёсць нейкая прэтэнзія да майго мужа, я чула?

Мурзавецкая. А ты непакоішся? Дарэмна. Табе што да таго, што твой муж яго аграбіў? Жабрак дык жабрак, ну, і жабруй, ды з гора па шынках валачыся! Вось як жыві, дык багатая будзеш. Хіба ты не такая? Ну, добра, я сама да цябе заеду, пагаворым пра гэта, хутка, хутка заеду.

Купавіна. Дык да пабачэння, Меропа Давыдаўна.

Мурзавецкая. Бывайце, дарагія госці! *(Глядзіць на Купавіну.)* Добрая ў цябе душа, Еўлампеечка! Дай табе Божа шчасця *(шэптам)*, мужа добрага! Я ж дык вунь як цябе люблю, быццам ты мая дачка. *(Анфусе.)* Бач ты, ухутваешся, як у Кіеў.

Купавіна *(у дзвярах)*. Бывайце!

Мурзавецкая *(у дзвярах)*. Загадайце фурману асцярожней ехаць!

Анфуса. Ужо мы, ужо... я ўжо...

Купавіна і Анфуса выходзяць. Мурзавецкая вымае грошы з кнігі і лічыць; частку іх кладзе зноў у кнігу, а рэштку сабе ў кішэнь. Садзіцца ў крэсла і звоніць. Уваходзяць Паўлін і Глафіра.

## З'ява XII

Мурзавецкая, Глафіра, Паўлін.

Паўлін. Што сударыня загадае?

Глафіра стаіць ля Мурзавецкай, спусціўшы вочы.

Мурзавецкая *(Паўліну)*. Слухай добра! Я перадумала, трэба расплаціцца з усімі. Людзі не анёлы, што іх выпрабоўваць. Паглядзі ў кнізе, ці няма там грошай.

Паўлін *(разгортвае кнігу)*. Ёсць, сударыня.

Мурзавецкая. Вазьмі!

Паўлін бярэ грошы.

Ці шмат мы вінаваты?

Паўлін. Без чаго пяцьсот рублёў.

Мурзавецкая. А ў цябе колькі?

Паўлін *(палічыўшы)*. Якраз.

Мурзавецкая. Раздай усім. Ідзі!

Паўлін. Слухаю. У газетах трэба пра гэтакія здарэнні друкаваць. *(Выходзіць.)*

Мурзавецкая. Глафіра, я хачу даць табе даручэнне.

Глафіра. Загадвайце, матухна.

Мурзавецкая. Я цябе завязу сёння да Купавінай; пасябруйся з ёй ды ў душу ёй улезь; яна жанчына не хітрая, а цябе вучыць няма чаго.

Глафіра. Слухаю, матухна.

Мурзавецкая. Ды калі ўбачыш, што Мішка Лыняеў абыходзіць яе, дык не давай ім любезнічаць, а пастарайся разбіць, ачарні яго перад ёй, а Апалона хвалі!

Глафіра. О, з прыемнасцю, матухна, з прыемнасцю.

Мурзавецкая. Ды і сама ж на Лыняева не ўзірайся! У мяне для яго гатова нявеста.

Глафіра. Мае мары іншыя, матухна; мая мара: келля.

Мурзавецкая. Гэты кусок не для цябе.

Глафіра. Я пра зямное не думаю.

Мурзавецкая *(узняўшы вочы да неба)*. Ах, акаянная! *(Глафіры.)* Глафіра, я акаянная. Што ты на мяне глядзіш? Так, вось, я акаянная, а ты як думала? Здаецца, і не замаліць мне, што я сёння награшыла. Бабу маларазумную ашукала — усё роўна як малое дзіця. І абедаць не буду, буду паклоны адбіваць. І ты не абедай, пасці разам са мной! Зараз жа, зараз жа ў малітоўню! І ты, і ты... *(Устае.)*

Глафіра бярэ яе пад правую руку.

Вядзі мяне! *(Ідзе, нібы зусім аслабеўшы.)* Саграшыла я, акаянная, саграшыла.

## ДЗЕЯ ДРУГАЯ

Прыгожа мэбляваны пакой у сядзібе Купавінай. Дамскі пісьмовы стол з усім прыборам, у глыбіні расчыненыя дзверы ў залу; двое дзвярэй па баках.

### З'ява I

Купавіна выходзіць з бакавых дзвярэй з правага боку, потым — Чугуноў.

Купавіна *(садзіцца ля стала)*. Хто там у зале?

Чугуноў *(з залы)*. Мы, Яўлампія Мікалаеўна, мы з Анфусай Ціханаўнай у дурня гуляем, старэчая наша справа.

Купавіна. Ідзіце сюды, Вукол Навумыч! *(Чугуноў уваходзіць.)* Сядайце!

Чугуноў. Шчыра дзякую. Сяду, сяду. *(Садзіцца.)*

Купавіна. Якія справы былі ў майго мужа з пляменнікам Мурзавецкай?

Чугуноў. З яго бацькам былі разлікі нейкія.

К у п а в і н а. Меропа Давыдаўна ўсюды крычыць, што мы яе пляменніка аграбілі.

Ч у г у н о ў. Строгая яна дама, Меропа Давыдаўна.

К у п а в і н а. Што ж ім трэба ад мяне?

Ч у г у н о ў. Ды вам чаго непакоіцца, галоўку турбаваць? А я нашто ж у вас? Дарэмна хіба я жалаванне бяру?

К у п а в і н а. Для мяне гэта справа вельмі непрыемная. Скончыце з імі як-небудзь хутчэй.

Ч у г у н о ў. Памірыцца загадаеце?

К у п а в і н а. Я ж не разумею; але, вядома, памірыцца лепш за ўсё.

Ч у г у н о ў. Слухаю. А як наконт грошай, калі спатрэбяцца?

К у п а в і н а. У мяне гатоўкай грошай нямнога.

Ч у г у н о ў. Вось гэта шкада. Такая вы ў нас выдатная пані, і як вы сябе абмяжоўваеце ў грашах, проста дзіва.

К у п а в і н а. Ды дзе ж я іх вазьму?

Ч у г у н о ў. Змілуйцеся! Ды загадайце мне, колькі вы захочаце, столькі ў вас і будзе.

К у п а в і н а. Дык знайдзіце мне грошай, Вукол Навумыч!

Ч у г у н о ў. Ды я і шукаць не буду, толькі адно ваша імя залатое патрэбна. Падпісацца вам, усе і турботы, вось і грошы.

К у п а в і н а. Што падпісаць? Я вас не разумею.

Ч у г у н о ў. А вось я зараз вам на справе растлумачу. Будзьце ласкавы перца ўзяць. Вось і паперка знайшлася якраз. *(Вымае з кішэні вэксальную паперу.)*

К у п а в і н а. Якая дзіўная папера!

Ч у г у н о ў. Так, дзіўнай такой нарабілі. Будзьце ласкавы напісаць тут унізе: «Удава палкоўніка, Яўлампія Мікалаеўна Купавіна».

Купавіна піша.

Толькі ўсяго, вось і грошы. *(Засыпае пяском.)* Здарыцца каму плаціць, тады напішам вось тут на паперцы пяцьсот рублёў альбо тысячу, і гатова.

К у п а в і н а. Разумею цяпер.

Чугуноў некалькі разоў нясмела бярэцца за вэксаль; але пры позірку Купавінай адымае руку.

Што вы робіце?

Ч у г у н о ў. Ды каб не загубіўся як.

К у п а в і н а. Дык прыміце.

Ч у г у н о ў. Куды загадаеце?

К у п а в і н а. Ды куды хочаце. Вазьміце сабе ў партфель!

Ч у г у н о ў. Як вы былі ласкавы сказаць? Каб я сабе ўзяў?

Купавіна. Ну, так. Чаго ж вы сумняваецеся?

Чугуноў. Я-то не сумняваюся, але як жа вы? А калі ваша такая прыхільнасць, дык вельмі вам дзякую. *(Бярэ вэксаль.)*

Купавіна. За што вы мне дзякуеце?

Чугуноў. Дык як жа, такая ўзнагарода.

Купавіна. Якая ўзнагарода?

Чугуноў. Давяраеце, гэта чаго варта? Хто ж гэта зробіць у нас у губерні? Ды ні адзін чалавек. Чугунову ў рукі бланк! Вядома, усе мы людзі, Яўлампія Мікалаеўна, усе чалавекі, беднасць, сям'я... а ўжо і абняславілі: «Вуколка шэльма, Вуколку граша паверыць нельга». А вы вось як! На!

Купавіна. Добра, добра! Толькі, калі ласка, разлічыцеся хутчэй з Мурзавецкімі.

Чугуноў. Што Мурзавецкія! Мезеннага пальчыка вашага не варты. А то шэльма! Няхай сабе шэльма, а таксама ж пачуццё. *(Стукае сябе ў грудзі.)* Вось яны, слёзы! Яны дарэмна не пальюцца. *(Цалуе руку Купавінай.)* Ну, як я цяпер супроць вас якую-небудзь такую... вялікую пакасць зраблю? Гэта мне будзе вельмі цяжка і вельмі нават сорамна!

Купавіна. Чакайце! Здаецца, нехта ёсць у зале.

Чугуноў. Госці, мусіць. Я ў канторы буду. *(Выходзіць налева.)*

Купавіна *(падышоўшы да дзвярэй у залу)*. Цёця, з кім вы там гаворыце?

Уваходзіць Лыняеў.

## З'ява II

Купавіна і Лыняеў.

Купавіна. А, гэта вы, Міхайла Барысыч!

Лыняеў. Добры дзень! Даўно вы з горада?

Купавіна. Толькі прыехала.

Лыняеў. А я вас на пошце прачакаў. Што б вам патурбавацца заглянуць туды! А то прымушаеце дзве вярсты кругу даваць, заязджаць да вас.

Купавіна. Прабачце! Я не чакала ні ад кога пісем.

Лыняеў. А не шкодзіла б пацікавіцца.

Купавіна. Хіба ёсць?

Лыняеў. Ад друга, ад Васілія Іваныча Беркутава, два пісьмы; адно мне, другое вам. *(Аддае Купавінай пісьмо.)*

Купавіна *(палажыўшы пісьмо на стол)*. Вы ўжо, мусіць, сваё прачыталі? Што ж ён піша?

Лыняеў. Ды вы ж свайго не адкладвайце, прачытайце, не цырымоньцеся!

Купавіна. Успею, успею. Чаго спяшацца, Міхайла Барысыч!

Лыняеў. Прачытайце, прачытайце! Прыемныя навіны ўведаеце.

Купавіна. Няўжо?

Лыняеў. Ён сягоння ці заўтра прыедзе ў маёнтак. Вось радасць!

Купавіна. Для каго?

Лыняеў. Для мяне, ды і для ўсіх, я думаю. Хіба ж вы?..

Купавіна. Ды не так ужо, як вы. Вы мне даруйце, Міхайла Барысыч, калі я не пабягу яго сустракаць за пяць вёрст.

Лыняеў. Бедны друг мой! Ці чуе яго сэрца, якая няўважлівасць чакае яго тут!

Купавіна. Што ж рабіць, дзе ж мне ўзяць шмат радасці?! Колькі ёсць.

Лыняеў. Чаго вы ў горад ездзілі?

Купавіна. Тысячу рублёў грошай завезла.

Лыняеў. Каму?

Купавіна. Меропе Давыдаўне.

Лыняеў. Ды што вы! Чаму, нашто?

Купавіна. На бедных, па загаду майго нябожчыка мужа.

Лыняеў. Ніякага загаду не было, ніколі ён і не думаў загадваць. Ён цярпець не мог Мурзавецкую і называў яе ханжой. Як вас ашукваюць, ай, ай!

Купавіна. Вось вы заўсёды такі несправядлівы да Меропы Давыдаўны. Калі вы перастанеце крыўдзіць яе, гэту шаноўную жанчыну? Вы паглядзіце! *(Падае яму пісьмо, якое ўзяла ў Мурзавецкай.)*

Лыняеў *(разглядаючы пісьмо)*. Ну, што хочаце са мной рабіце, а гэта падлог.

Купавіна. Што вы, што вы, Міхайла Барысыч! Хіба гэта магчыма?

Лыняеў *(з запалам)*. Хто ў яе гэтыя штукі вырабляе?

Купавіна. Ды перастаньце! Мне дзіка слухаць.

Лыняеў. Дазвольце мне ўзяць гэта пісьмо ненадоўга.

Купавіна. Вазьміце, толькі, калі ласка, не рабіце скандалу і не сварыце мяне з Меропай Давыдаўнай; у мяне з ёй ёсць сур'ёзная справа.

Лыняеў. Ніякай справы, запэўняю вас. Я ўсе вашы справы ведаю.

Купавіна. Не ў мяне, а ў майго мужа былі нейкія справы з Мурзавецкім, з яе братам.

Лыняеў *(з запалам)*. Ды ніякіх спраў і не было; гэта зноў якая-небудзь пад'ячаская кляўза.

Купавіна. Ды супакойцеся, гэта справа вас не датычыцца. Я даручыла Вуколу Навумычу скончыць гэту справу мірам; я ўжо і падпісала.

Лыняеў. Ах, Божа мой! Не падпісвайце вы нічога, не параіўшыся са мной! Што вы падпісалі?

Купавіна. Не бойцеся! Што я падпісала, там нічога не было.

Лыняеў. Ды адкуль вы ведаеце, што нічога не было?

Купавіна. Вось здорава! У мяне вочы ёсць.

Лыняеў. Ды што вы з вашымі вачыма разберыцё? Тут трэба быць юрыстам.

Купавіна. Ах, гэта смешна, нарэшце! Нашто юрыстам, калі нічога няма.

Лыняеў. Як «нічога»?

Купавіна. Так, нічога, чыстая папера.

Лыняеў. Што далей, дык горш! Гэта ж вы падпісалі бланк.

Купавіна. Які бланк?

Лыняеў. Вэксаль. Там, дзе нічога няма, могуць напісаць, што захочуць, і сыскаць з вас пяцьдзесят, сто тысяч.

Купавіна. Які жах! Як вы дрэнна думаеце пра людзей! Ды Чугуноў са слязьмі дзякаваў мне, што даверыла. Ён плакаў, кажу я вам.

Лыняеў. І кракадзілы плачуць, а ўсё-такі па цэлым цяляці глытаюць.

Купавіна. Дык з мяне абавязкова сышчуць сто тысяч?

Лыняеў. Хоць не сто тысяч, а што-небудзь сышчуць абавязкова.

Купавіна. Ды адкуль вы ведаеце?

Лыняеў. На гэта я вам адкажу рускай казкай: «Узлез цыган на дрэва і сячэ сук, на якім сядзіць. Ідзе паўз яго рускі дый кажа: «Цыган, ты ўпадзеш!» — «Адкуль ты ведаеш, пытаецца цыган, хіба ты прарок?»

Купавіна. Гэта дурное, Міхайла Барысыч. Хто ж будзе сеч той сук, на якім сядзіць?

Лыняеў. Не, гэта вельмі разумна. Я на кожным кроку бачу людзей, якія якраз тое самае робяць, што гэты цыган. І ўжо колькі разоў мне прыходзілася быць такім пракрокам.

Купавіна. Я разумею, куды хіліцца гэта размова — вам хочацца папасці на сваю ўлюбёную тэму,— што жанчыны нічога не ведаюць, нічога не ўмеюць, што яны без апекі жыць не могуць. Ну, дык я вам дакажу, што я патраплю весці свае справы і без чужой дапамогі.



14—164

Лыняеў. Дай вам Божа! А яшчэ лепш, калі б вы як найхутчэй раскаяліся ў тым, што вы зрабілі, пакуль яшчэ не паспелі загубіць свайго багацця.

Купавіна. Аставайцеся абедаць!

Лыняеў. Добра, я толькі адпачну крыху ў бяседцы. Дазволіце?

Купавіна. Ідзіце, яшчэ абед не хутка.

Анфуса *(з залы)*. Госці... тут ужо... яны.

Купавіна. Хто? Мурзавецкая?

Анфуса *(з залы)*. Так, ужо...

Лыняеў. Не, выбачайце! Па два разы на дзень бачыць яе для мяне занадта. Я пайду ў сад, яна мяне і не заўважыць. Можна тут прайсці? *(Паказвае на дзверы налева.)*

Купавіна. Зрабіце ласку! Да пабачэння! *(Ідзе ў залу.)*

Лыняеў выходзіць у дзверы налева. З залы ўваходзяць Купавіна, Мурзавецкая, Мурзавецкі, Глафіра і Анфуса.

### З'ява III

Купавіна, Мурзавецкая, Мурзавецкі, Глафіра, Анфуса.

Мурзавецкая. Ну, вось я да цябе з усім дваром.

Купавіна. Зрабіце ласку!

Мурзавецкая. Ды ўжо ці ты рада, ці не рада, нічога не зробіш, трэба прымаць. Вось *(паказваючы на пляменніка)* прыстаў.

Мурзавецкі. Ах, ма тант, лесе![1]

Мурзавецкая. Змоўкні, калі ласка! Хіба я што дрэннае кажу! Ты заўсёды да яе можаш прыехаць, і прыняць цябе яна павінна з пашанай; ты не валандацца, не языком хлебястаць, ты па сваёй роднай справе. Вось няхай яна паслухае.

Купавіна. Я з прыемнасцю.

Мурзавецкая. Ну, якая ўжо прыемнасць! Гэту справу, матухна, Бог убачыць; вось што я табе скажу.

Купавіна. Дык растлумачце мне, у чым яна.

Мурзавецкая. Не мая, дык мне і тлумачыць няма чаго. Ён пакрыўджаны, ён табе і раскажа. Пагаварыце, дык, Бог дасць, і зладзіце. Калі разумная, дык дагадаешся, не дасі сябе спустошыць, а будзеш упірацца, дык не гневайся, свая кашуля бліжэй к целу.

Купавіна. Чым частаваць загадаеце?

---

[1] Цётачка, кіньце! (ад *фр.* laissez.)

Мурзавецкая. Што за пачостка! Я ж ад цябе на свята ў госці еду. У вас тут гадавое свята недалёка, а ты, мусіць, і не ведаеш?

Купавіна. Чаму не ведаю! На маім лугу гулянне бывае. А ад чаю ўсё-такі не адмовіцеся?

Мурзавецкая. Ды, бадай што.

Купавіна. Цёця!

Анфуса. Ужо я... ужо даўно... ужо, глядзі, гатоў...

Мурзавецкая. А вось гэту дзяўчыну, выбачай, я да цябе пагасцяваць прывезла.

Купавіна. Вельмі вам удзячна.

Мурзавецкая. Думала, маркотна адной, з Анфусай жа не вельмі разгаворышся, вось, думаю, ёй птушку-шчабятушку, усё-такі язык пачасаць ёсць з кім.

Купавіна. Прабачце мне! Я на адну хвіліну, я толькі пакажу Глафіры Аляксееўне яе пакой! *(Глафіры.)* Хадзем.

Купавіна і Глафіра выходзяць у дзверы направа.

## З'ява IV

Мурзавецкая, Мурзавецкі, Анфуса, потым Купавіна.

Мурзавецкая. Ну як, добры маёнтак?

Мурзавецкі. Маньіфік[1].

Мурзавецкая. Заваёўвай удавінае сэрца, твой будзе. Толькі глядзі, не дай маху!

Мурзавецкі. Што вы, ма тант? Гэта я?

Мурзавецкая. Так, гэта ты! Гаварыць ты смелы, а верыцца табе нешта не вельмі.

Мурзавецкі. Дзесяць слоў.

Мурзавецкая. Што, «дзесяць слоў»?

Мурзавецкі. Я больш з жанчынамі ніколі не гавару. Дзесяць слоў, і хопіць, гатова, вось пагэтуль. *(Паказвае на вушы.)*

Мурзавецкая. Ну, хоць і не дзесяць, абы...

Мурзавецкі. Не, больш як дзесяць, ма тант, нельга: небяспечна.

Мурзавецкая. Ужо і небяспечна?

Мурзавецкі. Пароль данёр. У рэкі кідаюцца, што за прыемнасць!

---

[1] Любата (ад *фр.* magnifique).

Мурзавецкая. А вось паглядзім.

Уваходзіць Купавіна.

Купавіна. Цёця, налівайце чай!

Анфуса. Я вось... я... *(хоча ісці).*

Мурзавецкая. Хадзем, і я з табой. Цярпець не магу з лакейскіх рук; іншая справа ўсесціся ля самаварчыка. *(Выходзіць з Анфусай у дзверы налева.)*

## З'ява V

Мурзавецкі, Купавіна.

Купавіна. А вы чаю не хочаце?

Мурзавецкі. Муа[1] чаю? Нізашто ва свеце! Жамэ дэ ма ві![2] Бабская забаўка.

Купавіна. Ну, як хочаце. Вы хацелі са мной пра вашу справу пагаварыць?

Мурзавецкі. Хацеў, страшэнна хацеў.

Купавіна. Дык звярніцеся да Вукола Навумыча, я яму даручыла гэту справу.

Мурзавецкі. Што такое Вукол Навумыч? Компрэне ву[3], пад'ячы; а вы, а вы! Гэта... не, як хочаце, гэта розніца.

Купавіна. Але я з вамі гаварыць не магу, я нічога не разумею ў гэтай справе.

Мурзавецкі. Ды што справа! Што такое справа? Разлікі — пералікі. Клюшкі — каклюшкі! Што такое гэта справа ў параўнанні з вечнасцю і, чуць быў не сказаў, з салёным агурком! Пардон! Я сказаў глупства. Агіднейшая прывычка жартаваць. Але гэта ўбок.

Купавіна. Чаго вы хочаце, я вас не разумею?

Мурзавецкі. Душы нізкія шукаюць грошай, душы ўзвышаныя шукаюць шчасця, як сказаў адзін палкавы пісар.

Купавіна. Але якога ж шчасця вы шукаеце?

Мурзавецкі. Я? Слоў няма! Каб апісаць шчасце, такіх слоў няма.

Купавіна. Так, значыць, я і не ўведаю? Шкада.

Мурзавецкі. Нябесныя вочы, пяшчотныя ўсмешкі, там розныя фіглі-міглі, нежнасці-беласнежнасці і іншае, і іншае — усё гэта глупства! Дазвольце з вамі гаварыць па шчырасці!

Купавіна. Зрабіце ласку!

---

[1] Я (ад *фр.* moi).
[2] Ніколі ў жыцці! (ад *фр.* jamais de ma vie!)
[3] Разумееце (ад *фр.* comprenez-vous).

Мурзавецкі. Вы не ўбачыце мяне на каленях перад сабой. Не, гэта ўжо атандэ. Я горды.

Купавіна. Ах, вельмі рада.

Мурзавецкі. Але пакахаць мяне вы павінны.

Купавіна. Скажыце, калі ласка, [redacted] не ведала.

Мурзавецкі. Урэшце, гэта як вы сабе хочаце.

Купавіна. Так, я думаю.

Мурзавецкі. Я горды, паўтараю вам.

Купавіна. Я чула.

Мурзавецкі. Так... Але ведаеце, якая акалічнасць, каб яго чорт! Па некаторых прычынах... Я сказаў бы вам пра іх, ды вы не зразумееце, я не служу, хопіць! Стараўся, не ацанілі, ну і хопіць. Спадчыны не маю, набыўнога не набыў...

Купавіна. Калі муж мой сапраўды быў вам вінен, вы атрымаеце...

Мурзавецкі. Ах, кіньце, лесе! Вы мне надакучылі. Міль пардон, мадам![1] Я зусім пра іншае. Як бачыце, я чысты... Ма тант — старая дзеўка, яна не разумее і не можа разумець, што трэба маладому халастому афіцэру, і скупая, як...

Купавіна. Я вам кажу, што вы атрымаеце.

Мурзавецкі. Вы зноў за сваё? Гэта нудна!.. Я іншы раз павінен адмаўляць сабе ў самым неабходным... Ну, напрыклад, тытун... мне нават сорам прызнацца. Імажыне-ву[2], дваранін і без тытуну.

Купавіна. Што ж вам трэба?

Мурзавецкі. Апрэзан келькшоз[3].

Купавіна. Колькі ж вам?

Мурзавецкі. Вядома, аддам...

Купавіна. Ну так, вядома, але колькі?

Мурзавецкі. А гэта, як ваша ласка. Энпё, вельмі нямнога... Аднак, усё ж такі, не дваццаць капеек.

Купавіна *(вымае з кішэні асігнацыю)*. Пяць рублёў хопіць?

Мурзавецкі. Сетасе. Мерсі, гран мерсі[4]. Праз два дні, пароль данёр!

Купавіна. Прабачце ўжо! Я пайду к дамам! *(Выходзіць.)*

Мурзавецкі. Не, ром... ну яго! Шкодны для мяне; з маім характарам нельга. Паспрабую ўжо *(пстрыкае сабе пальцам па гальштуку)* крамбамбулёвай заняцца. Каб як толькі вырвацца ад ма тант! *(Хавае грошы ў кішэнь.)*

Уваходзіць Мурзавецкая.

---

[1] Тысячу разоў прашу — прабачце! (ад *фр.* mille pardonns).

[2] Уявіце сабе (ад *фр.* imaginez-vous).

[3] Цяпер што-небудзь (ад *фр.* à présent quelque chose).

[4] Хопіць. Дзякуй, вялікае дзякуй (ад *фр.* c'est assez. Mersi, grand mersi).

## З'ява VI

Мурзавецкі і Мурзавецкая.

Мурзавецкая. Ты што гэта хаваеш?

Мурзавецкі. Так, на ўспамін выпрасіў пусцяковінку, сувенірчык маленькі. Ма тант, ведаеце, што мне трэба? Мне патрэбна воля.

Мурзавецкая. Няпраўда.

Мурзавецкі. Патрэбна, ма тант, патрэбна. Вось, напрыклад, сягоння вечарам, калі вы мяне не адпусціце...

Мурзавецкая. Куды гэта? На пагулянку, з п'янымі мужыкамі валэндацца.

Мурзавецкі. Кель ідэ![1] Чаго я там не бачыў?

Мурзавецкая. Дык куды ж?

Мурзавецкі *(паціраючы лоб)*. Пасля, ма тант, пасля ўведаеце.

Мурзавецкая. Не, кажы цяпер!

Мурзавецкі *(таямніча)*. Сюды.

Мурзавецкая. Чаго?

Мурзавецкі. Па канчатковы адказ.

Мурзавецкая. Як «па канчатковы»? Хіба ты ёй зрабіў прапанову?

Мурзавецкі. Дзесяць слоў. Я ж, ма тант, без лішніх слоў: так і так, кажу, вуле ву[2]? Яна амаль згодна, загадала вечарам прыехаць па канчатковы адказ. Нельга ж не быць.

Мурзавецкая. А ці не хлусіш ты?

Мурзавецкі. Жэ ву засюр[3]. Толькі вы ёй ні-ні. Яна прасіла, каб гэта справа пакуль што засталася антр ну дэ[4].

Мурзавецкая. А што, калі праўда? Ды ці разумееш ты, як гэта важна для нас?

Мурзавецкі *(сур'ёзна)*. Вельмі, ма тант, важна, вельмі.

Мурзавецкая. Аж нешта мне не верыцца; вельмі ўжо добра. А ўрэшце, спакусіцель чаго не зробіць!

Мурзавецкі. Праўда, ма тант, яна мая.

Мурзавецкая. Язджай, язджай! Толькі ты хутчэй варочайся ад яе, я цябе буду чакаць. Не засну ж ні на волас, ты падумай!

Уваходзяць Купавіна, Глафіра і Анфуса.

---

[1] Што за думка! (ад *фр.* Quelle idée!)
[2] Жадаеце (ад *фр.* voulez-vous).
[3] Запэўняю вас (ад *фр.* Le vous assure).
[4] Паміж намі (ад *фр.* entre nous deux).

## З'ява VII

Мурзавецкая, Мурзавецкі, Купавіна, Глафіра і Анфуса.

Мурзавецкая. Дзякуй гэтаму дому, паедзем к другому! Бывайце, кралі! Не ведаю ўжо, ці хутка я траплю да цябе.

Купавіна. Я сама да вас заеду.

Мурзавецкі. Але я, ма тант, хутка буду ў мадам Купавінай. Я абавязан быць.

Мурзавецкая. Ну і добра. *(Купавінай.)* А ты яго прымай як мае быць. Вось я і ўведаю тваю прыхільнасць да мяне: калі ласкава яго прымаць будзеш, значыць, мяне любіш; калі ты яго пакрыўдзіш, значыць, мяне хацела пакрыўдзіць. Бывайце! Усяго не перагаворыш.

Выходзяць Мурзавецкая, Мурзавецкі, Купавіна і Анфуса.

Уваходзіць Глафіра.

## З'ява VIII

Глафіра садзіцца, вымае з кішэні маленькую кніжачку і пачынае чытаць.

Уваходзіць Купавіна.

Купавіна. Нарэшце-такі я залучыла вас да сябе.

Глафіра. Ах, гэта вы! *(Апускае кніжачку.)* Я даўно збіралася да вас, вясковая прырода так спрыяе набожным думкам.

Купавіна. Спадзяюся, што вы ў мяне пагасцюеце доўга.

Глафіра. Вельмі ўдзячна, але баюся, што вам са мною надакучыць,— я да гутаркі не здатная, я люблю адзіноту.

Купавіна. А я чула, што вы ў Пецярбургу жылі весела.

Глафіра. Ваша праўда. Я тады яшчэ не разумела жыцця, цяпер я гляджу на рэчы куды сур'ёзней, жыццейскія спакусы не маюць для мяне ніякай вартасці.

Купавіна. Але калі ж вы паспелі так змяніць свае погляды?

Глафіра. Я яшчэ маладая, вядома, але пад кіраўніцтвам такой жанчыны, якую можна назваць святой, я за кароткі час паспела зрабіць шмат для свае душы!

Купавіна. А вы дарэчы прыехалі.

Глафіра. Чаму?

Купавіна. Мне трэба параіцца, ды не было з кім. Вы мне не адмовіце?

Глафіра. Рада служыць вам усім, чым магу. Адкрыйце мне сваю душу! Урэшце, не трэба, я дагадваюся. Вы жанчына свецкая, значыць, легкадумная — вы закаханы?

Купавіна. Вы амаль што ўгадалі.

Глафіра. Мне шкада вас.

Купавіна. Чаму?

Глафіра. Таму, што гэта грэх.

Купавіна. Невялікі, я думаю.

Глафіра. Ну, гэта гледзячы па чалавеку, якога вы кахаеце. Багаты ён ці бедны?

Купавіна. Багаты.

Глафіра. Дык вялікі грэх.

Купавіна. Я яго кахаю не за багацце.

Глафіра. Але ён жа будзе вельмі рад вашаму багаццю. А калі б вы не навязваліся з сваім каханнем да багатага чалавека, можа, ён бы ажаніўся з беднай дзяўчынай і ашчаслівіў яе. А то калі і багатыя жанчыны хапаюцца за багатых, дык што ж нам, бедным дзяўчатам, застанецца? Я памылілася, сказаўшы: «нам», мне нічога не трэба, я кажу наогул.

Купавіна. Што ж мне рабіць?

Глафіра. Вазьміце ўладу над сабой — перастаньце яго кахаць. І калі вы ўжо без кахання жыць не можаце, дык пакахайце беднага чалавека, грэху будзе менш. Яго перастаць кахаць лёгка, варта толькі прыглядзецца да яго як мае быць.

Купавіна. На каго? Хіба вы яго ведаеце?

Глафіра. Вядома, ведаю.

Купавіна. Не верыцца.

Глафіра. Вы дрэнна хітруеце, ваш сакрэт вядомы ўсім: вы кахаеце Лыняева.

Купавіна. Вы памыляецеся.

Глафіра *(жвава)*. Памыляюся? Вы кажаце, што я памыляюся?

Купавіна. Так, запэўняю вас.

Глафіра. Дык вы кахаеце не яго?

Купавіна. Не. Адкуль вам гэта ў галаву прыйшло?

Глафіра. Кажыце праўду! Я вас прашу, кажыце праўду!

Купавіна. Ды падумайце добра! Ну, што мне ў ім?

Глафіра. Дык даруйце мне, даруйце! Досыць разыгрываць камедыю! Кахайце сабе, каго хочаце і колькі хочаце. Якую я паскудную ролю грала перад вамі! Я ж прыстаўлена да вас шпіёнам, і я ўзяла гэту ролю з прыемнасцю.

Купавіна. Нашто ж гэта?

Глафіра. Я думала, што вы мая саперніца.

Купавіна. Дык вы самі кахаеце Лыняева?

Глафіра. Кахаю? О не, нашто ж! Але я хачу пайсці за яго замуж — гэта мая адзіная надзея, адзіная мара.

Купавіна. Але што ж азначае ваша вопратка, вашы паводзіны, вашы пропаведзі?

Глафіра. Мая вопратка, паводзіны, пропаведзі — усё гэта маска. Я буду з вамі шчырай, толькі памажыце мне.

Купавіна. З прыемнасцю.

Глафіра. Я сапраўды жыла ў Пецярбургу вельмі весела: мая сястра замужам за маладым чалавекам, вельмі спрытным; ён раптам нажыў сабе вялікае багацце. Нас абкружалі толькі людзі багатыя: адвакаты, банкіры, акцыянеры. Мы з сястрой жылі ў нейкім чадзе: катанне па Неўскім, у аксаміце, у сабалях — раскошныя абеды дома альбо ў рэстаранах, заўсёды ў кампаніі; опера, французскі тэатр, а часцей за ўсё Буф — пікнікі, маскарады... Вядома, такое жыццё несур'ёзнае; але хто паспытаў яго, таму тутэйшае, капеечнае, здаецца нязносным. Ах, якое нязноснае, каб вы толькі ведалі!

Купавіна. Што ж прымусіла вас паехаць з Пецярбурга?

Глафіра. Я не ведаю, што зрабілася. Нешта здарылася раптам для нас з сястрой нечаканае. Сястра нечага плакала, пачалі ўсё распрадаваць, мяне адправілі да Меропы Давыдаўны, а самі схаваліся недзе, зніклі, здаецца, за мяжу. Вядома, я сама вінавата, вельмі вінавата: мне трэба было там лавіць жаніха — гэта было вельмі лёгка; а я закруцілася, завярцелася, як дурное дзеўчынё: я сабе гэтага ніколі не дарую.

Купавіна. Чаму вы ходзіце ў чорным?

Глафіра. А ў чым жа мне хадзіць? У старых аблезлых неданосках, якія даўно выйшлі з моды? Грубае чорнае адзенне, прынамсі, арыгінальнае і звярачае на сябе ўвагу; прытым жа і ўсміхнуцца каму-небудзь і смела кінуць вокам куды эфектней з-пад чорнай хусткі, чым з-пад старамоднага капелюша. Але насіць гэта адзенне можна нядоўга і толькі з пэўнай мэтай; а калі ўявіць, што прыйдзецца ўсё жыццё цягаць гэтыя лахманы... О! гэта можна звар'яцець.

Купавіна. Я дзіўлюся, як Меропа Давыдаўна не знойдзе вам добрай пары; яна такі майстар уладзіць сваю радню.

Глафіра. Не, для мяне яна нічога не зробіць. У яе ва ўсім выгада! Яна спрытная жанчына, яна здолее аддаць і за багатага чалавека, але толькі дзеля таго, каб узяць потым у свае рукі і карыстацца ўсім, чым можна, і яшчэ гаварыць заўсёды, што яна вось якую дабрату зрабіла.

Купавіна. Так, гэта праўда.

Глафіра. Мы з ёю бачым адна другую наскрозь, і яна добра ведае, што калі я вырвуся ад яе замуж, дык толькі яна мяне і бачыла. Урэшце, я ёй вельмі ўдзячна.

Купавіна. За што ж?

Глафіра. Я пераняла ад яе шмат чаго карыснага, такога, без чаго беднай жанчыне не абысціся ў жыцці.

Купавіна. Іменна?

Глафіра. Навучылася хітраваць, не гаварыць дарэмна ніводнага слова, не мець сораму, калі чаго-небудзь дабіваешся, пераняла бесцырымоннае абыходжанне, проста нахабнасць, якая ў ханжы ідзе за шчырасць і прастату. Ахвяру я знайшла: Лыняеў — адзіны чалавек, за якім я магу жыць так, як мне хочацца, як я прывыкла; усякае іншае жыццё для мяне цяжар, пакута, няшчасце — горш за смерць. А я сама сабе не вораг, Яўлампія Мікалаеўна, і таму пастараюся, што б там ні было, выйсці за Лыняева; і для гэтага я гатова ўжыць усе дазволеныя і нават недазволеныя захады. Мне здаецца, я ўжо занадта шчырая з вамі. Прабачце мне!

Купавіна. Не, не, я вельмі добра разумею ваша становішча. *(Доўга глядзіць на Глафіру, потым абнімае яе.)* Ах, каб гэта мне ваша энергія!

Глафіра. А мне вашы грошы! *(Глядзіць проста ў вочы Купавінай.)* Паможаш мне? Ты мяне бачыш дзяўчынай, паглядзі жанчынай, што з мяне выйдзе.

Купавіна. Усё, што ад мяне залежыць, я з радасцю... Я хоць пагляджу на замужнюю жанчыну, якая мае сваю волю. А я, небарака, і за тым мужам жыла пад строгай апекай, ды і зноў, мусіць, тое самае будзе.

Глафіра. Што за невясёлыя думкі.

Купавіна. Так, мусіць, на раду напісана. Я мяркую па тым пісьме, якое мне напісаў мой каханы. Вось аб гэтым якраз я і хацела параіцца з табой!

Глафіра. Дык раскажы, што за справа ў вас!

Купавіна. Гады тры таму назад, калі яшчэ мой муж быў жыў, прыязджаў сюды на лета наш сусед Беркутаў.

Глафіра. Ну, і...

Купавіна. Ну, і... не думай пра мяне вельмі дрэнна! Майму мужу было больш за шэсцьдзесят пяць год. Беркутаў мне спадабаўся. Урэшце, я трымала сябе вельмі асцярожна, і ён ні ў чым не мог заўважыць маёй асаблівай прыхільнасці.

Глафіра. А можа, і заўважыў?

Купавіна. Не ведаю... можа. Ён пражыў тут толькі адно лета і паехаў у Пецярбург; з таго часу я яго і не бачыла; але ён у кожным пісьме да Лыняева пасылаў мне паклоны і розныя кампліменты.

Глафіра. Як гэта ўсё нявінна!

Купавіна. Вельмі нявінна; а ўсё-такі я папалася. Неяк, месяцы тры таму назад, прыстаў да мяне Лыняеў: напішыце

ды напішыце Беркутаву, каб ён прыехаў летам у маёнтак, ён вам не адмовіць.

Глафіра. Ты і паслухала, напісала?

Купавіна. Напісала глупства нейкае, ужо і не памятаю што; такая дурасць, што даравацъ нельга.

Глафіра. І адказ атрымала?

Купавіна. У тым жа вось і справа, што атрымала. Па-першае, усё пісьмо напісана дзелавой канцылярскай мовай; а па-другое, сэнс яго такі: мне любавацца прыродай няма часу, у мяне важныя грашовыя справы; але калі вы хочаце, я прыеду. Прашу вас не рабіць ніякіх змен у маёнтку, не давяраць нікому кіравання, не прадаваць нічога, асабліва лесу.

Глафіра. Сур'ёзны чалавек і, напэўна, вельмі разумны.

Купавіна. Згодна, але хто яму даў права вучыць мяне? Я не адказала і, прызнаюся, досыць-такі астыла да яго. Ён прыедзе сягоння ці заўтра; вось я пагляджу на яго, як ён будзе сябе трымаць, і, калі заўважу, што ён мае які-небудзь намер на мяне, я палюбезнічаю з ім, потым пасмяюся і адпушчу ў Пецярбург ні з чым.

Глафіра. План добры; трэба толькі выканаць яго.

Купавіна. Пастараюся. Мне страшна за маю волю. Вось пісьмо ад яго, я яшчэ яго не чытала; бачыш, як я абыякава стаўлюся! Мне прывёз яго Лыняеў.

Глафіра. Лыняеў ужо быў у цябе, значыць, я яго ўбачу не хутка, а можа, і зусім не ўбачу. Запрасі яго!

Купавіна. Запрашаць яго не трэба: ён у садзе, схаваўся ад Меропы Давыдаўны і зараз прыйдзе абедаць.

Глафіра. Вось і вельмі добра! Загадай падаць шампанскага, мне даўно хочацца; страшэнна абрыдла сухама.

Купавіна. Калі ласка!

Глафіра. У мяне яшчэ просьба да цябе. Дай мне адзець што-небудзь лепшае! Усё гэта на мне такое гадкае.

Купавіна. Вось табе ключ ад гардэроба, выбірай, што хочаш. Там шмат новага, неадзяванага; я нашыла пропасць, ды пасля жалобы ўсё яшчэ не адважуся фарсіць.

Глафіра. Мерсі! Я ў адну хвіліну. *(Выбягае.)*

**З'ява IX**

Купавіна *(адна распячатвае пісьмо)*. Паглядзім, што за пасланне. *(Чытае.)* «Выконваю ваш загад, збіраюся ў маёнтак. Але з тае самай хвіліны, як я надумаўся ехаць, мяне ўжо страшэнна мучыць нецярплівасць. Мне крыўдна, што

мяне павязе паравоз, прыдуманы англічанамі для перавозкі цяжкіх грузаў; мне патрэбны крыллі, жвавыя крыллі амура». Якая пошласць! *(Чытае сама сабе.)* Што далей, то лепш! Што з ім сталася? Няўжо ён думае, што я паверу гэтаму глупству? Ну, добра, няхай ён і далей так думае, тым хутчэй ён пападзецца.

З дзвярэй паказваецца Глафіра ў адной спадніцы і хустцы, накінутай на шыю.

### З'ява X

Купавіна і Глафіра.

Глафіра. Я ўсё, і шоўкавыя панчохі знайшла, і боцікі, і як усё мне якраз. *(Падымае і выцягвае нагу, як танцоўшчыца.)* Шкада ж такую ножку абуваць у нейкія лапці.

Купавіна. Цудоўна, якая ты харошая! Хіба ўжо ён каменны, а то як бы, здаецца... *(У дзверы.)* Цёця, загадайце абед падаваць. Ды вось і Міхайла Барысыч ідзе.

Глафіра. Пачакайце мяне, я зараз. Ну! Альбо пан, альбо прапаў.

Выходзіць у дзверы направа. Купавіна — у залу.

## ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Праз усю сцэну садовыя краты з форткай пасярэдзіне, ля форткі лаўка. За кратамі відаць густы парк сядзібы Купавінай. Вечарэе.

### З'ява I

Гарэцкі стаіць ля крат і пасвіствае. З форткі выходзіць Чугуноў.

Чугуноў. Што ты, чаго ты? Пайшоў дадому! Зараз жа пайшоў дадому!

Гарэцкі. Не, дадому я не пайду. Я вас чакаў. Трэба вельмі.

Чугуноў. Нашто я табе?

Гарэцкі. Грошай дайце, дзяржаўных крэдытных білетаў!

Чугуноў. Грошай? Не, не, і не думай. Нашто табе грошы?

Г а р э ц к і. Я свайму сэрцу адвагу даю, на гулянне іду. *(Свішча.)*

Ч у г у н о ў. На якое гулянне? Сядзі дома! Ды годзе табе свістаць! Што я табе загадваў? Каб ні кроку, ні-ні...

Г а р э ц к і. Не, гэта вы дарэмна турбуецеся! Без прысуду не буду я сядзець у зняволенні; прысудзяць — тады сяду.

Ч у г у н о ў. Нашто ты такія словы гаворыш? Нашто?

Г а р э ц к і. Ну, вось яшчэ, словы! Патрэбна вельмі словы разбіраць. Вы грошай дайце!

Ч у г у н о ў. Дзе я табе вазьму?

Г а р э ц к і. Гэта — ваша справа, што мне да таго? Я вось пра сябе ведаю, што зап'ю сягоння, напэўна, дзён на дванаццаць!

Ч у г у н о ў. Так ужо і на дванаццаць? Наперад ведаеш, што на дванаццаць?

Г а р э ц к і. Толькі, дзядзечка, каб не больш. Дайце!

Ч у г у н о ў. Ты гэта з горада пяшком?

Г а р э ц к і. Пяшком.

Ч у г у н о ў. Няма чаго сказаць, ахвота па нейкія дваццаць капеек дзесяць вёрст пяшком лупіць.

Г а р э ц к і. Вёрсты — гэта мне нічога; я з астралябіяй па дзве тысячы хадзіў. Я і па дзесяць капеек, калі яны мне патрэбны, далёка пайду; толькі вось што: давайце па-добраму, дваццаць капеек мала.

Ч у г у н о ў. Бачыш ты, мала! Будзе, аж занадта.

Г а р э ц к і. Кажу, што мала. Бажыцца, ці што?

Ч у г у н о ў. Колькі ж табе трэба?

Г а р э ц к і. Пяцьдзесят рублёў.

Ч у г у н о ў. Ці ў сваім ты розуме, Клашка, у сваім?

Г а р э ц к і. Нічога. Што вось пасля гуляння будзе, не ведаю, а пакуль што ў сваім.

Ч у г у н о ў. У каго ты просіш? У каго ты просіш, кажу?

Г а р э ц к і. У вас. У каго ж мне прасіць? У каго грошы вядуцца, у таго і прашу.

Ч у г у н о ў. Ды што, банк, ці што, у мяне?

Г а р э ц к і. Перад кім вы жабраком прыкідваецеся? Вы ўжо гэта перад чужымі; а я свой, радня. У пані маёнткам кіруеце... вунь сядзібка якая! Ды каб не грабіць!

Ч у г у н о ў. «Грабіць, грабіць»! Невук! Палена неадукаванае! Ну, дык вось і ёсць грошы, ды не дам.

Г а р э ц к і *(надзеўшы шапку)*. Будзеце каяцца.

Ч у г у н о ў. Чаго?

Г а р э ц к і. Таго, што не далі. Можаце вялікую непрыемнасць мець.

Ч у г у н о ў. Ад каго?

Г а р э ц к і. Ад мяне.

Ч у г у н о ў. Што ты за птушка такая, важная?

Г а р э ц к і. Вось і не птушка, а непрыемнасць зраблю.

Ч у г у н о ў. Якую?

Г а р э ц к і. Дом спалю.

Ч у г у н о ў. Што ты! Які дом? Што ты!

Г а р э ц к і. Ваш.

Ч у г у н о ў. Ах, ты!.. Эх, браток!.. Ды як ты...

Г а р э ц к і. Ды вось так: пайду і запалю.

Ч у г у н о ў. У каго ты такі катаржны ўдаўся?

Г а р э ц к і. Ды хто ж у нашай радні святы? Вы, ці што? У каго ж людскім удацца?

Ч у г у н о ў. Не грубіянь, Клашка, не грубіянь!

Г а р э ц к і. Дайце грошай, дык і грубіянства не пачуеце.

Ч у г у н о ў *(вымае бумажнік)*. Адвяжыся ты ад мяне! На! праваліся ты куды-небудзь! *(Дае пяць рублёў.)*

Г а р э ц к і. Што гэта? Пяць рублёў. *(Аддае назад.)* Не, я больш варт.

Ч у г у н о ў. Праўда, праўда, больш варт, каб цябе можна было ў салдаты прадаць.

Г а р э ц к і. Не пра салдаты гаворка! А за сваё майстэрства я больш варт.

Ч у г у н о ў. Добрае майстэрства! Хваліся, хваліся! Ёсць чым пахваліцца!

Г а р э ц к і. Добрае ці дрэннае, а вам спатрэбілася, дык плаціце. Вы ўжо купляйце мяне, а то кепска.

Ч у г у н о ў. Ну, на яшчэ! *(Дае яшчэ пяць рублёў.)*

Г а р э ц к і. Мала.

Ч у г у н о ў. Бачыш ты, як разбойнік у лесе, на дарозе ловіш. Больш не дам, кончана.

Г а р э ц к і. Ну, а калі мне хто-небудзь больш дасць, дык тады мне прадаваць вас з Мурзавецкай?

Ч у г у н о ў. Цішэй ты! У Яўлампіі Мікалаеўны госці ў садзе.

Г а р э ц к і. А мне што да таго?

Ч у г у н о ў. Ну цябе! Пайсці ад граху. *(Адыходзіць.)*

Г а р э ц к і *(услед Чугунову)*. Дзядзя! Слухай! Калі больш дадуць, я вас прадам; вы так і ведайце. Кажу я табе, што мне гуляць прыйшла ахвота. А калі мне ў гэты час грошай не даць, дык я горш за звера. *(Выходзіць за Чугуновым.)*

З саду выходзяць К у п а в і н а, Г л а ф і р а, А н ф у с а і Л ы н я е ў.

## З'ява II

Купавіна, Глафіра, Анфуса і Лыняеў.

Лыняеў *(Купавінай)*. Не разумею, не разумею, што за фантазія гуляць па расе, калі можна вельмі спакойна сядзець у пакоі, ну, няхай на балконе, калі хочацца быць на паветры.

Купавіна. Я хачу народнае гулянне паглядзець.

Лыняеў. Не ідзіце! Што за прыемнасць ісці за дзве вярсты, ды яшчэ па гарах, каб паглядзець на п'яных.

Купавіна. Скажыце лепш, што вы лянуецеся! Аставайцеся!

Лыняеў. Я пайшоў бы, але там, мусіць, вашы людзі гуляюць, яны будуць саромецца нас. Навошта перашкаджаць чужой весялосці!

Купавіна. Мы здалёк паглядзім, з гары. Ды ўжо аставайцеся, аставайцеся, я цёцю вазьму.

Лыняеў. А ўрэшце, я магу пайсці.

Купавіна. Не, не! Будзеце ўздыхаць ды вохкаць усю дарогу, сябе за ахвяру выдаваць, і без вас абыдземся. Хадзем, цёця!

Анфуса. Я што ж... я магу.

Купавіна *(Глафіры)*. Ты астанешся таксама? Аставайся, аставайся!

Глафіра. Так, у мяне ад шуму галава кружыцца.

Купавіна. Пачакайце нас тут!

Лыняеў. Пачакаем, пачакаем.

Купавіна і Анфуса выходзяць.

## З'ява III

Лыняеў і Глафіра.

Лыняеў. Вы толькі ўбранне перамянілі, а скромнасць пры сабе пакінулі.

Глафіра. Вам залішняя скромнасць не падабаецца?

Лыняеў. Як не падабаецца! Што вы, змілуйцеся! Не, гэта добра, гэта вельмі добра.

Глафіра. Можа, і добра, ды затое сумна.

Лыняеў. Ды хіба вы абавязаны весяліць мяне? Гэта хутчэй мой абавязак, але і я... прабачце, і я магу прапанаваць вам толькі пасумаваць разам са мной.

Глафіра. І добра, вельмі вам удзячна.

Лыняеў. Не варт дзякаваць.

Глафіра. Не, вельмі варта.

Лыняеў. Ды за што ж?

Глафіра. За спакой, хіба гэта мала? Правёўшы вечар з вамі, можна заснуць без ніякіх хваляванняў, сном праведніка. Я яшчэ нікога не кахала, Міхайла Барысыч, але ж гэта пара прыйдзе; я ў такіх гадах, што кожную хвіліну павінна чакаць гарачкі кахання.

Лыняеў. Дык вы таксама, як і ўсе. А я думаў, што вы...

Глафіра. Што? Што я няздольна кахаць? Такіх дзяўчат не бывае, Міхайла Барысыч.

Лыняеў. Дык вы баіцеся пакахаць?

Глафіра. Як жа не баяцца? Каханне мне нічога не прынясе, апрача пакуты. Я дзяўчына з густам і магу пакахаць толькі парадачнага чалавека; а парадачныя людзі шукаюць багатых. Вось чаму я хаваюся і ўцякаю ад кампаніі — я баюся пакахаць. Вы не глядзіце, што я скромная, ціхая вада глыбокая, і я адчуваю, што калі пакахаю...

Лыняеў. Ой, страшна! Не гаварыце, калі ласка, не гаварыце далей!

Глафіра. Але з вамі я нічога не баюся.

Лыняеў. Не баіцеся?

Глафіра. Ні капелькі: вы мяне захапляць не будзеце, ды і захапіцца вамі няма ніякай магчымасці.

Лыняеў *(пакрыўдзіўшыся)*. Але чаму ж вы так думаеце?

Глафіра. Ну, кіньце, які вы палюбоўнік! Вы не крыўдуйце, Міхайла Барысыч! Вы вельмі добры чалавек, вас усе паважаюць, але кахаць вас нельга. Вы ўжо і ў гадах, і растаўсцелі, і, напэўна, дома ў цёплым халаце ходзіце і ў каўпаку, ну, адным словам, вы сталі падобны на мілага, добрага татулю.

Лыняеў. Вы ўжо вельмі бязлітасны да мяне... Не, я яшчэ...

Глафіра. Не, не, не падманвайце сябе — адмоўцеся ад перамог, Міхайла Барысыч! Ха, ха, ха! *(Рагоча.)*

Лыняеў. Ды чаго ж вы рагочаце, змілуйцеся!

Глафіра. Даруйце, калі ласка! Мне смешная думка ў галаву прыйшла. Ну, калі вы ў мяне ўкахаецеся і будзеце рассыпацца ў пяшчотах перада мной, пры ўсёй жа павазе да вас не вытрымаеш, зарагочаш.

Лыняеў. Аднак якія вам думкі ў галаву прыходзяць дураслівыя.

Глафіра. Так, дуруся. Вам дзіўна, што я развесялілася? Нядоўга мне.

Л ы н я е ў. Чаму ж нядоўга?

Г л а ф і р а. У манастыр збіраюся гэтымі днямі.

Л ы н я е ў. Не, вы жартуеце?

Г л а ф і р а. Не жартую. Бывайце! Не ўспамінайце дрэнным словам! Сапраўды, не злуйце на мяне за мае жарты! Мне хочацца пакінуць добрую памяць аб сабе.

Л ы н я е ў. Пакінуць добрую памяць вы вельмі можаце.

Г л а ф і р а. Якім чынам?

Л ы н я е ў. Зрабіце мне маленькую паслугу.

Г л а ф і р а. З асаблівай прыемнасцю.

Л ы н я е ў. Чаму ж з асаблівай?

Г л а ф і р а. Так, вы вельмі мілы чалавек.

Л ы н я е ў. Мне патрэбен добры пісар на нейкі час.

Г л а ф і р а. Не магу. Хоць і добра пішу, а за пісара да вас не пайду.

Л ы н я е ў. Вы не зразумелі ці не хочаце разумець.

Г л а ф і р а. Вось каб я была мужчынам; а то, змілуйцеся, што падумаюць, мілы Міхайла Барысыч! А ўрэшце...

Л ы н я е ў. Ды не! У Меропы Давыдаўны пісьмаводствам займаецца Чугуноў, я яго руку ведаю, але часамі трапляюцца ад яе паперы, напісаныя выдатным почыркам.

Г л а ф і р а. Дык вам якраз такі пісар патрэбен?

Л ы н я е ў. Мне трэба ведаць, хто гэта піша.

Г л а ф і р а. Запытайцеся ў Чугунова.

Л ы н я е ў. Не скажа.

Г л а ф і р а. Тут у вас нешта не так сабе.

Л ы н я е ў. Ды вы ведаеце?

Г л а ф і р а. Можа, ведаю больш, як вы думаеце.

Л ы н я е ў. Дык скажыце!

Г л а ф і р а. Няможна.

Л ы н я е ў. Чаму?

Г л а ф і р а. Таму, што ён мой палюбоўнік.

Л ы н я е ў. Што далей, то горш.

Г л а ф і р а. Я крыху замоцна сказала. Ён сапраўды закаханы ў мяне і піша мне вершамі пісьмы ледзь не кожны дзень. Такі мілы — адказу не патрабуе, а толькі вылівае свае пачуцці перада мной.

Л ы н я е ў. Але хто ж ён, скажыце?

Г л а ф і р а. Ён вам вельмі патрэбен?

Л ы н я е ў. Вельмі.

Г л а ф і р а. Я не толькі магу яго назваць вам, але праз дзесяць хвілін прывесці яго сюды і пазнаёміць.

Л ы н я е ў *(паціраючы рукі ад радасці)*. Што вы? Няўжо?

Глафіра. Толькі дарэмна гэтага не зраблю.

Лыняеў. Патрабуйце ад мяне, што хочаце, чаго толькі вы хочаце.

Глафіра. Я папрашу нямнога.

Лыняеў. Усё, усё, што хочаце.

Глафіра. Прыкіньцеся закаханым у мяне і цэлы вечар сягоння заляцайцеся да мяне.

Лыняеў. А вы будзеце смяяцца?

Глафіра. Напэўна, калі гэта будзе смешна.

Лыняеў. Ну, ужо адзін вечар, дзе маё не прападала! Хоць і цяжкавата, але нічога не зробіш, сам абяцаў. Дык вы калі ж мне яго пакажаце?

Глафіра. Хоць зараз. Я бачыла, як ён пайшоў на гулянне, я пайду і прывяду яго сюды. Пачакайце мяне тут! Вось і Яўлампія Мікалаеўна. *(Выходзіць.)*

Уваходзяць Купавіна і Анфуса.

### З'ява IV

Лыняеў, Купавіна, Анфуса.

Лыняеў. Што ж вы так хутка?

Купавіна. І хацелася яшчэ пагуляць, ды хаваюся ад праследаванняў.

Лыняеў. Вось я вам казаў, што там п'яныя; хто ж вас праследуе?

Купавіна. Наш агульны знаёмы, Мурзавецкі. Правядзіце мяне дадому.

Лыняеў. Анфуса Ціханаўна, зрабіце ласку, пачакайце тут Глафіру Аляксееўну і, калі яна вернецца, скажыце ёй, што я зараз прыйду.

Купавіна. Ды не пускайце Мурзавецкага ў сад, скажыце, што мяне дома няма, што я выехала.

Анфуса. Добра ўжо... я ўжо...

Лыняеў. Ды што з ім цырымоніцца, проста гнаць гэтага мілага хлопчыка прэч.

Купавіна. Ах не, няможна! Ён скажа Меропе Давыдаўне, тады мы вялікую бяду нажывём. Далікатней як-небудзь, а то яна мяне з'есць.

Выходзяць Купавіна і Лыняеў. Анфуса садзіцца на лаўку. Уваходзіць Мурзавецкі.

### З'ява V

А н ф у с а, М у р з а в е ц к і.

М у р з а в е ц к і *(свішча)*. Тамерлан, Тамерлан, ісі. Эх, жывёліна! Павешу, кончана, не, брат, павешу,— кончана. Пардон, мадам! Дзе ж яны? *(Аглядаючыся.)* А, вунь! Здаецца, абедзве тут. Так нешта як бы вочы засцілае, мільгае нешта: то адна, то дзве... не, дзве, ну, вядома, дзве. *(Кланяючыся здалёк.)* Маю гонар.

А н ф у с а *(адварочваючыся)*. Ну ўжо... не трэба ўжо...

М у р з а в е ц к і. Не, дазвольце, Яўлампія Мікалаеўна!

А н ф у с а. Ды якая... дзе ўжо яна?..

М у р з а в е ц к і. Не, Яўлампія Мікалаеўна, не, яна тут, у грудзях маіх; пароль данёр! *(Уздыхае.)* Такой пакуты, такой пакуты...

А н ф у с а. Ну ўжо... годзе ўжо...

М у р з а в е ц к і. Я з вамі згодзен, але калі няма сілы, што ж мне рабіць, я ў вас пытаюся! Закаханы, ну і... ну і... кончана.

А н ф у с а. Ах, сапраўды ўжо... ну, што?

М у р з а в е ц к і. Не хочаце, не хочаце адказваць? А я вось тут... у вас... у нагах... магу памерці! Адказвайце, мон анж![1] Ну, ен мо![2]

А н ф у с а. Ды што ўжо... ну цябе!

М у р з а в е ц к і. Анфуса Ціханаўна, кіньце, я вас прашу, я не з вамі.

А н ф у с а. Не са мной ужо... дык, ну, з кім?

М у р з а в е ц к і. З кім? Гэта дзіўна. Ха, ха, ха! Гэта дзіўна! Вы думалі, з вамі?

А н ф у с а. Ды ўжо... нікога тут больш... што яшчэ?

М у р з а в е ц к і. Анфуса Ціханаўна, тэзеву![3] Яўлампія Мікалаеўна, бываюць у жыцці хвіліны... Што я! Адна хвіліна, калі чалавек...

А н ф у с а. Ах ужо... што мне з ім?

М у р з а в е ц к і. Вы маўчыце, за вас адказваюць — для благароднай душы маёй гэта... гэта я вам скажу... *(Уздыхае.)* Цяжка.

А н ф у с а. Ды адкуль жа яна... калі няма?

М у р з а в е ц к і *(падыходзячы)*. Чаго няма? Як няма?

А н ф у с а. Ды ўжо так вось...

М у р з а в е ц к і *(аглядаючы Анфусу і лаўку)*. Ды дзе ж яна?

А н ф у с а. Калі няма... дзе ж мне!..

---

[1] Мой анёл! (ад *фр.* mon ange!)
[2] Адно слова! (ад *фр.* un mot!)
[3] Маўчыце! (ад *фр.* taisez-vous!)

Мурзавецкі *(стукнуўшы сабе па лбе).* Божа мой! Божа мой!

Анфуса. Ну, ужо... чаго яшчэ!

Мурзавецкі. Аднак жа якое ашуканства!

Анфуса. Каму ўжо... трэба?

Мурзавецкі. Дык што ж гэта, што ж? Падман пачуццяў, гульня ўяўлення?

Уваходзіць Лыняеў.

### З'ява VI

Мурзавецкі, Анфуса, Лыняеў.

Мурзавецкі. Але не, я насміхацца з сябе не дазволю, дудкі!

Анфуса *(убачыўшы Лыняева).* Ах, вы ўжо... ну вось... ужо самі... *(Ідзе ў сад.)*

Мурзавецкі. Я еду, еду, не свішчу, а наеду — не спушчу.

Анфуса. Ну, мялі ўжо... на прасторы! *(Выходзіць.)*

Мурзавецкі. Але я, не, я пайду.

Лыняеў. Куды?

Мурзавецкі. Да яе.

Лыняеў. Ну не!

Мурзавецкі. Што «ну не»? Што такое, шаноўны пане, «ну не»?

Лыняеў. Няможна, не загадана вас прымаць.

Мурзавецкі. Мяне не загадана? О! Я вось пагляджу. *(Хоча ісці ў сад.)*

Лыняеў *(засланяе фортку).* Слухайце! Я вам па-сяброўску раю: язджайце дадому, а то нядобра.

Мурзавецкі. Што такое «нядобра»? Дазвольце вас... Дазвольце вас запытаць.

Лыняеў *(таямніча).* У садзе пастаўлены людзі, і, як вы ўвойдзеце, дык *(паказвае знакам)* разумееце?

Мурзавецкі. Што, што?

Лыняеў. Я не вінават, Яўлампія Мікалаеўна пажадала так распарадзіцца.

Мурзавецкі. Мяне ж не спужаеш; ну ды я, бадай, і не пайду, не трэба. Я, ведаеце, хацеў з ёю сваю справу мірам; а цяпер не, жартуеш, морген фры!

Лыняеў. Што вам за ахвота мірам?

Мурзавецкі. Ды шкада ж, чорт вазьмі! Пяцьдзесят тысяч вінавата.

Лыняеў. Добрыя грошы.

Мурзавецкі. Ды я не хацеў браць, нашто? Я проста, моншэр[1], хацеў, сан фасон[2], прапанаваў руку, каб, компрэне ву, злучыць капіталы. У мяне нічога... то бо, не, што я! У мяне багацце, у яе багацце, якія тут суды ды спагнанні.

Лыняеў. Добра было б, толькі яна за вас не пойдзе.

Мурзавецкі. Ну, дык ужо няхай не гневаецца, не памілую. Ах, моншэр, што я з ёю зраблю! Аграблю, начыстую аграблю.

Лыняеў. Пяцьдзесят тысяч патрэбуеце?

Мурзавецкі. Не, ужо тут не пяцьдзесят пахне. Паўтараста! Маёнтак гэты мой будзе, праз тыдзень мой.

Лыняеў. Вось і добра, суседзі будзем. *(Цісне руку Мурзавецкаму.)* Прашу любіць. А цяпер вам пара дадому! Вось гэта ці не ваша брычка? Мусіць, Меропа Давыдаўна па вас прыслала.

Мурзавецкі. Так, яна чакае; я абяцаў канчатковы адказ прывезці.

Лыняеў. Нашто ўжо больш канчатковы!

Мурзавецкі. А шкада мадам Купавінай, плакаць будзе. Орэвуар[3]. *(Выходзіць.)*

Чуваць свіст і голас: «Тамерлан, ісі!»
З процілеглага боку ўваходзяць Глафіра і Гарэцкі.

## З'ява VII

Лыняеў, Глафіра, Гарэцкі.

Глафіра. Вось рэкамендую: Гарэцкі, Клаўдзій. *(Гарэцкаму.)* А гэта Міхайла Барысыч Лыняеў, наш сусед-памешчык.

Гарэцкі *(здымаючы шапку)*. Я іх ведаю.

Лыняеў. Адзеньце, калі ласка!

Гарэцкі. Нічога! Глафіра Аляксееўна, дазвольце для вас якую-небудзь пакасць зрабіць.

Лыняеў. Вось дзіўная просьба!

Гарэцкі. Нічога не дзіўная. Чым жа я магу даказаць? Не, вы ўжо не перашкаджайце. Глафіра Аляксееўна, хочаце, увесь гэты плот паламлю?

Глафіра. Не, нашто?

---

[1] Мой дарагі (ад *фр.* mon cher).
[2] Без цырымоніі (ад *фр.* sans façon).
[3] Да пабачэння *(фр.)*.

Гарэцкі. Як бы я для вас прыбіў каго-небудзь, вось бы лупцоўку даў вясёлую.

Лыняеў. За гэта ж судзіць будуць.

Гарэцкі. А няхай сабе судзяць.

Лыняеў. Пасадзяць жа.

Гарэцкі. А пасадзяць, дык будзем сядзець. Глафіра Аляксееўна, загадайце якую-небудзь пакасць зрабіць!

Глафіра. Я ўжо нават і не ведаю, што вам загадаць.

Лыняеў. Ды нашто абавязкова пакасць? Папрасіце яго праўду сказаць.

Глафіра. Ну, вось, я прашу вас мне праўду сказаць, вы скажаце?

Гарэцкі. Якую праўду?

Глафіра. А вось, пра якую мы запытаемся.

Гарэцкі. Калі ласка, усё, што хочаце.

Лыняеў. А калі сакрэт?

Гарэцкі. Ды хоць перасакрэт. У мяне сваіх сакрэтаў няма, а калі які чужы, дык нашто мне патрэбна яго захоўваць. Я для Глафіры Аляксееўны — усё на свеце.

Лыняеў *(падаючы Глафіры пісьмо)*. Запытайце, хто гэта пісаў?

Глафіра *(Гарэцкаму)*. Хто гэта пісаў?

Гарэцкі. Ах! Запытайце пра што-небудзь іншае.

Лыняеў. А казалі, што ўсё на свеце.

Гарэцкі. Ды мне што ж, калі ласка; толькі за гэта грошы заплочаны.

Лыняеў. Колькі?

Гарэцкі. Дзесяць рублёў.

Лыняеў. А калі я дам пятнаццаць?

Гарэцкі. Калі дасце, скажу.

Лыняеў. Дык вось, вазьміце! *(Дае грошы.)*

Гарэцкі *(бярэ грошы)*. Вельмі дзякую. *(Кладзе грошы ў розныя кішэні.)* Дзесяць назад аддам, скажу, мала далі. Гэта я пісаў.

Лыняеў. Вы? Ну, дык вы мне вельмі патрэбны будзеце. У вас ёсць вольны час?

Гарэцкі. Ды ў мяне заўсёды вольны час.

Лыняеў. Хочаце ехаць да мяне сягоння ж? Я вам і заплачу добра, і стол у мяне добры, і віно, якое хочаце.

Гарэцкі. З прыемнасцю. Што ж, Глафіра Аляксееўна, загадайце якую-небудзь пакасць зрабіць!

Глафіра. Дык вы ж ужо зрабілі.

Гарэцкі. Колькі тае пакасці! Дый за грошы.

Лыняеў. Прабачце за няскромнае запытанне. Вы ведалі калі-небудзь розніцу паміж добрай справай і благой?

Гарэцкі. Як вам сказаць. Не, добра не ведаю.

Лыняеў. Так і не ведаеце?

Гарэцкі. Гэта ж філасофія; дык дзе ж нам ведаць!

Лыняеў. Чаму ж?

Гарэцкі. Сям'я вельмі вялікая была.

Лыняеў. Ну, дык што?

Гарэцкі. З шасці год трэба было ў дом што-небудзь цягнуць, галодных дзяцей карміць.

Лыняеў. Вас не вучылі?

Гарэцкі. Чаму не вучыць! Вучыць жа ў нас — гэта значыць біць, дык вучылі і дома, і чужыя, хто не ленаваўся. Асабліва п'яныя прыказныя па вуліцах, бывала, так і ловяць хлапчукоў за валасы, гэта для іх найлепшая забаўка.

Лыняеў. Вы казалі, што ў вас вялікая сям'я была, куды ж усе падзеліся?

Гарэцкі. Усе ў людзі выйшлі: адзін брат — вучоны, у фершалы выйшаў, ды далёка загналі, на Аландскія астравы; адзін быў у аптэцы хлапчуком, але навучыўся па-нямецку, дык цяпер кандуктарам да нямецкай граніцы ездзіць; адзін у Маскве ў мастака фарбы расцірае; некаторыя пісарамі ў станавых ды ў квартальных, два суфлёрамі ходзяць па гарадах; адзін на тэлеграфе недзе за Саратавам; а то адзін у Растовена-Доне пад грэцкім прозвішчам тытуном гандлюе; я вось на каморніка выйшаў. Ды шмат нас, усялякага звання ёсць.

Лыняеў. Вас цікава паслухаць. Вы проста ўжо да мяне адгэтуль. Я вас з сабой вазьму.

Гарэцкі. Добра. Я вас у канторы пачакаю. Да пабачэння, Глафіра Аляксееўна! *(Выходзіць.)*

### З'ява VIII

Лыняеў, Глафіра.

Глафіра. Ну, задаволены вы?

Лыняеў. Не магу выказаць, як я вам удзячны. Я так рад, што гатоў скакаць, як малое дзіця.

Глафіра. Дзіцём быць нядобра, будзьце лепш юнаком.

Лыняеў. Як жа гэта?

Глафіра. Стрымайце сваё слова!

Лыняеў. Якое?

Глафіра. А любезнічаць са мною.

Лыняеў. Няспрытны я, Глафіра Аляксееўна, што вам за радасць, каб я, у мае гады, блазнам прыкідваўся?

Глафіра. Ну, хоць крыху, злёгку.

Лыняеў. Ну, як жа любезнічаць? Загадаеце хваліць вашы вочкі?

Глафіра. Не, гэта глупства.

Лыняеў. Ці па-руску, як дзецюкі з дзеўкамі любезнічаюць, тыя вельмі проста, без цырымоніі.

Глафіра. А гэта ўжо занадта. Урэшце, усё-такі лепш, як гаварыць пошласці. Вось гора ваша! Любезнічаць не ўмееце, а любезнічаць трэба. Ну, ды не клапаціцеся, я вам памагу. Захутайцеся пледам, заткніце вушы ватай, а то сыра стала! Вось так. *(Ахінае Лыняева пледам.)*

Лыняеў. Дзякую вам.

Глафіра. Цяпер скажыце: няўжо вы ў жыцці не кахалі нікога?

Лыняеў. Чаму не кахаў!

Глафіра. Вы гаварылі што-небудзь з сваёй каханай?

Лыняеў. Шмат гаварыў, але я тады быў малады.

Глафіра. Ну, дык успомніце цяпер, што вы гаварылі.

Лыняеў. Гэта няцяжка. Я гаварыў адной бландзінцы, што нашы душы, яшчэ да з'яўлення на зямлі, былі родныя, што яны насіліся ў неабдымным сусвеце, лёталі, як матылькі, у праменнях месяца.

Глафіра. Ну, а другой што вы гаварылі?

Лыняеў. А другой, брунетцы, я гаварыў, што найму ёй шыкоўную дачу, куплю пару вараных рысакоў.

Глафіра. Вось гэта добра, мне гэта гаворка лепш падабаецца. І далей так гаварыце.

Лыняеў. Я абяцаў ёй горы залатыя, казаў, што не магу жыць без яе, хацеў застрэліцца, утапіцца.

Глафіра. А яна што?

Лыняеў. А яна казала: «Нашто вам страляцца ці тапіцца? Жаніцеся, вось і няма чаго вам больш клапаціцца». Не, кажу, мой анёл, гэта для мяне горш, як утапіцца. Ну, дык тапіцеся, кажа, бо я засмучаць матулю і радню сваю не хачу.

Глафіра. Яна была бедная дзяўчына?

Лыняеў. Бедная.

Глафіра. Дык дурная.

Лыняеў. А вы што ж бы зрабілі на яе месцы?

Глафіра. Я б вам ні ў чым не супярэчыла, я ўзяла б і дачу, і рысакоў, і грошы, і ўсё-такі вы ажаніліся б са мной.

Лыняеў. Але гэта немагчыма: я такі цвёрды ў сваіх намерах.

Глафіра. Не, вельмі проста.

Лыняеў. Але якім жа чынам, скажыце, растлумачце мне!

Глафіра. Давайце сядзем! *(Садзяцца на лаўку.)* Ну, уявіце сабе, што вы мяне кахаеце крышку, хоць так, як тую

брунетку! Іначай, вядома, нічога нельга. *(Садзіцца з нагамі на лаўку і прыхіляецца да Лыняева.)*

Л ы н я е ў. Дазвольце, што ж гэта вы?

Г л а ф і р а *(адсоўваючыся)*. Ах, прабачце!

Л ы н я е ў. Не, нічога, я толькі хацеў запытацца ў вас, што гэта вы ў ролю ўваходзіце, ці таму, што мяне за мужчыну не лічыце?

Г л а ф і р а. Я празябла крыху.

Л ы н я е ў. Дык зрабіце ласку, не турбуйцеся, калі гэта вам прыемна.

Г л а ф і р а *(зноў прыхіляецца да Лыняева)*. Дык вось, вы мяне кахаеце, мы жывём душа ў душу. Я — увасабленне лагоднасці і пакорлівасці, я не толькі выконваю, але папярэджваю вашы жаданні, а між тым патроху забіраю ў рукі вас і ўсю вашу гаспадарку, уведваю самыя нязначныя вашы прывычкі і капрызы і нарэшце за кароткі час раблюся для вас неабходнасцю, так што вы без мяне кроку ступіць не можаце.

Л ы н я е ў. Так, я згаджаюся, што гэта магчыма.

Г л а ф і р а. Вось аднае раніцы я і кажу вам: «Татуля, я адчуваю патрэбу памаліцца, адпусці мяне дзянькі на тры на багамолле!» Вы, вядома, спачатку засупярэчыце, я скаруся вам без наракання. Потым зрэдку нясмела паўтараю сваю просьбу і гляджу на вас некалькі дзён запар з мальбой у вачах; вы ўсё, дзень за дзень, адкладваеце і нарэшце адпускаеце. Без мяне пачынаецца ў доме вэрхал: тое не так, другое не пад густ; то кофе горкі, то абед спазніўся; то ў вас у кабінеце не прыбрана, а калі прыбрана, дык на стале паперы і кнігі не на тым месцы, дзе ім трэба. Вы пачынаеце нервавацца, часта ўздыхаць, то бегаць па пакоі, то спыняцца, разводзіць рукамі, гаварыць з самім сабой; пачынаеце прыслухоўвацца, ці не едуць; часта выбягаць на ганак; а я знарок забаўлюся дні два, тры. Нарэшце вам ужо не сядзіцца, вы траціце цярплівасць і пачынаеце хадзіць па дарозе вярсты за дзве ад дому. Вось я еду. Колькі радасці! Зноў ціхае, спакойнае жыццё для вас; у вашых вачах толькі шчасце і бясконцая пяшчота.

Л ы н я е ў *(уздыхаючы)*. Ну і што ж яшчэ, і чаго ж яшчэ?

Г л а ф і р а. Але вось раз, калі ваша пяшчота не ведае мяжы, я кажу вам са слязьмі: «Мілы татуля, мне сорам людзям у вочы глядзець. Я павінна хавацца ад усіх, жывую пахаваць сябе, а я яшчэ маладая, мне жыць хочацца...»

Л ы н я е ў. Так... ах, сапраўды!

Г л а ф і р а. Бывай, мілы татуля! Не трэба мне ніякіх тваіх скарбаў.

Л ы н я е ў. Ах, каб яго чорт, як гэта дрэнна!

Глафіра. Я іду замуж.

Лыняеў. За каго?

Глафіра. Ну, хоць за Гарэцкага.

Лыняеў. Надзвычайная пара!

Глафіра. Так, ён бедны, але я ўсё-такі буду мець хоць якое-небудзь становішча ў грамадстве. Ды ўжо кончана, я адважылася.

Лыняеў. Але ж нельга так раптоўна, ні з таго ні з сяго, кінуць чалавека! Трэба было раней думаць і загадзя папярэдзіць.

Глафіра. Я баялася, мілы татуля. Хіба ты не бачыш, я худзею, сохну з кожным днём, я магу захварэць сур'ёзна, памерці.

Лыняеў. Гэта несумленна! Усё гэта наўмысля!

Глафіра. Калі ты не верыш, як сабе хочаш; я гатова ахвяраваць для цябе нават жыццём.

Лыняеў. Ну вось жа!

Глафіра. Што рабіць, у мужчын такі цвёрды характар.

Лыняеў. Усё-такі я пастаўіў на сваім.

Глафіра. Так, на сваім. Дзе ж нам спрачацца з вамі? Толькі ў той жа дзень пад вечар я неўзаметку знікаю, і ніхто не ведае, гэта значыць ніхто не скажа вам куды. Праходзіць дзень, другі; вы рассылаеце па ўсіх дарогах пасланцоў, сышчыкаў, самі кідаецеся сюды і туды; траціце сон, апетыт, вар'яцееце. І вось за некалькі хвілін да таго, як вам ужо сапраўды трэба звар'яцець, вам гавораць па сакрэту, дзе я хаваюся. Вы кідаецеся да мяне з падаркамі, з брыльянтамі, са слязьмі моліце мяне вярнуцца,— я непахісная. Вы плачаце, я сама рыдаю! Я кахаю вас, мне шкада з вамі разлучацца, але я непахісная. Нарэшце я кажу вам: «Мілы татуля, ты любіш халастое жыццё, ты не можаш жыць іначай,— зробім вось што! Павянчаемся цішком, так што ніхто не будзе і ведаць; ты зноў будзеш жыць халасцяком, усё пойдзе па-ранейшаму, нічога не зменіцца,— толькі я буду спакойная, не буду пакутаваць». Вы пасля некаторага хістання згаджаецеся.

Лыняеў. Так, вельмі можа быць, вельмі можа быць, сапраўды, гэта магчыма. Але я ўсё-такі пастаўіў на сваім.

Глафіра. Так, на сваім. Але назаўтра ж адкуль у мяне гэта свецкасць возьмецца, гэта ленасць, гэта павольнасць у рухах! Адкуль возьмуцца гэтыя шыкоўныя ўборы!

Лыняеў. Так, вось што?

Глафіра. Адтапырыцца ніжняя губка, з'явіцца загадны тон, велічны жэст. Якая мілая і пяшчотная буду я з чужымі і якая строгая з вамі! Які шчаслівы будзеце вы, калі дачакаецеся ад мяне ласкавага слова! Ужо не буду я мітусіцца і бегаць для вас, і не будзеце вы татулем, а проста Мішэль... *(Гаворыць з*

*ленасцю.)* «Мішэль, збегай, я забыла ў садзе на лаўцы сваю хустку!» І вы пабяжыце. Гэта вось адзін спосаб прымусіць жаніцца; ён хоць стары, але пэўны; а то ёсць яшчэ і іншыя.

Лыняеў. Так, але ж так можна злавіць чалавека толькі тады, калі ён кахае.

Глафіра. Вядома. Для вас няма ніякай небяспекі, бо вы нікога не кахаеце.

Лыняеў. Для мяне няма небяспекі, і я вельмі гэтаму рад. Але калі б мне ўжо прыйшлося пакахаць каго-небудзь, дык пакахаў бы вас. *(Цалуе руку Глафіры.)*

Глафіра. Гэта што такое? Гэта нашто?

Лыняеў. Так.

Глафіра. Калі проста «так», дык крыўдна. На вас пяшчотнасць напала, і добра, што якраз я тут блізка, дык вы і берацеся проста за мяне рукамі.

Лыняеў. Ды не. Вы ж самі хацелі, каб я любезнічаў з вамі.

Глафіра. Ах, я і забылася. Ну, дык цалуйце ўжо.

Лыняеў. І пацалую. *(Цалуе другую руку.)*

Глафіра. Вы, мусіць, таксама пачынаеце ўваходзіць у смак вашай ролі.

Лыняеў. Я надоечы баяўся нешта, а цяпер лічу, што гэта вельмі прыемны жарт.

Глафіра *(уздыхаючы)*. Так, так, на жаль, толькі жарт.

Уваходзіць Анфуса.

## З'ява IX

Лыняеў, Глафіра, Анфуса.

Анфуса. Вячэраць ужо... чакаюць... Што ж ноччу... Сыра... Прыслалі ўжо... мяне...

Глафіра *(Лыняеву)*. Хадзем!

Лыняеў. Я зараз за вамі.

Глафіра і Анфуса выходзяць.

А якая яна прыгожая, якая мілая, разумная! Вось хіба ж доўга! Пасядзіш гэтак вечароў два з ёй і пачнеш думаць, а там толькі не ўсцеражыся, і запрагуць. Добра яшчэ, што яна ў манастыр ідзе, а то і ад яе трэба было б уцякаць. Не, хутчэй павячэраць у іх ды дадому, далей ад граху, толькі яна мяне і бачыла. А пасля хоць і ўбачуся з ёю, дык толькі «дзень добры!» ды «бывайце!». Харошая ты, Глафіра Аляксееўна, а воля, і спакой, і халастое жыццё маё лепшае за цябе.

## ДЗЕЯ ЧАЦВЁРТАЯ

Пакой у азіяцкім гусце ў доме Купавінай, з адным выхадам на тэрасу, шкляныя расчыненыя дзверы з парцьерамі, паабапал дзвярэй два вялікія акны, закрытыя драпіроўкамі; пры сценах і пад вокнамі мяккія канапы. За балясамі тэрасы відаць сад і за ім маляўнічая вясковая мясцовасць.

### З'ява I

Купавіна, Глафіра, потым лакей.

Купавіна. Здаецца, у цябе з Лыняевым справа пасоўваецца.

Глафіра. Ах, гэта толькі здаецца.

Купавіна. Ён учора быў такі мілы з табой.

Глафіра. Па заказу — гэта быў жарт.

Купавіна. Ты траціш надзею, бедная.

Глафіра. Ну, не зусім. Трэба яшчэ раз убачыць яго, тады я буду ведаць напэўна, можна на яго разлічваць ці не.

Купавіна. А вось сягоння ўбачыш. Мне Гарэцкі прынёс пісьмо ад яго; ён прыедзе, і ўгадай, з кім.

Глафіра. Што тут угадваць! Па вачах бачу, што жаніха чакаеш.

Купавіна. Так, ашчасліviў нас Васілій Іванавіч Беркутаў, прыбыў з Пецярбурга.

Глафіра. Калі яны прыедуць?

Купавіна. Вядома, вечарам. Трэба прыадзецца для такога дарагога госця.

Глафіра. Але да вечара Меропа Давыдаўна можа прыслаць па мяне коней.

Купавіна. Коні і пачакаюць.

Глафіра. Зазлуе.

Купавіна. Пазлуе дый памілуе.

Глафіра. Няхутка, на гэта яна не спяшаецца.

Уваходзіць лакей.

Лакей *(падаючы пісьмо Купавінай)*. Меропа Давыдаўна брычку прыслалі і пісьмо загадалі вам аддаць.

Купавіна распячатвае і чытае сама сабе.

Глафіра. Ну, так я і ведала! Вось няшчасце! Зноў чорнае адзенне, зноў прытворства і пост.

Купавіна *(лакею)*. Вукол Навумыч у сядзібе?

Лакей. Не, яны ў горадзе.

К у п а в і н а *(заклапочана)*. Што ж мне рабіць? Гэта так нечакана... Я зусім разгублена.

Г л а ф і р а. Што з табой?

К у п а в і н а. А вось паслухай, што Меропа Давыдаўна піша. *(Лакею.)* Ідзі, скажы, каб фурман пачакаў!

Л а к е й выходзіць.

Г л а ф і р а. Чытай, чытай!

К у п а в і н а *(чытае)*. «Шаноўная пані, Яўлампія Мікалаеўна!»

Г л а ф і р а. Нешта строга пачынаецца.

К у п а в і н а. Не, ты паслухай, што далей! *(Чытае.)* «Вы ўчора не пажадалі прыняць майго пляменніка. Каб вы былі дома адны ці вялі вельмі скромнае жыццё, я б нічога не сказала, а то ў вас былі людзі, якія нічым за яго не лепшыя. Ён такі самы дваранін, як і Лыняеў, і ўжо напэўна не дурнейшы за яго. Ці вы зрабілі гэта не падумаўшы, ці вас навучыў які-небудзь разумны чалавек. Калі вы ўжо забыліся на ўсю маю дабрату і ласку да вас, дык павінны былі памятаць, што за крыўду я ніколі ў даўгу не астаюся. Вы так забаўляліся ці захапляліся, што забыліся, што ў вас з Апалонам ёсць справа. Мы, па прастаце і па дабраце сваёй, думалі пашкадаваць вас, як малое безабароннае дзіця, і хацелі скончыць усю справу мірам, як належыць, па-хрысціянску, у любасці і згодзе. Але калі ўжо вы самі адварочваецеся ад нас і зневажаеце дабрадзеяў, то ўжо не гневайцеся на нас. Спагнанне з вас вельмі вялікай сумы, чаго і ўвесь маёнтак ваш не варт, я зраблю з усёй строгасцю і шкадаваць вас і плакаць па вас не буду. Былая ваша дабрадзейка, Меропа Мурзавецкая». Што ты на гэта скажаш?

Г л а ф і р а. Ці не пужае яна цябе?

К у п а в і н а. Вось сюрпрыз! Я не ведаю, што і адказваць. Трэба пачакаць гэтых паноў, параюся з імі. Вось табе і нехаця прыходзіцца астацца.

Уваходзіць А н ф у с а.

## З'ява II

К у п а в і н а, Г л а ф і р а, А н ф у с а.

А н ф у с а. Прыехалі ж ужо... што ж вы!..

К у п а в і н а. Няўжо яны?

А н ф у с а. Ды каму ж?..

К у п а в і н а. Дык я пайду, адзенуся.

Анфуса. Вядома ўжо... хіба добра!.. Амаль чужы...
Купавіна. Папрасіце іх пачакаць!
Анфуса. Ды вунь ужо... Сюды... з саду.
Купавіна *(Глафіры)*. Хадзем.

Выходзяць Глафіра і Купавіна.

Анфуса. Хай жа ж бы раней!.. Казала ўжо...

Уваходзяць Лыняеў і Беркутаў.

## З'ява III

Анфуса, Лыняеў, Беркутаў.

Лыняеў. Вось, Анфуса Ціханаўна, рэкамендую вам друга. Васілій Іваныч Беркутаў.

Анфуса. Ужо ведаю... даўно ж...

Беркутаў. Як ваша здароўе, шаноўная Анфуса Ціханаўна?

Анфуса. Нічога... так... галава іншы раз. Пачакаць ужо... хоць тут... прасіла... зараз...

Лыняеў. Не турбуйцеся, Анфуса Ціханаўна, мы пачакаем.

Анфуса. Ну, то-та!.. Не доўга... што ёй там. Не гневайцеся! *(Выходзіць.)*

Лыняеў. Вось яна сама табе раскажа, як выдурылі ў яе тысячу рублёў.

Беркутаў. Не гарачыся, калі ласка, не гарачыся!

Лыняеў. Як не гарачыся? Не магу не гарачыцца; гэта ж падлог, разумееш ты, падлог!

Беркутаў. Супакойся! Ніякага падлогу няма.

Лыняеў. Ды Гарэцкі прызнаўся. Чаго ж табе! Шкада, я праспаў і не паспеў яшчэ распытацца ў яго як мае быць сягоння раніцой; потым ты прыехаў і скраў яго ў мяне.

Беркутаў. Я доўга гаварыў з Гарэцкім і ў горад з ім ездзіў. Ён цябе падмануў. Яму спатрэбіліся грошы, ён і выдумаў сам на сябе. І ты нішто сабе, паверыў Гарэцкаму.

Лыняеў. Што ні кажы, а гэта справа нячыстая.

Беркутаў. Па-мойму, у вашым асяроддзі Меропа Давыдаўна павінна стаяць вышэй падазрэння. Нішто сабе асяроддзе, дзе ўсе глядзяць адзін на другога як на разбойнікаў.

Лыняеў. Ад Меропы ўсяго чакаць можна.

Беркутаў. Правінцыялы любяць крымінальшчыну, гэта ўжо вядома. Вам маркотна без скандалаў, падкопваецеся адзін пад другога; больш вам рабіць няма чаго.

Л ы н я е ў. Ды грабяць жа Яўлампію Мікалаеўну.

Б е р к у т а ў. Ну, як хочаш, а пакуль я тут, ты ў яе справы не ўмешвайся, калі ласка: я цябе прашу. Пашукай сабе другой работы!

Л ы н я е ў. Па-твойму, і Чугуноў добры чалавек.

Б е р к у т а ў. А што ж Чугуноў? Пад'ячы як пад'ячы,— вядома, пальца ў рот не кладзі. Вы ж гарачыя юрысты, усё больш наконт вышэйшых поглядаў, а глядзіш, простага прашэння напісаць не ўмееце. А Чугуновы — старога гарту. Звод законаў на памяць ведаюць; вось яны і патрэбны.

Л ы н я е ў. Добра табе — ты прыедзеш ненадоўга; а як жыць з гэтым народам? Паспрабаваў бы ты!

Б е р к у т а ў. Хто ўмее жыць, той усюды ўжывецца. А хто дзяцініцца, як ты, таму ўсюды цяжка. Я ўжывуся.

Л ы н я е ў. Паглядзім. Дык ты да нас надоўга?

Б е р к у т а ў. Не. Пасля, можа, і зусім тут пасялюся, а цяпер мне няма калі: у мяне вялікая справа ў Пецярбургу. Я прыехаў толькі жаніцца.

Л ы н я е ў. З кім?

Б е р к у т а ў. Што за пытанне? З Яўлампіяй Мікалаеўнай.

Л ы н я е ў. Хіба ў вас ужо скончана?

Б е р к у т а ў. Яшчэ і не пачыналася.

Л ы н я е ў. Яшчэ і не пачыналася, а ты ўжо так упэўнена гаворыш?

Б е р к у т а ў. Ды ніякіх прычын не бачу сумнявацца. Ох, брат, я ўжо даўно паглядваю.

Л ы н я е ў. На Яўлампію Мікалаеўну?

Б е р к у т а ў. Не, на гэты маёнтак, ну і на Яўлампію Мікалаеўну, вядома. Колькі выгады, колькі прыбытковых галін, якая прыгожая мясцовасць. *(Паказваючы на дзверы.)* Паглядзі, гэта ж хараство! А вунь, налева, ля рэчкі, які прыгожы куточак. Нібы сама прырода стварыла яго.

Л ы н я е ў. Для швейцарскай халупінкі!

Б е р к у т а ў. Не, для бровара. Прызнаюся табе, грэшны чалавек, я ўжо даўно думаў. Купавін — стары дзядуля, не сягоння-заўтра памрэ, астанецца добры маёнтак, прыгожанькая ўдава... Я такі папрацаваў ужо на сваім вяку, думаю пра адпачынак; а што лепшае трэба для адпачынку, як такі маёнтак, прыгожая жонка, якая-небудзь ганаровая пасада...

Л ы н я е ў. Мы цябе ў прадвадзіцелі.

Б е р к у т а ў. Мы! А ці многа вас? Вы тут сварыцеся, на дзесяць партый разбіліся. Ну, вось я далучыўся да вас, дык ваша партыя будзе мацнейшая. Ведаеш, што я заўважаю? Тваё вальнадумства пачынае вытыхацца; вы, правінцыялы,

мала чытаеце. Выйшла шмат новых кніг і брашурак па тваёй галіне; я з сабой прывёз шмат. Калі хочаш, падару табе. Праглядзі кніжкі са дзве, дык табе гаворкі гадоў на пяць хопіць.

Л ы н я е ў. Вось дзякуй табе! Значыць, у цябе за малым справа стала, толькі ажаніцца?

Б е р к у т а ў. Так, ажаніцца, мой друг, ажаніцца хутчэй. Маёнтак я ведаю як свае пяць пальцаў; парадкі ў ім заведзены найлепшыя; трэба спяшацца, каб не паспелі запусціць гаспадарку. Разумны быў стары Купавін.

Л ы н я е ў. Пад старасць, здаецца, крышку крануўся.

Б е р к у т а ў. Чаму ты думаеш?

Л ы н я е ў. Лесу накупіў тысяч на сто.

Б е р к у т а ў. Вось розум! Вось дзякуй яму!

Л ы н я е ў. Затое чыстых грошай Яўлампіі Мікалаеўне пакінуў мала; у яе цяпер нястача.

Б е р к у т а ў. І добра зрабіў. Каб ён пакінуў грошы, дык іх даўно б не было, а лес стаіць ды расце яшчэ.

Л ы н я е ў. Ды дзе яго дзяваць! На лес у нас ніякай цаны няма.

Б е р к у т а ў. Лес Купавінай варт паўмільёна. Праз дзесяць дзён вы пачуеце, што тут пройдзе чыгунка. Гэта з пэўных крыніц, толькі ты маўчы пакуль што.

Л ы н я е ў. Ай, ай! Спрытна! А вось што! Я ж табе казаў: бланк жа яна выдала Чугунову, бланк.

Б е р к у т а ў. Магла паганая штука выйсці.

Л ы н я е ў. Як «магла»?

Б е р к у т а ў. Каб бланк трапіў у іншыя рукі.

Л ы н я е ў. А Чугуноў памілуе, ці што?

Б е р к у т а ў. У Чугунова, як і ва ўсіх старых жулікаў, душа кароткая ды і патрэбы абмежаваныя. Я даведваўся: ён тут ялавіну таргуе — тры тысячы просяць. Напэўна, ён гэтым і задаволіцца.

Л ы н я е ў. Значыць, перашкод няма, і ты ажэнішся. Але цікава, як ты гэта ўладзіш?

Б е р к у т а ў. Ну, як — я яшчэ не ведаю, гледзячы па акалічнасцях; толькі, ва ўсякім разе, гэта будзе. Жанчыны любяць думаць, што яны вольныя і могуць пакіроўваць сабой, як ім хочацца; а на справе яны ніяк і ніколі не пакіроўваюць сабой, а пакіроўваюць імі спрытныя людзі.

Уваходзіць К у п а в і н а.

## З'ява IV

Лыняеў, Беркутаў, Купавіна.

Купавіна. Прабачце, панове!

Лыняеў. Вы нам прабачце, што мы не ў пару.

Беркутаў *(цалуючы рукі Купавінай)*. Мне за паспешнасць можна даравацъ, я так даўно не бачыў вас... Нецярплівасць мая была такая вялікая...

Купавіна *(з усмешкай)*. Што, каб крыллі...

Беркутаў. Я прыляцеў бы яшчэ раней.

Лыняеў. Ну, для амура ты ўжо крыху зацяжкі стаў.

Купавіна. Ды ўжо і стрэлы, я думаю, патраціў.

Лыняеў. Не, ён яшчэ захаваў на ўсякі выпадак.

Купавіна. Хіба ўжо крыху і то не вельмі вострыя.

Беркутаў. Затое я стаў больш ашчадным і не раскідаю іх дарэмна.

Купавіна. А страляеце толькі напэўна?

Беркутаў. Прынамсі, не трачу дарэмна, і гэта добра.

Лыняеў. Ці не дазволіце вы мне пагуляць па садзе? А то, калі я пасля абеду доўга ў пакоі...

Купавіна. Дык сон агортае?

Лыняеў. Угадалі.

Купавіна. Зрабіце ласку, рабіце, як вам лепш.

Лыняеў *(выходзячы)*. Чыя гэта брычка ў вас на двары?

Купавіна. Мурзавецкая прыслала па Глафіру Аляксееўну.

Лыняеў. Дык яна ад'язджае?

Купавіна. А вам шкада?

Лыняеў. Не скажу, каб вельмі. А хутка ад'язджае?

Купавіна. Зараз.

Лыняеў. Шчасліва, абрусом ёй дарожка! *(Выходзіць.)*

## З'ява V

Купавіна, Беркутаў, потым лакей.

Купавіна. Надоўга вы да нас?

Беркутаў. Не, на няшчасце, на кароткі час, я прыехаў па справе.

Купавіна. Па справе?

Беркутаў. Я мог бы падмануць вас, сказаць, што прыехаў, каб убачыць вас, каб палюбавацца вамі; але, па-першае, вы гэтаму не паверыце...

Купавіна. А можа, і паверу.

Беркутаў. Ну, дык я не хачу вас падманваць. Пасля двух гадоў разлукі, як я адважуся думаць, што мае пяшчоты будуць вам прыемны? Вы маглі перамяніцца, ды, напэўна, і перамяніліся. Вы цяпер жанчына багатая і вольная, заляцацца да вас не зусім сумленна; ды і вы на кожнага ўздыхальніка павінны глядзець як на ворага, які хоча адабраць у вас і адно і другое, гэта значыць, і багацце, і волю. Раней — іншая справа: вы былі ў залежным становішчы, дый абое мы былі маладзейшыя. *(Уздыхаючы.)* Ах, які добры час быў!

Купавіна. Дык вы зусім адмаўляецеся заляцацца да мяне?

Беркутаў. Зусім. А вам хацелася памучыць мяне, пазабаўляцца? Не тойцеся! Я ўжо бачу па вашых вачах. Ну, Бог з вамі! Хавайце какецтва для іншых; паклоннікаў у вас будзе шмат. Пагутарым, як дзелавыя людзі! Я прыехаў прадаць маёнтак.

Купавіна. Што вам уздумалася? Дзедаўскі маёнтак.

Беркутаў. Дык што ж, што дзедаўскі? Даходаў вельмі мала, няма выгады мець яго, чыстыя грошы мне больш дадуць.

Купавіна. І вас нічога не прывязвае да месца вашага нараджэння, вам нічога не шкада тут?

Беркутаў. Можа, і шкада, але не выгадна.

Купавіна. Усё выгада ды выгада і ні капелькі сэрца.

Беркутаў. Астывае яно з гадамі, Яўлампія Мікалаеўна. Купіце ў мяне маёнтак!

Купавіна. У мяне грошай няма, ды я і дрэнная гаспадыня.

Беркутаў. Вы скромнічаеце. У вас усё так добра, усё ў такім квітнеючым выглядзе, усюды парадак, чыстата.

Купавіна. Чыстата справа жаночая і вельмі няхітрая; а як ідзе гаспадарка ў мяне, я не маю ўяўлення. Бываюць справы, якія вышэй майго разумення; я павінна давярацца чужым людзям і, вядома, магу быць ашуканай.

Беркутаў. Што ж, напрыклад?

Купавіна. Ды вось і цяпер ёсць у мяне справа, якая мяне вельмі непакоіць.

Беркутаў. Калі не сакрэт, скажыце.

Купавіна. Ніякі не сакрэт, я нават хацела параіцца з вамі і прасіць вашай дапамогі.

Беркутаў. Усёй душой рад вам дапамагчы, калі толькі час дазволіць. У чым справа?

Купавіна. Расказваць доўга, а вось лепш прачытайце пісьмо. *(Падае пісьмо Мурзавецкай.)*

Беркутаў *(прачытаўшы пісьмо, аддае яго назад)*. Прачытаў.

Купавіна. Што ж вы скажаце?

Беркутаў. Трэба ўведаць, якая вялікая прэтэнзія, аглядзець дакументы.

Купавіна. Я чула, дваццаць пяць тысяч. А потым?

Беркутаў. Потым хутчэй заплаціць грошы, каб не даводзіць да працэсу. На ўсякі выпадак трэба мець тысяч трыццаць. Ёсць у вас?

Купавіна. Не, у мяне грошай вельмі мала.

Беркутаў. Вось гэта кепска.

Купавіна. Вы мяне пужаеце.

Беркутаў. Зусім не пужаю; нашто мне вас пужаць? Я толькі растлумачваю вам ваша становішча.

Купавіна. Якое ж маё становішча?

Беркутаў. Незайздроснае. Вы вельмі багатая жанчына, але гэтыя трыццаць тысяч так могуць сапсаваць ваша багацце, што вам яго ніколі не паправіць.

Купавіна. Чаму ж?

Беркутаў. Вы павінны ці залажыць маёнтак у банк...

Купавіна. Вось і грошы!

Беркутаў. Але тады амаль усе даходы пойдуць на працэнты, і вам самім мала астанецца на пражыццё.

Купавіна. Дык закладваць не трэба.

Беркутаў. У такім выпадку трэба прадаць частку маёнтка, лес, напрыклад. У вас ёсць тысячы паўтары дзесяцін лесу.

Купавіна. Як паўтары? Чатыры тысячы.

Беркутаў. У другім месцы гэта велізарнае багацце, а тут на лес цэны нізкія: лесапрамыслоўцы дадуць вам рублёў па дзесяць за дзесяціну, значыць, трэба прадаць яго амаль увесь. А без лесу маёнтку грош цана. Дадуць і даражэй, як па дзесяць рублёў, але з растэрміноўкай выплаты, пасля высечкі, а вам патрэбны грошы цяпер. Вось якое ваша становішча!

Купавіна. Так, я цяпер бачу.

Уваходзіць лакей.

Лакей. Васілій Іваныч, вас межавы пытаецца. Кажа, што абавязкова трэба вас бачыць.

Беркутаў *(Купавінай)*. Дазвольце мне ў вашай прысутнасці сказаць Гарэцкаму дзесяць слоў, не больш. Я пасылаю яго ў Волагду межаваць лясы ў маім маёнтку.

Купавіна. Зрабіце ласку. *(Лакею.)* Пакліч! Мы пагаварыць яшчэ ўспеем.

Лакей выходзіць. Уваходзіць Гарэцкі.

## З'ява VI

Беркутаў, Купавіна, Гарэцкі.

Беркутаў *(Гарэцкаму)*. Што вам трэба?

Гарэцкі. Па мяне дзядзька прыслаў, загадвае, каб зараз прыехаў. Як загадаеце?

Беркутаў. Вы не ведаеце чаго?

Гарэцкі. Кажуць, справа ёсць.

Беркутаў *(падумаўшы)*. Едзьце і рабіце ўсё, што вам загадаюць. А між тым збірайцеся: вы паедзеце заўтра ў поўдзень на параходзе. Раніцой вы мне будзеце патрэбны, пастарайцеся мяне ўбачыць раней, чым я буду ў Меропы Давыдаўны; выходзьце мне насустрач, на дарогу.

Гарэцкі. Хоць за пяць вёрст, калі загадаеце.

Беркутаў. Так далёка не трэба. Толькі пастарайцеся, каб вас не заўважылі; наогул, не будзьце вельмі шчырым і не балбачыце глупства. Вы аддалі пятнаццаць рублёў Міхаілу Барысычу?

Гарэцкі. Зараз у садзе аддам. Грошай мне не дасце?

Беркутаў. Заўтра раніцой пяцьдзесят рублёў, а цяпер ні граша. Бывайце.

Гарэцкі кланяецца і выходзіць.

## З'ява VII

Беркутаў, Купавіна.

Беркутаў. Вінават. З Гарэцкім я скончыў, і я ўвесь да вашых паслуг.

Купавіна. Жадаеце працягваць нашу размову? Суцешце мяне!

Беркутаў. Вельмі рад, вельмі рад. Я дзіўлюся, як вы да гэтага часу не разлічыліся з Мурзавецкай,— вы бачыцеся з ёю часта? Трэба было як мае быць разабраць справу, на слова нікому верыць не трэба, і пагадзіцца на якой-небудзь умове, схіліць яе на ўступку, на растэрміноўку, каб расплаціцца без цяжкасцей і без клопату. Вы, як відаць, не паспелі як належыць азнаёміцца ні з маёнткам вашым, ні з даходамі, ні з абавязацельствамі, якія ляжаць на вашым маёнтку. Вы скажаце: «Я ўсё пела». Вельмі добра. З вас шмат і патрабаваць нельга: вы неспрактыкаваная, ваша становішча новае для вас. Але няўжо ў вас, апрача прадажнага пад'ячага, не было ні блізкіх, ні знаёмых, хто мог бы прывесці ў парадак справы

вашага маёнтка? Няўжо вы ні ў кім не бачылі спагады да сябе, не мелі ні ад кога добрай парады?

Купавіна. Не, мела.

Беркутаў. І што ж?

Купавіна. Ды не паслухала.

Беркутаў. І нават не адказалі на пісьмо...

Купавіна. Досыць дзіўнае, у якім...

Беркутаў. Было ўсё, што патрэбна для вас: сяброўская спагада і практычная парада.

Купавіна. Вы злуеце на мяне?

Беркутаў *(з усмешкай)*. Не.

Купавіна. Дык дакажыце, што не, і памажыце добрай парадай!

Беркутаў. Гэта мой абавязак. Але ці прымеце вы маю параду? Дайце мне слова, што вы мяне паслухаеце.

Купавіна. Звязаць сябе словам, не ведаючы...

Беркутаў. Не бойцеся, мая парада некарыслівая: я маю на ўвазе толькі адну вашу карысць.

Купавіна. У такім выпадку я прыму. Што ж вы мне параіце?

Беркутаў. Ідзіце хутчэй замуж!

Купавіна *(са здзіўленнем)*. Замуж? За каго?

Беркутаў. За Мурзавецкага.

Купавіна. Вы мяне абражаеце.

Беркутаў. І ў думках не было нічога, апрача добрага пачуцця да вас.

Купавіна. Я не ведаю, як яны асмеліліся! Намёкі Меропы Давыдаўны вельмі выразныя былі.

Беркутаў. Ды чаму ж ім не асмеліцца? Ён — дрэнь хлопчык; але ж сваіх недахопаў ён не заўважае. Ён дваранін, яшчэ малады, можа атрымаць сёе-тое ад цёткі, і нельга сказаць, каб вы, з вашым пасагам, стаялі для яго занадта высока.

Купавіна. Вы ці жартуеце, ці хочаце пакрыўдзіць мяне.

Беркутаў. Ні тое, ні другое; кожны разумны чалавек скажа вам тое самае.

Купавіна. Дык, па-вашаму, для мяне адзіны сродак — пайсці за Мурзавецкага?

Беркутаў. Не адзіны, але найлепшы, каб захаваць цэлы маёнтак і не згалець...

Купавіна *(цвёрда)*. Дык ісці? Я ў вас рашуча пытаюся!

Беркутаў. Так, ідзіце! Добра зробіце, вельмі добра.

Купавіна. Які тон у вас абыякавы! Вы, і як медык, асуджаеце на смерць, без спачування.

Беркутаў. Але калі зварачаюцца да медыка, дык ад яго не спачування патрабуюць, а ведання свае справы і карыснай парады.

Купавіна. Я магла спадзявацца, мяркуючы па вашых ранейшых адносінах...

Беркутаў. Бязлітасны час забраў усё.

Купавіна. І па апошнім пісьме...

Беркутаў. За апошняе пісьмо даруйце! Збіраючыся сюды не надоўга і, напэўна, апошні раз, я хацеў сустрэцца з усімі ветліва і пакінуць добрае ўражанне. Можа, я перасаліў, напісаў пошласць.

Купавіна. Усяго?

Беркутаў *(холадна)*. Усяго. Вы яшчэ не адказвалі Мурзавецкай на пісьмо?

Купавіна. Не.

Беркутаў. Трэба адказаць.

Купавіна. Я не ведаю — што.

Беркутаў. Гэта няцяжка. Калі хочаце, я вам памагу. Я заўтра раніцой буду ў Мурзавецкай і пагавару пра вашу справу; можа, яна і не такая страшная, як здаецца здалёк. Вы мне давяраеце?

Купавіна. Я прашу вас.

Уваходзіць Лыняеў.

### З'ява VIII

Купавіна, Беркутаў, Лыняеў.

Лыняеў. Хадзіў, хадзіў па садзе, яшчэ горш, так і хіліць.

Купавіна. Гэтаму гору памагчы можна лёгка. Мы з Васіліем Іванычам пойдзем пісаць пісьмо Мурзавецкай, а вы можаце распалажыцца тут, як вам падабаецца. Гэты пакой мой муж знарок і зрабіў для пасляабедзенных адпачынкаў: вокны на поўнач, навакол зелень, цішыня, мяккія канапы.

Лыняеў. Якраз гэта ўсё мне і патрэбна, каб быць цалкам шчаслівым.

Купавіна. Дык і будзьце!

Лыняеў. Пастараюся.

Купавіна і Беркутаў выходзяць.

Няхай сабе хто як хоча гаворыць, а халастое жыццё вельмі прыемнае. Вось цяпер, напрыклад, каб я быў жанаты, жонка ж не дала б мне спаць. «Не спі, душачка, нядобра, табе

няздорава, ты ад гэтага таўсцееш». А таго і не ведае, як «душачцы прыемна заснуць, калі сон агортае і вочы зліпаюцца». *(Садзіцца на канапу пад акном.)*

Глафіра з-пад парцьеры глядзіць на яго прагным драпежным позіркам, як кошка на мыш.

А як добра прачынацца халастому! Як толькі расплюшчыш вочы, першая думка: што ты сам сабе пан, што ты вольны. Не, я кончаны халасцяк — я сваю дарагую волю не прамяняю ні на якія пяшчоты аксамітных ручак. *(Павольна схіляецца да ўзгалоўя.)*

Глафіра, выйшаўшы з-за парцьеры, абнімае яго адною рукой за шыю і глядзіць яму проста ў вочы. Лыняеў, прыпадымаючыся, глядзіць на Глафіру спалохана.

## З'ява IX

Лыняеў, Глафіра.

Глафіра *(падносячы хустачку да вачэй)*. Што вы са мной зрабілі?

Лыняеў *(устаўшы з канапы і праціраючы вочы)*. Я? Не, што гэта вы са мной робіце?

Глафіра. Я не ведаю... я звар'яцела... я не памятаю нічога. А ва ўсім вы вінаваты, вы...

Лыняеў. Ні душой, ні целам.

Глафіра. Не, вы, вы... Я вам казала...

Лыняеў. Чым я вінават, чым?

Глафіра. Я вам казала, я вас папярэджвала, што моцны пал можа ўзгарэцца ва мне кожную хвіліну... Я такая нервовая... Ну, вось, ну, вось! А вы, ведаючы маю палкасць...

Лыняеў. Ды я ж па вашаму загаду...

Глафіра. Я вам казала... а вы даводзілі мяне да шаленства сваімі пахваламі, цалавалі мае рукі.

Лыняеў. Ды гэта ж жарт, Глафіра Аляксееўна, жарт...

Глафіра. Я вам казала, што каханне, апрача пакуты, нічога мне не дасць... Я ж вам казала, а вы... Ну, вось я не спала ўсю ноч; я пакахала вас страшэнна.

Лыняеў. Ах, вось бяда! Ну, даруйце мне!

Глафіра. Я вам казала, што калі ўжо я пакахаю...

Лыняеў. Так, казалі, здаецца... але супакойцеся!

Глафіра *(з адчаем)*. Вы мяне загубілі.

Лыняеў. Ну, я вінават, я каюся. Даруйце мне, калі ласка! Я незнарок... *(Хоча пацалаваць у Глафіры руку.)*

Глафіра. Не дакранайцеся да мяне!.. Я такая нервовая...

Лыняеў. Але дазвольце ж пацалаваць вашу ручку на развітанне. І язджайце, язджайце...

Глафіра. Ах, не, пакіньце... не чапайце!..

Лыняеў. На развітанне! Я, прынамсі, буду ведаць...

Глафіра. Я такая нервовая...

Лыняеў. Што вы мной не пагарджаеце. *(Бярэ руку Глафіры.)*

Глафіра. Я казала вам...

Лыняеў. Вы ж паедзеце?.. Паедзеце?.. Ну і язджайце. *(Цалуе Глафірыну руку.)*

Глафіра. Ах, я такая нервовая... Ах, ах. *(Кідаецца Лыняеву на шыю і заплюшчвае вочы.)*

Лыняеў. Што ж гэта вы? Глафіра Аляксееўна! Глафіра Аляксееўна!

Глафіра *(расплюшчыўшы вочы)*. Ах, сюды ідуць, здаецца.

Лыняеў. Яны ходзяць па тэрасе.

Глафіра. Ах, ах! *(Заплюшчвае вочы.)*

Лыняеў. Глафіра Аляксееўна, Глафіра Аляксееўна, не турбуйцеся... Яны сюды не пойдуць.

Глафіра. Вы мяне загубілі!.. Што падумаюць? Дзе мне дзецца? Іншага выхаду няма.

Лыняеў. Ды вы цішэй, не вельмі моцна, а то...

Глафіра. Хіба яны чуюць? Схавайце мяне, схавайце!

Лыняеў. Ды куды ж мне вас?.. Хіба за драпіроўку...

Глафіра. Вось яны ідуць... Вы мяне загубілі!..

Лыняеў. Ды цішэй, будзьце ласкавы, цішэй!

Глафіра. Ах, што вы са мной зрабілі! *(Кідаецца яму на шыю і заплюшчвае вочы.)*

Паказваюцца ў дзвярах Беркутаў і Купавіна.

**З'ява X**

Лыняеў, Глафіра, Беркутаў, Купавіна, потым лакей.

Беркутаў. Што я бачу? Друг мой!

Купавіна. Міхайла Барысыч, Міхайла Барысыч! Вось вы які! Ах, прытворшчык!

Лыняеў *(праз слёзы)*. Ну, што ж! Ну, я жанюся.

Уваходзіць лакей.

Лакей. Глафіра Аляксееўна, коні гатовы.

Глафіра. Ах, і людзі тут! Што вы са мной зрабілі? Што цяпер Меропа Давыдаўна?

Купавіна. Ах, бедная! Ты застанься ў мяне.

Беркутаў. Не турбуйцеся! Я заўтра буду ў Меропы Давыдаўны, я ёй усё растлумачу.

Лыняеў *(ледзь не плачучы)*. Ну, што ж, я жанюся. Ты так і скажы, калі ласка! Скажы, што я жанюся.

## ДЗЕЯ ПЯТАЯ

Дэкарацыя першай дзеі.

### З'ява I

Паўлін, уваходзіць Чугуноў.

Чугуноў. Добры дзень, Паўлінушка!

Паўлін. Дзень добры, судар. Крыху ранавата прыйшлі!

Чугуноў. Так загадана. Дай табакі!

Паўлін *(падаючы табакерку)*. Калі ласка, судар.

Чугуноў. Усталі?

Паўлін. Селі чай піць. Ды вось яны самі.

Уваходзіць Мурзавецкая, Паўлін выходзіць.

### З'ява II

Мурзавецкая, Чугуноў, потым Паўлін.

Мурзавецкая. А, ты ўжо тут? Добры дзень!

Чугуноў. Добры дзень, матухна, Меропа Давыдаўна! Як спачываць былі ласкавы?

Мурзавецкая *(садзіцца)*. Нічога. Садзіся!

Чугуноў садзіцца.

Гнаць бы цябе трэба было.

Чугуноў. За што ж, матухна?

Мурзавецкая. Просім Бога, каб абараніў нас ад д'ябла, а д'ябал жа гэта — ты.

Чугуноў. Дзе ўжо мне, дабрадзейка! Розуму на такую пасаду не хопіць. Мне б толькі вам дагадзіць, з мяне і хопіць.

Мурзавецкая. Пісьмо атрымала.

Чугуноў. Слухаю.

Мурзавецкая. Прыедзе сягоння. Спужалася.

Чугуноў. Мусіць, даруеце?

Мурзавецкая. Не, адпомшчу, адпомшчу. Грэх на душу вазьму, а адпомшчу. *(Стукае кіем.)*

Чугуноў. Чым жа адпомсціце? Вы толькі пагражаеце. А хто ж цяпер пагрозы баіцца?

Мурзавецкая. Твая справа д'ябальскія штукі выдумляць! Што ў цябе на думках, кажы?

Чугуноў. Што ж казаць, калі злуеце.

Мурзавецкая. Не, кажы! Ты ведаеш, я ўпартая; калі ўжо загадваю, дык кажы!

Чугуноў. Як ваша ласка, а па-мойму, даравацъ нельга. Супроць дабрадзейкі свае ды такая насмешка!

Мурзавецкая. Вось, вось!

Чугуноў. Вы хто ў нас у губерні? Які б там ні быў Апалон Віктаравіч, але ж ён ваш пляменнік. Лёгка сказаць, пляменнік Меропы Давыдаўны! Хіба шмат такіх асоб?

Мурзавецкая. Ну, вось, дай жа рады, якая герцагіня знайшлася!

Чугуноў. Сама запрашала; вы тут чакаеце адказу, непакоіцеся, [redacted] там яго лакеі траха не ў карак.

Мурзавецкая. Так, так. *(Моцна.)* Апалон, ідзі сюды!

Чугуноў. На што гэта падобна, змілуйцеся!

Уваходзіць Мурзавецкі апранены, як паляўнічы, у руках стрэльба.

## З'ява III

Мурзавецкая, Чугуноў, Мурзавецкі.

Мурзавецкая. Ты куды гэта?

Мурзавецкі. Вальдшнепы паказаліся ў садах, пабіць трэба.

Мурзавецкая. Купавіна цябе сама запрашала?

Мурзавецкі. Сама, ма тант; я вам тады казаў.

Мурзавецкая. Ды, можа, так між іншым?

Мурзавецкі. Між іншым! Так на шыю і кідаецца; я ўжо яе стрымліваў, казаў: у лесе, нядобра!

Чугуноў. Вось, вось яна якая!

Мурзавецкая. Можа, Апалон і хлусіць, а ўсё ж хоць крыху ёсць і праўды.

Мурзавецкі. Усё праўда, ма тант.

Мурзавецкая. Ну, а далей што?

Мурзавецкі. А далей — малёр[1]. Мала таго што не пусціла, дык яшчэ паставіла засаду з лакеяў. І каб не мой Тамерлан, ну ад'е, мон плезір. Толькі б вы мяне і бачылі, ма тант. Леў, а не сабака: аднаго за горла, другога за горла, ну і разбегліся, а я жывы. Сабака — друг. *(Свішча.)* Тамерлан, ісі! Друг адзіны!

Мурзавецкая. Не трэба, не трэба, аглушыў. Ідзі!

Мурзавецкі выходзіць у пярэднюю.

### З'ява IV

Мурзавецкая, Чугуноў.

Мурзавецкая. Што гэта такое, Вукол, га?

Чугуноў *(нюхае табаку)*. Насмешка.

Мурзавецкая. Над кім?

Чугуноў. Над вамі, вядомая справа.

Мурзавецкая. Адпомсціць-то я ёй адпомшчу, знайду ўжо выпадак, не памру без гэтага; але мне б цяпер злосць сарваць даражэй за ўсё.

Чугуноў. Трэба цяпер; нашто адкладваць! Яшчэ забудзіцеся.

Мурзавецкая. Не забудуся я, даражэнькі, не забудуся ніколі.

Чугуноў. Яны цяпер, напэўна, смяюцца з Лыняевым.

Мурзавецкая. Ды што ты мяне дражніш, суцяжнік! Хіба на гэта я цябе пазвала?

Чугуноў. Чым я вас дражню? Самі ведаеце, што смяюцца.

Мурзавецкая. Маладая баба, і розуму не бог ведае колькі, смяецца з нас, як з дурняў; а мы з табой, старыя разумнікі, сядзім ды нічога зрабіць ёй не можам.

Чугуноў. Усё можна зрабіць, усё.

Мурзавецкая. Ды што? Няхай прыедзе ды прабачэння папрасіць, вось што мне патрэбна!

Чугуноў. І гэта можна.

Мурзавецкая *(стукаючы кіем)*. Выхваляешся, выхваляешся, прыказны пацук!

Чугуноў. На каленях будзе стаяць.

Мурзавецкая. Кажу, не дражні! Кіем вось я цябе!

Чугуноў. Дзякуй скажаце, а не кіем.

Мурзавецкая. Ну, д'ябал, што ў цябе за пакасці, кажы!

---

[1] Няшчасце (ад *фр.* malheur).

Чугуноў *(вымаючы паперу)*. А вось пакажыце ёй, няхай паглядзіць!

Мурзавецкая *(узяўшы паперу)*. Што гэта? Пісьмо Апалону.

Чугуноў. Прачытайце, калі ласка.

Мурзавецкая *(чытае)*. «Шаноўны пане, Апалон Віктарыч. Па справах маіх з нябожчыкам бацькам вашым, я застаўся яму вінаватым у розны час тысяч да трыццаці, пра што вы можаце даведацца з канторскіх кніг і рахункаў, калі яны захаваліся. Але вельмі можа быць, што, праз вядомую нядбайнасць вашага бацькі, у яго паперах не асталося ніякіх слядоў майго доўгу. Я зусім не хачу ўтойваць яго і пазбаўляць вас задавалення; на гэты выпадак і дадаю да гэтага ўзаконенай формы дакументы»... Дык ты вось што прыдумаў! А пра Сібір забыўся?

Чугуноў. Ды што за напасць! Толькі і чую ад усіх — Сібір ды Сібір.

Мурзавецкая. Справы твае, даражэнькі, такія; таму і чуць табе часта прыходзіцца.

Чугуноў *(выняўшы з кішэні вэксалі)*. Вось і вэксалі!

Мурзавецкая. Гатова ўжо? Не, Вукол, у табе чорт сядзіць. Як вас, юдаў, зямля трымае? А што гэта за кніга ў цябе?

Чугуноў. Канторская старая; тут і рахункі ёсць. З кладоўкі мы яе дасталі, адсырэла яна, заплямілася. Вэксалі ў мяне цэлую ноч ляжалі ў ёй ды і цяпер няхай ляжаць ды выліньваюць; а то свежае чарніла. Ды тут ім і быць належыць. *(Бярэ вэксалі ў Мурзавецкай.)* Паглядзіце, якая чыстата!

Мурзавецкая. Чаго глядзець? Чорт табе памагае.

Чугуноў. Толькі гэта і чую ад вас. *(Кладзе вэксалі ў кнігу і аддае Мурзавецкай.)*

Мурзавецкая. Ды як жа не чорт! Хіба чалавек сам на такую брыдасць адважыцца? Ды хоць бы і адважыўся, дык аднаму, без чорта, не патрапіць.

Чугуноў. Думаеш дагадзіць, а вы лаеце. Вось жыццё маё!

Мурзавецкая. Годзе хныкаць!

Чугуноў. Лепш аддайце, я іх знішчу.

Мурзавецкая. Ого, чаму не аддаць! Кажы, пацук, што з імі рабіць?

Чугуноў. Яўлампія Мікалаеўна прыедзе, вы пакажыце вэксалі ды стражэй абыдзіцеся. Заплаціце, маўляў, зараз жа, а то ў суд падам. Ну тут ужо яна ўся ў вашых руках, што хочаце, тое з ёю і рабіце.

Мурзавецкая. Ну, так, ну, так. Пужнуць толькі; а то няўжо ж у судзе паказваць! Яны ж фальшывыя. *(Кладзе кнігу на стол.)*

Чугуноў. Але як зроблены — любата! Эх! Занесці б іх заўтра міравому — да вечара выканаўчы ліст гатоў; а то пісьмы пішаце, грозіце, папярэджваеце толькі. Яшчэ гатова і даверанасць маю знішчыць.

Мурзавецкая. Супроць свае пані! Добры кіраўнічы!

Чугуноў. Я сябе ўжо забяспечыў, на ялавіну грошы дастаў. Чаго мне яе шкадаваць! Усе трыццаць тысяч сыскалі б, мне дваццаць працантаў.

Мурзавецкая. Дык як ты адважыўся рот разявіць! Каму ты гаворыш? Благароднай даме такія пакасці прапануеш!.. Так бы вось табе па лысіне і ўрэзала. Ды і варт. *(Прыслухоўваючыся.)* Не іначай нехта пад'ехаў. Ідзі, перакусі чаго-небудзь! Я цябе пасля паклічу.

Чугуноў выходзіць. Уваходзіць Паўлін.

Паўлін. Васілій Іванавіч Беркутаў.

Мурзавецкая. Які такі Беркутаў? Так, так, так, памятаю. Прасі!

Паўлін выходзіць. Уваходзіць Беркутаў.

## З'ява V

Мурзавецкая, Беркутаў.

Беркутаў. Гонар маю кланяцца! Памятаеце?

Мурзавецкая. Ну, як, бацюхна, Васілій Іваныч, не памятаць! Сядайце, калі ласка!

Беркутаў садзіцца.

Даўно прыехалі?

Беркутаў. Пазаўчора вечарам. Прабачце! Учора ж хацеў быць у вас, ды вельмі стаміўся з дарогі. Яшчэ ў Пецярбургу паставіў сабе за абавязак, прыехаўшы сюды, не марудзячы, з'явіцца да вас, засведчыць сваю пашану і паведаміць, што чуткі пра ваша святое жыццё, пра вашу дабрадзейнасць дайшлі ўжо і да сталіцы.

Мурзавецкая. Дзякую, бацюхна!

Беркутаў. Апрача таго, мне як прыезджаму цікава ведаць, як жывуць-маюцца ў нашай губерні; а ад каго ж я магу атрымаць больш пэўныя весткі і больш справядлівыя думкі, калі не ад вас?

Мурзавецкая. Каму ўжо і ведаць нашы справы, калі не мне?

Беркутаў. Як у нас земства, Меропа Давыдаўна?

Мурзавецкая. Ну, што! Цераз пень-калоду валяць.

Беркутаў. А чаму ж бы не да вас за парадаю?

Мурзавецкая. Усе самі разумнікі, паедуць яны да старой, як жа!

Беркутаў. Няхай сярод іх ёсць людзі і не дурныя, але ж у вас толькі могуць яны запазычыць спрактыкаванасць, веданне жыцця народнага і патрэб тутэйшага краю. Вось каб я застаўся служыць тут...

Мурзавецкая. А хто ж перашкаджае?

Беркутаў. Справы ёсць няскончаныя. Я, вядома, балаціраваўся б на больш значныя пасады.

Мурзавецкая. Ды зрабіце ласку! Вось у нас хутка выбары будуць, старшыні земскай управы...

Беркутаў. Я гэта толькі таму кажу, Меропа Давыдаўна, што каб я служыў, дык без вашай парады я нічога б не зрабіў.

Мурзавецкая. Слухай, Васілій Іваныч, прабач ты ўжо мне старой, балаціруйся!

Беркутаў. І сваім розумам Бог не пакрыўдзіў, ды з вашымі парадамі... ды тады б уся губерня была ў нас з вамі ў руках.

Мурзавецкая. Кажу табе, балаціруйся! Чаго табе баяцца?

Беркутаў. Так, мне баяцца няма чаго: я тут з усімі ладжу. Хоць дзіцячыя выбрыкі Лыняева і ўсяе іх кампаніі мне і не падабаюцца, а ўсё-такі я не сваруся з імі.

Мурзавецкая. Праўда, што дзіцячыя выбрыкі, вось ужо праўдзівае слова ты сказаў.

Беркутаў. Вядома, я душою заўсёды буду з вамі, у вашай партыі.

Мурзавецкая. Ну, дык мы цябе і запішам; значыць, нашага палку прыбыло.

Беркутаў. Я падумаю, Меропа Давыдаўна, падумаю. Дазвольце мне ўслужыць. Я з сабой прывёз некалькі кніг духоўнага зместу.

Мурзавецкая. Зрабі ласку, пазыч!

Беркутаў. Ды я вам іх падару. *(Устаўшы.)* Гонар маю кланяцца! Мне трэба зрабіць у горадзе некалькі візітаў. Я яшчэ заеду да вас, і не адзін раз, калі дазволіце. Пагутарыць з вамі так карысна. *(Раскланьваецца.)*

Мурзавецкая. Калі ласка, у любы час.

Беркутаў. Ах, прабачце! У мяне ёсць да вас невялікая просьба.

Мурзавецкая. Што такое, бацюхна? Вельмі рада служыць чым магу.

Беркутаў. Я маю даручэнне ад мае суседкі, Яўлампіі Мікалаеўны. Справа няважная.

Мурзавецкая. Як няважная? Не, гэта ўжо яна дарэмна так думае.

Беркутаў. Па-першае, яна просіць у вас прабачэння і сама сягоння будзе ў вас.

Мурзавецкая. Вось так лепш, даўно б ёй дагадацца.

Беркутаў. А што да доўгу яе мужа вашаму нябожчыку брату ці цяпер вашаму пляменніку, дык невядома, ці прызнаваў Купавін гэты доўг.

Мурзавецкая. Прызнаваў, сам прызнаваў, а як жа.

Беркутаў. Ды адкуль вы ведаеце?

Мурзавецкая. Пісьмо ёсць.

Беркутаў. Слухайце, Меропа Давыдаўна, а вы гэтаму верыце?

Мурзавецкая. Ды як не верыць, калі і дакументы і ўсё ў мяне ў наяўнасці.

Беркутаў. Якія ж яны шэльмы! Што яны з вамі робяць?!

Мурзавецкая. Хто гэта, хто?

Беркутаў. Пляменнічак ваш, Апалон, і кампанія.

Мурзавецкая. Ды вы не забывайцеся, шаноўны пане! Вы ў мяне ў доме.

Беркутаў. Не, ганіце яго, ганіце ўсіх іх хутчэй!

Мурзавецкая. Ён дваранін... Ды калі б ён чуў! Ды і я... Я ж яго цётка. Або змоўкніце...

Беркутаў. Дазвольце! Я вас разумею: у вас такое любячае сэрца, вы і не падазраеце ўсяе брыдасці.

Мурзавецкая. Не, вызвальце мяне ад вашай гаворкі! Зрабіце ласку, вызвальце! Прашу вас, вызвальце.

Беркутаў. Што яны? Ім губляць няма чаго. А гэтакую даму шаноўную бачыць на лаўцы падсудных! Уся губерня будзе глядзець...

Мурзавецкая *(спужана)*. Як, на лаўцы падсудных?

Беркутаў. Я вам зараз растлумачу: хаваць няма чаго, усё гэта цяпер шмат каму вядома; заўтра дойдзе да пракурора, пачнецца следства. Галоўны вінаваты, Гарэцкі, нічога не хавае; яго, мусіць, хутка арыштуюць.

Мурзавецкая. Ды што такое, што?

Беркутаў. Напісаны фальшывыя вэксалі на нябожчыка Купавіна, зроблена гэта ўчора; я падазраю вашага пляменніка, не вас жа падазраваць, Меропа Давыдаўна.

Мурзавецкая. Не, не, не мяне, не мяне!

Беркутаў. Напісалі пісьмо ад імя Купавіна вашаму пляменніку і два вэксалі, дасталі з кладоўкі старую канторскую кнігу і палажылі іх туды. *(Убачыўшы на стале кнігу.)* Вось у такую кнігу. *(Бярэ кнігу і разгортвае.)* Ды вось яны, тут. І ў кнізе рахунак выведзен... памаркі, падчысткі. Надзвычайна! Рэчавыя доказы...

Мурзавецкая. Бацюхна, не загубі!

Беркутаў. Цяпер мая галоўная задача: ратаваць вас.

Мурзавецкая. Ратуй мяне, бацюхна, ратуй! У ножкі пакланюся!

Беркутаў. Не турбуйцеся! Я пастараюся ўсімі сіламі патушыць гэту справу. Вас вельмі шкада! Чым вы вінаваты?!

Мурзавецкая. Нічым, бацюхна, нічым.

Беркутаў. Яшчэ ёсць пісьмо, па якім вы атрымалі тысячу рублёў.

Мурзавецкая. Ужо не памятаю, бацюхна, не ўспомню; памяць слабая стала.

Беркутаў. Я вам напамяну. *(Выняўшы з кішэні пісьмо.)* Вось яно! Яно таго ж майстра. Вам трэба будзе грошы вярнуць.

Мурзавецкая. Дзе ж я вазьму, ужо я іх усе раздала бедным; яны цяпер Бога моляць... не адбіраць жа ў іх.

Беркутаў. Вядома, вы былі ашуканы; але што ж рабіць; вярнуць прыйдзецца, калі справа дойдзе да суда. Урэшце, вы пакуль што не турбуйцеся, выкіньце ўсё гэта з галавы!

Мурзавецкая. І рада б выкінуць, ды не ідзе. Ашаламіў дый кажа: з галавы выкіньце!

Беркутаў. Забудзьцеся! Пагаворым пра што-небудзь іншае.

Мурзавецкая. Баюся я, галубчык, акруговага суда, страшэнна баюся.

Беркутаў. Ну, можа, справа як-небудзь і ўладзіцца. Вось вам навіна! Лыняеў пасватаўся да Глафіры Аляксееўны.

Мурзавецкая. Ды ну іх! Што гэта сэрца так калоціцца. Злавіла-такі яна яго!

Беркутаў. І здаецца, вельмі спрытна.

Мурзавецкая. Так яму і трэба! Зусім мне яго не шкада! Не сунімаецца сэрца. А вы ж халасты?

Беркутаў. Халасты.

Мурзавецкая. Чаму ж не жэніцеся?

Беркутаў. Спачатку справы перашкаджалі, а цяпер нявесты не знайду. Пасватайце!

Мурзавецкая. Каго б табе пасватаць? Вось у галаву стукае. Ды што ж лепш, суседка твая, Яўлампія Мікалаеўна.

Беркутаў. Яна, здаецца, не вельмі прыхільна да мяне; а я б не ад таго.

Мурзавецкая. Дык сватаць, ці што?

Беркутаў. Сватаць не сватаць, а я б папрасіў вас пагаварыць з ёю ласкавей, уведаць яе думку — параіць ёй.

Мурзавецкая. Ды ўжо не вучы, я не дурнейшая за цябе на гэтыя справы. Толькі ты мяне выратуй! Ды вось тысячу рублёў...

Беркутаў. Вы для мяне, а я для вас. Яўлампія Мікалаеўна павінна зараз прыехаць, а разам з ёю і Глафіра Аляксееўна і Лыняеў.

Мурзавецкая. Дык ужо ты мне прабач, я пайду, распараджуся. Трэба снеданне прыгатаваць і кофе, жаніха пачаставаць; пляменнікам жа будзе.

Беркутаў. Пра мяне не клапаціцеся! Мне трэба было б зараз жа бачыць Чугунова.

Мурзавецкая. Ды ён, катаржны, тут. Я яго зараз пашлю. Вукол, Вукол! Ды вось ён!

Мурзавецкая выходзіць.
Уваходзіць Чугуноў.

### З'ява VI

Беркутаў, Чугуноў.

Беркутаў. Добры дзень, Вукол Навумыч! *(Падае руку.)*

Чугуноў. Маё шанаванне, Васілій Іваныч! Ці даўно прыехаць мелі ласку?

Беркутаў. Толькі што прыехаў. Вельмі прыемна вас бачыць. Як маецеся, Вукол Навумыч?

Чугуноў. Дзякаваць Богу, Васілій Іваныч, не скарджуся.

Беркутаў. Вельмі рад. Я вас ад справы ці не адрываю? Мне хочацца пагаварыць з вамі некалькі хвілін.

Чугуноў. Колькі ваша ласка. Гатоў служыць.

Беркутаў. Трэба мне, даражэнькі Вукол Навумыч, некаторыя весткі сабраць наконт тутэйшай мясцовасці.

Чугуноў. Так? *(Выняўшы табакерку.)* Ці не будзеце ласкавы?

Беркутаў. Не нюхаю, а ўрэшце, дазвольце. *(Нюхае.)* Чым гэта яна пахне?

Чугуноў. Жасмінам. Знарок разводжу: і кветку прыемна мець у доме на акне, і пах. Добрыя табакі сталі з моды выходзіць. Раней была табака пад назвай «Пакуты кахання», вось, я вам далажу, Васілій Іваныч, табака была!.. Дык што ж вы хацелі наконт мясцовасці?

Б е р к у т а ў. Бачыце, пагаварваюць пра Сібірскую чыгунку; мы як тутэйшыя памешчыкі зацікаўлены ў гэтай справе,— і калі няма ніякіх фізічных перашкод, гор, напрыклад...

Ч у г у н о ў. Перашкод і гор няма, плоская губерня. Толькі што ж мы будзем дастаўляць у Сібір, якія прадукты?

Б е р к у т а ў. Прадукты ёсць, Вукол Навумыч!

Ч у г у н о ў. Цікава паслухаць.

Б е р к у т а ў. Я думаю, вам траплялася чытаць у газетах, што, у апошні час, шмат стала выкрывацца растрат, фальшывых вэксаляў і іншых папер, падлогаў і наогул усялякага крадзяжу. Ну, а па ўсіх гэтых аперацыях знаходзяцца і вінаватыя; дык вось гэтыя прадукты мы і будзем пасылаць у Сібір, Вукол Навумыч.

Ч у г у н о ў. Жартаваць маеце ласку.

Б е р к у т а ў. Якія жарты! Ды вось нядоўга шукаць, толькі што адзін малады чалавек сам прызнаўся, што нарабіў фальшывых вэксаляў.

Ч у г у н о ў *(ківаючы галавою)*. Скажыце, калі ласка, якія справы творацца на белым свеце!

Б е р к у т а ў. Як яго прозвішча? Гарэцкі, здаецца.

Ч у г у н о ў. Гарэцкі... дазвольце! Ёсць такі, ёсць... чуў...

Б е р к у т а ў. Ён кажа, што яго прымусілі, і чарнавікі паказаў, з якіх яго спісваць прымушалі.

Ч у г у н о ў. Вельмі патрэбна блытаць людзей! Не разумею. Яму ж не лягчэй ад гэтага будзе. Малады яшчэ.

Б е р к у т а ў. Ён яшчэ прызнаўся, што вэксаль на пані Купавіну пісаў, а Яўлампія Мікалаеўна сягоння заяўляе, што ў яе ўкрадзены бланк.

Ч у г у н о ў. Вось якія справы!

Б е р к у т а ў. Вось што, Вукол Навумыч, ці не пры вас вэксаль? А калі не пры вас, дык прынясіце яго хутчэй!

Ч у г у н о ў. Не, нашто ж! Я вам вельмі ўдзячны, Васілій Іваныч.

Б е р к у т а ў. За што ж?

Ч у г у н о ў. Папярэдзілі. Я цяпер вэксаль знішчэнню аддам. Няхай Гарэцкі блытае, а я і ведаць не ведаю, у мяне і не было ніякага.

Б е р к у т а ў. Шкада! Вам хоць не ўсю суму, а што-небудзь атрымаць трэба б было па гэтаму вэксалю.

Ч у г у н о ў. Вядома, Васілій Іваныч, трэба б было. Гэта ж такі благародны ўчынак з майго боку! Выдаюць бланкі так сабе... Ды другі ж бы, змілуйцеся!.. Каму ж патрэбна ад свайго шчасця адмаўляцца.

Б е р к у т а ў. Правільна, Вукол Навумыч, правільна. Ды і Яўлампію Мікалаеўну трэба пакараць, каб яна надалей была больш асцярожнай.

Ч у г у н о ў. Трэба пакараць, Васілій Іваныч, трэба. Як гэта можна бланкі выдаваць! Адбяруць маёнтак як піць даць. Вось я толькі тры тысячы напісаў, а ці ў кожнага ж сумленне такое, як у мяне?

Б е р к у т а ў. Укараціце вэксаль крыху, Вукол Навумыч; напішыце, што частку грошай ужо атрымалі; а рэшту Яўлампія Мікалаеўна заплаціць. Даставайце вэксаль! Вось чарніла і пяро!

Ч у г у н о ў. Слухаю. *(Вымае вэксаль, надзявае акуляры, бярэ пяро.)* Як пісаць загадаеце, Васілій Іваныч?

Б е р к у т а ў. Па гэтаму вэксалю атрымана дзве тысячы...

Ч у г у н о ў. Тысячу рублёў толькі пакідаеце? Няможна, Васілій Іваныч.

Б е р к у т а ў. Не, і тысячы рублёў многа, Вукол Навумыч.

Ч у г у н о ў. А якая благароднасць з майго боку!

Б е р к у т а ў. Вось мы яе і ацэнім як належыць. *(Дыктуе.)* Атрымана дзве тысячы пяцьсот...

Ч у г у н о ў. Толькі пяцьсот? Гэта ўжо нават крыху крыўдна.

Б е р к у т а ў. Не, і не пяцьсот, а менш. Пішыце, пішыце! Дзве тысячы пяцьсот пяцьдзесят рублёў. Чаму я прыбавіў гэтыя пяцьдзесят рублёў, я вам скажу пасля. Рэшту атрымаеце.

Ч у г у н о ў *(палажыўшы вэксаль у кішэнь).* Вялікае вам дзякуй, найшчырэйшую прыношу вам падзяку.

Б е р к у т а ў. Калі ваш пляменнік расказаў мне пра ўсе справы і вашы чарнавікі паказаў, я спачатку хацеў ехаць да пракурора.

Ч у г у н о ў. Не, нашто да пракурора! Вам, Васілій Іваныч, мяшацца ў такія брудныя справы што за карысць? Толькі сорам.

Б е р к у т а ў. А потым надумаў перагаварыць раней з Меропай Давыдаўнай і з вамі.

Ч у г у н о ў. Вельмі добра і грунтоўна зрабілі. Хіба мала ў пракурора спраў і без нашых!

Б е р к у т а ў. А каб ваш пляменнік не плёў тут чаго не трэба... Ён нейкі шалахвост!

Ч у г у н о ў. Шалёны хлапчук!

Б е р к у т а ў. Я яго адправіў у Волагду абысці мае лясы; ён цяпер ужо коціць на параходзе. На дарогу я яму даў пяцьдзесят рублёў; а гэта ж ваш быў абавязак, Вукол Навумыч; вось гэтыя пяцьдзесят рублёў я ў вас і вылічыў.

Ч у г у н о ў. Вельмі добра. Ці доўга пагасцюеце ў нас, Васілій Іваныч?

Б е р к у т а ў. Яшчэ не ведаю. Як справы дазволяць.

Чугуноў. Калі будзе якая-небудзь справа, дык на мяне не забудзьцеся, па даўнейшаму знаёмству.

Беркутаў. Абавязкова, Вукол Навумыч, абавязкова.

Чугуноў. Вось госці, мусіць. Да прыемнага спаткання. *(Выходзіць.)*

Уваходзяць Купавіна і Анфуса, з гасцінай выходзіць Мурзавецкая.

### З'ява VII

Беркутаў, Мурзавецкая, Купавіна, Анфуса.

Мурзавецкая *(Купавінай)*. Ну, вось і добра зрабіла, што прыехала, родная мая. Старэйшых паважай.

Купавіна. Я вельмі шкадую, Меропа Давыдаўна, што дала вам прычыну быць незадаволенай.

Мурзавецкая. Хто старое ўспамяне, таму вока прэч.

Беркутаў. Яўлампія Мікалаеўна, я ваша даручэнне выканаў.

Купавіна. Дзякую вам.

Беркутаў. Меропа Давыдаўна і пляменнік яе лічаць сябе зусім задаволенымі і ніякіх прэтэнзій да вас больш не маюць. Праўда, Меропа Давыдаўна?

Мурзавецкая. Ён праўду кажа, праўду. Пасылай такіх вось адвакатаў, дык заўсёды з вады сухая выйдзеш.

Купавіна. Значыць, я ўсім абавязана вам. Колькі ж я вам вінавата?

Беркутаў. Палічымся пасля, Яўлампія Мікалаеўна.

Мурзавецкая *(Беркутаву)*. Пайшоў бы ты, перакусіў чаго-небудзь! Часу ж шмат; мусіць жа, раніцой з маёнтка? Пайдзі, маці Анфуса, пагаспадар за мяне! Мы зараз прыйдзем.

Анфуса. Так ужо... з дарогі... і я ўжо...

Выходзяць Беркутаў і Анфуса.

### З'ява VIII

Мурзавецкая, Купавіна.

Мурзавецкая. Даруй мне, любая мая, што я так строга абышлася з табою! Гэта я любячы.

Купавіна. Я не разумею, чым я вінавата... Вы робіце такія пагрозы.

Мурзавецкая. І заўсёды буду рабіць пагрозы, і заўсёды. Не, ты вінавата, вінавата, у мяне сэрца баліць глядзець на цябе. Яшчэ не так цябе трэба пужнуць.

Купавіна. Ды чым жа я вінавата?

Мурзавецкая. Чаго жывеш адна? Чаму замуж не ідзеш? Што ў гэтым добрае? Толькі справы заблытваеш ды маёнтак разладжваеш. На Чугунова слабая надзея.

Купавіна. Ды вы ж самі яго раілі.

Мурзавецкая. А хіба ў іх улезеш? Ён вось добры жулік — выходзіць.

Купавіна *(падумаўшы)*. Ну, як хочаце, я за яго не пайду. Я не адчуваю да яго ніякай прыхільнасці.

Мурзавецкая. Да каго?

Купавіна. Да Апалона Віктарыча!

Мурзавецкая. Ды хто цябе прымушае? Я думала, што ты яго кахаеш, а не, дык і не трэба. Твая воля, выбірай любога!

Купавіна. З каго выбіраць?

Мурзавецкая. Падумай! А ты б пайшла, каб трапіўся добры чалавек?

Купавіна. Чаму ж не ісці? Я і сама бачу, што ў маёй гаспадарцы парадку мала.

Мурзавецкая *(ціха)*. Беркутаў доўга тут пражыве?

Купавіна. Не, ён на некалькі дзён. Ды ў ім ніякай прыхільнасці да мяне не відаць.

Мурзавецкая. Шкада! А я была ўжо...

Купавіна. Не, як можна навязвацца!

Мурзавецкая. Ну, а калі ён сам...

Купавіна. Не, яму трэба багацейшая.

Мурзавецкая. Ну вось яшчэ, ах, Божа мой! А можа, раптам фантазія прыйдзе.

Купавіна. Не ведаю.

Мурзавецкая. Вядома, калі ён на некалькі дзён ды не заляцаецца...

Купавіна. Ні капелькі. І не думае заляцацца.

Мурзавецкая. Дык няма чаго рабіць. Ведаеш што? Ці няма ў яго ў Піцеры якой?

Купавіна. Напэўна, ёсць.

Мурзавецкая. Якая-небудзь з немак. Ну, мы хоць так пагаворым з табой... А калі б ён?

Купавіна. Я нават не ведаю, што вам сказаць.

Мурзавецкая. Ды чаго саромецца? Мне-то ты скажы!

Купавіна. Ды нашто вам?

Мурзавецкая. Хіба ты мяне не ведаеш? Страшэнна люблю ведаць усё на свеце і ўтыкацца ва ўсе справы, дзе мяне не просяць.

Купавіна. Ды чаму ж не?.. Я б з прыемнасцю.

Мурзавецкая. Вось і добра. *(Моцна.)* Васілій Іваныч, ідзі сюды!

Купавіна. Ах, што вы!

Мурзавецкая. Маўчы ўжо! Мне толькі тваё жаданне трэба было ведаць, ты для мяне дарага; а на іх няма чаго глядзець! Я ўмею з імі абыходзіцца, вось паглядзі! Толькі памятай ужо рускую прыказку: даўшы слова, стрымай, а не даўшы, трывай! Васілій Іваныч!

Уваходзіць Беркутаў.

## З'ява IX

Мурзавецкая, Купавіна, Беркутаў.

Мурзавецкая. Васілій Іваныч, цалуй ручку ў Яўлампіі Мікалаеўны!

Беркутаў. Гатоў заўсёды з найвялікшай прыемнасцю.

Мурзавецкая. Няхай вас Бог благаславіць.

Беркутаў. Што азначаюць гэтыя вашыя словы, Меропа Давыдаўна?

Мурзавецкая. А тое, што я цябе жаніць хачу. Што жывеш, толькі неба копціш!

Беркутаў. Вельмі ўжо шмат вы ўлады бераце нада мной, Меропа Давыдаўна.

Мурзавецкая. Прабач, галубчык! Бачу я сіроцтва тваё, радні ў цябе няма; трэба ж і пра цябе каму-небудзь паклапаціцца.

Беркутаў. Добра, Меропа Давыдаўна, што я кахаю Яўлампію Мікалаеўну, і кахаю даўно; а калі б не так, вы паставілі б нас у цяжкое становішча.

Мурзавецкая. У цяжкое? Памыляешся *(стукае кіем)*, памыляешся, кажу табе. Я лепш за вас ведаю, што вам трэба: што табе трэба, што ёй. Яе душа мне вядома; я ў яе як у люстэрка гляджу: вось я цяпер бачу, што яна цябе кахае. І табе пара да сталасці прыйсці. Грошай, ці што, вялікіх шукаеш? Дык сорам табе. А ты душы шукай!

Беркутаў. Слухаю, Меропа Давыдаўна, слухаю.

Мурзавецкая. Вы, піцерскія, думаеце, што вас і рукой не дастанеш, што вам у нас і пары няма; а вось і ёсць.

Беркутаў *(схіліўшы галаву)*. Яўлампія Мікалаеўна?

Мурзавецкая *(Купавінай)*. Чаго маўчыш? Ну, дык я за цябе скажу. Яна рада-радзенька.

Купавіна. Я жанчына простая, хітраваць не магу; я не ўмела схаваць сваіх пачуццяў ад Меропы Давыдаўны, не буду хаваць і ад вас.

Беркутаў. Дзякую вам за шчасце, якім вы мяне надзяляеце. *(Цалуе руку Купавінай.)* Прашу вас залічыць мяне кіраўнічым вашага маёнтка; гэтай справы нельга адкладваць.

Купавіна. Зрабіце ласку!

Уваходзіць Чугуноў.

### З'ява X

Мурзавецкая, Купавіна, Беркутаў, Чугуноў, потым Паўлін.

Беркутаў *(Купавінай)*. Вось ваш крэдытор: вы яму вінаваты па вэксалю.

Купавіна. Я нічога не вінавата Вуколу Навумычу.

Чугуноў *(цалуе руку Купавінай)*. За маю службу, за стараннасць вэксалёк выдалі.

Купавіна. Я вам заўсёды грашыма плаціла.

Чугуноў. Забыліся, шаноўная, забыліся.

Беркутаў. Сапраўды, Яўлампія Мікалаеўна, хіба доўга забыцца? Вукол Навумыч сапраўды заслужвае нагароды: ён чалавек старанны. Прыходзьце заўтра, вы атрымаеце ўсё што належыць! Падзякуйце Яўлампіі Мікалаеўне.

Чугуноў. Заўтра з усімі дзецьмі прыйду, у ногі кланяцца прымушу.

Уваходзіць Паўлін.

Паўлін. Міхайла Барысыч і Глафіра Аляксееўна. *(Выходзіць.)*

Уваходзяць Лыняеў і Глафіра.

### З'ява XI

Мурзавецкая, Купавіна, Беркутаў, Чугуноў, Глафіра, Лыняеў, потым Анфуса, Паўлін.

Мурзавецкая. Вось як! Ужо і разам?

Глафіра. Ды чаго ж мне цырымоніцца, Меропа Давыдаўна? Мішэль вельмі дарагі для мяне: я не хачу з ім разлучацца ні на хвіліну.

Мурзавецкая. Ну, будучая мадам Лыняева, просім ласкі! Сядайце!

Лыняеў. Меропа Давыдаўна, прабачце мне, што я паспяшыўся прапанаваць руку Глафіры Аляксееўне, не спытаўшыся вашага дазволу!

Мурзавецкая. Не вінавата я, бацюхна, ні ў чым не вінавата.

Лыняеў. Я вас і не вінавачу; я прашу мне прабачыць.

Глафіра. Ён хоча падзякаваць вам. *(Лыняеву.)* Што ж ты маўчыш, Мішэль?

Лыняеў *(уздыхаючы)*. Так, падзякаваць...

Глафіра. Яму асабліва спадабалася ва мне мая пакорлівасць. *(Кідаючы Лыняеву шаль.)* На, Мішэль, патрымай шаль! *(Мурзавецкай.)* Маё паслушэнства. *(Лыняеву.)* Вазьмі добра, не камячы! *(Мурзавецкай.)* Мая скромнасць. А ўсім гэтым я абавязана вам. *(Лыняеву.)* Ты ўсё маўчыш, Мішэль, дык ужо я за цябе гавару.

Лыняеў. Удзячны, Меропа Давыдаўна, вельмі ўдзячны.

Мурзавецкая. Аб адным, бацюхна, я цябе прашу: не крыўдуй ты на мяне, свая воля была. Вось гэту пару сапраўды ўжо я сасватала, вось за іх павінна буду перад Богам адказваць; а вы, як хочаце.

Лыняеў *(Беркутаву)*. І ты жэнішся? Як ты хутка!.. Віншую цябе!

Глафіра *(Купавінай)*. Ты адважылася нарэшце. Ну, віншую!

Купавіна. Так, я ўсё марыла аб волі... я потым пераканалася, што наша жаночае шчасце неразлучна з няволяй...

Мурзавецкая. Не абгаварвай, матухна, жанчын! Розныя бываюць; ёсць і такія, што не толькі сваёю гаспадаркай, а і губерняй кіраваць патрапяць, хоць у Хіву ваяваць пасылай. А мужчыны ёсць таксама ўсялякія: ёсць вось і такія малайцы *(паказвае на Беркутава)*. А то бачылі мы і такіх, што добраахвотна бабам у лакеі ідуць.

Лыняеў. Так, на свеце ваўкі ды авечкі, ваўкі ды авечкі.

Паўлін прыносіць кофе.

Глафіра *(беручы чашку)*. Мішэль, зрабі ласку, патрымай мой парасон. *(Смяецца.)* Ах, у цябе ўсё з рук падае.

Мурзавецкая *(Беркутаву)*. Зіму тут будзеш жыць?

Беркутаў. Я думаю, што Яўлампіі Мікалаеўне прыемней будзе гэту зіму правесці ў Пецярбургу.

Купавіна. Так, вядома.

Мурзавецкая *(Лыняеву)*. А вы?

Глафіра. Мы гэту зіму будзем жыць у Парыжы.

Лыняеў. Мы ў Парыжы.

Беркутаў. А на лета ўжо да вас, пад ваша крыллейка.

Лыняеў. І я таксама.

Глафіра. Ах, не, Мішэль, мы ж яшчэ не вырашылі. Я думаю правесці лета ў Швейцарыі.

Лыняеў. Так, мы яшчэ не вырашылі.

Беркутаў. Меропа Давыдаўна, дзякую вам за гасціннасць і за ласку, якую вы мне зрабілі! Дазвольце прапанаваць вам гэты маленькі падарунак. *(Падае Мурзавецкай скрыначку.)* Гэта — аквамарынавыя чоткі! Панове, я прабыў тут нядоўга, але ўжо меў магчымасць цалкам ацаніць гэту ва ўсіх адносінах незвычайную жанчыну. Пажадана, каб нашы перадавыя людзі заўсёды адносіліся з глыбокай павагай да Меропы Давыдаўны. Мы павінны даваць прыклад іншым, як трэба паважаць такую шаноўную старасць.

Чугуноў *(выціраючы слёзы)*. Усё праўда, усё праўда.

Мурзавецкая. Дзякую, Васілій Іваныч, дзякую. *(Цалуе Беркутава ў галаву.)* Ну, бацюхна, бачыла я на сваім вяку ўсялякіх людзей, а такіх, як ты, не даводзілася. *(Ціха.)* Ну, я тваю справу зрабіла, а ты маю як?

Беркутаў. Уладзіцца добра. Вам Чугуноў скажа.

Купавіна. Едзем, панове! Да пабачэння, Меропа Давыдаўна! Нам яшчэ з Глафірай Аляксееўнай трэба ўсе магазіны аб'ездзіць. Вы ўжо дазвольце мне ўзяць яе да сябе.

Мурзавецкая. Ах, матухна, з рукамі аддаю.

Глафіра. Мішэль, ты з намі!

Лыняеў. У Яўлампіі ж Мікалаеўны брычка на дваіх.

Глафіра. Дык што ж, Мішэль? Сядзь на козлы! Сваю брычку аддай Анфусе Ціханаўне. Анфуса Ціханаўна!

Анфуса выходзіць.

Едзьце на Мішэлевых конях!

Анфуса. Добра ўжо... бывайце!

Лыняеў. Ну, як жа можна мне, з маёю камплекцыяй, на козлы? Ды яшчэ дванаццаць вёрст трэсціся да маёнтка!

Глафіра. Паслухай мяне, Мішэль! Табе гэта вельмі карысна: ты таўсцееш так, што нікуды не варта. Мы ў Парыж паедзем, самому ж будзе сорамна такім мядзведзем прыехаць.

Выходзяць Купавіна, Беркутаў, Лыняеў, Глафіра і Анфуса.

## З'ява XII

Мурзавецкая, Чугуноў, потым Мурзавецкі.

Чугуноў *(ля акна)*. У Парыж ды Пецярбург! Што грошай вывезуць з губерні!

Мурзавецкая. Што? Добра справу змаклярыў? Дзякую! Асароміў быў благародную, паважаную даму.

Чугуноў. Ды вы ўжо хоць павесьце мяне, а не вернеш!

Мурзавецкая. Што табе, пацуку, Беркутаў казаў?

Чугуноў. Усё шыта ды крыта, і Клашку, каб ён не балбатаў тут, у Волагду адаслаў Васілій Іваныч.

Мурзавецкая. Вось залаты чалавек! Я яго ў памінанне запішу. Запішы мне яго ў памінанне, ды і сабе запішы!

Чугуноў. Залаты-то ён сапраўды залаты, а я вам што скажу! За што нас Лыняеў ваўкамі называў? Якія мы з вамі ваўкі? Мы — куры, галубы... па зернетку збіраем, ды ніколі сытымі не бываем. Вось яны — ваўкі! Вось гэтыя адразу памногу глытаюць.

За сцэнай чуваць крык: «Тамерлан,Тамерлан!» Убягае Мурзавецкі ў адчаі.

Мурзавецкі. Не, ма тант, не! Я не перажыву!

Мурзавецкая. Супакойся, Апалоша, супакойся!

Мурзавецкі *(валячыся ў крэсла)*. Не, ма тант, найлепшага друга майго...

Мурзавецкая. Ну, што ж рабіць?

Мурзавецкі. Найлепшага друга, ма тант... Дзе пісталеты?

Мурзавецкая. Што ты, грэх які!

Мурзавецкі. Не, застрэлюся, застрэлюся... Ужо зараджаны, ма тант, зараджаны...

Мурзавецкая. Ах, бедны! Як табе гэта...

Мурзавецкі. Так, ма тант, найлепшага друга... Недалёка ад горада, сярод белага дня, найлепшага друга... Тамерлана ваўкі з'елі.

Мурзавецкая. Цьфу ты! А я думала...

Чугуноў. Недалёка ад горада, сярод белага дня! Што за дзіва!.. Не... Тут не тое што Тамерлана, а вось толькі што, на нашых вачах, і нявесту вашу, ды і з пасагам, і Міхайла Барысыча з яго маёнткам ваўкі з'елі, ды і мы з вашай цёткай ледзь жывымі засталіся. Вось гэта большае дзіва!

## КАМЕНТАРЫІ

У пяты том Збору твораў Кандрата Крапівы ўвайшлі камедыя «Брама неўміручасці», драма «На вастрыі», а таксама пераклады п'ес У. Шэкспіра «Рамэо і Джульета», Дз. Фанвізіна «Недарасль», М. Гогаля «Рэвізор», А. Астроўскага «Ваўкі і авечкі».

Апошнія па часе напісання п'есы К. Крапівы з'явіліся своеасаблівым творчым падагульненнем яго шматгадовай працы ў драматургіі. І хоць пісаліся яны чалавекам вельмі не маладога ўзросту, не старасць, а мудрая сталасць адчуваецца і ў глыбіні мастацкага пранікнення ў рэчаіснасць, і ў многіх філасофскіх абагульненнях. Ранейшае прафесійнае майстэрства выявіў пісьменнік у псіхалагічнай абмалёўцы характараў персанажаў, ва ўменні будаваць сюжэт, завастраць інтрыгу. Выкарыстоўваючы традыцыйныя для сябе калізіі асабістай адказнасці чалавека, ён здолеў напоўніць падзейную прастору твораў надзвычай вострымі надзённымі праблемамі. Усім сваім выяўленчым ладам гэтыя п'есы добра карэлявалі з асноўнымі напрамкамі мастацкіх пошукаў беларускай драматургіі 70—80-х гадоў XX стагоддзя.

За 70 год сваёй творчай дзейнасці К. Крапіва займеў славу аднаго з самых майстравітых і плённых перакладчыкаў. Асобнымі выданнямі выйшлі кнігі яго перакладаў: Вішня А. Усмешкі. Мн., 1930; Чэхаў А. Дзівакі-нябожчыкі. Мн., 1930; Шышкоў В. Галавасек. Мн., 1930; Гашэк Я. Прыгоды ўдалога ваякі Швейка ў сусветную вайну. Ч. 2. На фронце. Мн., 1931; Гогаль М. Жаніцьба. Мн., 1937; Чэхаў А. Выбраныя творы. Мн., 1937; Астроўскі А. П'есы. Мн., 1939; Шаўчэнка Т. Наймічка. Мн., 1940; Гогаль М. Рэвізор. М., 1951. У розных выданнях друкаваліся таксама пераклады твораў І. Крылова, А. Пушкіна, А. Міцкевіча, М. Горкага, М. Някрасава, У. Маякоўскага, С. Піліпенкі, І. Сяльвінскага, Дз. Беднага, Ш. Руставелі, А. Твардоўскага і інш. Пры выбары перакладаў для гэтага выдання (памеры яго не дазваляюць змясціць усё) улічвалася не толькі мастацкая вартасць арыгіналаў, перакладчыцкае майстэрства К. Крапівы, але і тое, наколькі блізкім быў перакладзены твор мастацкім схільнасцям перакладчыка.

БРАМА НЕЎМІРУЧАСЦІ (с. 6)

Фантастычная камедыя «Брама неўміручасці» напісана ў 1972 г. Упершыню надрукавана ў газеце «Звязда» (1973, 28 студз. 1—4 лют. 6—9 лют. 1973 г. Друкавалася таксама ў часопісе «Полымя» (1973, № 3). Неаднаразова перавыдавалася на беларускай мове (Збор твораў. У 5 т. Мн., 1974—1976; Выбраныя творы. У 2 т. Мн., 1986 і інш.). Выдавалася за межамі Беларусі: у Расіі (1973, пер. аўтара), Украіне (1974, пер. А. Лысенкі), Чэхіі (1976, пер. І. Померла) і інш.

Упершыню пастаўлена на сцэне тэатра імя Янкі Купалы ў 1974 г. (рэж. В. Раеўскі). Ролі выконвалі: П. Дубашынскі, П. Малчанаў — Дабрыян;

Ф. Варанецкі, М. Федароўскі — Абадоўскі; С. Бірыла — Бабровіч; Г. Арлова, З. Браварская — Кудрыцкая; А. Памазан, В. Рыжы — Варакса; Л. Рахленка — Змітрук; П. Пекур — Адамейка; Г. Гарбук, М. Кірычэнка — Генка; Л. Ржэцкая, Л. Шынко — Антаніна Васільеўна; Б. Уладамірскі, А. Мароз — Шусцік; А. Падабед — адзін з чаргі; Г. Аўсянікаў, Ф. Варанецкі — Антон Іванавіч; М. Громава — «Мадам»; В. Кліменка, Н. Піскарова — Наташа; Р. Кашэльнікава, С. Станюта — Марына Сяргееўна; Б. Дакальская, А. Рынковіч — Мякішава; А. Луцэвіч, В. Букін — Сідаровіч; У. Кудрэвіч — Дажывалаў; Г. Аўсянікаў, З. Стома — Караўкін; П. Кармунін — Торгала; А. Доўгая, М. Зінкевіч — Застрамілава; В. Белахвосцік, М. Яроменка — Скараспей; Я. Кавалёва, Г. Макарава — калгасніца; У. Рагаўцоў, С. Краўчанка — Ён; І. Дашкоўская, С. Некіпелава — Яна.

Камедыя ставілася ў Брэсце, Марыупалі, Хабараўску, у іншых гарадах Расіі і Украіны. Адзначана Дзяржаўнай прэміяй БССР (1974).

Датуецца 1972 г.

НА ВАСТРЫІ (с. 52)

Драма «На вастрыі» напісана ў 1982 г. Упершыню надрукавана ў часопісе «Полымя» (1982, № 12). Упершыню пастаўлена пад назвай «Блытаныя сцежкі» на сцэне тэатра імя Якуба Коласа ў 1983 г. (рэж. В. Мазынскі). Ролі выконвалі: У. Куляшоў — Галубовіч; Ф. Шмакаў — Грушэўскі; Г. Дубаў — Ракітны; Т. Мархель — Зоя Антонаўна; З. Канапелька — Ганна Ціханаўна.

Датуецца 1982 г.

РАМЭО І ДЖУЛЬЕТА (с. 108)

Уільям Шэкспір (23.04.1564—23.04.1616), англійскі пісьменнік. Пасля сябе пакінуў вялікую класічную спадчыну, якая складаецца з 37 п'ес, 154 санетаў і некалькіх паэм.

Упершыню на беларускай мове яго камедыя «Сон у летнюю ноч» была пастаўлена калектывам Беларускай драматычнай студыі (Масква) у 1925 г. Ставіліся беларускімі тэатрамі таксама «Гамлет», «Канец — справе вянец», «Два веронцы», «Кароль Лір», «Многа шуму з нічога», «Дванаццатая ноч», «Бура», «Макбет», «Атэла», «Віндзорскія свавольніцы», «Антоній і Клеапатра» і інш. Трагедыя «Рамэо і Джульета» была пастаўлена Беларускім тэатрам імя Янкі Купалы ў 1946 г. (рэж. Л. Літвінаў). Галоўныя ролі выконвалі Б. Платонаў і І. Ждановіч. У іншых ролях былі заняты: В. Пола — карміліца, І. Шаціла — Тыбальт, С. Бірыла — Ларэнца, П. Пекур — Меркуцыо, З. Стома — Бенволіо, В. Галіна — сіньёра Капулецці, Б. Кудраўцаў — князь Эскал.

Беларускамоўная версія п'есы ўпершыню апублікавана ў кнізе: В. Шэкспір. Трагедыі. Мн., 1954.

П'еса друкуецца паводле выдання: Крапіва К. Збор твораў: У 5 т. Мн., 1976. Т. 5.

НЕДАРАСЛЬ (с. 228)

Дзяніс Іванавіч Фанвізін (14.04.1744 або 1745—12.12.1792), рускі пісьменнік. Аўтар камедый «Карыён», «Брыгадзір», «Недарасль», аповесці «Калісфен». Да перакладу камедыі «Недарасль» К. Крапіва звярнуўся ў 1933 г. па просьбе БДТ-1. У тым жа годзе спектакль быў пастаўлены на сцэне гэтага тэатра (рэж. П. Данілаў і Л. Літвінаў). Ролі выконвалі вядучыя артысты тэатра У. Крыловіч, С. Бірыла і інш. Удасканальваючы пераклад, пісьменнік часта прысутнічаў на рэпетыцыях, што і падштурхнула яго да драматургічнай творчасці.

Беларускамоўная версія п'есы ўпершыню апублікавана асобным выданнем у 1936 годзе, адкуль і перадрукоўваецца.

РЭВІЗОР (с. 284)

Мікалай Васільевіч Гогаль (1.04.1809—4.03.1852), рускі пісьменнік. Аўтар паэмы-рамана «Мёртвыя душы», аповесцей «Тарас Бульба», «Нос», «Партрэт», «Неўскі праспект», «Запіскі вар'ята», «Шынель» і інш., камедый «Рэвізор», «Жаніцьба», «Гульцы», «Тэатральны раз'езд пасля паказу новай камедыі» і інш. Пераклад камедыі «Рэвізор» К. Крапіва ажыццявіў у 1945 г.

Упершыню на беларускай мове п'еса пастаўлена на сцэне тэатра імя Якуба Коласа ў 1945 г. (рэж. Н. Лойтар). Ролі выконвалі: М. Звездачотаў — гараднічы; А. Ільінскі — Хлестакоў; А. Трус — Ляпкін-Цяпкін; П. Малчанаў — Бобчынскі; І. Тупік — Добчынскі; А. Радзялоўская — Ганна Андрэеўна; М. Бялінская — Мар'я Антонаўна і інш.

Беларускамоўная версія п'есы ўпершыню апублікавана асобным выданнем у 1951 г. Друкуецца паводле выдання: Гогаль М. Тарас Бульба. Рэвізор. Мёртвыя душы. Мн., 1990.

ВАЎКІ І АВЕЧКІ (с. 357)

Аляксандр Мікалаевіч Астроўскі (12.04.1823—14.06.1886), рускі драматург. Аўтар п'ес «Свае людзі — паладзім», «Не ў свае сані не садзіся», «Беднасць не загана», «Не так жыві, як хочацца», «Даходнае месца», «Выхаванка», «Навальніца», «На ўсякага мудраца хапае прастаты», «Беспасажніца», «Лес», «Ваўкі і авечкі», «Таленты і паклоннікі», «Без віны вінаватыя», «Снягурачка» і інш.

На Беларусі творчасць А. Астроўскага была шырокавядомай яшчэ ў дарэвалюцыйны час. На беларускай мове ўпершыню ён прагучаў са сцэны БДТ-1 у 1936 г., калі гледачам быў паказаны спектакль па п'есе «Ваўкі і авечкі» ў перакладзе К. Крапівы (рэж. Л. Рахленка). Ролі выконвалі: Л. Ржэцкая — Мурзавецкая; С. Станюта — Глафіра; Г. Глебаў — Чугуноў; А. Крыніца — Лыняеў; У. Уладамірскі — Мурзавецкі; В. Галіна — Купавіна; С. Бірыла — Беркутаў.

Беларускамоўная версія п'есы ўпершыню апублікавана ў кнізе: Астроўскі А. П'есы. Мн., 1939, адкуль і перадрукоўваецца.

## ЗМЕСТ

**Крапіва К.**

К78 Збор твораў: У 6 т. Т. 5. П'есы, пераклады / Кандрат Крапіва; Уклад. і камент. С. Лаўшука; Маст. А. Александровіч.— Мн.: Маст. літ., 2004.— 446 с., [4] л. іл.

ISBN 985-02-0662-4.

У пяты том Збору твораў Кандрата Крапівы ўвайшлі п'есы «Брама неўміручасці», «На вастрыі», а таксама пераклады твораў У. Шэкспіра, Дз. І. Фанвізіна, М. В. Гогаля, А. М. Астроўскага.

**УДК 821.161.3-2**
**ББК 84(4Беи)-6**

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**КРАПІВА** КАНДРАТ

(**Атраховіч** Кандрат Кандратавіч)

*Збор твораў у шасці тамах*

Том 5

*П'есы, пераклады*

Рэдактар *І. П. Дабрыян*
Мастак *А. В. Александровіч*
Мастацкі рэдактар *Л. М. Рудакоўская*
Тэхнічны рэдактар *Т. С. Звярковіч*
Стылістычныя рэдактары *А. М. Анцытовіч, Я. А. Бебель, Л. А. Дзядзюля*

Падпісана да друку з дыяпазітываў 23.01.04. Фармат $84\times108\ ^1/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Тып Таймс. Умоўн. друк. арк. 23,52 + 0,42 укл. Улік.-выд. арк. 25,4. Тыраж 3100 экз. Заказ 164.

Выдавецкае рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3 ад 28.11.2002. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Адкрытае акцыянернае таварыства «Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа». 220600, Мінск, вул. Чырвоная, 23.